

# Ад лідскіх мураў

**Літаратурна-мастацкі зборнік № 9**
**2016 - 2019 гг.**



# Ад лідскіх муроў

Літаратурна-мастацкі зборнік
2016 - 2019 гг.

**№ 9**

**г. Ліда**
**2019**

**Ад лідскіх муроў**. Літаратурна - мастацкі зборнік № 9 за 2016-2019 гг. На беларускай мове. Ліда. 2020. 464 с.

Укладальнікі: Станіслаў Суднік, Алесь Хітрун.

Галоўны рэдактар: Станіслаў Суднік.

Рэдактар раздзела паэзіі: Валера Мацулевіч.

Рэдактар раздзела прозы: Алесь Хітрун.

Карэктары: Алесь Мацулевіч, Алесь Хітрун.

У зборнік уключаны выняткі з творчага даробку лідскіх літаратараў за 2016-2019 гг. У зборнік трапілі матэрыялы, якія былі апублікаваны ў гэтыя гады або падрыхтаваны да друку. У зборнік увайшлі і іншыя матэрыялы, датычныя літаратурнага жыцця Лідчыны.

*На першай старонцы вокладкі -* ***Бюст Алаізы Пашкевіч (Цёткі).*** *Аўтар Андрэй Заспіцкі. Месца захоўвання - Лідскі гістарычна-мастацкі музей.*

# Дай, Божа, нам сілы!

*І ў пятлі, і ў Сібіры галаванькі шчодра злажылі…*
*Твой народ кунтушовы з Пагоняю ў сэрцы гарачым.*
*А народ твой сярмяжны…, ды што там…*
*Дай, Божа, нам сілы!*

***Ірына Багдановіч.***

Выходзіць 9-ты нумар літаратурна-мастацкага альманаха “Ад лідскіх муроў”. Ён завяршае грандыёзную працу, зробленую вялікай колькасцю людзей па папулярызацыі беларускай літаратуры, беларускай мовы, беларускай культуры і ўсёй Беларушчыны ва ўсіх яе праявах на працягу апошніх чатырох гадоў.

У пачатку 2016 года выйшаў 8-мы нумар літаратурна-мастацкага зборніка “Ад лідскіх муроў” на 440 старонках фармату А-5.

У 2017 годзе выйшаў № 1 літаратурна-мастацкага зборніка “Нясвіжскі ўток” на 372 старонках фармату А-5.

У 2018 годзе выйшаў № 1 Наваградскага літаратурнага альманаха “Стольны град” на 170 старонках фармату А-5.

У 2019 годзе выйшаў № 1 Слонімскага літаратурнага альманаха “Паланэз” на 150 старонках фармату А-4.

На 2020 год спланаваны выхад № 1 Дзятлаўскага літаратурнага зборніка і № 2 “Нясвіжскага ўтока”.

Падняўся цэлы літаратурны рэгіён. Вось яго не было, і вось ён

ёсць. Недзе там - у Менску, Гародні - элітная літаратура, элітныя выданні, а тут масавы пад’ём літаратурнай глыбінкі. Няхай невялікія наклады, але ў эру Інтэрнэту гэта ўжо не так важна. Ідзе творчы працэс, пісьменнікі пішуць, творы друкуюцца, прэзентацыі праводзяцца, літаб’яднанні збіраюцца, літаратурныя дэлегацыі ездзяць з раёна ў раён, адкрываюцца літаратурныя салоны, зборнікі размяшчаюцца на сайтах.

Не ўсюды нас прымаюць аднолькава.

У Лідзе - з радасцю.

У Нясвіжы арыштавалі частку накладу.

У Наваградку частку накладу закупілі для школьных бібліятэк.

У Слоніме наклад амаль раскупілі на Дні пісьменства.

У Менску нас не заўважаюць.

У Гародні нас падтрымліваюць.

У Нью-Ёрку? Хутчэй, што і не чулі.

Ну і няхай.

А калі-небудзь, праз шмат гадоў, нейкі даследчык зразумее, што менская элітная літаратура і гэтыя рэгіянальныя выданні разам і ёсць яе вялікасць цэльная беларуская літаратура. Даследчык напіша дысертацыю, а мы напісалі чарговы лідскі альманах і прапануем яго чытачам.

Гэты выпуск упершыню пачынаецца з раздзела “Эпас”. Здавалася б, адкуль той эпас у наш час, але вось гэтыя творы з рэльнымі героямі, з апісаннем рэальных падзей у рэальных мясцінах, што гэта? Зрэшты, чытайце, сумнявайцеся, згаджайцеся, пярэчце, але чытайце.

***Станіслаў Суднік.***



# Юры Пацюпа

*Юры Пацюпа нарадзіўся ў 1965г. у г. Полацку, маленства прайшло ў в. Дамэйкі на Лідчыне, скончыў Азёрскую сярэднюю школу, філалагічны факультэт і аспірантуру ў ГрДУ імя Янкі Купалы, працаваў у музеі-скансэне ў Менску, выкладнікам кафедры беларускай культуры ў ГрДУ, рэдактарам у выдавецтве "Мастацкая літаратура", супрацоўнік аддзела фалькларыстыкі НАН Беларусі. Кола навуковых інтарэсаў: вершазнаўства, фалькларыстыка, эстэтыка, паэтыка, культура мовы і граматыка. Даследуе творчасць Максіма Багдановіча, пісьменнікаў XIX ст., народнае вершаванне. Аўтар кніг вершаў "Ноч" (1991), "Сабака" (2009), зборніка артыкулаў "Анонс: Квадрат тэкстаў" (2013). Друкаваўся ў часопісах "Крыніца", "Arche", "Дзеяслоў", "Роднае слова", "Маладосць", штогадовіку "Беларускі фальклор".*

*Юры Пацюпа*

# Да гісторыі аднаго палявання

Тэма палявання ў літаратуры, як і ў мастацтве, займае асаблівае месца. Сустрэча чалавека з прыродаю сам-насам, вока на вока – гэта і чыстая паэзія, і незвычайная прыгода. Тут зліваюцца ў адно і спазіральнасць, і ўчыннасць. Праўда, сёння не кожны возьме ў рукі стрэльбу. Балазе, людзі ўсё часцей задумваюцца, што паляванне – гэта ўсё ж забойства. Пагатоў і жыццёвай патрэбы ў ім няма – ежа прадаецца ў крамах, а тым часам наша зброя – усё больш дасканалая, а жыхароў лесу – усё менш і менш. Але магія мастацтва ў тым, што чытаючы тую ж «Песню пра зубра» мы перажываем прыгоды герояў як спаборніцтва стыхіяў. Мы ў роўнай меры і з зубром і з чалавекам. Што ні кажы, а паляўнічыя гісторыі – гэта асобны сусвет. Можа, якраз яны і навучылі нас, як гэта ні парадаксальна, любіць прыроду.

## 1.

У беларускай літаратуры XIX ст. паляўнічых твораў няшмат. Першае, што ўспамінаецца – «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» Янкі Лучыны, хоць і з іх толькі адна акварэлька захавалася ў беларускамоўнай версіі[1]. Таму не можа не звярнуць на сябе ўвагі паляўнічы твор Вільгельма Пратасэвіча, вядомы пад назваю «Суседчык гавейскі». На жаль, ні самому твору, ні яго аўтару да гэтай пары не надавалася належнай увагі. Гісторыю публікацыі «Суседчыка гавейскага» апісаў Мікола Хаўстовіч[2], таму я перадам тут толькі асноўныя вехі. У 1969 г. у газеце «Літаратура і мастацтва» Янка Саламевіч апублікаваў урывак з паэмы[3], у 1971 г. – крыху большы ўрывак ён жа змясціў у хрэстаматыі[4]. З тае пары і перадрукоўвалася гэтая публікацыя. Аднак, зазначае Хаўстовіч, Пратасэвіч як пісьменнік застаўся не заўважаным, ён не патрапіў

[1]Лучына, Я. Творы: вершы, нарысы, пераклады, лісты. – Мінск, 1988. С. 40–42, 47–93.
[2]Хаўстовіч, М. Суседчык Гавейскі // Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў: творы невядомых аўтараў. Вып. 2. – Warszawa, 2016. С. 161–162.
[3]Саламевіч, Я. Паэт-селянін Вільгельм Пратасевіч // Літаратура і мастацтва. – 1969. – 28 кастр.
[4]Беларуская літаратура XIX стагоддзя: хрэстаматыя. – Мінск, 1971.

ані ў шасцітамовы даведнік «Беларускія пісьменнікі», ані ў найноўшую акадэмічную «Гісторыю беларускай літаратуры»[1]. Нібыта і не было такога паэта. Звярталі на Пратасэвіча ўвагу толькі некалькі разоў: Аляксей Пяткевіч – сярод пісьменнікаў Гродзеншчыны[2], Кастусь Цвірка[3] і Лія Кісялёва – сярод інсітных паэтаў[4].

Праблема была і ў тым, што Саламевіч паводле тагачаснай заганнай традыцыі не змясціў дакладнага архіўнага адрасу апублікаванага ім урыўка, таму ўсю работу па выяўленні твора давялося рабіць ледзь не з нуля. Архіў М. Федароўскага, дзе паводле Саламевіча захоўваўся «Суседчык гавейскі», Мікола Хаўстовіч перавярнуў амаль цалкам, а знайшоў рукапіс «у фондзе 438 Кабінета рукапісаў Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта»[5]. Ён і апублікаваў упершыню поўны тэкст рукапісу ў варшаўскім зборніку «Матэрыялы і даследаванні»[6]. Гэтая публікацыя, у адрозненне ад усіх ранейшых, дакладна, па літарах перадае рукапіс, у зносках далучаюцца праўкі Федароўскага, сцісла прэзентуецца твор і яго аўтар. Паводле Хаўстовічавай публікацыі можна вывучаць усё, што ёсць у рукапісе, хіба апрача почырку. Гэта і ёсць нулявая стадыя, пункт адліку, з якога мусіць пачацца паўнавартае жыццё твора. Але пакуль што перад намі аб’ект не эстэтычны, а лінгвістычны. Якая б ні была каштоўная для навукі Хаўстовічава публікацыя – не кожнаму яна даступная. Тэкст на «дзікай» лацінцы XIX ст. (пра якую Хаўстовіч піша: «складваецца ўражанне», што «перапісаў малапісьменны чалавек»[7]) ды яшчэ надрукаваны ў Варшаве мізэрным накладам – не нашмат больш даступны, чым рукапіс. Твор па-ранейшаму застаецца «рэччу ў сабе». А ўсё ж ён варты таго, каб стаў «рэччу для нас».

Бліжэйшае знаёмства з тэкстам Вільгельма Пратасэвіча паказала: у значнай меры ён застаўся «рэччу ў сабе» не толькі для нас, але і для яго публікатараў і інтэрпрэтатараў. Менавіта апошняя акалічнасць падштурхнула мяне больш пільна ўчытацца ў

[1]Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў. У 2 т. Т. 2: Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе. – Мінск 2007.
[2]Пяткевіч, А. Літаратурная Гродзеншчына: Мясціны. Людзі. Кнігі. – Мінск, 1996. С. 14.
[3]Цвірка, К. Камяні тых сядзібаў: Шляхі паэтаў XIX стагоддзя. – Мінск, 2004. С. 310.
[4]Кісялёва, Л. Маргіналіі: Беларуская гумарыстычная літаратура XIX – пачатку XX ст. у святле сучасных літаратуразнаўчых канцэпцый – Мінск, 2007. С.
[5]Хаўстовіч. Тамсама. С. 162.
[6]Тамсама. С. 164–176.
[7]Тамсама. С. 162.

«Суседчыка...», адаптаваць да сучаснага правапісу, і нават больш – да сучаснага літаратурнага кантэксту. Мая публікацыя не адмаўляе каштоўнасці публікацыі Хаўстовіча і нават не прэтэндуе яе замяніць. Гэта лагічны працяг – ужо не нулявая, а першая стадыя жыцця твора, наданне яму больш папулярнага статусу. І ў той жа час гэта не проста папулярызацыя, а тым больш – не спрашчэнне. Урэшце, мэта навукі не толькі перапісаць тэкст літара ў літару, але і знайсці аптымальную форму яго існавання, што не робіцца за адзін прыём і вымагае дасканалага філалагічнага інструментарыю. Тут можна вылучыць два моманты. Першы (скарыстаем тэрмін Сакрата), – маеўтыка твора – выяўленне яго схаваных патэнцыяў. Другі (гаворачы мовай Арыстоцеля), – яго энтэлехія, наданне ўласнай завершанай формы твору, не толькі як тэксту, але і як эстэтычнай і нават гістарычнай падзеі.

Перш-наперш мяне прывабіла ў «Суседчыку...» мова, пра якую хацелася сказаць: «наша гаворка». Другое, на што я звярнуў увагу – назва *Гаўя*. Ёсць такая рэчка, прытока Нёмана, і тутэйшаму чалавеку найменне не можа не кінуцца ў вочы. Між іншым, Гаўя не раз была апетая Данутай Бічэль, якая і нарадзілася тут, на Лідчыне, дзе Гаўя ўліваецца ў Нёман. Але з кантэксту паэмы відаць – Пратасэвіч піша не пра рэчку. Ёсць і чыгуначная станцыя ды вёска Гаўя, у розныя часы вёска адносілася то да Ашмянскага, то да Валожынскага, то да Лідскага паветаў, цяпер – Івейскі раён, Ліпнішкаўскі сельсавет. Але і не пра гэтую Гаўю гаворка. А гаворка, відавочна, пра маёнтак Гаўя-Пяскі на тэрыторыі сучаснага Лідскага раёну, Трацякоўскага сельсавету. А ўжо далей, ведаючы гэта, не цяжка выснаваць, што прыметнік *гавейскі* ў загалоўку (параўнайма з *івейскі*) – гэта не прозвішча, не антрапонім, а дэмонім, і мусіць пісацца з малой літары.

Гэтага даволі, каб засумнявацца ўва ўсім, што дагэтуль сцвярджалася пра Пратасэвіча і ягоны твор. Па-першае, падзеі адбываюцца не на Наваградчыне (сучаснай Дзятлаўшчыне), дзе жыў аўтар, а на сучаснай Лідчыне, на памежжы з Івейскім, Ашмянскім, Наваградскім і Воранаўскім раёнамі, куды Пратасэвіч ездзіў паляваць. Па-другое, аўтар хоць і піша ад імя селяніна, ніякі не селянін, як павялося ўважаць з лёгкай рукі Саламевіча. (Тут няма дзіва, і Багушэвіч пісаў ад імя селяніна.) І, нарэшце, «Суседчык...» укладзены дасканалым сілабічным вершам, гэта зусім не інсітны твор. Зрэшты, што тут спрачацца! Калі раскручваць факты па

парадку, то нават аспрэчваць нічога не трэба, многае і так відавочна. А з іншага боку, твор да такой ступені інфармацыйна насычаны, што, мне пры ўсім жаданні не ўдасца паставіць да яго апошнюю кропку, я толькі паспрабую крыху прыадкрыць заслону над загадкаю Вільгельма Пратасэвіча і ягонай паэмы.

## 2.

Пры інтэрпрэтацыі беларускай літаратуры XIX ст., як паказвае досвед, айчыннае літаратуразнаўства рэгулярна спатыкаецца на дзвюх рэчах: на ролевых творах і на сілабічным вершы. Калі апошняе даравальна, бо вымагае дадатковай вершазнаўчай кваліфікацыі (зрэшты, і гэта не паможа, бо сілабіка ў нас забытая, а ключы да яе страцілі стагоддзе таму), то першае асабліва засмучае. Спынімся на гэтых агульных, на першы пагляд далёкіх ад асноўнай тэмы пытаннях, каб потым не пускацца ў лішнія тлумачэнні.

Занядбанне ролевасці гісторыкамі літаратуры (а яно выяўляецца і ў даследаваннях, і ў прыватных спрэчках) засмучае, бо без гэтага не варта і спрабаваць зразумець большую палову тэкстаў XIX ст. Хто-хто, а філолагі мусяць ведаць пра няпростыя дачыненні паміж аўтарам і героямі, аўтарам і апавядальнікам. Мусяць ведаць, што вобраз апавядальніка, нават калі біяграфічна супадае з аўтарам, не ёсць аўтарам. А пасля таго, як Ю. Тынянаў увёў катэгорыю лірычнага героя, стала ясна, што нават паміж гранічна шчырым, спавядальным паэтам і аўтарам нельга ставіць знак роўнасці. Пад уздзеяннем розных эстэтычных установак вобраз лірычнага героя можа мяняцца як у бок ідэалізацыі, так і ў бок дэманізацыі. У ролевых жа творах і лірычны герой, і апавядальнік канчаткова аддзяляюцца ад аўтара, гэта толькі маска, а ў адпаведнасці з маскай мяняецца і маўленне аповеду. І нават аксіялогія аўтара нібыта адступае на другі план пад напорам аксіялогіі героя. Пазіцыю аўтара мы можам выявіць толькі ўскосна, з дапамогаю аналізу ўдзельных сведамасцяў. Яна можа адкрываецца ў іроніі і розных іншых праявах.

З таго часу, як беларуская мова ў 1696 г. страціла дзяржаўны статус, яе выкарыстанне ў літаратуры лучылася толькі з пэўнымі сацыяльнымі ролямі, якія, у прынцыпе, зводзіліся да дзвюх функцыяў: забаўляльнай і павучальнай. Першая абумоўлівала камічны дыскурс і звязаныя з ім ролі, а з другая – дыдактычны

дыскурс і звязаную з ім безасабовасць выказвання. І ў тым і ў другім выпадку для лірычных перажыванняў не заставалася месца. У XIX ст. гэтая сітуацыя ў значнай меры захоўвалася, але спакваля пачалі выспяваць новыя з'явы. Бліжэй да сярэдзіны стагоддзя ўжо з'яўляюцца псеўданімы (і не толькі ў паэзіі) як персаніфікацыі тых самых сацыяльных роляў: *Навум Прыгаворка, Яська-гаспадар з-пад Вільні, Мацей Бурачок, Шымон Рэўка з-пад Барысава, Фэлька з Рукшэніц*. Зазвычай усе зніжанага плану, што абумоўлівала і іх тыповую структуру: *уласнае імя + дэмонім*. Пад гэтымі імёнамі мы не сустрэнем чыстай лірыкі, самае большае – хіба віншаванне, але гэта ўжо шлях да асабовасці. Рэвалюцыю зрабілі Войслаў Савіч-Заблоцкі і Альгерд Абуховіч, Янка Лучына і Адам Гурыновіч, калі дазволілі сабе лірычныя (значыць – уласныя) выказванні па-беларуску і новыя псеўданімы кшталту *Граф Бандынэлі*. Сёння нават цяжка ўявіць маштаб той рэвалюцыі. Дарэчы, і ў Францішка Багушэвіча большасць вершаў ролевыя, у абодвух яго зборніках мы не сустрэнем лірычных вершаў, але яны былі ў рукапісах і, няйначай, патрапілі б у наступныя зборнікі, дзе ролевасць мусіла быць пераадоленая.

Што да сілабікі, то вірус яе неразумення айчынная літаратура падчапіла разам з рускімі правіламі вершавання. А. Квяткоўскі наракаў: «Ува ўсёй вершазнаўчай літаратуры нельга знайсці ніводнага мала-веле годнага азначэння сілабікі, няма і хоць трохі прыдатнага разумення гэтай сістэмы»[1]. «У гісторыі рускай паэзіі і стылістыцы на гэтым месцы ганебны правал»[2]. Руская літаратура страціла ключы да сілабікі ўжо ў пачатку XVIII ст., беларуская – толькі ў пачатку XX ст. Ці не першы сімптом – ганенне М. Багдановічам версіфікацыі В. Дуніна-Марцінкевіча: «Пісьменнік цяжкі і груваткі, засяроджаны адно на эпасе, Марцінкевіч пісаў вершам грубым і няўклюдным, які штораз адступаў ад вымог беларускай прасодыі (уплыў польскіх узораў). Можна нават сумнявацца, ці быў ён наагул паэтам»[3]. Затое Багдановіч ухваліў версіфікацыю паэмы «Тарас на Парнасе»: «Напісаная бойка, добрай беларускай моваю і бездакорным вершам»[4]. Гэтак сучасныя літаратуразнаўцы вылучаюць Францішка Вуля як асабліва

[1]Квятковский, А. П. Ритмология. – СПб., 2008. С. 391.
[2]Тамсама. С. 405.
[3]Багдановіч, М. Творы. – Мінск, 2014. С. 382.
[4]Тамсама.

таленавітага сярод ягоных сучаснікаў. Насамрэч жа Вулеў верш, як і верш Тараса на Парнасе», усяго толькі лепш кладзецца на рускую традыцыю. Падобныя ацэны ў значнай меры вынікаюць з недастатковай абазнанасці ў законах сілабікі, нязвыкласці яе рытму для рускіх стэрэатыпаў.

Аднак яшчэ на пачатку XX ст. Стары Улас, Казімір Сваяк і іншыя паэты, выхаваныя на польскіх рытмавых стэрэатыпах пісалі віртуозныя сілабічныя вершы. Значыць, пытанне не ў мове, а ў культурнай традыцыі. Калі яшчэ не быў страчаны досвед сілабікі, Максім Гарэцкі вучыў: сілабічны верш «грунтуецца на роўным ліку складоў у радку, прычым у нашай мове і словы ў гэтым радку павінны быць такія, што націскі ў іх створаць пэўны рытм»[1]. Расстаноўка тых націскаў – рэч не складанейшая за «стапаванне» (тэрмін Д. Дубенскага). Галоўнае – пільнаваць канстанту (націск у канцы радка, на рыфме). А калі радок складаецца з дзесяці і болей складоў, то варта пільнаваць і цэзуру, а таксама канстанту на цэзуры. Астатняе усталюецца само – узнікнуць дзіўныя пералівы рытму, якіх з дапамогай стапавання ніколі не дабіцца. Так, да цэзуры трэба прывыкнуць, у нямецкай і рускай традыцыі пра яе існаванне часта забываюцца. Таму Рудольф Вестфаль і пісаў: «Немец можа чытаць вершы сваіх паэтаў без спецыяльнага вывучэння метрычнай дэкламацыі, а француз не мае на гэта мажлівасці: ён не разумее рытму сваіх паэтаў, калі ён яму не паказаны асобна»[2]. Аднак і ўспрыняцце стоп не даецца нам ад нараджэння. Спантанна (у выклічніках) нам даецца толькі харэічны рытм, які і складае, дарэчы, аснову сілабікі і народна-песеннага верша.

Наконт паэмы Вільгельма Пратасэвіча можна адразу сказаць: гэта паэт школы Дуніна-Марцінкевіча. Падабенства трывае на ўсіх роўнях тэксту: у вершаванні, у сістэме вобразаў, у маўленні і, урэшце, у ідэалогіі твора. «Суседчык гавейскі» напісаны сілабічным 12-складовікам, якому ў танічнай традыцыі[3] адпавядае шасцістопны харэй з цэзураю (толькі менш разняволены рытмічна). У беларускай літаратуры XIX ст. пасля 8-складовіка (4-стопнага харэя) гэта другі паводле папулярнасці памер. 12-складовікам часта пісаліся буйныя сюжэтныя вершы, паэмы. Да гэтага памеру

[1]Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры. – Мінск, 1992. С. 399.
[2]Вестфаль, Р. О русской народной песне // Русский вестник. 1879. №9. С. 150.
[3]У XIX ст. тэрміна «сілаба-танічны» не існавала.

звярталіся найбуйнейшыя паэты тае пары: Францішак Багушэвіч, Фелікс Тапчэўскі, а адзін з першых яго шырока практыкаваў Дунін-Марцінкевіч. Пратасэвічаў 12-складовік мае адну адметную рысу, характэрную і для Дуніна-Марцінкевіча: у абодвух канстанта пільнуецца толькі ў канцы радка – на пятым складзе колана. А на цэзуры яна час ад часу адхіляецца, часцей – на шосты склад колана, зрэдку – на чацверты.

Каб мець уяўленне пра гэтыя адхіленні, пакажам нарматыўныя левыя коланы, дзе канстанта (пазначым яе тоўстым шрыфтам) стаіць на пятым складзе:

Устыд вам пан**о**чкі…
Збірайцеся др**у**жна…
То палюйце з Б**о**гам…
І вы, наяздж**а**чы…
Кладзеце сук**о**нкі…
Казаў варыць стр**а**ву…
Калі я тут, к**у**ме…

І, для параўнання, коланы з перанясеннем канстанты на шосты склад – яны гучаць не так лёгка, як папярэднія:

Да настаўце вад**ы**…
Бо трэба пакарм**і**ць…
Няхай сто лет жыв**е**…
Но там блізка харт**о**ў…
І лісіцу заб**і**ў…
Но Мікульскі страл**я**ць…
Няхай сто лет жыв**у**ць…

Ёсць таксама коланы з перанясеннем канстанты на чацверты склад (іх зусім мала):

З пшэннай б**у**лачкай…
Ісці на п**а**нскае…

Урэшце, знайшоўся і адзін колан, дзе канстанта перамясцілася на трэці склад:

Адны н**о**венькія…

У прынцыпе, усякае перамяшчэнне канстанты недапушчальнае, бо збівае з рытму – на тое ж і канстанта, каб заставацца на сваім месцы. Калі яна адхіляецца хоць на адзін склад, то, пры ўсім жаданні, мы ўжо не зможам аднолькава праскандаваць коланы. Усе нарматыўныя коланы з канстантай на пятым складзе скандуюцца як трохстопны харэй, а з націскам на шостым складзе –

як трохстопны ямб, на чацвертым – як двухстопны дактыль, на трэцім – як двухстопны харэй. Такая стракатасць не спрыяе ўсталяванню адзінства рытму. Аднак цалкам можна дапусціць, што ваганні на цэзуры пры пэўных варунках маглі стаць нормаю, як сталі нормаю ваганні націску на цэзуры ў рускім шасцістопным ямбе. Хоць В. Традзіякоўскі і забараняў іх, але гэтую вольнасць засвоілі ўсе рускія паэты, нават М. Ламаносаў[1], асабліва пасля трактата А. Сумарокава[2]. Аналагічная вольнасць Дуніна-Марцінкевіча ў сілабіцы магла пашырыцца і на іншых беларускіх паэтаў. Праўда, гэта не здарылася, але ў Пратасэвіча мы назіраем такую асаблівасць. Каля 13% 12-складовіка (менш за 40 радкоў) маюць інверсію канстанты на цэзуры. Хоць дакладна вызначыць гэты лік немажліва, бо нельга даведацца, дзе інверсія канстанты, а дзе пераакцэнтуацыя слоў.

У цэлым Пратасэвічаў 12-складовік мае высокую ступень ізасілабізму. Усяго ў паэме налічваецца 310 радкоў, з іх 294 – у форме 12-складовіка, 4 радкі – цытата з невядомага 8-складовага тэксту, і яшчэ 8 радкоў, якія могуць трактавацца як 11-складовік[3]. Пасля верыфікацыі кан'ектур праграма падліку складоў выдала наступныя вынікі: усяго ў 294 радках 12-складовага тэксту **588** коланаў, з іх **578** – 6-складовыя, **2** – 5-складовыя, **7** – 7-складовыя, і **1** – 8-складовы. Такім парадкам, 12-складовік на **98%** адпавядае свайму канону. Трэба ўдакладніць, правыя 5-складовыя коланы, якія маюць мужчынскую клаўзулу, умоўна лічыліся за 6-складовыя, бо цалкам адпавядаюць канону трохстопнага харэя (бо яны, як і 6-складовыя з жаночай клаўзулай, маюць 5-складовае ядро):

…пара ўставаць
…выпіці чаёк!
…да счваці зайцы!
…бо ён добры пан.
Куме, галубок…

Да Дуніна-Марцінкевіча Пратасэвіч падобны і стылёва, і ідэалагічна. Абодва – майстры пабытовых падрабязнасцяў, досыць параўнаць паляванне ў «Суседчыку…» і блуканне беларускіх гасцей па Маскве ў «Халімоне на каранацыі». І ў тым і ў другім

[1]Гаспаров, М. Очерк истории русского стиха: Метрика. Ритмика. Рифма. Строфика. – М., 2000. С. 84–85.
[2]Сумароков, А. О стопосложении // Критика XVIII века. – М., 2002. С. 305–306.
[3]Варта зазначыць, што гэта не тыповы для польскай традыцыі 11-складовік 5+6, а даволі рэдкі 6+5.

выпадку дзень за днём, гадзіна за гадзінай прасочваецца хроніка адной лакальнай падзеі. Праўда, трэба прызнаць, у Дуніна-Марцінкевіча гэта выходзіць больш ярка, вобразна. У Пратасэвіча – больш суха, але і яму ўдаецца перадаць працэс рэчыўна, навочна так, што ў чытача ствараецца адчуванне ўдзельніка падзей. У ідэйным плане абодва паэты – песняры патэрналізму ў дачыненнях паноў і сялян паводле схемы «добры і руплівы пан-бацька – шчаслівыя і ўдзячныя сяляне-дзеткі», абодва ідэолагі «класавага міру», як сказалі б у савецкія часы. Гэта асабліва выразна праявілася ў «Сялянцы» Дуніна-Марцінкевіча, і тое самае бачым у «Суседчыку...»[1]:

Мы пад ім шчаслівы, || бо ён добры пан.
Дай жа яму, Божа, || пражыць доўгі век!
Няхай сто лет жыве || і пан капітан,
Бо пры іх шчаслівы || кажан чалавек!
А нашая пані, || то, чуеце, дзеці –
Такой другой, пэўне, || да няма на свеце,
Яна над слугамі || і цэлай чалядкай,
Яна над усімі || бедненькімі маткай.

Калі ў Дуніна-Марцінкевіча ўсе гісторыі апавядаюцца ад імя войта Навума, то ў Пратасэвіча ад імя нейкага кума, удзельніка падзей. Аднак, што асабліва цікава і не мае аналагаў у тагачаснай беларускай літаратуры, аўтар тут таксама выведзены – у якасці аднаго з герояў, удзельнікаў палявання. Вобраз апавядальніка і вобраз героя як бы мяняюцца месцамі адносна аўтара, што дазваляе апошняму глядзець на сябе збоку, крыху ў іранічным ракурсе. Пратасэвіч, ці не адзіны з беларускіх пісьменнікаў XIX ст., якому ўдалося намаляваць слоўны аўтапартрэт:

З імі Пратасэвіч || лысы валачэцца –
Нябось ад кампані || ён не астанецца.
Ой рэдкі на свеце || чалавек такоў,
Ён пяе, хоць крышку || цяпер нездароў.
Які, чуеш, зоркі! || Які яго вочы!
Яму нет ніколі || ані дня, ні ночы!
А які ён злосны! || Часам нас і чубіць,

---

[1]Тут і далей ува ўсіх цытатах вертыкальнымі слэшамі пазначаецца цэзура, каб чытач меў мажлівасць зрабіць на гэтым месцы паўзу і такім способам прывыкаў да сілабічнага рытму, бо ў поўным тэксце паэмы цэзуры не пазначаюцца з эстэтычных меркаванняў, як у архітэктуры не патрэбныя рыштаванні, так і ў вершы будуць лішнімі слэшы.

Но за тое, што́ ён || нашых паноў любіць,
То мы яго любім, || ўсё яму прабачым.
Радуемся шчыра, || як лысага бачым.
Бо ён разам з намі || спявае, галосіць,
Часта нам па чарцы || гарэлкі выпросіць.
Ён-то часам, браткі, || як бізунчык голы,
Для таго спявае, || для таго вясёлы.

Ніводнаму з герояў, нават «пану маршалку» з жонкай не надаецца гэтулькі ўвагі, як «лысаму шляхціцу» Пратасэвічу, ён усюды, ён у цэнтры ўвагі, ён выклікае найбольшыя эмоцыі апавядальніка. Пратасэвіч нібыта прафануецца, а насамрэч падкрэсліваюцца яго выдатныя якасці, уменне і страляць, і спяваць, і танцаваць. Не толькі інсітныя, нават выкшталцоныя прафесійныя літаратары не ўмелі так абстрагавацца ад уласнага вобраза і так дасціпна сябе падаць. Калі ж лічыць, што гэта нейкі селянін апісвае падзеі, то незразумела, навошта ён так канцэнтруе ўвагу на адным героі, ёсць жа і больш цікавыя, каларытныя персанажы. Дый не ведаю ніводнага выпадку з гісторыі літаратуры, каб селянін падпісваўся імем пана. Часам сяляне мелі прозвішчы сваіх паноў, але наўрад ці сярод сялян мела пашырэнне імя *Вільгельм*. Так яно ці гэтак, а ідэя паэта-селяніна абсалютна надуманая, не пацвярджаецца ніводным фактам і грунтуецца толькі на наіўным успрыняцці ролевага твора і кепскім разуменні сілабікі. Калі ўсе ролевыя творы разумець прасталінейна, усё, што кажа апавядальнік, успрымаць за чыстую манету, то пара гаварыць не пра інсітнага аўтара, а пра інсітнага інтэрпрэтатара.

І ўражвае нейкае паблажлівае стаўленне да літаратуры XIX ст., нават сярод тых, хто «жывота не шкадуючы» рупіўся і стараўся дзеля яе. Мікола Хаўстовіч піша: «У мастацкіх адносінах тэксты В. Пратасэвіча аніяк нельга назваць “высокім пісьменствам”»[1]. Калі з гэтым і можна пагадзіцца, то тады ў праве быць высокім пісьменствам трэба адмовіць ці не ўсёй літаратуры XIX ст. Пратасэвіч не заслугоўвае абразлівага азначэння «вершавальнік», і ён не «паэт-селянін», а «Суседчык гавейскі» – хай сабе і «дробнамаёнткавая» літаратура, але не ў большай меры, чым паэзія Яна Баршчэўскага ці таго ж Дуніна-Марцінкевіча. Якія, урэшце, прыдворныя паэты ў XIX ст.? І двароў такіх не было, дзе б трымаліся прыдворныя паэты. Вершы пісаліся шляхтаю для

[1]Хаўстовіч. С. 163.

шляхты, роўнымі для роўных. Сяляне, калі і пісалі, то зазвычай не для пана, паны ў гэтым не мелі патрэбы. А лірнікі, дудары – да літаратуры не мелі дачынення. Багдановіч слушна казаў, што літаратура XIX ст. «не мела ні чытачоў, ні пісьменнікаў – былі толькі аматары беларускага пісьменства»[1], але тое аматарства вымагала і пэўнага культурнага роўню. Калі ж добра ўчытацца ў Пратасэвічаву паэму, то ў выяўленні каларыту шляхецкага жыцця яна шмат у чым не папушчае лірычнаму шэдэўру Г. Дзяржавіна «Евгению. Жизнь Званская» (1807), дзе таксама паэтызуецца дваранскі побыт.

І яшчэ раз падкрэслю, сілабічныя вершы трэба навучыцца чытаць, каб адчуць іх хараство, іх рытмічныя пералівы. Між іншым, несправядлівая ацэна паэта пачынаецца з недакладнай інтэрпрэтацыі памеру верша. М. Хаўстовіч памер «Суседчыка…» паўсюль называе «нерэгулярным 11-складовікам»[2], а насамрэч гэта 12-складовік і, як вышэй было паказана, няблага ўрэгуляваны. Проста, у паэме вельмі шмат радкоў з мужчынскімі клаўзуламі, якія даюць сапраўды адзінаццаць складоў, але памер вызначаецца не агульным іх лікам у радку, а лікам ад канстанты да анакрузы, плюс жаночая клаўзула. А значыць, мена жаночай клаўзулы на мужчынскую (якая памяншае лік) ці дактылічную (якая павялічвае лік) на памер не ўплывае. Аднак, раз ужо было абвешчана нібыта памер «нерэгулярны», то эстэтычны прысуд ясны: «інсітнік», «паэт-селянін», не валодае формай і г.д. Нічога падобнага няма, валоданне формай адпавядае нормам свайго часу – абы толькі літаратуразнаўцы яе разумелі.

Ці зноў жа, у Пратасэвічавай паэме ёсць страфа, якая моцна выбіваецца з 12-складовіка, бо ўкладзеная 8-складовікам: *Хто не глядзіць у дзве люркі…* Хаўстовіч не толькі звяртае на яе ўвагу, але і знаходзіць пацверджанне, што гэта аплікацыя, бо раней тая цытавалася ў аповесці Міхала Паўлікоўскага[3]. Нельга тут не адзначыць дасведчанасці і назіральнасці гісторыка літаратуры. Але эстэтычная выснова ў яго больш чым спрэчная: «Чатырохстопны харэй "сентэнцыйнага беларускага верша" на ўзровень вышэй за нерэгулярны адзінаццацісклaдовік В. Пратасэвіча»[4]. Па-першае,

[1]Багдановіч. Тамсама. С. 381.
[2]Хаўстовіч. С. 164, 169.
[3]Хаўстовіч. С. 169.
[4]Тамсама.

«харэй» тут адносны, гэта сілабічны 8-складовік, праўда, як і большасць сілабічных памераў, ён мае харэічную кадэнцыю. Па-другое, вызначыць «вышэйшасць» верша, ды яшчэ на цэлы «парадак», паводле чатырох нехацявых радкоў – гэта ўжо замоцна. Насамрэч кароткія памеры (гэта агульнавядомая рэч), зазвычай гучаць больш лёгка, чым памеры доўгія, да якіх адносіцца і 12-складовік. Не кажу ўжо пра тое, што лёгкасць гучання і эстэтычная вартасць – далёка не тоесныя рэчы.

Гэта такі самы выпадак, пра які я пісаў вышэй, калі паводле крытэру «складнасці», «лёгкасці» завышаецца талент аднаго паэта і прыніжаецца другога. Але я не магу тут упікнуць Хаўстовіча, ужо хаця б таму, што гэтая практыка пачалася не з яго, а даўно. З часоў Багдановіча, а то і раней. Нічога дзіўнага, калі Хаўстовіч называе 8-складовік харэем (шмат горш, калі ён 12-складовік называе 11-складовікам). Бо аналагічная карціна назіраецца і ў прафесійнага знаўцы верша В. Рагойшы, амаль усе сілабічныя 8-складовікі Багушэвіча ён запісаў у «сілаба-тоніку» як «чатырохстопныя харэі», а 12-складовікі – у сілабіку[1], хоць іх таксама можна інтэрпрэтаваць як харэі, толькі ўжо шасцістопныя. Тут адно з двух – або і той і другі «складовікі», або і той і другі «харэі», або ўсё разам – і «харэі», і «складовікі». У кожным разе, некарэктна памеры, якія ствараліся ў адной сістэме, разносіць па розных сістэмах толькі таму, што адзін памер лягчэйшы, а другі цяжэйшы. Яшчэ менш карэктна з розніцы ў памерах выводзіць эстэтычную вартасць твораў і памер таленту творцы.

Аналіз як верша, так і вобразнай сістэмы «Суседчыка…» паказвае, што гэта зграбны літаратурны твор. Калі спыніць увагу на ўступнай частцы, то нельга не заўважыць, як лагічна і паслядоўна яна разгортваецца: спачатку аўтар звяртаецца да паноў-паляўнічых, заклікае іх прачынацца, потым з дасціпнай матывацыяй звяртаецца да сялян, тых, якія ідуць у загонку – «наязджачых», і тых, якія падпільноўваюць звера, «стральцоў» (або, паводле сучаснай паляўнічай тэрміналогіі, стаяць «на нумары»), далей звяртаецца да прыдворных работнікаў, кухараў, а ўрэшце сканчае ўсхваленнем гаспадара і яго жонкі. Раздзелы ж, прысвечаныя розным этапам палявання, следуюць за рэальнымі падзеямі, і таксама наколькі падрабязныя, настолькі прадуманыя, паслядоўныя. Твор робіцца

[1]Рагойша, В. Метрычны рэпертуар вершаваных твораў Францішка Багушэвіча // Роднае слова. 2010. № 10. С. 10.

нашмат яснейшым, калі разбіць яго на строфы, якія становяць сабой не толькі зрыфмаваныя адзінкі рытму, але і кванты зместу. Зрэшты, у некаторых сегментах ёсць падставы для сумневаў, як квантыфікаваць тэкст – на двух- ці чатыпрохрадкоўі.

Цяпер, калі мы маем уяўленне пра змест і форму Пратасэвічавага твора, можна меркаваць і пра яго жанравую прыроду. М. Хаўстовіч бачыць тут нават не адзін твор, а некалькі: «Я. Саламевіч – невядома чаму – тытул першага тэксту палічыў за агульны для ўсіх трох»[1]. Сам ён сцвярджае, што «тут тры асобныя творы, аб'яднаныя, праўда, агульнасцю паляўнічай тэматыкі»[2]: тры паляўнічыя гутаркі, а ў канцы – адзін антыалкагольны верш. Аднак такая выснова, зробленая на падставе «графічнага падзелу» ў рукапісе супярэчыць відавочнаму. Не думаю, што з адной крайнасці варта кідацца ў адваротную, і ад тэксталагічнага валюнтарызму, неахайнай эдыцыі савецкай пары пускацца ў тэксталагічны фетышызм, кананізаваць кожную літару рукапісу насуперак здароваму розуму. Нават у сучасным тэксце вярстальнікі часта блытаюць назву падзагалоўка з назваю першага раздзелу, а што ўжо казаць пра тэкст, які, паводле Хаўстовіча, перапісваў непісьменны чалавек. Адзінства тэматыкі, адзінства памеру, логіка разгортвання падзей сведчаць, што гэта цэльны твор, і не абы-які, а прадуманы, кампазіцыйна завершаны. Праўда, хутчэй за ўсё няпоўны.

Больш праўдападобна, што перад намі рэшткі вялікага эпічнага твора. Тое, што змяшчаецца пад тытулам «Суседчык гавейскі» – гэта ўступная частка, якая проста не мае назвы, а тытул, як слушна зменкаваў Саламевіч, адносіцца да ўсяго твора. Далей – ідзе раздзел «Першы дзень палявання. У кнеі-дубіне». З гэтай назвы відавочна вынікае, што быў, мабыць, і «другі» дзень палявання, і «трэці», пра што сведчыць апавядальнік. Відавочна, паны палявалі з размахам, а твор укладаўся такім спосабам, што кожны раздзел складаў адзін дзень. Колькі ўсяго было тых дзён, меркаваць цяжка, магчыма, забавы доўжыліся і тыдзень. Трэці раздзел, пад назваю «Серада», мабыць, апісвае трэці дзень, а другі і чацверты страчаныя ці існавалі толькі ў задуме. Магчыма, іх было ўсяго тры, і серада – гэта апошні дзень, але ў кожным разе дзён – не менш як тры. Тады што такое становіць сабою апошні безназоўны раздзел? Якое ён мае

[1]Хаўстовіч. С. 161.
[2]Хаўстовіч. С. 161.

дачыненне да паляўнічых гісторыяў? Адказ на гэтае пытанне мы знойдзем, калі выйдзем па-за межы іманентнага аналізу твора і звернемся да культурна-гістарычных акалічнасцяў. А пакуль што скажам так: гэта раздзел-эпілог. А што без назвы – не дзіва, ускосна гэта пацвярджае тое, што і ўступная частка магла не мець назвы.

Такім парадкам, перад намі паляўнічая паэма (ці ўрыўкі з паэмы), якая складаецца з некалькіх тэматычных аповедаў-раздзелаў, уступу і замкнення, і мае адзін цэльны сюжэт. Азначэнне яе як гутаркі хоць і не беспадстаўнае, але ў цэлым спрошчанае і нават прыніжае прыгожы шматпланавы твор. З аднаго боку, падзеі сапраўды падаюцца ў выглядзе гутаркі, прычым не дыялагічнага ўзору, як «Гутарка двух суседаў», а маналагічнага як «Гутарка Данілы да Сцяпана». Аднак гэта толькі вонкавы і не адзіны спосаб выкладу матэрыялу. «Суседчык…» сінтэзуе некалькі жанраў, апрача гутаркі як формы аповеду ён улучае яшчэ і элементы віншавальнага верша – беларускай прыватнай оды XIX ст. Віншаванні, як вядома, не заўжды станавілі сабою просты вершаваны маналог, маглі ўвасабляцца і ў сюжэтна-драматызаванай форме, як «У дзень імянін» Яна Чачота ці «Імяніннае віншаванне Ігната Сліўкі». Уплыў жанру віншавання асабліва заўважаецца ў пачатку і ў канцы паэмы. Нават першыя словы «Суседчыка…» нагадваюць пачатак віншавальнага верша Вінцэнта Каратынскага[1]:

Ўставайма, братцы, да дзела, да дзела!
З поўначы певень залопаў крылом.
Ну жа, каб жыва работа паспела, –
Выслаць гасцінец жоўценькім пяском!

І такі самы заклік-зачын бачым у Вільгельма Пратасэвіча:

Пара паночкі, пара уставаць,
З пшэннай булочкай выпіці чаёк!
Устыд вам паночкі аж да дня ляжаць,
Збірайцеся дружна едзьце у лясок.

Але ў цэлым «Суседчык гавейскі», незалежна ад прыёмаў аповеду, іншых жанравых момантаў, – адносіцца да шэрагу паляўнічых гісторыяў, як і «Паляўнічыя акварэлькі» Янкі Лучыны, як і «Палескі тыдзень» Артура Бартэльса[2]. Між іншым,

[1]Haspadaru Imperataru Aleksandru Mikałajaviczu pieśnia z pakłonam ad litovsko-rusinskai mużyckai hramady. Рэжым доступу: http://www.epaveldas.lt/recordDescription/LNB/C1R0000049360
[2]Bartels, A. Tydzień poleski: Ustęp z życia mysliwskiego. – Lwów, 1878.

«Суседчык…» нашмат больш цэльны твор, чым самадастатковыя Лучынавы абразкі, кожны з якіх складае асобны сюжэт. І, калі нішто не замінае, нягледзячы на самастойнасць і завершанасць кожнага абразка, лічыць іх адным творам, то тым больш нельга адмаўляць у такім праве паэме Пратасэвіча. Урэшце, і «Шляхціца Завальню» Яна Баршчэўскага і шмат якія іншыя цыклізаваныя творы тае пары, злучаныя не сюжэтам, а толькі вобразам апавядальніка, мы ўсё ж лічым адным творам.

## 3.

Паэма «Суседчык гавейскі» Вільгельма Пратасэвіча каштоўная ўжо тым, што ад пачатку і да канца напісаная добрай беларускай мовай, тым самым ёсць падзеяй беларускага пісьменства, у адрозненне ад Бартэльсвай ці нават Лучынавай. Але, апрача ўсяго іншага, яна і ўнікальная, – гэта паэма-дакумент. Я не магу назваць ніводнага паэтычнага твора XIX ст. падобнага кшталту. Ні Янка Саламевіч, ні Мікола Хаўстовіч, заслугі якіх у публікацыі паэмы бясспрэчныя, не паставіліся ўсур'ёз да каталогу вёсак і асоб, што па некалькі разоў пералічаюцца ў тэксце. Мабыць, тут адыграла ролю інерцыя ўспрыняцця мастацкіх твораў, дзе зазвычай героі, нават тыя, якія маюць прататыпаў, умоўныя.

Гэтым разам – не так, усё вельмі канкрэтна: рэальныя вёскі, рэальныя людзі, рэальныя падзеі. Я нават не ведаю, ці ёсць тут хоць адзін умоўны персанаж. Мабыць, калі такі і ёсць, то гэта сам апавядальнік – вобраз аўтара і ягоны слухач – кум Мацей, ён жа Майсей[1]. Зрэшты, не дзіва, калі і да іх былі прататыпы. Думаю, з часам мы зможам даведацца пра кожнага ўдзельніка палявання персанальна: іх лёс, іх сем'і, іх маёнткі, нават знойдзем здымкі ці мастацкія партрэты. Даведаемся пра іх міжасабовыя дачыненні, мажліва, капаючы архівы, гартаючы ўспаміны, вызначым дакладную дату і тэрміны гэтага векапомнага палявання. Раскрываць розныя акалічнасці тых падзей можна бясконца. Навошта? Не надта ж вялікае здарэнне адно паляванне, калі іх было сотні. Але якраз гэтаму паляванню пашанцавала, яго апісаў паэт,

[1]Імя кума ўспамінаецца двойчы: адзін раз як *Мацей*, а другі раз – як *Майсей*. Падобныя выпадкі ў літаратуры вядомыя. Гэта здараецца, калі твор пішацца не за адзін раз. Зрэшты, варыянт *Мацей* мог узнікнуць і ў выніку няўважлівага перапісвання, бо другі варыянт – *Майсей* – пацвярджаецца рыфмаю.

даў зрэз прыватнага жыцця шляхты XIX ст. Яно стала падзеяй, і канкрэтнай і ў той жа час тыповай. Гэтак падзеяй робіцца стары здымак, і мы не шкадуем часу, каб ідэнтыфікаваць асоб на ім. Дый асобы, якія бралі ўдзел у паляванні – не простыя, некаторых мы нават збольшага ведаем, засталося толькі пільна ўгледзецца.

Эпіцэнтр дзеяння – панскі двор Гаўя, ці як цяпер называецца – *Гаўя-Пяскі*[1], менавіта сюды збіраюцца паны-суседзі і менавіта адсюль яны едуць паляваць у «кнеі» і «дубіны». Можна нават нарысаваць мапу і чырвонымі вектарамі абазначыць кірункі гасцей, а зялёнай крывой – траекторыю руху паляўнічых. Гаўя і большасць навакольных вёсак належалі роду Брахоцкіх. У паэме гэтае прозвішча ўспамінаецца не раз: *Антось Брахоцкі* – з *Морыня* (Морына) ды *Станіслаў Брахоцкі*. Але не Антон тут гаспадар – нездарма ж падкрэсліваецца, што ён з Морына. І тым больш не Станіслаў, які у паэме другарадны герой. Відавочна, што гаспадар тут – «пан маршалак». Ні імя, ні прозвішча «пана маршалка», як і «пані маршалковай», не называюцца, аднак не цяжка здагадацца, што гэта Уладзіслаў Брахоцкі і ягоная жонка Галена – гэта ім складаюцца панегірыкі, ім прысвячаецца паэма. «Суседчык гавейскі» – і ёсць Уладзіслаў Брахоцкі, а не кум Мацей, умоўны слухач. Самой назваю Пратасэвіч падкрэслівае, што ягоны маёнтак недзе побач, што ён госць.

Дарэчы, маршалкамі былі абодва Брахоцкія. Уладзіслаў (1810–1896) быў апошнім маршалкам Навагрдскім[2], а ягоны малодшы брат Антон (1824–1885) – апошнім маршалкам Ашмянскім[3]. Абодва ўдзельнікі паўстання 1863 г. Уладзіслаў яшчэ юнаком браў удзел і ў паўстанні 1831 г., пазней скончыў Віленскі ўніверсітэт, быў заснавальнікам і куратарам бібліятэкі ў Навагрaдку (якую скасаваў генерал-губернатар Мураўёў у 1860 г.), эксперыментаваў у гаспадарцы, разводзіў вінаград[4]. Апрача таго Брахоцкі вёў сталае змаганне з п'янствам і на тэрыторыі сваіх маёнткаў пазакрываў усе шынкі. Гэты факт і тлумачыць, навошта сярод паляўнічых аповедаў з'яўляецца антыалкагольны пасаж – гэта элемент панегірыка «пану маршалку» і ягонай дзейнасці. Можа, і наадварот – далікатная палеміка. Пасля паўстання 1863 г.

---

[1]Гл.: Гаўя на старых фотаздымках.
Рэжым доступу: https://www.radzima.net/be/image_miejsce/gawja.html?id_galley=4084
[2]Уладзіслаў Брахоцкі. Рэжым доступу: https://be-tarask.wikipedia.org/wiki/Уладзіслаў_Брахоцкі
[3]Брахоцкія. Рэжым доступу: https://be-tarask.wikipedia.org/wiki/Брахоцкія
[4]Гл.: Вераскава (Гарадзенская вобласць). Рэжым доступу: https://azarkinm.livejournal.com/145399.html

маёнтак Гаўя быў сканфіскаваны, братоў Брахоцкіх выслалі ў Перм. Калі ў 1874 г. Уладзіслаў вярнуўся дадому, то жыў у Вераскове на Наваградчыне, якое раней належала ягонаму цесцю Тамашу Дыбоўскаму. Маёнтак быў запісаны на жонку і таму ўнік канфіскацыі[1]. Галена Брахоцкая (1823–1873) і яе муж любілі наладжваць свецкія прыёмы, і паляванне, апісанае Пратасэвічам, было ў шэрагу такіх імпрэз. Жонка разам з мужам адбывала ссылку, абое – неардынарныя асобы і справядліва заслугоўваюць пахвал, выказаных у паэме.

Усяго ў паэме ўспамінаецца больш за дваццаць асоб шляхты: *Настаз Абламовіч, Анцута, Бялапятровіч, Уладзіслаў Брахоцкі, Антось Брахоцкі, Станіслаў Брахоцкі, Браноўскі, Вайніловіч* (маёр), *Кароль Дыбоўскі, Станіслаў Кярсноўскі, Лясковіч, Ляскоўскі, Маргялевіч, Мікульскі* (капітан), *Магнушэўскі, Нэйман* (палкоўнік), *Маўрыц Пратасовіч, Селісь Пратасовіч, Вільгельм Пратасэвіч, Пуслоўскі* (стары), *Пуслоўскі* (малады), *Юльян Сакалоўскі, Свяцкевіч, Альбін Чачот (Чэчат)*[2]. Трапляюцца і імёны сялян: *Якуб*, той жа *Мацей-Майсей, Свэд із Чарніхова, Эльяш верашкоўскі* і *Янка дакудоўскі* – відавочна, з вёсак Вераскава і Дакудава. Цікава параўнаць гэты спосаб ідэнтыфікацыі з тым, які стасаваўся ў псеўданімах пісьменнікаў XIX ст.: *Яська-гаспадар з-пад Вільні, Шымон Рэўка з-пад Барысава, Фэлька з Рукшэніц*. А вобраз *кума Мацея-Майсея* з вобразам *войта Навума* ў Дуніна-Марцінкевіча. Проста ці ўскосна ў творы падаюцца дванаццаць найменняў вёсак, мястэчак і маёнткаў: *Гаўя, Залейкі (Жалейкі), Вераскава* – Уладзіслава Брахоцкага, *Морына* – Антона Брахоцкага, *Кір'янаўцы* – Альберта Лясковіча, *Дакудава, Чэрнікі (Чарніхова), Палашкі (Палашова), Красная, Мядзвядка, Любча* – Маргялевіча і *Сенна (Сенная)*.

Маршалкаванне Брахоцкага доўжылася пяць гадоў з 1858 па 1863 гг., недзе якраз у гэтае пяцігоддзе і адбылося наша паляванне. Пацьверджаннем ніжняга года гэтага інтэрвалу выступае яшчэ

---

[1]Тамсама.

[2]Гэтыя ж імёны ў польскай транскрыпцыі: *Anastazy Ablamowicz, Ancuta, Bialopiotrowicz, Wladyslaw Brochocki, Antoni Brochocki, Stanislaw Brochocki, Branowski, Woyniłłowicz, Karol Dybowski, Stanisław Kiersnowski, Laskowicz, Laskowski (Leskowski), Margielewicz, Mikulski, Magnuszewski, Nejman (Neyman), Maurycy Protassowicz, Seliwon Protassowicz, Wilgelm Protasewicz Protassewicz, Puslowski, Julian Sokołowski, Свяцкевіч Swiackiewicz (Swieckiewicz), Albin Czeczot (Czeczott)*. (Укладзена паводле: Malewski, Cz. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wiku: Powiaty lidzki, oszmiański i wileński. – Warszawa, 2016.

адзін паляўнічы – Станіслаў Кярсноўскі[1]. Кярсноўскі – паўстанец старэйшага пакалення, арыштаваны ў 1832 г., адбываў пакаранне ў Броннікаўскай воласці, пасля амністыі з 1841 па 1857 гг. жыў у Табольску, пакуль не вярнуўся ў Менск[2]. Зразумела, што дагэтуль ён не мог быць удзельнікам падзей у Беларусі. Усё гэта дапамагае больш дакладна датаваць паэму. У рукапісе паэма датуецца 1870-мі гадамі: «Napisał ~~przed laty~~ około 1875 r.»[3]. М. Хаўстовіч сумняецца ў гэтай даце: «ці не былі ўсё ж напісаны яны раней?»[4] і прапаноўвае час напісання аднесці да 50-х гг.: «гутаркі напісаны не пазней, чым у 1850-я гг.»[5]. Мабыць, ён мае рацыю, што паэма была напісаная раней, але, як мы пераканаліся, не раней за 1858 г. Адкуль жа тады ўзялася дата 1875 г.? Нешта ж ведаў той, хто яе падаў. І чаму напісана ды закрэслена «~~przed laty~~»? Уладзіслаў Брахоцкі вярнуўся ў Беларусь у 1874 г. Дык можа, паэма створаная на яго прыезд як успамін пра шчаслівыя дзянькі? Але, як слушна заўважае Хаўстовіч, усё ж, мабыць, твор пісаўся «"па свежых слядах", адразу пасля здарэння»[6], Трэба мець вельмі добрую памяць, каб помніць усе дэталі праз пятнаццаць гадоў.

Аднак ёсць і трэці шлях: можна сінтэзаваць гэтыя даты. Так, хутчэй за ўсё паэма пісалася па свежых слядох у пяцігоддзе з 1858 па1862 гг., і ўсё ж дата 1875 г. невыпадковая. Відавочна, што свой твор Пратасэвіч прысвяціў сям'і Брахоцкіх і, мабыць, узычыў рукапіс «пану маршалку», інакш які сэнс у тых панегірыках. А раз так, то з вяртаннем Брахоцкага рукапіс і з'явіўся на свет, нехта яго ўспомніў. Мажліва, аўтар не паспеў перадаць прысвячэнне адрасату і толькі праз паўтара дзясятка гадоў змог пацешыць свайго суседа. А з'явіўшыся на вочы ў 1875 г., паэма магла ўспрымацца ўжо як свежы твор. Пасля вяртання з Сібіры Брахоцкія жылі на Наваградчыне, там якраз і збіраў фальклорныя матэрыялы Федараўскі. Інакш кажучы, тэкст меў два найбольш імаверныя

---

[1]Сярод карэспандэнтаў М. Федароўскага значылася і Паўліна Кярсноўская («беларуская Шахерэзада»), збірала фальклор к Ваўкавыскім павеце – між іншым, ці не была яна сваячкаю С. Кярсноўскага? (Гл.: Саламевіч, Я. Міхал Федароўскі. – Мінск, 1972. С. 26, 64, 175, 185, 187.)

[2]Гл.: Масяж, В. История костела и польской диаспоры в Тобольске. – М., 2013; Деятели революционного движения в России: био-библиографический словарь. Т. 1. Ч. 1. – М., 1927. С. 81.

[3]Хаўстовіч, М. С. 163.

[4]Тамсама.

[5]Тамсама.

[6]Тамсама.

каналы пашырэння: ад аўтара і ад адрасата. Абодва ў розныя часы жылі на Наваградчыне, але дзе быў Пратасэвіч ў 1870-я гг.? І што мы ведаем пра яго? Адно толькі можна казаць пэўна: шукаць селяніна Пратасэвіча ў якасці аўтара паэмы – марны занятак.

Апрача тых радкоў, дзе Пратасэвіч піша пра сябе самога, у рукапісе ёсць скупая інфармацыя пра лёс паэта і ягоны твор: 1) рукой аўтара рукапісу; 2) рукой невядомай асобы; 3) рукой Федароўскага. Так і падамо гэтыя звесткі, пазначыўшы нумарамі інфарматараў[1].

На пачатку рукапісу:

(1) *Gawęda Protasewicza Wilhelma, umarł przed laty 20*;

(3) *Nowogródzkie, w. Boryszyn*;

(1) *Susiedczyk Gawiejski*;

(2) *Napisał ~~przed laty~~ około 1875 r. Wilhelm Protasewicz*.

У канцы рукапісу:

(1) *Wilhelm Protasewicz*

(3) *Boryszyn, dz. 15 Stycznia 1900 roku*.

З гэтых запісаў робіцца выснова, нібыта Пратасэвіч нарадзіўся ў вёсцы Барышына[2] і нібыта памёр у 1880 г. Таксама ў Барышыне? Мабыць, усё так і ёсць, але, улічваючы тое, што інфармацыя падаецца рознымі асобамі і хутчэй за ўсё ў розны час, рабіць з яе адназначныя высновы небяспечна. Дата 1900 г. – гэта, мабыць, час, а Барышына – месца заспісвання тэксту паэмы. А адкуль Федароўскі ўзяў звесткі, калі зрабіў пазнакі – невядома, але вылічваць на падставе іх і паведамлення невядомай асобы час смерці Пратасэвіча як 1880 г. – спрэчна, прыпіска «памёр за 20 гадоў» унесеная невядома кім, невядома калі і невядома на якой падставе. Апрача таго, засумнявацца ў даце 1880 г. мяне змусілі запісы народных песень, зробленыя ў 1888 г. ў Старобінскай воласці Слуцкага павету ад Ірыны Русаковіч нейкім *В. Пратасевічам*[3], якія захоўваюцца ў фондзе П. Шэйна ў Пецярбургу пад тытулам «Белорусские народные песни, собранные в Слуцком уезде, Минской губернии» (1887; 27 листов)[4]. Ці не Вільгельм Пратасэвіч гэта? І як ён апынуўся на Случчыне?

[1]Гл.: Хаўстовіч. С. 162–163.
[2]Хаўстовіч. С. 161.
[3]Гл.: Паэзія земляробчага календара. – Мінск, 1992. С. 494.
[4]Санкт-Петербургский филиал Архива Российской Академии Наук, ф. 104, воп. 1, спр. 313.

Як выявілася, песні ў Слуцкім павеце збіраў не аўтар «Суседчыка…», а ягоны аднафамілец *Васіль Кандратавіч Пратасевіч*. А. Брыль, працуючы ў архіве Шэйна, спраўдзіў імя збіральніка. Таму далейшы ход маёй думкі быў тупіковы, зрэшты, прасачыць яго цікава, каб паказаць як лёгка ўхапіцца за падабенства, за аналогію і скласці фантастычны ланцужок дачыненняў. Калі Пратасэвіч жыў у Барышыне, то, здавалася б, яно і можа злучыць Наваградак з Слуцкам. Спасылаючыся на «Геаграфічны слоўнік польскага каралеўства», М. Хаўстовіч, зазначае: «фальваркам Барышын на Наваградчыне ў другой палове XIX ст. валодалі Вайніловічы»[1]. Але род Вайніловічаў, як вядома, меў землі не толькі ў Наваградскім, але і ў Слуцкім павеце. А ў «Суседчыку гавейскім» не раз успамінаецца «маёр Вайніловіч» – адзін з паляўнічых, праўда, не называецца ягонае імя. Апрача таго, Хаўстовіч выказвае здагадку, што паэт мог служыць аканомам. Сапраўды, у XIX ст. большасць шляхты не валодала ўласнымі абшарамі, а займала розныя пасады пры дварох буйных земляўласнікаў. Таму Пратасэвіч, як і Дунін-Марцінкевіч, мабыць, служыў арандатарам, аканомам, лясьнічым ці быў на іншай пасадзе, як тады казалі, «афіцыялістым», і якраз у тым жа Барышыне. Арандатарства ці служба ў Вайніловічаў і маглі прывесці яго і на Случчыну.

А з Случчыны было ўжо рукою падаць да Дуніна-Марцінкевіча. Сярод вялікай колькасці прадстаўнікоў роду Вайніловічаў можна вылучыць дзве асобы, якія цікавіліся беларускай культурай ды народнай творчасцю. Блізкім сябрам і суседам Зарыяна Далэнгі-Хадакоўскага быў Леслаў Вайніловіч[2]. Праўдападобна, што ён, як і ягоны сусед, збіраў фальклор і, мажліва, быў карэспандэнтам Восіпа Бадзянскага, прынамсі, у архіве апошняга ёсць запісы песень ад нейкага Вайніловіча[3]. Суседам жа і добрым знаёмым Дуніна-Марцінкевіча быў польскі паэт Ксаверы Вайніловіч, які валодаў маёнткам у Карытне на

---

[1]Хаўстовіч. С. 163.

[2]Гл.: Энциклопедический лексикон. Т. 17. – СПб., 1841. С. 101; Народознавчі дослідження З.Д.Ходаковського / Ю. Маслянка // Київські полоністичні студії. 2013. Т. 23. С. 26-90. Режым доступу: http://nbuv.gov.ua/UJRN/kps_2013_23_4

[3]Называецца маёнтак Цэхава Слуцкага павета Мінскай губерні (Российский государственный архив древних актов (РГАДА). Ф. 188 (Рукописное собрание Центрального государственного архива древних актов (коллекция)). Оп. 1. Ед. хр. 1394. Записи белорусского фольклора и материалы по языкознанию профессора Московского университета О. М. Бодянского.)

Бабруйшчыне, вядомы як аматар беларушчыны. Ад яго і маглі б цягнуцца ніці знаёмства ад Дуніна-Марцінкевіча да Пратасэвіча… Паэт, які ў 50–60-я гг. спяваў разам з сялянамі, у 80-я гг. мог стаць карэспандэнтам П. Шэйна. Мог, але не стаў… Нават невядома, ці былі нейкія сваяцкія повязі паміж Вільгельмам Пратасэвічам і Васілём Пратасевічам, але для раскрыцця загадкі аўтара «Суседчыка…» нічога не прыдалося. Спадзяюся гэтыя звесткі спатрэбяцца ў нейкіх новых даследаваннях, а мы не без шкадавання з нябёсаў фантазіі апусцімся на грунт рэальнасці.

Як бы там ні было, усё гэта здагадкі, пункцірныя лініі, вектары, якія паказваюць кірункі даследавання біяграфіі Пратасэвіча і ягонага атачэння. Склад удзельнікаў палявання варты пільнай увагі, але пакуль што застаецца нерасшыфраваным. Апрача братоў Брахоцкіх і іх госця, паўстанца-ветэрана Станіслава Кярсноўскага, сярод паляўнічых быў, безумоўна, не адзін будучы паўстанец, прынамсі, тут мы пазнаём Анастаза Абламовіча (нарадзіўся ў 1817 г.), Юльяна Сакалоўскага. А старэйшы і малодшы графы Пуслоўскія – гэта, магчыма, не бацька і сын, а нейкія з братоў: Адам Цітус (1803–1854), Францішак Ксаверый (1806–1874) ці Вандалін (1814—1884). Сярод шляхты Лідскага і суседніх паветаў не раз сустракаюцца прозвішчы *Бялапятровіч, Дыбоўскі, Лясковіч, Нэйман, Пратасэвіч ці Пратасовіч, Чачот* і г.д. Гэта людзі, якія нарадзіліся ў прамежку паміж 1800 і 1825 гг. і на на той час мелі па трыццаць – пяцьдзясят гадоў, былі і маладзейшыя, як той з-пад Мядвядкі «дзяцючок харошы і гладкі». Мяркуючы з апісання, сам паэт таксама меў пад сорак і мог дажыць не толькі да 1880 г., але і да 1900 г., і нават далей.

### 4.

Пад канец варта колькі слоў сказаць пра мову твора і якасць абодвух спісаў, а таксама – пра іх перавод у сучасны правапіс і некаторыя мусовыя кан'ектуры. Як вучыў Б. Тамашэўскі, аўтарская воля не даецца беспасярэдне, а выяўляецца праз вывучэнне тэксту[1], і заданне тэкстолага – максімальна наблізіцца да аўтара, а не кананізаваць скажэнні і наслаенні хібаў. «Суседчык гавейскі» захаваўся ў двух спісах: першым – зробленым рукою невядомага

[1]Томашевский, Б. Писатель и книга: очерк текстологии. – М., 1959. С. 272–273. Гл. таксама: Основы текстологии. – М., 1962. С. 129–130.

перапісвальніка і другім – рукою М. Федароўскага. М. Хаўстовіч апублікаваў першы спіс і падаў у зносках кан'ектуры Федароўскага. З аднаго боку, ён характарызуе невядомага перапісвальніка як «малапісьменнага чалавека», а з іншага боку, лічыць, што першы спіс становіць значна большы інтарэс, «чым перайначаны і мадэрнізаваны» другі[1]. З апошнім меркаваннем нельга не пагадзіцца, дый першае небеспадстаўнае, але нельга сказаць, што паміж імі няма супярэчнасці. Калі тэкст «непісьменны», то яго, рана ці позна, трэба рыхтаваць для друку ўжо як «пісьменны».

Вывучыўшы кан'ектуры Федароўскага, я прыйшоў да высновы, што ў асноўным яны слушныя: дзе выпраўляюцца яўныя недарэчнасці, а дзе больш паслядоўна праводзіцца фанетычны прынцып пісьма – сучасны тэкстолаг мусіць рухацца ў тым жа кірунку. Хіба толькі некалькі правак Федароўскага, мадэрнізуюць тэкст і скажаюць аўтарскую волю, іх няшмат. Не варта было мяняць: *Eljasz* на *Haljasz* (ёсць нават просвішча *Эльяшэвіч*), *plaskać* на *plaskaći*, *hnać* на *hnaći*. З іншага боку, уніфікацыя скасоўвае шмат цікавай інфармацыі пра аўтара і твор, таму перад тым як рабіць кан'ектуры і мяняць правапіс, трэба тую інфармацыю зняць і зразумець. У першасным тэксце захаваліся некаторыя дыялектныя асаблівасці мовы, а таксама сляды, якія вядуць да пратографу. Аналіз супярэчнасцяў правапісу, наводзіць на думку: папярэдні тэкст быў кірылічны і засноўваўся пераважна на марфалагічным прынцыпе пісьма. Або, што менш імаверна, перапісвальнік сам меў навык кірылічнага пісьма. Характарыстыка ж тэксту як «непісьменнага» толькі спрашчае сітуацыю і падштурхоўвае да прымхі пра «паэта-селяніна». Хібы ў тэксце, – вынік паспешлівасці пры пераходзе з адной графікі на другую і механічнага перапісвання, мажліва, з кепскага прачытання почырку, неразумення аўтарскай мовы.

Мова «Суседчыка…» – гэта гаворкі паўночна-заходняй часткі Беларусі, знаёмыя мне з маленства, таму я пазнаю ў ёй шмат характэрных лексічных, і семантычных асаблівасцяў, якія нетутэйшы чалавек мог не заўважыць. Сярод характэрных слоў вылучаюцца *накладаць* 'адзяваць' *(кладзеце суконкі)*, *вярцець* 'загортваць' (ніколі не ўжываецца ў значэнні 'круціць'), *пяшком* (не

[1]Хаўстовіч. С. 162.

*пехатой* і не *пешшу*), *толька* (а не *толькі*[1]), *пабіць на кусочкі* (а *на кавалкі – рэзаць, ламаць*), *учара́йшы* (а не *ўчарашні*), *гараць* (а не *араць*), *ледва* (а не *ледзве*), *здарове* (а не *здароўе*), *прылецеў* (экспрэсіўны варыянт да *прыляцеў*), *ажно* (у значэнні 'аказваецца'), *астанецца* 'адстане'[2] *па́льнуць* і *страліць* (паралельна з словам *стрэліць*). Таксама такія вядомыя формы як *двох* (а не *двух*)[3], *каторы* 'які', звязка *ест* (не *ёсць* і не *есць*)[4], пашыраныя ў гаворках рэгіёну паланізмы: *велькі* 'вялікі', *водка* 'гарэлка', *прэньдзенька* 'хуценька', *чатэры*. Хоць і не ўнікальныя, але характэрныя для данай гаворкі словы: *барджэй*, *варача́ць* 'вяртаць', *дадзець* 'надакучыць', *джгнуць* 'скокнуць', *драць* 'рваць', *зачаць* 'пачаць', *кампаня, ужэ, нябось, па лесе, пшэнны* 'пшанічны'[5], *агоньчык* (а не *агеньчык*), *рурка* 'трубка', *такі-тут*, *тыл* 'зад', *устыд* 'сорам'. Традыцыйнае каталіцкае вітанне: *Езус пахвалёны!* Не раз чутыя на Лідчыне выразы: *узяць на вока* 'запрымеціць'; *узяцца ў бокі*; *дай Бог за рок дачакаць*; *голы як бізун*; *цэлая дружына* (пра вялікую сям'ю), *да дня* 'пакуль не рассвітае'; *От табе работа!* (расчараванне вынікамі); *адбыў пекла*; *у пару пасей* і г.д.

З фанетычных і марфалагічных рысаў можна вылучыць «ніканне» і «ціканне» ў займенных словах: *нідалёк, німа, цібе, ціпер*[6], якое стварае пэўны кантраст на фоне падкрэсленага акання і якання: *затоя, ма́я (асьмакі), зная, ведаяш*[7]. Канчатак *-і* ў месным склоне: *на дарозі, у стрэльбі, у хваробі, пры спасобі, на балоці, у лесі, на свеці*[8]. Нястача *[j]* у прыстаўкавых дэрыватах: *прышлі,*

---

[1]Слова *толькі* на Лідчыне ўжываецца таксама, але ў значэнні 'столькі' (Пар.: «"Сколькі" й "столькі" словы не беларускія (сваім пачатным *с*), іх часта няправільна ўжываюць пад уплывам аднаго выдатнага публіцыстага. Прыклады ўжывання гэтых прыслоўяў: *Колькі пазычыў, толькі і аддаў*». (Станкевіч, Я. Язык і языкаведа. – Вільня, 2007. С. 61; 1097.)

[2]Ян Станкевіч сцвярджаў менавіта такое значэнне гэтага слова: «Калі, прыкладам, ідуць, і адзін ці колькі не паспяваюць зыйсціся з іншымі, дык яны *астаюцца, асталіся*. <…> І па беларуску кажацца *адстаць*, але у накшым значанню: можа адстаць тынк, папера ад сцяны і пад.». (Станкевіч, Я. Язык і языкаведа. – Вільня, 2007. С. 965; 1201.)

[3]Гл.: Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мінск, 1963. № 143.

[4]Тамсама. № 163.

[5]Калі больш дакладна, то на Лідчыне ўжываецца варыянт *пшонны*, а *пшэнны* – мабыць, паланізм. І менавіта *пшонны* падаваў Я. Саламевіч у сваёй расшыфроўцы (гл.: Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя. – Мінск, 1988. С. 306.), на жаль, гэты варыянт не пацвярджаецца абодвума рукапісамі.

[6]Паслядоўнае «ніканне» і «ціканне» назіраецца ў зборніку Алеся Гаруна «Матчын дар», характэрнае яно і для мовы Зоські Верас. (Гл. мой каментар у кн.: Станкевіч, Я. Язык і языкаведа. – Вільня, 2007. С. 1082.)

[7]Гл.: Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. № 19, 20.

[8]Тамсама. № 18.

*пашоў, нашлі*. Канчатак *-ць* у некаторых дзеясловах з асновай на зычны (дзе ў літаратурнай мове назіраецца *-ці*): *несць, пад'есць, украсць*[1], нават у форме загаднага ладу: *пачысцьце (стрэльбы)*, а таксама форма *іці* 'ісці'[2]. Прыслоўі з мяккай асновай: *марне, пэўне, шчасліве* (як у польскай мове). І ўсё ж не варта забывацца, што Пратасэвіч з Наваградчыны (сучаснай Дзятлаўшчыны), дзе жылі і іншыя Пратасэвічы[3], на Лідчыне ён толькі гасцяваў. А адна з рысаў, якая адрознівае гаворкі па левы (паўднёвы) бераг Нёмана ад гаворак па правы (паўночны) бераг Нёмана, – «канцавое оканне» пасля цвёрдых зычных у адкрытым складзе[4]. Гэтая дыялектная асаблівасць тлумачыць амаль рэгулярнае *[о]* ў канцы прыслоўяў: *брытко, гладко, далёко, добро, дружно, жыво, кепско, крыво, міло, скоро, трэбо, ціхо, шчыро, гэто, нібыто, што-то, блізенько, прэндзенько, хуценько, суджано* і не толькі прыслоўяў[5]: *воко, Янко, было, б'ецио, паненко*. А таксама ў назоўным склоне адзіночнага ліку ніякага роду прыметніка: *панскаё*[6]. Для гэтага ж рэгіёну характэрная і форма *з свае*[7].

Адлюстраванне дыялектных асаблівасцяў у творы нельга азначаць як непісьменнасць, бо ні граматыкі, ні нават пісьмовай традыцыі на той момант не існавала. Між іншым, і канчатак *-і* ў месным склоне, і канцавае *[о]*, пазней рэгулярна практыкаваліся ў «Нашай Ніве»[8]. Мажліва, некаторыя напісанні тут гіперкарэктныя: *бычко, зайцо, цемняко*. А частка з іх нават не аўтарскія, пра што сведчыць рыфма: *панічо – із смыча*. Не мог паэт рыфмаваць *[а]* з *[о]*, мабыць, у пратографе «а» і «о» мала адрозніваліся і перапісвальнік іх блытаў. І ўсё ж, у Пратасэвіча цяжка назваць хоць адно адрозненне ад літаратурнай мовы або сучаснага правапісу, якое не тлумачылася б паўднёва-заходнім дыялектам ці гаворкамі паўночна-заходняй дыялектнай зоны, як слова *вяселе* (без падваення *[л]*) ці як множны лік *чарты* (а не *чэрці*) – тое і другое характэрнае і для Лідчыны. Напісанне ж канчатку множнага ліку *лісэ* 'лісы' з *[э]* ў слабой пазіцыі, мабыць, узнікла паводле аналогіі з

---

[1]Тамсама. № 174, 175.
[2]Тамсама. № 176.
[3]Прыкладам, у в. Дварэц жыў Міхал Пратасевіч (гл.: Сядзібна-паркавы комплекс Дварэц Рэжым доступу: https://museum.dzyatlava.by/2010/09/02/100/ ).
[4]Гл.: Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. № 14.
[5]Тамсама. № 91.
[6]Тамсама. № 115; пар. таксама: № 114 і № 17.
[7]Тамсама. № 140.
[8]Гл.: Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. У 2 т. Т. 2. – Мінск, 1968. С. 120, 122.

*[э]* ў моцнай пазіцыі: *сталэ, дубэ*, характэрнай якраз для досыць вузкага рэгіёну, куды ўваходзіць і Наваградчына[1]. Брак прыстаўных зычных – *усаты, па ушы, его очы* (але *на воко*) – таксама досыць рэдкая з’ява, якая сягае радавішча Пратасэвіча[2]. І нават такія, здавалася б, дзіўныя формы, як азванчэнне канцавой зычнай у займенніку *тут*, якія могуць паставіць каментатара ў тупік: *туд вырваўся, туд Брамоўскі* – рацыянальна тлумачацца. У асноўным яны ўзнікаюць перад звонкай зычнай, мабыць, як вынік прагрэсіўнай асіміляцыі, і, калі не лічыць гіперкарэктнага *туд сабакі*, то у астатніх выпадках асіміляцыя не адбываецца і напісанне звыклае: *я тут куме, тут і Пратасевіч, тут як только, вось тут шляхціц, тут наш капітан*. Паўплываць на з’яўленне «д» магла і такая з’ява як захаванне звонкасці зычных у слабой пазіцыі, якое чапляе гэты рэгіён[3].

У кожным разе вуха паэта чуйна лавіла гукі роднай гаворкі, і не яго віна, што пазней пры перапісванні адбыліся некаторыя скажэнні. Прыкладам словы ***B**adujemsia szczyra* трэба чытаць як ***Р**адуемся шчыра* – тут блытаюцца літары, якія маюць падабенства ў графіцы: ***R / B / P***. Захоўваць падобныя памылкі было б проста недарэчна, таму без паслядоўных кан’ектур нам не абысціся. Падзелім іх на некалькі груп: у першай – дыфузія галосных літар, у другой – зычных, у трэцяй – брак і лішак складоў (ці літараў).

**Першая група – «вакалічная» (y / u / j / i / ы):** а) *Pan Jezys → Пан Езус; dzietenki miłyje → дзетанькі, мілуе*; б) *K**y**rjanouski → к**і**р’яноўскі; Nazb**y**rauszy → Назб**і**раўшы*; в) *Jak zaczali pot**u**m → Як зачалі пот**ы**м; Pot**u**m jak zaczali → Пот**ы**м як зачалі* (у тэксце 2 *потум* і 8 *патом*)[4]; *Karol D**u**bouski → Кароль Д**ы**боўскі*; г) *Tutk**u** zaraz → Тутк**а** зараз*; д) *Oto **t**ylko kiepsko → Ото **то**лька кепска*; е) *Z pszennej buloczko**й** → З пшэннай булочка**й**; I druh**u** panoczek → I друг**і** паночак*; ж) *u kniej u dubiniey → кне**і** ў дубіне*.

**Другая група – «кансанантная» (l / ł / t / d / т / m / n / z):** а) *Bo taki **l**ut zaraz → Бо такі-**т**ут зараз; Wos **l**ut miły kumie → Вось **т**ут, мілы куме; Sieliś Pra**l**asowicz → Селісь Пра**т**асовіч; Jemy nie**l** nikoli → Яму не**т** ніколі*; б) *Adtu**t** bryczkaj u Gauju → Адту**ль***

---

[1]Гл.: Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. № 95.
[2]Тамсама. № 47.
[3]Тамсама. № 45, 46.
[4]Мажліва, тут этымалагічнае *[о]* ў складзе пасля націску было больш падобнае да *[у]*, чым да *[ы]*. Гл. аналагічныя з’явы: Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. № 118, 122, а таксама ў моцнай пазіцыі: № 35.

*брычкай ў Гаўю*; в) *Tu**d** sabaki honczy* → *Ту**т** сабакі гончы; Tu**d** wyrwausie zajac* → *Ту**т** вырваўся заяц; Aszno **lud** Bra**m**ouski* → *Ажно **тут** Бра**н**оўскі*; г) *kali jo**m** spudłuje* → *калі ё**н** спудлуе*; д) *wiali zajeżdżaczy* → *вялі **н**аязджачы; żywie **n**a Mirom* → *жыве за Мірам*; *Żywo u Mory**c** wiosku* → *Жыва ў Моры**нь**-вёску*.

**Трэцяя група – «прасадычная»:** а) *ni adnaго słow* → *ні аднаго слова;* б) *siedzieu, za kustami* → *сядзеў, за кустом*; в) *praszu was usich* → *прашу вас усех; pierad Boгат xxxxx* → *перад Богам грэх*. г) *Boze mnie patoz* → *Божа мне паможа; ale mim bratka* → *але міма братка; D ktoż to byu z panou* → *Да хто ж то быў з паноў;* д) *u kampanію prystau* → *у кампаню прыстаў; na pieresmyku stau* → *на перасмыку стаў; da sczuwaci zajcy* → *да счуваць зайцы!; Da pahledzi psiajuchi* → *Да пaглядзь, псяюхі*; А таксама: *Ancutawaj ruki* → *З Анцутавай рукі; Bialop**o**trowicz* → *Бялап**я**тровіч; Mag**u**szeuski* → *Маг**ну**шэўскі; Bra**ch**wocki* → *Бра**х**оцкі*.

У першым спісе паэмы рэгулярна ўжываецца кірылічнае «г»: *nieczaго skasać; To lis kała stoга; nima czaго nieść; Patom z karaгodam; sieгodnia nosić; łysaго baczym; jeszcze b ja mnoго; pierad Boгат; ludźmi abilгa; da pana Boгa; i zapatoгa*, часам нават побач з лацінскім «h»: *mnoго tabie **h**awaryu; kab jeгo lic**h**o*. Гэтая дэталь, а таксама блытанне літар: **у / у** (*Езус* → *Jez**y**s*); **и / u** (*друг**и*** → *druh**u***); **й / й** (*булочко**й*** → *bułoczko**й***); **ы / u** (*пот**ы**м* → *pot**u**m*); **ц / нь** (*Моры**нь*** → *Mory**c***), якія падобныя графічна, але не супадаюць фанетычна, і навялі на думку, што пратограф мог быць кірылічны. Зблытаць літары такім спосабам у адваротным кірунку – ад лацінкі да кірыліцы – проста немажліва. Спачатку трэба было «нь» прачытаць як «ц», а тады – перадаць лацінскім «c», тое самае і з астатнімі. Блытанне ж лацінскіх «l», «ł» і «ŀ» – з'ява крыху іншага парадку і, мажліва, узнікла ў працэсе сучаснага расшыфроўвання тэксту. Вартае ўвагі абарачэнне **Z / N** (*za* → *na*), што яно значыць, сказаць цяжка, але графічна «N» падобнае да «Z», пакладзенага на бок, значыць, невыпадковае. Можа, з усіх пералічаных з'яў можна зрабіць іншыя высновы, але я пакуль што не гатовы іх прапанаваць[1].

---

[1]Няма гістарычнага тлумачэння і для высновы аб кірылічным пратографе, сам Пратасэвіч, мабыць, быў чалавекам польскай культуры, але тагачасная шляхта часта сканчала расійскія навучальныя ўстановы і валодала кірылічным пісьмом. Можа, уплывам рускага правапісу і тлумачыцца марфалагічны прынцып пісьма, які назіраецца ў першым спісе.

Некаторыя дэфармацыі тэксту ўдалося выявіць і выправіць з дапамогай вершавання. У трэцяй групе кан'ектуры (а), (б) і (в) – з дапамогай рыфмы, (г) і (д) – з улікам памеру, што лішні раз сведчыць: Пратасевічаў верш добра ўрэгуляваны. У некалькіх выпадках метрычныя кан'ектуры пацвярджаюцца аналагічнаю лексікай у тэксце: *прасмык, кампаня*. Што да прозвішчаў, то шляхта Лідскага і суседніх паветаў добра вядомая, таму скажэнні тут лёгка ўзнаўляюцца: *Браноўскі, Бялапятровіч, Магнушэўскі, Дыбоўскі*. Праўда, у першым выпадку можна разглядаць яшчэ і версію *Абрамоўскі*, а ў апошнім – *Дубоўскі*, што менш імаверна. Не варта забывацца, у Галены Брахоцкай было дзявочае прозвішча *Дыбоўская*.

Між іншым, усё, што мне тут удалося сказаць пра Пратасэвіча і ягоны твор – ляжыць на паверхні і здабываецца пры ўважлівым чытанні. А калі літаратуразнаўцы не згледзелі чаго – значыць, чыталі паспешліва, а можа, дзесьці і перадузята. Сапраўднае ж вывучэнне паэта – толькі пачынаецца. У гістарычных архівах і ў мемуарах шляхты трэба шукаць звесткі пра асобу і лёс Пратасэвіча, у архівах – новыя творы. Удзельнікі палявання ў большасці выпадкаў яшчэ не расшыфраваныя, іх лёс таксама цікавы, і дзеля ўзнаўлення гістарычных падзей, і для больш глыбокага зразумення тэксту.

*Аўтар выказвае шчырую падзяку* ***Антону Брылю, Лявону Лаўрэшу, Вячаславу Мартысюку, Сяргею Токцю, Уладзіміру Хільмановічу*** *за карысныя парады і падказкі ў час напісання гэтага тэксту. Аўтар таксама ўдзячны* ***Міколу Хаўстовічу*** *за ўзычаныя копіі рукапісу паэмы, паводле якіх спраўджваецца гэтая публікацыя.*

*Вільгельм Пратасэвіч*

# Суседчык гавейскі[1]

Пара паночкі, пара уставаць,
З пшэннай[2] булачкай выпіці чаёк!
Устыд вам паночкі аж да дня ляжаць,
Збірайцеся дружна едзьце у лясок.

Ўшак[3] жа сабраліся, кабы паляваць,
То палюйце з Богам, паны-малайцы,
Не ужо ж[4] дзень з ноччу усё ў карты граць,
Трэба душыць лісы да счваці[5] зайцы!

І вы, наязджачы[6], жыва паскарэй
Дайце аўса коням, удзеньце кульбакі[7]
Да настаўце вады прэньдзенька[8], жывей,
Бо трэба пакарміць панскія сабакі!

І, стрэльчыкі мілы, жыва уставайце,
Да пачысцьце стрэльбы далей да ахвоты,
Адны новенькія лапці надзявайце,
Кладзеце[9] суконкі, пашмаруйце боты!

Паны, то у брычках, то едуць вярхом,
А вы пасяшайце, каб барджэй пад’есць,
Вам трэба, браточкі, дрыпаці пяшком,
А да лесу будзе болей вярстоў шэсць!

А вам пан маршалак, міласцівы пан
Казаў варыць страву зацеркі ці кашы.

---

[1] *Гавейскі* – прыметнік ад *Гаўя*; гл. далей.
[2] *Пшэнны, пшонны* – пшанічны.
[3] *Ушак* (пол. *wszak*) – аднак, усё ж.
[4] *Не ужо ж* – няўжо ж; тут слова дзеліцца на кампаненты дзеля захавання рытму.
[5] *Счваці* (пол. *sczuwać*) – цкаваць.
[6] *Наязджачы* – той, хто гоніць звера на «стральцоў», «загоншчык».
[7] *Кульбака* (пол. *kulbaka*) – вайсковае высокае сядло з драўляным каблуком.
[8] *Прэндзенька, прэндка* (пол. *prędko*) – хутка, скора.
[9] *Класці, накладаць* – тут: надзяваць; апранаць.

Дасць гарэлкі гарчык, дасць і піва збан,
Бо ён добра знае ўсе патрэбы вашы.

Мы пад ім шчаслівы, бо ён добры пан.
Дай жа яму, Божа, пражыць доўгі век!
Няхай сто лет жыве і пан капітан,
Бо пры іх шчаслівы кажан чалавек!

А нашая пані, то, чуеце, дзеці –
Такой другой, пэўне, да няма на свеце,
Яна над слугамі і цэлай чалядкай[1],
Яна над усімі бедненькімі маткай,

Яна у здароўі, яна у хваробе,
Ці каторы бедны, да хоць пры спасобе[2],
Яна нас, як матка дзетанькі, мілуе,
Вучыць нашы дзеткі, яна іх цалуе.

Калі я тут, куме, хоць крышку салгаў,
Каб я марне згінуў, каб марне прапаў!
Божа мне паможа, што то шчыра мова,
Што тут няма хвальшу ні аднаго слова.

**Першы дзень палявання**
**У кнеі-дубіне[3]**

Пан Езус пахвалёны! Куме, галубок,
Ведаеш як ўчара́йшы прашоў нам дзянёк.
Но пастой жа крыху да паслухай міла,
Я раскажу шчыра ўсё так, як і была.

Мы, нябозе[4], вышлі па восьмай гадзіне

---

[1] *Чалядка* (пол., жарт. *czeladka*) – грамадка; дзеці, малеча.
[2] *Пры спасобе* – пры сродках, не бедны, спраўны.
[3] *Кнея, княя* – густы лес.
[4] *Нябозе* (ад *нябога*) – зычлівы зварот.

І цішком пасталі у кнеі ў дубіне[1].
А навакол сталі на коніках счвачы[2],
З-пад Жалеек[3] гончы вялі наязджачы.

Як даў Якуб крыку, сабакі пусцілі
І беднага бычка чуць не задушылі.
Но прылецеў жыва Эльяш верашкоўскі[4],
Да прыбяжаў скора Янка дакудоўскі[5],

І другіе стрэльцы хутка прыбяжалі,
Дружна таго бычка бараніці сталі.
А як даў з гарапа[6] Свэд із Чарніхова[7],
То збараніў бычка ад аднога слова.

Як зачалі потым з гарапаў пляска́ць,
То сталі сабакі зараз зайца гнаць.
А хоць Якуб жыва харты і замкнуў,
Але заяц хітры за горку швяркнуў[8].

Да прышоў пад ногі з Сеннай[9] паніча.
Той як толька харты пусціў із смыча[10].
Тутка зараз зайца сталі варача́ць,
І зараз паймалі – нечага сказаць.

Но там блізка хартоў адзін панок стаў,
І пакуль панічок вярхом прыскакаў,
Паночку патрэба да зайца прыпасць[11]
Да ці чуеш, куме, хацеў зайца ўкрасць!

---

[1] *Дубіна* – тут: дуброва.
[2] *Счвач* (пол. *szczwacz*) – наглядчік за сабакамі ў час палявання; сабакар.
[3] *Жалейкі* – Залейкі, вёска ў Івейскім раёне (Івейскі с-т).
[4] *Верашкоўскі* – прыметнік ад *Вераскава* – вёска ў Навагрудскім раёне (Любчанскі с-т).
[5] *Дакудоўскі* – прыметнік ад *Дакудава* – вёска ў Лідскім раёне (Трацякоўскі с-т).
[6] *Гарап* – арапнік, біч.
[7] *Чарніхова* – мабыць, вёска Чэрнікі ў Лідскім раёне (Крупскі с-т), менш імаверна – Чэрнішкі ў Астравецкім раёне (Варнянскі с-т).
[8] *Швяркнуць* – скокнуць, кінуцца.
[9] *Сенная* – вёска Сенна ў Навагрудскім раёне (Любчанскі с-т).
[10] *Смыч* – (пол. *smycz*) рэмень, пас ці вяроўка для трымання сабакі.
[11] *Прыпасць, прыпасці* – дайсці, даступіцца.

А патом да ліса хібіў[1] палкаўнік,
А Бялапятровіч зараз зрабіў «пстрык».
А хоць з другой руркі[2] моцна выстраліў,
Але крышку крыва – зайца не забіў.

А яшчэ, нябозе, гаварыў там хтось,
Спудлаваў[3] да ліса Брахоцкі Антось.
Тут вырваўся заяц, а каб яго чэрці!
З Анцутавай руркі дачакаўся смерці.

Станіслаў Кярсноўскі, як на вока ўзяў
І як толька па́льнуў, то і ліс упаў.
А Кароль Дыбоўскі, чуеш, далібог!
І лісіцу забіў да і зайцаў двох.

А трэці лісочак, як нос паказаў,
То зараз Антоні харты паспускаў.
А лісіца ў кнею, каб яе чарты!
Бо як там прыпала, то не нашлі харты.

Но, як прышлі гончы, сталі скавытаць,
То ліс кала стога джгнуў на сенажаць.
Ажно тут Браноўскі, кажуць, з-пад Ашмяны,
Тут і Пратасэвіч, ай, куме каханы!

Адзін з ніх і дру́гі харты як пусціў,
Сівы хорт ашмянскі ліса паваліў.
А ведаеш, куме, вось там бліз адрыны[4],
Што стаіць ў балоце недалёк дубіны,

Вось там Анастазы пад дубком ляжыць,
Да неяк праслепіў[5], што заяц бяжыць.
А Лясковіч стрэльбу ў твару прылажыў,
Но Мікульскі страляць яму збараніў.

---

[1]*Хібіць* – тут: паварочваць, скіроўвацца.
[2]*Рурка* – трубка, тут: руля стрэльбы.
[3]*Спудлаваць* – даць маху; тут: не папасці ў цэль.
[4]*Адрына* – пабудова для захоўвання сена.
[5]*Праслепіць* – не заўважыць, праваронiць.

І каб, бач, Мікульскі блізенька не стаў,
Лясковіч бы плечы шротам пахвастаў.
Няхай Абламовіч жыве доўгі век,
Бо то ён разумны, добры чалавек!

Вышлі мы з дубіны да у кнею нову
Ўсе цераз дарогу зараз к Палашову[1].
Тут як толька гончы зайца выганілі,
Неякіясь паны зараз і забілі.

Потым як зачалі паны пудлаваць,
То к аднаму зайцу болей разоў пяць.
А ведаеш, куме, чаму так страляюць?
Бо у адной стрэльбе па дзве люркі[2] маюць.

А наш браток бедны к адной як прывык,
Як возьмеш на вока, так звярына – брык.
Мы не любім, куме, на вецер страляць,
А што толька стрэлім – ест што паднімаць.

Хто не глядзіць у дзве люркі,
Хто пільнуе адной дзюркі,
Той ці ў шчасці, ці ў бядзе,
Што ні стрэліць – пападзе.

Да яшчэ панічок чырвоны, вусаты
Выпаліў два разы з стрэльбы, як з гарматы.
Выстраліў далёка, да зайца падбіў,
Хуценька звінуўся[3] сабак збараніў[4].

Ой, бо то дзяцючок харошы і гладкі,
Што жыве за Мірам недалёк Мядзвядкі[5].
Яго то ўсё адна паненка кахае,
Бо валасы пекны і асьмакі[6] мае.

---

[1] *Палашова* – пакуль не вызначная мясціна на правым беразе Гаўі ў Лідскім раёне.
[2] *Люрка* – тое самае, што *рурка*.
[3] *Звінуцца* – абярнуцца, пахіліцца; тут: зрабіць вельмі хутка, злаўчыцца.
[4] *Збараніць* – утаймаваць.
[5] *Мядзвядка* – вёска Вялікая Мядзвядка ў Карэліцкім раёне (Мірскі с-т).
[6] *Асьмак* – восем грошаў; тут: тут грошы наагул.

Патом пан маршалак шарака забіў,
Да і пан Свяцкевіч зайца палажыў.
Маёр Вайніловіч стрэліў разоў з шэсць,
Но, дзякаваць Богу, няма чаго несць.

Да за сёмым, восьмым, шарака забіў,
Патом Сакалоўскі да зайца страліў.
Нібыта ён трапіў, я хацеў страляць,
Да ён не пазволіў, да зачаў крычаць:

«Не страляй ты, хаме, набою не траць,
А пазволь сабачкам зайчыка паймаць!»
Ажно, бачыш, заяц далей уцёк жыва,
А паны страляюць, але нешта крыва.

І мусіць злякалі ці, можа, падбілі,
Бо такі-тут зараз ганчакі злавілі.
А патом Антоні зайца пацкаваў,
Але заяц хітры, бо ў яму упаў.

От, мой мілы куме, як дзянёк прайшоў.
А патом з нас кажан, як у двор прышоў,
То напіўся добра і крэпка пад’еў,
Крышку пабалакаў, крышку пасядзеў.

Да і на саломку у стаенку спаць,
А паны пад’еўшы селі ў карты граць.
Патом з карагодам мужычкі прышлі
Дай панскую кішэнь крышку надтраслі[1].

Вось тут шляхціц лысы годзе ў карты граць,
Бусі[2] з маладзіцай давай танцаваць.
Добра ён круціўся, tęgo[3] ён звіваўся,
Аж кажды паночак дай за бокі браўся.

---

[1] *Надтрасці* – злёгку патрэсці; тут: крыху адняць.
[2] *Бусі* – пацалункі; тут гаворка пра флірт.
[3] *Tęgo* (пол.) – спрытна, умела.

Мы, дзякуем Богу, за нашы паны,
Няхай сто лет жывуць у шчасці яны!
Дай нам, Божа, за рок[1] усім дачакаць
Знову з нашым панам ў гаі паляваць.
Зноў павесяліцца, знову паскакаць,
Дай Божа, дай Божа, за рок дачакаць!

## 〈Трэці дзень палявання〉
## Серада

Выбач, мілы куме, можа, я дадзеў[2],
Брэшучы дзень трэці аб нашай ахвоце,
Да і ты б дзівіўся, кабы паглядзеў,
Як чорт паноў носіць па лесе, балоце.

Ай штота нам ўчора не ішло у лад,
Бо хоць-то паночкі сталі ціха ў рад,
Па сто раз трубілі, сабакі пускаць,
Але наязджачым пад ветр не чуваць.

Но после пачулі, сабакі пусцілі,
Да паглядзі, псяюхі, што яны зрабілі.
Звалілась на каня цэлая дружына,
Што ледва у сяло уцякла скаціна.

Адкуль павярнуўшы, tęgo ліса гналі,
Tęgo па ўсём лесе, tęgo акладалі.
Не суджана лісу пражыць доўгі век,
Бо ўраз кір'яноўскі[3] забіў чалавек.

А тут наш капітан з прасмыку[4] зышоў
Да збіраці грыбкі у лясок пашоў.
Назбіраўшы рыжкаў агоньчык наклаў,
Да пры ём засеўшы, рыжкі падпякаў.

---

[1]*Рок* – год.
[2]*Дадзець* – моцна надакучыць.
[3]*Кір'яноўскі* – прыметнік ад *Кір'яноўцы*; гл. далей.
[4]*Прасмык* (пол. *przesmyk*) – пярэсмык, вузкая паласа паміж двума абсягамі лесу, балота.

І другі паночак пры агню ляжыць,
Аж у кнеі лісок нішчачком[1] бяжыць.
А тут Маргялевіч у канцы балота
Крычыць: «Пільнуй ліса!» От табе работа!

Вось наш капітан на прасмыку стаў,
Жыва карабінак у ручанькі ўзяў,
Прыцэліўся рэзка дай спусціў курок,
Але не патрапіў, то назад лісок.

Тут сабакі гончы лісічку прагналі,
У тыл на дарогу і там дзесь прапалі.
Да і павярнулі зноў на сенажатку.
Стрэліў пан маршалак, але міма, братка.

І пагналі к чорту недзе аж за рэку
После нашлі зайца. Трэба ж чалавеку,
Кажуць, з Кір'яноўцаў[2], зайчыка спаткаць.
Як пáльнуў, так каток – брык на сенажаць.

А после паночкі на дарозе сталі
Да і да бутэлек парадкам стралялі.
Ажно, бач, Браноўскі, каб я здароў быў,
І бутэльку і дно ў паветры разбіў.

Азваўся Лясковіч: калі ён спудлуе,
За то капітану стрэльбу падаруе.
Але, бач, капітан пляшкі шкадаваў,
А Лясковіч ў чарапок два раз не папаў.

Няхай жа Лясковіч шчыра Бога просіць,
Што ён сваю стрэльбу сам сягодня носіць.
Бо каб наш капітан крышку не струсíў,
Далібог, Лясковіч без стрэльбачкі б быў.

Малады Пуслоўскі пабіў чарапок,

[1] *Нішчачком* – паціху, хаваючыся.
[2] *Кір'яноўцы* – вёска Кір'янаўцы ў Лідскім раёне (Бердаўскі с-т).

Слепаваты Чачот стрэліў у бачок,
Але рукавічкі ў кусочкі пабіў.
Але после, куме, які цуд там быў!

Лясковіч ў паперак ўвярцеў[1] чарапок:
«А ну, пане лысы, стрэль ты, галубок!»
Пратасэвіч, бачыш, – а каб яго Бог! –
Узяў сваю стрэльбу паміж сваіх ног.

І як смальне, куме, – ці дасі ты веры! –
Што нашлі ў паперы шрацінак з чатэры.
Вось тут, мілы куме, такі смех разнёсся,
Што паверыш, Мацей, цэлы лес затросся.

После нібы холад стаў паночкі браць,
То і драла ў ногі пашлі уцякаць.
Мікульскі, капітан, Настаз Абламовіч
Да і к нім прыдаўся Маўрыц Пратасовіч.

После Альбін Чачот, Брахоцкі Станíслаў,
А з імі Магнушэўскі у кампаню прыстаў.
Жыва ў Морынь-вёску[2] сталі пяшком драць,
Адтуль брычкай ў Гаўю[3] і цемняка граць[4].

А маршалак, падкаморы і стары Пуслоўскі,
Пан палкоўнік Нэйман, маёр Вайніловіч,
Ляскоўскі, Свяцкевіч, Юльян Сакалоўскі,
Брахоцкі з Мoрыня, Селісь Пратасовіч,

Малады Пуслоўскі, Анцута, Браноўскі,
Маргялевіч з Любчы[5], Станіслаў Кярсноўскі.
З імі Пратасэвіч лысы валачэцца –
Нябось ад кампані ён не астанецца[6].

---

[1] *Увярцець* – загарнуць.
[2] *Морынь* – вёска Морына ў Івейскім раёне (Івейскі с-т).
[3] *Гаўя* – вёска Гаўя-Пяскі ў Лідскім раёне (Трацякоўскі с-т).
[4] *Цемняка граць* – граць у дурня ў карты (пар. пол. *ciemniak* 'дурань, ёлуп').
[5] *Любча* – мястэчка ў Навагрудскім раёне (Любчанскі с-т).
[6] *Астацца* – не паспець, адстаць.

Ой рэдкі на свеце чалавек такоў,
Ён пяе, хоць крышку цяпер нездароў.
Які, чуеш, зоркі! Які яго вочы!
Яму нет ніколі ані дня, ні ночы!

А які ён злосны! Часам нас і чубіць,
Но за тое, што́ ён нашых паноў любіць,
То мы яго любім, ўсё яму прабачым.
Радуемся шчыра, як лысага бачым.

Бо ён разам з намі спявае, галосіць,
Часта нам па чарцы гарэлкі выпросіць.
Ён-то часам, братку, як бізунчык голы,
Для таго спявае, для таго вясёлы.

Годзе брахаць, куме, трэба сошку браць,
Ісці на панскае полечка гараць.
Ты ўжэ адбыў пекла, табе не бяда,
А мне гатоў ў сраку трэснуць Каляда.

Жычу табе, куме, каб ты здароў быў,
Мне прабач, што многа табе гаварыў.
Да я б то і болей мог бы расказаць,
Я бы яшчэ многа мог бы напісаць.

Напрыклад, у Краснай[1], як псы ліса гналі,
Неякіясь паны у сабак стралялі.
Но кажан так гладка, нябожа, схаваўся,
Да хто ж то быў з паноў, я не давяда́ўся.

А я недалёка сядзеў за кустом,
І бачыў сабаку з кароткім хвастом,
Каторага паны за лісіцу бралі,
Да мусіць, нябожа, крышку падгулялі.

І яшчэ б я многа мог нагаманіць,
Но баюся паноў, каб не разбудзіць,
Бо хоць яны добры, ласкавы паны,

---

[1]*Красная* – вёска ў Лідскім раёне (Беліцкі с-т).

Да мужыком лепей, калі спяць яны.

* * *

Хоць нам вяляць ксендзы водачкі не піць,
Бо за гэта велькі перад Богам грэх,
Но як жа на свеце да без водкі жыць?
Я-то і аб раду прашу вас усіх.

Да думаю адна чарка не зашкодзіць,
А хто, бач, мажнейшы[1] – хоць бы чарак пяць.
Ото толька кепска, хто у карчму ходзіць,
Нап'ецца, што не можа на нагах стаяць.

А прышоўшы, дома і б'ецца і лае,
Дзярэ косы жонкі, дзеткі разганяе.
А после назаўтра з свае беднай хаткі
Валачэ у карчму худобы астаткі.

Гэта кепска, куме, то брыдка, Майсей,
Працуй шчыра пану, рабі, як патрэба,
Упраў добра землю, у пару пасей,
А будзеш па вушы мець для дзетак хлеба.

А дасць Бог вяселле, хрысціны, памінкі,
Як у пана прыдуць жытнія дажынкі,
У той час, то можна крышку падгуляць,
Патом цішком ў хатку, дай да жонкі спаць.

Такая гулянка, то не будзе грэх,
Не будзе у хаце калатні, разбою,
Ані перад людзьмі абэлга[2] і смех,
А усё шчасліве пойдзе вам рукою[3].

Трэба паноў любіць і паноў баяцца,

---

[1] *Мажны* – тут: моцны.
[2] *Абэлга* – абмова.
[3] *Пойдзе рукою* – будзе шанцаваць.

Трэба жонку выцяць, да не забіваць,
Гарэлкі можна піць і не упівацца,
У будні дзень рабіць, святам пагуляць.

Памаліся шчыра да Пана Бога,
А дзякуй пану за дабрадзейства,
Бо ад яго вяліка, і запамога,
Да плаці падаткі да казначэйства.

За панскае поле і сенажатку,
Адбывай паншчы́зну ці давай дзеньгі.
А што маеш поле і цёплу хатку
То, глядзі, пану не чынь mitręgi[1].

Цяпер к Табе, Божа, рукі нашы ўзносім,
Каб даў пану, пані доўгі век пражыць,
Цябе, моцны Божа, да ад сэрца просім,
Дай пры нашых панох і нам век пражыць.

---

[1] *Mitręga* (пол.) – трата часу, цяганіна; тут: турбота.



# *Вітольд Пілецкі*

*Вітольд Пілецкі (польск. Witold Pilecki, псеўданімы: Witold, Druh, Roman Jezierski, Tomasz Serafinski; 13 траўня 1901 - 25 траўня 1948) - ротмістр Войска Польскага, дзеяч польскага падполля, падпарадкаванага польскаму ўраду ў выгнанні, арганізатар руху супраціву ў канцэнтрацыйным лагеры Асвенцым. У Польскай Народнай Рэспубліцы быў прысуджаны да смяротнага пакарання па абвінавачванні ў шпіянажы; прысуд прыведзены ў выкананне.*

*Нарадзіўся ў горадзе Аланец, Аланецкая губерня, куды яго сям'я была саслана за ўдзел у паўстанні 1863 года. Паходзіў з шляхты ВКЛ гербу Ляліва.*

*З 1910 года пражываў у Вільні, дзе вучыўся ў камерцыйнай школе. З 1914 года быў чальцом забароненага царскімі ўладамі харцэрскага руху (у 1916 заснаваў сваю групу). У 1921 годзе здаў іспыт на атэстат сталасці.*

*На працягу 1918-1921 служыў у Войску Польскім, ваяваў падчас савецка-польскай вайны. Як кавалерыст удзельнічаў у абароне Гародні. 5 жніўня 1920 паступіў у 211 полк уланаў і ў яго шэрагах удзельнічаў у Варшаўскай бітве 1920 года, у баі ў Рудніцкай пушчы і ва ўзяцці Вільні. Двойчы ўзнагароджаны Крыжам за доблесць.*

*У міжваенныя гады сям'і Пілецкага ўдалося вярнуць свой маёнтак Сукурчы каля Крупава пад Лідай. Маёнтак, які стаў сведкам дзвюх войн, знаходзіўся ў жаласным стане, таму Пілецкі выйшаў у адстаўку і заняўся аднаўленнем і мадэрнізацыяй маёнтка, а таксама асветай мясцовага насельніцтва. Ён у 1929 годзе ажаніўся з маладой настаўніцай Марыяй Астроўскай і стварыў сям'ю. У Пілецкіх нарадзіліся сын і дачка. Вітольд Пілецкі быў адным з арганізатараў лідскага харцэрства, пажарнай аховы, кавалерыйскага эскадрона ў Лідскім павеце.*

*У 1934 меў званне падпаручніка запасу са старшынствам з 1 ліпеня 1925 і 300 месцам. Ён заставаўся ў спісе ваеннаабавязаных у павятовым ваенным камісарыяце ў горадзе Лідзе з прызначэннем у 26 полк вялікапольскіх уланаў у горадзе Баранавічы.*

*Нажаль, сямейная ідылія прадаўжалася нядоўга. 1 верасня 1939 года на Польшчу напала нацысцкая Германія, а 17 верасня ў Польшчу з усходу ўвайшла Чырвоная Армія. Айчына зноў апынулася ў небяспецы, і Пілецкі быў ізноў прызваны на вайсковую службу. У трэці раз за сваё жыццё ён адпраўляўся абараняць радзіму.*

*Ваяваў супраць немцаў у Польскай кампаніі 1939 года ў якасці камандзіра звяза ў эскадроне дывізіённай кавалерыі 19 пяхотнай дывізіі арміі "Прусы". Апошнія баі яго атрад правёў як партызанскае падраздзяленне. Пілецкі распусціў свой звяз 17 кастрычніка 1939 года і перайшоў на нелегальнае становішча.*

*Ён пранік ў Варшаву і стаў адным са стваральнікаў падпольнай арганізацыі "Таемнае армія польская" , створанай 9 лістапада 1939 гады пад камандаваннем Яна Уладаркевіча (польск. Jan Wlodarkiewicz), пазней падпарадкаванай Звязу Узброенай Барацьбы.*

*У 1940 годзе Пілецкі прадставіў камандаванню план пранікнення ў канцэнтрацыйны лагер "Асвенцым". Да гэтага часу было мала звестак пра тое, што адбывалы там, і пра тое, што ў Асвенцыме створаны лагер смерці, "Асвенцым" лічыўся хутчэй велізарнай турмой новай канструкцыі. Патрабавалася вывучыць сітуацыю ў лагеры. Камандаванне ўхваліла план Пілецкага, ён быў забяспечаны падробленымі дакументамі. 19 верасня 1940 года падчас праведзенай немцамі вулічнай аблавы ён добраахвотна здаўся немцам з мэтай патрапіць у якасці вязня для атрымання інфармацыі і правядзення падпольнай працы. Пасля двухдзённага зняволення ў Варшаве ён быў дастаўлены ў гэты канцлагер у ноч з 21 на 22 верасня 1940 года ў складзе так званага другога варшаўскага транспарта, які складаўся з палякаў, арыштаваных немцамі.*

*Пад прозвішчам Томаш Серафіньскі (польск. Tomasz Serafinski), вязень № 4859 Вітольд Пілецкі быў галоўным арганізатарам польскага падполля ў лагеры (існавалі таксама групы іншых нацый, у тым ліку савецкая). У арганізаваную ім сетку, названаю Пілецкім "Звяз ваеннай арганізацыі" (польск. Zwiazek Organizacji Wojskowej) уваходзілі ў прыватнасці: скульптар Ксаверы Дунікоўскі і лыжнік Браніслаў Чэх. Пілецкі складаў даклады і пасылаў іх камандаванню*

*Звяза ўзброенай барацьбы ў Варшаву і далей на Захад. З сакавіка 1941 года яго паведамленні атрымліваў польскі ўрад у Лондане. Паведамленні Пілецкага былі асноўнай крыніцай інфармацыі пра Асвенцым, у тым ліку пра знішчэнне зняволеных-габрэяў, для польскага супраціву і для сіл саюзнікаў. Аднак, хоць Пілецкі планаваў узброенае вызваленне лагера, гэты план быў прызнаны невыканальным.*

*У лістападзе 1941 года ён атрымаў званне паручніка загадам генерала Стэфана Равецкага. Перанёс у лагеры пнеўманію. У ноч на 27 красавіка 1943 года Пілецкі з двума таварышамі выйшаў на змену ў пякарні за межамі лагера. Яны раззброілі ахову, забралі дакументы ахоўнікаў, перарвалі тэлефонную сувязь і ўцяклі. Пасля ўцёкаў ён падрыхтаваў вялікую справаздачу пра становішча ў Асвенцыме - так званая "Справаздача Пілецкага". Пашыраная версія гэтай справаздачы была напісана ім у 1945 годзе, але апублікавана толькі ў 2000 годзе.*

*У перыяд 1943-1944 Пілецкі служыў у III аддзеле падраздзялення Кедыў Галоўнага камандавання Арміі Краёвай (у тым ліку на пасадзе намесніка камандзіра выведкава-інфармацыйнай брыгады "Камелеон"-"Вожык"), удзельнічаў у Варшаўскім паўстанні 1944 года. Спачатку ён ваяваў шараговым стралком у аддзеле "Варшавянка", потым камандаваў адным з аддзелаў групы "Харобры II" у т.зв. "Вітольдавым рэдуце" (польск.: Reduta Witolda) у былым памяшканні рэдакцыі газеты "Рэчпаспаліта". У перыяд 1944-1945 гадоў знаходзіўся ў нямецкім палоне ў Офлагу VII A Мурнаў, потым - у 2-м польскім корпусе ў Італіі. У кастрычніку 1945 года па асабістым загадзе генерала Уладзіслава Андэрса вярнуўся ў Польшчу з мэтай весці там выведвальную дзейнасць на карысць 2-га карпуса.*

*Увосень 1945 года арганізаваў выведвальную сетку і пачаў збіраць інфармацыю пра становішча ў Польшчы, у тым ліку пра жаўнераў Арміі Краёвай, зняволеных у лагерах НКУС на тэрыторыі Польшчы і сасланых у Савецкі Саюз. Ён атрымліваў выведдадзеныя з Міністэрства грамадскай бяспекі, Міністэрства нацыянальнай абароны і Міністэрства замежных спраў.*

*Пілецкі ігнараваў загад генерала Уладзіслава Андэрса пакінуць Польшчу ў сувязі з пагрозай арышту. Ён абдумваў магчымасць скарыстацца амністыяй 1947 года, але ўрэшце вырашыў не выходзіць з падполля.*

*8 траўня 1947 года ён быў арыштаваны, падвергнуты катаванням у следчым дэпартаменце Міністэрства грамадскай бяспекі.*

*3 сакавіка 1948 года пачаўся працэс так званай "Групы Витольда". Пілецкі быў абвінавачаны ў:*

*- нелегальным пераходзе дзяржаўнай мяжы,*

*- выкарыстанні падробленых дакументаў,*

*- адсутнасці рэгістрацыі ў райваенкамаце,*

*- нелегальным валоданні зброяй,*

*- вядзенні шпіёнскай дзейнасці ў карысць У. Андэрса,*

*- падрыхтоўцы замаху на групу службоўцаў Міністэрства грамадскай бяспекі.*

*15 траўня 1948 года ротмістр быў прысуджаны да смяротнага пакарання. Прысуд быў прыведзены ў выкананне 25 траўня ў Макатоўскай турме на Ракавецкай вуліцы ў Варшаве, стрэлам у патыліцу.*

*Вітольд Пілецкі пакінуў жонку, дачку і сына. Месца пахавання невядома, верагодна, парэшткі былі закапаны на звалцы смецця каля вайсковых могілак Павонзкі ў Варшаве (т. зв. “участак на лужку”).*

*У Польскай Народнай Рэспубліцы ўсякая інфармацыя пра дзейнасць і лёс Пілецкага забаранялася цэнзурай.*

*Галоўная ваенная пракуратура ў 1990 годзе ініцыявала перагляд працэсу групы Вітольда Пілецкага. Першапачаткова заява прадугледжвала рэабілітацыю, аднак Тадэвуш Плужанські (польск. Tadeusz Pluzanski) дамогся анулявання прысуду. Абвяшчэнне прысуду несапраўдным адбылося 1 кастрычніка 1990 года.*

*Пасмяротна Вітольд Пілецкі быў узнагароджаны Камандорскім крыжом ордэна Адраджэння Польшчы (1995).*

*30 ліпеня 2006 года прэзідэнт Польшчы Лех Качыньскі ганараваў пасмяротна Вітольда Пілецкага ордэнам Белага арла.*

*7 траўня 2008 года Сенат Польшчы прыняў пастанову пра аднаўленне ў калектыўнай памяці палякаў гераічнай асобы ротмістра Вітольда Пілецкага. Гэтай пастановай сенатары ўшанавалі 60-я ўгодкі смерці героя Другой сусветнай вайны.*

*Пасля 1990 мноства людзей і ўстаноў прыняло ўдзел ва ўшанаванні яго памяці.*

*У сваёй кнізе "Six Faces of Courage" брытанскі гісторык прафесар Майкл Фут (англ. Michael Foot) аднёс Вітольда Пілецкага да ліку шасці самых адважных герояў Другой сусветнай вайны.*

*Пілецкаму прысвечана песня “Inmate 4859” у альбоме “Heroes” групы “Sabaton”.*

*19 верасня 2019 года Еўрапарламент прыняў рэзалюцыю "Пра важнасць захавання гістарычнай памяці для будучыні Еўропы", у якой заклікае абвясціць 25 траўня, дзень пакарання смерцю Пілецкага, Міжнарод-*

*ным днём герояў барацьбы супраць таталітарызму.*

*Акрамя бязмернай адвагі Вітольд Пілецкі меў мастацкія таленты, і не адзін. У 1919 годзе ён паступіў на факультэт прыгожых мастацтваў Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, але правучыўся там нядоўга, пайшоў ваяваць. Разам з тым памяць пра талент мастака Вітольда Пілецкага засталася ў выглядзе абраза, які вісіць у Крупаўскім касцёле.*

*А ў памяць пра Пілецкага - паэта засталася паэма "Сукурчы". "Сукурчы" - яшчэ адзін узор тутэйшага эпасу. Напісаная без асаблівай увагі да рыфмаў і рытму, гэта, безумоўна, паэма, магутная ў сваёй скрупулёзнасці і падрабязнасці апісання дэталяў. "Сукурчы" - энцыклапедыя аднаго саду і аднаго дома на лапіку беларускай зямлі.*

*Трэба сказаць, што сад апісаны больш грунтоўна, бо Пілецкі бачыў яго сам і доўгі час. Паэма пісалася ў міжваеннае дваццацігоддзе, і ўсе дваццаць гадоў сад быў на месцы. Што тычыцца дома, то ад былой старасвецкасці і вялікасці пасля войнаў і чужога гаспадарання засталося не так шмат, таму шмат што тут пераказана з аповедаў цётак, чаляднікаў...*

*У перакладзе паэма падзелена на дзве часткі: "Сад" і "Дом", хаця ў польскіх публікацыях такога падзелу няма.*

*Паэма напісана амаль выключна белым вершам. Пераклад зроблены з прымяненнем стылю выпадковых рыфмаў, але з магчымым захаваннем рытмікі.*

***Станіслаў Суднік.***

## СУКУРЧЫ

### Частка І. Сад

У Наваградскай зямлі над рэчкай Лідзейкай,
Што плыве ля замка Гедыміна,
Раскінуўся дамоў вясёлаю сямейкай
Ліда - горад з цёплым іменем жанчыны.

Ад Ліды на захад кіруючы стала,
Покуль Дзітвы не дасягнеш плыні,
Перад Крупкаю - рэчкай, што плыне памалу,
З цяжкасцю згледзець двор можна стары,
Што тоіцца ў зараслях з даўняй пары.

Тут Сукурчы ляжаць з іхнім светлым мінулым,
У памяці люду даўно патанулым.
Сукурчы з-за земляў, так шчодрых пшаніцай,
Яблыкам тут залатым называлі,
І соснамі бору маглі пахваліцца,
Што ад двара аж да Ліды стаялі.

З-за “мяцежнасці” ў часе былога паўстання
Ў Сукурчаў маскоўцы  частку лесу забралі
І ў дзяржаўнае іх уладанне
На вечныя поры ўсё перадалі.

Раней, як уладанняў было болей вельмі,
Паміж сям’ёю падзялілі землі,
Сукурчы  брату аднаму аддалі,
Другому двор за полем збудавалі
І таму Заполлем без выдумкі назвалі.

Шчэ колісь вёска пры саміх Сукурчах ліпела,
Што назву Дамейкі па дзедзічах мела.
А потым, каб лепш гаспадарку весці,
Рашылі за лес недалёкі яе перанесці.
Сядзіба Сукурчы з вёскай Дамейкі,
Як і Заполле з вёскай Рупейкі,
З рыштункам і рабочаю сілай
Жылі ў гармоніі і згодзе мілай.
Давалі прыклад ладу і павагі,
Як рабочай сілай, гэтак і развагай,
Заўсёды па-суседску памагалі
І людзям добра ў сэрцы западалі
Ды доўга ў памяці людской трывалі.

На поўнач ад Сукурчаў Крупа ляжала,
Тую адлегласць ад двара да вёскі,
Як конна, то за пацеры адны мінаў.
Пры вёсцы, на ўзгорку, пасярод магіл
Стары, малы косцел з дрэва стаяў,
Дах гонтай на ім крыты быў.
(Парафію зліквідавалі маскалі.)
Тут рэчкі Крупкі хвалі ціхія плылі
І ў бегу сваім тварылі два ставы.

З іх большы быў пры маёнтку Крупа,
Што на ўзгорку стаяў пры плыні ласкавай.
Другі стаў і меншы люд “Старым ставам” зваў,
На нізкіх сукурчскіх лугах ён ляжаў.

Плыўшы далей, Крупка ў Дзітву ўпадала,
На ставе Старым млын адвеку трымалі,
Што вольна кола круціў сваё спраўна
Пад сілай вады зліванай упраўна.
У новы час засталося тут ад яго
Няшмат знакаў, насыпаны вал усяго,
Што быў некалі грэбляй над ставам.
Млын цяпер новы круціць больш жвава
Кола ўжо вышай, пры большай заставе,
У Крупе-маёнтку, на новым ставе.

Ці не ў самім асяродку сукурчскай зямлі
Размешчана сэрца было тых Сукурч,
Сам двор - стары разлеглы, парк вялікі,
Мая любоў і міласць мо таму былі
Так моцныя да іх, што нават не шматлікі
Ў тым куточку падарожны ці бадзяга
І то той прыгажосці аддаваў павагу.

Парк называлі мы па-просту садам,
А сад той так даўно калісь саджалі,
Алеі ліп яго з трох бокаў асланялі,
Вялізных, што аж мхом паабрасталі.
Я ледзь вяршынь іх даставаў паглядам.
Пчол поўна, птушак, пах мядовы,
Што ў чэрвені малым кружыў галовы.

Так цесна ліпы тут пасаджаны былі,
Што часта бы з аднога пня ішлі
І ўзносілі над вежамі сваіх ствалоў
Па сотняў некалькі гадоў.
Галіны сплецены ва ўзоры
Стваралі цёмныя пячоры.
І нават як сонца з зеніту пякло,
Быў тут паўзмрок, прахалодна было.

Ледзь толькі тут і там палосамі святло

Накоса кідала залацістыя промні,
Па сцежках, па пнях і галінах паўзло
Снапамі праменяў поўных.
Мігатліва і хутка - ад дрэў і сукоў,
Пад ветрыкам промні з розных бакоў
Са змроку вымалі імкліва, нярвозна
Рух і жыццё дробных мушак, цьмы розных
Відаў, гатункаў слімакоў неасцярожных.

У алеях - у тым прытулку для птахаў усіх
Ад рання да позна рух на хвілю не ціх,
І гоман крыклівых, пярэстых грамад
Узносіў уверх наборам рулад
І шчэбет, і спевы на розны лад.

Тут, ясным днём, між змроку ліп шацця,
Пугач і сава нібы ноччу сачылі
Малую, крылатую дзённую брацццю,
Якія да дуплаў з кормам спяшылі.

У гады дзіцячыя сад той навылет
Любіў прабягаць я ў розных кірунках,
То збегаць па яблык, то скочыць па сліўку,
То найсмачнейшага грушы гатунку,
Што “сапяжанкаю” тут называлі,
А зараз дашчэнту пазабывалі.

Па “першай” алеі, бегшы ўглыб саду,
Быў справа пень велізарных памераў,
Шмат год назад далі тут ледзь рады
Ссохламу дрэву, што дай толькі веры.
Як часам забавы малечу тут нашу збіралі,
Каб намі ж адзначыць яго тут памеры,
Васьмёра на пень той мы лёгка ставалі.

Тут збоку валун быў разлёгся адвеку
І рос, як казалі, ад свету пачатку,
Быў мохам зарослы ён знізу даверху,
Легенды ж схавалі яго без астатку.

Бо даўнія сказы пра каменя лёсы

Сыходзяць з часамі ў краіну ўспамінаў,
Ад новых паданняў таўсценных наносаў
Найноўшы аповед слядоў не пакінуў.

Звычайны гаршчок невялікіх памераў,
Чыгунны, які саганом называўся,
А поўны залацістых дукатаў, талераў,
Пад каменем тым доўгім часам хаваўся.

Цяпер засталіся - усімі тут знаныя -
Ашчэпкі таго сагана, вакол раскіданыя,
Рыдлёўкай двух работнікаў паразбіваныя,
А самі работнікі, таксама ўсе знали,
Дзесь нібыта пад зямлёю зніклі і прапалі.

Зніклі з ваколіц, і след па іх згінуў,
А той скарб знайсці быў іншы павінны.
Я сніў золата тое і ў сне меў падказкі,
Дзе саган той пад каменем быў закапаны,
Я сказаў там капаць, не сказаўшы ні разу,
Што пад каменем мною шукана.
Ды што ж, як "ураднік" - каналля прыехаў,
Акурат у той час двух работнікаў там я пакінуў,
І яны без ніякай відочнай памехі
Збеглі з саду, а скарб, як у казцы,
Здаўся ў рукі чужынцам і згінуў.

Засталася адна залатая манета,
Што з хвілінай гарачкі, ведамай свету,
І з асляплення багаццем шанц скарыстала,
Слізнула з рук і пад камень упала
І там зноўку надзейна прапала.

У тым месцы, дзе наша "першая" алея
Зварочвала ўлева пад простым вуглом
І ў пачатак наступнай алеі ўвальецца,
Там невялічкі пагорак віднее,
Насыпаны з двух равоў набраным пяском,
І з даўніх пораў "горкай" завецца.

Зараслі горку з трох бакоў закрывалі:

Спірэю, бэзу, кустоў у ягадах дзіўных,
Што многія годы тут вольна буялі,
Рабілі тут выгляд альтанкі старыннай,
Створанай толькі прыроды капрызам,
І з боку Крупы быў відок тут адзіны
На поле і вольных абшараў абрысы.

Пад дашкам з галінаў, якія чароўна спляліся
Ў містычны парасон, што хаваў сярод лета
Ад дожджыку, лаўка невялічкая стаілася
Для тых, хто хацеў тут схавацца ад свету.

Тут маладыя пра шчасце марыць маглі на пару,
Ахінутыя пахучымі гронкамі бэзу,
Зрок падымаючы ў неба, дзе зоркі з абшару
Нябёсаў мігалі ў ноч лета, а месяц прарэзваў
Цень лісцяў таемным і срэбным паўззяннем.
Паўцені стваралі чароўны свет казкі,
Аздоблены сімфоніяй канцэртаў салаўіных,
Складзены з песняў старых і паданняў,
Дух што займаюць і шэпт у чаканні развязкі,
Каб не спужаць нам ні чараў, ні мараў наіўных
І шчасця зрабіцца чароўным прыстаннем.

Тут прабабкі мае на жыцця свайго схіле
Ў зацішным куточку шапталі малітвы,
Зрок свой праз поле кідалі на вежы касцёла,
Скуль ляцелі над лугам званоў пералівы,
І думкай вярталі сябе ў час такі мілы,
У час маладосці шчаслівай, вясёлай.

З падгоркі пры збегу дзвюх "першых" алеяў,
Каб глянуў углыб той "другой" на прастрэл,
То ўбачыў б штось кшталту даўгога тунеля,
Поўнага ценяў і блікаў зялёных ад дрэў,
Што зверху сцякалі ляніва між лісцвеннай масы,
Якая стварала ў вяршынях скляпенні,
А ў алеі канцы змрок канчаўся адразу
Ўразлівым, яркім, праменным зіхценнем.
На лугі ў светлых барвах між тысяч траў
Лятуць матылі, каб без стомы кружыць,

Тут зноўку валун, але плоскі ляжаў,
Каб лаўкай ахвотна каму паслужыць.

Наўкола быў сад, апаясаны валам і рвом,
На вале быў плот з дошак сасновых і дыль.
Ад месца вылёту алеі на луг
Роў і вал з плотам пад простым вуглом
Налева дакладна павернуты быў,
А з імі і дрэваў ахоўны ланцуг.

Калі тут першая алея была з усходу аховай,
А другая - ад лютых завеяў з паўночы хавала,
З захаду трэцяя частка ціш адмыслова
Стварала, хоць алеі сабою ўжо і не ўяўляла.
Падзелена ровам на ўсю даўжыню немалую,
Характар алеі з гадамі згубіла паволі,
Направа за ровам у эру не вельмі старую
Сад быў закладзены нашым дзядулем на полі.
Алеі бярозак і ліп маладых насаджалі,
Яны берaглі ад марозу з паўночы і ўсходу
Той сад, што здаўна “маладым” называлі.

У двух садах два будынкі стаялі
Сярод ліп, пасаджаных там адмыслова,
У старым садзе лядоўню ледзь заўважалі,
А ў маладым на сонца смела выступалі
Сцены пуні, дзе ўсякіх кармоў была схова.

Ад поўдня сад далей падоўжаны быў
Зноў дрэваў радамі, што дзед пасадзіў
За валам і ровам, даўно ўжо капаным
І ўжо дзе зарослым, а дзе пазасыпаным,
Імхом мяккім парослы і буйнай травою,
А роў з валам і дрэваў шчоткаю кронаў
На поўдзень аднеслі, каб іхняй сцяною
Стварыць з таго боку часткова заслону.

Сад з чацвёртага боку замкнуты быў доўгім
Шпалерам з дрэў, і кустоў, і язміну, і глогу,
Між імі раптоўнаю плямай без слоў
Сцены дома ўзнікалі белым разлогам
Даўняй, спрадвечнай сядзібы дзядоў.

Дом доўгай сцяной быў павернуты к саду,
А бокам праціўным глядзеў на дзядзінец,
Што ў форме падковы грунтоўна і з ладам
Пляц цэлы займаў перад ганкам адзіным.
Дзядзінец выдатны сваёй прастатою,
Вялізны, пакрыты травой муравою.
Тры разы што год у час летні касілі,
А клумбаў, тут лішніх, адвек не рабілі.
Усё акаляў плот з вязаў, чаромхі квяцістай,
Прарэджаны язвінам рад доўгі кустоў,
Луг вялікі абняўшы падковай вялізнай
Ахоўваў той двор ад вачэй мінакоў.
У двух месцах той плот разрывалі дзве брамы
Ўязныя, закрытыя на завалы,
Адна з іх вяла на вазоўню і стайню,
Другую два вязы мажных атачалі.
З лісцем шурпатым два цвёрдыя дрэвы
Ўгору стралялі вынёсла і горда,
Рад маладых дрэў, што ўправа і ўлева
Раслі, чым далей, тым меншыя ўзростам,
Павольна вяршыні зніжаліся ростам
(Відочна, што ўжо насяваліся самі),
І сёння на тле неба ясным
Цёмным контурам крэслілі выразна
Піраміду плоскую з роўнымі бакамі,
Вяршыняй якой былі дрэвы пры браме.

Праз браму трапіш у цяністую алею
З ліпаў старых, ды пэўна стрыжаных калісьці,
Бо знізу да верху ў іх роўныя кроны,
І глядзіш як бы не на дрэвы і лісце,
А глядзіш нібы на стройныя калоны.

Алея неўзабаве дзялілася на дзве,
Направа да ставаў асаджана вярбой ішла,
Налева бегла ў таполяў і ясеняў сені,
Да тракту старога - Мытлянскага - вяла
Дарога, уязная між двух радоў бяроз старых,
Сярод іх і плакучыя ніклі ў задуменні.

Бачная здалёку - алея з бяроз тых
Гасцінна ў двор здарожных запрашала,

І кожная бярозка іначай нейк жадала
Здзейсніць чын, бо свой характар мела,
Адна паклоны нізка біць умела,
Другая, як рукамі, веццем ім махала.

І з валакністаю шатай “плакучая”
Стаяла ўся ў косах распушчаных,
Шаптала здаецца: “Заедзь жа, мой браце!” -
І плакала над тымі, хто ў хаце,
Бо людзі, што розныя лёсы маюць,
Пра рэчы аднакія па-рознаму дбаюць.

Яшчэ адна, што выцяў пярун грознай пароюю,
Расшчэплена ўздоўж, адною рукою
Паказвала ў двор (бо адну яе мела),
На трагізм не зважала ў паставе
І на гасцей забываць не хацела,
І рухам, на які была яшчэ ў стане,
Кірунак падарожным паказвала мігай,
Не браць пад сумнеў гаварыла гасціннасць.
Як госці, паслушныя немым загадам,
З-пад дрэў выязджалі пад дом на дзядзінец,
Іх вочы ўпіраліся ў шэраг прыгожых закуткаў,
Што разам складалі адзінства карціну.

Сапраўднай аздобай дзядзінца ўсяго
Быў каштан векавы, што па цэнтры стаяў,
Вялізны і з правільнай формай яго,
Сілай сваёй і самотай здзіўляў.
На тоўстым ствале шапка дзіўнай лістоты,
Мабыць, стрыжанай некалі вельмі даўно,
Збірала гукі і галіны асілка
Ў купал вялізны, як шар,
З гарызантальнаю кронай унізе,
Звешанай нізка, тры локці ад долу,
Узносіла шату ў нябёсаў абшар,
Так высока, што з верхніх галінаў
Сядзібы былі бачныя аж за Дзітвою.
Лаўка пярсцёнкам той ствол атачала,
Падумаць было слаўна вольнай хвілінай,
Ліповага мёду выпіць даўняй пароюю,

Які ўжо гарбата ў наш час замяняла.
А маёвая ноч, а канцэрт салаўіны,
Дзе змаганне ішло за першынства ў спевах,
Налітая пахам бяроз і ў цвеце кустоў,
Пад месяца дзіўным святлом дыямантным.
Чароўна ільсніліся ў сені лістоў
Тысячы свеч белых кветак гіганта.

Ад галоўнага ганка сядзібы прыгожы
Від разлягаўся ўскос, управа і пасярод
Тых зарасляў, што ў раму дзядзінец узялі,
Расла сабе стройная елка, “ялінай” яе называлі,
Выдатная сілай сваёю і ўзростам,
З каштанам усё прымяралася ростам,
Дзве некалі мела вяршыні-блізняты,
Ды адна з іх была сцята,
Высока туды барану ўзвалаклі,
Буслы там адвеку вяльможна жылі,
Што ўвесну прыляталі на Звеставанне
Колькі пар велькіх, прыгожых тых птахаў
І пачыналася бітва-змаганне
На той баране за гняздом уладанне.
Як пастаянна ў час летні вяршыню вянчаў
Шум вялізных і белых іх крылаў стамлёных,
Так аздобай дзядзінца нязменнаю стаў
Сык і клёкат дзвюх дзюбаў чырвоных.

Пару раз, яшчэ будучы хлопцам малым,
Падчас адсутнасці гаспадароў яліны
Я ўзлазіў на дрэва і, лёгшы ў гняздзе тым бусліным,
Калыханы вятрыскам, у мары ўдаваўся
Пра дыван-самалёт, што з казак з’яўляўся.

Было ўсё адтуль значна меншым,
Нават дом наш вялікі з гнязда вышыні
Бачыўся так, бы паменшаў удвое,
А з домам каштан і бярозы, кустоўе густое -
Усё раптам стала драбнейшым,
У адзін позірк вока трапляла гурбою.

Было б няслушным абмінуць маўчаннем

Яшчэ адно дрэва, што стаяла збоку
І сціпла глядзела на стройных суседзяў,
Бо само ні прыгожым было і ні зграбным,
Адносна іншых папялушкай чулася ледзьве.

Той памыліўся б аднак, хто б падумаў,
Што было малым, бедным і занядбаным,
Рысай яго была сціпласць, а ў суме -
Ва ўзросце і сіле - было веліканам.

Стаяла на ўзбоччы, локцямі не таўклося
З іншымі не з-за выгляду, сказаць мушу,
Было вельмі цяжкім, голлем разраслося
І магло мець прыгожую душу.

Вяз той, карэньмі ўрослы глыбока,
Сокі той жа зямлі цягнуў у жылы свае.
Таму без сумневу мог размясціцца шырока
Сярод драўлянай грамады тае.

Разрослы быў моцна, бо сам адзін, пэўна,
Рос без ценю ад іншых суседзяў, бяспечна,
У адрозненне ад тых, хто ў прысадах
Цягнуўся ўверх з цеснаты векавечнай.

Можа, належала трохі сказаць
Пра вялікі каштан, што рос каля вяза
І масай сваёй вязу мог адказаць,
Але ён за дзядзінец прабраўся да саду,
А ўсе дрэвы ў садзе не апісаць.

## Частка II. Дом

Дом, стары, разлеглы, меў свой уласны пах,
Набыты ім праз даўгія чатыры стагоддзі,
У адзін паверх, а добры меў размах,
Пакояў дваццаць мы ў ім знаходзім.
А колькі сенцаў, складзікаў і розных закаморкаў
Пад вялізным, цяжкім і ламаным дахам.
Меў магутныя скляпеністыя коміны,
Пяць іх выступала высока над харомінай,

А адзін унізе муроўку пашыраў з размахам,
Уяўляў сабой унутраную, хатнюю вяндлярню.

Сцены са старадрэва, набела тынкаваныя,
Дзесь спарахнелі, ды такіх месц мала,
Пераважна жывіцай праз вякі сцякалі
І без вялікай шкоды стагоддзям супрацьстаялі.
У некаторых месцах нібы каменныя сталі,
Марна спрабаваць было ў іх цвік убіць,
Новыя завадскія цвікі гнуліся пад малатком,
Як бы былі звычайным дротам,
У галаву ўбівалі думку з іроніі шматком,
Што некалі дрэвы мацнейшымі бывалі,
Чым жалеза, што цяпер выраблялі.

У той час як знадворку сцены з падмуркам
Трохі ў зямлю ўвайшлі, унутры абапёртыя
На моцныя скляпенні, зусім не падаліся,
Таму столі ўсе ад цэнтра будынка
Да знешніх сценаў трохі нахіліліся.
Увесь цяжар, аднак, так вялікага гмаха,
Суфітаў, столяў, вялізнага даха
З даверам вялікім, набытым у цемры вякоў,
Апіраўся на моц унутраных сценаў муроў,
Складзеных з цяжкіх, вялікіх цаглін,
З якіх кожная важыць не меней паўпуда,
Стаялі нязрушна, ды Бог знае адзін,
Колькі трываць ім яшчэ тут гадоў і якім цудам.

Як заўсёды, што ў хатцы, што ў велькім гмаху,
Залежыць усё ад стану і цэласці даху.
А тут якраз з дахам ... “быў клопат няслабы”...
Стан той ацэньваў, па словах Юзэфы,
Кожны наведнік, што тут паяўляўся,
Калі незнарок на страху заглядаўся,
Круціў галавой і ківаў тут з уцехай.
Нагодай здзіўлення былі не бляшанкі,
Уцятыя бутэлькі, пастаўленыя шклянкі,
У якія з дзірак даху кожнай непагодай
Цякла вада з дзівоснай мелодыяй.
Іншы від гледача непамерна займаў,

Лез на ўсю страху, наперад выступаў,
І як бы краўся і падходзіў блізка,
Да самага даху - тут кланяўся нізка.
(Што ж ён мусіў бачыць тут пры самым доле.)
То зноў зрок уверх кіраваў. На чоле
Меў думку, на твары выразнае здзіўленне,
Нарэшце выкрыкваў: “Пане цэлы маёнтак
Можна тут сабраць, пускаць за аплату,
Што за камбінацыя замка, з крокваў і латаў,
З ключоў і бэлек? Стаяць у анфіладзе
Касыя падпоркі... а тыя лёгкія лагі...
Як гэта дзіўна, незвычайна звязана,
Так гэта цікава, мой шаноўны пане?!”
Клопат быў не ў тым, каб зрабіць дах незвычайным,
А ў тым, што папросту працякаў адчайна,
Асабліва хранічна цякло ў заламаннях.

Дзіўна - дом, што так даўно меў будавацца,
Зусім не падобны на равеснікаў быў,
Меў вялікія вокны, высокія столі,
У вокнах шыбаў па восем, а дзе і па дваццаць,
Шкло з розных фабрык і розных стагоддзяў,
Ледзь дзе новае, устаўлена пры нагодзе,
Ужоматавае, бо таксама старое,
Вясёлкай зіхацела ці, як апал блішчала,
Там зялёнай, тут залатою барвай адлівала,
Бы хто фарбай нязмыўнай пакрыў як на тое.
Чым даўжэй дождж яго абмываў,
Тым лепей кожны колерчык ззяў.

Бэлькаваная столь у пакоях і зале...
Запэўніць хацела ўсіх у моцы будынка.
Сабрала цэлую масу скрыжаваных бэлек,
Стварыўшы з бэлек і дыляў быццам бы скрынку.
У некаторых пакоях столі на гладка падбілі
І сціплыя сніцарскія аздобы парабілі.
Паркеты месцамі з дубовых паклалі
Трохкутнікаў, палос і квадратаў,
А ў іншых пакоях - з шырокіх сасновых
Доўгіх дошак, і шчыльна падагналі,
Што звычайную роўную падлогу ўтваралі.

У сценах - велькія люстры, абразы над дзвярамі,
Усё ўзята ў прыгожыя разныя рамы.
У трох пакоях абіўка з узорных палотнаў,
Месцамі з дыскрэтнаю пазалотай,
У салоне ад нізу да самых вокнаў
Сцены як панцырам рыцарскім пакрыты,
Што мусіў быць даўно, за стагоддзі
Сніцарамі рэзаны на дрэве старанна,
Час ацаніць майстэрства іхняе прыходзіць,
Наперад ад прац іншых належыць высунуць такое,
З густам рэзаны ўсе дзверы ў пакоях,
А колькі ж іх па ўсім было доме.
Першынства трымалі вуглы, рэзаныя ў дрэве,
Франтоны з пад’езду і ганка, вядома.
На ўсіх дзвярах клямкі, прабоі, завесы,
Як і акуцце рамаў аконных, былі
Кавальскай мастацкай работы праявай.

Камінаў колькі, раскіданых па доме,
Пазірала з кутоў і чакала,
Заглядвала ў вочы людзям незнаёмым
З нямым запытаннем: калі іх запаляць...?

У квяцістым царстве печаў з каляровай кафлі
Першынство трымала печ вялікая ў зале.
“Вялікапеч” па чатырох яе рагах стаялі
На чорна выпаленыя, кручаныя філяры
З набітымі латуннымі гузамі.
Дрэва воз адным глытком зараз праглынала.

У доме поўна было мэблі размаітай,
Старой, з розных вякоў тут забытай,
Месцамі групы фантастычныя стваралі,
Гледачы на дзіўнае суседства наракалі,
Сведчылі пра крычаўшую з розных куткоў дома
Адну ўсюды фразу “Няма тут дзедзіча, вядома”.
Дзедзіча і праўда даўно не было.
Зямля ў чужых руках ужо дзясяткі гадоў.
Хоць дом арандатара і ўсе будынкі
Ад старой сядзібы адсунуты былі,
І да яе галасы не ішлі

З жыцця гаспадаркі сялянскай - падворка,
Не адзін голас не муціў тут цішы знадворку.
Тое тут доўгія годы фактам было,
Што бракла таго, каму б за цэласць двара тут ішло,
Хто б з’яднаў у сваім сэрцы, увагай атачыў
Не толькі сядзібу, а і ворнае поле з ёю злучыў,
Здольны быў палюбіць разлеглае балота
І ўсе тыя лугі, і тамтыя, што ніжай былі.
Коратка кажучы - гаспадара бракавала,
Хто б з сэрцам падышоў да гэтай зямлі,
Чыя б рука край з занядбання падняла.

У адным з пакояў - “Пакоі старшай пані”
(Маці майго дзеда), якая ўжо даўно
Перабралася ў іншы - падобна, свет лепшы,
А тут для дыспазіцыі мела ўсё ж пакой,
Дзе ўсё стаяла, як у час даўнейшы
Для ўлатвення душы ў вандроўцы з-за свету,
У хвілю, калі павяртала ў край гэты,
Да шафы, камода і памятак іншых.
Было месца малое (ў тым уласна пакоі),
Адгароджана тонкай перапонкаю з дошак -
Звалася ад даўна па-просту “загародка”.
У “загародцы” пакаленняў ужо колькі
Ключніцы спалі, двара ахмістрыні.
І тады, у часы мае дзяцінныя,
Старая ключніца Юзэфа там жыла,
Якую па зласлівасці са старшых нехта называў
“Энцыклапедыяй здарэнняў усяго павета”.
У доме непадзельна кіравала, і пра гэта
Жартавалі ўсе, што сотню гадоў мае,
Напэўна, мела меней, хто ж там знае.
Мяркую, што мыляліся ў тых жартах ненамнога,
Была заўжды адна - мы не пыталіся аб тым нічога.

Дзіўны твар сатыра з арліным носам,
Здольны да грымасаў, мімікі ўсякай,
У пастаяннай журбе іранічнай,
У губах тырчала папяроса
Часта з газеты самакрутка,
На галаве прыкрывала каўтун неадменная хустка.

Быў абвязаны лоб ад мігрэні хранічнай.
Старамоднай спадніцаю землю мяла,
Шабуршала ў нядзелю і свята,
У адной руцэ ключы, у другой нейкая шмата,
Хадзіла ўсюды проста, пра ўвесь дом дбала,
Кветкі ў нязмерным ліку гадавала,
Пераносіла за сонцам алеандры, флёксы,
У зале палівала вазонаў сотні,
Размнажала флянцы ўпрост на клавікордзе,
Увечар правярала, ці дзверы ўсе замкнёны.
Адна ў доме, як здань, хадзіла,
Усю радасць мела ў тытуні з гарбатай.
Нам, калі летам прыязджалі дахаты,
З сэрцам найчульшым казала: “Пярлінкі”,
Усцяж суправаджала, боль вылівала,
Што ў лесе ўкралі, што дах зацякае,
Сотні гісторый з рукава высыпала,
Дзе хто нарадзіўся, як “Стары” кіраваў,
Патрапляла смяяцца, як бы была маладою,
Часам плакала, рукі ламала,
З любімых словаў усё пачынала,
“Бог ведае толькі, як даўно было тое...
Флаўка, Эварыстка, Маня - тая, што з Фаняй..
Ерма, Стась, Франуська!.. Салюня” і далей -
Як Ерма забаўна “ўніжаўся” перад Старым
Або як на сваю жонку “ды і крычыць Шпрынце..”
“А камедыя!” Пані - ха! ха! ха! “Крэмзы,
Сам тоўсты, як бочка, - кожнаму кажа -
Найгрубейшым голасам: “Уваж, паночку, уваж жа,
З’явіўся ў пятніцу і то заспаны,
Заміж каб Ерму злаяць - піў з ім піва...
Ага! Што тут казаць! Не тое, што за старым панам”.

У загародцы сваёй мела збор маленькіх збаночкаў,
Любіла шкляначкі і сподачкі малыя,
Умела раўнютка бутэлькі абразаць,
Рабіла гэта шнурком ад нас у таямніцы,
Паказвала потым з гонарам “шклянкі” тыя
Розных колераў, з бутэлек што мелі нарадзіцца.

Гуляла часам з намі ў жмуркі

Крычала не менш за дзяцей,
Падскоквала дзіўна, бухкала смехам,
Забаўна спявала: “Ліндэрлін - дэр - лін - дэр”,
Ці, удаючы рукой ігру на скрыпцы,
Камічна пішчала: “Цімці - дрымці - цімці...”
Намаўляла часам нас да скокаў
І падпавяла ў такт танцу кітайцаў-
Пра тое, як “Ірша ды з Мойшам добра жылі”,
А мы ўсё гучным смехам вяршылі.

Гадавала кошак, але кошка Юзэфы
Мусіла крайне “быць толькі рыскай” -
Гэта значыць, мець тры калёры на футры -
Чорна-белая з крапінкай жоўтай,
Здабывала поўнае прызнанне Юзэфы:
“Якая прыгожая! А якая лавушчая!”
Казала з любасцю на выхаванку,
Часамі на стол ставіла мілаванку
На дзве заднія лапкі, пярэднія ўгору падняўшы,
Танец каціны так удавала.
“Ах, гляньце, як міла”, - казала.
Для танцу мела рэпертуар сталы:
“Ліндэрлінд.. га! га! га!...
А бадай цябе д’яблы!”, - казаўшы.
Як векам змучаная, кошка тая старэла,
Юзэфа наступную кошачку ўжо мела
І зноў з дзяцінства кошку гадавала,
Толькі заўсёды, каб тры колеры, зважала.

Прозвішча яе - Мінская, паходжанне - мутнае,
Дзіўна, што за пакаленне, на тым жа месцы,
Будучы ключніцай, жыла яе цётка,
Па імені Юзэфа і па прозвішчы Мінская,
Хаця ў гэтым доме дзівіцца даўно перасталі -
Дзіўна, так сама, як Юзэфа малодшая,
У піўніцу ўпала і ногу зламала
За многа гадоў да таго Юзэфа старэйшая,
Ногі потым лечачы, абедзве зажыўлялі -
Векам аддзеленыя - меддзю, парашок прымянялі.

Была ж піўніца разлеглая пад домам.

За рамантызм размешчання між салаўіных гушчаў,
За добрыя ўмовы для росту дрэваў і кустоў
У той катлавіне, што ў сонечных промнях парыла,
Для ўтрымання здароўя ў раўнавазе
Пры будоўлі большай працай заплацілі.
Студня тут жа пры доме з зямлі вільгаць піла,
Ваду пампавалі, у сад плынь цякла,
Дом ад лішняй вільгаці берагла.
Студня тая не адна з гэтым спраўлялася,
На глыбіні паловы са студняй другой злучалася,
Размешчанай ніжай і недалёка,
Капанай пад піўніцай яшчэ больш глыбока,
У пласты больш вільготнай зямлі сягала,
І з іх вады шчэ больш смактала.
І ёй дзялілася з вялікай студняй на паверхні.
Разлеглая піўніца цалкам сухая была,
Пясочкам пасыпана, апеку нясла
Над бутлямі мёду і віна старога,
Над варэннем і садавіной, што на паліцах ляжала,
Але калісь і іншыя, лепшыя часы знала.
Ту дзедаў мяды ў глыб стагоддзяў сягалі,
Бочкі вінаў даўнейшых калісьці стаялі.
Казалі таксама, што “Бог знае калі”
Тут са скарбам шкатулкі прыстанак знайшлі.

Як адметнасць таго краю людзі знали
Тут крыніцу, што так і называлі.
У ёй вада была такой смачнай і празрыстай,
Бадзёрай, што больш - так здорава выглядала,
Што ўсе, хто яе п’е, доўгія гады пражывалі.
Так гаварылі і, як на прыклад жывы,
На старую Юзэфу пальцам паказвалі.
Таму і самавары, якія былі,
Ніколі іншай вады не знали.
Меркаванне пра смакоцце гатовай гарбаты
Таксама належала здаўна панне Юзэфе:
“Вось, яна мне пахне”, - казала з усмехам.

Вада ў Старым ставе таксама лячэбнай была.
Адзін знаёмы, будучы ў сталым веку,
Праз усё жыццё меў нейкі скурны лішай.

Па парадзе Юзэфы ў тым ставе скупнуўся,
Лішай знік праз тыдзень і больш не вярнуўся.

Гэй, даўно шмат гадоў назад... “Бог ведае колькі”...
Тут пры самым доме стаяла каплічка.
Быў алтар невялічкі,
Ксёндз тут імшу адпраўляў, ды час яе знішчыў.
“Ды і па паўстанні драньураднік
Казаў цалкам яе скасаваць”...
У малой прасторы між капліцай і домам
Прасторны пакой тады ўбудавалі
І ўсё пад супольны дах з домам забралі.
Адзін з пакойчыкаў, малы і таемны,
Паказвала часам старая Юзэфа
Як “асаблівасць тутэйшага дома”.
На працягу двух тыдняў жылі ў ім паўстанцы,
Калі ў рэшце пакояў расейскі генерал вядомы
У той жа час са сворай жандармаў жыў.
Уваход да таго пакоя абіўкай быў
Так замаскаваны, што ніхто пра яго не знаў,
Ніхто існаванне схованкі не дапускаў.

Двор, са слоў Юзэфы, гадоў сотні назад
Быў месцам з’ездаў, соймікаў павета,
Былі тут перамовы і гучныя забавы -
Сведчыць пра гэта мог архіва пакой.
Калі Ягайла ў поўнач сустрэўся з Ядвігай -
“Дзесяць выстралаў з лука” ў Востраве над Дзітвой.
Было там зацесна ў двары і стайнях,
Сцягнуліся ў Сукурчы на гучнае гулянне.

Што да мяне - ведаю толькі,
Што пазней шмат гадоў,
Будучы ў адведзінах у адной з маіх цётак
У Вільні, сярод збору яе кніжак знайшоў
Том Гансяроўскага “Запісак” старых,
Дзе апісанне ў Сукурчах дома, з’езду, балю
Зрабіла на мяне мілае ўражанне ў запісках тых
Нечага светлага, хоць тыя самыя сцены стаялі,
І тыя самыя вуглы, і тыя ж транты ляжалі.

Тады, аднак, маючы вёсен за дзесяць,
Заслуханы ў старых цётак аповесці,
Марыў аб шаблі, аб шэрагах польскіх,
Пра каня ў галопе, у маршы начным, у славе.
Будаваў замкі на дрэваў гуках,
Схованкі меў у алеях саду,
Кветкам пасады ў войску надаваў,
Гэтыя - уланы, а тыя - драгуны,
Гусары, казакі, пяхота.
Жоўтыя кветкі - татары, а немцы - крапіва.
Шабляй з дрэва варожыя шэрагі выцінаў,
Бярог ад пагібелі ўласнае войска ў траве.

Апроч Старога става былі яшчэ тут
Чатыры рыбныя ставы, капаныя,
У якіх раслі ліні, як цеста на дражджах,
Вагой з парася ў месяц ад роду.

Са старой Юзэфай яшчэ тры чалавекі
Складалі колка сыгранае дасканала:
Найшаноўны Адам Кавальчук - хоць і кравец,
Але меў рукі праз артрыт крывыя,
Кіраваў садам, цану нам вызначаў,
Такую, як гаварыў: “Пане, грахі адпусці,
Каб нічога на сумленні не мець у хвілю смерці”.
Чалавек той шаноўны скрозь для іншых жыў,
Пра сябе не дбаў,
Трылогію чытаў.
Меў таксама той звычай, што любіў рыфмаваць,
Што з вялікай латвасцю і прастатой рабіў.

Я любіў быць сведкам, як старая Юзэфа,
Пыхкаўшы з доўгай самакруткі,
Рукамі ў жывых мігах памагаючы словам,
Гавэндзіла, седзячы над кубкам гарбаты,
Перад якім на стале ляжаў кавалачак цукру,
Бо звычана піла “ўпрыкуску”.
А перад ёй Кавальчук, заклаўшы нагу,
На той час кравецкую работу адкладаў,
Дымячы самакруткай з махоркі, “бакунам” званай,
У такт і нагой, і галавою ківаў,

Штохвілю дзівіўся: “А-а-а...” Юзэфіным словам,
Галавою на бокі без спыну хістаў,
Выдаваў сык дзіўны, вужа ўдаваў:
“Сссс...”, - і костачкамі гучна ў суставах трашчаў.
А Юзэфа ўзорыста тэму развівала,
Хутка цераз роды і князёў скакала,
Нарэшце, як звычайна, пры канцы гавэнды
Пераходзіла да таго, што ў той дзень для Сукурч
Клопат найактуальнейшы складала.
“Ах, ці ведаеш, Адаме, што мне Малаўскія тыя
Так надакучылі, што чуць у галаве ўжо іх стала,
Аж вылазяць праз патыліцу злыдні ліхія”.

Быў Лукуць Станіслаў, ляснік, што разам
З жонкай Уршуляй тут жылі,
Ходзячы ў лес ранні̇м часам.
Старыя абое, з сабою ў згодзе былі.
Сардэчныя, лагодныя, да ўсіх зычлівыя.
Ён з усмешкай добрай стала з яе жартаваў,
А яна, за ім дрыпаючы, дбала, каб ён не сумаваў.

Калі я часам сярод той чацвёркі трапляўся,
Успаміны аднаго з іх цягнулі потым
Несканчоны ланцуг аповесцяў іншых,
Які не канчаўся.
Узорная мінуўшчына Сукурч, як і цяжкія часы,
Жыццё продкаў маіх, ці іх нейкія чыны,
Вычараваныя са змроку мінуўшчыны
Ў паўзучым святле доўгай лучыны,
Уваткнутай у паз адной са сцен хаты
(Старога лесніка) - усцяж выступалі,
Як жывыя, вобразы, у якіх постаці паўставалі,
Так снаваліся, змяняліся, як дым расплываліся
Ў Лукуцевай хаце з яго люлькі велькай,
Смугою з лучыны над галавой клубіліся
Як Адама, так і мудрай Юзэфы, і пад самыя бэлькі...

*Пераклаў з польскай*
***Станіслаў Суднік.***



*Васіль Струмень (Лебедзеў Аляксандр Мікалаевіч), былы падпольшчык 30-х гадоў на Гарадзеншчыне, у Лідскім павеце, сакратар камсамольскай ячэйкі вёскі Зачэпічы і член падпольнага райкама камсамолу, член КПЗБ, тагачасны і сучасны паэт.*

## *Васіль Струмень*

# ЗАБАСТОЎКА

## *ПАЭМА*

*Сваім сябрам-удзельнікам забастоўкі*
*на шклозаводзе "Нёман"*
*у 1936 годзе прысвячаю.*
***Аўтар.***

**Пралог**

Сярод наднёманскіх мясцін цудоўных
Адна ёсць блізкая, што ў сэрцы маім след
Пакінула на ўсё жыццё глыбокі, -
Калісь я ўліўся тут у рабочую сям'ю.
Чыгунка пралягла праз лес і поле,
Перасякалі Нёман з грузам паязды.
Ды тут і пасажырскія хадзілі, -
Парожніх месц у вагонах шмат было тады.
Працоўныя ж не ездзілі чыгункай,

Бо грошай не хапала нават і на хлеб.
Дзесяткі кіламетраў мераў пешшу
Бядняк, аб камень ногі босыя б'ючы.
Каталіся кулак або памешчык,
Купец і фабрыкант ці іншы дармаед,
Якія багацелі з цяжкай працы
Гаротнікаў, што мелі рукі ў мазалях.
У мяне не раз прамчаўся перад носам
Тады з панамі ганарыстымі цягнік,
Калі я пуць дарогай пераходзіў,
Да гуты паспяшаючы з свайго сяла.
А гута тая сценамі панура
І камінамі пазірала на людзей,
Нібы казала: "Тут мая ёсць сіла!..
Я лёс рабочага трымаю ў руках…"
Гудкі завода рэзалі па сэрцы,
З іх голас уціску гучаў штодзённа нам:
"Хадзеце прадаваць здароўе, сілу
За грош аплаканы хцівым панам!.."
У шліфавальным цэху лез няўпынна
Дзяўчатам у грудзі, горла шкодны шкляны пыл.
І кожны дзень, і кожную гадзіну
Ў іх здароўе ён і сілу забіраў.
Смактаў няўмольна з твару ў шклароба
Агонь пячэй гарачых маладую кроў,
А ў цэху малярным усе жанчыны
Атручваліся ўсцяж ад фарбаў і кіслот.
Ніхто не дбаў тут пра бяспеку працы,
Але заводчык вось пра што не забываў:
Плаціў жанчынам у два разы меней, -
Гэтак ён бяздушна іх працу абкрадаў.
Так напаўнялася цярпення мера,
І гневу полымя распальвалась мацней.
На бой за праўду мы ўставалі з верай
У перамогу вызваленчую людзей.

I

Праходзілі дні, месяцы ў цяжкай працы,
Якая сродкі дрэнныя давала нам.
Ледзь-ледзь зробленых хапала грошай
На хлеб і бульбу, на танны абутак,

На зрэбныя штаны і на пінжак.
Польская буржуазія не хацела
Прылучыць нас да навукі і культуры,
І ніхто з нас не мог думаць пра вучобу, -
Кожны ведаў - школы і тэатры не для нас.
Умацоўвалі паны ў вёсках і пасёлках
Цемру, бескультурнасць, грубіянства, подласць -
Зло, якое бедным шмат прыносіць крыўды,
Але багацеям служыць заўжды верна,
Бо дапамагае раз'яднаць працоўных,
Каб яны не мелі сілы для змагання
За людское шчасце, за правы і волю.
Не спалася і думалася мне ўсё болей
У зімовы позні вечар пра жыццё бяздольных,
Пазбаўленых усякіх духоўных патрэб.
І праца не давала нам задавальнення,
Бо творчасці ў ёй зусім не мелі мы.
Рабілі кожны дзень адно і тое -
Бярвенні нагружалі і вазілі
Ў тартак да піларамы і згружалі іх.
Мы ўспаміналі з Юзікам Навіцкім часта,
Як нас настаўнікі хвалілі за вучобу,
Нам будучыню добрую прарочылі заўжды,
Калі пра здольнасць нашую расказвалі бацькам…
І мы хацелі з ім сапраўды тае працы,
Дзе можна было б думаць і штосьці тварыць,
Абагачаць сябе майстэрствам і духоўна
Расці, бо маладосць парыў імкненняў родзіць.
Пакуль не патануў у сне, я перадумаў
Прафесій цэлы шэраг на нашым заводзе.
Шклароба працаю любоўна мілаваўся,
Зайздросціў іх вытворчаму мастацтву,
У якім талент штодзённа можна развіваць,
Ствараючы красу, мець асалоду ў працы.
Шклароб у жывы блакітны колер кроплі шкла
Ўкладае дробную жарынку сонца, -
І заблішчыць яна алмазным вінаградам.
Калі ж у шкло ўдзьме ён крыві кроплі,
Яно зачырванее кісцямі каліны.
Шкловыдзімальшчык грае, быццам музыкант,
Дзьмучы ў трубачкі шкляныя віртуозна,
Празрыстасць выгнуўшы ў квяцістую дугу,

Як жывапісец вымалёўвае вясёлку.
Але, нажаль, адчуць красу і музыку яму
Ў паднявольнай сваёй працы немагчыма.
Умоў для творчай думкі пад уціскам няма
І для мастацкае фантазіі палёту.
Талент людзей працоўных замірае там,
Дзе душыць нас закон цяжарам ад прыгнёту.
Не помню, калі сон мне абарваў усе думы.
Прачнуўся ранкам я на голас гаспадыні.
Яна мне снедаць падала варанай бульбы,
Якую заядаў баршчом капусным кіслым,
І сон, расказваў ёй, што ўначы прысніўся:
Ішоў з сябрамі, быццам, я дарогай,
Што нас вяла ў цёмны і вялікі лес.
А ўгары ляталі крумкачы над намі,
Абапал шляху з гушчару страшныя пашчы
Выглядвалі і шчэрыліся люта.
І раптам разбудзіла мяне гаспадыня.
А сон страшны яшчэ ўсё душу прыгнятаў.
Пра гэты сон сябрам сваім па цэху,
Прыйшоўшы на завод, адразу расказаў.

II

Мы з Юзікам ізноў узяліся за калоды, -
Качаць рукамі, свае сілы надрываць,
Каб з нашай працы багацелі дармаеды,
Мы мусілі за марную зарплату працаваць.
Ды толькі зрушылі мы з месца гэты груз,
Які падвезці трэба ў цэх на распілоўку, -
Знаёмы голас сябра даляцеў да нас:
- Спыніце на момант сваю ваганетку! -
Гукнуў асцярожна Лысёнак Сямён.
І падыйшоўшы, шэпнуў паспяхова сакрэтна:
- Прыходзьце сягоння на збор пасля працы,
У дом Пендо, пачуем там важнага многа…
Нам доўга ўтомна яшчэ тры гадзіны
Абодвум цягнуліся да канца дня.
Да піларамы ўсе падвязлі мы калоды -
І прагучаў вострым крыкам у паветры гудок.
Патокам з завода рабочая маса
Выплыла шумнаю плынню за браму.

Мы з Юзікам йшлі ў гэтым гурце пасёлкам.
Бязмерная моц адчувалася нам,
Схаваная ў нашай працоўнай грамадзе,
З гушчы якой дыхаў гнеў і парыў да змагання
За вольную працу і вольнае шчасце жыцця.
Нібы рака, што запаўняе вадаём вялізны,
Лавінай дужаю імкліва хуткаплынна,
Двухтысячны атрад рабочых запаўняў
Ля клуба плошчу, дзе збіраўся мітынг.
Прыслаў падпольны цэнтр КПЗБ на наш завод
Кубіцкага і Мілашэўскага дапамагчы
Падняць наш дух і згуртаваць на барацьбу
За лепшыя ўмовы працы і правы.
Падцягваюся я на пальчыках, каб бачыць,
Хто стаіць на ганку наводдаль ад нас.
Ды не пазнаю нікога, акрамя Лысёнка.
- Скажы, яшчэ хто там стаіць ля Сямёна? -
Запытаў я сябра, каб мне расказаў.
Знаў ён у пасёлку ўсіх людзей дакладна,
Працаваў тут з братам Косцяй шмат гадоў.
- Вунь стаіць у цэнтры высокага росту
Таварыш Манюшка, смелы і заўзяты.
Побач з ім, направа, Казік Стэфановіч,
Злева Сяргей Бондар - наш стары рабочы,
Што за праўду любіць смела пастаяць.
Не баіцца гневу панскага і турмаў,
І агульнай справе заўжды верны ён.
Паказаў Навіцкі іншых актывістаў -
Келмуцяі Коса, Пятроўскага, Дубка.
- Баявыя хлопцы… Паліцаі сочаць
Гадоў пяць за імі сваім пільным вокам, -
Сказаў ён пацішу і звярнуў увагу
Маю на гурт хлопцаў і бойкіх дзяўчат.
Яны жартавалі і звонка смяяліся,
Стоячы ля ганку. Мы прабіліся бліжай,
Каб мог пазнаёміць з імі мяне сябра,
І каб без нудоты мітынгу чакаць.
Тут былі: Шыманскі, Дзякевіч, Будзевіч,
Нядзвецкі, Абрэмскі, Вінцулевіч, Брыль,
На якіх чыноўнік не адзін даносіў
Паліцаям, і сачылі за імі шпікі.
- Скажу я зараз вам, дзяўчаты, па сакрэту,

Што скора будзем забастоўку пачынаць.
Патрабаваннем першым мы паставім пану,
Каб ён павысіў у два разы для жанчын зарплату,
А для дзяўчат хай дасць надбаўку,
Каб ім было з чаго запасіць грошы
На модныя ўборы і пасаг к вяселлю. -
Сказаў з усмешкай Касцюкевіч-жартаўнік.
І заліліся рогатам дзяўчаты,
Пачаўшы жартаваць у сваю чаргу.
- Напэўна будзе так, - Марыя Мантуш кажа, -
Як у прыказцы гаворыцца народнай:
"Пятра і Паўла пачакай, бабуля,
Тады і будзем есці смачны сыр".
А Грос Софія падцвярдзіла гэта:
- Наш фабрыкант зарплату так надбавіць,
Як прыганятыя пры паншчыне рабілі,
Калі прыгонных бізунамі білі, -
Бывала, б'е-б'е і дабавіць,
Калі дагоніць, дык яшчэ паправіць.
- Дальбог! Такая праўда ў паноў
Была і будзе! - выгукнулі ў адзін голас
Клюкевіч Лена, Касцюкевіч Ганна
І яшчэ іншых некалькі дзяўчат.
- Мы з Кастусём дык ведаем дакладна,
На што паны запасяць грошы
За кошт жаночай таннай працы,
З якой мільённыя грабуць прыбыткі…
Апроч таго, што зграю сабак гончых
З псярамі разам трэба ім карміць,
Яны купляюць дыліжансы, фаэтоны
І брычкі дарагія за граніцай.
А ў іх каханак возяць на курорты, дачы,
Ды нашы грошы трацяць ім на падарункі.
Штодзень спраўляюць шумныя банкеты,
Дзе распіваюць дарагія віны,
Трашчаць сталы ад казачных закусак, -
Ды выязды ў тэатры і на паляванні,
І ўся іх роскаш - з нашых мазалёў. -
Прамовіў гнеўна Бобрык Браніслаў,
І далей выказаў, што ў сэрцы набалела:
- Ім не шкада дарэмных людскіх грошай,
Якія з нашай працы льюцца, як рака,

Да іхніх банкаў, і не толькі польскіх,
Але і ў Англію, у Францыю і ЗША.
Спачатку гэтак, нібы ўсё для смеху,
Для гумару стараўся кожны жартаваць,
Каб паказаць сваю дасціпнасць пры сябрах,
Сваімі выдумкамі спадабацца болей
Дзяўчатам і схіліць сімпатыю к сабе.
Ды хутка жарты перайшлі ў сур'ёзнасць, -
Абурыла нам сэрцы злая крыўда.
Бо праўда сказаная Бобрыкам пра банкі,
Прыбыткі панскія, распусту іх жыцця,
Кранула ў кожнага з нас сэрца болем.

III

Разносіць рэха паміж сосен гулкі гоман
У апошнія гадзіны дагасаючага дня,
І чуецца ў ім напружанне і сіла
Таемнай, здзек грознай навальніцы.
Яе чырвоны захад нешта прадвяшчае,
Абліўшы хмары колерам крыві.
Нясло навальніцу нястрымна наша гора
Супраць усіх, хто з працы нашай багацеў.
І вось пачулі мы чаканы шчыры голас:
- Сябры! Пара ўжо ад сну будзіцца і нам!..
Самкнуць рады свае ў цесныя калоны
І выйсці на змаганне за шчаслівы лёс,
За правы на жыццё людское і дастатак! -
Кубіцкі кідаў словы, быццам бомбы,
Каб распаліць у сэрцах нашых агонь імкнення
Да барацьбы з прыгнётам і рабункамі.
- Ніколі паразіты-дармаеды, - кажа ён, -
Сапраўды дабрачынцамі не стануць
Працоўным людзям гарадоў і вёсак,
І не дадуць ім паўнапраўнага жыцця:
Вучыць дзяцей у школах, інстытутах,
Багаццямі зямнымі ўладаць навекі,
Каваць сабе шчаслівы лёс па-гаспадарску!
Вы ж бачыце, якое даў жыццё заводчык
Для вас і для дзяцей - без радасці і шчасця.
Ён багацее з рабскай вашай працы,
А за яе вам плацяць, нібы ў насмешку,

Нікчэмныя грашы на пражыццё сям'і,
І жывяцё заўжды вы жабракамі.
Гатоўцеся змагацца за правы і волю,
За светлае шчаслівае жыццё!..
Нам ёсць цяпер з каго браць прыклад і вучыцца,
Як шлях працоўным пракладаць да праўды,
Каб без капіталістаў на заводах
І фабрыках мы вольна працавалі,
А ў вёсках без паноў зямельку абраблялі,
І каб усім валодалі па праву мы.
Дык годзе ўжо цярпець вам здзек і крыўду!
Хутчэй патрэбна забастоўку аб'явіць
І дамагацца ад драпежнікаў усіх праў,
Каб жыць па-людску і з дастаткам.
Цяпер працоўны люд змаганне скіраваў
На здабыццё ўлады ў свае рукі,
Што волю, праўду дасць нам і нашчадкам,
Навечна згінуць голад, цемра, мукі.
Пара і вам ісці ў гэтай бітве следам
За пралетарыямі Кракава і Лодзі
Ды іншых прамысловых гарадоў.
Ужо ўстаюць да класавых баёў
Рабочыя ў Беластоку, Гродне, Лідзе, -
І вам не трэба ад іх адставаць.
Хай іх змаганне прыкладам нам будзе.
І разумець, сябры, патрэбна добра,
Што забастоўка ёсць пачаткам барацьбы
За сутнасць поўную людскога шчасця
Працоўных абяздоленых людзей.
Гартуйце ў сабе стальную сілу волі,
Рашучасць, стойкасць, мужны гераізм,
Каб потым моцы столькі нам намножыць,
З якой змаглі б ісці на барыкады,
У баі за вольны свет - сацыялізм.
Прыскорыць волі час рашучае змаганне,
Якую дні Кастрычніка далі нашым братам.
А нам злы лёс прыгнёту і пакуты
Ў тыя дні надзей прынеслі на штыках
Пілсудчыкі і раздзялілі наш народ.
Цяпер імкненні нашы толькі на Усход,
Адкуль чакаем мы жаданага ўз'яднання.
Сябры! Канчаючы прамову,

Хачу я вам ад сэрца пажадаць
За справу ўзяцца дружна і адважна,
Каб потым перамогу святкаваць!..

IV

- Хачу навіну вам сказаць я зараз, хлопцы,
Бо яна прыемнай будзе і для вас.
Даручыў мне сёння Казік Стэфановіч
Справай падрыхтоўкі ў вас кіраваць.
Усіх рабочых пляцу і вашага цэха
Нам таемна трэба, ды ў хуткім часе,
Важны і адказны недзе сход сабраць.
Наказаў мне заўтра да яго прыйсці.
Відаць, указанні некія ён дасць,
Як праводзіць трэба нашу падрыхтоўку,
Каб ва ўсіх рабочых свядомасць падняць.
І, здаецца, хлопцы, той дзень недалёка,
Калі забастоўку распачнём і мы.
Ужо даўно бастуюць лідскія заводы,
А мы церпім здзекі і рабунак паноў,-
Гаварыў Лысёнак, з мітынгу йдучы.
Ён сказаў, што з намі будуць трымаць сувязь
Рабочыя Ліды, з фабрыкі "Ардаль", -
Памогуць належна нам падрыхтавацца,
Каб у змаганні гэтым перамог дабіцца…
Учатырох ішлі мы вуліцаю гразкай,
Гаворачы ціха, каб ніхто не чуў.
І дайшлі мы гэтак да таго завулка,
Дзе жылі з Калодкам разам на кватэры.
Тут мы на развітанне паціснулі рукі
І пайшлі да хаты, каб крыху спачыць,
Павячэраць штосьці і, хоць на гадзінку,
Выйсці па суседству да каханай Зосі,
Пра свае сакрэты з ёй пагаварыць.
Спадабаў яе я за сціпласць і шчырасць,
І за тварык мілы, за бядняцкі род.
Мне тады канчаўся ўжо дваццаць трэці,
Ёй было няпоўных дзевятнаццаць год.
Доля навучыла і яе таксама,
Як мяне, кавалак хлеба зарабляць,
Мазалямі шчодра аздобіла рукі,

Прымусіўшы многа змалку працаваць.
На гэту дзяўчыну ў мяне надзея
Сагравала сэрца некалькі гадоў.
Бачыў я, што роўны з ёю ў нас дастатак,
Думаў, што не страчу верную любоў.
Але злая доля разлучыла нас,
Бо бяда ганяла скрозь мяне ў той час…
Турэмныя муры, а потым - вайна, -
Мяне дачакацца не змагла яна…
Думала: загінуў дзесьці ў баю…
Тады і пасватаў мілую маю
Той, з кім не хацела нават размаўляць, -
Мусіла рашыцца жонкай яму стаць.
У сваёй вёсцы раней з горам прымірыўся,
Страціўшы навечна першую любоў,
Калі ў дзяўчыну Валю закахаўся,
Што была дачкою багатых бацькоў.
Колькі мы прасілі яе бацьку, маці,
Што мы верна любім адно аднаго.
Яны не хацелі слухаць нашай просьбы,
Нават слёзы мілай нам не памаглі.
Упарта шукалі багатага зяця,
За якога сілай замуж аддалі…
У той год на няшчасце далёка ад дому
Вясну, лета й восень мусіў працаваць
У адным маёнтку, у цагельным заводзе
Са сваім айчымам грошы зарабляць.
І населі ў той час так бацькі на Валю,
Што яна не ў сілах была ўстаяць.
Выдумлялі хітра розныя прычыны,
І ў дачкі веру ў шчырае каханне
Маё пастараліс подла падарваць.
Усё ёй гаварылі пра мяне брыдоту:
- Ён жа зусім бедны, галыш ды бунтар, -
Бадзяецца ўсюды ў пошуках работы,
А табе патрэбны добры гаспадар.
Каторы ўжо месяц прайшоў з таго часу,
Як ён з роднай вёскі дзесь падаўся ў свет.
Думаеш, там будзе чэсны й табе верны,
Бо і там сустрэне нямала дзяўчат.
Валя пакарылася іхняму гвалту,
І з нялюбым стала ў багацці жыць.

А мне давялося, дазнаўшысь пра гэта,
Многа журбы горкай потым перажыць.
Хоць і атрымаў я  потым шчасце ў долі,
І не мае сёння гэтага яна.
Аднак жалю з сэрца не вырву ніколі,
Што ў нашым каханні ўкрадзена вясна.

V

- Чаму так сягоння позна прыйшлі з працы?
Спытала нас з Федзям гаспадыня хаты.
Мы ёй расказалі, што былі на сходзе,
Чулі выступленні разумных людзей.
Памагчы нам хочуць яны ў змаганні,
Навучыць, як волю, шчасце здабываць.
Многа слоў праўдзівых на карысць рабочых
Сказалі ў прамовах аб нашым жыцці
Смелыя таварышы і правадыры,
Беднага народу верныя сыны.
Кончыўшы вячэрацьь, Федзя цётцы Ганне
Яшчэ пра сход гэты нешта гаварыў,
А я апрануўся і да любай Зосі,
Не трацячы часу, хутка паспяшыў.
Прыйшоў на падворак. І раптоўна ў сенях
Хтось падкраўся ззаду і закрыў мне вочы,
Ды зусім не цяжка было здагадацца,
Адчуўшы пяшчотнасць кволых рук дзявочых.
Хутка абярнуўся, мілую абняў
І ў румяны тварык я пацалаваў.
А яна з дакорам прамовіла мне:
- Больш, як тры гадзіны чакаю цябе.
Дзе ты затрымаўся? - раскажы мне, мілы,
Можа, закахаўся недзе ў другую,
А я тут дарэмна за табой смуткую.
- Што ты, маё сонца, я нідзе ў свеце
Лепшую дзяўчыну не знайду, як ты…
Мы зайшлі ў хату, і я ёй пра мітынг
Расказаў, каб знала і яна пра ўсё.
- Ведай, дарагая, што людское шчасце
Само, без змагання не прыйдзе да нас.
Пакуль не здабудзе люд працоўны сілай

Яго, дык не ўбачыць праўды й волі час.
Хочацца ўсім сэрцам, каб пажыць шчасліва,
Без прыгнёту, здзекаў ад ліхіх паноў,
У сям'і вялікай, у сям'і адзінай,
Навек далучыцца да ўсходніх братоў.
Вось тады мы разам цешыліся б воляй,
Як голуб з галубкай, у пары жылі.
І для нашых дзетак была б светлай доля,
Бо яны б пад сонцам ленінскім раслі.
І ты знаеш, Зося, веру я ў гэта,
Што мы дачакаем жаданага дня,
Калі пададуць нам руку дапамогі
Браты, што сагрэты праўдаю Крэмля.
І будуць збывацца адвечныя мары
Нашага народу пра шчаслівы лёс.
І нам шлях асвеціць Леніна навука,
Якую на сцягах Кастрычнік прынёс,
Можа пашанцуе і нам падвучыцца,
Мы ж да кніжак маем моцную любоў,
Бо шырока дзверы ў школы адкрывацца
Будуць для бядняцкіх дачок і сыноў.
Гэтак мы з каханай доўга летуцелі,
Што да позняй ночы разам прасядзелі,
Пакуль не сказала: "Пара спачываць.
Заўтра трэба рана да працы ўставаць.
Наш дазорац дрэнны і верны слуга
Ўласнікаў завода, - любіць штрафаваць.
З таго, хто спазніўся, хаця на хвілінку, -
Вылічаць з зарплаты не адну гадзіну."
Пажадаў я мілай прыемнага сну,
Да грудзей ласкава яе прыгарнуў,
Заглянуў у вочы, нібы ў азерцы, -
І ад шчасця стала соладка на сэрцы.
Яна прашаптала: "Любы сокал мой…
Хацела б заўсёды поруч быць з табой,
Пра любоў і шчасце наша гаварыць, -
І каб не магло нас нішто разлучыць."
Кветачку сваю я расцалаваў зноў,
Сказаў: "Да сустрэчы" і пайшоў дамоў.
Дома ў бясонні доўга я ляжаў,
Пра жыццё людское ў думках разважаў.

VI

На заўтра я ў цэху сустрэўся з сябрамі.
Хацелі мы ўчарашні сход абмеркаваць.
Мы знали, што паны дачуліся напэўна,
Што ў нас быў мітынг і былі прамоўцы,
Якія нас вучылі ў горы не маўчаць
І палка заклікалі змаганне пачынаць.
- Цяпер па горла будзе працы ў палісменаў, -
Сказаў Навіцкі Юзік, і ў момант прыгадаў,
Калі да нас у цэх прыходзіў паліцэйскі,
Каб вылечыць мяне ад усіх чэсных імкненняў.
Было гэта ў жніўні мінулага года, -
Зайшоў ён у цэх і даў Гінцу загад
Сабраць усіх рабочых ля пілaрамы.
І тут перад усімі напаў на мяне, як шакал:
- Дык  вось ты сюды, бальшавік, ужо патрапіў!
Не думай сабе, бунтаўшчык ты праклятый,
Што будзеш пашырваць сваю агітацыю тут!..
Як толькі прыкмецім, што будзеш займацца
Далей тут палітыкай сярод рабочых,
Мы хутка з завода прагонім цябе,
Пад суд аддамо і ў турму "запакуем",
Дзе выб'юць у цябе з галавы бальшавізм!
Рабочых табе бунтаваць не дазволім!
Так, як у Зачэпічах ты бунтаваў
Моладзь, вывешваць чырвоныя сцягі
Ў вёсках заўсёды іх там заклікаў.
Камуністычныя ўсюды лістоўкі
З наказу твайго раскідалі яны.
І песні спявалі бунтарскія там,
І з іх не адну напісаў для іх сам!
Ты любіш пісаць бальшавіцкія вершы.
Дакладна мы ведаем гэта даўно.
І доказаў усякіх у нас ёсць даволі,
Каб нават сягоння ў турму пасадзіць,
І гэта зрабіць нам з табою не цяжка!..
Палаяўшы ў волю абражліва і груба,
Ён строгі даў загад з'яўляцца ў пастарунак.
Усіх змушвалі тады, хто быў пад падазрэннем,
Прыходзіць на праверку - "на мэльдунак".
- На  допыты да камендантa кожны тыдзень

Прыходзіць будзеш "хамскае насенне"!
Мы не дамо табе нідзе пажыць спакойна,
Калі не кінеш ты бунтарскае імкненне!..
Затым злавесным позіркам гіены
Акінуў нас усіх і выйшаў ганарыста,
Здаволены сабачай вернасцю панам
І пэўнасцю, што кормяць не дарэмна
Яго капіталісты за такую працу,
Даюць кавалак тлусты за рахунак поту
І бедства ўсіх пакрыўджаных людзей.
А ён сумленнем ім прадаўся да канца,
І ворагам працоўных стаў да смерці
За свой лакейскі і ганебны хлеб.
Яшчэ да гудка заставалася восем хвілін,
Якім агалошваўся працы пачатак.
А гутарку хлопцы далей усё вялі,
Устаўляючы жарты ў размову сваю.
- Я думаў тады, што на Гуце ў нас
Не разварушыцца хутка народ,
Каб згуртавацца ўсім дружнай сям'ёй,
Адстойваць свае інтарэсы і правы, -
Укінуў Навіцкі Кастусь сваю думку -
Брат Юзіка, што працаваў тут гатровым.
- Чамусьці здавалася, як паліцай
Летась лаяць прыходзіў Алеся ў наш цэх,
Што запужалі яны моцна нашых рабочых.
І змены такой не чакаў я зусім.
А вось цяпер бачу - тады памыляўся.
- Будзь пэўны, што і нашых цяпер многа
Ўцяміла хлусню і не драмаюць,
А будзяць іншых да супольнай працы.
І справу арганізаваць умеюць добра.
Учора мы пабачылі, што падрыхтоўку
Ў нас разумныя таварышы вядуць, -
Дадаў Калодка Фёдар у размову.
- А я дагадваўся ўжо даўно, што тут
З партыйнага падполля камуністы
Кіруюць падрыхтоўкай да змагання
І маюць сувязь цесную з райкамам,
Адкуль атрымліваюць дырэктывы
І нелегальную літаратуру,
Якую распаўсюджвалі ў нас на святы

Кастрычніка і Першамая тых гадоў.
Вы ж добра помніце, як летась, пазалетась
На сцягі мы чырвоныя глядзелі,
Калі яны, як кветкі, красавалі,
Пераліваліся на сонцы і шумелі, -
Успамінаў нам Брыль Сцяпан
З уздымам радасці і захаплення.
І раптам прыпынілі мы размову
Бо ў цэх зайшоў начальнік пляцу.
Яго настрой пазналі мы адразу -
Аблічча пацямнела, ніба хмара,
У вачах гарэлі іскры злосці,
Ні на каго не падымаў вачэй,
А толькі кідаў позірк свой калючы,
Падобны да ланцужнага сабакі,
Што ўсіх, здавалася, праб'е да косці.
Да тэхніка прайшоў ён цераз цэх,
І гаварыў з ім, мабыць, паўгадзіны.
Відаць, начальнік тэхніку падказваў,
Як трэбаназіраць за намі ўвесь час,
І прыслухоўвацца да кожнага з нас пільна,
Пра што мы будзем размаўляць паміж сабой.
Я бачыў, што мітынг акрыліў рабочых,
Бадзёрасць, надзею на шчасце ўдыхнуў…
Але не на жарт ён паноў растрывожыў,
І ахапіла іх усіх мітусня…
Мы гуртам вясёлым прыйшлі ў цэх з абеду,
У кожнага ў сэрцы было, нібы свята, -
Дух блізкай падзеі натхняў верай нас
У здзяйсненне сваіх запаветных жаданняў.
Як толькі гудок пранізаў цішыню,
Грузіць пачалі мы з Навіцкім калоды.
Нагнулі мы спіны за цэлы дзень працы,
І ногі, і рукі балелі ў нас моцна.
Але спачываць не прыйшлося сягоння,
Бо трэба было мне схадзіць да бацькоў…
Ісці мусіў я амаль цэлую ноч
Цераз лес па пясках і балотах.
Перабрыў папацёмку і Моўчадзь у Гезгалах
І адтуль да Зачэпіч ішоў больш гадзіны.
Ушчэнт перамучаны працай, дарогай,
Не змог я даволі спачыць таго дня.

І так не хапіла патрэбнага часу
З бацькамі пабыць і пагутарыць з імі,
З сябрамі сустрэцца і вырашыць справы
Ў дзейнасці нашых падпольных ячэек -
Усіх камуністаў і камсамольцаў у вёсцы.
Сябры мяне доўга распытвалі ўсё.
Я ім пра рабочых расказваў з ахвотай.
І ў гутарцы гэтай падкрэсліў асобна
Іх ролю ў падмозе рабочым завода
Харчамі, як будуць яны баставаць.
З сакратаром партячэйкі, Пышкам Іванам,
Рашылі лістовак і кніг нелегальных
Прыдбаць і даставіць на наш шклозавод,
Каб там іх чытаць для надзейных рабочых,
Якія належаць да актывістаў,
Каб узровень свядомасці іхняй падняць
І ўключыць у авангард барацьбы.
Над гэтым пытаннем яшчэ адзін сябар -
Іван Івашэвіч тады меркаваў.
Заўсёды ў Пышкі ён быў, як намеснік, -
Шмат болей за іншых сяброў працаваў.
Прасіў я ў іх, каб да нас адпраўлялі
Літаратуру з такім камсамольцам,
У якога на гуце жывуць сваякі,
Тады канспірацыя будзе ў парадку,
Бо не прыкмецяць нічога шпікі.
Гадзіны сустрэч у мяне мільганулі,
Як сонца на захадзе села за лесам, -
Ісці на завод падыйшла мне пара.
Заклапацілася маці, каб штосьці знайсці
З ежы, пакунак падрыхтаваць на дарогу.
- Вось, сынок возьмеш кавалачак сала,
З капустаю свежанькіх піражкоў
І сушаных грушак, ды яблыкаў трошкі -
Усё, што змагла я знайсці ў каморцы,
Каб даць табе сціплы дамашні гасцінец.
Пачаў я спрачацца з маці сур'ёзна,
Бо ведаў, - апошняе мне аддае.
І калі стаў я выймаць гэта, усё з сваёй торбы,
Яна разрыдалася з горкай абразы
І змусіла частку пакласці назад.
Я рад быў, што трохі пакінуў ім сала

Ды іншых прысмакаў бацькам і сястрычкам, -
Яны ж там жылі яшчэ горш ад мяне.
На двары ў нас расла толькі груша адна
І яшчэ пара слівак, і яблыня-дзічка.
Знайшлося і месца тады ў маёй торбе,
Каб кніжак з сабою патрэбных набраць.
Узяў Пушкіна, Горкага, Чэхава, Блока,
Купалы і Коласа, Гартнага, Цёткі,
Бядулі, Чарота і Багдановіча - усіх,
Якіх удалося ў вёсцы прыдбаць.
І яшчэ палажыў у сваю торбу слоўнік
Энцыклапедычны, каб магчы паясняць
Незразумелыя словы заводскім сябрам.
Мне слоўнік пазычыў цудоўны таварыш,
Палікарп Мілейка - барацьбіт нязломны,
З вёскі Навасёлак, членам акружкама
Ў КПЗБ працаваў ён у той час.
Вельмі мала добрых кніжак было ў вёсках,
А ён нам заўсёды іх раздабываў.
Імя яго з болем прыгадваю ў сэрцы, -
Загінуў ён у першую восень вайны
Ад подлых рук здраднікаў і кулакоў.

VII

Сядзела васьмёра нас у хаце Лысёнка,
Прыйшоўшы сюды пасля працы з завода.
Праглядвалі кнігі, што я прынёс з дому,
І меркавалі мы доўга ў той вечар над тым,
Каму і якія з іх даць карыстацца,
Каб словам мастацкім будзіць дух змагання.
Потым Лысёнак газеты дастаў з тайніка
І паклаў для нас цэлую пачку на стол.
Мы хутка чытаць пачалі з іх навіны
Пра ход пралетарскіх баёў па ўсёй Польшчы.
Забяспечваў газетамі нас Стэфановіч -
Свядомы за шчасце працоўных змагар.
Газеты, якія чыталі ў той вечар,
Нашай былі пралетарскаю прэсай:
"Малады камуніст", "Бальшавік", "Барацьба",
"Чырвоны сцяг", "Kujmy bron" і рад іншых,
Што іх выдавалі заўжды камуністы

На беларускай і польскай мове.
З захапленнем вялікім чытаў кожны з нас,
Бо праўду мы бачылі ў кожным слове.
Перад намі стаяла заданне - вучыцца,
Нясці ў масы працоўных Кампартыі словы
І асвечваць навукаю ленінскай іх.
Каму трэба, даваць дапамогу заўсёды
Па вернаму шляху змагання ісці
І сцяг вызваленчы высока нясці,
І веліч, і сілу працоўнага люду
Дапамагчы зразумець усім рабочым,
На панскія здзекі, хлусню адкрыць вочы.
Жадалася нам, каб усе зразумелі,
Што пралетарый двадцатага веку
Дарогу адкрыў да дабра чалавеку,
Што разадзьмуў горан новай эпохі
І гісторыі новы пачатак паклаў, -
На Ўсходзе людзей з кайданоў раскаваў.
Цяпер ён рве ўсюды прыгнёту аковы
І крочыць да волі ў дзень светлы шчаслівы,
У змаганні здабудзе ён правы свае,
Бо ўласнымі сіламі лёс свой куе.
Амаль цэлы тыдзень чытаў хлопцам кнігі,
Усе вечарамі, гадзін па чатыры.
І гэтымі днямі не меў нават часу
Пабачыцца з Зосяй каханай сваёй.
Сягоння, як толькі гудок абвясціў
Канец на заводзе рабочага дня,
Пусціўся я подбегам на прахадную,
І тут, каля брамы, сустрэла яна.
За руку ўзяў мілую і пайшлі разам
Да хаты яе ў час ціхі змяркання
Па снезе іскрыстым, скрыпучым, марозным,
Гаворачы шчыра пра наша каханне.
- Я гэтыя дні кожны вечар чакала
Цябе, Саша любы, а ты не прыходзіў…
У самотнасці моцна адна сумавала,
І тут не ўдалося сустрэць на заводзе.
- Прабач, мая ластаўка, важная справа
Была вечарамі ўвесь гэты час.
Усе актывісты працуюць руплiва

Цяпер, і даюць даручэнні для нас.
Яшчэ даручылі, каб даў табе кніжак,
Рабочых газет для чытання дзяўчатам.
Няхай яны знаюць усю праўду таксама,
Хай волю гартуюць змаганнем заўзятым.
Мы йшлі, паглядаючы ў зорнае неба, -
Пра вернасць у каханні расказваў я ёй.
Хоць шмат нам для шчасця было яшчэ чаго трэба,
Я ў думцы складаў песню мілай сваёй.
Прасілася песня сама ў маё сэрца
Ў той вечар цудоўны прыгожай зімы,
Матывам у душы пачала адклікацца,
Калі пачуццямі ядналіся мы.
А потым, прыйшоўшы ў Зосіну хату,
Аб створанай песні каханай сказаў,
І хутка яе на лісточак паперы
Вось гэтымі словамі я запісаў:

**У зімовы вечар**
**(песня)**

*Снег самацветам іскрыцца*
*Зорнае неба ўгары.*
*Люба табой мілавацца*
*Ў гэтай вячэрняй пары.*

***Прыпеў:***
*Шляхам жыццёвым ісці з табою*
*Радасна будзе, мілая, мне.*
*Няхай навечна светлая доля*
*Шчасцем і воляй нас ахіне.*

*Гэты мароз не пужае, -*
*У нас жа гарачая кроў.*
*Юныя сэрцы нам грэе*
*Верная наша любоў.*

*Дзён я апошніх без гора*
*Разам хачу дачакаць,*
*У шчасці заўжды цябе шчыра*
*Моцна бязмежна кахаць.*

*У небе глыбокім таемна*
*Ясныя зоркі блішчаць,*
*Як я жадаю бязмерна*
*Там і сваю адшукаць.*

*Хочацца век любавацца*
*Чарамі кос і вачэй,*
*Злёгку рукой дакранацца*
*Да тваіх дзіўных плячэй.*

*Слухай, каханая, б'юцца*
*Сэрцы ў адзін тон у нас.*
*Каб не прышлося растацца*
*Нам у жыцці на ўвесь час.*

*Шчасця прашу я ў долі:*
*Дай яго шчодрая нам,*
*Каб дачакаліся волі*
*І не служылі панам.*

***Прыпеў…***

У поцемках з мілай сядзелі мы доўга
І гаварылі пра розныя справы.
Потым сказаў найдарожшай красуні,
Што заўтра ёй кніжак, газет прынясу,
Якія чытаць яна будзе сяброўкам
Сваім па сумеснай рабоце ў шліферні.
Зося і раней чытала газеты
І кнігі цікавыя пра барацьбу
Народу працоўнага супраць прыгнёту,
Аб праўдзе і крыўдзе ў жыцці разумела,
Пісьменнай была і свядомай дзяўчынай.
Раптоўна яна прыпыніла размову
І патанула ў роздум глыбокі,
Знянацку з абразай і гневам у вачах
Сказала мне сумна: "Паслухай, каханы,
Пра подласць, якая вядзецца ў цэху
Ў нас на працягу астатніх гадоў.
І чыніць яе наш начальнік-залётнік,
Які бессаромна дзяўчат спакушае.
Ды ён жа жанаты і мае дзяцей,

Гадамі ўжо й не такі малады,
Але не сароміцца чэсных людзей,
Нямала й дзяўчат ён давёў да бяды.
Сколькі жыццё без пары самагубствам
Скончыла іх цераз злога падпанка, -
Цяжарнасцяй подлай адных зганьбаваў
І налажыць на сябе змусіў рукі.
Іншым прыйшлося памерці заўчасна
З-за позніх і цяжкіх абортаў у бальніцах.
Ёсць і такія, што ганьбу сцярпеўшы,
У самотнасці горкай без шчасця жывуць,
Цяпер мацярамі застаўшыся з дзецьмі,
Заўсёды спакусніка злога клянуць.
Бо гэты нікчэмны халуй фабрыканта
Падманваць дзяўчат вельмі спрытны мастак.
Калі ўжо пачне прыставаць да каторай,
Нельга ад яго адхрысціцца ніяк.
Спачатку дзяўчыне купляе гасцінцы,
А потым, як гэта яму не паможа,
За подлы, злачынны ўжо спосаб бярэцца,
Каб толькі свайго ліхадзейства дабіцца
Па ўсякаму будзе ён страшыць дзяўчыну:
- З завода магу цябе хутка прагнаць!
У працы тваёй знайду заўжды прычыну,
Каб потым цябе на звальненне падаць!..
Ды ведай, што маю я поўнае права
За дрэнную якасць зрабіць адлічэнне,
І пад час выплаты аштрафаваць,
Як будзеш далей ты ка мне непрыхільнай.
А калі будзеш гарнуцца сардэчна
Ты да мяне, дык заўсёды да працы,
Пастаўлю такой, каб была найлягчэйшай
І чыстай, і болей змагла зарабляць."
Сціснуўшы зубы, я слухаў пра гэта,
А ў сэрцы нянавісці страшны агонь
Мацней і мацней у мяне разгараўся
І ад абурэння кроў закіпела.
Здавалася, быццам буран у галаве
Забушаваў у мяне навальніцай.
Нянавісць, абурэнне і помсты гнеў
Прымусілі загаварыць мае вусны:
- Не будзем цярпець болей гэтакі здзек

І перад крыўдай у маўчанні згінацца!
Усюды працоўны ўстае чалавек
За шчасце сваё і за волю змагацца!
Да перамогі ісці ў смяротных баях
Мы будзем самаахвярна, заўзята.
За ганьбу і гора дзяўчат і жанчын
Чакае паноў і падпанкаў расплата.
Але каб і сёння пасмеў за табою
Пракляты залётны распуснік цягацца,
Дык я не глядзеў бы, што будзе са мною,
З жыццём дапамог бы яму развітацца.
Каб стала вядома ўсім пра злачынства,
Якое чыніў самадур-ліхадзей,
Каб бачылі людзі, што чэснасці ў панства
Ў сто разоў меней ад бедных людзей.

VIII

Гудзе ў лесе за Тарфяркай гоман,
Як знак таго, што там сабраўся люд.
Шуміць і пеніцца ў гневе Нёман
Ад тых нясцерпных беднаты пакут.
Ён за людскую крыўду раззлаваўся
На поўны здзеку трыццаць шосты год.
Непадалёку ад яго сабраўся
Са шклозавода амаль увесь народ.
Сышоўся ён, каб вырашыць пытанне,
Як ліха цяжкае перамагаць,
Як супраць яго выйсці на змаганне,
Каб больш няволі, уціску каб не знаць.
- Сябры! Не будзем траціць многа часу!
Хутчэй пачнём да справы прыступаць.
Да забастовачнага камітэта,
Сягоння членаў трэба выбіраць!..
Давайце зараз сходу прапановы,
Каго нам выбраць са сваіх радоў
Такіх, што пастаяць за нашы справы,
І кожны будзе да ўсяго гатоў. -
Адам Манюшка голасам сталёвым,
Ударыў так, што ўсіх нас ускалыхнуў.
У напружаны момант чакання
Я голас Касцюкевіча пачуў:

- Вось, Стэфановіча вам прапаную, -
Аўтарытэтны гэта чалавек,
Рэвалюцыйны вопыт добры мае
І скаштаваў хлусні, прыгнёту здзек.
Змагаўся ён яшчэ ў дваццаць дзевятым
За лепшы для шкларобаў нашых лёс,
За праўду зачыняўся ён за краты
І шмат за свой век гора перанёс!
- Сямён Лысёнак - варты, каб абралі
Яго ў баявы наш камітэт!
Хоць змагара ў кіпцюрах трымалі
Паны, але стаіць ён за народ
Працоўны, і сказаць мудра ўмее
Ў абарону нашых кроўных праў! -
Сцяпан Брыль выгукнуў на поўны голас.
- Сяргея Бондара як барацьбіта
Старога, што прайшоў цераз турму
І навальніцы баявыя, менавіта -
Праз рэвалюцыі і кожную вайну! -
Абрэмскі Вітольд голасна сказаў
І паказаў рукой на ветэрана,
Які каля Нядзвецкага стаяў.
Усе ў адзін голас выгукнулі - згода!
І кожны руку дагары падняў.
Павагу меў ад усяго завода
Сяргей Антонавіч, як бацька быў
Для маладых, заўжды даваў падтрымку.
За дабрату яго кожны любіў.
І яшчэ некалькі імён назвалі
Разумных хлопцаў, смелых, баявых.
Аднагалосна ў камітэт абралі
Прадстаўнікоў давераных сваіх.
Услед за гэтым выступіў з прамовай
Дамбінскі Гэнрык - мужны камуніст.
Ён аб'явіў вайну ўладзе суровай
Як смелы барацьбіт і журналіст.
Шкада, што так загінуў вельмі рана,
Пражыўшы толькі трыццаць тры гады…
У Ганцавічах быў ён расстраляны,
Да рук фашысцкіх трапіўшы тады.
Быў месяц жнівень у сорак першым годзе,
Калі крывавы кат яго забіў.

Жыць у памяці людской вякамі будзе
Ён, бо працоўным шмат дабра зрабіў.
- Змагайцеся, таварышы, бо з вамі
Ідзе ў адным шыхце рабочы клас
Усёй Польшчы, і ўзыдзе над намі
Зара той, справядлівасці для нас
Жаданай, што Кастрычнік даў народам,
Якія дружнаю сям'ёй жывуць
І ў шчаслівы новы свет паходам
Вялікім шляхам ленінскім ідуць! -
Нас заклікаў Дамбінскі палымяна
І да змагання сэрцы запаліў.
Путрамант Ежы выступаў таксама,
На злы падман нам вочы адкрываў,
Драпежнасць панскую і ненасытнасць
Па-баявому палка выкрываў.
Жадалі нам яны на развітанне
Закончыць забастоўку перамогай,
І абяцалі, што ў дні змагання
Заўжды прыйдуць к нам з дапамогай.

* * *

Расходзіўся народ ужо па хатах,
Акрылены імкненнем вызваляць
Сябе з ярма, а хлопцы і дзяўчаты
Бадзёра песню пачалі спяваць:

*- Ад веку мы спалі -*
*І нас разбудзілі.*
*Мы знаем, што трэба рабіць.*
*Патрэбна свабоды, зямлі чалавеку*
*І трэба буржуяў разбіць!*
*Што ж гэта за марная*
*Доля такая? -*
*Без хлеба, без грошай працуй...*
*Усюды ганяюць, усюды смяюцца,*
*Што проста, хоць крыкні - ратуй!*
*Смяюцца над намі*
*Багатыя людзі, -*
*Здаецца, панамі іх зваць.*

*Мы доўга цярпелі,*
*Цярпець больш не будзем*
*І пойдзем усе долю шукаць.*
*Устанем мы дружна*
*З касамі, з сярпамі,*
*Прагонім з зямлі багачэй!*
*Няхай нас асыплюць*
*Палямі, лясамі -*
*Грамаду працоўных людзей!*

А лес гучаў ад дружнай нашай песні,
Што звонка па-над Нёманам плыла.
За праспяванай Касцюкевіч Ніна
Ўжо запяваць другую пачала:

*- А хто можа ў сэрцы балакаць,*
*Дайце з гора хоць песню спяём.*
*Хоць прыходзіцца часам заплакаць*
*У жыцці паднявольным сваём.*
*Параслі, як дубы сукаваты,*
*Не ўмеем чытаць і пісаць.*
*Мы заглянем у курныя хаты,*
*Каб аб крыўдзе ўсю праўду ўзнаць.*
*За падаткі забралі карову,*
*Каняжыну за доўг пан забраў.*
*Без каня ж - ні жыцця, ні работы, -*
*Поп цвярдзіць - гэта бог пакараў…*

І мы спявалі з Зосяй натхнённа
Ў агульным хоры, ідучы між дрэў.
На бераг Нёмана ішлі калонай,
А рэха ў даль разносіла наш спеў.
Вярнуліся мы позна з ёй дадому,
Аднак я з мілай трохі пастаяў.
І к тварыку каханай дарагому
З пяшчотным пацалункам прыпадаў.

* * *

Назаўтра, у нядзелю, зранку дома
Чытаў газеты і вершы пісаў.

А потым Касцюкевічу старому
Змест "Маці" Горкага пераказаў.
Удзень сябры сышліся на размову, -
Пагаварыць было ў нас аб чым.
Дух паднялі ўчарашнія прамовы,
Улілі парыў імкнення маладым.
І ўзмацнілі ў поспех веру нашу,
Гатоўнасць, еднасць усіх змагароў,
Бо крыўда й зло паранілі нам душу
І распалілі гневам да паноў.
Калодка Фёдар разгарнуў мой сшытак
І праглядзеў напісанае там.
Івану Рымжы паказаў і кажа:
- Хай Саша вершы прачытае нам.
Нязручна стала і прыемна разам,
Раней іх не чытаў для слухачоў.
І цераз хваляванне не адразу
Змог прачытаць свой "Заклік" для сяброў:

**Заклік**

*Слухай наш заклік, бяздольны рабочы! -*
*Уставай і сялян за сабою вядзі!..*
*Усе, хто прыгнёту цярпець больш не хоча,*
*Смела за намі ў калонах ідзі!*
*Дружна выходзьце з панурых заводаў,*
*З вясковых гаротных пахіленых хат.*
*Выйдзем змагацца за светлую долю,*
*Каб знішчыць нам гэты нявольніцкі лад.*
*Годзе драмаць нам у цемрадзі ночы,*
*У муках стагнаць пад нясцерпным ярмом!*
*Выйдзем грамадай, заявім рашуча*
*Аб мэце жаданай і праве сваём!*
*Няхай нас распраўай паны не пужаюць,*
*Нас турмамі ім нізашто не спыніць.*
*Мы волю здабыць хочам роднаму краю,*
*І ў роднай старонцы шчаслівымі жыць!*
*Хай грозна і гучна ў вочы тыранам*
*Пратэсты і заклікі нашы грымяць.*
*На бітву за волю святую мы ўстанем,*
*Каб логвішчы подлых паноў штурмаваць!*

IX

Ці прысніўся панам які сон у тую ноч,
Як агонь патухаў зусім у доменных печах, -
Шыхтавальшчыкі выйшлі з свайго цэху прэч,
Пачалі дабівацца правоў чалавечых?
Не, не ведаем мы, што прыснілася ім,
Знаем толькі, што самае сэрца завода
Канчаткова спынілася бы ў мярцвяка
Па настойлівай волі к змаганню народа.
Камітэт перадаў свой загад баставаць,
І шкловарам, шкларобам ён даў указанне,
А за тым неадкладна да іх прылучыць
З цэхаў іншых працоўных усіх на змаганне.
Ахапіла паноў зранку ўсіх мітусня -
Сталі бегаць у гарачцы ад цэха да цэха.
А мы з смехам і злосцю казалі пра іх:
"Не бянтэжыла вас аніяк наша ліха…
А цяпер вельмі ветліва з намі хітрыць
Пачалі, дабрадушнымі к нам прытварацца,
І каб неяк хутчэй подла нас ашукаць,
Тады зноў багацець і над намі смяяцца.
Але болей не будзем верыць мы словам…
Хай паны салаўям не расказваюць баек,
А хай плацяць за працу належнае нам
На адзенне, кватэру і хлеба кавалак".
- Я з цікавасці, хлопцы, зайсці рызыкнуў,
Каб паглянуць на выгляд у цэхі пустыя,
Ды з рабочых нідзе ні душы не сустрэў
І пабачыў усюды там справы благія:
У доменных печах патрэскалі сцены,
Застыла шкломаса, ціха, пуста навокал.
Навеяў мне страх выгляд залы пануры,
Што адтуль паспяшыў да дзвярэй я наўцёкі.
І знячэўку наткнуўся вось тут на паноў, -
Аглядалі яны аварыйныя печы.
Не пачуў ганарыстасці з іхніх размоў,
А прыкмеціў у іх я маркотныя вочы.
Пэўна іх засмуцілі нечаканыя страты,
Бо на ўсё пазіралі яны так жалобна.
Я падумаў: і ў гэты напружаны час
Непакоіцца ім пра наш лёс непатрэбна.

Гэта ўсё, што нам Юзік Мінко расказаў,
Узлавала сяброў маіх усіх яшчэ болей.
- Дзе  вы чулі, авечак каб воўк шкадаваў?
Спытаў Косця Дубок і дадаў: - Не, ніколі!

* * *

Так сядзелі мы разам да позняй пары,
Гаварылі, як робяць паны бедным крыўду,
Успаміналіся прыказкі, прымаўкі нам
Пра народную, мудрую, чыстую праўду.
Гэта праўда без фальшы, хлусні ёсць адна,
І навекі існуе для шчасця працоўных.
Багацеям-панам не да смаку яна,
Што прыдумалі праўдаў сабе многа ўмоўных.
- А паны ўсё бачаць, - сказаў Брыль Сцяпан, -
Ды, нажаль, тае праўды ніколі не бачаць,
Што бяда мучыць цяжка гаротных сялян
І рабочых, якія пакутуюць, плачуць.
- Знае бедны аб тым, як працуе багач:
Не сваімі рукамі, - чужымі гарбамі. -
Гэту прыказку Бобрык прыпомніў усім,
Што жыве ў гаворцы народнай вякамі.
Касцюкевіч успомніў таксама адну:
- Рабочы пацее, а пан гэтым тлусцее.
А папы і ксяндзы кажуць нам - беднаце:
- З волі божай заўсёды ён так багацее.
- Цераз дзень або два пэўна будзе загад,
Каб пакінулі працу ўсе на заводзе.
Толькі ў сіле агульнай магчымасці шмат, -
І тады ў барацьбе перамогу здабудзем. -
Катушонак заўважыў і думку падаў,-
Час дадому ісці нам ужо на спачынак,
Бо ўвечары ўсяк сколькі б не разважаў,
Ды параду і яснасць дасць лепшую ранак.
Разышліся сябры, а я ў ложку ляжаў,
І заснуць доўгі час не давала мне думка.
І не больш паўгадзіны было майго сну,
Як у акне здрыганула ад стукату рамка…
Мне пасыльнага голас пачуўся з двара.
Ён гукнуў: "Апранайся хутчэй, цябе клічуць
Неадкладна з'явіцца ў доменны цэх
Не малое начальства - паны інжынеры.

* * *

Ужо спяшаўся я марознай ціхай ноччу
Даведацца, чаго паклікалі паны.
Трывожыла здагадка: ашукаць нас хочуць
Сваёю хітрамудрай выдумкай яны.
Прыйшоў… І тут сяброў сваіх пабачыў многа.
Размову з імі вёў галоўны інжынер.
У гутарцы не шкадаваў ён слоў лісlівых
І закурыць даваў пахучых сігарэт.
Усіх насцярожыла салодкая ласкавасць
Паноў, што сталі падлабуньвацца да нас.
І намі авалодала раптоўна смеласць
Даць панскай хітрасці адпор на гэты раз.
- Чаго, - пытаю, - нас сабралі тут у поўнач,
Не даўшы нават пасля працы адпачыць?
- Прашу вас, хлопцы, тут зрабіць парадак поўны,
І доменныя печы патрэбна загрузіць, -
Сказаў пан інжынер і ветліва дадаў:
- А калі скончыце ўсю працу своечасна,
Я акрамя зарплаты кожнаму асобна
Гасцінцы добрыя ўжо падрыхтаваў.
- А тыя хлопцы, што тут працавалі раней,
Здаецца, праўды дабіваюцца сабе,
Каб болей зарабіць і жыць з сям'ёю лепей. -
Набрыдла, мабыць, ім гібець у такой бядзе.
Я думаю, мы перашкодаю не будзем
Сваім сабратам у імкненні лепей жыць,
Усім працоўным шчасце трэба мець, як людзям…
І вам, паны, прынадай нас не спакусіць!..
Сябры ў момант падтрымалі маю думку
І ў адзін голас заявілі пану так:
- Калі б хто з нас паддаўся вашым угаворам,
Апошні быў бы ён сярод усіх дзівак!
Няма чаго чакаць нам тут з мора пагоды
І слухаць баечкі пра белага вала,
Бо ўсе паны паходзяць з аднае пароды, -
Нікому з уласнай волі не дадуць дабра!
Хадзем дадому, ды паспім да ранку трохі,
І так нам змарнавалі амаль цалкам ноч.
Напэўна час і нам таксама прыяднацца
Да смелай барацьбы шкларобаў-змагароў.

Усе мы, чым хутчэй, за браму выйшлі гуртам,
У гневе праклінаючы подлых паноў.
А па дарозе зайшлі ў хату да Лысёнка,
Сказаць яму пра ўсё і атрымаць загад.
Адразу навіну мы ад яго пачулі:
- Адбылося ўчора ўночы пасяджэнне
Членаў камітэта, дзе пастанавілі,
Каб і рэшта цэхаў прыпыніла працу
Заўтра, і стварыла пікетныя групы,
Якія навокал нашага завода
Будуць вартаваць тут начамі і днямі,
Каб ніхто з начальства прапусціць не змог
Штрэйкбрэхераў у цэхі з мэтай - забастоўку
Нашу праваліць. Бо ўжо і ўчора
Яны падаліся ў вёскі на вярбоўку
Такіх, якіх вельмі лёгка падмануць.
Але сябры нашы выйшлі на сустрэчу
І зманіць падпанкам іншых не дадуць.
А вы, хлопцы, ранкам прыходзьце ў завод, -
Дае Сямён загад і так тлумачыць нам:
Усе групы па месцах расставіць заўтра трэба,
Заданне кожнай даць, каб вартавала там.

X

Натоўпам шумным каля прахадной
Сабраліся з дзецьмі ўсе жанчыны,
Бо кожнай захацелася самой
Пабачыць, як бастуюць іх мужчыны,
Сыны і дочкі стаяць за сваё
І шчасце лепшае, і справядлівасць.
З аблічча кожнага свеціць у іх
Рашучасць вялізарная і смеласць.
Перажывала асабліва тут,
Каб зла не скоіла яе дзіцяці,
Як будзе ўлада бараніць паноў,
За дочак і сыноў кожная маці.
Не думалі расходзіцца яны,
Хаця мароз быў і павечарэла, -
Лічылі, што прысутнасцю сваёй
Бастуючым маральна дапамогуць.
Смелыя заводскія дзяўчаты -
Атрад працоўнай нашае кагорты,

Нароўні з намі сталі ў адзін шыхт
Змагацца стойка, мужна і ўпарта.
Замоўкла і заглухла ў цэхах
Цяпер ва ўсіх - не чутна нідзе гуку.
Мы ўсе рашылі стойка вымагаць
Патрэбнай платы за цяжкую муку.
Бо што гэта за праўда ў паноў -
Нельга па-людску жыць за працу людзям, -
Багатства, роскаш за гультайства тым,
Хто век мазоліць працай рук не будзе.
І мы вартуем пільна дзень за днём,
Змяняючы патрульныя пікеты,
Ад ліхадзеяў справу сцеражом,
Каб не ўчынілі нам яны брыдоты.
Ля ўсіх праходаў стаіць наш дазор,
А патрулі пільнуюць агарожу,
Каб дзе чыноўнік дзіркі не зрабіў,
Якой штрэйкбрэхераў правесці зможа.
І на шляхах мы групамі стаім,
Навербаных усіх перапыняем.
Расказваем змагання мэту ім,
Вяртацца ў свае вёскі прапануем.
Яны з паўслова разумеюць нас,
Што ў змаганні шкодзіць нам не трэба,
Бо знаюць, што ў прыгнёту жорсткі час
Мы мусім дабівацца правоў, хлеба.

* * *

Праходзяць тыдні, а паны маўчаць
І нам нічога даць не дакляруюць,
А сем'і нашы сталі галадаць…
Заводчыкі ж падман хітры рыхтуюць.
Пабачылі яны, што не змаглі
Штрэйкбрэхераў даставіць да завода,
І прыдумляць падступна пачалі
Інакшы спосаб на падман народа.
А мы ўзяліся хлопцаў пасылаць
На нарыхтоўку хлеба па ўсіх вёсках.
Пачаў нам дар сялянскі прыбываць
З запасаў сціплых на старых павозках.
Прывозілі падводы ад сяброў
Зачэпіцкіх бастуючым падмогу,

Адольваючы між балот, пяскоў
Далёкую і цяжкую дарогу.
Дапамагалі нам сяляне ўсім -
Мукі давалі, бульбы, круп, гароху.
Хоць лішкаў не радзіла ніўка ім,
Апошнім усім дзяліліся патроху.
Ішло ў вёскі шмат з дзяцьмі жанчын
Прасіць чаго-небудзь прахарчавацца.
Жадалі вытрываць ўсе, як адзін,
Каб толькі перамогі дачакацца…

* * *

І вось паны зноў выдумку знайшлі,
Якою раздрабіць хацелі еднасць
Рабочых, каб змагацца не змаглі,
Прыдумалі вось гэтакую подласць:
Навербавалі недзе з сёл людзей,
Прывезлі іх вузкакалейкай многа.
Паны ўжо думалі, што мы цяпер
Не зробім супраць гэтага нічога.
А мы ўсе дружна далі смелы бой,
Каб адстаяць сваю святую справу.
Загарадзілі пуць жывой сцяной, -
Здабыць імкнуліся сваё па праву.
Вёў паравоз тады панскі халуй
І не спыніў яго перад заслонам -
І пахіснулася з людзей сцяна
На вуснах з лаянкаю і праклёнам.
Аднак мы не далі прайсці ў завод
Нікому з шкоднікаў тых несвядомых,
Бо паравозік змусіла спыніць
Адна дзяўчына, што з найболей смелых.
Мы не забудзем, пакуль будзем жыць,
Марыі Мантуш подзвіг гераічны.
І хай нашчадкі ад яе бяруць
Дастойны прыклад і патрыятычны.
Лягла бясстрашна папярок пуці,
Праезд штрэйкбрэхерам загарадзіла.
І ўжо цягнік не змог далей пайсці, -
Перамагла яго змагаркі сіла.
І так змагаліся штодзённа мы

Супроць падступства, подласці няспынна…
І подзвіг першай гераіні зноў
Тут паўтарыла Вайцюшкевіч Ганна.

* * *

Той жар агню, што ў сіле калектыўнай
Гарэў заўзятай верай у вызвалення час,
Узмацняўся нашымі правадырамі,
Што баявою мужнасцю натхнялі нас.
Была гэта плеяда мужных змагароў
І песняроў цудоўных, што будзілі ўсіх
Ідэйным словам скрыўджаных працоўных
І клікалі з няволі вызваляцца іх.
Таўлая, Васілька, Звястуна, Танка
Заўжды верш баявы ў нас дух падымаў,
Подзвіг Прытыцкага самаадданы
Бясстрашнасцю сваёй бязмерна захапляў.
Дамбінскі, Крынчык, Дворнікаў, Маслоўскі
Ды іншыя, што прыбывалі к нам з ЦК
Праводзіць сходы, мітынгі рабочых,
Каб падтрымаць духоўны гарт працаўніка.
Мінуў ужо і май у цяжкім змаганні,
Але ўсё не здаюцца нам ніяк паны, -
Трывожныя лісты і тэлеграмы
Да ваяводы і старосты шлюць яны.
Вяльможных просяць "ратаваць ад чэрні"
Іх лёс з вялікімі прыбыткамі ад страт.
Іх не хвалюе нашае цярпенне
Ад гора цяжкага, якога ў нас зашмат.

* * *

Пачаўся чэрвень, пахмурнела неба.
Траслі яго грымоты летніх навальніц.
Здавалася, злавала, што з-за хлеба
Пакутам нашым у барацьбе няма граніц.
Тры месяцы бастуем мы цярпліва,
І ўсё стаіць, пустуючы, наш шклозавод.
Надзею песцім, што будзе шчасліва
Жыць хутка без паноў зняволены народ.
Нас захапіла ўсіх святая справа

Здабыць жыццё належнае за працу нам.
Ніхто тады не думаў, што расправа
Рыхтуецца ганебна стойкім змагарам.

* * *

Пад'ехалі да нас у адзін туманны ранак
У машынах легкавых дзяржаўныя чыны -
Пан ваявода і староста з цэлай світай
І зубы замаўляць нам пачалі яны:
"Панове роботніцы, цо вы хцэце од нас?..
Вас вельмі многа ёсць, каб задаволіць усім.
І працадаўцам вашым забяспечыць цяжка
Патрэбнасць вашую. Тады не хопіць ім
Іх сродкаў на свае жыццёвыя расходы.
Змірыцца трэба са становішчам такім!"
Малоў пан ваявода хітра, крывадушна
Сваім брахлівым дэмагога языком.
І раптам нашы хлопцы, як у адказ на гэта,
Перадалі адзін другому па сакрэту:
- Давайце ваяводзе, каб байкі не баяў,
Рабочай праўды нашу песню заспяваем:

**Песня**

*Станем, таварышы, смела да бою!*
*Вольную працу здабыць ужо час.*
*Мы заваюем шчаслівую долю,*
*Каб у ярме не душыў ніхто нас!..*
*Пара згуртавацца нам у атрады,*
*Косы сталёвыя ўсім нагастрыць,*
*І з імі адважна на барыкады*
*Йсці крывасмоктаў бязлітасна біць!*
*У бітвах правы мы людскія здабудзем*
*Творча для шчасця свайго працаваць.*
*Роднай старонкай працоўныя людзі*
*Будуць тады без паноў кіраваць.*
*Траціць не трэба дарэмна нам часу,*
*І хутчэй весці змагацца народ!*
*Скінуць спрадвечныя путы прымусу*
*Смела выходзьце ў апошні паход!..*

* * *

Збянтэжыла вяльможных баявая песня,
Што аглушыла іх, як з неба моцны гром.
Спярша пужліва вылупілі на нас вочы,
А потым кінуліся да машын бягом…
Раптоўна пасля песні з лесу гул пачуўся,
Бо хтосьці з панскіх халуёў падаў сігнал.
Жандарскі конны эскадрон сюды імчаўся,
І наляцеў на нас, як ураганны шквал.
За ім і паліцэйскіх цэлая калона
Прагналася, бы зграя шалёных сабак.
На раварах і кожны з карабінам,
Багнэтам ці шабляй. Узброіліся так,
Быццам на вайну йшлі, як тыя салдаты
Ваяваць на фронце, бараніць Айчыну.
А яны - паганцы распраўляцца сталі
З намі, што не хочам гнуць дарэмна спіну
На паноў драпежных і нелітасцівых,
За тое, што хочаш сабе дзён шчаслівых
Для жыцця дабіцца, каб нам справядліва
Аплочвалі працу і давалі права,
Каб заўсёды дбала пра ўсіх нас дзяржава.
І вось яна падбала, каб на нашых спінах
Нагайкаю жандар і гумай палісмен
Па ўсіх параграфах і па ўсіх раздзелах
Бяздушна напісаў звярыны свой закон.
Каля васьмі дзесяткаў нас загналі ў Ліду,
У турму, за гэта, што па-людску хочам жыць,
Што вытрываць мы не змаглі панскую крыўду,
Сурова сталі катаваць нас і судзіць.
Вось як кіруюць багацеі-дэмакраты,
І як яны жадаюць аб працоўных дбаць:
Хто прагне шчасце мець, таго садзяць за краты,
Каб з пакорных працы прыбыткі набываць.

**Эпілог**

У камеры сяджу, суда чакаю…
На допыты вадзілі ўжо сем разоў.
За цэлы месяц толькі раз пусцілі
Пабачыцца са мною ў турме бацькоў…
Гадзіны, як гады, мне ў адзіночцы

Паўзуць і прыгнятальны смутак валакуць.
І думкі аб разгроме забастоўкі
Мне болем рэжуць сэрца, не даюць заснуць.
І часта так было, што ў самоце
Я сам з сабою дужа палка гаварыў,-
Сварыўся, пагражаў панскай брыдоце,
Цвярдзіў, што не задушаць к волі наш парыў.
І вось сустрэў, нарэшце, на прагулцы
Па забастоўцы сябра - Васіля Брыля.
Ён мне сказаў, што бачыў, як хадзіла
Тут сёння, ля турмы, каханая мая…
Вярнуўшыся ў камеру, прасіў я
Наглядчыка, начальству просьбу далажыць -
Дазволіць пабачэнне з мілай Зосяй,
Бо прагнуў з ёй сустрэцца і пагаварыць.
Але ніхто з начальства не дазволіў
Дзяўчыну прапусціць пабачыцца са мной.
А сэрца рвалася, як птушка з клеткі,
Хоць на хвіліначку к каханай дарагой…
І прымітыўны стол негабляваны
Пачаў паціху да акна перастаўляць,
Каб цераз той квадрат закратаваны
На вуліцы сваё каханне адшукаць.
Да вуліцы не болей пяці метраў
Было ад гэтай турэмнай сцяны.
Мяне замкнулі на паверх чацвёрты
Турэмшчыкі, турботныя апякуны.
Стаю, сачу ўпарта з паўгадзіны…
Ажно гляджу, - знаёмы тварык мільгануў.
І сэрца стала біцца ў хваляванні, -
Не помнячы сябе, я Зосеньку гукнуў.
Яна прыйшла, напроці акна стала
І горка залілася буйнаю слязой.
А я прашу, каб плакаць перастала,
Жартоўна разагнаць хачу маркоту ёй.
- Не плач, каханая, і наша свята
Прыйдзе да нашых хат. Мы выйдзем сустракаць
Яго. І прыгнятальнікаў праклятых
За мукі цяжкія свае будзем караць.
Усе фабрыкі, заводы і ўсе землі
Ў дармаедаў гэтых у той час адбяром,
І поўнапраўнымі гаспадарамі
Ў старонцы роднай мы шчасліва зажывём.

На воддалі мы гутарылі доўга,
Аж пакуль сонца не спусцілася зусім.
Сардэчных слоў адзін другому многа
Сказалі мы аб шчырым пачуцці сваім.
Я пажадаў шчаслівай ёй дарогі,
Сказаў, што хутка ў Гуце стрэнемся мы зноў.
Мне жаль было, што змучыць свае ногі,
Пакуль дацягне пехатой яна дамоў.

* * *

Я скора павярнуцца спадзяваўся,
І думаў дружбу з ёю шлюбам завяршыць,
Але над намі злы лёс насмяяўся, -
Задумаў нашы сэрцы навек разлучыць…
Тады яшчэ не думаў, што так будзе.
Размова з мілай свежых сіл мне дадала,
І дух імкненняў распіраў мне грудзі
І парываў змагацца супраць усяго зла.
Натхнёны сілай гневу і кахання,
Пра будучыню летуценна разважаў.
І з думкаю пра волю і пра шчасце
Я баявы верш у памяці сваёй складаў:
*Не думайце сабе, магнаты,*
*Над намі вечна панаваць!..*
*Што будзеце заўжды бяспечна*
*Народ працоўны ўціскаць.*
*Ужо мы выйшлі на дарогу,*
*Што ўсіх вядзе да шчасця нас.*
*І верым мы ў перамогу,*
*У людской расплаты грозны час.*
*Наш люд цяпер не адзінокі -*
*На Ўсходзе вольныя браты*
*З болем глядзяць на нашы мукі, -*
*На здзек, бяспраўя беднаты.*
*Са Ўсходу праўды гром ударыць…*
*Ён расцярушыць кайданы,*
*У якіх сягоння мучаць, морадь*
*Нас звяры лютыя - паны.*
*А пасля грому ўсім заззяе*
*Свабоды свет з вежы Крамля, -*
*Абновіцца, памаладзее*
*Наша гаротная зямля…*

# Струмень заходне-беларускай паэзіі

Тое, што захоўваецца ў архівах, музеях заўсёды застаецца загадкай. Для даследчыка той ці іншай дзейнасці - гэта асалода, якая прымушае хоч-няхоч, узяцца да раскрыцця затоенных, ці парой нязведаных гістарычных падзей, лёсаў, прытым, тых, якія маюць адносіны да свайго краю.

Багаты на таямніцы і Лідскі гістарычна-мастацкі музей. Яшчэ ў 2016 годзе на юбілейныя ўгодкі - 140 год з дня нараджэння Цёткі - у Доме Валянціна Таўлая Лідскага гістарычна-мастацкага музея экспанаваўся на выставе "Жыве мая ліра нанова!" забыты бюст знакамітай зямлячкі-пісьменніцы Алаізы Пашкевіч работы вядомага скульптара Андрэя Заспіцкага. І вось, да свайго 60-годдзя Лідскі музей падзяліўся на сайце і ў сацыяльным сеціве шэрагам экспанатаў, якія таксама ўвайшлі ў 60 найбольш значных і захоўваюцца ў яго фондасховішчы. Сярод іх пачэснае месца заняў рукапіс паэмы "Забастоўка" Васіля Струменя. Неабыякава да гэтай навіны аднесліся і лідскія краязнаўцы. У тым ліку і я, навуковы супрацоўнік музея. Аўтар гэтых радкоў і вырашыў узяць на сябе адказнасць - даследаваць твор.

Па-першае, хто такі Васіль Струмень і якія адносіны ён мае да Лідчыны? На гэтае пытанне лепш за ўсіх даў бы адказ Алесь (Аляксандр) Жалкоўскі. Але, нажаль, цяпер толькі яго матэрыялы і шэраг спасылак з інтэрнэт-прасторы раскрыюць нам жыццёвую і творчую дзейнасць паэта. (Глядзіце спіс выкарыстаных крыніц).

Беларускі і ўкраінскі пісьменнік. Так гаворыцца пра Васіля Струменя (сапр. Аляксандр Мікалаевіч Лебедзеў) у рэспубліканскіх энцыклапедычных выданнях і календарах. І гэта справядліва, бо жыццё і творчасць паэта-барацьбіта цесна звязаны з зямлёю і народамі дзвюх суседніх краін. Ён вырас у прынёманскай вёсцы Зачэпічы (зараз Дзятлаўскі раён) [2]. Зачэпічы ў 20-30-я гады жылі пад уплывам нацыянальна-вызвольнага руху, у які актыўна ўключыўся Аляксандр Лебедзеў [4].

Лебедзеў А.М. нарадзіўся 1 красавіка 1914 года ў вёсцы Лявонцьева Калагрыўскага павета, Кастрамской губерні, (цяпер Мантураўскі раён, Кастрамская вобласць, Расія). Бацька пайшоў на фронт, калі Аляксандру споўнілася ўсяго 4 месяцы. У канцы 1915 года ў хату прыйшла трывожная вестка: загінуў бацька. Многа гора выпала на долю маці. Праз 5 гадоў яна паўторна выйшла замуж за Паўла Івашэвіча. Айчым быў родам з Гарадзеншчыны. З дзіцячых гадоў Аляксандр прагна цягнуўся да вучобы. Але ў большасці вёсак былой Заход-

няй Беларусі адсутнічалі спецыяльныя школьныя будынкі, а там, дзе яны існавалі, размяшчаліся ў прыватных памяшканнях. Наглядаліся такія з'явы, калі пачатковая школа праз кожныя 3-4 дні вандравала з адной хаты ў другую. Да ліку такіх належала і Зачэпіцкая, у якой вучыўся Аляксандр. Беларускай мовай ён авалодаў, чытаючы творы Я. Купалы, Я. Коласа і іншых беларускіх пісьменнікаў.

У барацьбе за волю і лепшую долю працоўных Заходняй Беларусі загаварыла сэрца паэта [2].

Дарэчы будзе ўспомніць, што наш вядомы зямляк і пісьменнік Уладзімір Калеснік трапна назваў Зачэпічы "гняздом паэтаў". У 30-х гадах тут плённа тварылі Іван Івашэвіч (псеўданім Пятрусь Граніт), Іван Пышко (Герасім Прамень) і Васіль Струмень (Аляксандр Лебедзеў). І кожны з іх актыўна ўдзельнічаў у нацыянальна-вызвольным руху. Першыя допыты і здзекі ў беларускім пастарунку Аляксандр Лебедзеў зведаў у сакавіку 1930 года, за два тыдні да свайго 16-годдзя. Па даручэнні Івана Пышко, тагачаснага сакратара ячэйкі КПЗБ, Алесь прымацаваў на адным з самых высокіх дрэваў вёскі чырвоны сцяг. Так была адзначана чарговая гадавіна Парыжскай камуны. За гэта камсамолец і паплаціўся. Добра, што пасля тыднёвага ўтрымання пад арыштам юнака аддалі на парукі айчыма і маці. Аднак пазней, у 1932 г. В. Струмень уступіў у КПЗБ [2].

І тут варта зноў вярнуцца да біяграфіі земляка. Змагар, жывучы ў Зачэпічах, а пазней працуючы на бярозаўскім шклозаводзе "Нёман", у 1935 - 1936 гг., шматразова падвяргаўся за сваю дзейнасць пераследаванням з боку тагачасных польскіх уладаў, быў зняволены ў турмах Глыбокага, Ліды, Вілейкі [2].

Вызвольныя ідэі ў той час былі моцныя. Нават на вечарынках, калі дзяўчаты ў згаданых Зачэпічах збіраліся зімовымі вечарамі прасці кудзелю, не абыходзілася без палітыкі. Моладзь любіла спяваць песні "Адвеку мы спалі", "Варшавянка", "Мы - кавалі" і іншыя. Па ініцыятыве актывістаў Таварыства беларускай школы і Сялянска-работніцкай грамады ў вёсках ставіліся п'есы на беларускай мове [1].

Першы верш В. Струменя "Наша доля" апублікаваны ў падпольнай газеце "Малады камуніст" у 1931 годзе, першыя сатырычныя нататкі - у 1932. Да вайны вершы В. Струменя друкаваліся ў "Беларускай газеце" і дадатку да яе "Літаратурная старонка", у газеце "Наша воля" [5]. Затым яго паэтычныя творы змяшчаліся ў іншых беларускіх выданнях Вільні. У іх аўтар пісаў пра цяжкае жыццё і нацыянальна-вызвольны рух у Заходняй Беларусі. У пасляваенныя гады пісьменнік часта выступаў у беларускім і ўкраінскім друку [2].

У 1934 годзе малады паэт зведаў сваю першую творчую радасць: у прагрэсіўным часопісе сатыры і гумару "Аса" быў надрукаваны яго верш [1]. Сатырычныя вершы, фельетоны, вершы-памфлеты, вершы-заклікі - асноўныя паэтычныя жанры В. Струменя ў 30-я гады [5].

Восенню 1936 года па рашэнні падпольнага цэнтра Аляксандр нелегальна адпраўляецца ў СССР, каб там павучыцца і зноў вярнуцца ў родны край, а магчыма паехаць у далёкую Іспанію, дзе ішла грамадзянская вайна. Але задума сарвалася: паблізу польска-савецкай мяжы юнака затрымалі і пасадзілі ў Вілейскую турму. Затым улады спрабавалі перавыхаваць бунтара ў 77 лідскім палку пяхоты Войска Польскага. Ды з гэтага нічога не атрымалася: нескароны рэкрут вёў сярод жаўнераў непажаданую агітацыю [1]. За гэтую актыўнасць ён зноў трапіў у астрог, а дакладней у Лідскую гарнізонную турму [3]. Пасля салдацкай службы, у канцы 1938 года, Васіль Струмень падаўся на Валынь, куды перабраліся, купіўшы невялікі надзел зямлі, яго айчым і маці [1]. А менавіта - у в. Красніца, што на Ровеншчыне [5].

На новым месцы Аляксандр Мікалаевіч з радасцю сустрэў уз'яднанне Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі ў адзіныя нацыянальныя дзяржавы [1]. Менавіта тут ён удзельнічаў у рэвалюцыйным падполлі Заходняй Украіны. [6]. Пасля вызвалення Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі працаваў загадчыкам Рысвянскай (1939 - 1940) і Цыцылёўскай (1940 - 1941) пачатковых школ у Тучынскім раёне Ровенскай вобласці. Адначасова завочна вучыўся ў Астрожскай педагагічнай школе, якую скончыў 22 чэрвеня 1941 года. У гады вайны змагаўся супраць акупантаў у антыфашысцкай групе ў в. Красніца і суседніх вёсках на Ровеншчыне. З 1944 года да верасня 1945 года ўдзельнічаў у баях за вызваленне заходне-ўкраінскіх, заходне-беларускіх і літоўскіх зямель, двойчы быў паранены. Пасля дэмабілізацыі ў 1945 - 1948 гадах працаваў настаўнікам украінскай мовы і літаратуры сярэдняй школы ў г. Кастопаль Ровенскай вобласці. Завочна скончыў Ровенскі настаўніцкі (1949), Львоўскі педагагічны (1953) інстытуты. Выкладаў у сярэдняй чыгуначнай СШ № 9 і адначасова ў вячэрняй чыгуначнай СШ № 3 у г. Ківерцы Валынскай вобласці (1948 - 1952). Працаваў інспектарам раённага аддзела народнай асветы (1952 - 1953), інспектарам школ Валынскага абласнога аддзела ў г. Луцку (1953 - 1954), дырэктарам сярэдняй школы і па сумяшчальніцтве загадчыкам раённага аддзела народнай асветы ў г.п. Лукава Валынскай вобласці (1954 - 1955). Выкладаў украінскую мову і літаратуру, гісторыю і псіхалогію ў сярэдняй школе ў г. Сарны (1955 - 1956), быў загадчыкам аддзела рэдакцыі раённай газеты ў г. Сарны (1956 - 1957), дырэктарам вячэр-

няй сярэдняй школы ў п. Кацярынаўка Сарненскага раёна. З 1957 года - дырэктар сярэдняй школы ў в. Рэмчыцы, з 1959 года - загадчык навучальнай часткі сярэдняй школы ў в. Дыротычы Сарненскага раёна. З 1963 года - выкладчык украінскай мовы і літаратуры ў вячэрняй школе рабочай моладзі, з 1968 года - у завочнай сярэдняй школе г. Сарны Ровенскай вобласці. З 1979 года на пенсіі, займаўся творчай працай. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені, медалямі [5].

Вядома, ён пісаў і вершы, успаміны аб пражытым і перажытым, якія друкаваліся ў многіх выданнях Украіны і Беларусі. Нездарма ён у першай нашай энцыклапедыі названы беларускім і ўкраінскім паэтам [1]. У пасляваенныя гады яго вершы і артыкулы змяшчаліся ў зборніках "Сцягі і паходні", "Дзень паэзіі", "Ростані волі", у абласным і раённым украінскім друку (асабліва - у сарненскай райгазеце "Будзівнік комунізму"). Першы ўкраінскі верш "На жовтневій демонстрації" надрукаваны ў 1956 годзе ў газеце "Червоний прапор". Аўтар мемуараў "За волю і ўз'яднанне" (Лідская раённая газета "Уперад", 1989), "Шляхам барацьбы" (Дзятлаўская газета "Перамога", 1989), "Праз выпрабаванні" ("Гродненская правда", 1989). У 1989 годзе апублікаваў свае ўспаміны ў наваградскай і шчучынскай раённых газетах. Аўтар успамінаў "Цярністы шлях", аповесцяў "Праз выпрабаванні" і "Народныя змагары". Перакладаў з беларускай на ўкраінскую мову. Асобныя яго вершы пакладзены на музыку кампазітарамі С. Вяліцкай, У. Мельнікам, А. Навасадам, Ю. Раманенкам [5].

Жывучы ў блізкім замежжы, Аляксандр Мікалаевіч праяўляў незвычайную цікавасць да роднай яму Беларусі. Часта прыязджаў у Менск, Ліду, Гародню, наведваў дарагія яму з юнацкіх гадоў вёскі. Ахвотна выступаў як у нас, так і на Валыні, у школах. Пра яго вялікую прагу да чалавечых стасункаў можна меркаваць па перапісцы, якая падтрымлівалася больш чым са ста блізкімі яму людзьмі. Вельмі рады быў В.Струмень, напрыклад, увазе да сябе з боку Адама Мальдзіса. Добрыя адносіны меў з Іванам Шамякіным, Максімам Лужаніным, іншымі пісьменнікамі [1].

Аляксандру Жалкоўскаму часта даводзілася мець сустрэчы з Васілём Струменем у 60-80-я гады мінулага стагоддзя [2]. І жывучы на Украіне, Аляксандр Мікалаевіч амаль кожны квартал наведваўся на Гродзеншчыну. Сваім чалавекам ён 6ыў у рэдакцыях Лідскай і Дзятлаўскай раённых газет, акрамя іх друкаваўся ў "Гродзенскай праўдзе", а таксама ў наваградскай і шчучынскай "раёнках". Выступаў у рэспубліканскім друку [4].

Адразу ж з чыгуначнага вакзала Ліды шпарка ішоў у рэдакцыю

мясцовай газеты "Уперад". Кожнага супрацоўніка, творчага і тэхнічнага, лічыў тут сваім прыяцелем [3]. Добразычлівы пагляд вачэй, прыветная ўсмешка, шчырая размова і сціпласць, характарызавалі пісьменніка двух народаў. Прапануючы свае вершы ці ўспаміны лідскай газеце "Уперад", Аляксандр Мікалаевіч не мог схаваць сваёй прыроднай сціпласці (ці сарамлівасці?), гаварыў, а можа, не варта публікаваць, пaглядзіце і рашыце. Цягнула ж чалавека ў родныя яго сэрцу мясціны жаданне сустрэцца з сябрамі змагарнай маладосці, блізкімі па духу і мэтах людзьмі. Такімі, як Ісак Карабельнік і Васіль Камянецкі (Міхась Ліст) з Краснай, Пятрусь Граніт (Іван Івашэвіч), верны паплечнік з Зачэпічаў, Вікенцій Салыга з Феліксава, колішні актывіст Беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы, Сяргей Бондар (Лідскі раён), К. Сцефановіч (Бярозаўка), і з многімі іншымі. І тут жа мяркуе, як і дзе з імі сустрэцца [3],[2].

І такім Васіль Струмень быў заўсёды. Часта наведваючы Ліду, ён не толькі не абмінаў рэдакцыю, а яшчэ спяшаўся ў краязнаўчы музей, у гарадскі і раённы Саветы, у кнігарню і да сяброў. А іх А. Лебедзеў меў не толькі ў Лідзе, а і ў навакольных гарадах і вёсках. З лідзянінам Ісакам Карабельнікам любіў прыгадаць падпольную барацьбу камуністаў Заходняй Беларусі ў Лідскім павеце, з Міхаілам Петрыкевічам у Дзятлаве радаваўся новым экспанатам Музея народнай славы, а з Іванам Івашэвічам з вёскі Зачэпічы, сябрам дзяцінства і таварышам па падпольным змаганні, дзяліўся літаратурнымі навінамі [1].

Шаноўны чалавек з Сарнаў часта начаваў у кватэры Аляксандра Жалкоўскага і дзяліўся ўспамінамі аб даваенным жыцці на лідскай зямлі. З асаблівым пачуццём расказваў пра сустрэчы з Ігнатам Дварчанінам (на адкрыцці ў Дзятлаве яго помніка [3]), Сяргеем Прытыцкім, Піліпам Пестраком, іншымі волатамі беларускага народа, іх польскімі аднадумцамі Ежы Путрамептам і Уладзіславам Бранеўскім. Не здзівіла і тое, калі на ўрачыстасцях з нагоды адкрыцця помніка Ігнату Дварчаніну ў Дзятлава прыехаў Васіль Струмень, інвалід мінулай вайны, які атрымаў на ёй два раненні. "Я не мог не прыехаць, каб не пакланіцца чалавеку з легенды", - прыблізна так сказаў тады мой цёзка.

Увогуле Аляксандр Мікалаевіч вельмі цікавіўся культурным жыццём і літаратурнымі справамі ў Беларусі і на Украіне [2].

У час кожнага прыезду ў Ліду Васіль Струмень заўжды запрашаў мясцовых журналістаў наведацца да яго ў Сарны. Першы раз Аляксандр Жалкоўскі адправіўся туды разам з таварышам па рабоце паэтам Пятром Макарэвічам у сувязі з 70-годдзем пісьменніка. Жалкоўскаму выпаў гонар павіншаваць юбіляра ад калектыву газеты "Уперад" і ўручыць яму прывітальны адрас ад "Гродзенскай праўды",

што было зроблена па просьбе яе рэдактара Аляксандра Богуша, папярэдніка па пасадзе рэдактара газеты "Уперад". А Пятро Макарэвіч прывітаў старэйшага сябра ад імя лідскіх літаратараў.

Пазней А. Жалкоўскі наведаўся ў Сарны з жонкаю і ўнучкай Насцяй. І зноў была радасная незабыўная сустрэча. Аляксандр Мікалаевіч пазнаёміў іх з Сарнамі, а затым угаварыў з'ездзіць у Роўна і Астрог. З любасцю і пяшчотай расказваў шаноўны гаспадар і гід пра гэтыя гарады і іх славутых людзей. Асабліва ўразіў Астрог, утульны і прыгожы гарадок, адзін з першых цэнтраў усходнеславянскай пісьменнасці са сваімі музеямі [3]. З замілаваннем расказваў ён пра жыццё беларусаў на Ровеншчыне [1]. І яшчэ пару слоў пра Сарны і руплівую ды гасцінную гаспадыню Тамару Лебедзеву. Яна частавала нас адмысловымі прысмакамі, а, даведаўшыся пра недамаганні жонкі лідскага журналіста Валянціны Жалкоўскай з хворай нагою, схадзіла з гасцей да знаёмай народнай лекаркі. І, о дзіва, пасля гэтага візіту боль той знік зусім [3].



***На здымку злева направа: Ісак Карабельнік, Аляксандр Лебедзеў (Васіль Струмень), Аляксандр Жалкоўскі. У час сустрэчы ў Лідзе ў 1983 годзе. Фота з архіва А. Жалкоўскага.***

Энергіі і натхненню гэтага чалавека можна пазайздросціць. Помніцца пачатак ліпеня 1982 года. Васіль Струмень толькі што прыехаў у Ліду са сваіх Сарнаў. Перш-наперш зайшоў у рэдакцыю мясцовай газеты "Уперад". Журналісты якраз збіраліся ехаць у Вязынку на свята паэзіі, прысвечанае сотым угодкам з дня нараджэння Янкі Купалы.

- Будзь ласка, - звярнуўся Аляксандр Мікалаевіч на ўкраінскі

манер, - вазьміце на гэты фестын і мяне.

З прыемнасцю згадзіліся. У зафрахтаваным рэдакцыяй аўтобусе часта гучаў зычлівы голас Аляксандра Мікалаевіча: распытваў пра знаёмых паэтаў і журналістаў, расказваў пра цікавыя выпадкі, дэкламаваў вершы ці напяваў вясёлую песню. А яму, заўважу, ішоў тады 69-ты год [1].

А. Жалкоўскі лічыў Васіля Струменя сваім старэйшым братам… Восенню 1992 года ў чарговым пісьме да А. Лебедзева ён папрасіў яго даведацца пра стан магілы пахаванага ў Здалбунаве гаротнага настаўніка-асветніка Кандрата Лейкі, які родам са Слонімшчыны, дазнацца, ці застаўся там хто са сваякоў нашага земляка. Гэты ліст Васіль Струмень чытаў на бальнічным ложку. А 25 кастрычніка таго ж года паэт памёр у сарненскім шпіталі. (Памёр ад інсульту, пахаваны у Сарнах. Апошнюю дату напісаў таму, што ў бібліяграфічным слоўніку "Беларускія пісьменнікі" (том 5), іншых выданнях указаны недакладныя звесткі аб сконе нашага слыннага земляка [3]). Адказала на ліст А. Жалкоўскага Тамара Данілаўна, удава і верная спадарожніца Аляксандра Лебедзева.

Шматлікія сябры Васіля Струменя берагуць і ўшаноўваюць на Гарадзеншчыне памяць пра паэта і цудоўнага чалавека. Апошнім

"ЗАБЫЦЦЮ НЕ НАЛЕЖЫЦЬ"

**Васіль СТРУМЕНЬ: ПЯСНЯР І ЛІДСКАЙ ЗЯМЛІ**

Беларускі і ўкраінскі пісьменнік. Так гаворыцца пра Васіля Струменя (Аляксандр Мікалаевіч Лебедзеў) у рэспубліканскіх энцыклапедычных выданнях і календарах. І гэта справядліва, бо жыццё і творчасць паэта-барацьбіта цесна звязаны з зямлёю і народамі дзвюх суседніх краін. Ён вырас у прынёманскай вёсцы Зачэпічы (зараз Дзятлаўскі раён), тут уключыўся ў нацыянальна-вызваленчую барацьбу за волю і лепшую долю працоўных Заходняй Беларусі, тут загаварыла яго сэрца паэта.

Першы верш В. Струменя "Наша доля" надрукаваны ў падпольнай газеце "Малады камуніст" у 1931 годзе. Затым яго паэтычныя творы змяшчаліся ў іншых беларускіх выданнях Вільні. У іх аўтар пісаў пра цяжкае жыццё і нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі. У пасляваенныя гады пісьменнік часта выступаў у беларускім і ўкраінскім друку. І тут варта зноў вярнуцца да біяграфіі земляка. Змагар, жывучы ў Зачэпічах, а пазней працуючы на бярозаўскім шклозаводзе "Нёман", шматразова падвяргаўся за сваю дзейнасць праследаванням з боку тагачасных польскіх уладаў, быў зняволены ў турмах Глыбокага, Ліды, Вілейкі. Пасля чарговага тэрміну быў прымусова аддадзены ў салдатчыну, у Лідскі 77 полк пяхоты. Але няскоры рэкрут вёў сярод жаўнераў непажаданую для камандзіраў агітацыю. І зноў рэпрэсіі. А ў 1938 годзе разам з бацькамі В. Струмень пераехаў у Заходнюю Украіну.

Мне часта даводзілася мець сустрэчы з Васілём Струменем у 60-80-я гады мінулага стагоддзя. І жывучы на Украіне, Аляксандр Мікалаевіч часта наведваўся на Гродзеншчыну. Сваім чалавекам ён быў і ў рэдакцыі Лідскай раённай газеты.

Добразычлівы пагляд вачэй, прыветная ўсмешка, шчырая размова і сціпласць характарызавалі пісьменніка двух народаў. Помню, як, прапануючы свае вершы ці ўспаміны лідскай газеце "Уперад", Аляксандр Мікалаевіч не мог схаваць сваёй прыроднай сціпласці (ці сарамлівасці?), гаварыў, а можа, не варта публікаваць, паглядзіце і рашыце. Цягнула ж чалавека ў родныя яго сэрцу мясціны жаданне сустрэцца з сябрамі змагарнай маладосці, блізкімі па духу і мэтах людзьмі. Такімі, як Ісак Карабельнік і Васіль Камянецкі з Ліды, Пятрусь Граніт (Іван Івашэвіч), Вікенцій Сальга і Сяргей Бондар (Лідскі раён), К. Сцефановіч (Бярозаўка), многімі іншымі.

Шаноўны чалавек з Сарнаў часта начаваў у маёй кватэры і дзяліўся ўспамінамі аб даваенным жыцці на лідскай зямлі. З асаблівым пачуццём расказваў пра сустрэчы з Ігнатам Дварчанінам, Сяргеем Прытыцкім, Піліпам Пестраком, іншымі волатамі беларускага народа, іх польскімі аднадумцамі Ежы Путраментам і Уладзіславам Бранеўскім. Мяне ніколькі не здзівіла, калі на ўрачыстасцях з нагоды адкрыцця помніка Ігнату Дварчаніну ў Дзятлава прыехаў Васіль Струмень, інвалід мінулай вайны, які атрымаў на ёй два раненні. "Я не мог не прыехаць, каб не пакланіцца чалавеку з легенды", — прыблізна так сказаў тады мой цёзка.

Увогуле Аляксандр Мікалаевіч вельмі цікавіўся культурным жыццём і літаратурнымі справамі ў Беларусі і на Украіне. Помню, наш сябра з удзячнасцю прыняў запрашэнне лідскіх журналістаў разам паехаць у Вязынку, на ўрачыстасці ў гонар стогадовага юбілею Янкі Купалы. Ці такі факт. Аб любові В. Струменя да Украіны і родных яму Сарнаў сведчыць яго сумесная работа з кампазітарам Ю. Раманенкам над "Песняй аб Сарнах". У многіх вершах творцы былі радкі і аб прыгажосці лідскай зямлі і яе людзей.

Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ.

часам яго ўспаміны апублікаваны ў кнізе пра Ігната Дварчаніна, цёплыя радкі пра А. Лебедзева і некалькі яго вершаў змешчаны ў зборніку "На зямлі Дзятлаўскай" [1]. Ці такі факт. Аб любові В. Струменя да Украіны і мілых яму Сарнаў сведчыць яго сумесная работа з кампазітарам Ю. Раманенкам над "Песняй аб Сарнах". У многіх вершах творцы былі радкі і аб прыгажосці лідскай зямлі і яе людзей [2].

Яму нададзена, у прыватнасці, годнасць Ганаровага грамадзяніна Дзятлаўскага раёна. У сувязі з юбілеем паэта-змагара ёсць такая думка. У Зачэпічах, вёсцы - гняздзе паэтаў, як яе назваў Уладзімір Калеснік, пустуе дом, пабудаваны Петрусём Гранітам з дапамогай В. Струменя. Добра было б адкрыць там грамадскі музей мясцовых пісьменнікаў. Паспрыяў бы ён, па меркаванню А. Жалкоўскага, і развіццю аграгарадка [3].

Што ж, думка Аляксандра Жалкоўскага амаль збылася. Калі спасылацца на год змешчанага яго матэрыяла - 2009 - то яна ажыццявілася праз сем гадоў. А менавіта 8 кастрычніка 2016 года. У гэты дзень у вёсцы Труханавічы Дзятлаўскага раёна адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай шыльды на хаце, дзе жыў заходнебеларускі паэт Нікіфар Жальба (Аляксандр Бяленка). А затым у той жа дзень, з вёскі Труханавічы ўсе ўдзельнікі ўрачыстасці пераехалі ў вёску Зачэпічы Дзятлаўскага раёна. У Зачэпічах да Вялікай Айчыннай вайны нарадзіліся і жылі беларускія паэты Гарасім Прамень (Іван Пышко), Васіль Струмень (Аляксандр Лебедзеў) і Пятрусь Граніт (Іван Івашэвіч), якія друкавалі свае творы ў віленскіх беларускіх выданнях. Тут, у цэнтры Зачэпічаў і адкрылі мемарыяльны знак, прысвечаны гэтым траім паэтам. На ўрачыстасці прысутнічалі сябры і сваякі паэтаў. Трэба зазначыць, што шмат намаганняў і сілы да ўшанавання гэтых творцаў прыклалі дзятлаўскі грамадскі актывіст Валерый Петрыкевіч і слонімскі літаратар Сяргей Чыгрын.

Знаёмым з Васілём Струменем быў і лідскі паэт Уладзімір Васько. Дазнаўшыся пра захаванасць паэмы "Забастоўка", ён узгадаў, што яе А. Лебедзеў прывёз у рэдакцыю газеты "Уперад" напярэдадні юбілею Янкі Купалы, а менавіта, на 100-годдзе з дня нараджэння класіка 7 ліпеня 1982 года. З гэтым творам Уладзімір Гаўрылавіч пазнаёміўся ў час паездкі ў Вязынку. Наконт выхаду паэмы ў друк, то У. Васько прапанаваў яму змясціць толькі яе ўрыўкі, так як сам твор вялікі па памеры, або лепш, занесці ў Лідскі краязнаўчы музей на захаванне. Апошняй прапановай і скарыстаўся яе аўтар.

Так, сапраўды, згодна ўспамінам Алеся Жалкоўскага, Васіль



***На здымку справа налева: паэт з Украіны Васіль Струмень, беларускі празаік і аўтар некалькіх раманаў Леанід Гаўрылкін, лідскі паэт Уладзімір Васько. Сустрэча адбылася на святкаванні 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы ў ваколіцах Вязынкі. Фота з архіва У. Васько.***

Струмень часта наведваў не толькі рэдакцыю газеты "Уперад", але і краязнаўчы музей, дзе яго таксама ветліва сустракалі.

Дык, пра што гэты твор? Назва яго - "Забастоўка", аўтар прысвячае яго сваім сябрам-удзельнікам, якія прымалі ў ёй удзел на шклозаводзе "Нёман" у 1936 годзе. А што сцвярджаюць дакументы аб гэтым штрайку.

У кнізе лідскага краязнаўцы Леаніда Лаўрэша "Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг." у раздзеле "Лідчына ў 1936-1939 гг." змяшчаецца шэраг матэрыялаў пра штрайк, які адбываўся ў Лідзе на фабрыцы гумовага абутка "Ардаль" і шклозаводзе "Нёман". У Лідскім гістарычна-мастацкім музеі таксама захоўваюцца ўспаміны ўдзельнікаў і сведкаў, даследчыя працы, газетныя матэрыялы, якія распавядаюць пра гэтую гістарычную на сёння падзею.

З дакументаў вынікае наступнае. У гады панавання буржуазна-памешчыцкай Польшчы шырока быў развіты забастовачны рух. Час-

цей праходзілі адзінафронтавыя забастоўкі. Адна з такіх на тэрыторыі Заходняй Беларусі была арганізавана на гумовай фабрыцы "Ардаль", якая пачалася 30 снежня 1935 года. Патрабаванні забастоўшчыкаў былі наступныя: даць працу ўсім працоўным і прыняць на працу ўсіх раней звольненых, нікога не звальняць за ўдзел у забастоўцы, прызнаць прафсаюзную арганізацыю, павялічыць заробак на 15 %, гарантаваць штодзённы заробак на 20-25% вышэйшы, чым дзейсная дзённая стаўка (днёўкі для мужчын на 2 злотыя 50 грошаў - 3 злотыя, а для жанчын 1 злоты 50 грошаў у дзень), устанавіць 8-гадзінны працоўны дзень. Нягледзячы на ганенні, масавыя арышты, пасадкі ў турмы Гародні, Лукішак, забастоўка працягвалася 103 дні і кіраўніцтва "Ардаля" вымушана было прыняць патрабаванні працоўных.

Што тычыцца шклозавода "Нёман", то яго працоўныя неаднаразова падымаліся на барацьбу за свае правы. Адна з першых забастовак з'явілася вынікам эканамічнага крызіса 1929 года. У той час на шклозаводзе працавала больш за 600 працоўных. Умовы працы былі складанымі: адсутнічала тэхніка бяспекі, заробак быў зусім нізкім і выдаваўся нерэгулярна. 17 траўня 1929 года працоўныя шклозавода арганізавалі забастоўку. Спачатку спынілі сваю працу 240 працоўных, якія абслугоўвалі печы. Потым далучыліся іншыя цэхі. Завод спыніў сваю дзейнасць. Асноўнай прычынай стала затрымка заробку. З мэтай пазбавіцца ад забастоўшчыкаў, уладальнік завода аб'явіў аб іх звальненні і пачаў набор новай працоўнай сілы. У адказ на гэта забастоўшчыкі вывялі са шыхту з чатырох тры печы, у якіх акамянела 50 тон расплаўленага шкла, шкода склала 35 тысяч злотых. На завод прыбыў атрад паліцыі, пачалося збіццё працоўных. 19 чэрвеня быў выбраны забастовачны камітэт і выпрацаваны патрабаванні працоўных: павышэнне заробку на 25%, правесці ў памяшканні завода святло, забяспечыць працоўных спецвопраткай і засцерагальнымі сродкамі, узгадняць з прафсаюзам прыём і звальненне працоўных. 11 ліпеня ўладальнікі згадзіліся задаволіць некаторыя патрабаванні працоўных, а таксама паабяцалі, што пасля пуску завода ў трохмесячны тэрмін увядуць выплату за працу, прапанаваную працоўнымі. Гэта была перамога забастоўшчыкаў. 12 ліпеня забастоўшчыкі прыступілі да работы.

Новая хваля забастоўкі ахапіла шклозавода "Нёман" у 1936 годзе. Аб гэтым і піша Аляксандр Лебядзеў (Васіль Струмень) у сваёй паэме.

2 сакавіка спынілі работу 600 працоўных. Забастоўшчыкі патрабавалі спыніць звальненні, скараціць працоўны дзень і падняць заробак. Забастоўка працягвалася тры месяцы. Актыўнымі яе ўдзельнікамі з'яўляліся Сцефановіч, Лысёнак, Абрэмскі, Макрэцкі, Бուяк і

інш. Актыўна прымалі ўдзел і жанчыны, як напрыклад, Касцюкевіч Ганна Іосіфаўна.

У паэме ўзгадваюцца рэальныя імёны і прозвішчы тых асоб, якія прымалі ўдзел у забастоўцы. А гэта Лысёнак Сямён, Стэфановіч Казік, Манюшка Адам, Сяргей Бондар, Дубок Косця, Мінко Юзік, Брыль Васіль, Брыль Сцяпан, Мілейка Палікарп, Ніна Касцюкевіч, Вайцюшкевіч Ганна, Навіцкі Кастусь, Навіцкі Юзік, Іван Рымжа, Іван Пышко, Вітольд Абрэмскі, Касцюкевіч Ганна, Мантуш Марыя, Сафія Грос, Лена Клюкевіч, Браніслаў Бобрык, Фёдар Калодка, Іван Івашэвіч, а таксама проста прозвішчы Кубіцкі, Пендо, Малішэўскі, Келмуць, Коса, Пятроўскі, Шыманскі, Дзякевіч, Будзевіч, Нядзвецкі, Маслоўскі, Дворнікаў, Крынчык, Вінцулевіч. Згадваюцца віленскія левыя Дамбінскі Генрык і Путрамант Ежы, якія прыязджалі падтрымаць забастошчыкаў і асвятляць ход забастоўкі ў прэсе.




Што сабою ўяўляе рукапіс? Па-першае, змешчаны ён у сшытку “ў клетачку”. Складаецца ён  з 84 старонак, тэкст на якіх змяшчаецца толькі да 69-ай. Прытым, рукапіс мае дзве вокладкі. Верхняя - цвёрдая, паверх яе на наклеенай паперы пазначана (усюды пакідаю арыгінал аўтара - *А.Х.*) сінім колерам ручкі: **"Васіль Струмень. Забастоўка. Паэма."** Другая пад ёй вокладка - мягкая ад звычайнага сшытка і таксама з такім жа надпісам чырвонага колеру паверх. З адваротнага боку маецца надпіс таксама чырвонага колеру: "Сваім сябрам - удзельнікам забастоўкі на шклозаводзе "Нёман" ў 1936 годзе - прысвячаю. Аўтар." Далейшыя лісты “ў клетачку” змяшчаюць сам твор, які складаецца з "Пралогу", дзесяці частак з песнямі "У зімовы вечар", "Адвеку мы спалі…", "А хто можа ў сэрцы балакаць…", "Заклiку" і "Эпілогу".



Трымаючы  і гартаючы ў руках гэтае рукапіснае выданне, звяртаецца ўвага на акуратны і чытэльны почырк. Хоць гэты твор у сшытку і ўзнік (хочацца верыць) з другіх чарнавых накідаў, але ж сустракаюцца і на гэтых лістах папраўкі, зробленыя стрыжнем чырвонага колеру і графічным алоўкам, якія, напэўна знянацку, з'явіліся падчас перапісвання тэксту. Стараннасць у перапісванні заключаецца і ў акуратна закрэсленых радках або ў сцёртых словах, на месцы якіх змешчаны правільны варыянт.

Як вядома, Васіль Струмень - беларуска-ўкраінскі пісьменнік. Беларускую мову ён зведаў у беларускай вёсцы Зачэпічы, а затым украінскую - на Ровеншчыне. У творы гэта і заўважаецца. Бо  час ад часу сустракаюцца словы іншамоўнага паходжання, русізмы, украінізмы і наогул дыялектызмы, ці тыя словы, якія паступова выходзяць з ужытку.

**Спіс выкарыстаных крыніц:**

1. Жалкоўскі, А. Сто сяброў Васіля Струменя / А. Жалкоўскі / / Голас Радзімы. - 1999 г. - 1-8 красавіка

2. Жалкоўскі, А. Васіль Струмень: Пясняр і Лідскай зямлі / А.Жалкоўскі // Лідская газета. - 2009 г. - 14 красавіка

3. Жалкоўскі, А. Ён Лідчыне, як і Валыні, блізкі (95-год з дня нара-джэння Васіля Струменя)  / А.Жалкоўскі // Лідскі Летапісец. - 2009 г. - № 1-2 (45-46). - С. 29  (спасылка на сайт http://pawet.net/library/history/city_district/data_people/dzieiachy_mastactwau/strumien/Струмень_Васіль.html)

4. http://www.libdyatlovo.grodno.by/tag/strumen-vasil/ (спасылка на сайт ДУК "Дзятлаўская раённая бібліятэка")

5. http://grodnolib.inbel.biz/pages/ublyary-krasavka.html (спасылка на сайт ДУК "Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я.Ф. Карскага")

6. https://be.wikipedia.org/wiki/Васіль_Струмень (спасылка на свабодную інтэрнэт-энцыклапедыю "Вікіпедыя")

7. Чыгрын, С. Струмень. Граніт. Прамень. Творчы і жыццёвы лёс заходнебеларускіх паэтаў з Дзятлаўшчыны / С. Чыгрын // Дзеяслоў. - № 84. - С. 287-293 (спасылка на часопіс https://issuu.com/dziejaslou/docs/dz-84k/287)

8. https://www.turkaramamotoru.com/be/Васіль-Струмень-104109.html (спасылка на пошукавую сістэму)

9. Лаўрэш, Л. "Лідская рэвалюцыя" 1936 г. / Л. Лаўрэш // Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг. - 2017 . - С. 253-274 (спасылка на кнігу http://pawet.net/library/history/

bel_history/_belz/0020/Шэпт_пажоўклых_старонак._Лідчына_ў_люстэрку_прэсы._1900-1939_гг..html)

**PS ад даследчыка:** Так атрымалася, што ўсе намаганні былі прыкладзены для даследавання паэмы "Забастоўка", а астатнім матэрыялам, якія мелі дачыненне да творчасці В. Струменя не прыдавалася ўвага. Але пасля даследавання твора стала вядома, што ў фондах Лідскага гістарычна-мастацкага музея захоўваецца архіў Васіля Струменя, які папаўняўся яшчэ пры жыцці самім паэтам. Гэта сшыткі з рукапісамі вершаў і аўтабіяграфічнымі звесткамі, газетныя выразкі з творамі і яго артыкуламі, пісьмы і паштоўкі, адрасаваныя для супрацоўнікаў Лідскага краязнаўчага музея, а таксама рэдкія фотаздымкі з сямейнага альбома паэта і інш. Што ж, мае папярэднія калегі-музейшчыкі адну з задач выканалі - сабралі архіў. Цяпер задача іх паслядоўнікаў - даследаваць яго. У выніку было вырашана: выдаць увесь архіў з фондаў Лідскага музея пад адной кніжнай вокладкай, як пасмяротнае выданне паэта, які меў дачыненне да літаратурнай дзейнасці Лідчыны. Бо вядома, як і Валянцін Таўлай, Аляксандр Мікалаевіч марыў каб выдаць свой томік твораў. А ён так і не выйшаў у свет. Прынамсі, аб падрыхтоўцы да яго паэт піша ў сваіх лістах. Дык аб чым яго творы? Што змяшчае перапіска творцы з супрацоўнікамі Лідскага краязнаўчага музея? Што адлюстроўваюць сямейныя фотаздымкі? Што раскрывае ў сваёй аўтабіяграфіі сам паэт? Адказ на гэтыя пытанні знойдуць чытачы ў пасмяротным зборніку Васіля Струменя.

17 жніўня 2019 года на ўжо традыцыйным зачэпіцкім свяце беларускай паэзіі, які арганізоўваюць гарадзенскія пісьменнікі, з вуснаў аўтара гэтых слоў было зазначана, што зборнік Васіля Струменя выйдзе і прэзентацыя яго адбудзецца тут, у Зачэпічах, у мясціне, якая яго выгадавала і дала магчымасць выйсці яму ў шырокі свет.

***Алесь Хітрун,***
*навуковы супрацоўнік*
*Лідскага гістарычна-мастацкага музея.*



# *Генаэфа Міхаловіч*

Генаэфа Міхаловіч, Геня, дачка Яніны і Міхала.

Цяпер Геня пераехала з Дакудава, дзе была замужам за Мечыславам Ліхарадам, у родную вёску Біскупцы да малодшай сястры Яніны Карабан.

Геня доўга хварэла на сухоты. І цётка Марыя памерла з сухотаў маладой. І бацьку Міхала забіў вясковы бандыт. Геня і Яня выхоўваліся з мамай пры дзеду Юзуку. Аберагаў іх цудоўны абраз.

Калі спалілі Гавейскі касцёл Перамянення Пана, дзед Юзук пайшоў на папялішча і знайшоў абраз Маці Божай Вастрабрамскай з галоўнага алтара. Абраз на дошцы, у глыбокай рамцы, зашклёны, упрыгожаны кветкамі, пацёркамі, вотамі. У нашай Маці Божай прыпаднятыя вейкі, вочы расплюшчаныя. Абраз, які не згарэў разам з касцёлам, павесілі на покуці, і з Вастрабрамскай Маці Божай перажылі вайну, не адну страляніну, хваробы, няшчасці. Калі Геня выходзіла замуж за Мечыслава Ліхарада ў Дакудава, абраз забрала з сабой. Рамка струхлела. Прыйшлося зрабіць новую драўляную рамку. Залатыя зоркі паадклейваліся ад промняў, пагубляліся. Карона, анёлы на скронях, шата, месячык, пацёркі, крыжык на грудзях - захаваліся. Толькі перасталі быць залатымі, таму што ўвесь аклад, зоркі, промні, сонейка, анёлкі, карона і маладзічок былі выраблены з ды-



хты і пазалочаныя. Вынаходлівы мастак ствараў гэты цуд! Абраз тутэйшага наіву! Сёстры мае церпяць хваробы старасці, Геня слепне, а Маці Божая ўглядаецца на іх цярпенне, аберагае іх.

Нашы маці, родныя сёстры. Браніслава, Марыя і Яніна. Мы жылі Загасцінцам (так не па правілах мовы называліся нашыя выселкі).

Нас, стрыечных сёстраў, засталося чацвёра: Францішка Жыбер - дачка Браніславы і Вінцэнта Сымановічаў; Данута Бічэль-Загнетава - дачка Марыі і Яна Бічэль; Генаэфа Міхаловіч і Яніна Карабан - дочкі Яніны і Міхала Міхаловіча. Была яшчэ Рэгіна Супрэн - дачка Марыі і Яна, памерла 5 траўня 2014 года.

Нашы мамы працавалі на сваіх сціплых сялянскіх надзелах, у полі і на лузе, вялі хатнюю гаспадарку, выхоўвалі нас і святкавалі святыя дні. Адзінае, што маглі дазволіць сабе пасля паўдня схадзіць у лес ці на луг, нарваць снапок лекавых зёлак для ўцехі душы. Гэткая карціна стаіць перад вачамі, як цётка Яніна ясна выходзіць з нашага лесу са снапком сардэчніка ці купальніка. Яна ішла ад сваёй хаты да нашай не сцежкай, не гасцінцам, а праз Глінішча, краем лесу, думала пра сваё, малілася, збірала гэтыя лясныя зёлкі і слухала музыку птахаў.

Нашы продкі так уладкавалі свой сялянскі быт, што ўсё жыццё праходзіла ў Божай ласцы. Пачыналі сялянскую працу на полі, на лузе з малітвай і канчалі таксама з малітвай. У нашай вёсцы віталіся з тым, хто працуе, так : "Памагай вам Бог!", "Божа, памажы дажаць да мяжы!" Адказвалі жартам: "Казаў Бог, каб і ты памог!"

Геня Міхаловіч шмат хварэла, частку свайго жыцця правяла на бальнічных ложках. Але не страціла светлай веры ў Бога, у жыццё, у Беларусь, яна мае добры, лагодны характар. Малодшая сястра Яніна Карабан больш эмацыйная, рухавая. Муж Яніны перанёс інсульт і шмат гадоў жыў інвалідам. Цяпер, без мужчыны, Яня трымае ў парадку свой дом, двор, агарод, бегае, лётае. І даглядае старэйшую сястру Геню.

Лежачы ў бальніцах, Геня думала пра сваё жыццё і так укладала яго ў словы. Склала, як склалася. Я запісала яе вершаваны аповед пад дыктоўку, нічога не мяняючы. І прапаную чытачам, стрыечным сёстрам, дзецям і ўнукам, пляменнікам, сяброўкам, сваякам.

Мой сябра, беларускі пісьменнік Уладзімір Дамашэвіч, які выхоўваў маладых літаратараў, працуючы ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" або ў рэдакцыі часопіса "Маладосць", часта казаў так: "Усё, што напісана рукой чалавека, з'яўляецца літаратурай..."

Тут яшчэ важна тое, што ў

творы Генаэфы Міхаловіч захаваная мова вёскі Біскупцы, вёскі, якая была ізалявана ад свету балотам і лесам, ракой Гаўяй, прытокам Нёмана, і Нёманам таксама.

***Данута Бічэль-Загнетава,***
*Гародня.*

# Святая праўда пра ўсё жыццё
## на роднай мове, як размаўляем у вёсцы Біскупцы...

У Біскупцах, вёсцы за магілкамі,
у лесе на горцы дзве хаты стаялі.
У адной жылі мы, з намі дзед і баба.
У другой наша цётка Манька.
Мужа яе, дзедавага сына, на вайну забралі.
Яна адна пяць дзяцей гадавала.
Нялёгкая ёй была з імі мука.
Дзед хадзіў памагаць сваім родным унукам.

На горцы дзяцей было нас нямала.
Яшчэ з Загасцінца да нас прыбягалі.
На горцы гулялі, у класы скакалі...
З пясочку хаткі будавалі.
У лес пабяжым - у хаванкі гулялі.

А як зіма прыйдзе, санкі ў рукі бралі,
Весела смяяліся, у снезе качаліся,
снежкамі кідаліся...
столькі было радасці!
Шчаслівыя, з горкі на санках каталіся.
Унізу, у Масцішчах, возера стаяла -
там у ім мама бяльё паласкала.
З дзедам мы рыбу лавілі,
а ў лесс за грыбамі хадзілі.

Жылі мы тут дружна, хоць небагата,
ну, дзецкага смеху была поўна хата.

Ад нашых хатаў зусім недалёка
касцёл стаяў у садзе Ксяндзоўскім.

Вяскоўцы хадзілі,
маліліся Богу, здароўя прасілі.

Палатняную сукенку і тапкі
мне мама пашыла,
і я ў гэтым да касцёла хадзіла.
Малілася за ўсіх Богу,
да споведзі хадзіла.
Мяне мама, малую, так навучыла.

Дзед мне сплёў харошую карзінку,
я ў яе кветак набірала,
віла вяночак, на галаву клала.
Карзінку з кветкамі праз плячо чапляла.

Кругом касцёла з працэсіяй хадзілі,
Неслі крыж, на ім Распяцце Хрыстова,
за ім харугві з абразамі,
а ксёндз ішоў так хораша убраны, -
ён нёс у руках Гостыю святую,
у Ёй святы Сакрамэнт Цела Хрыстова.

Я яму дарожку кветкамі пасыпала,
кланялася і клянкала...
Усе людзі так хораша спявалі:
"Bondz ze pozdrowiona, Hostyjo zywa!"

А тут вайна прыйшла неспадзявана.
Сталі паяўляцца "белыя" і парцізаны.
"Белыя" да нас забягалі,
страшна крычалі, нам пагражалі.
- Дзе парцізанаў хаваеце? - пыталі.

Не ўспелі выйсці яны за вароты,
а тут парцізаны стаяць на парозе.
- Дзе ўцяклі "белыя"?- у дзеда пыталі.
Яны на харошых конях сюды прыскакалі.
Недалёка ад касцёла
між рэчкай Гаўяй і лесам
у Перакопе сталі...
"Паліць нашу хату і вёску будуць!"- сказалі.

Бо мы парцізанаў хаваем...

Было нам страшна.
Цямнець ужо стала.
Не, мы спаць не лягалі...

Каля нашых хатаў пры лесе
ямы былі накапаны.
Там вяскоўцы на зіму ў іх бульбу хавалі.
У гэтыя ямы мы што лепшае пахавалі.
Самі трасліся, усю ноч не спалі.
А на світанні ў акно застучалі.

- Дзе стаяць немцы? -
парцізаны ў дзеда пыталі.

Тут сама страшна было начала:
парцізаны ўкінулі нас у бульбяную яму.
Самы кулямёт прымасцілі
і хвойкай яго накрылі.
Так доўга і страшна стралялі,
толькі кулі свісталі.

Мы ў гэтай яме са страху чуць не паўміралі.
Страляць перасталі, кругом ціха стала.
Нас з ямы дасталі.
Стомленыя былі парцізаны,
але віду не падавалі.

Мы ім дзякавалі, рукі цалавалі,
што жывыя засталіся,
а яны немцаў прагналі.

Прыйшлі на падворак, умывацца сталі.
Бляшачок з малаком са студні дасталі.
А дзеду каня запрагаць сказалі.
Кончылі мыцца, малака напіліся,
селі на воз, у вясёлым настроі падаліся.

А "белыя" нас не пакідалі,
што лепша - забіраць ужо сталі.

У вёсцы нашага парцізана лавілі,
ён уцякаў, за ім "белыя" гналіся,
ён чараз наш падворак
скокнуў праз плот і ў лесе схаваўся.
"Белыя" нас страшылі,
руж'ё на нас настаўлялі:
- Дзе парцізана схавалі? - пыталі.

Дзед кажа:
- Хлопцы, пабойцеся Бога,
дзяцей не чапайце!
Парцізана ў лесе шукайце.

Ад нашых хатаў зусім недалёка
жыў Бурнос Ігналь з жонкаю і сынамі,
ён быў парцізан, і ўсе гэта зналі.

Прыйшоў з лесу з сям'ёй павідацца...
Яго злавілі, страшна білі, угражалі.
- Дзе стаіць атрад парцізанаў? - у яго пыталі.

Ён маўчаў.
У вачах жонкі і дзяцей яго расстралялі.
Дзеці перапалоханыя былі да смерці,
хутка пахварэлі.
Лячыліся, но маладыя паўміралі.

За нашым гасцінцам недалёка лесу
жыла сям'я парцізана Фёдара Дукі.
Старшая дачка Ніна ўцякла ў парцізаны,
ён не ўспеў, яго расстралялі.

А як хаваць яго везлі,
за ім яго дзеці беглі,
моцна плакалі-галасілі,
да труны іх не дапусцілі.
Страшна папіхалі,
нават развітацца з бацькам не давалі.

Страшныя былі дні
і бяссонныя ночы.

І тут неспадзявана стукаюць у дзверы.

Дзед:
- Хто?
- Адчыняй, мы парцізаны,
вялікую свінню на возе прывезлі.
Дзеду прыказалі,
каб асмаліў і разабраў яе да світання.
Маме прыказалі -
наварыць ім мяса і напячы сала.
Самі нас, дзяцей, з ложка прагналі,
лезці на печ нам прыказалі.
А самі на ложку спаць паляглі.
Як усё было гатова, за стол яны селі -
нават гарэлку з сабою мелі.
Елі хлеб, мяса, сала, водкай запівалі,
а мы, дзеці, з печы на іх цікавалі,
але толькі слінкі глыкалі.
Так нам хацелася мяса і сала хоць трошкі,
но яны не далі ні кусочка.

Наеліся, усё з стала сабралі,
нават наш хлеб з сабою, апошні, забралі.
Усё ў воз палажылі,
сытна паеўшы, далей пакацілі.

А за гэты час касцёл наш спалілі.
Усё ў ім разабралі.
Каму ён мяшаў, я нічога не знаю.

Ад касцёла памяць асталася -
дзед прынёс дахаты
абраз Маткі Боскай Вастрабрамскай,
так ён у нас і астаўся.

Гляджу на абраз, Богу малюся.
Дзецтва ўспамінаю:
было нам на горцы весела.
Но гора і страху нямала.

Адзення не мелі, абутку таксама,

босыя хадзілі, многія галадалі.
Я гэта відзела сваімі вачамі.

У гэты час да нас бяда завітала.
Памёр наш тата неспадзявана.
Тату пахавалі - бяда асталася.
За ім хутка памерла наша баба.
Бабу пахавалі.

Па іх мы плакалі, шкадавалі.
Маліліся Богу. На магілкі хадзілі,
кветкі насілі і свечкі палілі.

Я падрасла і пайшла ў школу.
Маме памагала, пасвіла каровы,
на хлеб зарабляла.
Сяброўкі далей у школу хадзілі.
Я так хацела, мяне не пусцілі.

У сямнаццаць гадоў я захварэла,
палажылі ў бальніцу, я чуць не памерла.
У бальніцы добра мяне даглядалі -
дзевяць разоў з лёгкіх ваду адкачалі.
Уколы калолі, таблеткі давалі.
А як падлячылі, паддуваць сталі.

У бальніцы я доўга ляжала.
Як дахаты мяне адпраўлялі,
лячыцца яшчэ мне доўга сказалі.
Я гэта ўсё выпаўняла,
ну, да сябровак гуляць уцякала.

Сяброўкі гулялі, хораша спявалі.
Я не магла, бо мяне паддувалі.
Выйду ісці дахаты, зайду за вёску -
голасам плачу, Богу малюся.
Божанька даў так, што я акрэпла -
пайшла на работу, сказалі: на ферму.

На ферме кароў я карміла, паіла.
Я іх любіла, добра даглядала.

А малако з усёй фермы ў млячарню адпраўляла.
Патом з-пад каровы гной выкідала.
Была маладая, любіла работу,
думала - больш не будзе ніякіх клапотаў.
А тут дзядзька з млячарні прыехаў з бядою...

Кажа:
- Малако ў нас папалам з вадою.
Я брыгадзіру сказала, ён сказаў:
- Ціха, хай будзе між намі...
Назаўтра сяброўак падпільнавалі,
як яны ваду ў малако далівалі.

Тут пачалася страшна завіруха.
- Гэта ты сказала - сука!
На мяне крычалі, усяляк абзывалі,
умывальнік адарвалі,
крокі адлічылі,
умывальнік у другое месца прыбілі.
Сказалі: мне - да іх не падходзіць,
бо я страшна хвора - набяруцца хваробы.

Ад гэтых плётак я чуць не памерла.
І тут дакторка прыйшла на ферму.
Я ёй расказала...
- Пабойцеся Бога, дзяўчаты! - яна ім сказала.
- Яна ўжо не хвора, і мы гэта знаем,
кароў даіць мы ёй дазваляем.

Сюды хлопец на ферму прыходзіў,
ён мяне ўвечары дахаты падводзіў.
Яны яго запынілі,
ўсяго на мяне нагаварылі.

Ён ішоў у армію, я яго праважала.
Ён быў добры, я яго шкадавала.
Пісаў пісьмы - я іх не палучала,
аб гэтым пазней я узнала.

А тут бяда напаткала -
памёр наш дзед. Ён нас гадаваў,

мы яго, старога, даглядалі.
Мы яго, як бацьку, шкадавалі.
Маліліся за яго Богу.
На яго магілку кветкі палажылі.
І свечкі запалілі.

Асталася сям'я ўжо зусім малая:
я, мама і сястра, яшчэ маладая.

Кінула я ферму і гэтыя плёткі.
І пайшла ў Дакудава
за краўчыху вучыцца да цёткі.

Яе папрасіла, яна не адказала,
так вучыцца я ў яе стала.

Сюды хлопца мы запрашалі,
Бо машынку часта ламалі.
Ён правіў машынку,
да мяне прыглядаўся,
я яго не знала, но ён усё ўсміхаўся.
І тут у сваты прыйшоў неспадзявана.
Пагаварылі -
ён стаў прасіць, каб жонкаю стала.
Ён папрасіў - я не адказала,
но мне дрэнна стала...
На сэрцы стала велька трывога:
Люблю аднога - іду за другога.

Назаўтра нас распісалі,
ён павёў мяне дахаты,
мы жыць з ім сталі.

У гэтай хаце я не панавала,
бо муж піў водку, я слёзы глыкала.

Свякруха бурчала:
- Дзе вашы дзеці?- у мужа пытала.
З-за цяжкай хваробы дзяцей я не мела,
і ад гэтых плётак ізноў захварэла.
Лягла ў бальніцу - жывот разразалі,

а з жывата ваду выбіралі.

У бальніцы я доўга ляжала.
Як вярнулася дахаты, мужа не пазнала.
Ён быў злы, страшна ругаўся,
водкі прасіўся, да мяне кідаўся.

Я да суседзяў ад яго ўцякала.
Вярнуся - ён спіць, я яго не чапала.

А тут бяда да нас завітала.
Захварэла моцна наша мама.
Мы яе шэсць нядзель даглядалі,
яна памерла, мы гэтага не чакалі.

Па маме мы плакалі,
многа слёз пралівалі:
мы яе любілі, моцна шкадавалі.
Маліліся па ёй Богу, на яе магілку
вянкоў многа палажылі
і свечкі запалілі.

Вярнулася дахаты, села ў куточку,
па маме плачу, Бога пытаю:
- Божачка, Божа, за што я заграшыла?
Нікому нічога дрэннага не зрабіла!

І Божанька даў так, што мой мужык
ад водкі прачнуўся,
нібы на другі свет нарадзіўся.

Сталі мы жыць добра, хоць і не багата.
На працу хадзілі, і пражылі
яшчэ дваццаць гадоў у яго хаце.

Ну, бяда нас не пакідала.
Захварэў мой муж...

Я яго шэсць гадоў даглядала.
Стала яму дрэнна, хуткаю забралі.
Ён памёр у бальніцы, мы яго пахавалі.

А бяда мяне не пакідала:
захварэлі мае ногі,
я з палкай хадзіць стала.
Ногі я доўга лячыла.
Ну, неспадзявана
мяне "скорая" забрала.
Палажылі ў бальніцу, усю прасвяцілі,
знайшлі камень, но не ўдалілі.

Вярнулася дахаты.
Прайшло часу мала -
зноў бяда напаткала.
Я захварэла - адкрылася кравацячэнне.
Тры разы на "скорай" у бальніцу мяне клалі,
тры разы пад наркозам мяне ачышчалі.

Вярнулася дахаты - зусім адзінока
і рабіць не магу ўжо нічога.

Тут сястрыца мяне забрала,
і ў яе я доўга не панавала.
Схапіў мяне прыступ, "скора" забрала...

У бальніцу палажылі, месяц пралячылі,
а пасля камяні з жоўцевым пухіром удалілі.
Думала: больш ужо не будзе нічога.
Ну, пасля наркозу аслеплі мае вочы.

Ізноў бальніца.
Сорак дзён пратрымалі,
яшчэ і ў хаце лячыцца сказалі.

Лячуся, капаю вочы, ціха Богу малюся,
бо ўжо кажуць, што я прыдаюся.

- Божанька, Божа! - у Цябе шчыра прашуся,
дай мне смерць шчасліву, на Цябе спадзяюся.



# *Уладзімір Васько*

*Уладзімір Васько нарадзіўся ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Скончыў Гарадзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Працаваў у рэдакцыях шчучынскай (1959-1960), дзятлаўскай (1967-1972) і лідскай (1972-2000) раённых газет. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2007 года. Жыве ў Лідзе. Друкуецца ў рэспубліканскім, абласным і раённым друку. Выдаў кнігі "Прасветленасць" (1981), "На схілах берагоў" (1997), "Кругаварот жыцця" (2011), "Лясная рапсодыя" (2013), "Зігзагі лёсу" (2017), "Энергія душы" (2018).*

## Гняздо паэтаў

*З нагоды адкрыцця знака-каменя*
*траім паэтам ў вёсцы Зачэпічы,*
*што на Дзятлаўшчыне*

Зачэпічы - гняздо паэтаў.
І на мяне, нібы камета, мэта
звалілася пра гэта напісаць,
набеглыя радкі зарыфмаваць.
Тры постаці - тры мужныя паэты
Прамень, Граніт, Струмень.
Я ўбачыў іх на вулцы сілуэты
ў гэты дзень.
Стаяла восень. Ветру не было.

А наваколле золатам цвіло.
На камені тры надпісы звінелі:
Прамень, Граніт, Струмень.
Пяткевіч з Дубатоўкам прыляцелі
ад гродзенскіх мясцін,
са Слоніма наведаўся Чыгрын.
Я, Суднік і Чарняк прысунуліся з Ліды,
а з Дзятлава прадстаўнікі эліты -
Валера Петрыкевіч, Юргілевіч.
Прамоўцы слоў гарачых безліч
шпурлялі ў натоўп і ў восень.
І мне невыпадкова падалося,
што тут прысутнічаюць з намі разам
Прамень, Граніт, Струмень.
Я ўбачыў іх выразна,
хоць хмаркі па зямлі і слалі цень.
Прафесар з Гродна Аляксей Пяткевіч
казаў, што Івашэвіч і брукар,
і ў школе дзецям выкладаў буквар,
і ведаў прозвішчы ўсіх паэтаў,
і ў Беліцы быў старшынём Савета.
Зачэпічы прыкметна апусцелі,
ды ўсе, хто ёсць, да каменя прыйшлі
і кветачкі жывыя прыняслі.
Стаялі ціха, моўчкі, не шумелі,
і толькі восень гукі-трэлі
лістоты выдавала ўгары,
ды мак таўклі бліз хатаў камары.
Пятрусь Граніт - Іван ён, Івашэвіч.
Бываў я ў яго дома шмат разоў.
Грыбы збіралі з ім каля Зачэпіч
і ў Нёмане лавілі мянтузоў.
І на кватэры ў Максіма Танка
прайшлі да класіка ў працоўны кабінет.
А на вакзале смуглая цыганка
сказала: "Пойдуць вашы кнігі ў свет".
Зачэпічы - гняздо паэтаў:
Прамень, Граніт, Струмень.
Яны любоўю нашаю сагрэты,
іх прозвішчы не затушуе цень.

2016 г.

## Творчасць

Калі не спіцца, падступаюць думкі
і лезуць саматужна ў галаву.
Прымаю, як ад Бога падарункі,
радкі, што з неба хораша плывуць
у белым і чырвоным апярэнні.
Я іх лаўлю антэнай валасоў,
адкідваю ўбок усе сумненні,
сябе не зачыняю на засоў.
Узлятаю з ложка, чысты ліст хапаю
і аўтаручкай верш вяжу, вяжу.
У гэты час пра ўсё я забываю
і толькі чуйна слухаю душу.

*2017 г.*

## Супярэчлівасць

Як улагодзіць звера ў чалавеку?
Як улагодзіць навальнічны гром?
Хто возьме сёння над Зямлёй апеку?
Яна ж для нас пакуль адзіны дом.
Ці нельга абысціся без забойстваў?
Ці так ужо заведзена здаўна?
І хвалямі спяшаюцца наўпроста
ў чужыя землі варвар і вандал.
Ці рады мы за дабрабыт суседа?
Альбо няхай згарыць яго дабро?
Ці аддамо сабаку паўабеда?
Альбо ад аб'ядання лепш памром?
Бываем мы - хоць да душы прыкладвай.
І злосць па гарцу можам раздаваць.
Умеем стукнуць хораша прыкладам,
пасля сумеем лоб забінтаваць.
Ты супярэчлівы, і ён, і я - таксама.
У кім знайсці ўзор ці ідэал?
Калі хто і ўзвядзе духоўны замак,
яго разбураць бомба ці напалм.
Не пудрай засыпаем свет, а сажай.
Каго за гэта трэба дакараць?
Не вер, хто шчыра і з ўсмешкай скажа,
што заўтра ўжо не будзем ваяваць.

*2016 г.*

## За борам, за гаем

Наіўныя хлопцы, Нёман наіўны.
Наіўна цвітуць маладыя маліны.
Наіўная сцежка, наіўныя чайкі.
Наіўныя лозы, наіўныя чаплі.
Наіўнае сонца, наіўныя хмаркі.
Наіўная вёска, наіўныя брамкі.
Наіўная цётка наіўна пытае:
- А што вам, сыночкі, ў грудзях далягае?
- Мы чулі, што дзесьці за борам, за гаем
жыве наша мова, святая, жывая.
Туды вось і крочым ад самага ранку,
ўчынілі сабе марш-кідок, пагулянку.
- А хіба ў горадзе з мовай няўвязка?
Няўжо ваяваць за яе гэтак цяжка?
- Не проста, бабуля, часы не такія,
сказаць вам па-шчыраму, нават ліхія.
- А што там за борам, за лугам, за гаем,
дзе родная мова такая жывая?
- Там хутар пры лесе стаіць адзінокі,
стракочуць зімою і летам сарокі.
Там хатка старая, мохам накрыта,
і студня са зруба, пры студні карыта.
Жывуць там дзядуля з бабуляй удовай,
яны карыстаюцца роднаю мовай.
- Чаму ж вы такія наіўныя, хлопцы,
у белых кашулях зухі-малойцы?
Адважнымі будзьце, як бусел на клёне,
адчуйце сябе змагарамі хоць сёння.
Пастаўце пры хаце з кіямі ахову,
каб там хоць не ўкралі родную мову.

*2017 г.*

## Рыбакі

Яны прыйшлі на возера ўранку,
паставілі на лёдзе сундучкі,
падаставалі з баначкаў прыманку,
нажыўку начапілі на кручкі.
Сагнутыя, нібы крукі са сталі,

сядзелі моўчкі каля трох гадзін,
ды неўзабаве ногі мёрзнуць сталі -
паслалі Панцялея ў магазін.
І той, як малады, не замарудзіў.
Прынёс, паставіў каля ног без слоў.
Яшчэ ніхто й калючак не навудзіў,
дык выпілі за будучы ўлоў.
Спрачаліся, заўзята гаманілі
пра кошт на аргенціну, селядца,
увішна цыгарэтамі дымілі,
раз-пораз паглядалі на хлапца.
Усе былі груваcткія, у сіле,
а гэты хударлявы, бы Кашчэй.
Яны ў яго лагодна папрасілі:
- Схадзі ты ў краму, Панцялей, яшчэ.
І ён пайшоў, ані не замарудзіў.
Прынёс, паставіў каля ног без слоў.
Ніхто з іх і калючак не навудзіў,
дык выпілі за будучы ўлоў.
І зноў паселі каля вузкіх лунак,
чакаючы, мо клюне што ў каго,
ды пах гарэлкай на кручках ласунак -
і рыба ўцякала ад яго.
Пад вечар завіруха ўсчалася …
- Ідзем дамоў, - прамовіў Карп. - Браткі,
рыбалка сёння нам не ўдалася …
Ды што ты зробіш, выпаў дзень такі …

*2017 г.*

**Вайдыла**

Разумным і адважным быў Вайдыла,
як сокал, рыхтаваў сябе на ўзлёт.
Яго Альгерда слава прыманіла
і князя моцны старажытны род.
Славянамі былі Вайдылы продкі.
Дух праваслаўны нёс ён ў жыццё.
Прыгожы, стройны, малады і вёрткі,
ішоў на подзвіг, як на адкрыццё.
Як сябру і найлепшаму дарадцу
Альгерд Вайдыле Ліду падарыў.

Ён змог з сястрой Ягайлы павянчацца,
і ажаніўся, і шчаслівы быў.
Узвёў палац раскошны ў Дуброўні
і кіраваў, і ворагаў крушыў.
Сярод баяраў і вяльмож быў роўны
і справы адмысловыя вяршыў.
Яго дыпламатычнае прызванне
цаніў Альгерд і іншыя князі.
Баярына далі Вайдыле званне,
але Кейстут рашыў яго казніць.
Ды слава аб вялікім нашым продку
гучыць і сёння, як спакон вякоў,
не толькі ў мясцовым асяродку -
ляціць яна з усіх зямных куткоў.

*2017 г.*

**Паэзія-гарэза**

Я сорак год кую жалеза
гарачых рытмаў на стале.
Мая паэзія - гарэза,
і сам гарэзны я, бы леў.
А што ж вы думалі, у святы
здаю Усявышняму залік.
Духоўна стаў упаўне багатым,
у космас думкамі пранік.

*2017 г.*

**Жыві свабодна**

Тапчу зямлю, бы слон ці мамант.
Ды што стварыў на ёй, святой?
Сказаць па праўдзе, вельмі мала,
каб атрымаўся тоўсты том.

Сябе на дробязі разменьваў,
а пра галоўнае не дбаў.
Не сеяў словы поўнай жменяй,
а пакрысе, як жартаваў.

Цяпер каго вініць за гэта?
Ды самаго сябе, сябе.
Раз нарадзіўся ты паэтам -
не будзь як коцік на вярбе.

А распусціся кронай дуба
і на ўвесь свет шумі, спявай,
жыві свабодна, вольна думай,
рукой да зорак даставай.

*2017 г.*

## Геніі

Іх з Неба Зямля да сябе запрасіла.
Іх чыстая сіла па свеце насіла.
Ну, а нячыстая - знішчыць хацела,
ёй геніям пакасць падкінуць карцела:
бы груганнё, навісалі жандармы,
у асабістым жыцці іх распальвалі драмы.
Ды крылы звязаць ім было немагчыма,
бо за плячыма стаяла Айчына.
Пакутуюць геніі: душаць іх каты.
А-у-у! Дзе вы сёння, духу атланты?!
*2018 г.*

## Пабудзь, пажыві!

Здурнела пагода: то дождж, то туман.
Ды і ў грамадстве парадку няма:
тэракт за тэрактам, глабальны падман.
Мы марым аб лепшым, ды, пэўна, дарма.
Даносяцца хвалі пакутаў людскіх
з далёкіх куточкаў планеты Зямля.
Мы сёння ў адказе суровым за іх,
а пазіраем маўкліва здаля.
Чакаем, пакуль і да нас дапаўзуць
гадзюкі, што прагнуць нявіннай крыві.
У свеце паўсюль усплыла каламуць,
хоць душы, як рыбу, таптухай лаві.
А-у, чалавецтва, ты чуеш мяне?!
Хутчэй пра свае хіракіры забудзь!
Не знішчы сябе ў апошняй вайне!
Пабудзь, пажыві, пажыві і пабудзь!
*2018 г.*

## Аптымізм

Аптымізм крыніцай б'е ўнутры.
Пішацца, працуецца выдатна.
Песімізм скуліўся дагары.
На душы памаладзелай здатна.
Хочацца тварыць,
здзяйсняць, спяваць,
на кані скакаць цераз бар'еры,
прыгажунь
сустрэчных цалаваць,
узлятаць арлом на Кардыльеры.
*2018 г.*

## Камар

Як параўнаць нам камара
з бязмежным, велічным
сусветам?
У лесе раніца і лета -
і ўжо кусаць людзей пара.
Во, зноў ля вуха празвінеў
і хоча рэзка ў шыю ўпіцца,
ды я магу і разазліцца
і паказаць яму свой гнеў.
Хоць ад укусу не памру,
рука, як прэс, яго расцісне.
Удар - і амба камару,
і толькі кроў пад неба пырсне.
А я таксама, бы камар,
і мне сусвет не патакае,
пашле аднекуль свой удар -
і лёс не лепшы напаткае.

*2018 г.*

## Крот, краты

Во дзе знайшоў сабе жытло!..
І як ён там не задыхнецца?
Я стаўлю кожны дзень сіло -
злавіць крата не ўдаецца.
Падрыў капусту, вінаград
і ўжо падлез пад памідоры.
Ну ты, падземны супастат,
я разбуру твае ўсе норы!
А тут яшчэ стары сусед
сваіх нагнаў (завёўся з намі) -
і натварылі столькі бед -
больш, чым японскае цунамі.
Ужо ідуць амаль на ты.
І хутка сядуць мне на шыю.
Ах вы, паршывыя краты,
я заўтра шапку з вас пашыю!

*2018 г.*

## Суцяшэнне

Убок так позірк не касі,
што ў іх катэджы, ты без хаты.
У казнакрадаў і багатых
і прыкурыць не папрасі.
І не зайздросць, як я, крутым:
жывуць жа неяк небаракі,
бамжы, бадзячыя сабакі,
ды і бяздомныя каты.
І ты як-небудзь пражывеш.
Не затуманьвай смуткам вочы:
мо зайцам лёс уверх
падскочыць -
і стане параўнаўча лепш.

*2018 г.*

## Пад напеў салавейкі

Завялі пралескі ў вачах,
усмешка пакутлівай стала.
Я часта не спаў па начах:
ой, як ты мяне хвалявала!
Нявопытным сэрцам сваім
цябе пакахаў я бязмерна.
Калі ты стаяла з другім,
мне так станавілася дрэнна.
Мы лёсы звязаць не змаглі
пад лёгкі напеў салавейкі.
Дарогі і нас развялі,
як многіх такіх маладзенькіх.
Паўвеку мінула з тых дзён -
і зноўку звяла нас дарога,
ды я ўжо не той маладзён,
і ты пастарэла намнога.
Завялі пралескі ў вачах,
усмешка пакутлівай стала.
Я часта не спаў па начах:
ой, як ты мяне хвалявала.

*2018 г.*

## Прыгоды бравага пакупніка

Згубіў капшук з грашыма - ну і што?
Не стану ж плакаць я на тратуары …
Калі не вып'ю два разы па сто -
дык я пра гэта і ў сне не марыў.
Па магазінах пахаджу і так -
хоць кволы смутак кропельку рассею.
На жоўтай будцы прачытаў: "Табак" -
і падалося: трапіў у Расею.
У краме позірк каўбасу прыдбаў,
не "дарагую" - дваццаць два за кілю.
Каб тыя грошы, хто знайшоў, аддаў,
то трыццаць грамаў, можа, і купіў бы.
Пасля пакіраваў у новы парк
насустрач дню і ветру-забіяку -
а там сабакаводаў і сабак
больш, чым насення ў галоўцы маку.

*2018 г.*

## Настаўленне

Ёсць прапанова грошы не грабсці,
не звязвацца з карупцыяй ніколі,
не красць, не аб'ядацца, а пасціць,
каб не пабыць ад прагнасці ў няволі.
Калі ж і я што-небудзь украду,
прашу вас, не бярыце на парукі,
мякіны падсыпайце ў яду
альбо накіньце кайданы на рукі.
Капейку трэба чэсна зарабляць
і траціць на пакупкі эканомна,
не прапіваць без толку, не губляць, -
увогуле не жыць … крамольна.

*2018 г.*

## Боль

Мой родны кут - уся Зямля,
А кут былы стаў апусцелым:
Мятла нябачная змяла
І дух людскі, і нашы целы.

Адных занесла ў гарады,
А хто аджыў - пайшлі ў магілы.
Забыць, не прыязджаць сюды
У шмат каго стае ўжо сілы.
Ды і ў рачулак спрыт патух:
Пара для іх зусім не тая…
Тут шчупакі не рвуць таптух:
Вада ў равах наскрозь пустая.
Хоць стань над Нёмнам, закрычы:
- Пашлі, браток, ў канавы рыбу,
Вярні ім дрэвы і карчы -
І я душой ў прасцяг не рыпну!
*2018 г.*

## Маржы

Сябры марозу, завірух і лёду,
для іх стыхія - холад і вада.
Іх не кармі ні хлебам і ні мёдам -
адно зімою пакупацца дай.
Не вялыя ў іх мускулы і скура,
а па сасудах бегае агонь.
Яны глядзяць уніз як бы панура:
на шкло баяцца наступіць нагой.
Маржам ніколі не жадаў я ліха,
але не іх ў душы сваёй купаў:
на юную прыгожую маржыху
мой позірк зачаравана ўпаў.
Яна ішла пружыніста і лёгка,
сабою аздабляючы сусвет.
Я плыў бы з ёю многа вёрст - далёка
і не спазнаў бы ні прастуд, ні бед.
*2018 г.*

## Мой сябар

Уганяю ў вершы энергію,
Няхай там вякамі жыве.
Паеду да сябра ў Венгрыю,
Паходзім па мяккай траве.
І ён да паэзіі здатны.
Так любіць над словам пацець!
Выдатны паэт, ой, выдатны!

І піша, бы кошык пляце.
Ён сам беларус. На заробкі
Паехаў вясною туды.
Не ставіць у вершах ні кропкі,
Ні коскі, ні іншай брыды.
А шчыры, бы майская квецень.
Усмешку відаць за вярсту.
Заўсёды так цёпла прывеціць,
Хоць з ім на Венеру стартуй.
Ніводнай адмоўнае рыскі.
І трэба ж ўрадзіцца такім.
А прозвішча простае - Пырскі.
А вёска яго? - Ды Ваўчкі.
*2018 г.*

**Не здатны**

Не, я не змог бы кіраваць дзяржавай,
бо ўпраўляць сабою не магу.
Во, каб палохаць на балоце жабаў
ці на каленях дрот згінаць у дугу.
То тут я майстар, майстар адмысловы.
Яшчэ пляту прыгожыя кашы,
лаўлю ў паветры новенькія словы,
якія мне бываюць па душы.
Люблю вазіцца з пілкаю, сякерай,
касіць траву ля маладых кустоў,
круціць раман з пакладзістай Вікерай
і больш амаль не здатны ні на што.
*2018 г.*

**На Парнас, альбо Дыялог з часам**

Па сцежцы няроўнай угору бягу.
Парнас беларускі і вабіць, і кліча,
і мне падаецца, што ўсё я змагу,
а час параўняўся і слых мой казыча:
- І так ты спазніўся на многа гадоў.
Чаму не спяшаўся, як быў маладзейшы?
Ці шмат хоць пакінеш адметных слядоў?
Увогуле мне па душы твае вершы.
А ў плечы не трэба цябе падпіхаць?
Ты быццам задыхаўся, бедны паэце.

Мо допінг які хоць украдкай падаць,
бо мноства такіх апынулася ў Леце?
- Ды выкінь свой допінг! Я чыстым хачу
туды, на вяршыню Парнаса ўзабрацца.
Ці чуеш, што новы ўжо верш бармачу,
і абганяю настырнага зайца.
І час супакоіўся, і ні гу-гу,
і заяц спыніўся ў страсе, і ў скрусе,
а я ўсё бягу, бягу і бягу,
і хутка ўжо там, на гары апынуся.
*2018 г.*

**Зэку**

За цёмнымі кратамі нельга піць,
а голад спатоліць можна.
Жыў ты здатна ці жыў бязбожна?
Але ж прыйшлося цябе пасадзіць.
Усё пераблытана ў гэтым жыцці,
гадзюкамі сцежкі перапляліся,
няпроста сваю, як рубель, знайсці,
а ўдасца знайсці - Хрысту пакланіся.
І бацька, і маці хацелі, каб ты
быў чэсным, разумным і добрым,
не біў слабаку кулаком пад дых,
не пакідаў састарэлых у горы.
Чакай, можа прыйдзе жаданы дзянёк,
сустрэне цябе незабыўная Ася.
Як выйдзеш на волю, прысядзь на пянёк
і перад сусветам пакайся.
*2018 г.*

****

Я на сваіх плячах трымаю свет.
Не з лёгкіх ноша. Ну, а што рабіць?
Не кінуць жа яго у прорву бед,
Дзе, як смала, метал вайны кіпіць.
Я толькі сілы ў космаса прашу -
І ён мяне не крыўдзіць, як-ніяк.
Я сонца ў душы сваёй нашу,
Яно надзейны ўнутраны маяк.
*2018 г.*



# *Данута Бічэль*

***Данута Бічэль (Загнетава)**, паэтка, празаік, перакладчыца. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. Вучылася ў Лідскай педвучэльні, скончыла педвучэльню ў Наваградку (1957) і гісторыка-філалагічны факультэт (беларускае аддзяленне) Гарадзенскага педінстытута імя Янкі Купалы (1962). Выкладала беларускую мову і літаратуру ў школах. У горадзе над Нёманам стварыла Музей Максіма Багдановіча.*

*Друкуецца з 1958 года. Была сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1964 г. і сябрам Міжнароднага Пэн-клуба з 1995 г. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (кніга паэзіі "Дзе ходзяць басанож", 1984).*

*Аўтар кніг паэзіі "Дзявочае сэрца", 1960, "Нёман ідзе", 1964, "Запалянкі", 1967, "Браткі", 1979, "А на Палессі", 1990, "Снапок", 1999, "На белых аблоках сноў", 2002, "Іду сцяжынаю да Бога", 2012, "Дайсці да Каложы", 2017 і іншых.*

*Аўтар кніг прозы "Хадзі на мой голас", 2008, "Мост святога Францішка", 2010, "Правінцыя святога Францішка", 2013…*

*Выдавала кнігі для дзіцячага ўзросту… Увайшла ў кніжны праект "Беларускі кнігазбор. Выбраныя творы", 2016…*

*Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Гародні.*

**Цела душы маёй, рака мая Гаўя**

Скончыцца ў Гаўі паводка,
знікне ў асоках зямля, нібы лодка,
рыбы асветляцца, кожная рыбка - нямко,
разалье Малая Мядзведзіца па рацэ малако.

Нёман, куды ты загнаў тыя зялёныя хвалі,
што срабрыста-нямыя рыбкі ў віры бунтавалі?
Час луску абадраў з занядбанага слова.
Маўчанне рыбы. Маўчанне песні.
Нёман - Цмок шматгаловы!

Агнеадпорная, падпальваю вуголле ночы,
перасаджваю словы на градкі - не спіцца ўсёроўна.
Як хмарку пасля дажджу, і крыўдзіць ніхто не хоча,
хіба паэтка-крэацыяністка варона.

Ты магла мяне прытуліць, рака мая Гаўя,
у серабрыстай начы, у хвіліну маўчання,
калі рыба луской з дзікіх прорваў адчаю
без паводкі, без глыбіні знемагае…

Цела душы маёй Гаўя, мая блакітная кроў!
Ты магла перанесці мяне - аблачынку нямую…
дзе на прывязі чоўнік гайдае цялятак і пастушкоў…
Ты пра мяне забыла. А я па табе сумую.

**Па Гаўі на дзіравым чоўне…**

Саветы, немцы, пажары, войны!
Жыццё кароткае - падзеяў шмат…
На горцы дар Гавейскае Мадонны -
у квеце салаўіны Райскі сад!

Цяпер мне сніцца сон, як мы калісьці
супроць цячэння ў Літву плылі…
дзе пад балотных птахаў перасвісты
прасочваецца Гаўя з-пад зямлі.

Літоўскі хохлік падмануў дзятву:
- Залазьце ў човен  - пойдзем на Літву!

А човен плыў без вёсел, без стырна -
і нехта выцягнуў затычку з дна.

Вясёлы і наіўны Твой патруль,
пад кукаванне цёплае зязюль -
хто быў каля вады, у човен сеў,
ніхто з нас плаваць яшчэ не ўмеў…

Былі ўжо на сярэдзіне ракі:
малеча ўспомніў маму, напраскі
ён з чоўна вылез, пачуўся ўсхліп…
Дзіравы карабель пайшоў углыб.

Касцы дайшлі пракосам да канца --
такім зігзагам, як Сузор Касца…
Адзін стары касец зрабіў нырца --
дзяцей, як рыбу, палавіў на дне…
І Гаўю доўга вытрасаў з мяне.

Блакітная ў затоках Гаўі кроў!
О, Маці Божая, маіх сяброў
у той гавейскі чоўнік пазбірай.
Ружанец з намі шчыра адмаўляй!

***Памяці сяброўак з вёскі Біскупцы***
***Рэні Язэпавай і Веркі Буйніцкавай***

Гэткія служаначкі босыя -
душы сяброўак
з галінкамі віленскіх вербаў,
з наіўнай у Езуса верай,
на крылцах стракозаў…
паляцелі за Гостыяй на нябёсы,
Богам пакліканыя,
удасканаленыя Вялікаднем …

Каб сустрэцца нам зноў
на зялёных градках, на хмарках,
у спелых трускалках -
з таго незваротнага свету,

не прыедзеце ў вёску на лета…
Натхненне - трускалак жменя.
Боль выходзіць праз пальцы
і спальваецца на хмарцы.
З Мялёгава, Мядзведзева-логава,
на Павалокі, у аблокі,
душы вашыя лёгенькія,
дзяцінства сяброўвачкі, Верка і Рэня…
Як летуценне, як цені…
Льецца натхненне
праз пякельны боль…
Мы не спаткаемся больш…
Хіба што на нашых могілках…

А я ў бяссонні вяртаюся
ў тое сонечнае зацьменне,
калі мы на поплаве каля грэблі
сена балотнае грэблі -
і раптам згубілася некуды сонейка.
А мы, як мышкі, у стажок забіліся,
схаваліся за рабацінкі Кіені Толіка…

Прывітанне любові перадавайце сябрам,
каго спаткаеце там,
на незваротнай дарозе.
Спакой вам у Бозе!

## Калі я расплюшчвала вейкі

Калі я расплюшчвала вейкі,
да мяне адгукаліся салавейкі,
стракозкі, зялёныя конікі
музычку на сене гралі, -
я ж была тады ў раі!

Сон каціўся гарошкам
на сумежак з валошкаў,
з чыстых мрояў сумежак
паміж чыстых усмешак…

Усміхайцеся, мілыя цёткі!
Раскладу пажоўклыя фоткі -
уяўляю, як вяртае вас бусел,
над заспаным балотцам па крузе,
над замоленым вамі крыжам -
вышай, вышай і вышай…

Уяўляю,
як буслік нясе вас да раю
з працы, з болю,
споўніўшы Божую волю,
да найвышэйшай Божай любові.

**Нябёсы Зямлю не пакінуць**

Шчаслівыя лянівыя людзі
палятуць на канец сусвету.
Зробіцца шэрай зямля-маляванка,
попелам росы…
Але ўскочыць да Грому ў карэту
маладая Маланка,
пракоцяцца з грукатам па нябёсах
і разбудзяць нябёсы.

Магчыма, знікне балота
на Гаўі ў вытоках Дзякі,
змейка Жыжмы засохне
ад Пятрашкаў да Сонтак…
Затопіць паводка Бурносы…
Не змоўкне спеў шматгалосы,
буслы прылятуць на свае буслянкі,
разбудзяць нябёсы.

Сустрэнемся ў сутарэннях,
а можа, на Божым сходзе.
А можам і не сустрэцца -
кожны ў сваёй скарбонцы.
Святар учыніць маленне
па заснутым народзе…
Але ніколі не знікнуць нябёсы
над Каложай на ўсходзе сонца.

Нават калі не вытрывае сцяна Каложы,
паедуць нашчадкі яцвягаў
ваяваць за чужую краіну.…
Не будзе ні Гаўі, ні Нёмана,
ні паводкавай Неманіны.
Уздыхнуць і заплачуць нябёсы.
Нябёсы зямлю не пакінуць.

Аднойчы ноччу на зорцы
можам згубіцца ў норцы.
А здарыцца цуд - бяз ніякіх змоў,
у кашульках народзімся зноў…
Сустрэнемся досвіткам
каля Каложы на горцы!
Усё ў жыцці залежыць ад Створцы…
У нябёсах белых буслоў!

## Перапахаванне Кастуся Каліноўскага

Зямлі незагойная рана
трашчыць ад нясцерпнага болю…
У Вільні, ад нас забранай,
хаваюць зноў нашу волю.

Нас там няма. Не заўважаць.
Не заўважалі…
Без прычытання, без жалю…
на скразнякі, на скрыжалі,
на шалі…
кідаюць пыхі сваёй жарало…
Нябёсы вачэй Кастуся,
у якіх не было адчаю,
пераліваюцца ў наша святло…

Пасівелі бровы тваёй Марысі,
якая не паднялася з кален,
моліцца ў Вострай Браме,
над нашай агульнай магілай,
на дамбе…

Дзецюкі! Людзі!
Нашаму Кастусю на грудзі,
на дамавіну, на белую гліну,
на несмяротнае наша сэрца,
якое 155 гадоў
у пятлі нашых ворагаў б'ецца…
кіньце адну слязіну…
няхай, нарэшце, ўзарвецца!

Кастусь Каліноўскі ізноў
у сваю Беларусь не дайшоў.

Літоўцы, як і палякі, цяпер, як даўней,
не лічаць нас за людзей.
І не вызваляць нам з пятлі Кастуся.
Вось вам праўда такая ўся.
*22 лістапада 2019 г.*

**Закалыхвалі гусачку хвалі**

Як лунатыкі на месяц адляталі…
Назаўжды развіталіся з Радзімай.
Сплаканыя, па зямлі хадзілі,
сэрцы ў тайнічках пакідалі…

З лесам развіталіся, з летам,
занядбаным, стомленым сусветам.
Бралі ў кайстры снапкі на прыкмету
з лугу, з дзікага першацвету.

Планетарны тытанік Ноя
непатрэбшчынай бітком набіты.
А дзе ж гэтыя, бяздомныя, двое -
дзяўчо і няўдалы палітык?

Гэтыя двое, закаханыя,
шчаслівыя ад кахання,
вольныя, захваляваныя,
кахаюцца з рання да рання.

Чыстыя, галодныя, двое…
Каласкі з пажатага поля…
Чоўнік папяровы на Гаўі…
Закалыхвалі гусачку хвалі…

**Радкі любові**

Пад збаўленчую музыку цішы
прачынаюся на гарышчы.
Праз шчылінку месячык з неба
цалуе вуснамі таты.
Праз стрэху ўзлятаць страшнавата…
Ды ўзляту, атрымаецца неяк…

Толькі б Ты, мая Ластаўка ў стрэсе,
соннае сунічнае ўзлессе,
Галубка мая, Свіцязянка,
аднаўлялася з ранку да ранку.

Каб Дняпра і Нёмана хвалі
з любоўю цябе цалавалі,
чыстыя хмаркі і росы
сукруху з сэрца змывалі.

Радзіма, на мапе нябёсаў
адбітак Божай далонькі.
Цень ад далонькі Божай
на мапе зямелькі босай…



# Кацярына Янчэўская

*Янчэўская Кацярына Валянцінаўна, мастацтвазнаўца і філосаф. Нарадзілася ў 1981 годзе ў Лідзе. Скончыла магістратуру і дактарантуру Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (г. Вільня). Навуковыя і творчыя захапленні: філасофская антрапалогія і фенаменалогія, выяўленчае мастацтва Францыі і Беларусі. Вершы друкаваліся ў газеце "Літаратура і мастацтва", часопісах "Маладосць" і "Дзеяслоў".*

*Лаўрэат конкурсу 2019 г. "Бацькаўшчына светлая мая...", прысвечанага Году малой радзімы (другое месца ў намінацыі "Паэзія"), арганізаванага Першым нацыянальным каналам Беларускага радыё, літаратурна-мастацкім часопісам "Маладосць".*

**Дождж**

Дазволіць
Жыццю сваволіць
Восенню дождж
Папросіць.
Вядома: вада
Нават і камень точыць.
Самота здзівіць адценнямі -
Эклектыкай супярэчнасцей.
Фарбы прамовяць шчыра:
"Не асудзі!"
Засведчыць туман
Загадкавасць
Прасторы самасвядомасці.
Восень імкнецца
Да сутнасці...
Дождж - немаўклівы творца -
Нязведанай глыбіні.

**Грыбныя світанні**

Сонечныя праменьчыкі,
Памножаныя на чаканне
Узнёслых вітанняў,
Грыбныя пасланні -
У канвертах лясных сустрэч,
Навука развагі -
Ва ўсмешках світанняў,
Літаграфія літасці,
Памножаная на верш...

* * *

Цікаўныя вочкі дзівасілу
Уважліва сочаць,
Ці дастаткова сонца -
У краіне гаспадара з гаспадыняй?

У карэньчыках дзіўнай расліны -
Гаркота штодзённасці,
Што - час ад часу -
Пазбаўляе ад мноства хвароб.

Не таямніца:
Жыццяпіс святла
Пачынаецца з глебы
І болю.

Цікаўныя жоўтыя кветкі
Адкрыта на сонца глядзяць...

## Літары

Зніклі кнігі з бібліятэкі
Храптовічаў у Шчорсах:
Замкнёныя дзверы,
сумныя вокны.
Можа, адляцелі ў вырай - кнігі?
Калі вернуцца - невядома.
Кнігі - не птушкі?
Страчанае - у спевах птушыных
Па ўсёй Беларусі.
Ёсць крылы ў мудрых літар.
На жаль, чалавек не можа стаць
Чыстай паперай,
На якой уцялеснены
Евангелля словы.
У горыч адсутнасці пераўтвараем
мы набыткі свае.
Але...
Сапраўднае - застаецца...

* * *

*Дзень за днём*
*ствараецца Свет <...>*
*Адбіваецца рэхам*
*у санатах сонца і мора...*
***Алесь Чобат.***

Прымаю ў абдымкі
Вецер з Балтыйскага мора.
Шчырасць салёная
На вуснах
Санатай гучыць.
Навокал-
Прастора пранізлівых мрояў,
Творы Чурлёніса-
Вопратка для душы.
Узбярэжжа зямное
Маршчынкамі дзень апранае,
Вецер - маршчынкі як скарб -
Сабе забірае.
Пясчынкі тлумачаць
Імгненні,
Што ў празрыстасць знікаюць,
Салёным зярняткам
Неба
У Свет прарастае.
Ведаю: недарэмна
Вусны чакаюць
Слова
І мовай бурштыну
Гаворыць
Дзівоснае мора.

**Колер**

Метафара - рух скрозь колер Паўднёвай Францыі
і карціны Пінхуса Крэменя
ў мястэчка колішняга Лідскага павета - Жалудок,
да прасторы, дзе нарадзіўся мастак.
Гасціннасць дня і свабода птушкі.
Скрыпка, здаецца, гучыць у палацы Святаполк-Чацвярцінскіх.
Касцёл і крыпта зберагае ўспамін пра род Тызенгаўзаў.

Метафара - рух да сябе нават калі кідаюць камяні ў сэрца,
бо цешыць надзея, што ў траўні зацвіце шыпшына
і колер натхнення спыніць разбурэнне...

* * *

*"Для беларускай мастачкі Вольгі Сазыкінай Кляйн стаў адным з натхняльнікаў вельмі цікавага праекта: на ярка-сіняй самаробнай паперы мастачка прарошчвала зёлкі, якія выраслі чамусьці блакітныя".*

***Ларыса Міхневіч, газета "Культура", № 6 (315), 2009.***

Вынайшаў свой сіні колер
І ў Кляйн.
І спявае на карцінах
Неба.
Ці мастацтва гэта ці падман -
Вынайдзена неба
Чалавекам?
У рэальнасці
Абстрактнага спасціжэння
Новае вымярэнне -
Неба...
І плывуць касмічныя рыбіны
Язэпа Драздовіча
У міжнароднай сістэме каардынат.
Ярка-сіняе палатно
Перагукваецца з беларускімі валошкамі,
Праз касмічную паперу
Прарастае Бацькаўшчына.



# Ірына Баградановіч

*Ірына Эрнстаўна Багдановіч (нар. 30 красавіка 1956, Ліда) - беларуская паэтэса і літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук. Скончыла гістарычна-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі (1983). З 1983 працуе ў Інстытуце літаратуры АН Беларусі.*

*Друкуецца з 1973. Аўтар кніг вершаў "Чаравікі маленства" (1983), "Фрэскі" (1989), "Вялікдзень" (1993), "Сармацкі альбом" (2004), "Прыватныя рымляне" (2006), "Душа лістападу" (2013), "Залатая горка" (2018), манаграфій "Янка Купала і рамантызм" (1989), "Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння" (2001). Укладальнік зборнікаў "Казімір Сваяк. Выбраныя творы" (2010) і "Вінцук Адважны. Выбраныя творы" (2011). Перакладае з польскай мовы.*

**Да сябра**

*Прысвячэнне А.Б.*

Такі цёплы кастрычнік сыходзіць у жоўтым экстазе
Лісцяпаду суцэльнага колераў мёду й бурштыну…
А ў бабруйскай калоніі сябра, пан-братка мой, вязень
Адбывае пакуту за Край наш - святую Айчыну.

Колькі ж лёсаў, Айчына, адважна табе паслужылі!
Два стагоддзі змагання за волю, за праўду… Бог бачыў:
І ў пятлі, і ў Сібіры галованькі шчодра злажылі…
Твой народ кунтушовы з Пагоняю ў сэрцы гарачым.

А народ твой сярмяжны…, ды што там… Дай, Божа, нам сілы!
Выйдзе вязень на волю, дух продкаў не знішчыць упарты,
Каб збылося, нарэшце, прароцтва: васкрос ён з магілы -
Гэты годны народ, Валадарства Нябёснага варты.

*29 - 30 кастрычніка 2013 г.*

## ПАЗНАЕЦЕ ПРАЎДУ…

***На 108 гадавіну асвячэння Чырвонага касцёла ў Менску****

*Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас.*
***Ян 8, 32.***

Ты, homo viator у штодні хлусні, пыхі, здрады,
Ў Чырвоным касцёле запаліш лямпаду й якраз
Пачуеш, што кажа Адзіны Трымальнік Улады:
Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас.

Нявольнікі цемры, ярма і сваволяў грахоўных,
Не чуем, не бачым, але, каб ліхтар не пагас,
Чырвоны касцёл нас вітае абдымкам ахоўным:
Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас.

Мая Беларусь, твой народ два стагоддзі няўмольна
З пустэльні егіпецкай крочыць і крочыць; штораз
Гнятуць перашкоды, ды ў мудрасці чуем касцёльнай:
Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас.

Так, праўда нас вызваліць толькі з граху і нядолі,
Зямлі абяцанай нам блісне акраса з акрас;
Любоў прамаўляе з Крыжа нам у кожным касцёле:
Пазнаеце праўду, а праўда вызваліць вас.

*Верш напісаны 25 лістапада 2018 г. у Нядзелю Хрыста, Валадара Сусвету.*

**Чырвоны касцёл быў асвечаны 21 лістапада 1910 г.*

## Маладнякоўцам

*Валерыю Маракову і ўсім пісьменнікам,*
*расстраляным у Курапатах*
*29 кастрычніка 1937 года.*

Былі вы ўзнёсла-маладымі,
Спаткаўшы бурных дзён напор,
І летуценьмі залатымі
Свой высцілалі шлях да зор,

Пялёсткі сэрц купалі ў росах,
Вясне й каханню гралі гімн
І сны на залатых пакосах
Дарылі дзеўчынам сваім,

Жылі вяршынямі жаданняў*,
А прамяністасць ззяла звыш,
Была вам творчасць - сонцараннем,
І ценем - Курапацкі Крыж.

Была Айчына ў вольных марах
Краінай спраўджаных надзей,
Ды браў на ледзяных гітарах**
Акорды вецер-сцюдзявей.

І смутак сеяўся лістотай,
На летуценьні клаўся ён,
І ачапляў калючым дротам
Краіну новы гегемон.

Але ў начы і ў завірусе
Дух Божы веру памнажаў
Ва ўваскрашэнне Беларусі
З-пад Курапацкага Крыжа…

*14 сакавіка - 29 кастрычніка*
*2019 г.*

*"Пялёсткі" (1926), "На залатых пакосах" (1927), "Вяршыні жаданняў" (1930) - назвы зборнікаў вершаў Валерыя Маракова.*

**"На ледзяных гітарах" - паэтычны вобраз у лірыцы Тодара Клашторнага 1920-х гадоў.*

## Пакліканне Францішка Скарыны

*Праходзячы-ж недалёка мора Галілейскага,*
*Ён убачыў двух братоў, Сымона, называнага Пятром,*
*і Андрэя, брата яго, закідаючых сеткі ў мора, бо яны былі рыбаловы,*
*і кажа ім: ідзіце за Мною, і Я зраблю вас лаўцамі чалавекаў.*
*І яны зараз жа, пакінуўшы сеці, пайшлі за Ім.*

**Мц 4, 18 - 20.**

Ён берагам няспешна крочыў
Над старадаўняю Дзвіной;
Праменнем ззялі Яго вочы
І клікалі: "Ідзі за Мной!"

Юнак спыніўся задуменны,
Ён быў Скарыніч, сын Лукі,
Што скуры вырабляў сумленна
І слаўны быў на ўсе бакі.

Фартуна гэткая чакала
І юнака таго ў жыцці,
Але ж і ў ім праменне ззяла,
І ён шукаў: за кім ісці?

У бернардзінцаў гадаваны,
Любіў навуку й чуў душой,
Што ён абраннік Божых планаў,
Але якіх?!... - "Ідзі за Мной", -

Сказаў вачамі прамяніста
Той Незнаёмец над Дзвіной;
І разлівалі хвалі чыста
На ўсю прастору супакой.

Юнак прысеў, святлом абліты,
Спытаў:
"Пра што я мушу дбаць?" -
"Каб Бога мог люд паспаліты
На мове роднай выслаўляць,

Друкар ты будзеш, сейбіт літар,
Тлумач кніг Бібліі Святой;
І з Божым Словам самавіта
Народ абраным стане твой.

Для ўсіх свой дар
Айцец Нябесны
Прыгатаваў праз мовы гук,
Каб мелі вы пасад пачэсны,
А не чужы з ярмом ланцуг", -

Так мовіў Той,
хто дзіўным чынам
Над старадаўняю Дзвіной
Паклікаў юнака Скарыну,
Нібы Пятра: "Ідзі за Мной…"

І, адыходзячы ў прастору,
Дыхнуў, раскінуў зор кілім…
Зірнуў Францыск
на родны горад,
І ўстаў ён, і пайшоў за Ім…

*6 ліпеня 2019 г., субота, пасля*
*пілігрымкі ў Будслаў.*

**Візія святой Фаўстыны**

*"Не трэба перажываць, калі з часам справы акажуцца нядобрымі,-*
*Пан Бог глядзіць на намер, з якім мы іх распачынаем,*
*і паводле яго будзе ўзнагароджваць."*

***Св. сястра Фаўстына Кавальская ZMBM***
***"Дзённік: Божая Міласэрнасць у маёй душы"; 800 [199].***

Калі ў хвіліну неспакою
Душу вярэдзіць боль, сумнеў,
Мой Езу, Ты заўжды са мною,
Прыцішыш боль, злагодзіш гнеў,

Дасі развагу ў дзён спарудзе,
Найблізкі з найдалёкіх сфер:
"Што б ні зрабіла, - добра будзе,
Бо мела добры ты намер…"

Хоць вынік выйдзе кепскі, можа,
Але йшчэ горай наракаць
І мець сумнеў у ласцы Божай,
Што Бог не зможа дараваць.

Ты ж не задумвала благога,
А вынік - што ж, бывае ўсяк…
Наш недавер больш раніць Бога
За ўсіх грахоў астатніх цяг.

"Сястра, пазнай той Цуд найпершы,
Што здзейсніць прагну над зямлёй:
Каб патанаў апошні грэшнік
У Міласэрнасці Маёй!

Цябе да душаў пасылаю -
Ім абвяшчаць Маю Любоў!
Нябесны Трон свой пакідаю,
Каб вырваць з пекла ланцугоў,

Каб даць Вяночак вам,   змарнелым,
Што ў Міласэрнасць павядзе…"
І біў струмень - чырвоны й белы -
Вада і Кроў з Яго грудзей:

З грудзей прабітых - проста з Сэрца
Ліліся збаўча прамяні…
І не было нідзе больш месца
Для цемры й страху на зямлі.

О Езу! Дзеля душаў рада
Ісці з Табою да канца,
Зрабі мяне Тваёй прыладай,
Каб волю выканаць Айца!

І цішыня… На ўсю капліцу
Любоў і Ласка ткуць кілім…
Укленчыць, горача маліцца,
Прытомнасць страціць, знікнуць ў Ім…

*3 чэрвеня 2019 г.*

## Ратунак-ранак

Мне сніўся сёння сон трывожны:
Цябе згубіла я ў дарозе,
Гукаючы бездапаможна,
Ды лёдам дыхала палоззе
Якіхсьці рэек у цямноце.
Куды яны вялі? Ў багноцце?

Распіхваю рукамі цемру,
К табе цягну слабыя рукі
Ў нябыт?.. І рагатала багна,
Цябе засмоктваючы прагна…
І раптам чую ранку гукі,
Ратунак Божы - ранак!
"Веру…"

*1 верасня 2019 г.*

## Верш пра правілы дарожнага руху

Было найперш у Бога Слова,
Ён даў закон, што ні кажы!
Трымайся правілаў сурова -
Выконвай хуткасны рэжым!

Што тут каму не зразумела?
Гугал-транслэйт, дапамажы,
Каб добра ўсім тут заяснела:
Выконвай хуткасны рэжым!

У беларускім дзіўным краі
Ўзнік непрадбачаны зажым:
То Каліноўскі замінае,
То курапацкія крыжы,

То нафта брудная ліецца,
То ўпэцканы каровы ўсе,
І брацец, бач, нахабна прэцца -
Аслінай скіўіцай трасе…

Але, але, магутны Божа,
Ты Беларусь асцеражы,
Каб цяміў прыхадзень
тут кожны:
Выконвай хуткасны рэжым!

Тут - Беларусь, тут - наша хата,
Дзе продак наш спрадвеку жыў,
Таму,
як хочаш быць нам братам, -
Выконвай хуткасны рэжым!

*Напісаў Багдан Ірын*
*29-30 красавіка 2019 г.*



# *Станіслава Белагаловая*

*Станіслава Іванаўна Белагаловая (Круповіч) нарадзілася 25 жніўня 1959 года ў вёсцы Крамушаўка Навагрbudскага раёна Гарадзенскай вобласці. Скончыла Налібоцкую сярэднюю школу, вучылася ў Гродзенскім гандлёвым вучылішчы. Пасля заканчэння вучылішча засталася жыць і працаваць у Гародні. У 1977 годзе выйшла замуж. Разам з мужам у 1978 годзе пераехала жыць у Ліду. Мае дваіх дзяцей (сына Валерыя і дачку Наталлю), чатырох унукаў. Амаль уся працоўная дзейнасць прайшла ў Лідскім гархарчпрамгандлі (у цяперашні час - ААТ "ГПФ "Ліда"). З 2014 года на заслужаным адпачынку. Ветэран працы.*

*Пісаць вершы спрабавала ў юнацтве, але тады не прыдала гэтаму значэння. І толькі на пенсіі сур'ёзна занялася творчасцю. Напісала больш за 80 вершаў, некаторыя з іх пакладзены на музыку. Песні "Дочка-доченька" і "Мой сын" прысвяціла сваім дзецям, гэтыя песні гучаць на Лідскім радыё.*

*У канцы 2018 года выйшаў першы зборнік яе вершаў “Наедине с душой”.*

***

Стаіць бярозка і сумуе,
Нібы дзяўчына пры вакне,
Зусім бяздомная красуня,
Яна прывабіла мяне.

- Скажы, сяброўка, па сакрэту,
Чаму так смутна ты глядзіш?
Пра ўсё прызнаешся ты ветру,
А мне маўчыш усё, маўчыш…

І нездарма наша спатканне,
Сваю ты выкажы бяду.
Мы абмяркуем усе пытанні,
Хоць чымсьці я дапамагу.

- А ці патрэбнае прызнанне?
Ах, як жа цяжка гаварыць,
Усе сокі выбралі ўжо зрання,
Не ведаю, далей як жыць.

Я не трымаю на ўсіх злосці,
Уся крыўда пройдзе і мінуе,
І можа,знойдзецца хоць хтосьці,
Хто зразумее, пашкадуе.

*31.09.2015 г.*

**Вёсачка…**

Мая вёсачка! Ты захварэла?
Зараслі ўсе сцяжынкі, дарогі,
І наперад глядзіш так нясмела:
Трэба хуткай табе дапамогі.

Дзе калісьці квітнелі сады,
Яркім полымем ззялі палеткі,
Там цяпер вельмі цяжка знайсці -
Дзіўны сад і пахучыя кветкі.

Зарасла бур'яном сенажаць,
Тут даўно не ляжалі пакосы,
Толькі кволыя хаткі стаяць -
Патрабуюць хутчэйшага зносу.

Белы бусел цяпер гаспадар,
Так паважна сябе ён вядзе,
Быццам гэтай зямлі гаспадар
Абавязак свой пільна нясе.

Табе, вёсачка, гімн я злажу,
Ты - у сэрцы маім і ў крыві.
З цеплынёй і павагай скажу:
"Мая родная, толькі жыві!"

*15.03.2018 г.*

**Лясная прыгажосць**

Паднялі мяне з самага ранку
Песні птушак з высокіх нябес.
Лёгкі кошык бяру я на ганку,
Адпраўляюся пешшу ў лес.

Вось зрабіла я некалькі крокаў,
Прыглядзелася - нехта паўзе -
Сціплы вожык
на вострых іголках
Паціхеньку запасы вязе.

Збоку чуецца трэск ад галля,
Што палохае трошкі мяне,
Дык гэта ж красуня-казуля
Напіцца вадзіцы ідзе.

Раптам елачка стала хістацца,
Нібы вецер яе нізка гне -
Шэры заяц надумаў схавацца,
Бядалага, спужаўся мяне.

І вось падышла я нарэшце -
Грыбы, як паненкі сядзяць.
Адхіляючы мокрае лісце,
Завіхаюся іх я збіраць.

*06.10.2016 г.*

**Восеньскі эцюд**

Плаўна павуцінка
Плавае ў паветры:
Восень паціхеньку
Выцясняе лета.

Пажаўцеў лісточак,
Адарваўся ветрам,
Быццам матылёчак
Развітаўся з летам.

Сонейка-Свяціла
Прамяні хавае -
Мабыць, яму сілы
Болей не хапае.

Ластаўцы журботна,
Белы свет нямілы -
Так ёй неахвотна
Адлятаць у вырай.

Як гэта прыемна
За ўсім назіраць!
Колькі захаплення,
Усё не перадаць!

*15.09.2015 г.*

**Я зямельцы сваёй пакланюся**

Што за дзіва на свеце такое?
Усім нам роднае слова - "Зямля"
Камячок твой вазьму я ў далоні,
Прытулю да сябе, як дзіця.

Сваім сэрцам цябе адчуваю -
Клапатлівасць, святло і цяпло.
Без астатку ты нам давяраеш
Усё багацце сваё і дабро.

Пах гарачага жытняга хлеба,
Смак духмяных сваіх пірагоў.
І глядзім мы з удзячнасцю
ў неба,
І не трэба нам іншых краёў.

Нізка ў пояс табе пакланюся,
"Дзякуй лёсу", -
скажу ў цішыні.
Богу ўдзячна і шчыра малюся,
Што жыву я на гэтай зямлі.

*14.01.2017 г.*

**Мая Беларусь**

Беларусь, ты,
як вольная птушка,
Уздымаешся ўверх усё вышэй,
Распусціўшы квяцістыя стужкі,
З кожным годам
ты ззяеш ярчэй!

Як люблю я цябе, Беларусь!
Мне не сорамна
ў гэтым прызнацца,
З цябе іншыя прыклад бяруць,
Але цяжка з табой параўнацца.

Як матуля, мне моцы дала,
Я заўсёды табой ганаруся.
Мае крылы з надзеяй узняла,
Я не здраджу сваёй Беларусі.

Ты квітней, родны край
беларускі!
Няхай цёплае сонейка свеціць!
Я за мір на зямлі памалюся,
Каб спакойна жылі нашы дзеці!

*25.09.2015 г.*

**Ты чаруеш мяне, Беларусь!**

Няма той краіны на свеце
Прыгажэй, чым мая Беларусь,
Дзе ласкавае сонейка свеціць,
І дзе птушачкі песні пяюць!

Як толькі, прачнуўшыся зранку,
Світанак ты можаш сустрэць.
І вельмі прыемна пад вечар,
Як сонца заходзіць, глядзець.

Найлепшай няма прыгажосці,
Калі ў вырай ляцяць жураўлі,
Адлятаюць,
жадаюць нам штосьці
І крылом памахаюць з далі.

Як у полі красуецца жыта,
Пах рамонкаў і сінь васількоў.
Зачаруе цябе, усё забудзеш,
Не захочаш вяртацца дамоў.

Ты чаруеш сваёй прыгажосцю!
Няма слоў, каб усё перадаць,
Запрашаеш сяброў ты на госці
Усё пабачыць, другім паказаць.

*20.04.2016 г.*

***

Матуля, прысеўшы на ганку,
Не можа дайсці да сябе,
Бо яна атрымала даведку,
Што загінуў сынок на вайне.

І боль зашчыміў яе сэрца,
І ні слова не можа сказаць,
Нібы камень,
застыла на месцы…
Як жа цяжка!
Як рады тут даць?

Ён жа ў іх, у бацькоў, сын адзіны,
Вярнуцца дамоў абяцаў,
А жыццё сваё недзе пакінуў,
За шчасце народаў аддаў.

Вайну праклінаць вечна будзем!
Колькі горычы ўсім прынясла!
Мы герояў сваіх не забудзем,
Няхай пухам ім будзе зямля!

За іх будзем мы шчыра маліцца,
Ля помнікаў кветкі складаць,
Каб на нашай, на роднай зямліцы
Такой страшнай
бядзе не бываць!

*23.02.2016 г.*

***

Расчыню сваё насцеж акенца
І з натхненнем сустрэну вясну,
Асцярожна ўпушчу ў сваё сэрца
І глыбока, самотна ўздыхну.

Загляну ў яе светлыя вочы,
Паспрабую параду знайсці -
Дзе ж узяць мне цярпення і моцы,
Каб наперад упэўнена йсці.

Каб пазбегнуць усе перашкоды,
Што раптоўна ўзнікаюць у жыцці,
Няўзнак абмінуць усе нягоды,
Бачыць мэту і з марай ісці?

*19.03.2018 г.*

**Мой родны куточак!**

Сэрцу любы, мой родны куточак!
Мая сцежка дахаты вядзе,
Дзе знаёмы мне кожны кусточак,
Дзе матуля чакае мяне.

На пагорку, дзе ззяюць пралескі,
Гучна птушачкі песні пяюць.
Пах духмяных суніцаў на ўзлеску -
Ні за што не змагу абмінуць.

Рэчка быццам зусім анямела.
Сяду побач, змагу адпачыць.
Нагадае зязюля нясмела,
Колькі год засталося пражыць.

Калі хтосьці ў мяне запытае:
- Чым душа і чым сэрца багаты? -
Той адразу адказ атрымае:
- Мой куточак - бацькоўская хата!

*06.11.2017 г.*

**Няхай спраўдзіцца ўсё наяве**

У сузор'і надзей і здзяйсненняў
Сваю зорачку я адшукаю.
Загадаю з палёгкай жаданне,
У сваім сэрцы яго захаваю.

Каб не зналі хвароб нашы дзеці,
Для іх светлай дарога была,
Шчасця, радасці ім, даўгалецця,
А ў сэрцы - спакою, цяпла.

Каб не зналі хвароб нашы ўнукі,
Па жыцці ім упэўнена йсці,
Пакарыць усе тайны навукі
І сцяжынку да шчасця знайсці.

Каб не зналі няшчасця сябры,
Над зямлёй - толькі мірнага неба,
І ніколі не бачыць вайны.
Ну а больш… мне нічога не трэба.

**У сэрцы вобраз я твой захаваю…**

Мая вёсачка… Родныя хаткі…
Так жалобна, панура стаяць.
Напаткаў цябе лёс несалодкі,
Немагчыма без слёз перадаць.

На падворках стаіць цішыня,
Не пачуеш дзіцячага смеху.
Дзесьці мяўкне ў двары кацяня,
Певень сціпла спяе: "Ку-ка-рэ-ку!"

Рэчка спіць, у адзіноце сумуе.
Куды зніклі вясёлыя рыбкі?
Страказа над вадою чаруе -
Плаўна льецца мелодыя скрыпкі.

Лес змяніўся - зусім парадзеў,
Да зямлі верхавіны згінае.
Несціхаемы птушачак спеў
Яму моцы ва ўсім прыбаўляе.

Бэз, чаромха аблічча змянілі,
Усё ж з надзеяй сустрэчы чакаюць,
Гронкі, нібы галовы, схілілі,
Нас часцей прыязджаць запрашаюць.

Не, не сон… Гэта ўсё наяве…
Усёй душою табе спачуваю.
Што ж… Калісьці цябе не стане…
У сэрцы вобраз я твой захаваю.



# *Тадэвуш Чарнавус*

### ІЗНОЎКУ Я СПАЦЬ НЕ ЛЯГУ…
### (Радкі з аўтабіяграфіі)

*Ізноўку я спаць не лягу,*
*Пакуль не ўтаймую смагу.*
*А смага мая такая:*
*Прагну ўвесь радка я,*
*Прагну, нібы жанчыны, -*
*Дык, можа, не без прычыны?..*

Гэты невялічкі вершык нарадзіўся ў мяне яшчэ ў далёкім юнацтве, а пытанне: "Дык, можа, не без прычыны?.." - хвалюе па сённяшні дзень. Па сутнасці, ужо тады - у гэтым шасціradкоўі - я пачаў шукаць сваё месца ў паэзіі, засумняваўшыся ў сваіх паэтычных здольнасцях. І шукаю і сумняваюся аж да гэтага часу.

Я ніколі не пісаў вершаў, седзячы за сталом, не вымучваў з сябе радок за радком. Лірычная ўзнёсласць і натхненне суправаджалі і суправаджаюць мяне заўсёды і ўсюды: дома, у дарозе, у час працы ў агародзе, на бацькоўскім падворку, калі кашу траву ці сяку дровы… І хаця заўсёды, як той крот, глыбока імкнуўся ўзорваць паэтычную глебу, засейваць яе толькі ўласным насеннем, усведамляю, што я не стаў класікам беларускай літаратуры і наўрад ці стану ім калі-небудзь. Але ўпэўнены, што і графаманам не быў ніколі. Зрэшты, аб гэтым меркаваць ужо не мне, а маім дарагім чытачам. На вялікі жаль, іх вельмі мала, бо паэзія да гэтага часу так і не стала масавай з'явай, як, скажам, эстрада ці шоу-бізнэс. Як мала і тых (што вельмі прыкра), хто выкарыстоўвае матчыну мову ў паўсядзённым жыцці. Гэтая аказія, як той чарвяк, даўно свідруе маё сэрца наскрозь і будзе свідраваць, напэўна, да самай смерці.

Калі больш падрабязна, то нарадзіўся я ў 1954 годзе на Лідчыне - у вёсцы Рылаўцы. Бацькоўскі лясны хутарок туліцца між дзвюх рэчак - Крупкі і яе матулькі Дзітвы. Апошняя, што вельмі

важна, працякае амаль ля самага падворка, і менавіта яе срэбраводныя хвалі заўсёды спрыялі майму паэтычнаму натхненню. І спрыяюць па сённяшні дзень, хаця меліяратары ў свой час бязбожна зруйнавалі маю родную Дзітвульку, якая ўжо даўно ператварылася ў старое і зарастаючае русла.

Навучаўся я ў Яўсеевіцкай васьмігадовай школцы, скончыў таксама Лідскі індустрыяльны тэхнікум, падчас службы ў арміі - завочную школу ваенных карэспандэнтаў. Завяршыў адукацыю на факультэце журналістыкі БДУ імя Леніна. Працоўны творчы шлях пачынаў у навагрудскай раённай газеце "Новае жыццё", але найбольш - амаль тры дзесяцігоддзі - шчыраваў у роднай мне назаўсёды "Лідскай газеце".

Журналістыка ніколі не была для мяне мачахай, але і з паэзіяй не развітваўся ніколі. Мо таму яны і перапляліся ў маёй творчасці, нібы родныя сёстры, а многія вершаваныя творы набылі рэпартажны характар. Добра гэта ці не надта, не ведаю, але як сталася, так сталася. Назад ужо, як кажуць, "ніц" не вернеш.

На жаль, асобнага свайго зборніка пакуль што не маю, але мару і часта ўяўляю, што трымаю яго ў руках. Праўда, гэта адбываецца пакуль хіба што ў сне. Але калі Бог паспрыяе, то абавязкова выдам яго пад назвай, як і ў гэтай нізкі вершаў: "Каб любіць Беларусь нашу мілую…". Тэма Радзімы, не толькі малой, але і ўсёй бясконца дарагой мне сінявокай, васільковай, ільняной Беларусі, заўсёды жыла і будзе жыць у маім сэрцы да скону дзён.

Зрэшты, грэх скардзіцца, што мой паэтычны шлях да чытача быў абмежаваны. Мае вершаваныя творы гучалі па рэспубліканскім радыё, друкаваліся ў газеце "Літаратура і Мастацтва", іншых рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі ды літаратурных часопісах. Але калі яны захаваліся хіба толькі ў архівах саміх рэдакцый, то агульныя паэтычныя зборнікі, у якіх я са сваімі вершамі разам з іншымі паэтамі стукаўся да чытацкіх сэрцаў, можна і сёння знайсці ў бібліятэках. А іх шэсць: "Вёсны" (1976 г.) і "Квадра" (1982 г.) - выдавецтва Белдзяржуніверсітэта, "Краю, мой Нёман" (1986 г., прадмова Васіля Быкава, укладальнік - Данута Бічэль-Загнетава, рэдактар - Юрка Голуб, дзяржаўнае выдавецтва "Мастацкая літаратура"), "Шануйце роднае слова" (2008 г.), "Мой любы горад Ліда" (таксама 2008 г.), "Мой горад - гонар мой" (2013 г.). Апошнія тры надрукаваны ў Лідскай друкарні.

## Каб любіць Беларусь нашу мілую

*Каб любіць Беларусь нашу мілую,*
*Трэба ў розных краях пабываць.*
*Разумееш тады, чаму з выраю*
*Жураўлі на Палессе ляцяць…*

Словы вядомай песні на вершы Алеся Ставера, якая калісьці так прыгожа гучала ў выкананні вядомага беларускага спевака Віктара Вуячыча. Але, правёўшы некалькі гадоў за межамі Бацькаўшчыны, я перайначыў другі радок з гэтага куплета і напісаў свой верш. Тым самым я хацеў выказаць погляд на любоў да Радзімы з пункту гледжання сённяшняга дня. Асабліва пасля таго, як з сусветнай карты знік Савецкі Саюз і ўсе краіны СНД аказаліся на раздарожжы, а наша родная Беларусь нарэшце набыла самастойнасць.

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Можна ў розных краях не бываць,
Пра яе, як матулю чуллівую,
Можна песні і дома складаць.

Пра палеткі яе вераснёвыя,
Ля дарог дзе цвітуць васількі,
Дзе рамонкі - дзяўчаты вясковыя,
Што вядуць карагод ля ракі.

Дзе бярозы - красуні зайздросныя, -
Так і хочацца ў прымы пайсці,
Дзе пахучыя ранкі і росныя,
Хоць зімою атаву касі.

Дзе клякочуць натхнёна, бы моляцца,
Сімвал нашай Айчыны - буслы,
Дзе ў Белае Вежы ваколіцах
Здабылі сваё месца зубры.

Не ў сытай Еўропе, Амерыцы,
Дзе мераюць шчасце грашмі,
А ў нас - Беларусі - бо верац нам,
Бо заўсёды былі мы людзьмі.

Выйду ў поле ляноў сінявокае,
Акрыяю душой на ляту,
З фарбаў родных, як неба шырокае,
Я вяночак каханай спляту.

Птушкай лёгкай ўзлячу ў паднябессе я,
Агляджу і прасторы, і край,
І ніякім вятрыскам-кудзеснікам
Не зманіць мяне ў казачны рай.

А як зб'юся з дарогі няроўнае,
З туманамі ў вырай зляту,
Я дарогу дадому нялёгкую,
Як і птушкі, па зорках знайду.

Наталюся я роднаю моваю -
Беларускай, якую люблю,
І, заместа гарэлкі вясковае,
Я з крынічкі гаючай пап'ю.

Ты даруй мне, матуля шаноўная,
За мае і чужыя грахі,
Што збіваўся з дарогі няроўнае
І рабіў мо не тыя кругі.

…Долар сёння ў вялікай пашане,
Толькі роднага ў ім не знайду,
А за Белую Русь - буду ў храме я -
Беларускі рубель пакладу!

## Дарога ў Рылаўцы

*Маім шаноўным суседзям па хутары Юрыю Уладзіміравічу і Веры Вікенцьеўне Буракам, якія любяць сваю малую радзіму не менш, чым я, прысвячаю з вялікай павагай.*

Нарэшце першы курс адолеў,
Бывай, журфак, - і ўсе канцы,
Імчу я сёння на прыволле.
Куды? У вёску Рылаўцы,

Што ёсць на Лідчыне такая,
Дзе мне адрэзалі пупок,
Там мае прашчуры вякамі
Абаранялі свой куток!

І толькі там мая калыска,
Там сонца зіхаціць ярчэй,
Там алюмінеевая лыжка
За залатую даражэй.

Імчыць аўтобус
"Мінск-Гародня",
За вокнамі буяе даль, -
Усё мне дарага і родна,
Асфальт блішчыць,
нібы крышталь.

Дарога нейкіх тры гадзіны,
А я й не думаў, каб заснуць,
Нібы не ехаў і хвіліны, -
Як мой райцэнтр -
жаночым іменем завуць.

Здарова, Ліда! - горад стольны,
Што Гедымін калісь заклаў,
Касцёлы, цэрквы,
замак годны…
Дальбог гісторыя сама!

Як ёсць, нырцую
ў старажытнасць,
Не выплыву - такой бяды.
О! Колькі продкаў самабытных,
Знайшоў Міцкевіча сляды.

Без дапамог экскурсавода
Блукаю я па ВКЛ,
Вунь йдзе Альгерд,
вунь Вітаўт, - Божа! -
Кейстут, Ягайла - хоць не вер.

На стрэчы мала і гадзіны,
Размовы на наступны раз,
Князі, героі і княгіні -
Сустрэнемся не напаказ.

А зараз зноўку на аўтобус.
Маршрутам "Ліда - Рылаўцы".
Зямля вялікая, як глобус,
А родны кут - не пры канцы.

Іду з прыпынка хутка, звонка,
Ступаюць ногі ўсё шпарчэй,
Лічы, амаль што ля падворка
Дзітва павольненька цячэ.

Бярозы, сосны, дуб-асілак
Мяне вітаюць, як свайго,
Лугі, палеткі, узлескі, нівы…
Нарэшце дома я ўжо!

Сакочуць куры яшчэ зранку,
Лагодна сонейка пячэ,
Стаіць матуля каля ганка
З даёнкай поўнай у руцэ.

О, сырадою-сырадою,
Як я даўно цябе не піў!
Мінск мінеральнаю вадою
Амаль штодзень мяне паіў.

Выходзіць бацька з агароду,
Трымае кошык у руцэ.
- Нясу, сынок, паліць уродаў,
Тут каларадскае "цэцэ". -

Абдымкі, пoціск, пацалункі,
Мех цэлы згадак і размоў,
Служыў мой бацька
ў Войску Польскім,
Усю Германію прайшоў.

А зрок акна фарбуе астра,
Павейкі - бэзавы дубцы…
Ах, штосьці часта,
штосьці часта
Я трызню вамі, Рылаўцы.

Вы ў паўсядзённыя хвіліны,
Пакуль жыцця пульсуе ток,
Нібы ў прастудзе - мёд пчаліны,
Нібы байцу - вады глыток!..

## Тваё жыццё - падручнік па гісторыі…

*Шаноўнай матулі да дня 92-годдзя прысвячаю.*
*"Сто лят!" табе, самы дарагі*
*для мяне чалавек на зямлі.*

Равесніца вайны першасусветнай,
Вялікіх рэвалюцый і нягод,
Варшава да сваёй цягнула веры,
Масква маніла ў свой кругазварот.

О, Беларусь! Любімая старонка,
Між дзвюх імперый ты тады жыла,
Нібы ў бары гаротная сасонка,
І вольнаю, на жаль, ты не была.

Мяняліся міністры і прэм'еры,
Дзялілі беларускую зямлю
Цары Русі, Пілсудскі, разам Ленін,
А пры СССР, дальбог, і не злічу.

"Вялікі" Сталін - бацька ўсіх народаў -
Тваю сястру саслаў у Казахстан,
Што муж яе быў з блізкай Польшчы родам
І за яе ішоў, як на таран.

Хіба Хрушчоў сагрэў цябе адлігай,
Паабяцаў, што камунізм не за гарой,
У будучыню светлую паклікаў,
Хоць не працуй - ляжы ды загарай.

Ды ты без працы лёс свой не ўяўляла,
Раней за гімн любіла ўставаць,
Сярпом зубчатым жыта спорна жала,
Рукамі лён спяшала ў полі рваць.

Пры Брэжневе ты ўзбілася на грошы,
Ашчадны лік у банку завяла,
Ды грымнуў Гарбачоў з перабудовай,
Раздзеў ізноў, як кажуць, дагала.

Амаль усе яны ляжаць ужо ў пасцелі,
Хто на Вавелі, а хтосьці ля Крамля,
А ты і сёння тупаеш, хоць веле,
І бульбу на вячэру зварыш йшчэ сама.

Удзень у працы, вечарам з ружанцам -
Ты Богу давярала найлацвей -
Была мудрэй за іх, бо ты сялянка,
І з хутара табе было відней.

Ты розныя культуры спавядала,
Па вечарах кудзелю прадучы,
Мне песні беларускія і рускія спявала,
І польскіх знала - не пералічыць.

Ты баяла мне казкі трох народаў,
Што заснавалі Кіеўскі пасад,
Вучоныя шукаюць цэнтр Еўропы,
А я ўпэўнены: ён - тут, у Рылаўцах!

Еўрасаюз сягоння зубы шчэрыць,
Маўляў, дыктатар там кіруе ў вас.
Ты ж - свята Лукашэнку верыш
І нам заўжды даеш такі наказ:

- Я шмат перажыла пры ўладах розных,
Вальней і лепш, чым сёння, не было.
На выбарах свой выбар робіць кожны,
Вы ж галасуйце толькі за яго! -

… Адпачываюць кросенцы ў каморы,
Смуткуе калаўротак на гары.
Матуля!
Тваё жыццё - падручнік па гісторыі,
Хоць праўнукам на ўрок яго бяры.

## Ноч у Лідскім замку
## *(Урывак з паэмы)*

*Прысвячаецца таленавітаму фотамайстру сучаснасці Ігару Пешахонаву, нястомнаму шукальніку гістарычных прыгод Міколу Шаўчэнку, няўрымсліваму даследчыку роднай Лідчыны Валерыю Сліўкіну, а таксама ўсім лідзянам, неабыякавым да нашага слаўнага мінулага.*

**I**

Над Лідскім замкам ноч канае,
Плыве туман, як знак надзеі,
І вось ён - светлы цень Лідзеі! -
Ля сцен яго, як здань, блукае.
У белым вэлюме да пят,
Яна то плача, то смяецца,
І срэбра месяца ліецца,
І я сустрэчы гэтай рад.
Сюды прыйшоў я да зары,
Сустрэцца каб з табой, княгіня.
Чаго шукаеш ты, багіня,
Ў сівых стагоддзях, як муры?
Князёўна госця прывячае
І песню сумную спявае:
*- Ды ўсе хмарачкі, ды па парачцы,*
*Адна хмарачка розна,*
*Ды не сварыся ты, мой татачка,*
*Што я гуляю позна.*
*А хоць сварыся ці не сварыся,*
*Ты мяне не навучыш,*
*Бо каго люблю - за таго пайду,*
*Ты мяне не разлучыш…*

**II**

Усходзіць сонца. Гедымін -
Вялікі князь - мужоў склікае,
На іх задачы ўскладае,
Наказ яго гучыць, як гімн:
- Дазорца ў мыле прыскакаў

З трывожнай вельмі навіною:
У колькіх кроках за Дзітвою
На замак крочаць крыжакі.
Сатром тэўтонскае ярмо,
Сустрэнем дружна барбажынцаў,
Дамо адпор любым чужынцам!.. -
Ў адказ гучыць: "Дамо! Дамо!..."
Стаю, баюся зварушыцца,
І недзе з глыбіні вякоў
Мне чуцен тупат капытоў,
Зямля пад імі аж іскрыцца.

**III**

…Ужо і досвітак. Зара,
Як свечка, ціха дагарае,
Мне замак тайны давярае,
І мо - убачу ваяра?
Вунь! З дзідай ён імчыцца з вежы,
Чутно, як меч яго звініць,
Ён кожну хвілю бараніць
Гатоў свой замак, горад, межы!
Як мне, яму даўно не спіцца
(Сама гісторыя не спіць!) -
Па трубах Каменка бруіцца,
Ірвецца замак бараніць.
Прабіцца ёй бы з-пад зямлі
І зліцца ў рэчышча з Лідзеяй
З адною важнаю надзеяй -
Вадою замак акайміць.
Яе даўно ўзялі ў палон,
Ўзялі свае, а не чужыя,
Яна сягоння як рабыня,
Была ж - ахоўніцай муроў.

**IV**

Вось-вось працоўны дзень настане,
Ужо прачнуліся лідзяне.
Выходжу з замка. Міма-міма
Плыве натоўп на лідскі рынак.
А замак велічна і горда

Глядзіць, як мітусіцца горад.
О, люд шаноўны! Мой народзе,
Спыніся, каб адчуць стагоддзі!
О, колькі тут жыве паданняў,
Блукае паўзабытых зданяў!
Тут Гедыміна дух вітае,
Даносіць рэха славу края,
Зямлі славянскай - беларускай! -
Не заваёванай, не прускай.
Кейстут, Альгерд, Ягайла, Вітаўт
Вялі тут з крыжакамі бітвы.
Аб тых праслаўленых падзеях
Шчэ помняць Каменка й Лідзея -
Рачулкі-сёстры баявыя,
Непакароныя, жывыя.
Яны сягоння абмялелі,
Ды даняслі да нас падзеі…
А замак горды, непрыступны,
Як сімвал славы продкаў рупных,
Глядзіць у будучыню горда
І бачыць НАТАўскія орды.
Там, дзе яны цяпер, - ў Шаўляі -
Калісьці крыжакі стаялі.
Іржанне іх крылатых коней
Даносіцца да нас праз гоні.
Ды нас, славянаў племя гордых,
Не пакарыць ніякім ордам.
…З глыбінь стагоддзяў з новай сілай
Гучыць прамова Гедыміна:
- Сатром тэўтонскае ярмо,
Сустрэнем дружна барбажынцаў,
Дамо адпор любым чужынцам!.. -
Ў адказ гучыць:
"Дамо! Дамо!.."

**Русалачка**

*Сабіне К.*

Голенькая купалася
Ў чыстай ракі вадзе,
Адзенне яе памчалася
З ветрам. Не знаю дзе.

Як гэта ў нас бывае,
Мо наляцеў віхор
І лёгенькую сукеначку
Ўзняў аж да самых зор.

Раніца ў сілу бралася,
Рака плыла ў тумане,
Голенькая русалачка
Выйшла насустрач мне.

Заплакала, закрычала,
Каб я адвярнуўся ўбок,
Дзе сонца спякотна ззяла…
Усхліпнула, каб дапамог:

- Нарві мне лазы галінак,
Каб, сорам прыкрыўшы свой,
Змагла схаваць на хвіліну
І даімчаць дамоў.

Няўжо хараство такое
Я мог аддаць нейкай лазе?
Я ў рэчцы нарваў лілеяў,
Спаднічку сплёў для яе.

Яна спаднічку надзела,
Позіркам павяла,
Ўсміхнулася і нясмела
Мяне за руку ўзяла.

А побач цвіла каліна,
Біўся рачны прыбой,
Салодкім, нібы маліна,
Быў пацалунак той.

Мы, бы галінкі, спляліся,
А потым - яна і я -
Ў адну рачулку зліліся.
О, Божа! - пад намі
Загойдалася зямля!

…Шмат год прайшло
з часу тога,
І хоць волас штораз сівей,
Прыходжу на рэчку,
просячы ў Бога
Вецярка памацней.

Вецярка па-мац-ней!..



# Міхась Мельнік

*Міхась Іванавіч Мельнік нарадзіўся 7 лістапада 1949 года на Магілёўшчыне (вёска Майсеевічы Асіповіцкага раёна), але вось ужо 45 гадоў яго жыццё, працоўная і грамадская дзейнасць, літаратурная творчасць цесна звязаны з Лідчынай. Скончыў філалагічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы, працаваў у школах, прафтэхвучылішчы, гістарычна-мастацкім музеі, шмат гадоў выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Лідскім каледжы. Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь. Выдаў зборнікі вершаў "Скрыжаванне", "Лодка жыцця", "З табою".*

**Лідскі шлях Скарыны**

Едучы з Полацка ў Кракаў
Веды ў навуках набыць,
Спыніўся ля Лідскага замка
Скарына душой адпачыць.

Гэтым жа шляхам вяртаўся
Ён з Прагі ў ліцвінскую Вільню,
Дзе справай
друкарскай заняўся,
Каб кнігай уславіць краіну.

Ягонае Слова лунае
Сёння ў вялікім Сусвеце,
Мудрым святлом яно ззяе
Дзедам, бацькам і дзецям.

Высіцца ў горадзе Лідзе
Помнік Скарыну выбітнаму.
Здаецца, што раптам сыдзе
Францыск
з пастамента гранітнага,

Выйдзе да люду з парадай
Кнігі чытаць пажыццёва,
Каб родная мова на радасць
Нам свет адкрывала новы.

### Майсеевічы

О, дарагія Майсеевічы,
Мая вёсачка ненаглядная,
Па сваёй маляўнічай велічы
Для мяне ты надзвычай прывабная…

Каля Пцічы-ракі прытулілася,
Як дачушка да любай матулі,
Ды з лясамі навек паразнілася,
Каб цябе ад нягод адхінулі.

У прысадах усё красуешся -
Хаты многія асіpацелі…
Наваколлем так міла любуешся
І ўглядаешся ў задуменні…

Ты чакаеш дзяцей сваіх блудных,
Спадзяешся на іх пакаянне,
Што не толькі патрэбны ім вуды,
А ў любві да цябе прызнанне…

Не знікай жа, старэнькая вёска!
Хай цябе абнаўляе патомства…
Хоць твой лёс нелагодны і дзёрзкі,
Ды не згіне такое прыгоства!

### Панямонцы

Прытаілася пад сонцам
Наша вёска Панямонцы.
Уздоўж Нёмана-ракі
Выглядае з-пад рукі.

У засені старых садоў,
Пад сховай ліп, бяроз, дубоў
Яна бабулькаю стаіць
І так задумліва маўчыць.

А клёны каля сядзібаў,
Бы волаты тыя на дзіва,

Вясковыя хаты вартуюць
Ды з небам аб нечым мяркуюць.

Тут некалі песні гучалі
І па-майстэрску ў кроснах ткалі,
Былі тут школа, сельскі ФАП
І крама, дзе тавараў шмат…

Цяпер тут ходзяць аўталаўкі,
Нашчадкі зрэдку прыязджаюць,
А гараджане для забаўкі
Пад дачы хаты ўсё купляюць.

Для мяне, як божы рай,
Панямонцы - цуда-казка…
Ды хоць раз ты пабывай
Ў гэтай вёсцы, калі ласка!

**Любімай Лідзе**

Шаноўная Ліда, тваім узростам
Я ў захапленні па праву…
Колісь жыла ты нялёгка, няпроста,
Зведала войнаў нямала.

Князь Гедымін узвёў дзіўны замак,
Каб ганарыліся слаўным мінулым,
Наканаваў нам да волі напрамак,
Каб пра наш горад у свеце пачулі.

Вяла барацьбу ты з татарскім нашэсцем,
З тэўтонаўскімі крыжакамі
І шведаў граміла, змагалася з немцам
І з прышлых французаў палкамі.

Мужна з фашыстамі ты ваявала -
Давала адпор сакрушальны…
Перамагла ўсе нягоды, навалы,
Стала на шлях уладарны.

Вялікі Скарына пакінуў свой след,
Як ехаў праз Ліду у Кракаў;

Адам Міцкевіч - наш слынны паэт -
Пасеяў тут мноства знакаў.

Янка Купала бываў тут таксама,
Як выбіраўся у дэпутаты…
Шмат каго яшчэ Ліда звязала
Лёсам навечна і славай крылатай.

Любімая Ліда, мяне ты натхняеш,
Прывабліваеш прыгажосцю,
З прыстойнай гасціннасцю ўсіх сустракаеш,
Песнямі цешыш і весялосцю.

І мы, лідзяне, заўжды не забудзем
Здзяйсненні продкаў далёкіх і блізкіх, -
За іх светлы розум, за талент і мудрасць
З падзякай схіляем галовы нізка.

**Гонар**

*Праўнуку Герману*

Жыву, не наракаючы на лёс,
хоць у жыцці было не ўсё так гладка,
у беднасці, без бацькі змалку рос,
ды ўсё ж трымала ў будучыню кладка.

Ішоў наперад з верай і надзеяй,
ішоў, не баючыся бездарожжаў,
перамагаючы нападкі ліхадзеяў,
каб шлях жыццёвы хоць на міг прадоўжыць.

Сваіх дзяцей аддана гадаваў,
унукаў песціў ды вучыў маліцца,
а зараз праўнука ўжо прычакаў,
якім, упэўнены, мы будзем ганарыцца.

Дай, Божа, міру ў гэтым свеце палкім,
дай, Божа, сонечнага існавання,
каб у вяках не зведалі нашчадкі
ні войнаў, ні галечы, ні рыданняў…



# *Ганна Рэлікоўская*

*Рэлікоўская Ганна Леанардаўна нарадзілася 8 ліпеня 1964 года ў в. Кянці Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці. Пасля заканчэння Кенцеўскай васьмігодкі паступіла ў Ваўкавыскае педвучылішча. У 1983 годзе стала настаўніцай пачатковых класаў у СШ № 8 г. Ліды. Дыплом гістарычнага факультэта БДУ, атрыманы ў 1991 годзе, дазволіў ёй перайсці на выкладанне гісторыі ў старэйшых класах спачатку ў той жа СШ № 8, затым, з 1995 да 2005 года, у СШ № 17. На працягу года (1999-2000 навучальны год) з'яўлялася культарганізатарам і старшынёй прафкама навучэнцаў Лідскага індустрыяльнага тэхнікума. З 2005 па 2017 год працавала намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце сярэдняй школы № 11 г. Ліды. На сённяшні дзень - настаўнік гісторыі і грамадазнаўства СШ № 17 г. Ліды.*

*Друкавалася са студэнцкіх гадоў у мясцовых раённых газетах Ваўкавыска і Ліды, некалькі вершаў у 2009 годзе трапілі на старонкі "Настаўніцкай газеты", выбраныя творы ўвайшлі ў зборнікі паэзіі, выдадзеныя ў Лідскім раёне ("Ад лідскіх муроў", "Шануйце роднае слова", "Мая маленькая радзіма", "Мой любы горад Ліда").*

*Пераможца конкурсу “Дарослыя - дзецям” імя Веры Навіцкай 2018 года.*

## **Як без цябе?**

Як без цябе?
Ніяк ужо не магу
Ні жыць,
ні піць,
ні есці,
ні нават дыхаць.
Пяю
і слаўлю,
гавару,
пішу
То на ўсю моц,
то вельмі-вельмі ціха,
Амаль што шэпатам.
Чаго дарма штурхаці,
Чаго трывожыць
у паўсядзённай смуце
Анёла - мову -
родную,
як маці,
З якой жыву я
ў шчасці
і ў пакуце?
Як без цябе?
Ні смеху і ні плачу.
І дзень пахмурны,
і няцёмна ноч.
Я без цябе не чую
і не бачу.
Матуля-мова!
Ты са мною кроч,
Каб я са шляху
ўбок не скіравала,
Каб я з сумленнем
годным пражыла,
Каб слоў хапала,
сілы мне хапала
Данесць другім той скарб,
што ты дала.

## Роднай мове

Я словы знайшла, і я зноўку гатова
Свой верш прысвяціць табе, родная мова!
Як нізку бурштына, як зерне ў жменьку,
Збірала я словы ў душы памаленьку.
Як жэмчуг, вырошчвала ў сховішчах водаў,
Каб мова заззяла мая між народаў.
Да кожнага слова - пашана, павага,
Заход асаблівы. Нялёгкая справа.
Сапраўдны баец куль не траціць дарэмна,
Так словы кладуцца ў радок патаемна
Адно ля другога. Ні меней, ні болей.
І кожнае - з радасцю, кожнае - з болем.
Як быццам узор на крыштальнай пасудзе,
Так верш нараджаецца: цуда на цудзе.
І словы тут нельга адняць ці дабавіць,
Бо зменіцца сэнс, бо забудзецца памяць.
Нясу табе, мова, свой верш на абрусе
І нізенька-нізка ў дол пакланюся
За моц і пяшчоту, за мужнасць і ласку,
За вершы і песні, за мудрую казку,
За веру, што сэрцамі шчыра прывечана,
За Беларусь, што табою асвечана!

## Мова беларуская

Я не лічу, што мова ў апале.
Яна гучыць у лепшых сярод нас.
Удзячны мы і Коласу, й Купалу
За мудры іх, прадбачлівы наказ:
Каб мову беларускую мы ўзнеслі
У Беларусі мілай да нябёс,
Складалі вершы, прозу, казкі, песні,
Бо з роднай мовай звязаны наш лёс.
Няма для мовы ніякіх загонаў.
Яна адолее ўсе стромкія парогі
Ад Брэсцкай крэпасці, хатынскіх перазвонаў
Да Курапат і плошчы Перамогі.
Красуйся, мова, на прасторах жніва,
На хвалях Нёмана плыві да берагоў.

Цябе штодзень вітаю, быццам дзіва,
І адчуваю слодыч тваіх слоў.
А хто яе забыў ці мо зарокся,
Прад іншай мовай галаву схіліў,
Той не пачуе ніякіх папрокаў:
Ён сам сябе навекі абдзяліў.

**Сучаснасць**

Наракаюць:
сучасныя дзеці -
бандыты,
А сучасны святар
толькі грошы збірае.
Усе традыцыі продкаў
распяты,
забыты,
І калі-небудзь Бог
іх усіх пакарае.
Стогнуць,
плачуць,
што дрэнна так жыць,
Замаленькі катэдж,
састарэлы айфон.
І "Мустанг" па шашы
не так хутка бяжыць,
І інфляцыя мчыцца
шалёна ўздагон.
Абураюцца:
хабар нясі ўрачу,
І настаўнікі ў школе
зусім ашалелі.
Бач, ім кветкі давай.
Што ж: хачу не хачу,
Але буду спрачацца
са сваім пакаленнем.
Нашы дзеці
ў сто раз, мабыць,
лепей за нас:
Спевакі і спартсмены,
пераможцы, прызёры.

Святары -
яны розныя.
Так было ў кожны час,
Ды заўжды дапамогуць,
у шчасці
і ў горы.
Урачам -
самы шчыры
і нізкі паклон
За іх працу,
за клопат,
за жыццё і здароўе.
Ну а той,
хто настаўнікам шле
свой праклён,
Быў абдзелен калісьці
цяплом
і любоўю.
Век сучасны
насустрач
расхінуў свае дзверы,
Але продкаў сваіх
мы зусім не забылі.
Ветэранаў вітаюць
ізноў піянеры,
І танцуюць падлеткі
кракавяк
і кадрылі.
Наракайце,
стагніце,
абурайцеся млосна.
Вы - няшчасныя людзі,
слугі блату
і грошай.
А я буду сцвярджаць
на ўвесь свет
так галосна,
Што сучасны наш век
не благі.
Ён - харошы!

## Вяртаюся дадому з-за мяжы…

Маршрутка то да долу,
то на ўзгорку.
Вяртаюся дадому з-за мяжы.
Мяркуюць людзі,
як жывуць у Нью-Ёрку,
І скардзяцца,
як цяжка ў нас жыць.
Хаця б да Польшчы быў дазвол паехаць
Без візы,
каб на пана працаваць,
Бо грошы ў кішэнях,
як арэхі,
Там запраста і ўмомант зазвіняць:
Златуўкі,
еўра,
ведама ж, даляры.
Там лепей кормяць,
лепей пояць усіх,
І вельмі танныя на рынках там тавары…
А мне як быццам хтосьці даў пад дых.
Была ў суседзяў я з нядзелі па нядзелю.
Сем дзён гасціла я ў сваёй радні.
Паілі?
Так.
Кармілі?
Не худзела.
Але не бачыла там райскае зямлі.
Свае праблемы.
І нястача грошай
На новы гарнітур
ці завушніцы.
І, марачы аб долі той харошай,
Палякі мараць
ужо да Англіі прабіцца…

* * *

Здаецца мне,
хто дбае аб душы,
Таму не трэба аніякай "замяжы".

**Калі ласка**

Калі ласка, да нас заязджайце
Чым паболей.
Вас сустрэнем лепш,
чым на Мальце,
Хлебам-соллю.
Сонца цёплае, ясны месяц
Будзе ўлетку.
Адшукаць дапаможам у лесе
Папараць-кветку.
Пачастуем яблыкам познім,
Бульбай увосень.
Заязджайце зімой марознай
Да нас, госці!
Пакатаем у Раўбічах смелых,
У палацах лядовых.
Сыпанём вам арэхаў спелых,
Залацістых, мядовых.
І вясной вас шчыра чакаем
У Беларусі.
Сімвал нашай зямлі прывітае -
Белы бусел.
Завярніце, не абмінеце,
Калі ласка!
Дзе яшчэ вы знойдзеце ў свеце
Гэткую казку?!

**Мы - беларусы!**

Гісторыя лёсы вяршыла:
То катаў прышле, то сяброў.
І сёння па нашых па жылах
Цячэ намяшаная кроў.
Палячкай жыву год ад году,
Але ж памяркоўная я,
І мудрасць яўрэйскай пароды
Знаходжу ў сабе спакваля.
Ад рускіх -
гасціннасць і шчырасць,
Шырокі душэўны размах,
Татарскую бачу магчымасць
На рызыку, смеласць у вачах.
Па кроплі крывінкі злівалі
З Усходу і Захаду ў нас.
Вякамі мы іх шліфавалі
І выдалі годны адказ.
Расінкай, пясчынкай пакрысе
Ў характар дабавілі сталасць.
Мы выбралі лепшыя рысы:
Да працы любоў і трываласць.
Ёсць чым ганарыцца народу,
Ёсць талент,
ёсць мужнасць,
ёсць сіла.
Мы - беларусы ад роду!
Усіх нас
Беларусь нарадзіла!

**Падзяліце ўсмешку**

Бывае, дні паўзуць, як чарапахі.
Здаецца, ну калі ж надыдзе ноч?
І ў галаву зноў запаўзаюць жахі,
Не ўцячы ад іх, куды ні кроч.
Але, нібыта сонейка скрозь хмары,
Прыходзіць дзень, напоўнены святлом.
Мільгаюць тыдні. Ты, як на пажары,
Спяшыш, ляціш, каб справіцца з агнём.

І адчуваеш - сіл на ўсё хапае:
Абняць, прывеціць, абагрэць цяплом.
І жах ніводзін больш не зазірае,
І людзі плацяць за дабро дабром.
Жывіце, людзі, радасцю! Жывіце
І для другіх, не толькі для сябе.
З чужым і з родным усмешку падзяліце -
Больш стане шчасця на зямлі ўдвайне.

## Вершы для дзяцей

### Сачыненне

Клас заняты важнай справай,
Разважаюць, кім хто стане.
Піша Міша, Вера справа,
Злева піша Вася, Таня.
Толькі Вова ў задуменні,
Ручку ў рукі не бярэ.
То пагладзіць ён калені,
То на парце штось сатрэ.
І пытаецца настаўнік:
- Кім ты будзеш? Кажы шпарка!
Вова кажа:
              - Я?
                  Начальнік!
Мне патрэбна сакратарка.

### А ў школе цішыня

Нарэшце ў школе цішыня,
Ні шэпатаў,
              ні гвалтаў.
Карціна гэткая штодня,
Сядзяць усе за партай.
На перапынак быў званок,
Але ніхто ні з месца,
І хоць закончыўся ўрок,
Усё роўна ў класах цесна.
Які прайшоўся джын ці маг?
Змяніў дзяцей начыста.
Трохпавярховы школьны гмах
Спакойны і ўрачысты.
Няма дзяцей на турніках,
Пусцютка ля акон.
Прыйшоў да іх найлепшы сябар
І чараўнік -
              смартфон.

### Вішанькі

Калі вясна пачынаецца,
Калі цёплы ветрык павее,
Мяняецца,
              усё мяняецца,
Лагоднее,
              ружавее.
У шкарпэтках бялюткіх
                            вішанькі,
Хусцінкі ў іх накрахмалены,
Узорамі дзіўнымі вышыты,
Пялёсткамі кветак завалены.
Водар да самай да звіліны
Дастане,
              у самыя скроні.
Паветра
              за хвосцік схапілі мы,
А сонечны зайчык -
                            у далоні.



*Ларыса Пятроўна Кавалеўская нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Каўшары Іўеўскага раёна. Скончыла 10 класаў Трабскай сярэдняй школы. Працавала ў Іўі старшай піянерважатай, у гэты перыяд і пачала пісаць вершы. Пасля пераезду ў Ліду служыла ў вайсковай часці ў Паўднёвым гарадку, працавала на розных работах. Зараз на пенсіі. Вершы піша на беларускай і рускай мовах. Друкавалася ў "Лідскай газеце".*

# *Ларыса Кавалеўская*

**Бацькаўшчына**

Дзірваны, дзірваны, дзірваны…
Увайшлі ў вёску маю, абступілі…
Ды вятры, як пустыя званы,
Грукацяць цяжка ў скроні хаціны.

Цішыня не дае мне дзвярэй адчыніць,
Запрасіць ветла ў хату, як маці.
І няма ўжо каму так пяшчотна любіць
Завітаўшага ў госці дзіцяці.

**Мая малая радзіма**

О, край мой родны, як мне любы
Твае крутыя берагі,
І клічуць моцна так дадому
Яшчэ шматтраўныя лугі.

Рамонкі вочкамі мігаюць,
Нібы іскрынкамі расы,
І так сардэчна запрашаюць
У лесу засень верасы.

Непадалёку дуб кашлаты
Бярозе голле працягнуў
І, нібы хлопец зухаваты,
Ёй пра каханне штось шапнуў.

Усё тут міла так і люба:
І закаханы пошум дуба,
І плёск блакітнае ракі.
Ды ў паднябессі трапятліва
Чаруюць песняй жаўрукі.



*Людміла Шот нарадзілася 1 ліпеня 1951 г. у вёсцы Копанькі Гарадзенскага раёна і вобласці. У Лідзе з 1988 года. Закончыла Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт. Працавала загадчыцай дзіцячага сада № 25 ст. Ліда.*

# *Людміла Шот*

**Зіма**

Хто паслаў завею,
Добра разумею.
Снегам сыпле ў вочы,
На мяне, як хоча.

З ветрыкам сябруе,
Днюе і начуе.
Ёй мароз спрыяе,
Бо душы не чае.

Шкло, як ліст паперы,
Малюе і ў цемры,
Як бярэ натхненне,
Усім на здзіўленне.

Белым-бела ўсюды,
З снегу растуць гурбы.
Просяць дапамогі
Людзі і дарогі.

У замеці лес, поле,
І рэчка ў няволі.
Скрозь зіма пануе,
Цешыцць і лютуе.

## У зімовым лесе

Так у зімовым лесе ўрачыста.
Хвоі стаяць задуменна, важна.
Навокал ціха, прыгожа, чыста.
Не настолькі і ветру дасяжна.

Сонейка шле праменьчыкі скупа
Праз навіслыя шэрыя хмары.
Блакітна-серабрыстая смуга
Ахутала дрэвы, людзей твары.

Нібыта зіхотныя зорачкі,
Узорныя сняжынкі падаюць.
Пастаю з ялінкамі трошачкі,
Няхай сэрца яшчэ парадуюць.

## Хатка Таўлая

Хатка Таўлая шчыра вітае,
Усіх запрашае ў сцены свае,
Сціплай любоўю нас аб'яднае.
Былое з сучаснасцю злучна жыве.

Спрыяе ў думках і напраўляе,
Адносін цяпло як сваё беражэ.
Новыя творы кожны чытае
І родную мову, як стрыжань, нясе.

## Матуля

Яна для мяне святая,
Матуля мая дарагая.
Ёй за жыццё сваё ўдзячна,
Як карміла сытна, смачна.

У думках сваіх мілую,
За тое, што бачу, чую,
Дзякуй табе, мая мама.
Матуляй сама ўжо стала.

І душой адчула, сэрцам
Водар бэзу пад акенцам.
Стаць на ногі дала сілы.
Страты, боль не падкасілі.

Прабач за ўсе мае ўчынкі,
На твары што былі слязінкі.
Са злосці я не рабіла -
Ведай, што толькі любіла.

**Ведаю, вярнуся на Зямлю**

Ведаю, вярнуся зноў сюды,
На зямлю, што мяне гадавала,
Праз стагоддзі, а мо і гады,
Па якой я хадзіла, кахала.

З белым снегам, праліўным дажджом,
Рамонкам у полі жытнёвым,
Буду ранкам стаяць за акном
З цёплым сонцам, яскравым, вясновым.

Вярнуся, толькі буду другой,
Той пры дарозе сціплай ялінкай,
Ветрыкам, што лятае кругом,
І ад шчасця на твары слязінкай.

Птушачкай, на траве расою,
Свяціць у небе зорачкай срэбнай.
Невядома, якой парою.
Відаць, як Богу стане патрэбна.

Ведаю, вярнуся на зямлю,
Бо тут сэрца маё застанецца.
Цалкам любоў сваю раздзялю,
З кім, сустрэўшыся, жыць давядзецца.



# Ірэна Сліўко

*Ірэна Нікадзімаўна Сліўко нарадзілася ў 1941 годзе ў вёсцы Залейкі Іўеўскага раёна. Скончыла Марынскую сярэднюю школу, Менскі фінансавы тэхнікум па спецыяльнасці "фінансіст" і Беларускі інстытут народнай гаспадаркі імя В. В. Куйбышава па спецыяльнасці "эканаміст". Працавала 7 гадоў у Астравецкім райфінаддзеле, а затым у Лідскім гарфінаддзеле на пасадах эканаміста, старшага эканаміста і начальніка бюджэтнага аддзела. Друкавалася ў "Лідскай газеце", у газетах "Астравецкая праўда", "Іўеўскі край", "Прынёманскія весткі", у калектыўных зборніках "Мой горад - гонар мой", "Ад лідскіх муроў", "Дарослыя - дзецям", у кнігах А. Каладзяжнай "Этапы жыццёвых дарог" і "Памяць - галоўны сведка". Па выніках III літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай (снежань 2018 г.) узнагароджана дыпломам II ступені і літаратурнай прэміяй.*

**Запаслівы браток**

Малодшы брацік Петручок
Быў заўзяты грыбнічок.
Ды меў адно на мэце:
Як настане час грыбны,
Шыбуе раненька туды.
Нават ноччу мала спаў,
З цемнатою ўставаў,
Не давалі спаць бары,
Лясныя смачныя дары.

Ішоў адзін, не баючыся
Вужакі, воўка ці лісіцы,
З такім натхненнем і імпэтам -
Не перадаць вам проста гэта.
Яшчэ трэба тут адмеціць:
Яму зайздросцілі ўсе дзеці.

"Не хадзі адзін у лес,
Бо сустрэнецца мядзведзь.
Лазяць там і вепрукі,
У іх вострыя клыкі.
Не паспееш драпануць -
Цябе ўшчэнт яны парвуць.

Там жа поўзаюць гадзюкі -
Такія шэранькія злюкі.
Не дай Бог яны ўкусяць
І ў бальніцу легчы змусяць".

Толькі мама разважала:
Яе Пятро - хлапец адважны.
Толькі трэба больш паспаць,
Навошта рана так уставаць?
Хопіць часу йсці пазней -
Пасля абеду і зручней.
Менш расы і павуціння,
Хай абходзяць тыя свінні,
Што палохаюць дзяцей.

А Пятрок у страпяненні
І падумаў у задуменні:
"У лесе рана трэба быць,
Пазней няма чаго рабіць".
Дзядуля сплёў пузаты кошык,
Узяў яго ўнук для ношы.

І вось казачныя гномы -
Вабяць вочы мухаморы.
Гэта знак: тут баравік,
Самы лепшы з лепшых грыб.
Расце пад дубам і пад ёлкай,
Пад лістамі, ля абочын,
Пад ядлоўцам і пад хвойкай.
Шукай, Пеця, будзь ахвочы!

Пад бярозай і асінай
Сядзяць волаты-асілкі.
Носяць назву гэтых дрэў,
Выразай, Пятрок, хутчэй.
І ўзніклі каля сцежкі
Казлякі, рашатнікі
І лісічкі, сыраежкі,
Рыжыкі, махавікі…

Сонца трохі паднялося -
Пятрок вяртаецца дамоў.
Такі шчаслівы і ўзнёслы,
З поўным кошыкам грыбоў.

Насіў грыбы ўлетку, увосень
Па кілаграмаў сем і восем.
Бывала, два, тры разы ў дзень.
Адпачываць сядаў на пень.

І варылі, і салілі,
Насушылі і хвалілі.
Вельмі ўдалы наш Пятрок:
Ідзе з лесу, як грыбок,
Мой запаслівы браток.

**Бацькоўская хата**

Стаіць каля рэчкі бацькоўская хата.
Вада і цяпер там малюе кругі.
Была яна дзецьмі і шчасцем багата,
Аб нечым шапталі кусты, берагі.

Раскідзісты клён, што стаяў каля ганка,
Служыў для гулянак усёй дзетвары,
А вечарам ціха спяваў калыханку,
Каб бачылі мы каляровыя сны.

Высока на дрэве гняздо са шпакамі,
Чародка гусей выплывае з вады.
Шыбуе ля рэчкі рыбак з шчупакамі,
Смакуючы зрання рачныя дары.

Але ў дзяцінства няма ўжо звароту,
І нават рака зарастае травой.
Балюча ў душы, што няма асяродку,
Дзе дружна сяляне жылі талакой.

На ўласнай зямлі збудаваны катэджы,
Сібірскі кругляк пасяліўся на ёй.
Растуць, як грыбы, і на ўсім узбярэжжы
Рака ж і далей зарастае травой.

**Па зямельцы басанож**

Вось сонца ўзыходзіць,
высоўвае блеклы праменьчык.
Хутчэй сагрэць хоча
карміліцу нашу - зямлю.
Я бягу басанож
па росным шляху, нібы млечным,
Па зямельцы, якую
так шчыра, бязмежна люблю.

Герань лугавая
санліва раскрыла пялёсткі,
Бліснуў сінім колерам
сябар вясны - васілёк.
Абуджаецца дзень -
гэты свет таемна дзівосны,
У дзіцячы наш час
звон касцельны быў чутны здалёк.

Тут рэчка заззяла,
быццам зоркі ўпалі з нябёсаў.
Цуркоча крынічка,
прабіўшы свой шлях да ракі,
Каб зліцца з матуляй,
як было ёй прадпісана лёсам,
Чароўнаю песняй
будзе звязана з ёй на вякі.

Ужо стомлены статак
прылёг адпачыць на прыволлі,
Дзе бацька - наш Нёман -
сустрэўся з сваёю дачкой,
Аблокі плывуць,
я ляжу сярод кветак на ўлонні,
Удыхаю іх водар -
на сэрцы пяшчота й спакой.

**Прынёманскі край**
**(вёска Залейкі)**

Мяне вабіць мой край -
край лугоў, сенажацяў, лясоў,
Дзе хадзіла я з пугай
за статкам сялянскіх кароў.
І па роснай траве,
па балотных кустах басаnож,
Дзе халодныя ногі
калечыла з болем да слёз.

Я люблю гэты край,
край балот і палеткаў, бароў,
Дзе таптала сцяжынкі
за зборам асенніх дароў,
Дзе натхняў маё сэрца
заліхвасты напеў салаўіны
І кружыў нада мной
развітальны клінок жураўліны.

Я пад'еду пад хату,
можа, убачу матулю,
З дабрынёй і спагадаю,
хоць у мроях, жывую.
Але сцежка травой зарасла,
я вярнуся ў цёмны нябыт.
І не збудзецца мара мая -
я цалую жалобны граніт.



# Ірына Маркевіч

*Маркевіч Ірына Уладзіміраўна нарадзілася ў 1954 г. Вырасла ў вёсцы Ельня Дакудаўскага сельсавета Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вучылася ў Біскупскай васьмігадовай школе (1961-1969), Дакудаўскай сярэдняй школе (1969-1971), Гарадзенскім сельскагаспадарчым інстытуце па спецыяльнасці "агранамія" (1972-1977), Беларускім дзяржаўным універсітэце па спецыяльнасці "выкладчык біялогіі і хіміі" (1992-1996). Працавала ў калгасах Лідскага раёна спачатку паляводам, а пасля заканчэння ГСГІ - аграномам, загадчыкам участка, галоўным аграномам, сакратаром партыйнай арганізацыі калгаса "Іскра", старшынёй Дакудаўскага сельскага Савета і настаўніцай біялогіі і хіміі Дакудаўскай сярэдняй школы. Зараз на заслужаным адпачынку, пенсіянерка.*

*Вершы пачала пісаць у 1999 годзе. Друкавалася ў "Лідскай газеце", літаратурным электронным інтэрнэт-часопісе "Русская Балтика" ў Літве, часопісе "Ад лідскіх муроў" № 8, выступала з вершамі на Лідскім радыё, на розных мерапрыемствах у Палацы культуры г. Ліды.*

## Беларускай мове

Па-беларуску пісаць буду.
Мовы роднай не забуду,
Бо яна мая, мая.
Песні ёй спяваю я.

Мілагучна гучаць словы:
*Журавіны, лес яловы*,
*Хмызняк, студня* ці *адрынка*,
*Татка, цацка* ці *ялінка...*

Я на ровары паеду
Шпарчэй у краму, на бяседу -
Усюды буду размаўляць.
Без турбот словы гучаць.

Няхай кажуць, што не модна
Па-беларуску гаварыць...
Ды ж гучыць яна лагодна -
У вяках ёй доўга жыць.

Крытыкуйце мяне, госці,
Усе заўвагі я прымаю,
А на роднай мове песні
Я даўненька ўжо спяваю.

Хай жыве мова вякамі,
З-пад нябёсаў звонам льецца,
Між жанкамі, мужыкамі,
Дзецьмі лашчыцца, смяецца.

## Найлепшы спосаб пахудзець

Найлепшы спосаб пахудзець
Называецца "Менш есці".
Перадачу йдзеш глядзець -
Не трэба тазік ежы несці.

Над сабою працаваць
Часам вельмі цяжка:
Апетыт утаймаваць,
Прадумаць добра, важка.

Галоўнае - не пераядаць
Ды з-за стала падняцца,
Больш фізічна працаваць,
Ад страваў аддаляцца.

Актыўнасць, фітнэс, агарод...
Што хочаш выбірай, народ,
Абы далей ад смачных страў.
Вось бы нячысцік іх забраў.

Пра пахудзенне праз таблеткі
Даўно я чула ад суседкі,
Кітайскі "Гербалайф" купіла,
А кілаграмы не згубіла.

Набрала іх, наадварот,
Хоць зашывай ты дратвай рот,
Раз'ехалася ў бакі...
Эфект лячэння быў такі.

Рэклама прапануе шмат,
Як лечыць новы прэпарат,
Рэчываў абмен змяняе -
Не нам здароўе выпраўляе,
Сабе кішэні набівае.

Чаму ад гэткага лячэння
Мне зноўку хочацца пячэння?
Ну як тут кілаграмы скінуць,
Нянавісць да сябе адкінуць?

Вагі зашмат - гіпертэнзія,
Артроз, падагра, анемія...
Хваробаў не пералічыць.
Як бы цыроз не зарабіць.

Вы думайце, сябры мае,
Як пахудзець, паесці дзе,

Рухавасцю хваробы гнаць,
Якіх найлепей і не знаць.

### Каханне

Каханне. Каханне? Каханне!
Цяжкое яго прызнанне.
У сабе яго доўга нашу,
Цярпення ў Бога прашу.

Мне вербы шэпчуць: "Кахаю",
Рамонкі варожаць: "Кахаю",
Лілеі ківаюць галоўкай,
А сказаць пра гэта няёмка.

Ты мне адзіны ў свеце,
І толькі цябе я шукаю
На нашай вялікай планеце...
Кахаю. Кахаю. Кахаю.

Зямля мая, неба, глядзіце!
Сцяжынкаю роснай у жыце
Бягу да цябе і гукаю:
"Кахаю, кахаю, кахаю".

Дзе ты? Хутчэй адгукніся,
На сцежцы маёй пакажыся -
Гэтак я доўга чакаю...
Кахаю! Кахаю! Кахаю!

### Паэт і Муза

Ты сядзіш ды пішаш вершы,
І далёка ён не першы.
Волю думкам ты даеш...
Вось выходзіць вершам верш.

Муза прыйдзе ды гасцюе,
Цябе рыфмамі частуе.
Ты ёй чаю налівай,
Булку ў рукі падавай.

Покуль Муза чай пап'е,
Рыфмы, рытмы пры табе.
Іх у сшытак занатуй -
Новы твор у душы гадуй.

Хай і неба дапаможа,
Зоркі міргаюць прыгожа,
Дожджык, ветрык прылятуць -
Думкі з рыфмамі нясуць.

Успамінай быліны, казкі,
Усё запісвай без падказкі
Для дарослых і дзяцей,
Добрых, нават злых людзей.

Хай жа верш твой песняй стане,
Кліча моладзь на спатканне,
Думкі, сэрца заспакоіць
І пачуцці непакоіць.

Будзіць верш няхай каханне,
Шле камусьці прывітанне,
Заспакоіць мне душу...
Муза тут. Сяджу. Пішу.

### Коцік і гарэза

Пра дзяўчынак, хлапчукоў,
Добрых, ветлівых сяброў
Можна доўга гаварыць,
Песні, казкі ім дарыць.

. . .

Коцік ціха з печы злезе,
Трэцца бокам ды хвастом,
Дзіўнай дзеўчынцы-гарэзе
Па нагах шмаруе лбом.

Просіць коцік есці, ласкі.
Ты пагладзь яго рукою,
Пакладзі крышку каўбаскі,
Рыбкі дробнай з галавою.

На талерачку малую
Лінь грамульку малака.
Ды на  мордачку такую
Трапіць хай твая рука.

Рыбку з'есць каток, каўбаску,
Зліжа малако са сподка
І дзяўчынцы, нібы казку,
Замуркоча так салодка...

У гэтай песні гучыць вецер,
Мышкі ціхенька пішчаць...
Слухай. Кот пра ўсё на свеце
Хоча вам распавядаць.

**Торт**

Торт высокі, як падушка,
Мы з табой спяклі, дачушка.
Ён прыгожы, мяккі, свежы...
Кожны дзень такой бы ежы.

Смачна тата любіць есці.
Не паспее за стол сесці -
Дык адразу падавай
Хлеб, пірог ці каравай.

А як торт - у хаце свята.
Будзе рад не толькі тата -
Дзеці сядуць да стала,
Торт з'ядуць... і ўся хвала.

**Настаўнік за ўсё ў адказе**

Беларускія настаўнікі,
Ніколі не былі вы здраднікі
Ні дзецям, ні сабе і ні прадмету,
Тым больш, калі маеце мэту.

Парадак усюды наводзіце,
Думкі вучняў у лад прыводзіце,
Аб прыродзе ўсё ім раскажаце
І ведаць сябе абавяжаце.

Можаце параду даць,
Як здароўе захаваць,
Што як сеяць ды садзіць,
Ад хвароб абараніць.

Усё настаўнікі пакажуць,
Дапамогуць і раскажуць,
Дзе і як сябе паводзіць -
Гэта ж вучням не нашкодзіць.

Дзяцей вучыце даўно,
З імі ходзіце ў кіно,
На экскурсію вязеце
Ды гарбату разам п'еце.

Як салодкі стол у класе -
Зноў настаўнік у адказе.
Весяляцца дружна дзеці...
На настаўніцкай планеце
Многа шчасця, хараства -
Радуецца хай дзятва.

Калі ў класе лабатрас -
Ён бунтуе ўвесь клас
Ды нічога знаць не хоча,
А сядзіць і ўсё рагоча.

"Перасунуць" яго ў школе:
"Ну й тупіца. І даволі
Ўсім здароўе ён псуе,
Часта курыць, часам п'е".

Так і пойдзе вучань той
Па дарозе з слізгатой,
Школу скончыўшы, ад нас...
Ды ўсё ж настане час -
І ён настаўніка ўспомніць
Добрым словам (іх жа помніць).

Скажа: "Ну і дурань быў!
Я ж жыццё амаль згубіў!
Што ж не слухаў я цябе
І не думаў пра сябе?!

Я ж вучыцца добра мог бы,
І настаўнік дапамог бы
Мне ўсе думкі
ў строй паставіць.
Ведаць болей мог направіць
Я сябе... Але прайшла
Школьная даўно пара".

Пройдзе час, а з тых дзяцей
Хутка бачым мы людзей.
Учынкі зробяць яны як,
Калі вучыліся так-сяк?

**"Зайчыкавы" праблемы**
**Казка-драма**

**-1-**

Экалогія - навука.
Экалогія - праблема.
Гэта наша з вамі мука,
Каб жылося ўсім нядрэнна.

Хай паветра будзе чыстым,
Неба - сінім ды празрыстым,
Рэчка - з чыстаю вадою,
Лес - з грыбамі ды травою.

З кветкамі хай будзе луг,
У чыстым полі арэ плуг,
Звяры і птушкі - не турбуюцца,
У нашым лесе кватаруюцца.

Каб гулялі нашы дзеці
На чысцюткай усёй планеце...
А каб лепей было жыць,
З парадкам трэба нам дружыць.

Малавата яго ўсюды:
Выліваюць многа бруду,

Ёсць праблемы ўздоўж дарогі...
Дык не раз просяць падмогі
Людзі, птушкі і звяры
Круглы год на ўсім двары.

Вось шырокая дарога
Між палеткаў пралягла,
А машын імчыць тут многа
З гарадоў ці да сяла.

Рухавік працуе спраўна.
У ім бензін, дызель гарыць.
З выкідной трубы так слаўна
Чорны дым слупом курыць.

**-2-**

Зайчык, сеўшы пад кусточкам,
Задыхаўся ля дарогі.
Як жа выжыць яго дочкам?
Не ўратуюць, мусіць, ногі.

Думаў: "Траўкі пашчыпаю,
Вады з лужыны пап'ю,
Уздоўж дарогі пагайсаю -
Дзетак усіх я накармлю".

Ды не ведаў зайчык бедны,
Што ў траве той будуць яды.
Ад прысмакаў тых стаў бледны
І жыццю свайму не рады.

Плачуць дзеткі ля дарогі:
"Дзе ж наш татка? Дзе ж яда?"
Не трымаюць зайца ногі:
"Тут труцізна, не вада".

Захістаўся зайчык-тата:
"Дзеткі! Уцякайце ў лес!
Ад дарогі далей. Хату
Закапціў куродым увесь.

На траве ляжыць асадак.
У ядзе - метал, свінец.
Ну які ж гэта парадак?
Хутка будзе мне капец.

Я атруціўся навекі.
Не падняцца болей мне.
Вы скажыце чалавеку:
Хай ён помніць пра мяне".

**-3-**

Падаліся зайца дзеткі
Ад дарогі ў лес далей.
Толькі ж сталі яны сведкай,
Што і там ім не святлей.

Кучы смецця леглі ўсюды
Ад будоўлі ці з завода.
Нарабілі людзі бруду -
Няма зайцу ў лесе ходу.

Грузавік зноў заязджае,
І вязе ён смецця груз.
Тут не звалка! Шафёр знае,
Што Зямлі наб'е ён гуз.

Лесу стане зноў балюча.
Зайцам як ля смецця жыць?
Чалавек ніяк не хоча
З чысцінёю падружыць.

Пасядзелі зайчаняткі
Ды заплакалі так дружна:
"Няма мамкі! Няма таткі!
Нам і ў лесе жыць не можна.

Пойдзем з лесу. Там на полі
Расце шыкоўна ярына.
Мо шчаслівай будзе доля?
Вунь яда здалёк відна".

**-4-**

Вось і поле з ярыною,
Сакавітай лебядою.

Смачна елі зайчаняткі,
Хоць без мамкі, хоць без таткі,
А наеліся ўволю -
Спаць ляглі на ўскрайку поля.

Так сказалі: "Адаспімся.
У чысціні тут наляжымся.
Яды хапае. Падрасцём.
Вось тады на луг пяройдзем".

Але што гэта? Праз суткі
Шчасця скончаны хвілінкі:
Бачаць нашы зайчаняткі -
Едзе трактар да іх хаткі
І машына пад'язджае,
Бочку нейкую скідае.

Засмярдзелася чамусьці -
Трактар вадкасць каламуціць,
Распускае бочка "крылы"...
"Божа! Свет і тут не мілы!

Што ляціць на нас, браточкі?
Няма ж тут сястры-лісічкі,
А ўцякаць ізноў нам трэба -
Тут не з'есці больш нам хлеба".

Але... позна. Зайчаняткі
Не паспелі выйсці з хаткі,
Як іх бедныя галовы
Запаскудзіў "конь сталёвы" -

Вадкасцю запырскаў бруднай...
Стала зайчаняткам  нудна,
Іх галоўкі забалелі,
Ножкі іх тут жа самлелі...

. . .

Вось так гінуць зайчаняткі,
Іхні мамкі, іхні таткі -
Няма сілы ў  іх змагацца.
У чалавека ж ёсць багацце,
А прырода часта гіне
Ды пустыню нам пакіне.

**Мышка**

Села мышка,
З'ела кніжку
І абгрызла ўсю газету.
Што ж ты, мышка,
Мучыш кішкі,
Не вытрымваеш дыету?

Ела б бульбу, памідоры,
Сала, мяса, каўбасу...
Хлеба трошкі ў калідоры
Я табе зноў прынясу.
Не грызі ты мае рэчы,
А паеўшы - спі на печы.

Кошка Мэрсі прыйдзе ў хату,
Ціха ступіць на парог,
На печ скочыць... і багаты
З цябе будзе ёй пірог.



# *Валера Мацулевіч*

*Валера Мацулевіч нарадзіўся 4 жніўня 1983 года ў Лідзе. Скончыў Наваградскі гандлёва-эканамічны тэхнікум па спецыяльнасці "Бухгалтарскі ўлік і аўдыт". Працаваў на прадпрыемствах ААТ "Лакафарба", ААТ "Лідскі завод электравырабаў". Пасля - у школе № 8. Вершы пачаў пісаць з 19 гадоў. Друкаваўся ў газетах "Лідская газета", "Прынёманскія весткі", "Гродзенская праўда", літаратурна-мастацкіх часопісах "Ад лідскіх муроў", "Нёман", "Маладосць", інтэрнэт-часопісе "Русская Балтика" Аўтар зборнікаў "Струны душы" (2011) і "Чалавек са свечкай" (2014). Песні на яго словы выконваюцца бардамі Міхаілам Карнілавым і Сержуком Чарняком. Жыве ў Лідзе. Піша вершы на беларускай і рускай мовах.*

**Пілігрым**

Што збудзіла цябе у вандроўку ўначы?
Ці не Зорка, што радуе неба?
Будзе цёмны гушчар за табою сачыць,
Але ў Праўдзе мацнее патрэба.

Клічуць поўню ваўкі завываннем сваім,
Выпаўзаюць агідныя цені.
Ціха Зорка трымціць. І ідзе пілігрым.
Бачыць светлыя ён летуценні.

Вочы сплюшчвае сон. На нагах мазалі.
Толькі посах і Вера трымаюць.

Толькі крочыць далей. Толькі Бога маліць.
Ласку Божую мужныя маюць.

Але скончыцца шлях. І адчыніцца рай.
Знойдзеш Праўды спрадвечныя сховы.
Сапраўды будзе так! Бо я веру, мой край,
Што ты дойдзеш да ясляў Хрыстовых!

## Струны душы

Днём ці дурманяць нябесныя чары,
Ці цёмнай ночкай не хочацца спаць,
Струны душы, быццам струны гітары,
Распачынаюць ціхутка гучаць.

То зазвіняць у хлапечым запале
І заліхвацкі акорд выдаюць,
То сэрца ў полымі роспачы спаляць,
Бы па-цыганску, тужліва пяюць.

То заструменяцца мудрасцю Ўсходу,
Шчыра нясуць яе ў кожны пакой,
То, атрымаць каб Святло і Свабоду,
Рвуцца палоннаю птушкай-страфой.

То завуркочуць пра сонейка захад,
Раптам расплачуцца разам з дажджом,
То, як набатам, патрапяць у нават
Самы аддалены "водшыбны" дом.

Смейся, душа, ты і ў шчасці, і ў скрусе.
Цяжка смяяцца - па-ўдоўю рыдай,
Вый, бы мяцеліца строямі круціць,
Ды зачахлёная не замаўкай.

## Мне лётчык сказаў…

Мне лётчык сказаў: “Навучыся лятаць,
І ўжо не лятаць будзе цяжка”.
Я ведаю: вершы пачаўшы пісаць -
Без вершаў жыцця ўжо нямашка.

Хай кажуць, што вершыкі толькі міраж,
Не варта імкнуцца высока.
Я рыфмай  ўздымуся, наддаўшы фарсаж,
Туды, дзе блакіт між аблокаў.

Не важна: да неба хутчэй даляціць
Страфа ці страла самалёта -
Схавана навечна, душа там ляжыць -
Паэта душа і пілота.

### *Віншаванне Міхасю Мельніку*

Хай сонца-шчасце днём Вам ззяе,
З нябёсаў шлюць хай прывітанне
Аблокаў-мар імклівых зграя,
Вясёлка светлая - каханне.

Хай не дадуць Вам з шляху збочыць,
Сканаць у барацьбе са злом
Надзеі месяц цёмнай ноччу
І зоркі беларускіх слоў.

### Вайна

Ізноў вайна, ізноў дэсант
Сняжынак кружыць у час палёту.
Знікаюць птушкі-самалёты.
Стаіць сумёт - падбіты танк.

Здаецца, зараз затрашчаць
Салдат-марозаў аўтаматы,
Пачнуць вятры шпуляць гранаты,
Як міны, будзе лёд ляжаць.

Дарма, Зіма, вясновым днём
Франтам вы рушыць загадалі.
Параза хутка вас чакае,
А вашу армію - разгром!

## Хада вайны

"Крочыў" танк жалезнаю хадою
Па зямлі прывабнай і чужой.
Застагнала дрэўца маладое,
Як святар, забіты прад імшой.

Больш не стане ўжо духмяным хлебам
Залаты, як злітак, каласок.
Больш у вочы не ўсміхнецца небам
Знішчаны пачварай васілёк.

Пройдуць тракі па ўсяму, што свята,
Перамелюць радасныя сны.
"Крочыў" танк паходкаю вар'ята,
"Крочыў" танк паходкаю Вайны.

## Антыбагдановіч

Жудасны Марс узышоў над Зямлёю,
Жахі вайны за сабою прывёў.
Плямай крывавай праз бінт супакою
Жудасны Марс узышоў.

Пыльны пейзаж на Чырвонай Планеце
Ў госці, напэўна, сабраўся да нас.
Гінуць дарослыя, гінуць і дзеці -
Менш перамог, чым параз.

Жудасны Марс узышоў над Зямлёю,
Толькі Надзея б ізноў ажыла,
Сведкай Кахання калі б над журбою
Зорка Венера ўзышла.

* * *

Светлячкі набліжаюць ранак -
Гэта шчырасць у сэрцы сада,
Што патрапіў пад іх уладу,
Як пад дождж пачуцця каханак.

Светлячкі набліжаюць ранак -
Гэта зоркі ў люстэрку неба.
Людзям жыць паміж імі трэба,
Бо яны набліжаюць ранак.

* * *

Сляза застыне як бурштын,
Сляза за край, за боль Сусвету.
Ён частка сонечнага лета.
Сляза застыне як бурштын.
Не ганьбіць нават і мужчын
Сляза пякучая паэта,
Сляза за веру, лёс планеты.
Яна застыне як бурштын.

* * *

Каб кветку-папараць знайсці
Альбо шчаслівую падкову,
Якую прашаптаць замову
Альбо ў які мне бок пайсці?
Каб кветку-папараць знайсці,
Я сны ператвараю ў словы -
Вось бляск шчаслівае падковы
І сэнс адметнейшы ў жыцці.

* * *

Ад феерверкаў зорны дождж,
Што льецца ў небе навагоднім,
Хай шчасцем зробіцца
народным,
Яго наліўшы поўны коўш.
Ад феерверкаў зорны дождж,
Як мары, што апапалі з неба.
Хай шчыра прыме наша глеба
Ад феерверкаў зорны дождж.

* * *

Світанкаў царкоўны кагор,
Баладных туманаў кадзіла
І Дзевы Прачыстай убор
Мая ўвабрала Радзіма.
Світанкаў царкоўны кагор,
Баладных туманаў кадзіла
І пацеркі сініх азёр -
Усё тут і свята, і міла.

* * *

У нябёсах - белы галубок,
На зямлі іржою стала зброя.
- Адкажы,
ты праўда альбо мроя,
У нябёсах белы галубок?
- Дам, паэт, табе сваё пяро я,
Мрою з праўдай
зблізіць на радок,
Каб бялеў у небе галубок,
На зямлі іржою стала зброя.

* * *

Алтар з крывёй або з расой -
Які твайму патрэбен Богу?
Якую выбераш дарогу -
Алтар з крывёй або з расой?
Нажом - малога і старога,
Ці па траве збіраць касой?
Алтар з крывёй або з расой -
Які твайму патрэбен Богу?

* * *

Храм з бялюткіх,
як снег, аблокаў
У нябёсах будуе хтосьці,
Вежа там са слановай косці,
Дзе пачуццям і думкам лёгка.
Храм з бялюткіх,
як снег, аблокаў
Рэлігійных не мае межаў -
Добрым людзям усім належыць
Храм з бялюткіх,
як снег, аблокаў.



*Вольга Ашмяна-Бічэль нарадзілася ў 1973 годзе ў горадзе Лідзе. Скончыла Лідскае педвучылішча ў 1992 годзе, пасля вучылася ў ГрГУ імя Я. Купалы. Працавала ў Дакудаўскай сярэдняй школе настаўніцай пачатковых класаў. У Дакудаве знайшла свае каханне (мужа Бічэля Андрэя) і паэтычнае натхненне. Мама траіх дзяцей і паэтэса ў душы.*

# *Вольга Ашмяна-Бічэль*

### Аб бацьках

Да халоднай шыбы прытулюся,
Аканіцы абдыму рукамі,
Раптам у дзяцінстве апынуся,
Там, дзе маладыя тата з мамай.
Патрывожыць успамін баюся,
Каб не зварушыць яго слязамі.
З імі аб усіх нагаваруся,
Пра жывых і тых,
хто ўжо не з намі.
Да зямлі вам нізка пакланюся,
Лепшымі вы былі мне бацькамі.
Вамі я заўсёды ганаруся
І за вас маліцца буду ў Храме.

### Ручай

Такі няўрымслівы і звонкі,
Бяжыць сцяжынкаю лясной
Паміж бяроз і лозаў тонкіх
Сустрэцца з матухнай-ракой.
Блішчыць на сонцы, срэбравокі,
Віншуе радасна з вясной:
"Уставайце, хопіць, абібокі,
Драмаць такою цеплынёй!"
І на прataлінцы шырокай,
Любуючыся чысцінёй,
У ручай заглядваюцца звонкі
Пралескі купкай трапяткой.

## Лёс

Чорнай хмарай аксамітнай
Нада мной крумкач лятае,
Хоча выдзяўбаць мне вочы,
Пер'ем сонца засланяе.
Каб не бачыла святла я,
Ноччу - зорак зіхацення,
Ён сваёй жалезнай дзюбай
Рве душу ў захапленні.
О, мой жорсткі лёс жыццёвы,
Богам мне наканаваны.
Не душы пятлёй шаўковай,
Не закуй мяне у кайданы.
Цяжка жыць мне ў нядолі,
І ніхто не дапаможа…
Чорным крумкачом лятае
Лёс бязлітасны, астрожны.

## Па матывах легенды…

Нізкі вершаў, гукі песень,
Нібы пацеркі караляў,
Аб загубленай нявесце
Запар год сямсот лунали.
Неабвенчанай дзяўчынкай
З непакрытай галавою,
У сціплай, беленькай сукенцы
Ты зышла ў нябыт, з ракою.
-Ліда, Ліда, - клікаў бацька
У дачушчыным пакоі.
- Як цябе ўвекаваці
Ў маім скрушным неспакоі?
І даведаліся людзі,
Толькі сонейка заззяла,
Што іх горад Лідай будзе,
А Лідзейкай рэчка стала.
Праз гады змялела рэчка,
Войны замак зруйнавалі,
Толькі людзі імя Ліды
На вякі ўшанавалі.

## Восень

Самотна, ціха ў вышыні,
Ні гука, ні вясёлых спеваў…
У вырай птушкі паляцелі,
Свой край пакінулі яны.

Вароны ходзяць па раллі,
Трывожаць на зіму пасевы…
На дрэвах жоўтыя лісты
Не ўсе яшчэ на дол зляцелі.

Мароз шчыруе на зямлі -
Трава бялюткая на ранні…
І хоць няма яшчэ зімы,
Чуваць сцюдзёнае дыханне.

У садзе яблычак вісіць,
Сабой напамінае лета…
І, яркай чырванню адзета,
Каліна горкая стаіць
.
Цямнее рана, дождж пайшоў,
Асенняй непагадзі скруха…
Хутчэй бы ўжо прыйшла зіма
І закруціла завіруха.

## Вера

У маёй бессмяротнай душы ,
Што калісьці падорана Богам,
Вера полымем свечкі гарыць,
Ззяннем зоркі над родным парогам.

Мне ў спадчыну дзеды далі
Праваслаўя святло ў дапамогу.
І за дзень, што жыву на зямлі,
Я павінна падзякаваць Богу!

Дзякуй, Божа, табе за бацькоў
І з бабуліных вуснаў малітву,
Што ў сабе захавала любоў
Да людзей, шчыра, сэрцам адкрытым!

Я ўдзячна, што вера мая
Навучыла цярпець і скарацца,
Не зайздросціць, не кпіць, не ілгаць,
І хоць цяжка - заўсёды ўсміхацца.

А пакуль я жыву на зямлі
І кручуся ў жыцця карагодзе,
Мне анёл дорыць крылы свае,
Каб лягчэй мне было ў дарозе.

## Натхненне

Натхненне ... Што гэта за птушка?
Адкуль прыходзіць да мяне?
І думка шаўкавістай стужкай
Падыдзе, за душу кране…

І затрымціць трывожна ў сэрцы:
"Каб не забыць хаця б радок",
І верш нагрэмзаць на паперцы,
Дзе там шукаць які лісток?

А, як бывае, да паўночы
Лятуць, лятуць тыя радкі,
Ажно заплюшчыш моцна вочы,
І бачыш цэлыя слупкі.

Натхненне… Ці ляцець за птушкай?
Ці вершы новыя складаць?
Няхай яно ільецца стужкай,
А мне - пісаць, пісаць, пісаць!



*Жанна Сянкевіч нарадзілася 12 сакавіка 1972 года. Скончыла сярэднюю школу № 4 з музычным ухілам. Пазней атрымала спецыяльнасць лабаранта хіміка-бактэрыялагічнага аналізу. 26 гадоў адпрацавала на Лідскім малочна-кансервавым камбінаце. На працягу 15 год з'яўлялася салісткай народнага ансамбля польскай песні "Крэсавяцы". Замужам, мае дзвюх дачок.*

*Вершы піша вельмі даўно. Гэта і любоўная лірыка, і вершы пра прыроду, і філасофскія разважанні.*

# *Жанна Сянкевіч*

**Бацькоўскі куток**

Іду дарогай камяністай.
Старых дубоў рукой крануся.
І ў сэрцы нешта адгукнецца,
Нібыта ў казцы апынуся.

Бацькоўская старая хата.
На дрэве бусел дом вартуе.
Гады зязюля варажбуе.
І пахне мятаю багата.

А з шчылін усіх,
як дзед старэнькі,
Глядзіць з прыжмурачкаю мох.
Той вобраз, любы майму сэрцу,
Агонь гадоў спаліць не змог.

Пах хлеба, што пякла матуля.
Дзяцінства смак і шчасця пах.
І бацькі сціплая ўсмешка,
Пяшчота ў стомленых руках.

Назад дарогай камяністай
Іду і раптам азірнуся.
Куток, так любы майму сэрцу,
Душой я да цябе імкнуся.

* * *

Каля доміка Таўлая
Стаю ў задуменні,
І душу маю кранае
Кожнае імгненне.

Тут каменні векавыя
Водар дзіўны маюць,
Нібы духі незямныя,
Мне душу кранаюць.

Тут жыве Таўлая слова,
Нібы птах крылаты,
І крынічкай льецца мова
З паэтычнай хаты.

Слова простае, жывое,
Што ад сэрца льецца.
Яно роднае, святое -
Матчыным завецца.

Хвалі возера - як мары,
Да мяне імкнуцца,
Нават у дзень самотны, шэры
У душы смяюцца.

Каля доміка Таўлая
Стаю ў задуменні.
Замак, як асілак мужны,
Шле свае праменні.

Я паэт з душою тонкай.
Яна ніццю ўецца.
Каля доміка Таўлая
Салаўём пяецца.

## Ранішняе

Задуменна гляджу ў люстэрка.
Паліто і з усмешкаю твар.

Бачу вобраз свой нібы з паверха.
Колер вуснаў як вогненны шар.

Ты, аблічча маё, азірніся,
Скінь з плячэй злых прадажнікаў пыл,
Упрыгожваць і ўражваць імкніся
І прымі шыр распраўленых крыл.

Плёны лёсу свайго рассмакую,
Распачну жыццё спевам пяюхі,
Ранкам лёгка, як птушка, узляту я.
Удалечу адыдуць усе скрухі.

* * *

Мой любы горад, ты мой чараўнік,
А я вандроўнік па жыцці зацяты.
Іду, як знахар, паміж цёмных крыг.
Мой крок, мой шлях як сцяг у душы ўзняты.

Ліхтарык шчасця на далоні льсніць
І ўсіх навокал любасцю кранае.
Здзіўляе замка веліч, прыгажосць,
А вежы воблакі крыллём чапляюць.

Мой горад старажытны, ты мой скарб,
Ты ветразь, што душу маю хінае.
Кахаю я цябе, бо ты натхняльнік мой.
Твой вобраз я ў сэрцы захаваю.

* * *

Вітае ў цемры водгалас кахання.
Намаляваў яго захоплены мастак.
Я адчуваю пах твайго дыхання
І казачнасць усмешкі, шчасця знак.

Прыгожы, зорны вобраз мне твой сніцца.
Пералічу пацёркі светлых дзён.
На ўсё жыццё баюся я спазніцца.
Ты маё шчасце або мой праклён.

* * *

Хачу быць чыстым шклом - шклом, праз якое Бог
Падорыць свет зямлі і людзям.
Няхай на ім не будзе брудных плям
І болю, і крыві на ім не будзе.

Няхай яго абмые летні дождж,
А зранку промень сонца пацалуе,
А ўзімку белай фарбаю мароз
Свае ўзоры шчодра намалюе.

Няхай пры ім прытуліць галаву
Матуля, што стамілася з дарогі,
Забудзецца ўся яе туга,
Адыдуць прэч усе яе трывогі.

І ты, каханы, мілы, любы мой,
Убачыш у ім сваё адлюстраванне,
І сэрца так заб'ецца ў цябе,
Калі пачуеш ты маё прызнанне.

А малае дзіця ўбачыць у ім
Усмешку любае матулі,
Якая яму песню праспяе:
"Спі, любы мой, ужо зорачкі паснулі…"

Хачу быць чыстым шклом, каб праз мяне
Свет лепшы стаў на дробную грачынку,
Каб хтосьці ўсміхнуўся хоць у сне
І не спаліў дарма жыцця свайго лучынку



# *Святлана Курловіч*

*Святлана Курловіч нарадзілася ў лютым 1986 года ў Лідзе. Да 1996 года жыла з бацькамі ў Пінску, дзе яны працавалі пасля вучобы ў Беларускай сельгасакадэміі. У Лідзе Святлана скончыла сярэднюю школу № 15, а затым Міжнародны гуманітарна-эканамічны інстытут (факультэт "Міжнародныя адносіны"). Атрымала спецыяльнасць "рэферэнт-перакладчык англійскай і французскай моў".*

*Замужам, жыве ў Маскве, працуе ў Цэнтральным апараце фонду сацыяльнага страхавання па сацыяльна-курортным лячэнні на пасадзе галоўнага спецыяліста. Вершы пачала пісаць у школе. Сумесна са Смарагдам Сліўко друкавалася ў зборніку "От сердца к сердцу", у калектыўным зборніку "Ад лідскіх муроў", у газетах "Лідская газета" і "Принеманские вести".*

*Цяпер знаходзіцца ў дэкрэтным водпуску, гадуе сына.*

* * *

Дзяўчынка з парасонам
Па вуліцы ідзе.
Дождажык барабаніць,
Дзяўчынка ўсё пяе.

"Тата - мой,
Мама - мая.
Дождажык - мой
І ўся мая зямля".

Маленькая дзяўчынка
Па вуліцы ідзе.
Сонейка бліскае
І ласкава пяе.

Хмаркі серабрыстыя
Сталіся ў барах.
А іскры прамяністыя
На тваіх губах.

"Тата - твой.
Мама - твая.
Дождсык - твой,
А іскарка - мая".

Маленькая дзяўчынка
Спяшаецца дамоў.
Думае і думае:
"А хто ўсё ж такі мой?

Дождсык з парасонам,
Хмарка ў барах,
Сонейка ці іскарка
На маіх губах?

Тата - мой,
Мама - мая.
Дождсык - мой
І ўся мая зямля".

А дзядуля і бабуся
Кажуць ёй на вушка:
- Супакойся ты, ладуся,
І запомні, унучка:

Тата - твой,
Мама - твая.
Дождсык - наш
І ўся наша зямля.

* * *

Усё тужлівей неяк стала,
У шэрасць пахілілася.
Можа, гэта толькі стома
Ці я з дарогі збілася?

Мяне ахоплівае стынь,
А можа, я даўно другая.
Не разумею жыцця плынь,
Ці думак ніць маіх тугая?

Здаецца мне, я выжываю.
Што мне наступны дзень нясе?
Я сэрцам блізка ўсё ўспрымаю.
Што так узрушыла мяне?

Чаму павінна адрачыся
Ад тых, хто так патрэбен мне?
Нашто хаваць свае пачуцці
І жыць у бескаляровым сне?

* * *

Ты адчуй горкі смак маіх слёз -
Тваё сэрца адразу адтане.
Ты ўяві: хачу выткаць свой лёс,
А маўчанне тваё мяне раніць.

Ты адчуй горкі смак маіх губ,
І твае затрасуцца павекі.
Разламі гэты выкляты зруб -
Той сцяны,
што паўстала навекі.

Ты адчуй усю горыч тугі.
Што пілуе мяне, як пілою.
І няхай табе сэрца баліць,
Што ты чуць
не расстаўся са мною.

* * *

Прабач… За што?
Няма патрэбы.
Бо праўда сказана ўсур'ёз.
Я не з табой, а там, дзе трэба,
Пайшла без страху і без слёз.

Дарогі ўжо назад не будзе.
Вада знясе апошні след.
Давай не будзем
больш марудзіць
І затуманьваць Божы свет.

## Сон

Мне сніўся сон… Ішла адна,
Па цёмных закавулках страху.
Там ні дзвярэй, ніводнага акна,
А толькі стогны, крыкі, ахі.

Крычаць і бегчы не змагла.
Усюды цені, шэпты, рокат.
Паўсюдна чорная імгла -
Штораз ірваўся дзікі рогат.

Я ўся здранцвела напавал,
І з крыкам я адкрыла вочы.
А гэта навальніцы шквал.
Кажу сабе: "Спакойнай ночы".

## Дабро

Слёзы ад шчасця - вядома, цудоўна.
Уявіць, што патрэбны таму, каго ты жадаў.
Жыццё перастане больш быць бессэнсоўным,
І хочацца бачыць, хто гэта прыдбаў.

Паплакаць ад шчасця - несарамліва,
І пад сонцам у хмурныя дні паляжаць.
Каб нават зайздроснікам сталася крыва,
Што горыч нуды не змагла нас зламаць.

І трэба пастукаць у дзверы, дзе крыўда,
І толькі цяпла ад душы пажадаць.
Хоць у тым жа Нью-Ёрку ці ў горадзе Лідзе
Па-новаму жыць і з дабра пачынаць.

## Я мацней

Усё больш звужаюцца белыя сцены.
Трывожна трапечацца свет уначы,
У моры даўно не вада - толькі пена,
Ля шчасця дарогі сядзяць крумкачы.

І думкі дурныя палошчуць мой розум.
Зрываецца ў бездань мой роспачны крык.
Сцяжынкі ад слёзаў ніяк не прасохнуць,
І дожджык сціхае, ды толькі на міг.

А вецер на даху смяецца над лёсам,
Кідае, шпурляе, і бавіцца з ім.
І стрэлы маланак ляцяць аж з нябёсаў.
Ён вельмі давольны падступствам сваім.

Ну не! Я мацней за багоў і багіняў.
У мне, як у фокусе, зоркавы дождж.
І розум, і сэрца маё не астынуць,
Пакуль не змахну я ад радасці слёз.

## Рэальнасць

Мігценне зор, адкрыты космас,
Няма там праўды і ілжы…
Там дабрыня, знайсці бы компас,
Каб даляцець да той мяжы.

Няма законаў прыцяжэння,
Няма адказаў для мяне.
Так і жыву без спасціжэння,
Што недзе ісціна мільгне.

І ўсё ж лячу ў той свет-загадку,
Пабыць бы там хоць пяць мінут.
І не магу знайсці адгадку,
Вядома ж, што рэальнасць - тут.



*Ала Вадзімаўна Юшко нарадзілася 19 траўня 1955 года ў вёсцы Кузьмічы Ваўкавыскага раёна. У Гародні вучылася на тынкоўшчыка-маляра. Жыве ў Лідзе з 1971 года. Працавала па прафесіі ў БМУ-175, ААТ "Ліда-нафтапрадукт". Вершы піша з 48-гадовага ўзросту.*

# *Ала Юшко*

**Бульба і жук**

У бульбу жук усмакаваўся,
І каб яе ўратаваць,
Развёў дзядок вядро атруты
І венікам пачаў махаць.

А ранкам бачыць: жук пракляты
Яшчэ тлусцейшы нейкі стаў.
Дзед, можа, нешта пераблытаў,
Не так яго пачаставаў?

Ну што за чортава адроддзе!
Як супастата загубіць?
Трайную дозу дзед разводзіць
І зноў давай жука труціць.

Назаўтра новае ўжо гора:
Няма ні бульбы, ні жука.
Бо, мабыць, гэтая атрута
Занадта моцная была.

## Грып

З выраю бусел вярнуўся дахаты.
Ну а тут яшчэ зіма.
Спяць
пад снежнай коўдрай жабы.
Вось дык гэта навіна!

"Дзе ўзяць цяпер мне корму?
Мо ў хахлатак папрасіць?
Але ж іх закрылі ў клетках,
Грып каб усіх не памарыў”.

Тузік бегае кругамі,
Сцеражэ ад чужакоў.
"Дзе знайсці мне Айбаліта,
Каб даведку даў, што я здароў?"

Прыляцеў у родну хату,
Прытуліўся і схуднеў.
"Ну а грып, заразу гэту,
На шляху я не сустрэў".

## Абібок

Госці ходзяць па надворку -
Тузік нават не глядзіць.
Гаспадыня папракае:
"Абібок, чаго маўчыш?"

Ну а ён хвастом віляе
І з дакорам уверх глядзіць:
"Ці ж я розуму не маю,
Каб брахаць мне на сваіх!"

* * *

Маці дачку нарадзіла,
Ну а бацькі след прастыў.
Людзі потым гаварылі:
Сабакам сена ён касіў.
Мабыць, шмат было работы,
Бо крывінку не прызнаў.
Ды суседзі падтрымалі:
- З Божых рук тваё дзіця. -

І на вуснах у немаўляці
Слова "тата" не было.
Хоць і меў мужчына статус,
Пустазеллем усё прайшло.

* * *

Быў званок, што госць у хату.
Трэба хлопца сустракаць,
Бо з далёкай ён дарогі -
Кішкі будуць марш іграць.

Стол накрыла, як заўсёды,
Ёсць што есці і запіць.
Дык чаму не ўгаварыла
Хоць на зуб што палажыць?

Добры госць у хаце быў,
Нават кавы не папіў.

Ну а я цяпер гадаю,
Ці яшчэ калі спаткаю.



# *Уладзімір Янцэвіч*

*Уладзімір Янцэвіч, 1948 года нараджэння, карэнны лідзянін, фотамастак. З 1976 года прымае ўдзел у замежных фотавыставах. Неаднаразова адзначаўся дыпломамі і граматамі. У 1987 годзе ўзнагароджаны медалём ВЦСПС "За дасягненні ў самадзейным мастацтве". Скончыў кінафакультэт Маскоўскага завочнага ўніверсітэта мастацтваў у 1980 г.*

*За гады творчай дзейнасці стварыў болей за 300 фотакарцін, якія ўпрыгожылі інтэр'еры дзяржаўных установ, офісаў, бальніц і г.д. Болей за 50 прац фотамастака ўпрыгожваюць замежныя пасольствы ў Рэспубліцы Беларусь і знаходзяцца ў прыватных калекцыях Аўстрыі, Польшчы, Германіі і ЗША. Ён - аўтар каляровых паштовак, прысвечаных роднаму гораду. Захапляецца паэзіяй.*

**Патаемнае...**

Люблю па лесе пабадзяцца,
сам-насам з ім, як ёсць, пабыць.
Яшчэ люблю, хачу прызнацца,
па лузе ранкам пахадзіць.

Разуўшыся, нагою босай
ступіць у росную траву, -
жаўрук спявае мне ў нябёсах,
схіляюць кветкі галаву.

Свой родны кут
люблю бязмерна,
хоць бачыў шмат якіх краёў -
яму навек я буду верны,
заўжды спяшаюся дамоў!

**Цёплая рачулка**

Дзесьці ўжо на адыходзе,
схамянуўся год Стары:
"Пост здаю зусім без снегу,
а ўжо снежань на двары".
Свіснуў, клікнуў памагатых:
"Гэй, збірайцеся хутчэй,
хай наўкола будзе казка,
ды чысцей і прыгажэй!"
Прыляцела завіруха -
закруціла, замяла.
На лугі, палі, на дрэвы
белым покрывам лягла.
Толькі ціхая рачулка
ёй спакою не дае -
На ваду, як мне ў далоні,
снег кладзецца, растае…

## Люты

*...Памятаю з дзяцінства -*
*прачнуўся ноччу ад моцных*
*гукаў - нібы стрэліў хтось.*
*"Не палохайся, - кажа бацька. -*
*Гэта платы ад моцнага марозу*
*трашчаць."*

Ладзіць свой ліхтар рагаты
Месяц узімку ўначы.
Снег блішчыць.
Стагі, што хаты,
сталі ў лузе ўдалячы.
Цішыня лунае ў полі,
брэх сабачы не чуваць,
толькі зрэдку, у наваколлі,
чутна, як платы трашчаць.
Разгуляўся не на жарты
моцны лютаўскі мароз:
Гэтым годам ён упарты -
цісне, цісне аж да слёз!

## Зімовае...

Змоўк даўно ручай вясёлы,
Летніх птушак не чуваць.
Час настаў, той час зімовы,
Калі ўсцяж снягі ляжаць.

Рады дзеці - толькі ранак -
Гучны смех ва ўсім двары:
Хто на лыжах, хто на санках -
Так і коцяцца з гары.

Бавяць хвілі хлапчаняты -
У зімы кароткі век.
Ім не хочацца дахаты,
Знаю - так было спрадвек!

* * *

Да чырвоных гронак рабіны
Птушкі розныя ўжо прыляцелі:
Тут сінічкі, снягір, свірысцелі -
Шчэбет зліўся ў гоман адзіны…

## Вясна ідзе

Яшчэ сярдуе часам Поўнач,
Зіма не хоча адступаць,
Але ўжо чутны першы покліч,
Бо сакавік пачаў гукаць.

Няма ўжо птушак - адляцелі,
Што любяць сцюжу, холад, снег.
Другі матыў у свірысцелі -
Вясна свой пачынае бег.

Вось не паспееш азірнуцца -
Гаі лістотай зашумяць.
Гарачыя дзянькі пачнуцца -
Усе на поле - працаваць!

## Тут часу марна я не страчу...

З дзяцінства хоць і гарадскі,
Не быў ніколі я вяскоўцам,-
Завуць мяне лугі, ляскі,
Завуць яны мяне бясконца.

Люблю я ў вольную хвіліну,
Па лесе, лузе пабадзяцца,
Паслухаць гоман,
спеў птушыны,
Сам-насам хоць крыху застацца,

Ніхто мне тут не надакучыць,
Не будзе прыставаць
з пытаннем.
Тут часу марна я не страчу,
Тут адпачну з замілаваннем.

## Рэчка майго дзяцінства

Вось рачулка, з дзяцінства знаёмая,
Бавіў час тут свой колькі я мог.
Ты здаўна ўсім лідзянам вядомая -
Ля тваіх берагоў горад лёг.

Я люблю твае воды ласкавыя,
Ціхі бег іх амаль што не чуць.
Час ідзе - мае скроні бялявыя,
Ты ўсё тая ж, гады не бяруць.

Невялічкая - дзе й пераскочыш,
Неглыбочкая - не патануць.
Ты са мной па жыцці разам крочыш -
Зноў іду да цябе адпачнуць.

## Дзякуй табе, лесу…

Там, дзе стрэмяць у неба елкі-векавухі,
Дзе ручай празрысты паміж іх бяжыць,
Не растуць дзе травы, травы-баравухі,
Там люблю ў спёку крыху адпачыць.

Бо сюды ніколі, у самы дзень гарачы,
Скрозь гушчар хваіны свет не зіхаціць.
Сонца не праб'ецца, промня не пабачыш,
Тут не чутна спеваў - птушка не ляціць.

Лягу я пад елкай, на дыван хваіны -
Цішыня, бязмоўе - у вушах звініць.
Адпачну хвілінку, лепш чым на пярыне.
Эх, шкада, што хутка, хутка час бяжыць.

Хутка ўжо дадому, вось і кошык важкі -
Шмат грыбочкаў розных я паспеў сабраць.
Дзякуй за шыкоўны, слаўны падарунак -
Без цябе я, лесу, буду сумаваць.

## На дачы

Люблю, устаўшы цёплым ранкам,
Калі ўсе наўкола спяць,
Накрыць скацёрку-самабранку,-
Гарбаткі з мятай паганяць.

Кіпіць старэнькі самавар -
Яго дымок мне нос казыча.
А вугалькоў затухне жар -
Ён піць чаёк мяне пакліча.

Спяваюць птушкі, а навокал,
Чмялі ды пчолкі ўсяк гудуць.
Куды ні глянеш, толькі вокам -
Сады, сады, сады цвітуць!

Паветра тут - ну, асалода!
На сонцы росы зіхацяць.
Што значыць - родная прырода,
Вось так бы жыць - не паміраць!

## Я іду да лесу ...

Я іду да лесу, я іду да гаю,
дзе дубок з бярозкай ціха шапацяць,

дзе салоўка-пташка песеньку спявае,
дзе імхі шаўковым дыванам ляжаць.

Тут мяне ласкава родны кут прымае:
запрашае, маніць, просіць завітаць,

водар кветак летніх тут заўжды лунае,
сонца промні зранку на расе блішчаць.

Абдыму асінку, быццам бы дзяўчынку,
буду доўга-доўга з ёю так стаяць,

быццам бы юнацтва набяжыць хвілінка,
успамін надыдзе - буду сумаваць…

## Восеньскія фарбы

Раскідала восень на лугі, палі,
Раскідала восень фарбы па зямлі.
Мне да густу ўвосень неўпрыкмет гуляць,
Мне да смаку ўвосень фарбы субіраць.
Мне так люба ўвосень ранак сустракаць,
Бачыць, як на травах кроплі рос блішчаць.
Я іду па лузе, я іду па лесе
І налюбавацца доўга не магу.
Хутка ж ужо прыйдзе снегу занавеса,
Прынясе марозы, доўгую тугу.
І заснуць палеткі, рэчкі і лясочкі,
І не будуць лашчыць сонейкам дзянёчкі.
Будзе наша сэрца зноў вясны чакаць,
А душа па фарбах будзе сумаваць.

## Рыжая восень

Рыжая восень, мы цябе просім:
Ты не спяшайся прыходзіць да нас.
Мы яшчэ ў сэрцы лецейка носім -
Лецейка цёплага промень не згас.

Рыжая восень,ты не спяшайся,
Золатам лісця зямельку накрыць.
Дзе-небудзь яшчэ пагуляй, пабадзяйся,
З лецейкам дай нам тут крыху пабыць.

Рыжая восень, ведаю, скажаш:
Кожнай пары свой прызначаны час.
Як не згадзіцца, што тут адкажаш, -
Ды цяжка аб добрым забыцца падчас.

## Людзям беларускай вёскі

Зямля, зямелька, родная зямліца,
Табой з дзяцінства я зачараваны.
Ты корміш нас, даеш вады напіцца,
Ды шчыра так, самааддана.

Людзей ты любіш простых і звычайных,
Якіх завуць сялянамі ў народзе.
Яны шчыруюць з пеўняў да заходу
І на палетках, і ў сваім гародзе.

Зямля, зямелька, родная зямліца,
Цябе мы будзем і любіць, і славіць.
А тых людзей, хто працы не баіцца -
Заўсёды ў прыклад нашым дзеткам ставіць.

Што б мы, прастыя гараджане,
Каб не яны - працаўнікі сяла?
І хоць заўжды вяскоўцы ў загане,
Але вось маем нешта да стала…

І хоць даўно не маладзее вёска,
Адно старыя дажываюць век.
Мы будзем Богу спадзявацца, лёсу,
Што вернецца к зямельцы чалавек.

Зямля, зямелька, родная зямліца,
Паклон табе, сялянам, іх рукам.
Табой, ВЯСКОВЕЦ, буду ганарыцца,
Што працу робіш добрую людзям!

## Смак дзяцінства

Выйду раніцай гаем бярозавым,
Ні адзіным слядочкам не змераным,
А паветра - такое марознае,
Аж бярозы ўбраліся шэранню!

Усе галінкі ў пушыстую, крохкую,
Што ад сонца іскрыцца каралямі.
Страсяну, і пасыплецца лёгкая,
Ды закруціцца белымі хвалямі.

Буду доўга лавіць яе тварам я,
У далоні лавіць ды па кропельцы,
Смакаваць, ласавацца ёй, талаю, -
Гэты смак мне з дзяцінства шчэ помніцца…

**Чарнобыльскае…**

Яловы лес стаіць у чаканні -
Стаў рэдкім госцем чалавек,
А быў жа час - з замілаваннем
Сюды спяшаўся ён спрадвек.

Прайшла Чарнобыля навала,
Паўсюль пакінула свой след -
Прыродзе роднай сумна стала -
Хто вызваліць яе ад бед?

***

Зямелька, родная зямліца,
За што ты здзекі прыняла?
Замест таго, каб клапаціцца,
Сябе ў пакуту аддала…

Дзе некалі гулялі хвалі,
У жыце, аж пад небасхіл,
Даўно ўжо людцы не аралі ,
Бо лёг Чарнобыля тут пыл.

**Я ганаруся, што карэнны...**

Тут нарадзіўся бацька, маці,
А потым нарадзіўся я.
Жыў дзед спрадвеку
ў гэтай хаце,
Цяпер жыве мая сям я.

Я ганаруся, што карэнны -
Няшмат такіх тут засталося.
Няшмат каму пабачыць змены,
За ўсе часы тут давялося.

Дзе некалі былі пустэчы,
Каменні шэрыя ляглі -
Тут рукі, розум чалавечы
Дамоў шмат соцень паднялі.

Стаяць тут школы і заводы,
Вакол іх - дрэваў карагод,
А ім люстэркам служаць воды
Азёр, ужо каторы год.

Расце мой горад, прыгажэе -
Тых змен ужо і не злічыць.
А я нашу ў сабе надзею,
Каб тут і ўнукі маглі жыць!

***Усім матулям прысвячаю…***

Мама, мамачка, матуля -
Колькі ласкі ў словах тых:
Ці ад дочкі, ад сынулі -
Кожнай маці лашчыць слых.

Нам заўжды матуля рада,
Мы імкнёмся да яе.
Прыгалубіць, дасць параду,
З ёй нам добра, спакайней.

Ёсць матуля - ёсць парадак
У кожнай хаце, на падворку.
Раніцой спячэ аладак,
Прынясе прысмак з каморкі.

А працуе - усе зайздросцяць,
Дзе б матуля ні была:
Ці ў дзяржаўнай установе,
На будоўлі, ля стала.

Мамы, мамачкі, матулі -
Дай Гасподзь вам добрых дзён.
Каб вас беды ўсе мінулі,
Да зямлі вам, мой паклон!

**"Аграном"**

Чырвоныя абуўшы боты,
(не дай Бог ногі замачыць),
Ён прыступае да работы -
Ці добра скошана, глядзіць.

Ідзе паважна, ды цікуе,
Ківае дзюбай з боку ў бок,
І думае, што пашанцуе -
Мо знойдзе раптам каласок.

Ды селянін наш працавіты,
Так чыста ў полі ўсё прыбраў,
Што нават і зярнятка жыта,
Той аграном тут не падняў.

Такое бачу я нярэдка,
Калі бываю на сяле,
Як ходзіць бусел па палетках
Услед за камбайнам на жніве.

**Старыя вольхі**

Любіў я часам выйсці з дому,
Калі пачне ледзь-ледзь світаць.
Прыйсці сюды, пабыць аднаму,
Дзе вольхі-волаты стаяць.

Стаяць яны ў задуменні,
Шапочуць штось адна адной.
Ствалы іх мые і карэнні,
Лідзейка кожнаю вясной.

Старыя вольхі - веку сведкі,
Даўно да вас ніхто не йдзе.
Ужо і я стаў госцем рэдкім,
Даруйце - час сваё кладзе…

**Нарэшце восень завітала**

Нарэшце восень завітала,
Туманы, вільгаць прынясла.
Пайшлі грыбы, я іх нямала
Збіраю ўсякіх да стала.

Люблю я ўвосень пабадзяцца
Па родным лесе ў вольны дзень,
Калінай спелай частавацца,
Пачуць знаёмае: "Пень-пень".

Няма тых птушак - адляцелі,
Чый спеў
так лашчыў слых вясной.
Адно сініцы, свірысцелі,
Ды дзятла чуцен стук парой.

Іду праз лес з задавальненнем,
Лістоты ўжо амаль няма -
Уся пад нагамі. Шамаценнем
Душу мне радуе яна.

**Стаю на беразе рачулкі...**

Стаю на беразе рачулкі,
Ласкава хваля ногі мые.
Не чуцен птушак гоман гулкі,
Туман вячэрні вольхі крые.

А побач вогнішча шугае -
Там юшку вараць сябрукі.
Пах ад яе вакол лунае,
Плыве ўздоўж усёй ракі.

З нябёс цікуе месяц новы,
Што нарадзіўся дзесь на днях.
Падобны на маю падкову,
Вісіць што ў сенцах на дзвярах.

"Э - гэй"! -
Хлапцы мяне пазвалі. -
"Ідзі ды лыжку даставай.
Мы юшку ўжо пакаштавалі,
А смак - за вушы аддзірай!"

Пайду.
А ты, чытач, гартай старонку,
Няма тут больш чаму дзівіцца
(бо ў нас да юшкі - самагонка,
ты ж можаш слінай падавіцца).



*Алесь Мацулевіч. Нарадзіўся 19 студзеня 1981 года ў Лідзе. Скончыў Лідскае педагагічнае вучылішча, Берасцейскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна (філалагічны факультэт). Працуе ў рэдакцыі "Лідскай газеты". Вершы друкаваліся на старонках "Лідскай газеты", у літаратурна-мастацкім часопісе "Верасень", у калектыўных зборніках. У 2015 годзе выйшла яго першая кніга паэзіі "Леў і ключы", у 2019 годзе - другая кніга паэзіі "Горад-карабель". З чэрвеня 2019 года - кіраўнік літаб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты".*

# *Алесь Мацулевіч*

### Замак адраджаецца

*У памяць аб першым суботніку*
*па добраўпарадкаванні тэрыторыі*
*Лідскага замка ў жніўні 2004 года.*

Ціха (хіба што вятры
іншы раз свісталі)
замак зарастаў знутры
дрэвамі-кустамі.

Вецер, перастань свістаць -
паглядзі за "дзверы":
сёння - стукаюць-вішчаць
пілы ды сякеры!

Пагранічнікі, лясгас,
моладзь тут працуюць -
помнік даўніны для нас
ад кустоў ратуюць.

Разнясіце вы, вятры,
радасна навіны:
адраджаецца знутры
замак Гедыміна!

### Фінальны бой

*Напісана пад уражаннямі ад рыцарскага турніру "Меч Лідскага замка-2013"*

Рыцары строй развіналі.
Біся на мячах! Пацей!
У камандным у фінале
б'юцца тыя, хто мацней.

"Белы тур" з мячоў рагамі -
гэта ваяры Літвы.
І рукамі, і нагамі,
і мячом б'яцеся вы!

"Нюрнбергцы" мячамі джаляць-
жоўта-чорныя "чмялі".
Адхіліўся ад мяча ледзь!
Ледзь мячамі не змялі!

Б'юцца пешыя "швейцарцы"
з клуба-"горада" "Люцэрн".
Хочаш з імі ты звязацца?
Атрымаеш па руцэ!

Бой - фінальны бой - між намі.
Біся на мячах! Пацей!
У камандным у фінале
пераможа, хто мацней!

### Хатка дзеда Міхася

*Памяці бешанкаўскага ўмельца Міхаіла Рышкевіча прысвячаецца*

Быццам бы музей рамёстваў
хатка дзеда Міхася -
ёй любуемся ўсёй вёскай,
толькі вочы зіхацяць.

З столі да падлог дашчатых
майстра хатку аглядзім -
тут, ад лыжачкі да шафы,
рэчы, зробленыя ім.

Як ствараць шэдэўры - скеміць.
Створыць - вочы весяляць!
З дрэва змайстраваў Рышкевіч
рамы, мэблю і… сялян.

Жнец, ганчар, касец з касою,
паляўнічы ды рыбак…
І газетнай паласою
не пералічыць ніяк!

Ад паленца да вяскоўца
ўсе яны прайшлі працэс.
Можа гаварыць бясконца
дзед пра гэты люд пра ўвесь.

Будзе палкаю палена.
Шчэпка ж - будучы олень.
Дзед не аднаго аленя
з шчэпак зробіць ад пален!

І надыдзе дзень, гадзіна -
і, задраўшы носа сук,
бешанкаўскі Бураціна
з-пад ягоных выйдзе рук!

### Купалле

Гэй! Гуляйце аж да ранніх
пеўняў, аж пакуль не ўпалі!
На народныя гулянні
запрашае ўсіх Купалле!

Горка - дзеткам, а дарослым -
сцэна сватання Алёнкі.
Музыка да цудаў розных -
льюць мелодыі калонкі.

Вадзянік, лясун, русалкі,
і пачвары, і Яга…
Та-а-ак, ступала на Купаллі
многіх тут істот нага!

Хто пад месячным
пад ззяннем?
На Купалінку хтось - зірк.
Назірай супрацьстаянне
цёмных сіл і светлых сіл.

Кветку-папараць шукаюць.
Карагод кругом кастра.
На ваду вянкі пускаюць…
Назірай, паэт, мастак!

Намалюй, мастак, Купалле.
Апішы яго, паэт.
Цёплы, як касцёр, што паляць,
атрымаецца партрэт.

**Школа на каньках**

*Юным хакеістам і
канькабежцам Першамайскай
СШ прысвячаецца*

У нашай школы моцныя
хакейныя традыцыі -
таму ў дзянькі марозныя
мы шайбы з клюшкай рыцары.

Гульні, катанню на каньках
нас трэнер навучае.
Урок на роўнядзі катка
нам не надакучае.

Спацелая, успененая
ад бегу ад такога,
тут на каньках упэўнена
трымаецца ўся школа.

Зімой спяшаемся на лёд,
як скончыцца вучоба.
(Зіму без снегу наш народ
страчае засмучона.)

Буфетам, музыкай, святлом
каток нас сустракае.
На лёдзе вечар правядзём
(традыцыя такая).

Для нас, каманды маладой
раённай лідскай "лігі",
удзел у "Шайбе залатой" -
крок у хакей вялікі.

Мы - смелая, адчайная
каманда хакеістаў,
дружына першамайская
раённай "лігі" лідскай.

**Маржы**

Любяць пакупацца ўзімку
члены "Белага мядзведзя" -
у палонцы (ванна ім тут!)
плюхаюцца, нібы дзеці.

Морж на возеры ў нядзелю,
ходзіць басанож па лёдзе.
Тут дае здароўе целу
"ванна" - плаванне ў палонцы.

Морж разагравае мышцы,
абцірае цела снегам -
прэч бягуць хваробы-мышы:
гоняць іх маржы са смехам.

У палонцы той не ёкаць
сэрцу: звыкла ўжо табе там.
Ва ўсім целе -
свежасць, лёгкасць
і ніякіх дыябетаў!

Любяць пакупацца ўзімку
члены "Белага мядзведзя".
У палонку - на хвілінку.
Свежасці - гадзін на 200!

### Пчаляры

*Напісана пад уражаннем ад раённага злёту пчаляроў Лідчыны.*

Пчаляры закрываюць сезон:
п'юць шампанскае,
тушаць дымар -
і бакалаў разносіцца звон.
За пчалярства келіх падымай!

Пчаляры адкрываюць свой злёт
у пагодны кастрычніцкі дзень.
Тут - чарэшні, трускалкі і мёд.
Дэгустацыя мёду ідзе.

Пчаляры раскрываюць сябе,
як даведнікі для пчаляра.
Іхні ззаду сезон - і цяпер
яго вынік падводзіць пара.

Пчаляры накрываюць на стол,
размаўляюць, ядуць за сталом,
грамаў п'юць
за пчалярства па сто
і за мёд, што здабыты пчалой.

### На беразе ракі

І плач, чытач, і смейся,
бо краявід такі:
адпачывае… смецце
на беразе ракі.

На лавачку прысела…
бляшанка ад кансерваў.

У марах лунае…
бутэлька шкляная.

Сонцу падстаўляе цельца…
пластыкавая бутэлька.

Загарэў, як турак,
на рацэ… акурак.

Ля рачулкі ў спёку…
тэтрапак ад соку.

Ад спякоты валачыцца…
упаковачка ад чыпсаў.

Апранулася па-летняму…
упакоўка цыгарэтная

У лёгенькіх сукенках…
абгорткі ад цукерак.

Выснова тут такая
з усёй карцінкі гэтай:
ля рэчкі не хапае…
вялі-і-ізнага пакета!

### Сувальская

*У 20-30-я гады XX стагоддзя па вуліцы Сувальскай (цяпер Савецкая) у Лідзе, па прыблізных падліках, размяшчалася больш за 150 прадпрыемстваў гандлю і паслуг.*

Гасцініцы, кінатэатры
ды шчыльныя шэрагі крам…
Я горад, на крамы багаты,
у вершы паказваю вам.

***

Ад завода Шапіраў да замка
працягнуўся
адрэзак Сувальскай.
Гэта вуліца - нібы лідзянка
з торбай розных
пакупак груваcткай.

***

Пачастуй цукерачкай,
блізкая "Амерыка"!

Хоча піць спякотай Янка -
піва дасць яму "Лідзянка".

Сяду за свабодны столік,
павячэраю ў "Брыстолі".

Не прайсці ля магазіна,
дзе духмяная вяндліна.

Тут для вас, пакупнікі,
кілбаса ды кумпякі.

Лідскае высока вельмі
на выставах цэніцца -
золата прывезла з Вільні
каўбаса Радзевіча.

***

Завушніцы і падвескі
робіць ювелір Гавенскі.

Каб пахучым стаў ураз ты,
ёсць адэкалон у "Астры".

Пальчык ад марозу стыне?
Ёсць пальчатачкі ў "Галіне".

"Дзе ўзяць радыё, парайце". -
"Ёсць яно ў "Электрарадзе"".

Пакамечанае ўраз
выгладзіць электрапрас.

Ляжаць радамі шчыльнымі
ліхтарыкі, лічыльнікі.

Я ў Крыгеля з Жыжомскім
прыдбаў прыёмнік "Філіпс".
Прачнуўся ранкам дом з ім,
з-пад коўдры кожны вылез.

***

Каму зубоў здароўе дарага,
звяртаецца да стаматолага.

Чытаць - карысна і пачэсна.
Гандлюе кніжкай Пугачэўскі.

І дарослыя, і дзеці
тоўпяцца ў бібліятэцы.

Выдае Іосіф Альбірт
"Лідскія навіны".
Нас газета гэта вабіць.
Шмат у ёй знайшлі мы.

Уключайце раненька
радыё Шчапанека!

У кіно, нібыта ў сон,
пагружае "Эдысон".

***

Гасцініцы, кінатэатры
ды шчыльныя шэрагі крам…
На плёнцы Сувальскай,
як кадры,
будынкі паказваю вам.

## Прыезд пана Дамбавецкага ў Бердаўку

*У канцы XIX-пачатку XX стагоддзя маёнткам Бердаўка Лідскага павета валодаў Аляксандр Дамбавецкі, вядомая на той час асоба ў царскай Расіі, пэўны час быў магілёўскім губернатарам, членам Сената.*

Зноў з мяшочкам, а не з мехам
ледзянцоў, салодкіх надта,
пан у Бердаўку прыехаў,
магілёўскі губернатар.

Выкраіў пан вольны час
у маёнтку пабываць.
Бердаўскія дзеткі танчаць,
каб ласункі атрымаць.

Дамбавецкі ім бадзёра
кажа: "Брава! Малайцы!"
Для маленькіх для танцораў
ёсць у пана ледзянцы.

Дзякуюць малыя пану,
смокчуць пеўнікаў цукровых.
Позіркам на дзетак глянуў
ён пяшчотным - не суровым.

Як апошнюю цукерку
сунула дзіцятка ў рот,
зазірнуў пан у цагельню,
заглянуў на спіртзавод.

Бачыць ён, што працы вір тут
не спыняе віраваць -
цешаць пана рэчкі спірту,
што ў цагляных берагах.

## Пражская друкарня

*Да 500-годдзя з часу выдання Ф. Скарынам Бібліі ў Празе*

Няпроста надта - выдаць кнігу:
патрэбны значныя выдаткі,
патрэбна, каб расла паціху
гара з манетак мецэнацкіх.

Станкі, папера - дарагія.
Шрыфты не танныя ды фарбы.
Хто грошы выдзеліць такія,
каб са станком
першадрукар быў?

Скарыну мецэнаты Онкаў,
Астрожскі, Бабіч падтрымалі -
і вось, старонку за старонкай,
ствараюць Біблію ў друкарні.

У Празе Біблію друкуюць,
ды не на канфесійнай мове,
не традыцыйную - другую
ствараюць тут для вас, панове.

На беларускай - той, якую
люд паспаліты разумее, -
у Празе Біблію друкуюць
для ўсіх вас, хто чытаць умее.

Пайшлі на пражскую друкарню
нядарма значныя выдаткі,
бо ў кніг гару ператвараюць
гару з манетак мецэнацкіх.

## Шынель на піках

*Памяці начальніка паўстання 1794 г. Тадэвуша Касцюшкі*
*10 кастрычніка 1794 г., пасля паражэння паўстанцаў*
*у бітве пад Мацяёвіцамі,*
*Касцюшка быў узяты ў палон.*

Касцюшка церпіць паражэнне -
задралі ферзенцы насы.
Паўстанцы гінуць пад ружэйны -
для рускіх пераможны - зык…

Казак пытае: "Ты - Касцюшка?"
Касцюшка шэпча: "Так. Вады…" -
ды думае: "Вады б кадушку -
і смагу праганю тады…"

Кладуць Касцюшку на фурманку.
Фурманку трэсці пачало.
"Пад вухам дошка ў колер маку
афарбаваная - чаго?"

Бо галава аб дошку б'ецца.
Казак: "І вораг - чалавек.
На шынялі на мяккім месца
і тулаву, і галаве"…

На шынялі ляжыць палонны.
Шынель - на піках казакоў.
У небе, восеньскім, халодным,
крык жураўліных касякоў.

Крык жораваў - аб паражэнні -
нібыта душ палеглых крык,
што вылецелі пад ружэйны -
для рускіх пераможны - зык.



*Станіслаў Суднік нарадзіўся 21 верасня 1954 года ў в. Сейлавічы Нясвіжскага раёна. У Лідзе жыве з 1994 года.*

*Аўтар кніг паэзіі “Пагоня за мову”, “Мой Грунвальд”, “Лідскія скрыжалі”, “Літва”, “Пілігрымка дадому”.*

*Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Намеснік старшыні Гарадзенскай абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

# *Станіслаў Суднік*

### Звеставанне

***З нагоды 100-годдзя БНР***

Звеставаў Пан Бог Марыі
Весткай добрай са святых нябёс,
І арханёл ёй словы тыя
Аб Сыне Божым сам прынёс.

Праз плойму год зноў сакавіцкім раннем
Бог звеставаў гаротнаму народу,
Што шле яму з бяспамяцтва паўстанне,
Што шле яму дзяржаву і свабоду.

Калісь адзін Іосіф мусіў толькі
На веру Сына Божага прыняць,
Сто год назад імперыі асколак
Сказаў нам Бог дзяржаваю назваць.

Ён дыктаваў ад вечара да рання
За словам слова граматы святой,
Каб стаўся ўсенародным Звеставаннем
Нам сакавіцкі светлы ранак той.

А радасці навокал было мала.
Як Ірад быў вынішчваў немаўлят,
Так беларусаў у зародку вынішчалі,
Крывёй тут захлыналася зямля.

Дзялілі, рэзалі, палілі і таптал,
Ламалі цела і ламалі дух,
Каб мы ніколі з цемры не паўсталі,
Каб нават думак заняволіць рух.

* * *

Мы на палях палеглі многіх бітваў
І турмаў ведалі мо ўсіх празванне,
Ды берагла ад скону нас малітва,
Бо ўжо ж было, было ўжо Звеставанне.

Было абвешчана і сказана народу,
Што мы - Краіна, Нацыя, Дзяржава,
Што маем права мы на волю і свабоду,
Што мы на долю, шчасце маем права.

Ой, цяжка ірадам усіх чыноў і званняў
І з імем нашым нават прымірыцца,
І свет трасуць зашморганым пытаннем:
- Як смеў тут нейкі беларус з’явіцца?

А ён з’явіўся, а ён ёсць і будзе
Насуперак усім ліхім літанням,
Бо некалі ў сусветным грозным гудзе
Сам Бог паслаў нам з неба Звеставанне.

# П Е С Н І

## Летняя ночка

Паклікаў вечар ночку
Ў хаванкі пагуляць,
Чакае маці дочку,
Не можа маці спаць.

Мо весніцы дзе рыпнуць,
Мо брамка заскрыпіць,
А маці не прывыкнуць,
А маці ўсё не спіць.

- Ці весніцы, ці брамка,
Мне розніцы няма,
Ты не турбуйся, мамка,
Дамоў прыду сама.

А дачанька гуляе,
Танцуе і пяе.
Хай заўтра паўшчувае
Матуля зноў яе.

А сёння каля рэчкі
Гулянка да відна.
Гуляе з ночкай вечар,
Дый дзеўка - не адна.

- Ці весніцы, ці брамка,
Мне розніцы няма,
Ты не турбуйся, мамка,
Дамоў прыду сама.

Вось раніца падходзіць,
Пара кароў даіць,
А дочка не выходзіць,
А дочка смачна спіць.

І маці зноў даёнку
Паціхеньку ўзяла:
- Паспі, мая ты донька,
Сама такой была.

- Ці весніцы, ці брамка,
Мне розніцы няма,
Ты не турбуйся, мамка,
Прачнуся я сама.

## Чый муж лепшы?

Цераз тын, цераз плот
Бабы гаманілі,
Цэлы дзень напралёт
Мужыкоў хвалілі

- О, мой муж, ён - не ўсе,
Ладны і харошы,
Ён нясе і нясе
Ўсё дадому грошы.

- Ну, а мой, ну, а мой
Грае і спявае,
А ўжо польку са мной
Лепш за ўсіх згуляе.

- Ну, а мой, што таіць -
Спрытны да работы -
Што казу падаіць,
Што паправіць боты.

- Ну, а мой дык паэт
І мастак найпершы,
То малюе партрэт,
То складае вершы.

- Ну а мой, як ніхто,
Залаты характар,
Ён то едзе на аўто,
То заводзіць трактар...

Цераз тын, цераз плот
Бабы гаварылі,
Сваім любым на абед
Есці не зварылі.

### Полька

У часы ранейшыя,
У часы даўнейшыя
Ўсё было не так -
Моладзь і старэйшыя,
Большыя і меншыя
Ўмелі кракавяк.

Потым забывалася,
Потым зачынялася
Ўсё ў цяжкі куфэрак,
Гінуў у цямрэчы,
Не выпроставў плечы
Спрытны наш абэрак.

Ды паміж нядолі,
Ды паміж няволі,
Паміж войнаў колькіх
Мы не забывалі,
Мы не пакідалі
Родненькае полькі.

Сёння ўсё вяртаецца,
Памяць абуджаецца,
Ты адно паглянь -
Хлопцы і паненкі
Ад гадоў маленькіх
Танчаць падыспань.

Новыя палацы,
Бляск ілюмінацый,
З модай уразрэз
Радасна вітаюць,
Весела прымаюць
Слаўны паланэз.

А ў любой хаціне
Пры любой хвіліне,
Каб гармонік толькі,
Лёгка завіхрыцца,
Пылам закурыцца
Просценькая полька.

Хай там паланэзы,
Ноты і дыезы,
А ў нас скрыпка толькі...
Рэзьне нам знянацку,
Мы закружым хвацка
Мілую нам польку.

### Развітальная

Загуляліся ў вас,
Кліча родны ўжо дом,
А як здарыцца час,
Мы вам зноўку спяём.

Мы пасеем, пажнём
І збяром зноўку гурт,
Песень воз прывязём,
Пачакайце нас тут.

Дай вам, Божа, дабра,
Дай удачы ва ўсім,
Хай жа ясніць зара
Над кутком дарагім,

Хай жа песні гучаць,
Хай не чуецца слёз,
Будзе вам спагадаць
Ваш прасветлены лёс.

Будзе край наш квітнець,
Покуль Нёман цячэ,
А мы будзем вам пець,
Запрашайце яшчэ!

## Сплаў у БНР

Лёгкія хвалі, ласкавыя хвалі
Плешчуцца мірна аб нашы плыты,
Нёману ціхенька мы абяцалі
Волю дагнаць між віхураў крутых.

*Прыпеў:*
Між Дайнавы абшараў,
За велічнаю марай
Па Нёмане, па Нёмане сягоння і цяпер,
Паміж жыццёвых бураў,
Насустрач авантурам,
Па Нёмане, па Нёмане плывём у БНР.

Лёгкія хвалі, ласкавыя хвалі,
Лашчыцца вецер у нашых сцягах,
Кожнай галінкай пяшчотна махаюць
Нашыя дрэвы на двух берагах.

*Прыпеў.*

Цвёрдыя словы, рашучыя словы,
Люд нас вітае ад плёсаў і ніў,
Цвёрдыя словы радзімае мовы,
Нёмана грозны, адвечны матыў.

*Прыпеў.*

Нёман былінны, легендамі слынны,
Ты нас у крыўду павек не дасі.
Бацька радзімы, надзейны адзіны,
Далей жа, далей, да волі нясі.

*Прыпеў:*
Між Дайнавы абшараў,
За велічнаю марай
Па Нёмане, па Нёмане сягоння і цяпер,
Паміж жыццёвых бураў,
Насустрач авантурам,
Па Нёмане, па Нёмане плывём у БНР.

## Бацькава хата

Я многа па свеце бадзяўся,
І цвёрда стаяў, і  хістаўся,
Бываў на гары і на дне,
Ды помніў зацята,
Што бацькава хата
Чакае без стомы мяне.

Я поўз праз густую завею,
Я траціў на поспех надзею,
Блукаў па бясконцай вайне,
Ды верыў заўзята,
Што мама і тата
Сустрэнуць з дарогі мяне.

І вось я дадому вярнуўся,
Ад пылу дарог страпянуўся,
Ды цёмна ў радзімым акне.
Самотная хата,
А мама і тата
З партрэтаў глядзяць на мяне.

Я печ прапалю, як сумею,
Не цела, а памяць сагрэю,
У згадках жыццё прамільгне.
Працепліцца хата,
А мама і тата
Прысняцца, як некалі, мне.

## Клятва

*Паводле Марыі Канапніцкай.*
*Перастварэнне з польскай.*

Не кінем край, адкуль наш род,
На здзек не кінем мову.
Мы - беларусы, мы - народ,
Наш лёс цяжкі, суровы.
Знямечыць вораг нас не змог.
Няхай нам дапаможа Бог.

Мы да апошняй кроплі з жыл
Цярпець маглі трывала,
Пакуль не растрасецца ў пыл
Маскоўская навала.
Нам цвердзю кожны быў парог.
Няхай нам дапаможа Бог.

Ніхто не будзе ў твар пляваць
І нам дзяцей маскаліць,
З нябыту мы змаглі паўстаць,
Нас больш не закабаліць.
Нас кліча ў бой ліцвінскі рог.
Няхай нам дапаможа Бог.

Мы не дазволім нас стаптаць,
Труна хай пачакае,
Наш час за Беларусь стаяць,
Хай кожны памятае.
І верне ўнук, што дзед не змог.
Няхай нам дапаможа Бог.



# *Віктар Дземеш*

*Віктар Дземеш (Вітаўт, Віцень, Дзервіш), эканаміст, журналіст. Працаваў эканамістам на заводах Менскай вобласці, знаходзіўся на адказных пасадах у сродках масавай інфармацыі.*

*Вершы змяшчаліся ў раённым, абласным і рэспубліканскім друку. Першыя творы падтрымала і надрукавала Вольга Міхайлаўна Іпатава, якая потым стала старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў. Публікацыі прыязна сустрэлі Уладзімір Някляеў, Міхась Стральцоў, Янка Сіпакоў і, нарэшце, Ніл Гілевіч. Вершы паэта неаднаразова гучалі на рэспубліканскім радыё, чыталіся і чытаўцца са сцэн на розных мерапрыемствах і святах. Выйшлі кнігі паэзіі "Барысаўскі мерыдыян" і "Барысе ў экслібрысе".*

*З Лідскім раёнам паэта цесна звязвае тое, што ён у час летніх канікулаў у складзе студэнцкага будаўнічага атрада працаваў у саўгасе "Лідскі" на рамонце МТФ, а затым замяняў бухгалтараў гэтай гаспадаркі, якія былі ў адпусках, налічваў заработную плату работнікам Белевіцкай і Гудскай брыгад. Жыў тады ў Будкевіч Алены, суседзямі былі Авідзэні - Ігнат і Вольга. Той незабыўны час часта ўсплывае ў памяці і зараз, таму, як і раней, калі-нікалі пішуцца вершы пра гэты мілы куток зямлі, як і ўвогуле пра ўсю Лідчыну.*

## З ЦЫКЛУ “ГУДЫ - ПЕРАГУДЫ”

### *Да донца*

Сон лесам ахінуты,
Святы, як і спакон,
Салодкі, смачны ён.
Вось Гуды - перагуды,
Што з песняй ва ўнісон,
Адрасаванай зранку
Сяброўцы ці каханку,
Бо ёсць каму спяваць.
Заходзьма ж у альтанку,
Але не злоўжываць!

Вось - дрэва, неба постаць,
Крыжы дарог - і ростань;
Вось смелыя палі,
Што лезуць к сонцу проста:
- Энергіяй налі!
І поіць, поіць сонца
Заўсёдна, не праз раз
Расліны, нават нас,
Каб мы пілі да донца,
Не марнавалі час.

### *Не каханкам*

У Гудах стрэну ля каплічкі
Твой позірк - хоць рукой бяры!
І слізгануць на дно крынічкі
Дзве-тры дапытлівыя знічкі.
Я для цябе - маёй сунічкі
Скачу вавёркай у бары.
Задзірыстым, здаровым ранкам
Цябе я з Гудаў падвязу
Да Ліды - хоць і не каханкам,
Халопам згорбленым,
падпанкам,
Каб на падворку, перад ганкам
Змахнуць нябачную слязу...

### *Стаць паэтам*

Раздолле - і Гуды,
і ветрык разуты
Бяжыць, як хлапчук той
па колкай расе.
Я вершамі скуты,
няма ні мінуты,
Каб іх прачытаць,
каб падправіць усе.
Ару, як той трактар,
паправіць рэдактар,
Дазволіць над Лідай
нізенька ўзляцець.
Слоў тонкіх аматар,
знаў я альма-матар,
Каб стаць потым шчырым
паэтам і пець.

### *Гудуць працай Гуды*

Яшчэ паварот - і праявяцца Гуды,
І сэрца напоўніцца радасцю ўраз,
Спадуць з думак путы, і памяць раскута,
І згінуць з душы непаладкі-пакуты,
І ўбачыш свой стан - малады, разагнуты -
Ад першых сустрэчнымі моўленых фраз.

Гудуць працай Гуды, у полі шчыруюць,
Камбайнамі лідскімі гладзяць прастор,
Спрасаваны час да хвілін не марнуюць,
Пасля зыркай песняй, кастром вечаруюць,
Дзяўчаты задорным вяселлем чаруюць,
Усмешкі направа, налева даруюць,
Аж хваля пяшчоты кранаецца зор.

**Бо я ж - вясковы чалавек**

Я ў Лесніках і Ёдках трохі
Пажыў, сялян папрывячаў,
Касіў траву там да знямогі,
Там з перапуду птушкі глохлі,
Так рэху я ў бары крычаў.

Перакрычаць яго не можна.
Ты гучна, і яно - як ты,
Ляціць скрозь пудкі лес
трывожна,
Стражліва, велічна, абложна,
Гуляе аж да цемнаты.

Казуля выйшла на паляну,
Вавёркі скачуць, бы дзятва...
Я гэта бачыў без падману,
Цяпер, у сны калі загляну,
Душа ў тумане, як Дзітва.

Дзітва! О, колькі ёй хапіла!
Пераўжывае і цяпер,
Хоць на жыццё глядзець няміла,
Ёй спачувае нават звер,
Але знайшлася ў рэчкі сіла...
Трымайся, любая, і вер.

Настане дзень у лёсе чорным*,
Ты дасягнеш былых часоў,
І ў лузе, ад вясны прасторным,
Буслоў сустрэнеш, як паслоў.

... Я ў Лесніках,
у Ёдках крышку
Гасціў ды помню іх праз век,
Я ўражанняў у іх на кніжку
Набраў, а можа, чуць і лішку,
Бо я ж - вясковы чалавек.

** У 2019 годзе Лідская ЖКГ у чарговы раз атруціла Дзітву сточнымі водамі.*

**У Парэччы**

Годы спяшаюцца, крэкчуць,
Так сябе лёгка загнаць,
Толькі хіба што ў Парэччы
Ім мяне ў сілах дагнаць,
Дзе з кіламетр ці з мілю
Ног не змагу валачы,
Дзе спатыкнуся на хвілю
Днём альбо ў цёмнай начы,

Дзе я спынюся, каб людзям
Выціснуць крышку дабра,
Дзе распасцёртыя грудзі
Крыўды ўсе спаляць датла,
Дзе маладое паветра
Моцы ўвалье па вясне,
Дзе і нябёсы, і нетры
Любяць, шануюць мяне.

## Каб у вершы задумныя, складныя...

Шлях палеткамі - нівамі сцелецца,
Сонна марыва ў небе дрыжыць,
На спідометры сотня - і Беліца
Прада мной на далоні ляжыць.

Хаты лезуць наперад, навыперадкі,
Каб на памяць сфатаграфаваў,
Бо былі і такія тут выпадкі:
Сеў і з’ехаў - і як не бываў.

Што ж, здыму вас, малыя і ладныя,
Каб заўсёды са мною былі,
Каб у вершы задумныя, складныя
Кожны раз, як убачу, плылі.

## Перапіс насельніцтва

Ад самай шчодрае душы,
Каб знала ўся аселіца -
І Дворышча, і Беліца -
Хоць насмяшы на кірмашы,
Хоць награшы, а напішы
Пра перапіс насельніцтва.

Загад рэдактар сфармаваў,
З-пад акуляраў гаркнуўшы,
І ў гэты час не жартаваў.
З гадзіну лоб я дратаваў
Над белай гладдзю аркуша.

І закілзаў я горды верш,
Падбіўшы ногі кедамі,
А розум смелы - ведамі,
Ледзь пасяваю следам я.
Нас стала больш
ці ўсё-ткі менш?
Яшчэ ніхто не ведае.

Дзе маладосць -
там прыгажосць,
Там ты заўсёды - званы госць,
Як ёсць, і нават ягамосць,
Вунь - рыбанькі,
вунь - лапанькі...
У Лідзе ўпэўнены, што ёсць
Прырост, дый нават ладненькі.

Бярэ ад сёл, што навакол,
Таму і памнажаецца,
Пяе ад шчасця навасёл,
Ад многіх страў аж гнецца стол,
Ад танцаў аж трасецца дол,
Сусед на шум не жаліцца.

І ўздоўж па Крупаўскай шашы
Народу прыбаўляецца,
Хоць палічы, хоць так пішы,
Прырост тут назіраецца
Такі, што не змяшчаецца.

Таму не будзем мы гадаць,
А будзем вынікі чакаць.



# *Сяргей Чыгрын*

*Сяргей Чыгрын нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жыве ў Слоніме, працуе загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага драматычнага тэатра.*

*Выдаў зборнікі паэзіі "Шчырая Шчара" (1993), "Горад без цябе" (1999), "Лірыка" (2007), "Камень Міндоўга" (2009), кнігі гісторыка-краязнаўчых і літаратурных артыкулаў "Янка Купала і Слонімшчына" (1993), "Родам са Слонімшчыны" (2003), "Пакліканыя на родны парог" (2005), "Чамяры і чамяроўцы" (2006), "У пошуках слонімскіх скарбаў" (2007), "Беларуская Беласточчына" (2008), "З беластоцкай зямлі" (2008), "Тэатр у Слоніме" (2008), "Мастак Антон Карніцкі" (2009), "Жыў роднай песняй" (2010), "Альбярцін" (2011), "Такі іх лёс" (2012), "Па слядах Купалы і Коласа" (2012), "Слонімскія падмуркі" (2012), "Сярод сваіх людзей" (2012), "Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны" (2013), "Слонімскі буквар" (2013), "Легенды і паданні Слонімшчыны" (2013) "Іншых шляхоў не было" (2013), "Гісторыя Слоніма на старых фотаздымках і паштоўках" (2014), "Хочацца дахаты" (2014), "Слонім і ваколіца" (2014) "Шляхамі Беласточчыны" (2015), "Мора Віктара Шведа" (2015), "На радзіме Ігната Дварчаніна" (2016), "Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны" (разам з Сяргеем Яршом, 2016), "Гістарычная мазаіка Слонімшчыны" (2019) і іншыя.*

*Уклаў і выдаў у Беластоку літаратурную спадчыну С. Грынкевіча, Ф. Грышкевіча, У. Казлоўшчыка ("Вяртанне да сваіх", 1999), а таксама гістарычныя нарысы Міколы Шкялёнка ("Беларусь і суседзі", 2003). Сабраў і выдаў літаратурную спадчыну Сяргея Хмары "Рабінавы хмель" (2009), Леаніда Трубача "Паміж песняй і болем" (2010), Юрыя Весялкоўскага "Я веру" (2009), кнігу артыкулаў "Музей у Гудзевічах" Алеся Белакоза (2012) і інш.*

# Літаратурныя пародыі на паэтаў Лідчыны

## Ровар і бровар

*Ад карчмы да бровара*
*Еду я на ровары…*
***Станіслаў Суднік.***

Вунь на польскім ровары -
Пазнаю здаля:
Едзе Стась да бровара -
Аж плыве зямля.
Травы разбягаюцца
У бакі ад ровара,
Мухі разлятаюцца -
Едзе Стась да бровара.
Слоік на багажніку
Скача і трасецца.
Хочацца так бражкі -
Аж шчыміць ля сэрца…
Віп'е ён са слоіка
Смакаты ля бровара…
І засне пад столікам,
І… забудзе ровара.

## Ганарар за верш

*Я ноч не спаў,*
*Вам верш складаў,*
*І галава цяпер баліць:*
*З ганарарам што рабіць?*
***Уладзімір Бурак.***

Я ўсю ночку верш складаў,
Пасля ў раёнку твор даслаў,
Рэдактар глянуў, прачытаў
І мне нічога не сказаў.
Раёнку я ўвесь год купляў,
Ды верша там не сустракаў,
У сяброў пытаўся,
як мне быць -
Без вершаў
мне няпроста жыць.
Сябры казалі: брат, пішы,
Пра ўсё, што маеш на душы,
І дасылай іх у раёнку,
Бо там без вершаў мала толку…
І я пісаў і дасылаў,
Ды іх ніхто не друкаваў…
Вы прад паэтам не грашыце,
Хоць ганарар мне заплаціце.

## Пунктуацыя эгацэнтрычнасці

*Шматкроп'е не стаўце Вы,*
*клічнікі,*
*Хай Ваша развважлівасць гэтая*
*Спрыяе эгацэнтрычнасці.*
***Алена Сіманчык.***

Ты зайшоў да мяне
з пытальнікам,
Не пастукаўся нават у дзверы.
І застаў мяне
ў новым купальніку
Над аркушам чыстай паперы.
На мяне паглядзеў ты
клічнікам,
Я ад позірку кропкаю стала,
Бо цябе да сябе я не клікала,
Бо цябе да сябе не чакала я.
Ты хадзіў па пакоі працяжнікам,
Часам коскаю супыняўся.
Як успомню -
становіцца цяжка,
Як успомню - прыемна кахаўся:
То ў купальнік рукою залазіў,
То пяшчоціў мае калені…
Ты шматкроп'ем мяне абразіў
І двукроп'ем забраў натхненне.

**Аграном**

*Сядзіць варона на суку, кажа:*
*"Кар-р-р…*
*Ці даўно на гэтым полі быў*
*гаспадар?*
*Зарасла ўжо пожня лесам,*
*бур'яном,*
*А калі ж сюды загляне*
*аграном?.."*
***Ірына Маркевіч.***

Варона каркае над полем:
Калі ж прыедзе аграном?
І я прыехала сягоння,
Дзе зарасло ўсё бур'яном.
Чакала суткі агранома,
Каб паказаць яму палі.
Мяне ўзяла пад вечар стома,
І я заснула на зямлі.
Варона каркала у небе,
А агранома не было.
І сніўся мне кавалак хлеба,
Вароны чорнае крыло.
Я так да раніцы праспала -
Ляжала цяжка на баку.
І агранома я чакала
З варонай чорнай на суку.
Ды аграном усё не ехаў,
Што стала сумна мне самой…
А вецер пах з хлявоў даносіў,
Скуль аграном выкідваў гной.

**Вершы для дрэў**

*Гэты дуб можа нас паражыць:*
*Мае вершы і вашыя мары…*
***Алесь Стадуб.***

Я для дрэў у вёсцы першы
Напісаў вязанку вершаў.
Глог паслухаў шматгадовы
Ў рыфму складзеныя словы.
З ранку выпіў трохі хершы -
Я чытаў бярозам вершы.
Ясень слухаў, і асіна,
І каліна, і рабіна,
Ціха доўгая сасна
Вершы слухала адна.
Граб паклікаў нават клёна -
Вершы слухалі натхнёна.
Толькі сумная вярба
Мне сказала: ўсё - журба.
Ды прачнуўся стары дуб,
Пахваліў: пішы, Стадуб!

**Ты і я**

*Ты - мая сцяжынка…*
*Ты - агню іскрынка…*
*Я - Алесь, я - Хітрун…*
***Алесь Хітрун.***

Ты - Алесь, а я - Хітрун,
Ты - спіна, а я - бізун,
Ты - паветра, я - дзівак,
Ты - маркота, я - вахлак,
Ты - пакута, я - сцяна,
Ты - маланка, я - вайна,
Ты - бязмежжа, я - града,
Ты - пілюля, я - вада,
Ты - калодзеж, я - шкілет,
Ты - настрой, а я - партрэт,
Ты - хвароба, я - нуда,
Ты - імгненне, я - бяда…
І куды цяпер мне дзецца,
Як табою б'ецца сэрца?

## *Даніэль Камінскі*

### На смерць Нарбута,
### камандзіра аддзела ў Лідскім павеце

Быў той дзень страшны на Юр'я святога,
Набегла масквы, як сабак, гэтак многа.
Дзень быў дажджлівы, душа ў неспакоі,
На сэрцы прадчуцце нядолі ліхое.

- Нам, брацці, - Нарбут сказаў, -
даюць вестку з Ліды,
Што зноўку ідуць самаеды-агіды.
І хоць сцеражэ кожнай рэчкі нас бераг,
Котры з Дзітвой і стральцоў нашых шэраг.

І хоць Базылевіча клятва, з Дубіч селяніна,
Нам як быццам бы прыкрывае спіну,
Аднак мне на сэрцы так нудна, так важка,
Што хвілю мне тую разважыць за цяжка.

Як бы прадчуваю кепскую прыгоду,
Бо вораг тысячу дае на ўзнагароду,
Хто б мяне даставіў ці мёртвым, ці жывым,
І не так мне страшна ўжо дастацца ім,

Каб жа лёс Айчыны мяне больш не трывожыў,
Каб страх мне за брацці трывог тых не множыў,
Бо над смерцю даўно я з пацехай смяюся
І толькі подлае здрады пакуль што баюся.

Таварышам сэрцы ён так саграваў,
А вораг-блюзнерца ўжо здраду снаваў,
Бо Базылевіч не вытрымаў біцця,
За жыцце сваё аддаў Нарбута жыцце.

Балотам паўзе Цімафеева рота
Следам за Юдам Іскарыётам.
Ідуць па таемных, няведамых гацях,
Каб знянацку заспеці Нарбута з браццяй.

Базылевіч адзін ведаў там тыя ходы,
Ды дух слабаваты меў ад прыроды.
Як бліснуў царскі рубель яму прад вачыма,
І ўжо няважнаю стала Айчына.

За тысячу царскіх рублёў
Ён праз балоты правёў маскалёў.
Тут Нарбут гаворыць: "Ну, досыць казання,
Нас вораг вышукваць не перастане.

І недзе ж, напэўна, ён ужо блізка,
Крадзецца вужакам сцяжынкаю слізкай".
Падняўся ён мужна з браццяю многай,
А куля як свісне і трапіла ў ногу.

Кідаюцца хлопцы яго ратаваць,
А кулі ляцяць і іх даставаць.
Хто камандзіра накрыў сваім целам,
Тога самога душа адляцела.

Марна загадваў, яго каб пакінуць,
Чым здрадзіць, то лепш ім пагінуць.
- Мне ўжо нічога не дапаможа,
Дзеля Айчыны баронь жа вас Божа.

Да слоў тых глухія, хоць самі тут гінуць,
Ды камандзіра не хочуць пакінуць.
Тут звер дзікі і той праявіў бы жаль.
Звер праявіў бы, але ж не маскаль.

З халоднай крывёй па той кучцы стралялі
І Нарбута з хлопцамі там дабівалі.
І покуль да рэчкі данеслі, навекі
Нарбут самкнуў свае ўжо павекі.

Роспач і лютасць спавіла тут брацці,
Кожны з іх помстай за Нарбута плаціць.

Як хацелі набрацца багатых вы лупаў,
Так стосам ля Дубіч наклалі вы трупаў.

Ды сёння за здраду, няроўныя сілы -
Дванаццаць паўстанцаў жыццём заплацілі.
У Дубічы целы праз багну цягалі,
Дзе на падворку пяць дзён праляжалі.

А потым тры дні шчэ ляжалі ў стадоле,
І кожны з анёльскай усмешкай на чоле.

Шчэ па той смерці ў народу гушчы,
З галоваў влоссе ад гора ірвалі,
А недзе ў блізюткай, у Дубіцкай пушчы
Дрэвы панура вяршыні схілялі.

Так лёг з Нарбутам Ёдка тут баявіты,
Пакемпіновіч, Краінскі, славай пакрыты,
Губарэвіч Стэфан і Бразоўскія браты,
Жукоўскі, што ў мужнасці быў, як святы.

Браты два ягоныя ў раньшых бітвах ляглі,
А сёння над ім мы схілілі сцягі.
Лёг Клімантовіч, Тарашкевіч з Ліды,
Спраўны Янкоўскі, як рыцар з Энеіды...

*Напісана ў маёнтку Сапунцы*
*Радуньскай парафіі Лідскага павета. 1863 г.*
*Пераклаў Станіслаў Суднік у Лідзе ў 2018 г.*

## *З Уладзіслава Сыракомлі*

* * *

Там Нёман, як вуж мудры, уецца без слоў
Зялёнай смугою палёў і лугоў,
Там рэзка ўразаецца ён у пануры бор
Або ў нетры гор.
Там, атачоны алешнікам ці вярбой,
Шлях старасвецкі працягвае свой.
Там гвалтоўна новай дарогі шукае,
Ложа сваё разрывае.
Або, спаткаўшы камень на сваёй дарозе,
Б'ецца грудзямі і пеніць з пагрозай,
Або на пяску, як злосць праміне,
Мякка прысне.
На берагах яго - то крыж з вечнай тугой,
То маленькай каплічкі спакой.
Ці ціхая вёска, дварок ледзь вядомы
З дахам з саломы.
А на гары з назваю дзіўнай
Замка ўспамін у руіне старыннай,
Дзе ў вечным кургане спяць пасля бою
Рыцары, нашых паданняў героі.

*Пераклад Станіслава Судніка.*



# *Смарагд Сліўко*

*Смарагд Фёдаравіч Сліўко нарадзіўся ў 1931 г. у г. Яраслаўлі, у сям'і акцёра і паэта. З 1946 г. жыў у Беларусі. Пасля заканчэння Гарадзенскага педагагічнага інстытута з 1961 па 1966 г. працаваў настаўнікам гісторыі, рускай мовы і літаратуры ў Астравецкай СШ, куды прыехаў па запрашэнні другога сакратара Астравецкага РК КПБ С. Ц. Кабяка. Затым лёс звязаў яго з Лідчынай. З 23 гадоў займаўся рэжысурай, канцэртнай дзейнасцю - са школьных гадоў. Пісаў сцэнарыі і музыку. Вершы пачаў пісаць з 7 гадоў. Друкаваўся ў многіх часопісах, газетах. Член літаратурнага аб'яднання "Суквецце" з 1969 г. Аўтар 4-х зборнікаў паэзіі, прозы і гумару.*

*Памёр у 2006 годзе.*

* * *

Вайна - гэта страшна, вайна - так балюча.
У крыку апошнім: "Матуля, бывай!"
Уздрыгвае свет. Так шчымліва і гучна
Званамі галосіць: "Нашто гэты здрай?"

На хвіліну цяпер, калі ласка, устаньце.
Давайце памолімся не абы як.
За ўсіх аднагодкаў, за Ваньку і Таньку,
За нашых дзядуляў - яны наш маяк.

Дзякуй. І я галаву сваю белую
З любоўю і памяццю ціха схілю.
Яны не пайшлі. Я ў вечнасць іх верую.
Іх прыклад працягвае справу сваю.

Я рад: перамога ўпрыгожана кветкамі.
А кветкі - наша моладзь і вы.
Вам суджана быць пераможнымі сведкамі,
І вам апраўдаць іх і мары, і сны.

І ў добрым шляху, азораным светам,
Стварайце, прыдумвайце новыя цуды.
Жыццё - Божы дар і зімою, і летам.
Святла вам, удачы цяпер і паўсюдна.

*Пераклад Марыі Масла.*

**Паэтэса і паэт**

*Унучцы Святлане*

Я зноў с табою парадніўся.
Ты - паэтэса, я - паэт.
Такі дуэт багам прысніўся,
Дзе дзед і ўнучка як букет.

І ў іх прыгожае суквецце
З бабулі, мамы і сяброў,
І з тых, былі што на прыкмеце,
Сталі роднымі мне зноў.

Паэт у тундры ці ў пустыні
Ужо не проста чалавек.
Паэт, прыйшоўшы на хвіліну,
Званіць павінен цэлы век!

Я рады да галавакружэння!
Звяжу з тваім сваё пяро,
І ў нашым новым апярэнні
Мы паляцім тварыць дабро!

*Пераклад Ірэны Сліўко.*

**Васілёк**

Як навальніца і паветра стыне
І ад дажджу і дождж прамок,
Сярод нахіленых травінак
Сінее толькі васілёк.

Трымайся, сінявокі ўдачнік,
І адкрывай прыродзе свет,
Бо ты жывуч, як сталы дачнік.
Даруй, што рваў цябе ў букет.

Люблю жывых і ўсё жывое,
І нават тых, чый выйшаў час,
Каб не даваць сабе спакою,
Каб множыць вартасці запас!

*Пераклад Марыі Масла.*

* * *

Стаяць над абрывам
Дзве старыя сасны.
І з кожным прылівам
Карацейшыя сны.

Сягоння - рачулка,
А заўтра - рака.
Карэнне іх крыху
Размыла вада.

І чуюць свой скрыгат,
Чакаюць той дзень:
Бярвенні парэжуць,
Сучкі - у пляцень.

Корані пругка,
Як даўняя стаць,
Счапіліся разам -
Ніяк не разняць.

…Ляжаць пад абрывам
Ля самай ракі,
Як памяць з нарывам
Любові, тугі.

Далей жа гніюць
Ў ціхай завадзі пні.
Іх дзеці жывуць,
Хоць не так, як яны.

*Пераклад Ірэны Сліўко.*

**Лялечная студыя**

Калі знямог, у час бяды,
Прыйшла пара правесці ўстраску.
І я прыходжу зноў сюды
Ў сівую маладую казку.

Я адчыняю дзверы: у рад
Спяць на сценах "Цуда-Люды".
Нежывыя, пакуль спяць,
У рукі ўзяў - успыхлі цуды.

Мне цягне губы Жываглот,
А Поп без меры грошы дорыць.
І нават Чорт - зусім не Чорт,
І ад пяшчоты ён у гуморы.

Тут і Любоў, і Дабрата,
Блуканне дум з жаданнем ў споры.
Усё, як у мудрага Ката,
Які жыў ля Лукамор'я.

Ніштο душу мне не таміць,
Не страшны мне любыя ўстраскі.
Я зноў ствараю, каб з людзьмі
Любоўю падзяліцца ў казцы.

*Пераклад Ірэны Сліўко.*

## *Уладзімір Васько*

## Ідзі, мой міленькі!

***Апавяданне***

Трэці тыдзень дзьме паўночна-ўсходні калючы вецер. Людзі ўціскаюць шыі ў каўняры, апускаюць вушы ў зімовых шапках, труць пальцамі шчокі, бараду, каб не прымарозіць. Не лёгка лебедзям на лідскіх азёрах. Яны то хаваюць пад крылы ногі, то галаву, то лятаюць каб сагрэцца.

Самае вялікае штучнае возера, насупраць дома паляўнічага, зімою замярзае цалкам і водаплаўныя птушкі ў гэтую пару сюды не залятаюць. Тут толькі сядзяць на сваіх куфэрках, над лункамі рыбаловы і цікуюць за паклёўкай. А вось тры астатнія вадаёмы суцэльным лёдам нават і ў самыя вялікія маразы не пакрываюцца. На іх вялізнымі плямамі застаецца чыстая блакітная гладзь.

Лебедзі і дзікія качкі найбольш тут і атабарваюцца, па-рознаму тусуюцца, між сабой, часам пералятаюць з аднаго месца на другое. Найбольш спяшаюцца туды, дзе іх людзі падкормліваюць хлебам ці булачкамі. А падкормліваюць іх амаль паўсюдна, толькі ў розны час і球 рознымі порцыямі. Адзін чалавек прынясе цэлы батон і ўвесь пакрышыць птушкам, другі кіне на ваду зачарсцвелы, сухі кавалак хлеба,

які пакуль не размокне, ні лебедзям, ні качкам не па зубах.

Ніна Лагун прыходзіць да птушак два разы ў дзень - раніцай і падвечар. Перад гэтым яна заглядвае ў магазін, купляе свежы батон і накіроўваецца да перадапошняга вадаёма па цячэнні Лідзейкі, на яго левы бераг, які парос чаротам і альшынай. Сюды менш за ўсё дабіраюцца лідзяне, бо мясціна тут не ажыўленая, глухаватая. Але чатыры лебедзі - два белыя і два шэрыя, бацькі і дзеці, аблюбавалі гэты вадаём і на іншыя адсюль не peралятаюць. А не так даўно да іх прыбіўся пяты лебедзь, таксама белы, аднак напалавіну меншы за іх і, мабыць, хваравіты, бо нейкі вялы і маларухомы.

Чатыры веліканы не прымаюць яго да сваёй кампаніі, адганяюць прэч, як толькі той наблізіцца. Найбольш ненавідзіць яго самы грозны і магутны лебедзь, з доўгай, тоўстай шыяй і вялізнай галавой. Ён здалёк пазнае намер малога прыбіцца да іх чародкі і, размахваючы крыламі, настырна бяжыць па вадзе, каб з разгону ўзняць у паветра сваё грузнае цела і зверху напасці на няўклюду. Аднак той знайшоў для сябе добры паратунак: ён, хоць і не вельмі жвава, узкарабкваецца на прыбярэжны лёд і спяшаецца схавацца ў чароце. А велікан баіцца лёду, бо аднойчы ён, прызямляючыся ў гэтым месцы, паслізнуўся, упаў і моцна пабіўся. Малы разгадаў ягоную слабасць і карыстаецца ёю.

Ніна Лагун прыкмеціла варожыя адносіны велікана да безабароннай птушкі і ўсю сваю ласку перанясла на пакрыўджанага лёсам лебедзя. Яна пераходзіць цераз мост, з насыпу апускаецца ўніз і між алешын і пасохлых чароцін па снезе крочыць берагам туды, дзе плавае адшчапенец. Наблізіўшыся, яна ціха кліча:

- Ідзі, мой добранькі, ідзі, мой міленькі, ідзі, ідзі, ідзі …

І той вылазіць з вады і, не спяшаючыся, асцярожна кіруе па лёдзі, да свае карміцелькі. Спярша ён баяўся падыходзіць блізка і Ніна Лагун кідала яму невялічкія кавалкі батона здалёк. Ён ахвотна падбіраў іх адзін за другім, імгненна праглынаў і спакваля ўсё набліжаўся да жанчыны. А неўзабаве і зусім пасмялеў і пачаў нават браць спажыву з яе рук. Ніна ласкава ўсміхаецца, падбадзёрвае:

- Добранькі мой, маленькі, частуйся, падрастай, каб дагнаў вунь тых вялікіх птушак, што крыўдзяць цябе.

Ён нібы разумеў сэнс слоў карміцелькі, па-птушынаму даверліва заглядваў ёй у вочы, ківаў галавой. Чалавек і птушка шчыра пасябравалі. Але вось аднойчы з раніцы ўсчалася моцная магнітная бура - і жанчыну ўраз апанавала слабасць, пацяжэла тулава, млявымі сталі рукі, ногі. Яна пайшла ў паліклініку, і ўрач паставіў дыягназ - арытмія сэрца. Накіравалі ў бальніцу. Хвалюючыся, збіраючыся з дому

ў дарогу, Ніна сказала мужу:

- Не пакідай малога лебедзя ў бядзе. Падкормлівай яго. Ён плавае вунь там, на перадапошнім возеры, за павароткай.

- Толькі гэтага мне яшчэ не хапала! - агрызнуўся муж. - Даглядаць нейкага дохлага лебедзя?.. Выжыве! Чорт яго не возьме!

- Чэрствая ў цябе душа, Валера, - прамовіла Ніна. - Не толькі пра мяне, нават пра нявінную птушку не паклапоцішся.

- Не засмечвай мазгі!

Неўзабаве муж адчыніў дзверы і выйшаў з кватэры. Жонка абрадавалася яго адсутнасці, дастала з шафы сто тысяч рублёў і пакіравала да суседкі па пляцоўцы. Не было часу доўга размаўляць, і яна адразу пачала:

- Валя, я даглядаю кволага лебедзя на возеры, але зараз кладуся ў бальніцу і баюся, каб з ім чаго дрэннага не сталася. Ці не магла б ты за гэты час падкормліваць? Вось табе і грошы для пакупкі батонаў.

Ніна расказала, дзе плавае малы лебедзь, як туды дабрацца.

- Ну, добра. Для мяне гэта не цяжка, - адказала Валя. - Толькі ж ты, глядзі, папраўляйся там.

Хвароба не вельмі паддавалася лячэнню, марудна адступала. Жанчыны ў палаце, звяртаючыся да Ніны, казалі:

- Чаго гэта ў цябе пастаянная заклапочанасць на твары, нейкае перажыванне? Здарылася што-небудзь?

- Вы таксама не вельмі часта смеяцеся,- пажартавала яна.

Выпісалі Ніну толькі праз месяц. Па дарозе дадому яна заглянула ў прадуктовы магазін, купіла два батоны - адзін для сябе, другі для птушкі. На лесвічнай пляцоўцы сустрэла суседку.

- Ну што, Валя, як там мой лебедзь?

- Падрос, акрыяў. Усе птушкі пераляцелі ўжо на вялікае возера. Ён - таксама. Прыйшла ж вясна!

Ніна паставіла дома сумку ў спальні, не дастаючы з яе адзення, паклала на кухонным століку батон, другі з пакетам захапіла з сабой. Яна спяшалася на сустрэчу з малым лебедзем.

Здалёк убачыла, як птушкі тусуюцца на сярэдзіне возера. Пахілілася на гарадскі пляж, дзе на сонцы грэецца жоўценькі пясочак і стаяць разнакаляровыя грыбкі. На беразе напружыла зрок, каб распазнаць у чародцы свайго гадаванца, ды дарэмна: ён стаў аднолькавым з усімі птушкамі. І лебедзь не пазнаў сваю былую карміцельку.

Тады Ніна, не гледзячы на тое, што побач праходжваліся жанчыны і мужчыны з малымі дзяцьмі, пачала клікаць:

- Ідзі, мой міленькі, ідзі, мой добранькі, ідзі, ідзі, ідзі!..

І адзін з лебядзяў нібы ўздрыгануўся, вышэй прыўзняў галаву,

тут жа адлучыўся ад чародкі і, рамантычна пагойдваючыся на бліскучых хвалях, адліваючы белым апярэннем на сонцы, настырна плыў да берага, на якім стаяла Ніна Лагун …

… Ён пазнаў яе па голасе.

## Балэбка

***Апавяданне***

Балэбка са сваёй жонкай Тафіляй жывуць у дзевяціпавярховым доме, на восьмым паверсе, у аднапакаёвай кватэры і ўтрымліваюць двух сабак. Кожны дзень ранкам і падвечар па чарзе яны выводзяць сваіх гадаванцаў на выгул.

З восьмага паверха ўніз Балэбка звычайна едзе з сабакамі ў ліфце, а Тафіля зводзіць іх па лесвіцы. Усім абрыдлі яны ў пад'ездзе.

Аднойчы ў ліфт ўвайшоў мясцовы трэнер па боксе з малым дзіцем на руках. Сабакі, якія знаходзіліся тут, паднялі брэх, а меншы, Бэдзя, увогуле дамагаўся ўкусіць трэнера за лытку. Як не прыціскаў яго Балэбка нагою ў куток, нічога не атрымлівалася: малы шчэрыў зубы, свірапеў, палохаў дзіця, якое расплакалася і тулілася да бацькі.

- Яшчэ раз будзеш ехаць з сабакамі ў ліфце - размажу па сцяне, - прыгразіў трэнер.

- Ліфт агульны для ўсіх, - запярэчыў Балэбка.

- Адпраўлю ў агульную магілу.

- Падбіраў бы хоць лепшыя словы. Пасаромеўся б пажылога чалавека.

- Заткні пашчу!

Большы, аблавухі Нэгус, спакойна сядзеў у кутку, дапытліва пазіраючы то на Балэбку, то на трэнера. Ён адчуваў, што паміж імі дзеецца штосьці нядобрае і гатовы быў у любую хвіліну кінуцца на дапамогу свайму гаспадару.

Неўзабаве дзверы ліфта адчыніліся - і ўсе выйшлі ў калідор, пасля - на вуліцу. Сабакі, удыхнуўшы свежае паветра, у парыве нацягнулі павадкі. Бэдзя паводзіў сябе неспакойна, брахаў на мінакоў, кідаўся з боку ў бок, нерваваўся, а Нэгус раўнамерна бег побач.

У Балэбкі і Тафілі розныя методыкі выгулу сваіх гадаванцаў. Балэбка звычайна трымае два павадкі ў адной, правай руцэ, а сабакі бягуць збоч; ён спяшаецца за імі, пабліскваючы на сонцы двума меднымі дроцікамі, якімі счапіў падэшву з наском туфля на правай назе. Тафіля ж, наадварот, у адной руцэ трымае павадок ад Бэдзі, у другой - ад Нэгуса, сама, перавальваючыся з нагі на нагу, як адкор-

мленая хатняя качка, ідзе пасярэдзіне.

Як толькі гаспадары прамінаюць інтэрнат тэхнічнага каледжа, адразу адвязваюць паваdкі ад нашыйнікаў і адпускаюць чацвераногіх сяброў на волю. Тут для іх адмысловая раскоша - шырокая лугавіна, парослая дзе-нідзе старою альхою, побач цячэ рачулка Віхлянка. Бегай, гуляй, падскоквай, шукай у траве якую-небудзь спажыву - ніхто не перашкаджае. Балэбка і Тафіля не ведалі б ніякіх турбот і трывог, калі б не адна акалічнасць: уздоўж Віхлянкі пралягае ўсыпаная дробным шлакам і добра ўтрамбаваная дарожка, па якой людзі з паўночна-усходняга мікрараёна, каб спрасціць шлях і не ісці праз горад, шыбуюць на рынак. Па гэтай дарожцы, адпачываючы, таксама часта прагульваюцца пенсіянеры, маці з малымі дзяцьмі ў калясках - і для іх балэбкавыя сабакі, як костка ў горле. Вечна яны нападаюць, брэшуць, кідаюцца да ног, псуюць настрой. Аблавухі, непаваротлівы, лянівы Нэгус асаблівага энтузіязму не праяўляе: пару разоў гаўкне, ашчэрыцца, пасля прысядзе паблізу ў траве і маўчыць. А вось Бэдзя суправаджае брэхам пешахода аж да інтэрната, пакуль чалавек не схаваецца за будынкам.

Мужчыны абурана, часам са злосцю у такіх выпадках крычаць:

- Убяры сабак, падонак!

- Убяры сабак, шлюха!

Гаспадары ж усё роўна не шукаюць іншага месца выгулу хатніх жывёл, пастаянна імкнуцца сюды і заўсёды адшчапляюць паваdкі ад нашыйнікаў. Умоўны рэфлекс выпрацаваўся ці што?..

Праўда, на гэты раз нарваліся на сур'ёзны супраціў. Малады хлопец, з выгляду сціплы, прыгожы, спакойна крочыў уздоўж Віхлянкі - і тут яго  апанавалі сабакі. Флегматычны Нэгус адвязаўся хутка, а звяглівы Бэдзя суправаджаў доўга і ўсё наравіў цапнуць маладзёна за калошыну. Той пачаў шукаць выйсце і ўбачыў пры скрыні для смецця бліз інтэрната палавіну чырвонай цагліны, падняў яе і з усяго размаху грукнуў у лоб нападальніку. Сабака адразу ўпаў на бок, задрыгаў нагамі, заплюшчыў вочы. Здалёк убачыў жахлівую сцэну Балэбка і подбегам паспяшаўся туды паглядзець, што там здарылася, чаму не варушыцца Бэдзя.

Хлопец таксама паскорыў крок і неўзабаве ўліўся ў вулічны людскі натоўп. Балэбка ўвішна корпаўся каля сабакі, спадзеючыся яго ажывіць, паставіць на ногі, але Бэдзя і не варухнуўся - цагліна, мусіць, праламала яму чэрап, і малы злаславец заснуў вечным сном.

- Усё, - выдыхнуў Балэбка, - няма Бэдзі. Ой, якое мне гора!

Ён прыйшоў дадому і пра ўсё распавёў Тафілі.

- Дурны Пракоп носам у г… гоп! - вылаялася тая. - Чаму ты не

абараніў Бэдзю?

- Дурная Вушатка! - агрызнуўся Пракоп. - З цябе і чалавека няма і добрай гаспадыні: то бліны недапечаныя, паўсырыя падаеш на стол, то спаліш іх на чорнае. Як я мог абараніць, калі гэта адбывалася далёка ад мяне. Трахнуў цаглінаў у галаву, а сам уцёк. Паспрабуй дагані.

Пры выкрыку мужам зняважлівых слоў жонка, дзявочае прозвішча якой было Вушатка, звычайна абсядала і моўчкі праглынала знявагу.

Ачомаўшыся, Тафіля параіла:

- Напішы ў міліцыю. І цяпер. Не адкладвай.

- Канешне, напішу. Такога сабаку забіў…

Пракоп вырваў з вучнёўскага сшытка ліст паперы, узяў аўтаручку і пачаў пісаць: "Спадар начальнік міліцыі, нейкі злачынец забіў майго сабаку Бэдзю. Яго і Нэгуса я вывеў на выгул на бераг Віхлянкі. Гэты хлопец праходзіў збоч, падняў цэглу і трахнуў ёю Бэдзю прама ў галаву. Сабака тут жа сканаў. Нэгус застаўся жыць. Прашу знайсці забойцу і сурова яго пакараць. Сабакі - сэнс майго жыцця".

Пракоп рашыў параіцца наконт тэксту з жонкай і зачытаў ліст Тафілі. Яна ўхваліла допіс і дабавіла:

- Напішы адрас і чысло.

- Я напішу на канверце.

- Канверт згубяць і не будуць ведаць, дзе цябе шукаць.

Пракоп вялікімі літарамі вывеў адрас, чысло, месяц і год, сваё прозвішча, запакаваў пісьмо ў канверт, аднёс на пошту. "Ну, цяпер яны не выкруцяцца, - думаў Балэбка, ідучы дадому, - вымушаны будуць шукаць забойцу, даць мне адказ, што з ім зрабілі, як пакаралі".

… Праз тыдзень у кватэру завітаў капітан міліцыі. Спачатку ён гаварыў па-добраму, з цікавасцю распытваў пра здарэнне, пра Бэдзю, пасля міліцыянер зрабіў строгі выгляд і зычным голасам прамовіў:

- Вы вінаватыя ва ўсім! Навошта адчапілі ад нашыйнікаў павадкі? Хто вам дазволіў выгульваць сабак у зоне адпачынку?

Балэбка абмяк.

- Хлопец не вінаваты, - працягваў міліцыянер, - ён абараняўся. Сабака першым распачаў канфлікт і амаль не разарваў маладзёну порткі. Дзвесце метраў суправаджаў яго брэхам, наравіў укусіць, а вы нават не памкнуліся адклікаць назад гэтага самага, як вы кажаце, Бэдзю.

- Я адклікаў…

- Няпраўда, абманваеце. За тое, што выгульвалі сабак без

павадкоў, дзве базавыя велічыні штрафу і дзве базавыя за тое, што водзіце іх у зону адпачынку. Мы апытвалі мінакоў на дарожцы і знайшлі таго хлопца. Усе ў адзін голас заяўлялі, што вашы сабакі ўсім нервы псуюць. І, увогуле, вы распаўсюджваеце сабакаманію ў горадзе.

Пракоп адчуў, што ўлез не ў сваё.

- Я табе казала не пішы, - аклікнулася з канапы Тафіля. - Знайшоў з кім звязвацца.

Міліцыянер строга глянуў на яе і працягваў:

- Панашывалі чырвоных, зялёных камізэлек на сабак. Зараз ватоўкі будзеце адзяваць, ежу будзеце ім класці ў кішэні. Я прайшоў адзін раз ад цэнтральнага ўніверсама да аўтавакзала і не сустрэў ні адной маці з каляскай. Затое ўбачыў процьму сабак. Дык, што выходзіць сабакі выцясняюць у горадзе дзяцей? Сабакаманія набірае абароты? Запаскудзілі ўсе газоны каля тратуараў. Дворнікі не паспяваюць адмываць граблі, мяняць венікі.

Пракоп з Тафіляй сцішыліся, не пярэчылі, чакалі, пакуль службовец не выплюсне на іх усю злосць.

- На гэтым тыдні каб заплацілі штраф, - закругліўся міліцыянер, паклаў на стол нейкую паперыну і пакіраваўся да выхаду, плаўна зачыніў за сабою дзверы.

- Дастукаліся, - з жалем прамовіла Тафіля.

- Дык ты ж мяне падбіла на пісаніну, - папракнуў жонку Пракоп. - Цяпер давай дзве базавыя велічыні са свае пенсіі і дзве адшчаплю я. Трэба ж разлічвацца, а інакш забяруць грошы ў прымусовым парадку.

… Застаўшыся без Бэдзі, Нэгус па начах сумаваў, тужліва скуголіў, скавытаў, не даваў спаць жыльцам пад'езда. Абураныя, яны настырна грукалі кулакамі ў дзверы, моцна выкрыквалі:

- Закрый сабаку пашчу!!!

Знерваваны Балэбка не ведаў, як быць, што рабіць, пасля пайшоў на крайнасць: раніцай удосталь накарміў Нэгуса мясам, ласкава пагладзіў яго па галаве, выпусціў без павадка і нашыйніка на двор, а сам вярнуўся ў сваю кватэру.

Нэгус, уволю нагуляўшыся ў мікрараёне, прагаладаўшыся, падбягаў да пад'езда, заядла драпаў лапамі дзверы, скуголіў, але ніхто яму не адчыняў, а калі хто і выходзіў з калідора, адганяў бедалагу прэч.

Балэбка з Тафіляю ад перажывання замкнуліся ў кватэры, з тыдзень не паказваліся на людзі, не з'яўляліся на вуліцы - і на аднаго бадзячага сабаку ў горадзе стала больш.

*2017 г.*

# Зняверaны

*Апавяданне*

Галіна Бібіч раней гандлявала ў прадуктовым магазіне, які размешчаны непадалёку ад аўтавакзала. Тут заўсёды кішэлі пакупнікі. Адны ехалі ў вёску да старых бацькоў і стараліся набыць для іх хлеба, каўбасы, сыру ці яшчэ чаго з прадуктаў. Іншыя імкнуліся прыхапіць што-небудзь з прысмакаў, каб перакусіць у дарозе. Людзі звычайна спяшаліся, баяліся спазніцца на рэйсавы аўтобус, і ніколі не лічылі рэшту, не бралі адрыўных чэкаў. А Галіна на гэтым спекулявала - і за месяц для яе, акрамя зарплаты, набягаў неблагі навар.

Аднак, такая прыхамаць цягнулася не доўга. Аднойчы яна аблічыла старога пенсіянера: на чэку, які ўкінула ў яго карзінку, кошт прадуктаў выбіла правільна, а плаціць за іх сказала на тры рублі больш. "От, стары, сляпы, глухі, - падумала яна, - што ён там убачыць на тым чэку. А мажліва і зусім не будзе браць яго, пакіне ў карзіне, як гэта робяць многія пакупнікі". Але нарвалася не на таго. Ветэран дастаў з кішэні акуляры і зверыў узятую з яго суму з тою, якая была выбіта на чэку, - яна рознілася. Стары падняў шум і пайшоў да дырэктара магазіна, пра ўсё расказаў і рэзка заявіў:

- Калі вы не звольніце яе з работы, я пайду да раённай улады.

Той расхваляваўся, пабаяўся за сваю скуру: паабяцаў, што разбярэцца, а праз некаторы час звольніў Бібіч з працы.

На першых парах Галіна расстроілася, упала ў роспач, аднак неўзабаве ўзяла сябе ў рукі. Дастала з шафы пук грошай, палічыла і прыкінула, што іх дастаткова для таго, каб устанавіць гандлёвы ларок на шматлюдным аўтобусным прыпынку, дзе заробак будзе не горшы. Яна крута ўзялася за справу і хацела падключыць да прадпрымальніцтва свайго мужа Віталя Цыбульку. Але той наадрэз адмовіўся:

- Круціся ў гэтым смецці адна. У мяне не ляжыць душа да гандлю. Ён нават праціўны мне.

Галіна са спрытам кошкі накінулася на Цыбульку і вострымі кіпцюрамі пракалола на яго твары чатыры чырвоныя каснікі ад вачэй да барады. Кроў, як бярозавы сок вясною, шпарка пацякла ўніз, закапала на падлогу. Другі б мужчына на яго месцы даў бы ёй кулаком у сківіцу, а Віталь спакойна пайшоў у ванную, змыў кроў з твару і прыпёк раны адэкалонам.

Галіна і раней пры канфліктных сітуацыях не раз баразніла шчокі Цыбульку, а ён яе ніколі не чапаў. Мужчыны з пад'езда на двары кпілі над ім:

- От адлупіў бы ты калі яе, як жывёліну, кінула б свае звычкі.

А ён адказваў:

- Нельга. Гэта супрацьпаказана, Богам забаронена біць жанчыну.

Ну, а яна і карысталася яго безабароннасцю. Праўда іншы раз ён папракаў яе:

- Не дарэмна ў цябе такое прозвішча - Бібіч. Раздзялі па складах і атрымаецца: бі, біч. А яна з гэтага толькі смяялася.

Галіна і Віталь былі зусім розныя людзі. Яна ўсё жыццё клапацілася аб матэрыяльным нажытку, аб грашах, а ён найбольш дбаў аб сваім духоўным куфэрку. З-за гэтага найчасцей паміж імі і ўзнікалі сваркі.

У апошні час, калі Галіна паставіла ларок на аўтобусным прыпынку, супярэчнасці паміж жонкай і мужам набылі больш крутыя абароты. Віталю нічога не заставалася, як уцякаць ад яе чым далей. Ён на ровары пачаў ездзіць па вёсках з намерам купіць дзе-небудзь хоць якую занядбаную хаціну, абы не жыць пад адным дахам з Бібічыхаю.

У Гарнях, каля крамы, мужчыны не абрадавалі Цыбульку:

- У нас, калі хто і будзе прадаваць свой дом, то мала не запросіць. Сам ведаеш, блізка ад горада. А гледзячы па тваёй вопратцы і старым ровары, у цябе вялікіх грошай няма.

- Мне, каб за якую тысячу долараў…

- Жартуеш, брат. А за дваццаць не хочаш?

- Ды вы што?!

- Во табе і што. А ты думаў…

Цыбулька апусціў галаву і задумаўся.

- Ну, а ў Даліне? Там, можа, танней прададуць?

- Тое самае, калі яшчэ не даражэй. Даліна ж амаль злучаецца з Лідай. Шукай дзе-небудзь далей ад горада.

І Цыбулька на сваім драндулеце паехаў аж у Цецяракі - за дзесяць кіламетраў ад Ліды. Як толькі ён уехаў у вёску, у пачатку вуліцы сустрэў толькі аднаго маленькага дохлага сабачку, які з-за густой поўсці вакол вачэй мала што бачыў перад сабою і не брахаў на праезджага. Пуставалі і двары.

Цыбулька злез з ровара і, не спяшаючыся, прыглядваючыся да хатаў, крочыў далей. На сярэдзіне вёскі ён убачыў дзвюх жанчын, якія стаялі бліз веснічкаў і аб нечым гаманілі. Цыбулька наблізіўся да іх, прывітаўся і запытаў:

- Можа хто ў вас, прынамсі, прадае хату?

Жанчыны пераглянуліся, нібы што ўспамінаючы, прыгледзеліся

да незнаёмца.

- Табе дарагую ці танную?

- Мне каб чым найтанней, на аднаго чалавека.

- Навошта табе ўвогуле купляць? - загаварыла старэйшая. - Вунь за крамай, цераз адзін дом, стаіць нічыйная хатка. У ёй жыў стары бабыль, але ён ужо даўно памёр, а нашчадкаў і сваякоў у яго ніякіх няма. Хатка пустуе, ідзі і жыві.

- Клаўдзя, а давай мы яго падвядзём туды і пакажам гэтую хатку, - прапанавала маладзейшая.

Траіх, па-вясковаму гучна размаўляючы, яны пакрочылі ў згаданым кірунку. Як толькі наблізіліся да бабылёвай хаткі, Цыбулька адразу прыкмеціў, што яна занадта занядбаная: падгнілі аканіцы, шашаль нарабіў дзюрак у сценах, якія пасівелі ад часу, на дзвярах не вісеў замок.

У сярэдзіне таксама было не лепш: па кутках шарэла павуцінне, пажаўцела столь, аблезлі ад пабелкі сцены, на падлозе віднеліся брудныя адбіткі ад слядоў мужчынскіх ботаў. Не рай, канешне, аднак Цыбулька гатовы быў жыць хоць у сабачай будзе, абы не разам з Галінай.

З размовы Віталь даведаўся, што маладзейшую зваць Каця.

- Сюды вясковыя п'яніцы, - прамовіла яна, - прыходзяць выпіваць. Для іх тут забягалаўка. Добра, што і крама блізка. Зручна і ніхто іх не праганяе адсюль.

- А жонкі?

- Не чапаюць. Махнулі рукамі.

- Але мужыкі і да мяне будуць чапіцца, каб выпіваў разам з імі. А я не люблю піць і не ўмею.

- Навучаць …

- Дымам смярдзіць надта, - прамовіў Цыбулька.

- Бо ўчора былі і накурылі.

Клаўдзя пацікавілася:

- Вы, мусіць, бацюшкам працавалі? Барада такая, як ў бацюшкі і прычоска.

- Не, я толькі спяваю ў царкоўным хоры. А раней кіраваў народным ансамблем песні і танцу на абутковай фабрыцы.

- Ой, як добра! - усхвалявана прамовіла Каця. - Каб вы нас навучылі спяваць святыя песні.

- З вялікай ахвотай, - адказаў Цыбулька, - абы ў вас на гэта было жаданне.

- Жаданне ёсць.

- Тады ўсё наладзім.

Падвечар Цыбулька паехаў у Ліду. Новых клопатаў у яго назбіралася шмат. Галіне ж пра знаходку жытла нічога не сказаў: баяўся, што падніме вэрхал. Пакуль заснуў, усё думаў пра Цецярукі, пра тых дзвюх жанчын, якія нарадзілі яму пасяліцца ў бабылёвай хатцы.

А раніцою, як толькі жонка пайшла ў свой ларок, Цыбулька ўзяўся за справу: купіў навясны замок, новыя пасцельныя прыналежнасці, сёе-тое з прадуктаў. Усё ўпакаваў у шырокія цалафанавыя мяшкі, узгрувасціў на ровар і паехаў у Цецярукі.

Ехаць было не вельмі зручна, і Цыбулька злез з ровара і павёў яго ў руках. У дарозе ён акідваў позіркам прыгожыя сельскія пейзажы, недалёкі лес, хутары пры ім. Надвор'е стаяла ціхае, яснае, на небе толькі дзе-нідзе трымаліся белыя, пёрыстыя аблачынкі. Прыпякала. Хацелася як мага хутчэй дабрацца да Цецярукоў, але з грузам не паспяшыш.

… Як здзівіўся Цыбулька, калі ўбачыў на сваім падворку ажыўленую мітусню жанчын. Яны мылі, адшароўвалі лавы, стол, слончык, ложка, абразы. Ад радасці ён хацеў заплакаць: якую прыхільнасць да яго лёсу праявілі вяскоўцы!

- Наводзім парадак, - прамовіла Каця.

- Я сёння і сам хацеў гэтым заняцца.

- Мы зробім не горш за цябе. Патрэбна, каб да ўсяго прыклалася жаночая рука.

Цыбулька, задаволены, прытуліў да сцяны ровар і сам ўключыўся ў работу: цягаў з суседняга калодзежа ваду, апалосквaў стол, лавы. Пасля ўсе разам пабялілі ў хатцы столь, сцены. Падлогу вымылі ў апошнюю чаргу.

Пад цёплым ветрыкам і ласкаючым сонцам на падворку бабылёвае багацце хутка высахла - і ўсё пазаносілі ў сярэдзіну. На абразы навесілі прыгожы, з вышыўкамі саматканы ручнік, на вокны цюль, на ложка паклалі новы цюфяк, які навасёл прывёз з горада. Падушку адзелі ў белую, свежую навалачку. Агледзеліся жанчыны з Цыбулькам вакол сябе і здзівіліся: хатка засвяцілася, як святліца. І твары ў людзей пахарашэлі, сталі ўсцешанымі. Здатна лілася размова і нікому не хацелася разыходзіцца.

- Калі будзем рэпеціравацца? - запытала Каця.

- Прыходзьце хоць заўтра, падвечар.

- Ой, як добра!

А вечарам таго ж дня пад свежы пах пабелкі ў хатку ўварваліся тры мужчыны. Яны ўжо ад некага даведаліся, што тут пасяліўся новы чалавек і захацелі з ім пазнаёміцца, уцягнуць у сваю кампанію.

- Прыйшлі павіншаваць цябе з наваселлем, - прамовіў самы

малы з іх Вінцуська.

- Ды я не ведаю ці доўга тут затрымаюся. Як падкажа жыццё.

- У нас людзі добрыя, не пакрыўдзяць. Пабудзеш - нікуды не захочацца ад'язджаць.

- Пабачым…

Мужчыны паставілі на стол тры бутэлькі "чарніла", паклалі некалькі кавалачкаў хлеба, булачку. Разлілі па шклянках віно і звярнуліся да Цыбулькі:

- За тваё наваселле.

- Я не п'ю, - адказаў ён.

- Ну за знаёмства. Нельга ж у такім выпадку адмаўляцца.

- Мне ўрачы забаранілі.

- Прыгубі хоць кроплю за кампанію. Не слухай ты гэтых урачоў. Яны ўсім забараняюць. А самі п'юць.

Цыбулька, крывячыся, з напарстак выпіў. Неўзабаве мужчыны захмялелі і распачалі гарачыя спрэчкі, але не пра палітыку і пра рост цэн, а пра вясковых сабак і коней. Вінцуська даказваў, што самы злосны сабака ў Цыпрука. Той, калі не навязаны, дык аж вароты грызе, каб вырвацца з падворка і пакусаць каго-небудзь. Шурка запярэчыў:

- Зласнейшага сабакі, чым у Кабачкі, ні ў кога няма. Яму цераз заднія ногі пераехала машына, дык ён зараз ашчэрыўшыся, паўзе толькі на пярэдніх і імкнецца ўгрысці прахожага за лытку.

- А вазьмі коней, - уставіў слова Паўлюта. - Я лічу, што кожны конь падобны на свайго гаспадара.

- І не скажы, - не пагадзіўся Шурка. - Вунь Цівунчык які спакойны чалавек, а конь у яго, як звер, нярвовы, палахлівы. Колькі ён ужо аглобляў паламаў, парваў хамутоў. А Катрач злосны, крыклівы, бандыцкага складу, а конь у яго лагодны, пакладзісты. Так што не твая праўда.

… У суботу, а сёмай гадзіне прыйшлі на першую рэпетыцыю жанчыны. Паселі на лавы за сталом, накрытым белым абрусам. Цыбулька стаяў перад імі, запяваў і дырыжыраваў рукамі. Спачатку спявалі тыя святочныя песні, якія ўсе добра ведалі, пасля развучвалі новыя. І так усё хораша ў іх атрымлівалася, так лёгка, зладжана, нібы яны рэпетыруюцца ўжо даўно. На развітанне Клаўдзя сказала:

- Нарэшце прыйшла радасць і ў нашу вёску. Добра нам тут, утульна, сум сплыў.

Паступова кола жанчын шырылася, заглядвалі ў хатку і мужчыны. Хто меў добры голас, спяваў, іншыя проста сядзелі і слухалі.

Неяк Цыбулька сустрэў на вуліцы Паўлюту і спытаў:

- Чаму не заглядваеш да нас, спадар Паўлюта?

- Сорамна нeяк, ведаеш.  У вас святое месца, а мы…

- Ды не выпіваць жа, а песні спяваць.

- Пагавару з Вінцуськам і Шуркам. Можа калі і прыйдзем. У іх то добрыя галасы, а ў мяне слабы.

- Нічога, будзеш падцягваць.

… Пакуль Цыбулька ў Цецяруках весяліў людзей і сам весяліўся, па пад'ездзе яго дома ў Лідзе папаўзлі плёткі: быццам бы ад Бібічыхі ўцёк муж. Ужо нават і ў яе самой пыталіся:

- А дзе ж гэта твой Віталь? Нешта не бачна яго…

- Паехаў у Маскву на заробкі, - казала яна. - Можа хутка вернецца.

Але ніхто гэтаму не верыў, а найбольш ядавітыя пляткаркі ўкрадкай за яе спіною пасміхваліся. Гэта злавала Галіну - і яна падала заяву ў аддзел унутраных спраў на пошукі мужа. Адтуль каманда паступіла ва ўсе міліцэйскія пункты, і неўзабаве ў Цецярукі прыехаў на матацыкле малады фанабэрысты ўпаўнаважаны. Ён сустрэў на вуліцы пажылога, сівога дзядзьку, які вёў на валаводзе карову на пашу, і спытаў:

- Ці пражывае ў вашай вёсцы які-небудзь новы чалавек?

- Вось тут адзін жыве, - адказаў стары і  паказаў рукою на бабылёву хату. - Але ён ніякай шкоды не робіць. Святыя песні спявае з бабамі.

- Гэта мы яшчэ паглядзім, як ён спявае.

Упаўнаважаны падруліў матацыкл да плоту, заглушыў і сам пайшоў на падворак. Убачыў на дзвярах замок і асёкся: "Уцёк. Не, я ўсё роўна буду пільнаваць, пакуль не вернецца. Трэба ж выконваць загад начальства".

Міліцыянт пачаў праходжвацца сюды-туды па падворку, заглядваючы ва ўсе куткі прыбудовак.

Праз паўгадзіны з'явіўся і сам Цыбулька, насцярожыўся: "Што яго прынясло сюды? У чым я правініўся?"

- Вашы дакументы? - адразу патрабаваў упаўнаважаны.

Цыбулька спакойна пасунуў руку ва ўнутраны кішэнь пінжака, дастаў пашпарт і падаў  міліцыянту.

- Ага!.. Цыбулька Віталь Сяргеевіч. Той самы, каго я шукаю.

- А ў чым справа?

- Паедзем у Ліду і там будзем разбірацца.

Абодва поруч пайшлі да матацыкла, адзелі шлемы, паселі і па палявой дарозе, пакідаючы за плячыма шэрыя пасмы пылу, паехалі ў горад. У аддзеле ўнутраных спраў дзяжурны міліцыянт найперш пазваніў па мабільніку Галіне і сказаў:

- Прыходзьце і забірайце сваю прапажу.

Пасля звярнуўся да Цыбулькі:

- А вас, паважаны Віталь Сяргеевіч, прыйдзецца аштрафаваць.

- За што?

- Вы больш як два месяцы жывяце ў Цецяруках без прапіскі.

- Страх невялікі.

- Што?!

- Я кажу, што штраф заплачу. Грошы ў мяне ёсць.

- Не спрабуй з намі жартаваць.

- Я не жартую, сур'ёзна кажу: грошы маю.

- Ты вось што, - працягваў міліцыянт, - разбірайся са сваёй жонкай, як хочаш, але, дзе ні будзеш жыць, абавязкова павінен прыпісацца. Бо на выпадак вайны, дзе мы цябе будзем шукаць?

- Я ўжо стары ваяваць.

- Нічога, аўтамат Калашнікава ўтрымаеш. Вунь дзед Талаш які быў стары, а колькі немцаў упаляваў.

- Слабы з мяне паляўнічы…

- Выпішы яму штраф на тры базавыя велічыні, - звярнуўся дзяжурны міліцыянт да напарніка, які сядзеў побач.

- На такую суму?! - устрывожыўся Цыбулька. - Пашкадавалі б хоць мяне як пенсіянера.

- Будзеш выступаць, яшчэ прыбавім столькі.

- Цяпер плаціць ці пасля?

- Аплаціце цераз банк. Там наш рахунак указаны.

Ледзь паспеў Цыбулька пакласці паперку ў кішэнь, як у вітальню перад дзяжуркай увайшла Галіна. Яна наблізілася да акенца, павіталася з міліцыянтамі, падзякавала за знаходку і спытала:

- Можна забіраць?

- Забірайце.

Галіна злёгку тузанула Цыбульку за рукаво, і яны выйшлі з будынка на вуліцу. Ідучы дадому, жонка моцна дакарала Віталя за самавольную адлучку:

- Не патрэбна было так рабіць. Увесь пад'езд з мяне смяецца: ўсё, дзе твой муж, ды дзе твой муж. Я сказала, што ты паехаў у Маскву на заробкі. І ты падцвердзі гэта, калі спытаюць. Можа заткнуцца. Я больш не буду цябе абдзіраць. Жыві ў Лідзе.

- Ты ўжо многа разоў абяцала не пускаць кіпцюры ў ход, - загарачыўся Цыбулька, - а свае звярынай звычкі ўсё роўна не кідаеш. Гэта ў цябе хранічная хвароба. Я ўжо не веру ні аднаму твайму слову. Зняверыўся ў табе. Разумееш? От дзень-два пажыву тут, а пасля зноў паеду ў Цецярукі. Прыпішуся і буду там жыць, пакуль не памру.

Праз тры дні ён ўцёк і дзякаваў Богу, што зноў прыдбаў душэўны спакой і раўнавагу. Аднак, рай трываў не доўга: у Цецярукі на легкавушцы прыехалі Галіна з двума сваімі братамі. Яны вывалаклі Цыбульку з хаткі, упакавалі ў машыну, прывезлі дамоў і прыгразілі:

- Яшчэ раз уцячэш у вёску - мала табе не падасца.

Такая пагроза яго не вельмі напалохала. Супакойвала толькі тое, што Галіна пакуль трымала свае кіпцюры пры сабе. Але пад восень яна зноў дала ім волю, і твар Цыбулькі "упрыгожылі" новыя, яшчэ больш глыбокія пісакі. Цыбулька першы раз у жыцці мацюкнуўся, асядлаў ровар і па знаёмай дарозе зноў пакіраваў у Цецярукі.

Параўняўшыся з дваром, дзе стаяла бабылёва хатка, ён толькі войкнуў: ад яе застаўся толькі адзін падмурак. Спытаць не было ў каго, што здарылася. І ён заглянуў у краму. Прадаўшчыца сказала:

- Старшыня СВК Шула загадаў знясці бабылёву хатку, парэзаць на дровы і спаліць, каб у ёй не збіраліся п'яніцы…

Абураны нагрувашчаннем такіх дрэнных падзей, Цыбулька зноў пакруціў педалі свайго старэнькага драндулета ў бок Ліды.

*2017 г.*



*Леанід Лявонцьевіч Лаўрэш (нар. 1 сакавіка 1963, Ліда) - пісьменнік (сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў), незалежны даследчык. Скончыў электратэхнічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1985), інжынер. Стваральнік гістарычна-краязнаўчага сайта pawet.net. Жыве ў Лідзе. Аўтар 11 кніг і больш за 250 артыкулаў.*

# *Леанід Лаўрэш*

## Цягам гадоў

Памятаю купэ ў плацкартных ці агульных вагонах з цалкам драўлянымі, паліраванымі паліцамі на ўсіх трох узроўнях. Паміж ніжняй паліцай, на якой сядзелі пасажыры і другой, якая была над іх галовамі, насупраць адзін аднаго, былі прымацаваны прастакутныя люстэркі. Малым я любіў заглядваць у гэтыя люстэркі - яны бясконца адлюстроўвалі самі сабе і недзе ўнізе і збоку - незлічоную колькасць разоў адлюстроўваўся мой твар, які паступова памяншаўся ў памерах разам з люстэркамі і знікаў у бясконцасці. Нічога няма страшней дурной бясконцасці.

Добра памятаю жнівень 1968 года, калі савецкая армія ўвайшла ў Чэхаславакію каб чарговы раз "вызваліць братні народ". Бацькі разам з суседзямі кінуліся закупляць запалкі і мыла - потым гэтых тавараў хапіла гадоў на пяць. Бацька па-вечарах, калі быў не на працы, услухоўваўся ў радыёэфір, каб праз роў глушылак даведацца, што робіцца ў свеце. Савецкія газеты, радыё і тэлебачанне ў якасці крыніц інфарма-

цыі для разумнага чалавека ніякай вагі не мелі. Памятаю, як я пяцігадовым стаяў на ўскрайку свайго двара і глядзеў на ўсход, у бок лідскага вайсковага аэрадрома. Цяжкія самалёты-транспартнікі "Антэі" ляцелі з інтэрвалам ў 2 - 3 хвіліны, гэта было захапляльнае гледзішча для дзіцяці. Зараз падумаў - мой самы лепшы ў свеце тата тады не меў яшчэ і 45 гадоў, а за плячамі ў яго была ўжо Другая сусветная вайна, 6 гадоў вайсковай службы (дэмабілізаваны толькі ў 1947 г.), а на руках малыя - я з братам. Тата ўсё ведаў пра сапраўдную, не тэлевізійную, вайну. Пра што ён тады думаў?

Пры канцы 1970-х гг. слухаў серыю перадач "Лінія Керзана" Язэпа Барэйкі. Сам факт наяўнасці паўгадзінных перадач беларускай РС у той час даводзіў нам, што мы, беларусы, такія ж як і палякі (польскія перадачы СЕ слухаліся значна прасцей, бо польскія глушылкі былі далей і "джаз КГБ" слабейшы), літоўцы, украінцы і іншыя. А зараз радыё знікла цалкам. З'явіліся падкасты, без якіх цяжка ўявіць сваё жыццё.

Склалася так, што адразу пасля заканчэння сярэдняй школы, у ліпені 1980 г. я на тыдзень патрапіў у Данецк. Запоўніўся заўсёды накрыты смогам горад, шэрыя дрэвы, якія станавіліся зялёнымі на нейкі час толькі пасля вялікага дажджу. Прыехаць у гэты горад было прасцей, чым выехаць: на чыгуначным вакзале гарантавалі адсутнасць білетаў на тыдзень наперад, але ў аэрапорце можна было патрапіць на транзітны самалёт. Ну і ўмовы ў аэрапорце былі лепшымі - мяккія лавы і гарачая вада ў прабіральнях. Каб сесці на транзітны ТУ-134 Баку - Мінск прыйшлося чакаць два дні.

Прыляцеў у любы Мінск, у якім як раз праходзіла частка спаборніцтваў Алімпіяды-1980. У блакітным небе зіхацела сонца, і ўсе дамы па праспекту блішчэлі свежай фарбай, праз 50 метраў стаялі культурныя міліцыянеры ў белых кашулях, аўтаматы з газіроўкай, якія да алімпіяды адпускалі ў шклянку кроплю сіропу, а астатняе далівалі газаванай вадой, зараз лілі палову шклянкі сіропу і палову газіроўкі. Размяняўшы грошы, я ішоў па праспекце і ва ўсе сустрэтыя па дарозе аўтаматы кідаў медныя манеты-траячкі - насычаўся смачнай газаванай вадой, арганізм патрабаваў шмат вадкасці пасля двух сутак жыцця ў аэрапорце.

У старым мінскім чыгуначным вакзале, на першым паверсе левага крыла, у зале для беларусаў усё гуло ад спацелых, стомленых суайчыннікаў з торбамі і чамаданамі. Затое ў правым крыле, у такой жа зале-пачакальні стаяў з дзясятак скураных канап, і некалькі чалавек

глядзела спартовыя алімпійскія праграмы па шматлікіх каляровых тэлевізарах, расстаўленых каля канап. З-за стомленасці я не моцна цяміў, таму накіраваўся менавіта ў гэтую залу і плюхнуўся на адну з вольных скураных канап. Тады адзін з белакашульных міліцыянтаў, якіх у гэтай зале было болей, чым адпачываючых, падышоў да канапы і, не гледзячы ў мой бок, сказаў:

- Малады чалавек, гэты зал для замежнікаў!

Трэба сказаць, што я быў апрануты ў дэфіцытныя на той час джынсы і нейкую польскую кашулю і таму, вельмі прыблізна, мог сысці за замежніка. Каб я прамаўчаў, дык вартавы парадку пэўна і адчапіўся б. Але я дысцыплінавана пачаў выбачацца за сваё нахабства - "грамадзянін СССР" у сваёй сталіцы на вакзале зайшоў туды, куды не павінен быў заходзіць.

Міліцыянер адказаў на дзіва кемліва і ветліва, пэўна іх добра праінструктавалі:

- Каб не было падобна на тое, што вас нехта гоніць, пасядзіце яшчэ трохі - сказаў ён - і, сыходзьце.

Пазлаваўшы міліцыянераў, я пасядзеў яшчэ хвілін з пятнаццаць а потым устаў і не таропка пайшоў шукаць лепшай долі ў перапоўнены зал да такіх жа бедакоў, як і сам.

Гэтак нават у дробязях выглядала неверагоднае жаданне "пускаць пыл у вочы" і выглядзець лепей, чым ёсць на самой справе. Гэта невылечная хвароба квітнее і сёння. А замежнік у СССР заўсёды быў істотай непараўнальна вышэйшай за любога з нас.

Неяк у сакавіку, калі вучыўся на пятым курсе, вярнуўся з паходу ў свой студэнцкі інтэрнат. Двухмесны брызентавы намёт за некалькі дзён у лесе ўвабраў ў сябе столькі вады, колькі важыў сам. Не доўга думаючы, расцягнуў яго для прасушкі на сваім жалезным ложку і, стомлены ад працяглага адпачынку ў лесе, залез унутр і імгненна заснуў. Прачнуўся ад таго, што нехта задраў крысо намёта і ўважліва мяне вывучае. Такога здзіўленага твару ў майго "сукамерніка" Ніксана, як у той момант, я раней ніколі не бачыў.

У студэнцкія гады і пасля іх, вяртаючыся ў Ліду, яшчэ са старога пешаходнага моста над чыгункай былі бачны вокны бацькоўскай кватэры. У вокнах заўсёды гарэла святло - мяне чакалі. Апошні раз вокны бацькоўскай кватэры свяціліся ў самым канцы сакавіка 2016 г. - тры дні памірала маці, тры дні не тухла святло.

Адным з першых слоў майго малога сына было слова "Гарбачоў". Міхаіл Сяргеевіч у той час не сыходзіў з экранаў, і маё двух-

гадовае дзіцё, убачыўшы яго на экране, цягнула ручку і пішчала: "Гарбачоў!"

У жніўні 1990 г. я месяц пражыў у Кіеве. Памятаю як на цэнтральнай плошчы горада, якая потым стала тым самым Майданам, мелася "100-мятроўка волі", на якой прадаваўся самвыдат з усяго СССР, у тым ліку і беларускі. Раніцай, накупіўшы аркушаў, брашур і кніжак, ішоў у суседнюю кавярню і пад смачную каву чытаў. Рэдкі быў час - “чытаць было цікавей, чым жыць”.

Першая палова 1990-х - час неверагоднай свабоды. Небагатая была тая свабода, але ва Усходняй Еўропе, праз кароткі тэрмін да свабоды дадаваўся і хлеб. Так атрымалася ў Польшчы - імклівыя рэформы і праз год ад панылага "саўка" нічога не засталося, а хутка пачаў расці і ўзровень жыцця. А на ўсходзе свабода пашырала магчымасць красці і хлусіць.

На пачатку 1990-х гг. нехта з нашых палітыкаў, у разліку на тое, што чалавек - не быдла і выбера чалавечае, прыдумаў дылему - "мова ці каўбаса". Палітычныя дыскусіі і сваркі тады ў нас адбываліся паўсюдна, і я неяк быў сведкам нават не спрэчкі ці абмеркавання, а ціхай размовы двух адукаваных беларусаў, якія абсалютна згаджаліся з тым, што ім патрэбна толькі каўбаса і … тую мову. Не дзіва, што наш лёс быў прадвызначаны і толькі цуд утрымаў нас на краі бездані. Але як доўга яшчэ фартуна будзе на нашым баку?

У той час імкліва з'явіліся пратэстанты. У асноўным гэта былі людзі, якія ў сваім жыцці паміж новым для іх хрысціянствам і фільмамі пра Штырліца не мелі больш ніякай культурнай пракладкі. У выніку атрымлівася нешта смешнае. Неяк, не апошні чалавек у адной з пратэстанцкіх парафіяй горада, падчас прыватнай размовы прапаноўваў знесці Лідскі замак. Вось проста так. А каму ён патрэбны? Сказаў я яму тады, што рана ён узяўся прапаведаваць, трэба яму пачынаць з 3-га класа добрай школы, і можа гадоў праз 15 ён пачне казаць нешта разумнае пра непараўнальна больш простыя рэчы, чым Бог.

Памятаю 1994 г., у першым туры прэзідэнцкіх выбараў у Лідзе, мы перамаглі! На свае кішэнныя грашы, на голым энтузіязме і цалкам без сродкаў масавай інфармацыі. Недзе з 3-й гадзіны ночы, калі сталі вядомы вынікі выбараў у Лідзе і да 6-й раніцы, нават з'явілася эйфарыя. Хацелася верыць у цуд. Але а 6 раніцы радыё перадала папярэднія вынікі галасавання па Беларусі. Стала зразумела, што трэба зачыніць вокны і пачаць думаць. Той ранак меў станоўчыя наступствы, пасля

яго я ўжо 25 гадоў не гляджу тэлевізар, пішу кнігі і паважаю свой горад.

2014 год быў адметны тым, што на ўсходняй ТБ-вежы зноў ва ўсю моц запалілася вока Саўрона, і абсалютнае зло палілося ў прыдатныя да ўспрымання прымітыўнай прапаганды душы. З жахам, але і з цікавасцю назіраў, як шмат хто з тых, каго лічыў людзьмі, насамрэч аказаліся самымі сапраўднымі оркамі. Некалькі месяцаў оркі курчыліся пад выпраменьваннем усходняга ТБ, пырскалі сліною, але потым зноў прыціхлі - немагчыма доўгі час камлаць на крыві, нервовая сістэма не вытрымлівае. Але, што загадае Саўрон ім у наступны раз?Назіранне за ператварэннем людзей у оркаў - цяжкі але каштоўны вопыт.

Мітрафанавіч яшчэ той, сапраўдны, савецкі, "безальтэрнатыўны", атэіст: "Бога няма - гэта медычны факт" (ці як зараз кажуць: "Гэта даказалі брытанскія вучоныя"). Такіх людзей зараз мала засталося, усе сталі вернікамі, але часцей вераць у ведзьмаў і рознага кшталту дзікую магію, атэіст жа застаўся рэдкай з'явай, якая нават выклікае павагу. Кажу яму жартам: "Вось памрэш, станеш перад Богам, і што ты тады яму скажаш?" Мітрафанавіч здрыгануўся, але адказаў імгненна: "Я скажу - цябе няма!"

Калі ўзрост набліжаецца да 60-ці, здароўе даецца ў знакі. Мітрафанавіч, стары спартсмен, пачаў жаліцца на стан свайго здароўя і абыякавасць да жыцця. Каб прысароміць, нагадаў яму, што Ленін памёр значна маладзейшым за яго! Замест, каб падбадзёрыць, гэты факт - "дзядуля Ленін" значна маладзейшы за мяне, канчаткова дабіў былога савецкага чалавека. Часткова выратавала сітуацыяю думка, што да ўзросту Сталіна, а тым больш Мао, яшчэ далёка. Але тое, што Ленін памёр значна маладзейшым за яго, Мітрафанавіч успамінаў яшчэ з паўгода і цяжка ўздыхаў.

Жыццё падзялілася напалову. Першую палову жыцця, пошук і збор кніг прыносіў вялікую асалоду - пах і вагу ў руцэ жаданай кнігі памятаю і сёння. Але са з'яўленнем інтэрнэту стала зразумела, што кніга і тэкст - гэта рэчы блізкія, але не тоесныя. Папяровыя кнігі зараз амаль што не купляю, а хатняю бібліятэку - сапраўдны гонар інтэлігентаў майго часу - велічэзнымі высілкамі паменшыў з 2 000 да 1 000 тамоў. Бачыў, які лёс чакае сёння асабістыя бібліятэкі пасля смерці іх гаспадароў, і таму разумею, што колькасць кніг трэба памяншаць і далей. Можа і атрымаецца.

Усе ж калі-некалі з любоўю гляджу на кнігі ў сваёй бібліятэ-

цы - ну і выключайце інтэрнэт, у мяне будзе што пачытаць, покуль вы па мяне не прыйдзеце.

Калі б не сучасная магчымасць дыстанцыйна працаваць з кнігамі і архівамі з усяго свету, я напісаў бы можа 5, а ў лепшым выпадку 10% таго, што напісаў. А колькі кніг ляжыць у маім камп'ютары! Неяк прыкінуў - на паперы яны занялі б вялікую спартовую залу. Разуменне гэтага дадае павагі да папярэднікаў, да таго ж лепшага лідскага гісторыка XX ст. Міхала Шымялевіча - ён столькі зрабіў, не маючы нашых магчымасцяў.

Быць дзедам - іманентнае і, здаецца, беспрычыннае шчасце. Але каб гэта зразумець, трэба ім стаць. Сам факт, што недзе там, у Лазенках, зараз гуляе твой малы ўнук, напаўняе сэрца цеплынёй.

## *Ірэна Сліўко*

# Настаўнік і Чалавек

На левабярэжжы ракі Гаўі, якая з'яўляецца мяжой паміж Іўеўскім і Лідскім раёнамі, раскінулася вёска Залейкі. Гэта - 22-гі кіламетр па аўтамабільнай дарозе Гродна-Мінск. Мая гісторыя - пра настаўніка і яго лёс.

Школу, якую пабудавалі пры польскай уладзе паміж Біскупцамі і Залейкамі, у час вайны спалілі партызаны. Пасля вайны ў 1944 годзе школу адкрылі ў прыватным доме, дзе раней жылі габрэі.

У 1950 годзе я пайшла ў 3-ці клас Залейкаўскай пачатковай школы. На працу ў школу прыехаў новы настаўнік Леанід Іосіфавіч Славута, нежанаты, 42-х гадоў. У школе былі толькі два пакоі і кухня, дзе ў адным жыў настаўнік, а ў сумежным знаходзіўся клас. Лаўкі, на якіх даводзілася сядзець за партай, былі самаробныя, няўстойлівыя, і вучні часам падалі на падлогу разам з імі. У вёсцы ні ў адной хаце не было гадзінніка, і бацькі адпраўлялі нас у школу тады, як выганялі кароў на пашу па гуку трубы галоўнага пастуха.

Настаўнік, каб устанавіць пэўны распарадак работы школы, змайстраваў сваю трубу, па гуку якой мы беглі на заняткі. Бацькі, пакуль прывыклі, бывала блыталіся. Але праз год у нашай хаце на сцяне красаваўся гадзіннік - "зязюля" з цяжкімі гірамі на ланцугу, і я ішла ў школу не прыслухоўваючыся да гуку настаўніцкай трубы.

Хоць заняткі ў школе праводзіліся ў адну змену, але мы былі там поўны дзень, дзе пасля абеду ў прысутнасці настаўніка выконвалі

дамашнія заданні з перапынкамі на адпачынак і гульні. Гэта была група падоўжанага дня, але, мабыць, на грамадскіх пачатках.

Пазнаёміўшыся з дзецьмі і іх ведамі, Леанід Іосіфавіч быў уражаны не толькі адсутнасцю апошніх у большасці вучняў, асабліва па рускай, беларускай мовах, арыфметыцы, а і неахвотай атрымліваць гэтыя веды. Усе сшыткі чырванелі ад памылак, у класным журнале большасць двоек, за выключэннем лепшых адзнак у 4-5 вучняў.

Адкуль маглі быць гэтыя веды, калі на ўвесь клас было некалькі падручнікаў, зусім не было мастацкай літаратуры?

Леанід Іосіфавіч быў незвычайным настаўнікам. Яго асноўная мэта - чым зацікавіць вучняў, каб вывесці іх з цемры. Паколькі ўсе сем'і былі вельмі бедныя, ён стаў нас матэрыяльна заахвочваць - частаваць вельмі смачнымі стравамі.

У першы раз ён прынёс у клас два пірагі, высока падняўшы іх на руках, і прамовіў:

- Як станеце добра вучыцца, то ў далейшым такія пірагі будзеце есці кожны дзень.

Прыемны пах падзейнічаў на нашы слінныя залозы. Але павярнуўшыся, настаўнік грацыёзна аднёс пірагі ў свой пакой. Мы са здзіўленнем паглядзелі яму ўслед, праглынулі сліну.

На другі дзень настаўнік прыйшоў у клас, на гэты раз з вялікім падносам, на якім жаўцелі нарэзаныя пірагі. Усім дасталося па вялікаму кавалку.

Сырую моркву цёр на тарку, пасыпаў цукрам (мы рэдка адчувалі яго смак), і кожны вучань, падышоўшы да стала, атрымліваў сталовую лыжку гэтага вітаміннага прадукту.

Частаваў і настоем чайнага грыба, а мы не ведалі, з чаго гэты напой прыгатаваны. Усё было салодкае і вельмі смачнае. Калі выконвалі кантрольныя заданні, то першы выканавец, калі адказ быў правільны, атрымліваў цукерку.

Вельмі запомніліся святочныя вечары, якія наш выхавальнік арганізоўваў нам на 1 мая, 7 лістапада і Новы год. З бацькоў збіралася сімвалічная сума - 50 капеек, астатнія затраты былі з кішэні настаўніка. Ён выпякаў булкі, пірагі, варыў смачныя напоі, купляў цукеркі. Сталы і лаўкі расстаўляліся вакол сцен і пачыналася свята, на якім заўсёды прысутнічалі бацькі. Леанід Іосіфавіч спачатку расказваў пра сутнасць гэтых свят, віншаваў усіх прысутных. Мы елі, з настаўнікам спявалі песні, а бацькі, змахваючы слязу, з радасцю глядзелі на нас, напэўна, з надзеяй, што наша жыццё будзе лепшым, чым тое, што выпала на іх долю. Затым Леанід Іосіфавіч частаваў бацькоў, бо ўсім разам сесці за стол не хапала месца.

Над усімі адстаючымі вучнямі малодшых класаў былі прызначаны шэфы са старшых класаў, якія павінны дапамагаць па ўсіх прадметах. Я была прызначана шэфам над адным вучнем І класа і адначасова над адстаючымі вучнямі ІІІ класа па рускай мове і літаратуры. Мой аднакласнік Валянцін Данэйка - па арыфметыцы. У нашы абавязкі ўваходзіла праверка сшыткаў. Памылкі мы падкрэслівалі чырвоным чарнілам, затым школьны выхавальнік правяраў сам і ставіў адзнаку. Маю малодшую сястру Ядзю таксама вучыў Леанід Іосіфавіч. Яна вучылася добра і правярала сшыткі па рускай мове. Ён частаваў яе белым хлебам.

Наш настаўнік навучаў усіх хутка і правільна рашаць задачы па арыфметыцы, розным прыёмам выканання арыфметычных заданняў. На перапынках на свежым паветры ён нас збіраў у круг, даваў вуснае заданне, тут жа аднаму з вучняў кідаў у рукі мяч. Вучань павінен быў адразу даць адказ. За правільны адказ - цукерка.

Пры выкананні кантрольных работ не дазваляў ніякіх падказак і спісванняў. Удзяляў вялікую ўвагу чыстапісанню.

Які ж быў вынік гэтых штодзённых намаганняў нашага настаўніка? У вучняў з'явілася цікавасць да вучобы ўжо не толькі з-за матэрыяльнага заахвочвання, а з-за добра ацэненых настаўнікам атрыманых ведаў. За добры адказ на ўроку ці за кантрольную работу ён мог прытуліць да сябе вучня, нават пацалаваць, пахваліць, пагладзіць.

Экзамены за 4-ы клас мы здавалі ў навасёлкаўскай сямігодцы разам з вучнямі гэтай школы. Усе паспяхова здалі іспыты і перайшлі ў 5-ы клас.

Леанід Іосіфавіч быў сапраўдным народным асветнікам. У цёплыя выхадныя дні ён збіраў ля школы ўсіх жыхароў, чытаў лекцыі пра выхаванне дзяцей, пра міжнародныя падзеі. Ён валодаў пытаннямі медыцыны. Бліжэйшы ФАП знаходзіўся за 8 кіламетраў. Жыхары звярталіся да настаўніка і ён аказваў першую дапамогу парадамі і медыкаментамі.

Сваёй інтэлігентнасцю, сваім акцёрскім талентам ён прыцягваў да сябе моладзь з усіх навакольных вёсак. Быў рэжысёрам многіх пастановак. Рэпетыцыі праводзіліся пасля заканчэння заняткаў. У класе майстравалася сцэна, і нават нам, вучням, вечарамі дазвалялася глядзець гэтыя спектаклі.

Наш настаўнік меў вельмі прыгожы, добра пастаўлены голас. Спяваў песні і на сцэне, і на ўроках спеваў, і на вясковых хрысцінах, вяселлях. Песні ў яго выкананні кранал душу і сэрца. Урокі спеваў мы пачыналі з беларускага гімна. Часта спявалі "Люблю я край, старонку гэту…" і іншыя.

Далейшы шлях Леаніда Іосіфавіча склаўся наступным чынам: ён ажаніўся з настаўніцай Крывіцкай сямігодкі Кацярынай Васільеўнай Міронччык. Пасля закрыцця Залейкаўскай школы яны працавалі ў Навасёлкаўскай сямігодцы. У Залейках купілі хату, нарадзілі 2-х дзяцей. Сваіх унукаў Кацярына Васільеўна не ўбачыла, бо ў 1973 годзе памерла ад невылечнай хваробы. Сын Жора пасля заканчэння Каўнаскага політэхнічнага інстытута працаваў у Вільні на радыёзаводзе. Дачцэ Зоі Леанід Іосіфавіч у Бярозаўцы пабудаваў кааператыўную кватэру. Сам з двума ўнукамі (дзецьмі Зоі) жыў у вёсцы. У 1983 годзе здарылася трагедыя: у адну з начэй загарэлася хата, і наш настаўнік са сваімі ўнукамі згарэлі ў агні. Пахаваны каля жонкі на цэнтральнай алеі. Леаніду Іосіфавічу было 75 гадоў, унуку - 5 гадоў, унучцы - толькі 2 гадкі.

Жора некалькі разоў прыязджаў да бацькоў і пляменнікаў на могілкі. Расказваў, што з развалам СССР "іншаземцаў" з працы пачалі звальняць. Працаваў рыэлтарам па нерухомасці і на іншых пасадах. Працы няма, моладзь выехала за мяжу, жыццё нялёгкае. У Залейках сустракаўся са сваім аднакласнікам Аляксандрам Ціхонам. Саша дапамагаў яму з набыццём дакументаў у сельскім савеце для прыезду на могілкі. Саша, прыязджаючы з Ліды ў вёску да маці, сочыць за парадкам на могілках настаўніка. Наводзяць парадак Ала Камарова і іншыя былыя вучні.

Я, бываючы на вясковых могілках, дзе пахаваны мае бацькі, бабуля і шматлікія сваякі і знаёмыя, заўсёды заходжу да свайго Настаўніка і Чалавека з вялікай літары. Балюча глядзець: помнік пахіснуўся, усё патрабуе рамонту. Пастаю, памалюся, прыбяру, калі трэба, пастаўлю кветкі. А ў галаве адразу гучаць песні ў выкананні Леаніда Іосіфавіча, як тады, у 50-я гады гучалі над рэчкай Гаўяй.



# Таццяна Сямёнава

*Сямёнава Таццяна Іванаўна нарадзілася 17 сакавіка 1935 года ў сяле Грачоўка Арэнбургскай вобласці. З 1952 па 1955 год вучылася ў дашкольным педагагічным вучылішчы ў горадзе Бузулук Арэнбургскай вобласці. Восенню 1955 года прыехала ў беларускі горад Ліду, па месцы жыхарства мужа. Працавала ў дзіцячых дашкольных установах выхавальніцай, затым загадчыцай. З 1992 года знаходзіцца на заслужаным адпачынку.*

*Вершы пачала пісаць з 5 класа, але сур'ёзна да гэтага занятку не ставілася. На працы калі-нікалі пісала сцэнарыі для дзіцячых ранішнікаў. Усур'ёз узялася за складанне вершаў, знаходзячыся на пенсіі.*

*З'яўляецца аўтарам двух паэтычных зборнікаў "Осенний вальс" (2012 г.) і "Позвала судьба в дорогу" (2016 г.). Прымае ўдзел у літаратурным аб'яднанні "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты", з'яўляецца ўдзельніцай клуба "Актыўнае даўгалецце" пры цэнтры сацыяльнага абслугоўвання (валанцёр, кіраўнік літаратурнай гасцёўні "Ліра").*

*Наведвае грамадскае аб'яднанне "Вера. Надзея. Любоў" і аматарскае аб'яднанне "МузАльянс" Палаца культуры горада Ліды, а таксама клуб "Кветкавод", "Добрыя сустрэчы" пры раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы. У вольны час увіхаецца на дачы, займаецца вязаннем, маляваннем.*

*Піша творы на рускай мове. Друкуецца ў "Лідскай газеце". У літаратурна-мастацкім зборніку "Ад лідскіх муроў" (№ 8 за 2012-2015 гады) вершы былі змешчаны ў перакладзе на беларускую мову Алесі Бурак.*

## Паядынак

***Апавяданне-быль***

Марознай сакавіцкай раніцай (гэта быў другі пасляваенны год), уцякаючы ад голаду з Украіны, дзе не было яды з-за моцнага неўраджаю, Шурка з маці, братам і сястрой прыехаў у гэты невялікі разбураны вайной, горад Ліду. Спыніліся ў сваякоў. Упершыню за некалькі

апошніх дзён яны дасыта паелі бульбы.

Патрэбна было працягваць вучобу. Ва Ўкраіне Шурка займаўся ў чыгуначнадарожным вучылішчы. У Лідзе таксама знаходзілася такая навучальная ўстанова, у якую яго прынялі на навучанне па спецыяльнасці слесар-інструментальшчык. Для сям'і гэта было вельмі добра: навучэнцаў адзявалі, абувалі і кармілі.

Новенькага прынялі не вельмі дружалюбна. Група была рознаўзроставай, многія здаліся яму дарослымі дзядзькамі. Яны наладжвалі новенькаму розныя гадасці. Часцей за ўсё забіралі ў яго абед у сталовай, і Шурка заставаўся галодным. Так было і ў гэты дзень. Толькі ўсе паселі за сталы, як нехта аклікнуў яго. Ён, натуральна, павярнуўся на вокліч, а калі пахіліўся да яды, бамбіза, які сядзеў побач і які запіхнуў яго пайку хлеба сабе ў рот, нахабна пасмейваўся, давячыся здабычай. Для Шуркі наступіла мяжа трывання, і ён, не памятаючы сябе ад злосці і, не аддаючы сабе справаздачы, схапіў міску з гарачым супам і з крыкам - на еш! - вывярнуў страву на галаву нахабніку…

І на гэты раз Шурка застаўся без абеда.

Вечарам усе навучэнцы вучылішча сабраліся ў калідоры інтэрната. Пачаўся паядынак паміж Шуркам і яго крыўдзіцелем. Папярэдне ў абодвух забралі ўсе калюча-рэжучыя прадметы. Усе расступіліся па баках, пакінуўшы сярэдзіну для бою. Пачалася схватка. Шурка быў у два разы меншым ростам за свайго праціўніка і худзейшым. Адным словам, вагавыя катэгорыі былі не роўнымі, і ніхто амаль не сумняваўся на чыім баку будзе перамога. Бой быў няроўным і доўгім. На абодвух парванае адзенне, паразбіваныя насы, твары ў крыві. Шурка біўся з апошніх сіл.

Раптам удар. І ён адляцеў у бок, да сцяны, страціў прытомнасць, марудна спаўзаў па сцяне ўніз. Над ім пачалі лічыць, як у накаўце: восем, дзевяць - даняслося да яго свядомасці. Шурка імгненна зразумеў, што адбываецца. Ён не ведаў, адкуль у яго знайшліся сілы, але добра памятаў, што бязвыхаднасць і злосць успыхнулі ў ім, калі ён убачыў, што праціўніка віншуюць з перамогай. У адно імгненне ён ускочыў на ногі, схапіў за грудзі нянавіснага праціўніка і моцным ударам галавы ў падбародак збіў з ног пераможцу. На лік "дзевяць" той не змог падняцца.

Шурку з перамогай ніхто не павіншаваў. Ён моўчкі пайшоў дамоў. Але гэта было маўклівае прызнанне яго перамогі. Пасля гэтага ніхто і ніколі не адважваўся зачапіць яго пайку, нават калі ён адыходзіўся, пакінуўшы яе на стале. Так Шурка адваяваў сваё законнае месца пад сонцам.

*Пераклад Уладзіміра Васько.*

## *Смарагд Сліўко*

### Ліпа ля акна

Я цяпер прачынаюся рана і, падыходзячы да акна, бачу, як старая ліпа ласкава вітаецца са мною. Я выходжу на балкон і шапчу: "Добры дзень, мілая! Ты з кожным годам становішся ўсё мацнейшай і вышэйшай. Я даўно ведаю цябе. Восенню - шэрай, абмытай дажджамі, і ты з усіх сіл стараешся зберагчы свае апошнія лісточкі. Але час непадуладны, і ты скараешся. І толькі лагодны сняжок прыкрывае тваё азяблае цела. Але рукі твае ў белых пальчатках па-ранейшаму цягнуцца да мяне і да неба.

Мілая ліпа, ты паўтараеш мяне. Ды не, мы проста блізняткі. І матуля ў нас адна. І таму невыпадкова ты заўсёды перад маім акном, каб я помніў аб нашым сваяцтве. І калі я на ноч прыкрываю акно фіранкай, то раніцай яе расхінаю, і ты, як даверлівы без'языкі дварняк, уважліва выглядваеш мяне: такі я, як быў ці не, здаўся ці яшчэ магу. І ты ўпэўнена ведаеш, што будзе, а я - не.

Але час бяжыць. І вось ужо капае слязьмі зіма з тваіх азяблых рук. І раптам раніцай я не пазнаю цябе: ты ўсміхаешся мне сваім новым зялёным дзяцінствам. Потым - маладзецкім буянствам тваёй

раскошнай лістоты. Я ўжо не бачу тваіх працягнутых да мяне рук, хоць ведаю, што яны ёсць, толькі твае пальцы ўжо ў іншых пальчатках. І я задаволены тваім вечным абнаўленнем і па-добраму зайздрошчу табе… І цяпер гляджу. Але што гэта? Ты такая ж і ўжо іншая. Ты светла-зялёная, у радасці. Ты ў стане любові. Ты цвіцеш! І твае жоўтыя дзеткі хутка разляцяцца з ветрам, і пах тваёй навізны, усё, што ёсць за маімі балконнымі дзвярыма, - усё напаўняецца і перапаўняецца табой.

Дзякуй, мілая! Я жыву, як і пчолы, што ляцяць у твой гаючы нектар. Я нап'юся тваёй гарбаты, напаследак падыму шклянку тваёй амброзіі і скажу шмат самых цудоўных слоў: "Дзякуй, ліпа!"…

*Пераклад Ірэны Сліўко.*

## Лес, ліса і лісянё

Была звычайная вераснёўская субота. Ішоў дробны нудны дождж. З дызель-цягніка, які тут прыпыняецца на дзве хвіліны, выскоквалі дачнікі, спяшаючыя на свае агароды. Хто з віламі, хто з граблямі і мяшкамі-сумкамі. У адзіны выхадны дзень трэба паспець сабраць ураджай.

Я ішоў з імі з пустымі заплечнікам і вядром. Рашыў прайсці праз лес: а вось знайду грыбы на абед. Дождж перастаў ісці, і расхінулася яшчэ не блакітнае, а паўпразрыстае неба. І толькі дзесьці на поўначы віднелася цёмная палоска. Усё-такі было цемнавата, і я застаўся на дарозе, каб дачакацца яснага світанку. Ідучы праз лес, я бачыў, як марудна прачыналася сонейка. Яго яшчэ не было бачна, але яго працягваючыя рукі апылялі плывучыя воблакі ярка-жоўтым і пяшчотным золатам. Я стаяў і чакаў, пакуль яно асабіста не павітаецца са мной.

І вось, нарэшце, яно прыпаднялося і працягнула мне свой праменьчык.

- Добры дзень, сонейка! - закрычаў я і працягнуў яму абедзве рукі.

- Калі ласка, не пакрыўдзі агароднікаў! Дай ім цёплы з лёгкімі воблакамі дзень. Яны і так натаміліся. Аддай ім тое, што яны самі зрабілі.

Я бразгануў аб пень пустым вядром замест бубна, якім апавяшчаюць аб урачыстым пачатку, і ўвайшоў у прадлеснік. І ахнуў. Гэта быў не лес. Я ішоў, пераступаючы паваленыя напаўгнілыя дрэвы і зламаныя сукі. Грыбоў не было. Толькі растаптаныя ягаднікі і граблямі павыдзіраны мох. І толькі верхавіны вялізных сосен напаміналі,

што гэта - лес.

І раптам я пачуў піск. Нават не піск, а стогн, тонкі і трывожны. Расхінаючы зараснікі счэпленага кустоўя, я мякка, па-кашэчы падышоў не дыхаючы. У траве ляжала лісянё, бліскучае і гладкае, як аблізанае. Я паглядзеў навокал. Недалёка пад кустом ляжала яго маці. І ад яе ўжо непрыемна пахла. Лісянё, напэўна, баялася гэтага паху і адышло ў другі бок. Я ўзяў яго ў далоні. Ад яго яшчэ прыемна пахла дажджом. Яно ўваткнулася ў мой палец, як у сасок. Я пабег да доміка, на свой агарод, ламаючы сукі і прабіраючыся праз ядловец. А лісянё не выпускала мой палец, пакуль не заснула.

Дома я наліў у сподак прынесенага бутэлечнага малака і сунуў туды яго мордачку. Лісянё тыкалася, пакуль не здагадалася, як гэта трэба рабіць. А потым я прылёг адпачыць і палажыў яго каля сябе. Але хутка яно засунулася да мяне пад кашулю і ўсё чагосьці шукала. Мне было казытліва. Але мы заснулі.

Страшней за ўсё быў вечар. Лісянё выпаўзла з-пад рукі, і прагучаў віск, тонкі і пранізлівы, амаль што воўчы. Я наліў яму малака. Але яно толькі панюхала - і зноў раздаўся працяжны крык. Я зразумеў: яму патрэбны лес. Засунуўшы яго пад кашулю, пабег туды, адкуль прынёс. І, нарэшце, вось ён, лес. А вось і сцяжынка. Я пайшоў направа, баючыся ўчарашняга мацярынскага паху, і выпусціў яго. Лісянё закульгала ў кусты. Я сеў на камень пад ядлаўцом і закурыў. І раптам нешта таркнулася ў маю нагу. Гэта было лісянё. І я канчаткова зразумеў, што пашкодзіў яго жыццё. Таму, што са мной яно жыць не можа і ў лесе, без маці - таксама. Я трымаў яго ў далонях, яно, як і раней, шукала мой палец. Я паплёўся на прыпынак дызель-цягніка, каб паехаць у горад, але ўжо ў заалагічны пакой.

*Пераклад Ірэны Сліўко.*

# Пузаты нуль

Неяк заспрачаліся лічбы, хто з іх найбольш патрэбны і самы важны. Апошняй сказала Дзевятка:

- Я самая старэйшая і, значыць, самая важная. І спрачацца больш не трэба.

Але тут запішчаў Нуль, якога раней зняважліва не заўважалі, хаця ён калабком качаўся то да адной, то да другой лічбы:

- Ды вы, паважаныя спадары, без мяне - нішто. Ну што значыць Дзевяць без нуля? Проста Дзевяць. А са мной? Калі я стану за ёю - гэта ўжо Дзевяноста. А перад ёй, - то і Дзевяць стане менш Адзінкі. І

пагэтаму я самы важнейшы і найпатрабнейшы. Мяне не абыдзеш і не аб'едзеш. Нават дзяржаўныя дзеячы, што б яны рабілі без мяне? Падаткі, як і цэны, былі б 1, 2, 3, 4, 5, 6, 33… Ну яшчэ 999. А мяне прыткнулі, заўважце, не наперадзе, а ззаду. І што атрымалася? Нуль… Нуль - гэта галоўная і любімая лічба, хоць і прыклейваюць мяне дзенебудзь як ярлык 000.

Дзевяць лічбаў ашаломлена паглядзелі на нікчэмную, скакаўшую то туды, то сюды кудлу. Уздыхнулі, уздрыгнулі і прызналі яе Каралевай лічбаў.

*Пераклад Ірэны Сліўко.*

## Неба

Я ляжу на траве і гляджу ўгору. Неба штосьці сёння расшчодрылася. Усміхаецца сонцам. І расцвіло валошкамі над пахілай вярбой і нерасчэчаным кустоўем.

Белыя, як бавоўна, воблакі павольна плывуць у старадаўнім вальсе. І я, як скульптар, ляплю з іх усё, што мне захочацца. Вось гэта скала дзесьці ў неабдымным блакітным моры. А гэта чыйсьці профіль, які ўжо распаўзаецца і прымае іншае аблічча.

Я гляджу, любуюся і думаю. Воблакі і сонца - твой убор. Без яго ты аднастайнае і пустое. Як сон без бачанага ў сне альбо манекен абыякавай вечнасці.

Ты, неба, вечнае. І я таксама. Што ты значыла б, калі б не было мяне ў ранішнім тумане, ва ўскудлачаным арэшніку, у хмарах, у табе? Ты прыгожае, таму што я люблю цябе, як чысты сшытак, у які можна запісаць свае думкі альбо пакласці любімую фарбу.

І не вецер, а я апранаю цябе сваім уяўленнем у розныя жаданні. Без мяне ты як шэдэўр у зачыненым пакоі. А я цябе адкрываю, таму што я чалавек.

Толькі яму даступна разумець гармонію прыроды, музыкі і фарбаў.

Ён з-за любові даўно прыручыў цябе, і ты яго носіш. І дапамагаеш прарвацца праз сябе ў больш далёкую вышыню. А чалавеку заўсёды патрэбна вышыня, таму што ён любіць прыгожае.

*Пераклад Ірэны Сліўко.*



*Віктар Праўдзін (Праўдзін Віктар Аляксандравіч) нарадзіўся 11 траўня 1955 года ў г. Ліда Гродзенскай вобласці.*

*Працаваў у праваахоўных органах, быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Нёман", першым намеснікам старшыні ГА "СБП", намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", галоўным рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура", першым сакратаром ГА "СПБ".*

*Друкуецца з 1986 года.*

*Аўтар кніг прозы "Візіцёр з Поўначы", "Боль" (Споведзь міліцыянера), "Эксгумацыя", "Шлях да Галгофы", "Нелюбімыя гінуць", "Вяртанне з апраметнай", "Танцавальны марафон", "Іду насустрач" і іншых.*

## ***Віктар Праўдзін***

# ВОБЫСК

*"Толькі на ісціне і праўдзе*
*аснаваць можна спакой сабе і іншым"*
*(Ава Пімен)*

Фары яркім святлом разанулі па вокнах, на паваротцы на вуліцу Касманаўтаў машына незадаволена чхнула, і праз некалькі хвілін гул растварыўся ў ранішняй імглістай вераснёўскай цішы.

" Чатыры... Дзімка на рыбалку сарваўся...", - падумаў Кузьма Самсонавіч і ўсё ж пераправерыў: запаліў начнік, зірнуў на гадзіннік.

"Так і ёсць, чатыры... А вось Верка з Федзькам засядзеліся ў сваіх начных клубах... Гулякі... Па іхняй завядзёнцы ў тры гадзіны павінны былі скрыгатаць жалезныя вароты... Хоць бы завесы змазалі... Мерцвяка падымуць... Палюбоўнічкі..."

Толькі падумаў - і адразу пачуў, як праехала машына, віскнулі тармазы, зайграла музыка і, быццам сілячыся прыглушыць да піску звінючую спявачку, на свой лад зарыпелі, заскуголілі металічныя вароты.

- Нагі маёй больш не будзе ў гэтым рэстаране!.. На хаду падноскі адарвуць... Хапугі!.. Блазнюкі!.. Падонкі!.. - на ўсё горла некага мацюкаў Фёдар. - І ты, Верка, пі меней!.. Лапае хто папала...

- А я, мілы, толькі твая... Няхай зайздросцяць..., - пявучым, лісліва-салодкім голасам гукнула жанчына і засмяялася сутаргава, дурасліва, залівіста...

У другім канцы вёскі глухім басам азваўся ўстрывожаны сабака. Праўда, даволі хутка і нечакана аціхлі і музыка, і смех, і абразлівая лаянка, а следам і сабачы брэх.

- Каханкі мілуюцца..., - незадаволена буркнуў Кузьма Самсонавіч. - А я чым правініўся, што кожную ноч вымушаны слухаць брыдоту?... Старэйшых і ў пекле шануюць, а гэтыя дзе жывуць там і псуюць... Э-эх, - цяжка ўздыхнуў дзед Кузьма. - Ва ўсім вінавата мая бяссонніца і, як аказалася, не на ўсе хваробы ёсць спосабы, горш за нуду гэтая зараза...

Ён устаў, басанож прашлёпаў на кухню, выпіў шклянку вады і зноў вярнуўся ў ложак, укрыўся цёплым пледам, яшчэ раз зірнуў на акно, за якім жоўтым святлом цьмяна мільгацеў адзінюткі ліхтар, з палёгкай уздыхнуў. Кузьма Самсонавіч добра ведаў, што палюбоўнікі ўціхаміраліся, значыцца, да васьмі гадзін раніцы ніхто не парушыць спакой Малінаўкі. У вёсцы ўжо і карова не мыкне, і певень не кукарэкне... Хіба падасць голас адзіная на дзве вуліцы каза, якая нейкім цудам прыжылася ў суседкі Веркі. Дый няма каму бударажыць, парушаць спакой старажылаў. У вёсцы дачнікі атабарыліся, а яны, па большасці, летам гаспадараць... От, тады і наслухаешся ўсялякага, і наглядзішся...

Але сягоння, сямідзесяціпяцігадовы Кузьма Самсонавіч, па вясковаму - дзед Кузьма, памыліўся. Старога ўжо прыгалубіла чуйная дрымота, як нечаканае прарэзлівае завыванне міліцэйскай сірэны падхапіла на ногі, пагнала да вакна. Ён адхінуў фіранку, прыпаў да шыбіны і ў падсвечаным туманным змроку ўбачыў, што суседскую хату, тулячыся да плоту, акружаюць людзі ў чорным. Нечакана чалавек трапіў у святло ліхтара, і дзед Кузьма ўбачыў у ягоных руках аўтамат...

- Вось дык так!.. - Міжвольна прашаптаў дзед Кузьма. - Што магло здарыцца ў хаце маладзіцы з дзвюма малымі дзеткамі на руках?..

Каб лепш бачыць, шчыльней прыціснуўся ілбом да халоднай шыбіны, і шкло тут жа запацела. Доўга праціраў яго фіранкай і раптам

пачуў, як бразнула клямка на брамцы. Зірнуў у другое, куткавое акно і ўбачыў у сваім панадворку сутулага чалавека з ліхтарыкам у руцэ. Чалавек, разумеючы, што за ім могуцьназіраць, асвяціў свой твар, але і без гэтага папярэджання дзед Кузьма пазнаў участковага міліцыянера Сярдзюка, пазнаў па магутнай сутулай постаці, акрамя ўсяго ён трошкі накульгваў на правую нагу - вынік даўнішняй, яшчэ з Афганістана, раны.

Дзед Кузьма хуценька нацягнуў спартыўныя шаравары, на хаду накінуў на плечы футравую безрукаўку. Участковы толькі ступіў на ганак, а гаспадар ужо стаяў у дзвярным праёме. Сярдзюк ціха павітаўся, кіўнуў галавой на суседскую хату:

- Выбачай, Самсонавіч, за начны візіт... Тут гэткая справа... Мінскія прыехалі... апера... следчыя... група захопу... Шукаюць Івана Карася, былога мужа Наталлі Пятровай... Толькі, адкуль ён тут?.. Вецер зацугляеш хутчэй, чым прахвоста зловіш... Будуць вобыск праводзіць, паняты патрэбны...

- Дык ноч... І што знойдзеш у маці-адзіночкі з двума хлопцамі на руках?.. - незадаволена выпаліў дзед Кузьма першае, што прыйшло ў галаву.

- Мне не дакладвалі прычыну вобыску... Сказалі, паняты патрэбен, я і прыйшоў... Закон ёсць закон...

- Не, капітан... Я задужа стары дзеля гэткай адказнай спра...

- Самсонавіч, толькі не адмаўляйся, па-чалавечы прашу, -- паспешліва перапыніў дзеда Кузьму ўчастковы. - Не клікаць жа Верку шалапутную з хахалем... Дый, пэўна, нападпітку яны... Каб чаго лішняга не ляпнулі... Дзяцей шкада...

* * *

Людзі ў цывільным, здавалася, запаланілі вялікі дом Пятровай, хата стала цеснай і душнай. Служкі, з віду важныя і маўклівыя, моўчкі торкаліся ва ўсё пакоі, зыркалі ў цёмныя закуткі, зрэдку перашэптваліся, але рукамі нічога не чапалі, чакалі загаду...

Дзед Кузьма пераступіў невялікі парожак у залу і закашляўся. Зусім не пах цыгарэт і розных даўкіх адэкалонаў перахапіў дых, а трапяткая, шчымлівая трывога, што лунала ў паветры... Яна спазмай сціснула грудзі. Нябачнае напружанне ціхім халадком падкацілa пад сэрца, нервова затузалася, затрымцела левае вейка, што здаралася, калі пачынаў хвалявацца. Сярдзюк наляцеў на аслупянелага старога, каб не паваліцца, абхапіў дзеда аберуч і, здалося, вынес на сярэдзіну пакоя. Участковы ўскінуў вочы на шыракаплечага, амаль квадратнага

хлопца гадоў трыццаці, з тоўстым носам і чырвонымі шчокамі, узяў пад казырок:

- Таварыш маёр, паняты дастаўлены... З другім нявыкрутка, у вёсцы не знойдзем...

- Твая праблема... - рэзка перапыніў участковага шыракаплечы. - У цябе, капітан, на ўсё пра ўсё дзесяць мінут...

Шыракаплечы зірнуў на дзеда Кузьму, торкнуў у твар паперу і гучным голасам абвясціў:

- Гэта ордэр на вобыск... Як відавочнік, будзеце панятым... Вам давядзецца пісьмова засведчыць правільнасць і сапраўднасць вобыску... Пакуль участковы шукае другога панятога, вы пачакайце... Вось тут... - Ён падвёў Кузьму Самсонавіча да круглай трошкі цёплай печы, нагой падсунуў табурэт, строга загадаў: - Сядайце... Спатрэбіцеся -- паклічам...

- Не глухі, можна і цішэй,.. - незадаволены напорыстасцю служкі, абурыўся Кузьма Самсонавіч, але таўстаносы так зыркнуў з-пад ілба, што дзед плюхнуўся на табурэт, здалося, маёр прыкаваў да месца.

Насупраць у шыкоўным скураным крэсле сядзела гаспадыня. Перапалоханыя хлопчыкі пяці і шасці гадоў туліліся да маці. Заплаканая жанчына ласкава гладзіла меншага сына па ўскудлачанай, яшчэ соннай галоўцы і бесперапынна шаптала:

- Дзеткі, не бойцеся... дзядзі харошыя... у іх работа такая... яны хутка пойдуць...

Дзед Кузьма ўбачыў дзяцей, і нешта здрыганулася ў грудзях, зноў удушлівы камяк падкаціў да горла. Дзесь у падсвядомасці, у яе самых дальніх куточках, як бы нейкі голас прашаптаў, што ён памятае, павінен успомніць нешта важнае... Выява мільганула і знікла, толькі халодныя мурашы прабеглі па спіне... Імгненна нагадала аб сабе і хворае сэрца.

"Не!.. Гэтакі адрэналін не для мяне... Зрэшты, закону няма каб паняты прысутнічаў пад прымусам... Пайду, няхай шукаюць маладзейшага..." - прыняў рашэнне Кузьма Самсонавіч і пацягнуўся да кішэні па таблетку валідолу.

- Вам кепска, можа вады? - Ціхім, прыязным голасам запыталася Наталля.

- Трошкі неспакойна... Сітуацыя незвычайная, - цяжка ўздыхнуў дзед Кузьма. Ён зірнуў на гаспадыню, убачыў шырока расплюшчаныя спакутаваныя васільковыя вочы і чамусьці пачаў апраўдвацца. - Прабач, дзетка... Сярдзюк угаварыў... Сказаў, што калі не я, то Верку прывядзе з хахе... - ён на паўслове спатыкнуўся і, гледзячы на дзяцей,

паспрабаваў усміхнуцца: - з сябрам прывядзе...

- Дзякую вам, Кузьма Самсонавіч... Вы харошы чалавек...

Гэтае "дзякую" як ацверазіла дзеда Кузьму, з вачэй, быццам, заслона ўпала.

"Ёй падтрымка патрэбна, а я, пень стары, уцякаць сабраўся." - Падумаў ён, а ў слых паспрабаваў пажартаваць:

- Ты, дачушка, у галаву не бяры... Пра дзетак думай... А кепскае - у мех ды за плечы...

- Як жа не браць, калі тут гэткае!?.

- Мама... спаць хачу, - закруціўся на каленях меншы сын.

- Я таксама, - цяжка ўздыхнуў старэйшы і, ссунуўшы бровы, па даросламу, сурова, паглядзеў на плячыстага маёра.

* * *

Нарэшце аб'віўся ўчастковы. Ён прывёў маладога хлопца, нетутэйшага, і адразу служкі замітусіліся, зашчоўкалі фотаапараты, бліскавіцамі ўспыхвалі фотаўспышкі.

Службоўцы доўга абшуквалі пакоі,ператрасалі шафы і камоды, пераглядзелі кніжныя паліцы, прастукалі сцены і падлогу. Хударлявы капітан, падобны на нейкую дзюбастую птушку, і, відавочна, не з апошняга дзесятка службоўцаў, торкнуў свой доўгі нос у печ, каля якой сядзеў дзед Кузьма і ператрос попел...

І печ, здалося, гэткай бесцырымоннасці не вытрымала, узбунтавалася... Раптам загуло ў дымаходах, незадаволена скавытнулі засаўкі, здрыганулася хата, і адразу па вокнах шумна сыпанула дажджом. На нейкі момант запанавала напятая, ломкая цішыня. Хтосьці з міліцыянераў незадаволена прабурчаў:

- Тры гадзіны хату ператрасаем і пуста... Відаць, памылачка выйшла...

- А вось сіноптыкі не памыліліся... Прадказалі аранжавы ўзровень бяспекі, і наце вам, атрымайце непагадзь... - даляцеў з другога паверху сярдзіты голас.

- Хто там гэткі разумны? - Ажно ўзвіўся насаты капітан. - Каму пагоны ціснуць?..

Жанчына мацней прытуліла дзяцей да сябе і, сілячыся супакоіць хлопчыкаў, шаптала сваё:

- Не бойцеся... дзядзі харошыя... хутка пойдуць...

У хату шумна ўваліўся міліцыянер у чорнай накідцы да самых пят з мінашукальнікам у руках і цэлафанавым пакетам. Ён асцярожна, бліжэй да сцяны, на падлогу паклаў мінашукальнік, у кут кінуў цэла-

фанавы пакет і безуважна прашлёпаў міма начальства да цёплай печы, прыпаў да яе ссінелымі мокрымі далонямі, сцішыўся. Плячысты маёр падышоў і нейкі час цярпліва чакаў дакладу. З-за ягоных плячэй, стоячы на дыбачках, выглядваў капітан. Чалавек у плашчы знерухомеў, здавалася, застыў каля цяпла. Ён стомлена зірнуў на начальнікаў і заплюшчыў нелагодныя вочы.

- Ну?!. - Скрозь зубы запытальна прабасіў маёр.

- Дакладвай!.. - сілячыся надаць голасу начальніцкія ноткі, піскліва прагугнявіў капітан. - Знайшлі?..

- Ага, знайшлі... - зябка паціраючы далоні абыякава адказаў міліцыянер. - Вунь, у мяшку... І падковы... і гузікі... і капейкі сэсэраўскія...

- Што за падковы?.. Якія гузікі?.. - ускрыкнуў капітан і шустра крутнуўся ў калідор, падхапіў пакет.

- Асцярожна... дзіравы, - крыкнуў міліцыянер, але было позна, змесціва пакета звонка бразнулася аб падлогу.

- Скажыце, што шукаеце!? -- Не вытрымала, умольна ўскрыкнула гаспадыня. - Калі грошы?.. Яны ў кашальку... Калі золата?.. Яно на мне... Вось і завушніцы, і крыжык на шыі залаты... Яшчэ пярсцёнак ёсць...

- Што за пярсцёнак? - капітан, насоўкай выціраючы рукі (усё ж перагледзеў тое, што выкулілася з дзіравага пакету), усутыч наблізіўся да жанчыны і адным духам выпаліў: - Ён каштоўны?.. Брыльянт колькі каратаў?.. Дзе сейф Карася?.. Ведаем, ён схаваў валюту, золата і бухгалтарскія дакументы... Аддай іх!..

Гаспадыня ўзняла на капітана заплаканыя вочы, аблізнула сасмяглыя губы, зноў пагладзіла сваіх хлопчыкаў.

- Пярсцёнак сярэбраны, ад бабулі застаўся... Брыльянтаў няма... Пра сейф з дакументамі першы раз чую... Ад Івана атрымоўвала толькі аліменты на дзяцей, - блытанай скорагаворкай паспяшалася адказаць Наталля.

- Во, чэша!? Як па пісанаму... - выскаліў вялікія жоўтыя зубы капітан. - Нас за дурняў трымае... Гэта за аліменты ў хаце прыбіральня ў пазалоце і лазня з джакузі... А яшчэ хамам турэцкі і еўрарамонт, на які мне дваццаць гадоў рабіць не зарабіць...

- Мы ж дом гэткі купілі, - горка прамовіла жанчына, -- не бурыць жа...

- Пацвярджаю, - сілячыся хоць трошкі змякчыць сітуацыю і напады на суседку, загарачыўся дзед Кузьма. - Чалавек, які жыў раней, усё па гарадскому ладзіў... Звонку хата вясковая, а ў сярэдзіне - музей...

- І дзе ж цяпер той музеязнавец? - фальшыва, з яхіднасцю

запытаўся маёр.

- Спярша хадзілі чуткі, што за мяжой, дзесьці у Канадзе, а потым праляцела пагалоска, што ў турме... - сказаў дзед Кузьма тое, што ведалі ўсе суседзі і трошкі падумаўшы, ціха дадаў: - А бізнесмен быў, як сёння кажуць, "круты"... І пра нас, вяскоўцаў, клапаціўся... За свой кошт дарогу заасфальтаваў, ваду, газ да кожнага дома падвёў... І раптам хату прадаў і знік... Што, не жылося?..

- Выбраў дзе лепей, - задаволена ўсміхнуўся шыракаплечы і хітравата, па-змоўніцку падміргнуў старому.

Дзеда Кузьму ад гэтага блазенскага падміргвання аж у пот кінула... Ён зразумеў, што міліцэйскі начальнік добра ведае, дзе былы сусед, і не толькі ведае, па ўсім, спрыяў у выбары "лепшага" месца...

"Гэты маўчун і цяпер мудруе, - гледзячы на маёра шырока раскрытымі вачамі думаў стары. - Нічога не знайшлі, а ён "адбой" не дае, нешта выштукоўвае... І во, падміргвае... Мо ў свой хаўрус запісаў?.. А я, стары дурань, важна сяджу і нечага чакаю... А раптам здарыцца, як у тых кіношных серыялах... З першага разу нічога не знайшлі, а за другім разам, а то і трэцім - бац, і наце вам, пакецік з якім-небудзь наркатычным парашочкам..."

З другога паверху, гучна грукаючы абцасамі, спусціўся міліцыянер, падышоў да капітана і нешта зашаптаў на вуха. Капітан слухаў, пахмурнеў і раптам рэзка перапыніў падначаленага:

- Запомні, мы ніколі не памыляемся... У маёй практыцы яшчэ не было, каб у хаце нечага супрацьзаконнага не накапалі... Лепш працаваць трэба... Ідзі ў панадворак... У зямлі не знайшлі, на градах шукай... Знойдзем некалькі макавых галовак - цудоўна, але і адной дастаткова, каб наш выезд быў апраўданы...

- Дык восень... Які цяпер мак?.. - перасмыкнуў плячамі міліцыянер і здзіўлена паглядзеў на маёра, чакаючы, што скажа вышэйшы начальнік.

У гэтую самую хвіліну адзін з вышукальнікаў паклаў Кузьму Самсонавічу руку на плячо і нясмела папрасіў:

- Дзядуля, адсунься, хачу печ агледзець...

- Глядзелі ўжо! -- узарваўся стары і, гнеўна гледзячы на маёра, адным духам выпаліў: - Калі памыліліся - прасіце прабачэння і едзьце... Людзей не мучце... Зрэшты, з мяне хопіць, дадому пайду... Мне па патрэбе...

- Мы ўсе стаміліся... Падпішыце пратакол і, калі ласка, ідзіце... - спакойна сказаў міліцэйскі начальнік і няспешна перагарнуў спісаныя дробным почыркам старонкі. - А калі патрэба ўзнікла, што натуральна, гаспадыню папросім, каб дазволіла тут схадзіць...

- Не-не! -- замахаў рукамі дзед Кузьма. Ён інтуітыўна адчуў, што можа настояць на сваім і, зрэшты, пазбавіцца ад прымусу падпісваць паперы, няпэўныя на ягоны пагляд. - Усё што трэба я раблю толькі ў сваёй хаце.

- Ха-ха-ха, -- зарагатаў насаты капітан. - Ты, дзед, унікум... Адмаўляешся пасядзець на пазалоце... А я схаджу... Па той самай прычыне... Грамадзянка Пятрова, ці дазволіш?..

- Рабіце, што хочаце... - Гаспадыня пагардліва зірнула на міліцыянера і трошкі цішэй дадала: - Я вам не начальніца...

* * *

Дзед Кузьма, начапіўшы акуляры, чытаў пратакол вобыску. Чытаў уважліва, з асцярогай, баяўся прапусціць нешта важнае. Працэдура зацягвалася, але яго не прыспешвалі, маўляў, няхай старэча, пагуляе ў закон. Другому сведку торкнулі паперы ў рукі і зняважліва загадалі: "Падпісвай, дзе птушачкі"... Хлопец паставіў на кожнай старонцы неразборлівыя размашыстыя загагуліны і знік, гэтак жа няўлоўна як і з'явіўся.

У нейкі момант насаты капітан і яго шыракаплечы начальнік пакінулі ў баку тое, што робіць дзед Кузьма, засяродзіліся на сваім. Рэй вялі ціха і не бачылі, што дзед ужо не вычытвае, а навастрыў вушы, іх слухае. Капітан узбуджана, узахлёб расказваў пра тое, як наведаў лазню і прыбіральню:

- І сапраўды, лазня што трэба!.. Уклаўся чалавек... Убачыш - пазайздросціш... Шкада, што нічога не знайшлі... Канфіскат пралятае... А ўзяць ёсць што!..

- У другім месцы знойдзем... - незадаволена, скрозь зубы, працадзіў маёр.

Насаты азірнуўся на дзеда Кузьму, які старанна выводзіў подпіс на прачытанай старонцы і радасна зашаптаў:

- І ўсё ж метку пакінуў!..

Кузьма Самсонавіч слухаў пра тую "метку" і не верыў сваім вушам, што гэткае можа быць... У жыцці ціхі, не канфліктны, ён раптам узбунтаваўся і нечакана для самога сябе вырашыў: мірыцца з беззаконнем не будзе!.. Ён хутка запісаў пачутую размову міліцыянераў у пратакол, балазе, на яго доўга не звярталі ўвагі і не прыспешвалі. Калі справа была зроблена, акуратна склаў паперы і аддаў маёру.

Цяпер маёр спяшаўся і не звярнуў аніякай увагі на дзедаву пісаніну. Ён бегла зверыў подпісы панятых на першай і апошняй

старонках, паклаў пратакол у папку, напружана выдыхнуў:

- Прабачце, Кузьма Самсонавіч, за нязручны момант... Служба гэткая... І вы, грамадзянка Пятрова, выбачайце...

* * *

Надвячоркам таго ж дня да хаты Кузьмы Самсонавіча пад'ехала міліцэйская машына. Сярдзюк таропка прашмыгнуў у расчыненую брамку і подбежкам кінуўся да веранды. Калі ўчастковы ўбачыў замок на дзвярах, дастаў мабільны тэлефон, але патэлефанаваць не паспеў.

- Капітан, ты зусім не кульгавы, калі подбегам! - з альтанкі весела гукнуў дзед Кузьма.

Кузьма Самсонавіч разумеў, што па яго прыедуць... Як толькі прачытаюць напісанае ў пратаколе вобыску, так і заявяцца... Праўда, чакаў "гасцей" у першай палове дня. Не дачакаўся... А пасля семнаццаці гадзін сабраўся, замкнуў хату і ў поўнай гатоўнасці атабарыўся на вуліцы.

- Цьфу ты, чорт стары!.. Заварыў кашу і ў цяньку сядзіш, гультайнічаеш... - ускрыкнуў міліцыянер і схаваў тэлефон у кішэню. - Ужо не спадзяваўся цябе заспець... Думаў у Расію да сына шуснуў... А Махляр круціцца, як вуж на патэльні... Па цябе паслаў...

- Ты хуткі, як чарапаха, - падыходзячы да міліцыянера сказаў дзед Кузьма і ссунуўшы бровы перапытаў: - А махляр, ён хто?.. Здаецца, некалі чуў гэтае прозвішча...

- Ага! Значыцца, ведаеш у чым справа, - напружана сказаў Сярдзюк і паспешліва патлумачыў: - Махляр - мянушка капітана Малярэўскага. Толькі, Кузьма Самсонавіч, вельмі прашу - забудзь... Капітан злуецца, калі чуе пра Махляра... І помслівы... Даведаецца, ад каго пачуў, не спусціць... Злосць на мне спагоніць...

- Махляр... - Сілячыся ўспомніць дзе чуў гэтую мянушку, а можа і прозвішча, некалькі разоў уголас паўтарыў дзед Кузьма. - Не, не прыгадаю... - Ён абыякава махнуў рукой, быццам адмахнуўся ад назойлівай мухі, і з напускной бравадай падбадзёрыў Сярдзюка:

- За доўгі язык, канешне, не пахваляць, але ж і людзям губа не замкнёна... А што тычыцца капітана, дык сам ведаеш: якая птушка, такі і галасок... - А я цябе чакаў... Хацеў, каб свой чалавек прыехаў...

Калі падышлі да машыны, Сярдзюк не вытрымаў, запытаўся:

- Самсонавіч, калі за свайго прызнаеш, можа раскажаш, што ў пратаколе напісаў? Чуткі ў аддзеле розныя, а Малярэўскі зрабіўся злы, мітусіцца, быццам нячысцік падсмалены?

Дзед Кузьма як і не чуў участковага. Ён азірнуўся, убачыў

расчыненую брамку і вярнуўся, накінуў клямку.

Ужо ў машыне, калі выехалі з вёскі, Кузьма Самсонавіч цяжка ўздыхнуў:

- Ліхі сабака спадцішка кусае, а твой "махляр" не кусае, ён чалавеку прама ў сэрца паскудзіць...

- Ён гэткі мой, як і твой, - абурана ўскрыкнуў Сярдзюк. - Скрозь людзі, і кожнаму ў душу не залезеш...

- Калі хочаш пачуць праўду, не перапыняй..., -- загарачыўся дзед Кузьма. - Капітан форму носіць і не ад мяне мянушку атрымаў!.. Ведаеце пра гнілое нутро і маўчыце... Значыцца, некаму патрэбныя "махляры" ў пагонах?.. А цяпер слухай, што ваш "махляр" вытварыў падчас вобыску ў Пятровай...

* * *

У невялікім кабінеце, куды Кузьма Самсонавіч зайшоў разам з участковым, за сталом сядзеў насаты капітан. Ён быў у форме, выглядаў важна, нават фанабэрыста, але ўзбуджанасць і хваляванне выдавалі ружовыя плямы на шчоках і рукі, з якіх Малярэўскі не выпускаў тоўсты чырвоны аловак і раз-пораз стукаў ім па стале, быццам адбіваў азбуку Морзе. Прыжмурыўшы вочы, ён няласкава зыркнуў на дзеда, бяскроўныя моцна сцятыя губы кранула нядобрая ўсмешка.

- Сярдзюк, пачакай у калідоры, - напружана, быццам, перасільваючы нейкі ўнутраны боль, прастагнаў Малярэўскі і, калі ўчастковы выходзіў, надрыўна наўздагон крыкнуў. - І дзверы шчыльней зачыні...

Застаўшыся сам-насам з нядаўнім панятым, капітан наўмысна цягнуў час. Ён бесцырымонна свідраваў старога калючым уладным позіркам, намагаўся начальніцкай строгасцю, як кажуць, нагнаць страху. Але, як ні сіліўся, заўважыць у паводзінах, ці ўбачыць у вачах старога хоць кропельку хвалявання, панікі, страху так і не ўдалося. Дзед Кузьма абыякава зірнуў на расчырванелага міліцыянера, скептычна ўсміхнуўся, нядобра падумаў: "Сысунок ты яшчэ, каб на людзей гэтак зыркаць... Пажывеш болей, зведаеш, што злых на прывязі трымаюць..." і, не дачакаўшыся запрашэння, уладкаваўся на адзінае крэсла са спінкай, што адзінока тулілася каля самага вакна.

- Далекавата селі, - нудна выціскаючы з сябе кожнае слова, набычыўся Малярэўскі. - Падыходзьце бліжэй... З пратаколам вобыску нявыкрутка атрымалася, не дагледзеў... Адзін ліст парваўся... Выпадкова... Сапсаваную старонку аднавілі, яе падпісаць трэба... Наноў... Потым Сярдзюк дадому адвязе... Спадзяюся, акуляры не забыліся?

- Канешне падпішу, - імгненна пагадзіўся Кузьма Самсонавіч

і, трошкі пачакаўшы, рашуча дадаў. - Толькі пакажыце сапсаваны ліст... Хачу ўпэўніцца, што тое самае падпісваю...

Капітан не чакаў ад старога гэткай прынцыповай катэгарычнасці і нейкі час, мітуслівa, з месца на месца, перакладваў паперы на стале. Ён думаў, як падступіцца да суразмоўцы і вырашыць сітуацыю на сваю карысць. Інакш, як сказаў начальнік аддзела, "... Малярэўскага чакаюць вялікія непрыемнасці..."

Паўза зацягвалася. Рашуча настроены Дзед Кузьма, наадварот, хацеў давесці пачатае да канца і, расцаніўшы маўчанне капітана пасвойму, вырашыў ісці ў наступленне.

- У хаце Пятровай маёр правяраў напісанае і быў згодзен...

- Дзед, ты хоць ведаеш, каго і ў чым вінаваціш? - Малярэўскі рэзка перапыніў суразмоўцу, падхапіўся, зашпацыраваў па кабінеце. - У маё апраўданне падпішуцца ўсе, хто праводзіў вобыск... А ты адзін... Разумееш, а-а-адзін...

Кузьма Самсонавіч рыхтаваўся да размовы, ведаў з кім мае справу, разумеў, што без падтрымкі нічога не дакажа і справядлівасці не даб'ецца. Стары няспешна выцягнуў з кішэні акуляры і, праціраючы насоўкай шкельцы, ціха зазначыў:

- Не зусім так... Ёсць яшчэ Наталля Пятрова... І не перажывайце, што заўвагі зніклі... Я іх добра памятаю... А вось "тыкаць" не трэба, калі не мяне, старога, дык пасаду сваю пашкадуйце...

- Выходзіць, не дагаварыліся? - унурыў галаву ў плечы Малярэўскі.

- Выходзіць, што так, - цяжка ўздыхнуў дзед Кузьма і хітравата паверх акуляраў пераможна паглядзеў на капітана.

Цішыню, што нейкі час панавала ў кабінеце, парушыў рэзкі тэлефонны пераліў. Капітан увішна падхапіў трубку, прыклаў слухаўку да вуха і, насцярожана зірнуўшы на дзеда, адвярнуўся. Ён слухаў, раз-пораз падтакваў, і раптам яго спіна пачала выпрамляцца, плечы шырэць, губы скрывіла нахабная ўсмешка, ды так і застыла на бяздушным твары. Калі размова скончылася, Малярэўскі задаволена крактануў, павесялела зірнуў на дзеда Кузьму і няспешна дастаў з ніжняй шуфляды стала вялікі чырвоны яблык.

- Ваша настойлівасць і бяздоказныя абвінавачванні, шаноўны Кузьма Самсонавіч, шкодзяць не мне...

Капітан прымоўк, выцягнуў з кішэні кіцеля звязку ключоў, знайшоў патрэбны, адамкнуў сейф і дастаў некалі канфіскаваны фінскі нож. Ён не спяшаўся агучваць толькі што пачутую "казырную карту", яму хацелася атрымаць поўную асалоду ад перамогі. Штучнай, высмактанай з пальца, і ўсё ж перамогі... Немігаючымі ўчэпістымі

вачамі Малярэўскі нейкі час уладна ўзіраўся ў твар старога, ён хацеў бачыць, як гэты ганарлівец і праўдалюбец у адну секунду ператворыцца ў хілага жабрака і, як многія да яго, будзе прасіць прабачэння і літасці.

- Зрэшты, упартасць заўсёды стратная, - з прытоеным сарказмам, пагрозліва прасіпеў Малярэўскі і фінкай праткнуў яблык. - У нашым выпадку яна нанесла ўрон Аляксею Кузьмічу... Вашаму, Кузьма Самсонавіч, сыну... Ухіленне ад падаткаў - злачынства... І, заўважу, злачынства сур'ёзнае...

Капітан прымоўк і з непрыхаванай асалодай назіраў за тым, як задрыжэлі губы старога, як ненатуральна збялеў маршчыністы знямелы твар, як у нервовым ціку тузаецца шчака і хутка-хутка плюскаюць, трымцяць павекі.

Сябелюб і ганарлівец Малярэўскі нават падумаць не мог, што ў той момант, калі ён бліскучым лязом праткнуў яблык і цешыўся паражэннем суразмоўцы, Кузьма Самсонавіч яго не чуў...

* * *

Чырвоны яблык і фінка... Яны ўварваліся ў свядомасць і быццам разарвалі, разблакіравалі памяць... Даўняе, некалі перажытае ўсплыло і праз бялёсую завесу туману Кузьма Самсонавіч убачыў сябе маленькага на каленях у маці. Ён адчуў на сваёй даўно не стрыжанай галаве цёплую далонь, пачуў гарачы шэпт: "... Сынок, не бойся... дзядзі харошыя... яны хутка пойдуць..."

А "дзядзі" у хаце нешта шукалі, ператрасалі адзенне, з абабітай жалезам скрыні выкінулі матчын дзявоцкі пасаг. Лепшае кідалі у мяхі, непатрэбнае ў кучу сярод хаты... Перакулілі шафу, пабілі посуд, цюфякі, набітыя леташняй саломай, чамусьці парэзалі нажамі...

Напалоханы крыкам і шумам, на сярэдзіну хаты, з-пад печы, выбег малады пеўнік, якога маці берагла на Вялікдзень, і насаты дзядзька тут жа скруціў яму галаву і таксама кінуў у мех. Са столі сыпаўся пыл, хтосьці тупаў на гарышчы...

Насаты сеў на лаву, падсунуў бліжэй да сябе стол, упёрся ў яго локцямі і ўпіўся мутнымі вачамі ў Кузьму. Разглядваў доўга, раз-пораз чмокаў прыліплую да ніжняй губы патухлую папяросу. Раптам убачыў на стале гліняную глыбокую місу, у якой ляжаў клубок чырвоных нітак з вязальнымі спіцамі. Спіцы кінуў пад ногі, клубок пацiскаў у руках і выцягнуў з похваў вялікі кінжал. Чыркнуў газніцай, зробленай з гільзы, прыпаліў папяросу. Некалькі разоў запар пыхнуў дымам і скрозь зубы працадзіў:

- Ты, Нінка, павінна сказаць дзе твой Самсон.

- Ужо гаварыла... Яшчэ на пачатку вайны забралі...

- Хто, хто забраў? - ажно ўзвіўся насаты - Аж вушы баляць цябе слухаючы...

- Дакумент не паказалі, -- паспяшалася адказаць маці. - Замест яго - торкнулі аўтамат у плечы і павялі...

- І што, за тры гады весткі не перадаў? А людзі кажуць, што па начах да цябе нейкі мужык ходзіць...

- Ты таксама не ўдзень прывалокся... А на брахні свет не стаіць...

- Добра, паверу, - блазнавата рагатнуў насаты. - Паверу, калі мяне прымеш...

- І прыму, - загарачылася маці. - Толькі дазволу ў тваёй жонкі спытаю... Заўтра ж прыйду... І ты дома будзь...

- Ну ты і сцерва!.. - падхапіўся на ногі насаты і з усёй сілы ўдарыў кінжалам па клубку. - Я табе прыйду!.. Ды я цябе ў камендатуру... А мальца ў лагер... На вопыты... Кроў здаваць...

Насаты нешта крычаў, тупаў нагамі, але маленькі Кузьма яго не чуў, ён не мог адвесці вачэй ад вялікага бліскучага кінжала, якім крыўдзіцель рэзаў на часткі чырвоныя ніткі. Маці напярэдадні распусціла старую кофту і абяцала звязаць яму цёплыя шкарпэткі, рукавіцы і шапку. І тады... Тады ён зможа выходзіць на вуліцу...

- Зрэшты, даўно хацеў запытацца: Самсон хто?.. - крычаў насаты, - юда?..

Пачуўшы пра "юду", да іх падышоў малады хлопец ў фуфайцы з белай павязкай на рукаве і, насмешліва аглядаючы малога, прапанаваў:

- Махляр, давай праверым... Мальцу штаны знімем і ўбачым хто бацька... Тут "аўсвайс" не трэба...

- Я табе не "махляр", -- зароў насаты. -- Папрашу звяртацца, як паложана... Па званні ці пасадзе...

- Мужчынкі, дарагія, не пужайце сына! - узмалілася маці. - Коля, мы ж не чужыя, раслі разам... З Самсонам некалі сябраваў... І ніткі парэзаў... Нашто?!.

- А-а, табе нітак шкада?.. А мне галавы не знасіць, калі Самсона не знайду!.. Муж твой бандыт... І ты партызанка... Хлеб у лес пячэш... А ў клубок магла гранату ці лімонку ўматаць, каб камендатуру ўзарваць!.. Як табе гэткі паварот?..

- Коля, што ты гаворыш, адумайся?!. - глытаючы даўкія слёзы, надрыўна плакала маці. - Партызаны... Хлеб... Ды ў мяне дзве бульбіны засталося... Не ведаю, чым сына карміць?.. Вясна позняя... Крапіва,

шнітка не нараслі...

Той, каго маці назвала Колем, рэзка змахнуў са стала шмаццё нітак, следам паляцела і гліняная міса. Міса падкацілася да лавы, дзе яны сядзелі, жанчына апусціла сына на падлогу і пацягнулася за цудам уцалелай пасудзінай. Гэтага толькі і чакаў другі, маладзейшы, паліцай. Ён рэзка вырваў з рук жанчыны маленькага Кузьму, паставіў на стол і фінкай скалупнуў з пляча шпагаціну, што трымала лапленыя на каленках штаны, пашытыя са старой бацькавай гімнасцёркі.

Тое, што адбылося далей, хлопчык памятаў дрэнна. Паволі, як спадцішка, вочы заліло шэрым калючым туманам, у якім расплыліся гідлівыя ашклянелыя варожыя твары. Яны грымаснічалі, скалілі зубы, пыхкалі атрутным тытунём, рагаталі, а пасля таго, як гэты самы Коля дакрануўся фінкай да цела трохі ніжэй жывата, маленькі Кузьма самлеў...

Ён ачуняў, як казала маці, толькі на трэці дзень. Сына ўбачыла і расплакалася... Спуд быў настолькі моцны, што хлопчык ні хадзіць, ні гаварыць не мог... І, што найгорш за ўсё, здарыўся нервовы цік, які раз-пораз перасмыкаў твар...

Кузьма прахварэў цэлы год, і толькі наступнай вясной, калі гуллівае сонейка майскімі ранкамі пачало загадкава зазіраць у вочы і быццам клікаць на вуліцу, на волю, ён пайшоў на папраўку. Давялося вучыцца наноў і гаварыць, і хадзіць, а вось нервовы цік доўга не паддаваўся лячэнню. Дый лячэнне тое было без усялякіх лекаў і дактароў...

"Дзе доктара знайсці?.. Хіба ў немцаў?.. - пасля вайны часта ўспамінала маці. Гаварыла так, быццам апраўдвалася. - Пайсці можна было... Людзі ж, вядома, хварэлі... Толькі лячылі немцы сваіх і, канешне, прыхвасняў... А з намі што хочаш маглі зрабіць... Хоць у Нямеччыну адправіць, хоць расстраляць па даносу якога паскудніка... Бацька ж партызаніў... А паліцай, як ты самлеў - адчапіўся... Не-е, у яго жалю да нас не было... Ягоная жонка настояла... Прыйшла, цябе ўбачыла і перажагналася, гэткі ты, сынок, быў лядашчы... Што казаць пра некага... Я сама рыхтавалася да горшага... А потым бабкі пачалі прыходзіць... Вышуквала іх па ўсёй акрузе... Здаралася, людзі самі настоі розныя прыносілі... Хто шаптаў, хто малітвы чытаў ды святой вадой пырскаў... Было, і траўку палілі, дымам абкурвалі, як пчаляр пчол... А калі па праўдзе, то нас твая хвароба і ўратавала... Паліцаі засады ладзілі, чакалі, што татка прыйдзе хворага сына праведаць. Ты за прынаду быў... А Самсон доўга не аб'яўляўся, як аказалася, паранены ляжаў... А летам і нашы прыйшлі..."

Калі фашыстаў прагналі, маці на спадарожнай ваеннай машыне Кузьму завезла ў Мінск, у шпіталь. Ён доўга памятаў немаладога вуса-

тага доктара з залатымі пагонамі на плячах, які пасля агляду нечакана прытуліў хлопчыка да сябе і прашаптаў: "Даўно не лячыў простыя чалавечыя хваробы... Чатыры гады ў руках толькі скальпель... А ў цябе, малец, перспектыва выдатная, хвароба адступіцца... перарасцеш яе..." Кузьма Самсонавіч праз некалькі год і сапраўды пазбавіўся ад нервовага ціку, як сказаў ваенны доктар, "перарос" хваробу. Праўда, цік калі-ні-калі ўсё ж нагадваў аб сабе.

* * *

Малярэўскі і падумаць не мог, што яблык, праткнуты фінкай, прымусіць дзеда Кузьму ўспомніць самыя жудасныя хвіліны жыцця. Капітан, уладна пазіраючы на старога, доўга маўчаў, чакаў калі праўдалюбец ачуняе і ўсвядоміць пачутае.

Нарэшце Кузьма Самсонавіч расплюшчыў вочы, пагардліва зірнуў на свайго крыўдзіцеля, пацягнуўся да пузатага графіна з вадой, і ў гэты момант зноў токам ударыла. Рэзкі боль працяў скроні, у грудзях гучна затахкала сэрца.

Нахлынуўшыя ці то мроі, ці то ўспаміны прымусілі заплюшчыць вочы і зноў убачыць і адчуць сябе пяцігадовым хлопчыкам. Да яго зноў вяртаўся той страшны дзень, калі фашысцкія прыслужнікі рабілі вобыск... Вось ён сядзіць на руках у маці, а насупраць за сталом гарой высіцца паліцай. У руках паліцая клубок чырвоных нітак і ён, скалячы зубы, падсоўвае маломy хлопчыку фінку, прымушае рэзаць клубок... Маленькі Кузьма супраціўляецца, ён памятае, што гэтак не было, але гідлівы паліцай настаўляе вінтоўку на маці, і дрыжачая рука хлопчыка пачынае шморгаць фінкай па злашчаснаму клубку. Нечакана лязо скрыгатнула па металу, і ніткі адразу быццам хто здуў з далоняў, і ў руках ужо не клубок, а цяжкая рабрыстая лімонка... Кузьма спрабуе ўратаваць маці і хавае чамусьці гарачую жалязяку, падобную на гусінае яйка, за пазуху, і тут жа агністая бліскавіца коратка і балюча секанула па вачах, сотні, тысячы званоў грымнулі ў скронях, нясцерпны, люты боль апёк грудзі. Адразу наляцеў смерч і закруціў столь, сцены, людзей у адным шалёным танцы... Закруціў і кінуў у чорную непраглядную пустэчу...

Кузьма Самсонавіч з апошніх сіл супраціўляўся разбойнаму тарнада і раптам адчуў прыемную лёгкасць... Боль знік, наўкол шчабяталі птушкі, высока ў паднябессі гучала ціхая ласкавая музыка... Ён хацеў убачыць, гукнуць маці і не змог расплюшчыць вочы, павекі зрабіліся невыносна цяжкімі, свінцовымі і голас прапаў.

"Дзіва нейкае... Міраж... Цела лёгкае... Мне хораша... Нічога

не баліць, а павекі цяжкія і гаварыць не магу... Вось толькі гэты едкі фальшывы голас... Ён скрабецца ў самым вуху і нудліва гудзе, быццам муха ў павуцінні... Хоць бы які павук стрыножыў гэтую заразу..." - думаў стары.

Малярэўскі бачыў, што чалавек пакутуе, яму кепска, але не ў правілах капітана спыняцца на сярэдзіне дарогі. Ён прывык дабівацца поўнага падпарадкавання. Малярэўскі наліў у шклянку вады, але вады дзеду не даў, сціснуў шклянку ў далонях, важна зашпацыраваў па кабінеце:

- Эх, Кузьма Самсонавіч, Кузьма Самсонавіч!.. - павучальна гугнявіў капітан. - Жыццё пражылі і не зразумелі, што з намі сябраваць трэба, а не ў рожкі хадзіць... І што цяпер?.. Будзеце сімуляваць якую-небудзь хваробу і нямогласць?.. За сэрца схапіліся... Скажаце, старасць шкадаваць трэба?.. Ведаю... Думкі наперад ведаю... Вы ж не першы і не апошні ў гэтым крэсле... А хто мяне пашкадуе? Начальства стружку зняло за тое, што Кузьма Самсонавіч вырашыў пагуляць у шляхетнасць, пачаў бараніць хапуг і злодзеяў... Цяжка верыцца, што працоўны чалавек, рабацяга, жывучы на мізэрную пенсію, шкадуе прайдзісветаў... Ну, хай бы яны елі і пілі з залатой пасуды, а то ж блюзнерам трэба і ўнітаз з высакароднага металу... Эх!.. Да пары жуллё жыруе!.. А мой пратэст са сцен змыецца... Золата блішчэла і блішчэць будзе, а вось людзі, спадзяюся, задумаюцца: хто і чаму іх за лохаў трымае!.. Мы ж пакуль пасмяёмся... Да часу, канешне...

Узбуджаны капітан нечакана прыпыніў узвышаную тыраду, крутнуўся да дзеда Кузьмы, вада выплюхнулася са шклянкі. Па ўсім, гэта была адзіная перашкода, якая замінала "трыбуну" гаварыць. Малярэўскі паставіў шклянку на стол і, гледзячы вышэй галавы паддопытнага, паблажліва выдыхнуў:

- Бачу, вы згодны... Выпіце вады, супакойцеся і падпішыце пратакол вобыску...

Збялелы Кузьма Самсонавіч дрыжачай рукой ухапіў шклянку, але ўтрымаць не змог. Шклянка вyears выслізнула і разбілася, шкло бісерам рассыпала па падлозе, даўно не мытай, да жоўтага вышмарганай абцасамі. Кузьма Самсонавіч захістаўся, застагнаў і пачаў валіцца на мокрую падлогу, на бітае шкло, і ўсё ж, у апошні момант, Малярэўскі паспеў падхапіць старога.

На глухі стогн і падазроны шум у кабінет зазірнуў Сярдзюк.

- Сярдзюк, дапамажы... старому кепска... Не біў... гаварыў культурна... а ён раз... і споўз... прытомнасць страціў... - укладваючы Кузьму Самсонавіча на падлогу і лупячы яго па шчоках, спалохана бубніў капітан.

- Я чуў тваю "культурную" апрацоўку, - груба адштурхнуўшы капітана ад старога, рыкнуў Сярдзюк, -- штучнае дыханне рабіць трэба, а не ляпаць па пашчэнках... Выклікай хуткую дапамогу...

* * *

Па факту здарэння была прызначана службовая праверка. Даволі хутка з'явілася і заключэнне, дзе гаварылася, што ў паводзінах капітана Малярэўскага адсутнічаюць наўмысныя дзеянні ў адносінах немаладога чалавека, з якім здарыўся інфаркт.

Дактары пацвердзілі наяўнасць даўняй хваробы сэрца ў Кузьмы Самсонавіча. Галоўную ролю сыграла даведка з паліклінікі, дзе Кузьма Самсонавіч апошніх дзесяць гадоў быў на ўліку ў кардыёлага.

Пра ўсё гэта дзед Кузьма даведаўся ад Сярдзюка толькі праз тыдзень, калі дактары перавялі хворага з рэанімацыі ў агульную палату. Кузьма Самсонавіч ці то ад шматлікіх лекаў, ці то ад усведамлення той мяжы, з-за якой вырваўся, успрыняў сказанае ўчастковым спакойна, нават абыякава. Яму хацелася хутчэй аказацца дома, у сваёй хаце, пасядзець у зробленай сынам альтанцы, прайсціся па садзе і на поўныя грудзі ўдыхнуць пах прэлага лісця, змешанага з ападам антонавак, выпіць кубачак ліпавага чаю. Ён не жадаў варушыць старое, даўно пералсытае і амаль забытае... У здарэнні нікога не вініў...

Але як толькі Сярдзюк сказаў, што Кузьма Самсонавіч у бяспамяцтве мроіў, крычаў, баронячы маці ад паліцая Махляра, быццам заслона з вачэй упала, прыйшло азарэнне, а з ім і разуменне таго, што павінен рабіць. Ён радасным ўзрушаным позіркам паглядзеў на капітана і папрасіў прынесці ручку і некалькі аркушаў паперы.

Нечаканая просьба ўстрывожыла капітана, ён доўгім спалоханым позіркам утаропіўся ў хворага. Кузьма Самсонавіч імгненна зразумеў трывогу ўчастковага. Ён няспешна ўзяў шклянку з вадой, што стаяла на тумбачцы, зрабіў некалькі глыткоў, дабрадушна ўсміхнуўся:

- Ты падумаў, што я розумам крануўся?.. Калі так, значыцца, хтосьці таксама можа ўсумніцца ў маёй нармальнасці?

Капітан хацеў запярэчыць, але Кузьма Самсонавіч замахаў рукамі, маўляў, маўчы, і строга дадаў:

- Чалавек непрытомны ўсялякага нагаворыць... Каб не сумняваліся ў маёй дзеяздольнасці, успаміны напішу... пра вайну... пра паліцая... Гэтым разам адтуль, з вайны вынырнуў мой інфаркт... А то прыйдзе ў галаву якому разумніку экспертызу прызначыць і ў "дурку" старога прыстроіць.

Кузьма Самсонавіч сказаў і адразу адчуў, як лёгка стала на ду-

шы, яго, насамрэч, перапаўняла жаданне хутчэй сесці за стол і пісаць пра паліцэйскі вобыск, пра жудаснага Махляра і асабліва пра гранату, якая, па версіі фашысцкага прыхвасня, была схаваная ў клубок нітак.

- Гэта ж зусім іншая справа, - павесялеў участковы. - Прабач, Кузьма Самсонавіч, я, грэшнай справай, і сапраўды трошкі ўсумніўся...

На другі дзень Кузьма Самсонавіч прыступіў да справы. Раней, калі жылі без мабільных тэлефонаў, дый просты тэлефонны апарат стаяў не ў кожнай хаце, ён часта пісаў пісьмы. Але ж пісьмы, віншавальныя паштоўкі - зусім не тое, што напісаць успаміны. Успаміны, лічыў Кузьма Самсонавіч, працэс творчы, і ад гэтага разумення ён неяк разгубіўся, нават засумняваўся ў тым, што здолее здзейсніць задуманае, усё ж семдзесят гадоў мінула. Але адступаць было позна. Уладкаваўшыся на табурэце каля тумбачкі, што стаяла каля ложка, ён начапіў акуляры, перахрысціўся і ўзяўся за справу.

Дзед Кузьма, нечакана для самога сябе, на дзіва лёгка справіўся з задуманым. Пісаў і адчуваў на сваёй галаве ласкавую далонь маці, адчуваў яе цяпло і ні з чым не параўнальны запах дабрыні, вернасці, любові. Словы клаліся на паперу лёгка, без натугі, як завучаны тэкст, і, калі выпадак з паліцэйскім вобыскам быў распісаны да дробязей, Кузьма Самсонавіч зрабіў рашучую і канчатковую выснову, што не вобыск у хаце Пятровай, не сапсаваны пратакол і не капітан Маляроўскі сталі прычынай інфаркту. Вінаваты ва ўсім - яблык... Той самы яблык, які следчы праткнуў фінкай і рэзаў так, як калісьці фашысцкі хаўруснік Махляр расправіўся з матком чырвоных нітак. Што менавіта "ягомасць выпадак" узбудзіў і вярнуў памяць, прымусіў ізноў перажыць жудасны паліцэйскі вобыск той даўнішняй пакутнай ночы.

Калі ў чарговы раз у палату завітаў Сярдзюк, Кузьма Самсонавіч аддаў участковаму спісаныя лісткі і, цяжка ўздыхнуўшы, сказаў:

- Памятаю, напрыканцы вайны фронт набліжаўся, кананада ва ўсю грымела... Неяк надвячоркам праз вёску партызаны ішлі... Малады хлопец у панадворак забег, вады папрасіў... Папіў, мне падміргнуў, чуб раскудлаціў, весела рассмяяўся і, закідваючы на плячо вінтоўку, узбуджана ўскрыкнуў: "Наша ўзяла!.." Партызан песню зацягнуў і подбегам кінуўся сваіх даганяць. З песні толькі радок і запомніў: "... фашысты, паліцаі-бобікі, рабіце сабе гробікі..." Бач, успомніў!.. Усё ўспомніў... Ты, капітан, паперы каму трэба перадай, а следчаму Маляроўскаму, ад мяне дзякуй скажы...

- За што дзякуй?.. За інфаркт?.. - ажно ўзвіўся Сярдзюк.

- За інфаркт, можа, і не, а вось за тое, што памяць вярнулася -

яму дзякуй... А яшчэ перадай: ад сваіх слоў, запісаных у пратаколе вобыску, не адмаўляюся... Не хачу грэх на душу браць... Дый і яму добра было б павініцца перад жанчынай... Ад праўды нікуды не дзенешся...

- Малярэўскі і з мяшка вылузнецца, - хаваючы лісткі ў папку буркнуў Сярдзюк. - Ліхога на ліхое вучыць не трэба...

* * *

Некалькі дзён Кузьма Самсонавіч чакаў навін ад Сярдзюка, варушыў у памяці напісанае, але яго не трывожылі, і ён супакоіўся, рашыў наведацца ў міліцыю пасля лячэння. Дый сын прыехаў, і думкі неяк пераключыліся на сямейныя пытанні. А думаць было пра што. Аляксей у каторы раз зваў бацьку да сябе. Але ж як кінуць сваю хату, адмовіцца ад саду, дзе кожны куст, кожная травінка табе ўсміхаецца?.. Паабяцаў сыну падумаць, а сам наперад ведаў, чым скончацца гэтыя думы, а больш, з яго боку, прыдумкі. Ён ніколі не кіне тое да чаго прыкіпеў...

І тут зноў з'явіўся Сярдзюк, і не адзін, а з нейкім непрыкметным лысаватым чалавекам у шэрым гарнітуры і прыцемненых акулярах, за якімі, Кузьма Самсонавіч, як ні сіліўся, вочы незнаёмца разглядзець не змог. Участковы кінуўся да дзеда Кузьмы, як да роднага, абняў, шапнуў у вуха: "Лысы з камітэта дзяржбяспекі... палкоўнік... думай што гаворыш...". Сказаў і замітусіўся, вылажыў з цэлафанавага пакета на тумбачку ўсялякіх прысмакаў і ўсё гаварыў, гаварыў...

Чалавек у акулярах працягнуў хвораму жылістую руку, ціха сказаў:

- Будзем знаёмы, Іван Іванавіч... Адкуль я і хто - ведаеце, капітан нашаптаў... Наконт "лысага" не згодзен... Залысіны - яшчэ не лысы... А вось парада Сярдзюка слушная, думаць трэба, і заўважу - заўсёды... На тое чалавеку і галава дадзена.

- Бойся Усявышняга і не гавары лішняга, - пакрыўджана буркнуў участковы, падышоў да вакна, адхінуў занавеску і пачаў нешта разглядваць на вуліцы, быццам у палаце яго больш нічога не цікавіла.

- А вы, Кузьма Самсонавіч, што думаеце? - усміхнуўся лысаваты і сеў на край ложка.

- Наконт чаго? - асцярожна перапытаў дзед Кузьма. - Нешта я вас не разумею...

- Я пра вашага сына, Аляксея Кузьміча, - аглядваючы палату трошкі насмешліва прамовіў палкоўнік. - Прымаеце яго прапанову ці...

- Вы і пра гэта ведаеце? - перапыніў палкоўніка дзед Кузьма. - - Выходзіць і ў бальніцы сцены вушы маюць?..

- Ну, гэта занадта, - весела рассмяяўся лысаваты. - Нашто "вушы", калі радня ёсць... Сярдзюк і расказаў...

- Ага, радня, -- непрыязна зірнуўшы на ўчастковага, зморшчыўся Кузьма Самсонавіч, - на адным сонцы анучы сушылі...

- А мне здалося... Гэтак абдымаў...

Кузьма Самсонавіч раптам усвядоміў, што прывяло ў палату гэтага Івана Іванавіча, калі ён насамрэч "Іванавіч". Ён зразумеў, што ніхто не паверыў аповеду пра паліцэйскі вобыск, і цяпер палкоўнік глядзіць яму ў вочы, ухмыляецца, плявузгае нейкую бязглуздзіцу.

- Будзеце насміхацца ці пытанні задаваць? - адчуўшы нядобрае запытаўся дзед Кузьма і, трошкі памаўчаўшы, напаўголаса дадаў. - Не маглі з такой важнай арганізацыі прыслаць чалавека толькі зубы паскаліць...

- Што праўда, то праўда, - з дабрадушнай мінай на твары ўздыхнуў палкоўнік. Ён зняў акуляры, уважліва паглядзеў хвораму ў вочы і абнадзейлівым голасам дадаў. - Я веру таму, што з вамі адбылося падчас фашысцкай акупацыі, перакананы ў тым, што амнезія, як іржу, сцерла з памяці паліцэйскі здзек... Але цяпер, калі гэтая "іржа" вярнулася, магчыма, вы ўспомніце хаўруснікаў Махляра?.. Прыгадаеце імёны, прозвішчы, мянушкі...

- Падзеі той ночы, і сапраўды, быццам хто сцёр з памяці, - заклапочана ўздыхнуў Кузьма Самсонавіч. - Памятаю, што доўга хварэў... Добра памятаю, як пасля вайны маці вазіла мяне ў Мінск і паказвала ваеннаму доктару...

- А што маці?.. - напружана спытаў палкоўнік. - Няўжо пасля, як паправіліся, не расказала праўды?

- Маці, пакуль жывая была, казала адно: у вайну паліцаі напужалі, са спуду хвароба... Падрабязнасцей пазбягала, цяпер разумею, берагла мяне... А ў кабінеце следчага, як заслона з вачэй упала, усё ўспомніў... Пра ўсё і напісаў.

- Што ж, - палкоўнік устаў, працягнуў руку Кузьме Самсонавічу, - рады знаёмству і хачу падзякаваць за ваш успамін. Мы яшчэ сустрэнемся, але трошкі пазней... Папраўляйцеся... І яшчэ, за сына не хвалюйцеся, парушэнняў закону ў яго няма... Малярэўскі перастараўся... Падазрэнні яшчэ не факты...

- І вам добрага здароўя, а за сына вялікі дзякуй, - засмучана ўсміхнуўся дзед Кузьма і, не выпускаючы руку палкоўніка, хітравата запытаўся: - Будзеце шукаць Махляра?.. Не пазнавата?.. Цяпер паліцаю далёка за сто гадоў... Думаю, вы кнігу пішаце... І раней прыходзілі

карэспандэнты, толькі я пра вайну амаль нічога не памятаў...

-- Пра тое, што з вамі адбылося, не толькі кнігу пісаць, кіно здымаць трэба!.. Каб людзі ведалі і памяталі... А мы з вашымі ўспамінамі яшчэ папрацуем...

* * *

Пасля бальніцы Кузьму Самсонавіча накіравалі ў санаторый на рэабілітацыю. Ён і думаць перастаў пра палкоўніка Івана Іванавіча, як той сам, неяк пасля абеду ў "ціхі час" зайшоў у палату. У адной руцэ жоўты цэлафанавы пакет, у другой - чорны дыпламат. Нязваны госць шэптам павітаўся, угледзеў крэсла каля стала, паднёс яго да ложка дзеда Кузьмы, сеў, здарожана ўздыхнуў:

- Строга ў вас, інкогніта не праслізнуў... Ахоўніку дакумент паказаў, а ён не паверыў, заявіў, што "ксіву" на любым кірмашы купіць можна... Давялося начальства выклікаць... Цяпер чакайце пытанняў, чаму вамі цікавіцца камітэт дзяржбяспекі?

- А сапраўды, чаму? - кпліва падтакнуў Кузьма Самсонавіч.

- Па-першае, рады вас бачыць у добрым настроі, - палкоўнік шумна выцягнуў з цэлафанавага пакета вялікі пузаты ананас і паклаў яго на тумбачку, - другое...

- Можа, другое, трэцяе, чацвёртае прапусцім, і скажаце галоўнае, - нецярпліва, з трывогай у голасе перапыніў суразмоўцу дзед Кузьма.

- Дайце хоць перадыхнуць з дарогі, - з напускной бравадай заўсміхаўся палкоўнік. - Зрэшты, калі настойваеце, пачну з галоўнага...

Ён пакруціў колка шыфру ў замочку, ключыкам адамкнуў дыпламат, пакорпаўся ўсярэдзіне і асцярожна выцягнуў вялікі канверт, дастаў з яго некалькі фотаздымкаў.

- Гэта перазнятыя і павялічаныя тагачасныя здымкі з мінскіх фашысцкіх газет, у якіх успамінаецца ваша вёска падчас правядзення карнай аперацыі... Ёсць групавыя фота паліцаяў... Паглядзіце, раптам каго пазнаеце?

Кузьма Самсонавіч няспешна начапіў акуляры і асцярожна паднёс да вачэй прапанаваны здымак... Потым другі... трэці... Але як ні сіліўся, у зжаўцелых ад часу здымках, нікога пазнаць не мог.

- А гэтак? - палкоўнік працягнуў старому павелічальнае шкло.

Дзед Кузьма хацеў запярэчыць, але палкоўнік перапыніў:

- Не пазнаеце ў агульных здымках, зробім партрэт кожнага... Мы ведаем усіх фашысцкіх прыслужнікаў, але ёсць і тыя, каму ўдалося пазбегнуць пакарання. Сярод іх і паліцай па мянушцы Махляр...

- Нашто шукаць мерцвяка?.. - не разумеючы настойлівасці палкоўніка, прамармытаў Кузьма Самсонавіч, але павелічальнае шкло ўзяў, паклаў на адзін са здымкаў і, трошкі прыпадымаючы, дабіваючыся рэзкасці, раптам утаропіўся ў здымак. Са старога пажаўцелага фота мутнымі вачамі на яго глядзеў насаты паліцай... Тая ж зняважлівая ўсмешка і... папяроса ў зубах.

- Ён!.. - захліпаючыся ад пакутнай дыхавіцы, прахрыпеў дзед Кузьма і адчуў, як паўзучы востры боль свердзеламі ўпіваецца ў патыліцу...

Палкоўнік быў чалавек спрактыкаваны і ведаў, чым можа скончыцца апазнанне паліцая, таму ў калідоры чакалі доктар і медсястра з уколамі і кропельніцай...

* * *

Кузьма Самсонавіч ужо тры дні, як вярнуўся з санаторыя. Раніцай прыбегла Наталля, прынесла гарачых блінцоў з тваражком і зноў дзякавала за падтрымку падчас вобыску. Ён бачыў, як павесялела суседка, цяпер з яе твару не сыходзіла лагодная ўсмешка, выразныя васількоўыя вочы свяціліся дабрынёй. Дзед Кузьма ад перабольшанай увагі маладзіцы адчуваў сябе, як не ў сваёй талерцы. Ад пачастункаў аднекваўся, мармытаў, што яшчэ сам здольны паклапаціцца аб сабе, але ўстаяць перад напорам шчырай дабрыні не мог.

- Кузьма Самсонавіч, можна мне з вамі гарбаткі з варэннем папіць? - спыталася Пятрова і, не чакаючы згоды, паставіла на стол літровы слоік. - Вось, яшчэ ў ліпені зварыла. Маліна ў гэтым годзе ўрадзіла, як ніколі.

- Дзе ж маліне пладзіцца, як не ў Малінаўцы? - Усміхнуўся дзед Кузьма. - Толькі лішняе гэта... У цябе клопату вышэй галавы. Вось і цяпер: ты тут, а дзеткі?.. Адны?..

- Што вы, - рассмяялася суседка, - ужо месяц як хлопчыкі ў бацькоў. Прыйшла параіцца, мо дадому пара іх прывезці?

- А я тут якім бокам? - здзівіўся дзед Кузьма. - У мяне ні машыны, ні правоў... Да суседкі, да Веркі, па дапамогу трэба...

- Справа не ў машыне... - цяжка ўздыхнула Наталля і, трошкі памаўчаўшы, адным дыхам выпаліла. - Да мяне прыходзілі з пракуратуры, выпытвалі пра нейкую "метку" ў прыбіральні... Доўга не магла зразумець, што за "метка"?.. А потым дапетрыла... Было, кажу... Пасля вобыску ў прыбіральню сунулася, а там сцены, люстэрка, нават адзежа дзіцячая дзярмом выпацканы... Хто зрабіў, не ведаю, толькі цэлы дзень змывала тую гадасць. Потым міліцыянер прыходзіў, з тых начальнікаў што кіравалі вобыскам, худы, насаты, вочы нерухомыя, сцюдзёныя...

Прасіў не пацвярджаць таго, што было ў прыбіральні... Калі адмовілася - стаў пагражаць дзяцей адабраць, а мяне, як мужаву хаўрусніцу, у следчы ізалятар. Вось і адправіла дзетак да бацькоў, на Віцебшчыну. Сама не паехала, забаранілі месца жыхарства пакідаць, а чаму, і сёння не разумею...

- Да нашага ўчастковага звярнуцца трэба, - няпэўна прапанаваў Кузьма Самсонавіч.

- Хацела, -- адчайна махнула рукой Наталля, - але як даведалася, што вас з міліцыі хуткая дапамога забрала - не адважылася. Як успомню насатага міліцыянера - страшна робіцца... Не за сябе, за дзетак...

У гэты момант у сенцах бадзёра дзынкнуў званочак, і амаль адразу дзверы на кухню расчыніліся, у пакой уваліўся Сярдзюк.

- Во, лёгкі на ўспамін, - спрабуючы ўстаць з крэсла незадаволена буркнуў дзед Кузьма.

- Служба гэткая, быць там, дзе патрэбен, - весела падміргнуў Пятровай Сярдзюк і, паклаўшы гаспадару руку на плячо, узвышана дадаў. - Сядзі, Кузьма Самсонавіч, і больш ні перад кім не ўставай. - Участковы азірнуўся і гучна запытаўся. - Таварыш палкоўнік, правільна я кажу?..

- Правільна, правільна! - паблажліва адгукнуўся сцішаны голас з-за шырокай спіны Сярдзюка.

- Іван Іванавіч, а што вы ў мяне забыліся? - пазнаў палкоўніка Кузьма Самсонавіч. - Ці мне ў сваёй хаце ўжо не вольна?..

- Ой, зусім забылася, - падхапілася Наталля, - у мяне ж пральная машына адпрацавала...

- Застанься, - строга сказаў дзед Кузьма, - ты ў мяне званы госць...

- І нязваныя па кубачку гарбаткі выпілі б, калі прыгатуеце, - узяўшы за руку Пятрову папрасіў участковы.

На нейкі момант у пакоі запанавала гнуткая напятая цішыня, якую нечакана парушылі гулкія ўдары і рыпучае скавытанне ў сенцах. Кузьма Самсонавіч строга зірнуў на ўчастковага, незадаволена буркнуў:

- Званыя дзверы за сабой зачыняюць.

Капітан кінуўся ў сенцы наводзіць парадак, а гаспадар, гледзячы палкоўніку ў вочы, падабрэлым голасам сказаў:

- Госці лавы не пераседзяць! Наталля, стаў кубачкі, сталічнае начальства малінавым варэннем частаваць будзем. Здаецца мне, Іван Іванавіч у нас афіцыйна... Бачыш, гарнітурчык на ім новенькі, кашуля, гальштук, чаравікі лакіраваныя... І дыпламат пры ім... Няважна, што чамаданчык  старэнькі, галоўнае, каб у ім ляжалі паперы з добрымі навінамі.

Палкоўнік падсунуў крэсла бліжэй да гаспадара, сеў, паклаў на калені ўжо знаёмы дзеду дыпламат.

- Першае, добрага вам, Кузьма Самсонавіч, здароўя, - урачыста прамовіў Іван Іванавіч, насцярожана зірнуў на гаспадара і зразумеў, што той, як заўсёды, гатовы яго перапыніць. Палкоўнік вырашыў, што няхай стары адразу выкажацца, і няспешна шчоўкнуў замочкамі, дастаў з дыпламата чырвоную папку з белымі матузкамі.

- Зноў першае... другое... трэцяе... Не люблю, калі ўсё раскладваюць па ранжыру..., - непрыязна буркнуў дзед Кузьма. - За вашымі хітрыкамі і важнае прапусціш...

- Я сапраўды з добрымі навінамі, - развязваючы матузкі задаволена ўсміхнуўся палкоўнік. - І калі гаспадар настойвае - агучу галоўнае? - А важнае тое, што паліцая, які здзекаваўся з вашай, Кузьма Самсонавіч, сям'і, падчас Вялікай Айчыннай вайны, мы знайшлі!.. Паліцай перахітрыў усіх... Ён памяняў у дакументах адну літару ў прозвішчы і стаў іншым чалавекам. Калі прайдзісвет адчуў, што фашыстам капец, ад немцаў уцёк і зашыўся ў глухой вёсцы на Магілёўшчыне, а потым, - палкоўнік прымоўк, зрабіў невялікі глыток гарбаты, удзячна кіўнуў Наталлі і, зняўшы гальштук, працягваў: - А потым было, як з усімі, хто жыў у акупацыі... Пасля вызвалення Беларусі яго мабілізавалі, павучылі на паскораных курсах сапёраў - і на фронт, на перадавую. Яму пашэнціла, застаўся жывы... Быў паранены, меў баявыя ўзнагароды... Вярнуўся і да смерці ў адна тысяча васьмідзесятым годзе жыў ціха, непрыкметна. Цяпер, што тычыцца капітана, таго, што праводзіў вобыск у Пятровай, - палкоўнік зірнуў на Наталлю. - Супроць яго ўзбуджана крымінальная справа за перавышэнне службовых паўнамоцтваў. Ён будзе адказваць і за нанясенне сям'і Пятровай матэрыяльнай і маральнай шкоды. Цяпер самае нечаканае... Капітан Малярэўскі аказаўся ўнукам паліцая Махляра... Прозвішча фашысцкага хаўрусніка было Махлярэўскі, і, хаваючыся ад пакарання, ён выкінуў з прозвішча літару "х"... Тут прамашка нашай службы, маіх папярэднікаў... Ніхто і падумаць не мог, што паліцай схаваецца за адной літарай... А ўнуку ў спадчыну дзед паліцай перадаў не толькі прозвішча, помслівую злосць, але і мянушку... Праз яе, мянушку, і раскрылася праўда. Вось такая насмешка лёсу...

У пакоі надоўга запанавала нацятая, гнятлівая цішыня. Раптам у адчыненую фортку ўварваўся вецер, неспакойны, па восеньскі слотны, сцюдзёны, а разам з ім далёкі і ледзь чутны прызыўны перазвон. Неспакойна калыхнуліся фіранкі, надзьмуліся ветразямі, але і гэта не змагло парушыць пругкай цішыні. Кожны думаў аб сваім і ў той жа час пра адно і тое...

*2018 г.*



# Алег Лазоўскі

*Нарадзіўся 29 сакавіка 1975 г. Карэнны лідзянін.*

*У 2004 г. скончыў Гарадзенскі дзяржаўны каледж мастацтваў - спецыяльнасць "Народная творчасць" (народныя абрады і святы).*

*У 2017 г. скончыў БДУКМ - Факультэт традыцыйнай беларускай культуры і мастацтва, спецыяльнасць "Рэжысура святаў".*

*З 2012 г. працуе ў ДУ "Палац культуры горада Ліды" мастаком-пастаноўшчыкам народнага тэатра "Ракурс", а таксама пастаянны актор амаль ва ўсіх марапрыемствах Палаца кльтуры горада Ліды і за межамі яго.*

## БЕЛАРУСЬ ЖЫВЕ ВЕЧНА!

***Сцэнар урачыстага святкавання ў школе 100-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (100 гадоў БНР)***

***Месца ўрачыстага мерапрыемства**: школа, актавая зала, 10:00.*

***Працягласць урачыстага мерапрыемства:** 45-50 хв.*

***Мэта:***

*- акцэнтаваць увагу школьнікаў на важнасці падзеі вялікага гістарычнага дня 25-га сакавіка 1918 г., калі высока быў падняты бел-чырвона-белы сцяг Беларускай дзяржаўнасці і галасна на ўвесь свет прамоўлена пра дзяржаўную незалежнасць новай Беларускай нацыі, якая ўтварылася і вырасла з Вялікага Княства Літоўскага;*

*- выхаваць патрыятычныя пачуцці - гонар і любоў да сваёй краіны Беларусі, у якой нарадзіліся і жывуць;*

*- абудзіць цікавасць да гісторыі нашай краіны, памятаць і*

*шанаваць гістарычныя даты і дні нашай незалежнасці;*

*- стварыць і падтрымліваць станоўчы эмацыйны настрой - святочнае пачуццё Вялікай Перамогі.*

***Гукаўзмацняльнае абсталяванне:***

*- гукавое афармленне (радыёгазета) на ганку і ў фае школы;*

*- у актавай зале неабходнае гукаўзмацняльнае абсталяванне для вакальных спеваў пад фанаграму-мінус, неабходная колькасць мікрафонаў (магчымасць агучыць 2 вядоўцаў (радыё мік.), квартэт салістаў (4-ы мікрафоны на стойках)).*

***Экспазіцыя.***

*Уваход у школу аформлены вітальнымі словамі чырвонымі літарамі на белай расцяжцы "НЯХАЙ ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ!", з бакоў лунаюць бел-чырвона-белыя сцягі. Фае школы ўпрыгожана белымі і чырвонымі балонікамі. Плакат з вітальнымі словамі "Вітаем Святочную Беларусь!". Гучыць радыёгазета на ганку школы, у фае і калідорах школы (беларускія папулярныя песні вядомых выканаўцаў У. Мулявіна, Данчыка, гурт "Стары Ольса", песні на словы вядомых беларускіх аўтараў. Песні чаргуюцца з вершамі вядомых паэтаў Беларусі. Кожныя 5 хв. гучаць вітальныя і віншавальныя словы ад дырэктара школы, яго намесніка па выхаваўчай працы, прадстаўніка аддзела адукацыі, настаўнікаў і школьнікаў (асабістыя і калектыўныя віншаванні, проза, вершы - на ўласны выбар)). Радыёгазета гучыць на пачатку і да канца дня ў перапынках паміж урокаў.*

*Фае альбо калідор, каля актавай залы. Сцены ўпрыгожаны фотапартрэтамі ўсіх радных БНР (уключаючы сённяшні дзень) і вядомых беларускіх дзеячоў навукі, адукацыі, культуры і мастацтва XIX - XX стст. Выстава дзіцячых малюнкаў і вырабаў на тэму "100 гадоў БНР". Каля ўваходу ў залу стаіць на флагштоку вялікі бел-чырвона-белы сцяг, які вартуюць латныя рыцары, тарчы якіх упрыгожаны гербам Вялікага Княства Літоўскага - "Пагоня". Усім наведвальнікам урачыстага мерапрыемства, святочна апранутым у стылі эпохі пачатку XX ст., дзеці раздаюць бел-чырвона-белыя стужкі і святочныя "паштоўкі". Паштоўкі аформлены: з вонкавага боку выява бел-чырвона-белага сцяга над словамі: "Няхай жыве вольная Беларусь!", а на другім баку "паштоўкі" - на белым фоне чырвонымі літарамі "Вітаем святочную Беларусь!". Віншуюць усіх са святам.*

*Актавая зала ўпрыгожана бел-чырвона-белымі балонікамі. На задніку сцэны ў сярэдзіне герб "Пагоня", з бакоў бел-чырвона-белыя сцягі.*

*Гучаць фанфары.*

***Тэатралізаваная пастаноўка "Шлях Незалежнасці"***

*Гучыць эмацыйная, поўная рашучасці музыка, якая настройвае на прагляд адпаведных падзей. На яе фоне адбываецца танец з палотнамі белага і чырвонага колеру.*

*На сцэне з'яўляецца дзяўчынка ў нацыянальным строі, натхнёная духам свабоды і перамогі, трымае ў руках белую шыльдачку з чырвонымі лічбамі "1794". Спыняецца ў цэнтры, яе паглынаюць палотны, у якіх знікае. Палотны застаюцца і лунаюць хвалямі, уздымаюцца, ствараючы арку. Праз яе на сцэне з'яўляюцца ўзброеная шляхта з касінерамі і спяваюць урывак песні беларускіх жаўнераў:*

**Шляхта і касінеры**
**(песня):**

Возьмем косы ды янчаркі,
Пойдзем гордыя гнуць каркі.
Няхай маскаль уступае,
Няхай беларусаў знае.

Ўжо мазуры іх пабілі,
З сваёй зямлі выганілі.
Пойдзем з імі і злучымся,
Маскве, немцам не дадзімся...

***Т. Касцюшка:*** У сапраўдных патрыётаў не можа быць іншай радзімы, апроч той, дзе яны прыйшлі ў гэты свет. На штурм, Літва, мая Айчына, за Незалежнасць!

***Шляхта і касінеры:*** У Пагоню!

*Пад эмацыйны фон музыкі палотны ўздымаюцца ўверх, робячы арку.*

*Т. Касцюшка знікае са сцэны разам са шляхтай і сялянамі пад ёй.*

*Гучыць музыка, танец з палотнамі, зноў на сцэне з'яўляецца дзяўчынка ў нацыянальным строі, натхнёная духам свабоды і*

*перамогі, трымае ў руках белую шыльдачку з чырвонымі лічбамі "1863". Спыняецца ў цэнтры, яе паглынаюць палотны, у якіх знікае. Палотны застаюцца і лунаюць хвалямі, уздымаюцца, ствараючы арку. Праз яе на сцэне з'яўляюцца касінеры разам з Кастусём Каліноўскім. Кастусь стаіць у цэнтры, касінеры паўколам за ім.*

***К. Каліноўскі:*** Няма ж, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Але як дзень з ноччу разам не ходзяць, дык не ідзе разам навука праўдзівая з няволяй маскоўскаю. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацця і ніякай навукі... На штурм, за Незалежнасць!

***Касінеры:*** У Пагоню!

*Эмацыйны фон музыкі, палотны ўздымаюцца ўверх, робячы арку.*

*Кастусь з касінерамі знікаюць са сцэны пад ёй.*

*Гучыць музыка, танец з палотнамі, на сцэне з'яўляецца дзяўчынка ў нацыянальным беларускім строі, натхнёная духам свабоды і перамогі, у руках трымае белую шыльдачку з чырвонымі лічбамі "1918". Спыняецца ў цэнтры, яе паглынаюць палотны, у якіх знікае. Палотны застаюцца і лунаюць хвалямі, уздымаюцца, ствараючы арку. Гучыць "Ваярскі марш" . На сцэну выходзяць прадстаўнікі Рады з бел-чырвона-белымі сцягамі. На фоне марша абвяшчаецца Беларуская Народная Рэспубліка - БНР.)*

***Першы радны Рады БНР:*** Сёння 25-га сакавіка 1918 года большасцю галасоў Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла Трэцюю Устаўную грамату, абвяшчаем Незалежнасць Беларусі!

***Другі радны Рады БНР:*** Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край.

***Трэці радны Рады БНР:*** Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і Вольнай Дзяржавай!

***Першы радны БНР:*** Няхай жыве вольная Беларусь!

***Другі і трэці радныя БНР:*** Жыве!

*На словах "Жыве" выходзяць усе ўдзельнікі тэатралізацыі. Гучыць святочны музычны фон, выходзяць вядоўцы.*

***Вядовец:*** Вітаем святочную Беларусь!

***Вядоўца:*** Са святам!

*Усе застаюцца на сцэне. Гучыць гімн Беларусі на словы Н. Арсенневай, муз. М. Равенскага "Магутны Божа". Пасля гімну на сцэне застаюцца вядоўцы.*

*Гучыць умераны, лёгкі і светлы музычны фон. Вядоўцы чытаюць верш Н. Арсенневай "25-ты Сакавік":*

***Вядовец:***
Ён прыйдзе, гэты дзень!!
Ён не прыйсці не можа!
Ён прыйдзе -
й загудзе вясновы буралом,
пакрышыць, размяце,
раскідае, зніштожыць
усё, што нам шляхі да хаты замяло!

Ці чуеце?
Аб ім
шасціць быльнёг аселіц,
пяюць вятры ў лазе,
і звоніць крыгаў лёд.
Ахвяраю крыві,
а Слова стане Целам,
і ўжо ніколі больш не ўстане Чорны Год.

***Вядоўца:***
Няхай бярэмя він
прыгнула нас, і крылы
апалі,
й хлеб чужы нясмачны і важкі,
няхай нас апавіў
тугой агорклы вырай, -
трывайма!

Ён ідзе -
Вялікі Сакавік!
Ідзе…
й пад ногі рунь
яму кладзецца,
таюць снягі,
на паплавох зяленіцца трава…

Радзіма!

Беларусь!
Каханая, святая!
Багаславі нас жыць
і веру захаваць!

***Вядовец:*** З віншаваннямі і словамі падзякі да мікрафона запрашаецца (прадстаўнік ад аддзела адукацыі  або сам старшыня райвыканкама *(Імя)*).

*Гучаць віншавальныя словы. Узнагароджанне Ганаровымі граматамі ад аддзела адукацыі райвыканкама.*

***Вядоўца:*** Калі ласка, вітайце, для вас гучыць песня на словы У. Някляева, муз. З. Вайцюшкевіча "Жыве Беларусь", выконвае *(Імя)*.

*Гучыць песня "Жыве Беларусь".*

***Вядовец:*** З віншавальнымі словамі падзякі запрашаецца дырэктар школы *(Імя)*.

*Гучаць віншавальныя словы дырэктара. Узнагароджанне дыпломамі і ганаровымі граматамі ад аддзела адукацыі райвыканкама.*

***Вядоўца:*** Харэграфічная замалёўка "Беларусь мая мілая", выконвае *(Назва хар. калектыву)*.

*Харэаграфічная замалёўка.*

***Вядовец:*** Запрашаем падняцца на сцэну ветэрана нацыянальнага руху канца 20-га стагоддзя *(Імя)*.

***Выступ.***

***Вядоўца:*** А зараз вашай увазе прапануем прагледзець відэафільм "Дзень волі", калі ласка, увага на экран  [https://youtu.be/l3HY6Qst28g ]

***Вядовец:*** З музычным падарункам сустракайце вядомага барда *(Імя)*.

*Выступае бард.*

**Вядовец:** На святочную сцэну запрашаюцца спаборнікі Аб'яднання беларускіх скаўтаў з вершам Я. Купалы "А хто там ідзе?" у гонар свята 100-годдзя абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

***Першы спаборнік:***
- А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
***Усе:***
- Беларусы.
***Друхі спаборнік:***
- А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
***Усе:***
- Сваю крыўду.
***Трэці спаборнік:***
- А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды ж нясуць напаказ сваю?
***Усе:***
- На свет цэлы.
***Чацвёрты спаборнік:***
А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць наўчыў, разбудзіў іх сон?
***Усе:***
- Бяда, гора.
***Пяты спаборнік:***
- А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
***Усе:***
- Людзьмі звацца.

***Вядоўца:*** Для ўрачыстага прыняцця ў шэрагі Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў запрашаецца скаўт-канцлер *(Імя)*.

*Адбываецца ўрачыстасць прыняцця ў сябры АБС, урачыстае прачытанне прысягі.*

**Прысяга скаўтаў:**

"На мой гонар прыракаю, што паводле маёй найлепшай волі і старанняў буду верны Богу і Бацькаўшчыне, пільнавацца правоў скаўта, дапамагаць кожнаму чалавеку ва ўсякім часе і штодзённа рабіць добры ўчынак".

***Скаўт-канцлер:*** Жыве Беларусь!
***Усе скаўты:*** Заўсёды!

*Гучыць песня "Авэ Марыя" на словы З. Пазьняка, муз. І. Лучанка.*

***Вядоўца:*** Для вас гучала песня ў выкананні (Імя) і (Імя) на словы З. Пазьняка, муз. І. Лучанка "Авэ Марыя".

***Вядовец***: Роўна 100 гадоў таму быў зроблены важны гістарычны крок нашага народа на шляху да стварэння незалежнай Беларускай дзяржавы. Акт 25-га Сакавіка 1918 года вызначыў далейшы палітычны лёс і перспектыву змагання беларускага народа.

Яна завяршылася перамогай Беларускай нацыянальнай ідэі 25 жніўня 1991 года, калі была здабыта дзяржаўная незалежнасць Рэспублікі Беларусь. Памятайма і шануйма гістарычныя даты і дні нашай Незалежнасці! Жыве Беларусь! Слава Айчыне!

*Гучыць гімн "Пагоня" на словы М. Багдановіча.*

*Адразу пасля песні выходзіць чытач і чытае тэкт гімна БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".*

***Чытач:***

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!

Няхай жыве магутны, смелы
Наш беларускі вольны дух.
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух!

На бой! За шчасце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой - усе да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й убачыць той,
Хто смее нам нясці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыццё Рэспублікі сваей!

***Вядоўца:*** Прагучалі гімны - "Пагоня" на словы М. Багдановіча ў выкананні хора (назва хора) і гімн Беларускай Народнай Рэспублікі "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" М. Краўцова, для вас чытаў *(Імя)*.

***Вядовец:*** Дзякуючы адвазе і вытрываласці нашых продкаў, незалежнасць Беларусі была абвешчаная, прызнаная суседзямі, і нават бальшавікі не здолелі зноў зрабіць з нас расейскую губерню. Усе мы ведаем, што без БНР не было б БССР і сёння не існавала б незалежная дзяржава - Рэспубліка Беларусь.

***Вядоўца:*** Віншуем святочную Беларусь з Найвялікшым святам для ўсіх беларусаў і жадаем, каб гэты вялікі наш юбілей - 100-годдзе абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі - быў для ўсіх нас паспяховым і шчаслівым.

***Вядовец:*** Вялікая Беларуская Ідэя, запаленая 25-га сакавіка 1918 года, хай асвятляе нам шлях! Слава Айчыне! Жыве Беларусь!

**КАНЕЦ.**

**Прыкладны хранаметраж эпізодаў (нумароў):**
1. Тэатралізацыя "Шлях да Незалеж-насці" - 5 хв.
2. Гімн Н. Арсенневай "Магутны Божа" - 2:15 хв.
3. Верш Наталлі Арсенневай "25-ты Сакавік" - 1:30 хв.
4. Віншавальныя словы ад прадстаўніка - 3 хв.
5. Песня на словы У. Някляева, муз. З. Вайцюшкевіча "Жыве Беларусь" - 2:27 хв.
6. Віншавальныя словы дырэктара - 4 хв.
7. Харэаграфічная замалёўка "Беларусь мая мілая" - 2,5 хв.
8. Выступ ветэрана - 4 хв.
9. Відэафільм "Дзень Волі" - 1:20 хв.
10. Выступ барда - 5 хв.
11. Верш Я. Купалы "А хто там ідзе?" - 1:50 хв.
12. Урачыстае прачытанне прысягі і прыняцце ў АБС - 7 хв.
13. Песня "Авэ Марыя" на словы З. Пазьняка, муз. І. Лучанка - 3:46 хв.
14. Гімн "Пагоня" на словы М. Багдановіча - 5:47 хв.
15. Прачытанне гімна БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" - 2 хв.
16. Вядоўцы - 7 хв.



# *Ніна Паўлаўна Таўлай-Радзюкевіч*

*Ніна Паўлаўна Таўлай-Радзюкевіч нарадзілася 7 чэрвеня 1933 года ў Лідзе ў сям'і чыгуначніка. Бацька - Павел Дзям'янавіч Таўлай (чыгуначнік), маці - Сцепаніда Паўлаўна Дарашкевіч (настаўніца). Браты - Валянцін Таўлай і Аляксандр Таўлай.*

*Падчас Вялікай Айчыннай вайны, 23 верасня 1943 года немцы арыштавалі ўсю сям'ю Таўлаяў (акрамя Аляксандра, ён служыў радыстам-стралком на самалёце, у чэрвені 1943 года загінуў пад горадам Бузулук каля Саратава) і кінулі ў краты лідскай турмы. Ніну праз 10 дзён "выкупілі" за вясковыя прадукты праз жонку начальніка турмы сястра маці Анастасія і жонка брата Пятра. Быў вызвалены і Валянцін. А маці і бацька - звезены ў Асвенцым і там загінулі. Ніна жыла ў цёткі, потым - у Наваградку і ў Менску з Валянцінам. У Менску - каля парка Чалюскінцаў, дзе жыў Якуб Колас. Часта бачыла Янку Брыля і Максіма Танка. Часта наведвалася ў музей Янкі Купалы, дзе працаваў яе брат Валянцін.*

*У сувязі з хваробай Валянціна, Ніну забрала ў Ліду да сябе цётка Анастасія Паўлаўна, якая працавала настаўніцай у пачатковых класах школы горада. З цягам часу, у 1951 годзе Ніна закончыла беларускую школу № 2 г. Ліда з срэбным медалём і без экзаменаў была прынята ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на фізіка-матэматычны факультэт, аддзяленне матэматыкі. Закончыла ВНУ ў 1956 годзе. Атрымала накіраванне на працу настаўнікам матэматыкі ў пасёлак Юрацішкі. Праз два гады перавялі яе ў вёску Трабы. Працавала там у дзённай школе, а таксама ў вячэрняй школе працоўнай моладзі матэматыкам, фізікам, нават выкладала замежную мову. У 1959 годзе выйшла замуж і пераехала да мужа ў Вільню. Са снежня 1959 па жнівень 1997 года (з іх 9 год на пенсіі) працавала настаўнікам матэматыкі ў сярэдняй школе № 13. За гэтыя гады выпусціла вялікую колькасць вучняў, вяла вялікую грамадскую работу, рыхтавала навучэнцаў да матэматычных алімпіяд. Агульны настаўніцкі стаж складае больш за 40 гадоў. За сваю працу была ўзнагароджана ў 1979 годзе знакам "Выдатнік народнай адукацыі Літоўскай ССР", у 1984 - знакам "Выдатнік асветы СССР" і за шматгадовую працу - медалём "Ветэран працы". Жыве ў Вільні.*

# РАНЫ СЭРЦА МАЙГО

Вайна прайшлася па маім лёсе з госцяй, якая сваёй касой выкасіла амаль усю нашу сям'ю. Пакінула толькі мяне. А чаму? Можа ёй надакучыла яе крывавая трызна?.. А можа яна стамілася?.. А можа яна пашкадавала малую дзяўчынку?.. Адказу няма… Але ў гэтай малой дзяўчынкі засталіся на сэрцы такія раны, што ўжо восьмы дзясятак размяняўся, а яны ўсё не загойваюцца.

Мая сям'я: бацька Павел Дзям'янавіч, маці Сцепаніда Паўлаўна Таўлай, у дзявоцтве Дарашкевіч, браты Валянцін Паўлавіч Таўлай і Аляксандр Паўлавіч Таўлай. Быў яшчэ брат Уладзімір, але ён памёр у васьмігадовым узросце, за год да майго нараджэння.

Маміна сястра Анастасія Паўлаўна, якая мяне потым выхавала, апавядала мне цікавую гісторыю. Быццам бы, калі быў яшчэ здаровы Валодзя, маму сустрэла цыганка. Яна сказала маме: *"У цябе ёсць сын, але ён памрэ. Потым родзіцца дачка, і яна будзе жыць"*.

Валодзя захварэў, прастудзіўся зімою, калі катаўся на санках. Хвароба перайшла ў "белакроўе", як тады называлі "лейкемію". Яго адвезлі лячыць у Вільню. Але нічога не дапамагло. Ён памёр. І мама везла яго, мёртвага сына, з Вільні ў Ліду цягнікам, закутаўшы ў коўдру. Ён быў такі схудалы, маленькі, што выглядаў як малое соннае дзіця. З Ліды яго перавезлі ў родную вёску Рудаўку, што на Слонімшчыне. Пахавалі на могілках побач з бабуляй Аўдоццяй, бацькавай маці. Яна, дарэчы, была моцнай сялянскай жанчынай, памагала выхоўваць Шуру і Валю, калі памерла іх маці. І сама працавала ўсё сваё жыццё, і памерла, доячы карову. Калі бацька прадаў гаспадарку ў Рудаўцы, наша сям'я пераехала жыць у Ліду. Шура быў малады прыгожы хлопец. Я яго запомніла, як ён летам хадзіў у белым лёгкім касцюме. Перад вайной тата адправіў яго вучыцца ў інстытут. Ён вельмі хацеў, каб сын стаў інжынерам "путей сообщения". Але сын не паслухаў бацьку і паступіў у лётнае вучылішча. Калі ён напісаў аб гэтым бацьку, то тата быў вельмі незадаволены. Пачалася вайна. Мы нічога больш пра Шуру не ведалі. Пасля вайны, як расказвала мне пазней мая цёця Анастасія, прыехаў у Ліду таварыш Шуры. Ён знайшоў родных і расказаў, як загінуў Аляксандр. Гэта было ў 1943 годзе каля Бузулука. Самалёт, у якім быў Аляксандр радыстам, разбіўся. Так загінуў адзін з маіх братоў Аляксандр Паўлавіч Таўлай. Яму было ўсяго 27 гадоў. Гэта засталося адной з ран на маім сэрцы.

Мая мама Сцепаніда Паўлаўна, у дзявоцтве Дарашкевіч, паходзіць з сям'і сялян. Яе дзед - Якаў Міхайлавіч Дарафееў-Дарашкевіч. З успамінаў Анастасіі, яго ўнучкі, мамінай сястры: *"Дедушка мой Яков*

*Михайлович Дорофеев-Дорошкевич был безземельным, родом из деревни Острино Лидского района. Он родился в 1829 году, был взят в солдаты царской властью. Дед хотел избежать этого и отсек себе большой палец на правой руке в надежде, что его не возьмут в рекруты. Его взяли. Он был здоров и крепко сложен. По закону того времени солдаты служили по 25 лет. И деду пришлось служить много лет. Это было при царе Николае I, и дед считался николаевским. При окончании солдатской службы деда наделили куском земли в районе Лиды, которая тогда была местечком, имевшим несколько микрорайонов. Наш микрорайон назывался Дворцовая Слобода, а потом Ферма. Местность болотистая и лесистая. Лида была сначала районом Слонимской губернии, потом Лида стала Виленской губернии. Лида была основана в 1180 году, т.е. в 12 в. В 1882 году через Лиду построили железную дорогу. Часть земли, подаренной деду за его долголетнюю солдатскую службу, отошла под железную дорогу и вокзал".*

Дзед Якаў жаніўся з Ульянай, у іх нарадзілася чацвёра дзяцей: Фёкла, Павел, Аляксандра і Марыя.

Бацька маёй мамы, Павел Якаўлевіч, жаніўся з Марфай Іванаўнай Арэхва. Ён быў на 12 гадоў старэйшы за Марфу. Яна была сястрою яго таварыша Сямёна Арэхвы. І ён чакаў, калі ёй споўніцца 18 гадоў, каб пажаніцца. Сям'я іх была вялікая, сямёра дзяцей было: Пётр, Сцепаніда, Анастасія, Вера, Надзея, Макар і Зінаіда.

Мая маці Сцепаніда вучылася ў настаўніцкай семінарыі, якую закончыла не праз 4 гады, а праз 3, бо была добра падрыхтавана пры паступленні. Нават за выдатныя яе поспехі дзед Якаў даў ёй 5 рублёў золатам.

Дзед майго бацькі Кандрат Таўлай меў 4 сыны: Сідар, Мікалай, Макар і Дзям'ян. Мой дзед па бацьку быў Дзям'ян Кандратавіч Таўлай. Жылі яны ў вёсцы Рудаўка на Слонімшчыне. Бабуля была Аўдоцця Таўлай. Іх сын Павел Дзям'янавіч - быў мой бацька. Ці былі ў яго яшчэ браты і сёстры - не ведаю. Мой бацька быў чыгуначнікам.

У пачатку 30-х гадоў мы жылі ў Рудаўцы. Бацька меў хату і невялікі садок. Тата любіў даглядаць дрэвы, ягадныя кусты. Потым гаспадарку ў вёсцы прадалі і пераехалі жыць у Ліду. У Лідзе мая мама мела палову дзедавага дома, што знаходзіўся па завулку Труханава, супраць чыгуначнага вакзала. Па вуліцы Чапаева, а раней Пілсудскага, што вяла ад вакзала ў горад, быў дом і вялікі агарод майго дзядзі Пятра Паўлавіча Дарашкевіча, мамінага брата. Насупраць яго былога дома цяпер знаходзіцца аўтобусны вакзал. Тата адкупіў у мамінага брата невялікі ўчастак і пачаў будаваць сваю хату. Гэта прыкладна ў

тым месцы, дзе цяпер аптэка. Калі мы пераехалі ў Ліду, то жылі па вуліцы Труханава, на "сальках" (так раней звалі мансарду). Яе зрабіў тата ў доме мамінага дзеда. Каля дома быў невялікі садок, дзе раслі яблыні - антонаўкі. Помню, як тата вельмі акуратна здымаў спелыя антонаўкі з дрэва, а я яму дапамагала. Потым ён хаваў іх у скрыні на страсе, а зімою прыносіў іх мне. Яны былі вельмі смачныя! Жоўтыя, сакавітыя. Мама вельмі любіла кветкі. Увосень каля хаты, быццам рознакаляровы дыван, цвілі астры. А на агародзе ў таты стаялі 2-3 вуллі пчол, раслі маліна, агрэст і іншыя кусты. Была вялікая градка трускалак. Пазней, калі выехалі кватаранты знізу, мы перабраліся з салькоў на ніз, дзе было 2 пакоі, невялікая цёмная куханька і светлыя вялікія сені. Зімнімі вечарамі, калі тата паліў печ у вялікім пакоі, ён садзіў мяне да сябе на калені і чытаў газеты, адначасова паказваў мне літары. Таму я адразу пайшла ў другі клас, бо ведала ўсе літары, умела пісаць, чытаць і лічыць. Мама мая была настаўніцай і мяне вучыла яшчэ да школы.

Калі Чырвоная Армія вызваліла Заходнюю Беларусь, Валянцін, які быў арыштаваны і сядзеў у гарадзенскай турме, вярнуўся да хаты. Помню, як аднойчы вечарам, калі я ўжо клалася спаць, нехта ціха пастукаў у акенца. Мы тады яшчэ жылі на сальках. Тата пайшоў глядзець, хто там. Потым вярнуўся з маладым хлопцам. Гэта быў Валя. Яны доўга сядзелі за сталом, гаварылі. А я з-пад коўдры пазірала на іх. У той час тата купіў мне невялікую скрыпачку. Наогул, тата вельмі любіў музыку і ўмеў іграць на балалайцы, на мандаліне, якія ў яго былі. Вось Валя і просіць мяне сыграць што-небудзь на скрыпачцы. Я трохі папілікала. Іграць я не ўмела, бо ніхто мяне не вучыў. Але мяне тады больш цікавіла, як гэта брат сумеў пастукаць у акенца. Потым здагадалася, што пад акном раслі вішні. І ён сумеў пастукаць з іх дапамогай. Валянцін пазней пачаў працаваць у лідскай газеце "Уперад". Жыў ён не з намі, а ў доміку каля замка. Я любіла прыходзіць да яго ў госці. Ён жыў там разам з Кірай, маладым юрыстам. У пакоі, дзе ён працаваў, пад акном стаяў пісьмовы стол. Недалёка ад яго была крэсла-качалка, у якой я любіла сядзець і назіраць за тым, як ён працуе. На вуліцы пад акном быў невялікі кветнічак, была круглая клумба. Валя ў час невялікага адпачынку падыходзіў да мяне, а я выбягала на двор і ўцякала ад яго вакол клумбы. Ён даганяў мяне, хапаў на рукі, нёс у пакой і зноў садзіў мяне ў крэсла. Мне падабалася дражніць яго, седзячы ў крэсле. Ён быў вельмі добры, далікатны, любіў дзяцей. Любіў гуляць са мной. І сам цешыўся, як малое дзіця.

На сустрэчу з выбаршчыкамі ў Ліду прыязджаў Янка Купала. Сустрэча адбывалася ў клубе чыгуначнікаў. Валянцін прымаў актыўны

ўдзел у арганізацыі гэтай сустрэчы. Мяне навучылі аднаму вершыку, які я павінна была расказаць. І вось я выхожу на сцэну. Мне гадоў 5-7. У зале шмат людзей, нават многія стаялі ў праходзе. Я стала расказваць вершык і раптам … забыла. А за створкай стаяла мама. Я паглядзела на яе і пытаю: "Мама, а як далей?" і падбегла да яе. Яна мне сказала, як далей, і я вярнулася на сцэну і дачытала да канца. Потым брат мяне пахваліў, што я не ўцякла зусім.

Наступіў 1941 год. Тата раней працаваў кладаўшчыком на таварнай станцыі ў Лідзе. Потым яго перавялі ў Скрыбава, што недалёка ад Ліды, начальнікам вакзала. Туды пераехала ўся наша сям'я: мая мама і я. Яшчэ раней бацька адправіў Шуру вучыцца, але пісьмо ад яго прыйшло ў Скрыбава. Я помню, як тата быў незадаволены рашэннем Шуры паступіць у лётнае вучылішча.

А пра яго лёс я даведалася нядаўна, у траўні 2016 года.

Было гэта так: *"В одной из газет после Дня Победы, 9 Мая 2016 года я прочла, что многие документы о Великой Отечественной войне рассекречены и даны адреса, по которым можно найти сведения о пропавших или убитых во время войны. И по такому одному адресу я узнала судьбу Шуры. Он служил в дальней авиации. Они летали бомбить дальние объекты. Погиб он 4 июля 1943 года. Их база была в городе Уральске Северо-Западного Казахстана. Еще указано место - "площадь у моста через реку Урал". Видимо, там есть какое-то памятное место (сведения получены через интернет)"*.

У Скрыбаве мы сустрэлі вайну. Помню, як першы раз'езд немцаў з’явіўся на матацыклах па чыгунцы. Праз пару дзён мы вярнуліся ў Ліду, у свой дом. Валянцін апынуўся ў вёсцы Ваўковічы недалёка ад Наваградка. Там ён сустрэўся з Лідзіяй Сяргееўнай. Яна перад вайной была накіравана на практыку ў Беласток ад інстытута кінематаграфіі ў Ленінградзе, у якім яна вучылася ў перадваенны час. Яна была перад вайной замужам, у яе былі дзве дачкі Ірына і Алена. Яшчэ да вайны яна развялася з першым мужам Юрыем Казлоўскім. У Ленінградзе засталася яе маці, якая ў час блакады памерла. Дачок перад тым, як ехаць на практыку, яна адвезла да родных кудысьці за Волгу. Калі пачалася вайна, Лідзія пешшу вырашыла ісці дахаты. Але фронт яе абагнаў, і яна засталася ў вёсцы Ваўковічы, дзе і сустрэлася з Валянцінам. Бацька яго быў вельмі незадаволены тым, што сын вырашыў звязаць сваё жыццё з Люсяй (так яе называлі дамашнія). Мама сустрэла яе па-жаночаму цёпла, дапамагла ёй з адзеннем і дала, што магла, з бялізны. Дарэчы, Лідзія Сяргееўна сама неяк расказвала, чаму яе звалі дамашнія Люсяй. Калі яна была маленькай і ў іх паставілі ёлку на Новы год, то з ёлкі пачалі прападаць цукеркі. І яе маці аднойчы

ўбачыла, як гэта было. Малая гаварыла сама сабе: "Уся, бери стул". Яна брала крэсла. Потым гаварыла: "Уся, неси стул". Яна несла крэсла да ёлкі. Потым: "Уся, лезь на стул". Лезла. Потым гаварыла: "Уся, рви конфету". Яна здымала з ёлкі цукерку. І нарэшце гаварыла: "Уся, ешь конфету". І з'ядала яе. З таго часу ўсе сталі называць яе ў хаце Люсяй.

У Ваўковічах у іх нарадзілася дачка Алеся, але хутка памерла і пахавана там. Валянцін часта ездзіў у Вільню па заданні падполля. Часта праездам заязджаў да нас у Ліду. Аднойчы ў адзін з такіх заездаў я папрасіла, каб ён напісаў мне што-небудзь у альбом. Ён узяў мой альбом і зачыніўся ў другім пакойчыку. Я села на падлогу каля дзвярэй і чакала, калі ён напіша. Праз некаторы час дзверы адчыніліся, і ён даў мне мой альбом. Там былі напісаны два вершыкі.

Вось адзін з іх:

**Маёй сястрычцы Ніне**

Пакуль, сястрычка, падрасцеш
І шлях пратопчаш свой жыццёвы.
На памяць вывуч гэты верш,
Складаны творчым брацкім словам.
Хоць не паймеш яшчэ мяне -
Пішу табе яго навырост:
Я знаю - гэты дзень міне,
З якога верш сягодня вырас.
Магчыма толькі ён адзін
І застанецца жыць на памяць,
Як рэха дальняе гадзін,
Што сёння сэрца брата раняць.
Тады, сястрычка, успамяні,
Хто з далечы больш не вярнуўся.
За тое, каб насталі дні
Шчаслівыя для Беларусі.
*г. Ліда, 23.ІІ.1943. Старэйшы брат В.Т.*

Гэты верш, трохі перапрацаваны, увайшоў у зборнік яго твораў, а таксама друкаваўся ў газетах і часопісах.

А яшчэ адзін быў напісаны ў альбоме.

**Я Ніначку-малышу**
**гэткі вершык напішу.**

Ёсць на свеце дзяўчаткі ўсялякія:

Ёсць надутыя і пустыя:
І не знаеш - смяяцца ці плакаць
Над такою, што вечна ные.
        Ёй са сну - аж вочы папухлі,
        Ад ляжання - бакі забалелі.
        А яна выбірае туфлі
        З маміных рук у пасцелі.
Перабраўшы разоў можа з дзесяць
Туфлі, валёнкі, чаравікі,
Ногі ўрэшце з пасцелі ўзвесіць -
Аб істужках бярэцца хныкаць
        Мо' ружовую? Жоўтую можа?
        Мо' блакітную ў косы ўплесці?
        Мама, - косы часаць паможаш?
        Ну, а мама … паклікала есці!
- Есці? Фэ!.. Не хачу зусім я!..
- Еш, дачушка, збірайся ў школу.
- Мне баліць галава і шыя
І ў баку трохі вельмі коле…
        Ну, Нінок, ці ж гэта дзяўчынка? -
        Адкажы, як хочаш, як знаеш,
        Бо па-моему - гэта свінка,
        Можа, нават і не малая.
Лепей змалку ўставаць раніцою,
Адзявацца самой, абувацца.
Мыцца ўпояс халоднай вадою
І наеўшыся - ў школу спяшацца.
*г. Ліда, 23.II.1943*                *Старэйшы брат В.Т.*

А крыху пазней напісала мне і Лідзія Сяргееўна.

**На память любимому Ниночку.**

Не шумной беседой
Друзья познаются.
Друзья познаются бедой.
Коль горе нагрянет
И слёзы прольются
Тот друг, кто заплачет с тобой.
*29.XII.1944.*
*Ниночке от тети Люси.*

У гэтым самым альбоме яшчэ раней былі напісаны вершыкі ад маёй маці і бацькі.

Вось што пісала мая мама, вельмі набожная жанчына. Пішу так, як гэта было напісала ў альбоме:

"Vazlubi Boha usiej duszoj,
usim sercam, usim rosumam tvaim -
A blizniaha, jak samaho siabie…
S.Taulaj. 29/XI/1942 h."

Мама была вельмі далікатная, вельмі добрая. Яна ніколі нікому не жадала дрэннага, старалася ўсім рабіць толькі дабро. Яна любіла ўсіх, "усім сэрцам, усім розумам ", як гэта і мне загадала.

І тата напісаў:

**Моей Ниночке!**
Память альбомная,
Память не прочная,
Грустно в альбомах писать,
Одна неизменная
Память сердечная.
Её не в альбомах искать.
*29.XI.1942.* *От папы П.Д.Т.*

Напісала гэтыя словы і … слёзы паліліся з вачэй. Толькі сэрца ў сілах помніць усё, любіць усіх, пакуль яно б'ецца ў грудзях. І гэта самая вялікая рана майго сэрца, якое праз год пасля татавых слоў было так паранена, што рана гэтая не зажывае ўсё маё жыццё. І яна не зажыве да таго часу, пакуль я буду жыць.

Праз год было 23 верасня 1943 года.

У прыметы я не веру. Але як растлумачыць тое, што здарылася незадоўга да 23 верасня.

Аднойчы я з цёцяй Насцяй, мамінай сястрой, пайшла нядзеляю ў царкву. У мяне была дзіцячая чырвоная тарэбка (торбачка - *А.Х.*), у якой ляжала невялікае люстэрка. Калі мы вярнуліся з царквы, я заглянула ў тарэбку і ўбачыла, што люстэрка было разбіта на кавалачкі. Яно не падала, тарэбка не была прыціснута, а люстэрка было разбіта. Чаму?.. Ад чаго?.. Я так да гэтага часу не ведаю.

І яшчэ. Тата заўсёды раніцой сек дровы, каб мама запаліла ў

печы і зварыла снеданне. У нас у хляве была каза і некалькі курэй. Тата, як заўсёды, пайшоў секчы дровы, і адна курыца раптам закукарэкала, як певень. Тата злавіў яе і адсек ёй галаву. Казалі, што гэта вельмі дрэнны знак, калі курыца кукарэкае.

А 23 верасня скончылася маё шчаслівае дзяцінства. Гэты дзень застаўся ў маёй памяці на ўсё жыццё, як самы страшны сон. Пры гэтых успамінах сэрца пачынае калаціцца і слёзы засцяць вочы…

23 верасня. Чацвер…

Мне вельмі не хацелася ісці ў школу. Але мама прыгатавала снеданне, а тата сказаў, што сам завядзе мяне ў школу, хаця я заўсёды хадзіла сама адна.

Тата завёў мяне ў школу і ішоў на сваю працу. Па дарозе, як я потым даведалася, яго сустрэла машына, з якой выйшлі немцы, затрымалі яго і пасадзілі ў машыну. У мяне быў ужо апошні ўрок, урок рысавання. Раптам адчыніліся дзверы, у клас увайшоў немец і спытаў у настаўніцы, ці ёсць тут вучаніца Ніна Таўлай. Настаўніца сказала, што ёсць, і загадала мне ўстаць. Калі я ўстала, немец падышоў да мяне і сказаў сабраць свае рэчы, злажыць у сумку. Калі я ўсё выканала, ён узяў мяне за руку і павёў з класа. Вывеў мяне на вуліцу. Там стаяла крытая машына. Немец пасадзіў мяне ў кабіну паміж сабой і шафёрам, і машына паехала. Мы аб'ехалі руіны перадваеннага рынка, што быў у цэнтры горада, выехалі на цяперашнюю Савецкую вуліцу, праехалі міма замкавай гары і, абагнуўшы цяперашні рынак, накіраваліся да турмы. Па дарозе мяне нехта ціхенька крануў за плячо. Я агледзелася і ўбачыла маму. Яна праз акенца, што было паміж кабінай і крытай машынай, мне ціхенька прашаптала: "Не бойся, мы з табою". Машына пад'ехала да варот турмы. Вароты адчыніліся. Мы заехалі ў турэмны двор. Загадалі ўсім вылезці з машыны. Людзей было шмат. Адразу асобна аддзялілі жанчын з дзецьмі і асобна мужчын.

Не…Не магу пісаць… Слёзы мяне душаць… Але трэба падрабязна напісаць усё. Няхай людзі ведаюць, што прыйшлося перажыць нам, як нам было цяжка і чаму нашы сэрцы ўсё жыццё крывавяць і баляць.

Вельмі ярка памятаю: у групе мужчын былі мой бацька і Валянцін. Тата хацеў падыйсці да мяне і абняць мяне. Але немец груба яго адагнаў. Тата прасіў, каб далі магчымасць яму развітацца з дачкой і жонкай. Але немцы, узяўшы аўтаматы наперавес, пагналі ўсю групу мужчын у турму. Жаночую групу трохі затрымалі, а потым і нас павялі ў камеру. Камера была вялікая. Па абодва бакі ад праходу былі нары. На іх размясціліся людзі. Па аднаму, па два на нарах. Мы былі разам з мамай. Насупраць нас, помню, сядзелі на нарах зусім маладыя сяст-

рычкі, гадоў па 18-20. Яны ўвесь час сядзелі абняўшыся і ці плакалі, ці нешта прычыталі. Так прайшло некалькі дзён. Я захварэла. Да мяне прыходзіў доктар, таксама з вязняў. Прынёс нейкія лякарствы. А праз пару дзён зайшоў у камеру немец і загадаў мне ісці з ім. Ён прывёў мяне ў пакой адміністрацыі, і я там ўбачыла цёцю Насцю, маміну сястру, і цёцю Надзю, жонку мамінага брата Пятра Паўлавіча Дарашкевіча. Немец перадаў мяне ім і сказаў, каб хутчэй ішлі адсюль. І выпусцілі нас за вароты турмы. Так я аказалася на волі праз 8-10 дзён турмы, дакладней не памятаю.

Пазней я даведалася, як былі арыштаваны бацька і брат.

Мама была на кухні, калі немцы прыехалі да нашага дома і акружылі яго. Брат Валянцін быў у другім пакойчыку. Ён заўсёды быў там, калі праездам заходзіў да нас. У той дзень ён зноў быў праездам у нас . Немцы, дарэчы, аб ім нічога не ведалі. Калі немец зайшоў у хату, Валя пачуў яго гаворку і хацеў адчыніць акно і ўцячы. Але ўбачыў, што немцы акружылі хату, і застаўся ў пакоі. Тым часам, мама зайшла да яго і загаварыла. Немец, пачуўшы гаворку, зайшоў у пакой, убачыў Валю і загадаў збірацца і яму. Так яны былі арыштаваны. Калі іх завялі да машыны, то там ужо былі і мой бацька і некалькі яшчэ арыштаваных лідзян.

Мяне выкупілі за прадукты мае цёці. Жонка дзядзі Пеці мела бацькоў на вёсцы. Яна прывезла ад іх масла, смятаны, яйкі, сала і інш. Яна даведалася, што жонка начальніка турмы, немца, з'яўляецца полькай. Цёця Надзя знайшла іх кватэру і прыйшла з кошыкам, поўным яды. Пагаварыла з ёй па-польску, па-жаночаму і дабілася таго, што тая жанчына сумела ўгаварыць свайго мужа, начальніка турмы, каб ён мяне выпусціў. І ён сказаў, калі і куды прыйсці, каб забраць мяне. Так я аказалася на волі, вельмі хворая, з высокай тэмпературай. Лякарстваў не было. Дастаць іх не маглі нідзе. Я ляжала ў цёці Насці. І мае цёці зноў пусціліся на такую авантуру. У камеры засталіся мае лякарствы, якія мне даў турэмны доктар. Цёця Надзя і цёця Насця вырашылі ісці ў турму, каб забраць мае лекі.

Начальнік турмы сказаў, каб яны прывялі мяне. Гэта і зрабілі. Яны прывялі мяне ў турму, немец узяў мяне за руку і павёў у камеру. Я зайшла, убачыла маму і папрасіла, каб яна дала мне лякарства. Я ўзяла яго, і немец павёў мяне з турмы. А мае цёткі, між іншым, чакаючы мяне, пайшлі па турэмным двары, разглядаючы турэмныя вокны. Але тут адзін немец прыкрыкнуў на іх, і яны, спалохаўшыся, хутчэй вярнуліся назад. У гэты час вывелі мяне, і яны, забраўшы мяне, хуценька пайшлі далей ад гэтага страшнага месца.

Я засталася жыць у цёткі Насці. Яна жыла адна. Муж яе, Фёдар

Фурсін, памёр раней. Дачка Лідачка памерла маленькая, ёй было ўсяго некалькі месяцаў. У цёці Насці была палова дома. У другой палове жылі мы. Цёця Насця дапамагала маме гадаваць мяне. Я часта хварэла. Аднойчы я захварэла запаленнем лёгкіх. Я ўжо задыхалася. Доктар Майер сказала, каб мне прынеслі з аптэкі кіслародную падушку і каб я дыхала ў яе. Была ноч. Аптэка была закрыта. Мама насіла мяне на руках. Тады цёця Насця знайшла кватэру аптэкара, угаварыла яго прадаць кіслародную падушку. Прынесла яе. Калі пачалі даваць яе мне, каб я дыхала, я так махнула рукою, што падушка ўпала і ўвесь кіслярод выйшаў. Зноў прыйшлося цёці Насці ісці да аптэкара і прасіць у яго другую падушку. І толькі другая падушка дапамагла мне дажыць да раніцы. Крызіс мінуў, і я была адратавана. Мне было тады гадоў 5-6. Каб умацаваць маё здароўе, доктар сказала, што можа дапамагчы казінае малако. Тата працаваў чыгуначнікам і паехаў на Украіну купляць казу. Помню, як ён прывёз казу і з ёю двое ці трое казлянят. Каза была чорная з белымі плямамі. Казляняткі былі белыя. Мы з мамай прывялі іх ад станцыі дахаты. Каза ратавала нас ад голаду і ў час вайны. Яна давала шмат смачнага і тлустага малака. Я да яго так прывыкла, што кароўскае было для мяне, як вада: рэдкае і нясмачнае. Кожную раніцу тата яшчэ да таго, як ісці на працу, хадзіў па вуліцах. Яны былі без ходнікаў, зарослыя травою, і збіраў казе лапуховыя лісты. За дзень яна з'ядала мяшок такіх лістоў. Працы з казою было шмат, але яна давала добрае малако. Яно вельмі дапамагло ўмацаваць маё здароўе.

Такім чынам, я расла сярод добрых, душэўных людзей, блізкіх, родных.

Хварэла я пасля турмы цэлую зіму. Недзе праз месяц выйшаў на волю і Валянцін. Аб гэтым падрабязна піша Лідзія Сяргееўна ў сваіх успамінах (часопіс "Полымя").

Неўзабаве бацькоў перавезлі ў Менск, а затым адправілі ў Асвенцым. Паля вайны ў Ліду вярнуўся адзін з лідзян, які быў там, у Асвенцыме. Ён расказаў дзядзю Пецю, што сустракаўся з маім бацькам на кухні. Тата гаварыў яму, што мая мама не даехала да лагера, памерла ў дарозе. А праз некаторы час гэты мужчына перастаў сустракацца з маім бацькам. У хуткім часе і гэты мужчына, які вярнуўся з Асвенцыма, памёр.

Магілак ні мамы, ні таты няма. І я, калі памёр мой муж, Уладзімір Пятровіч Радзюкевіч (і мы пахавалі яго на віленскіх могілках у Карвялішках), зрабіла памятную пліту, дзе ўшанавала памяць сваіх бацькоў і брата Аляксандра, які загінуў у часе вайны і пра яго апошнія дні я нічога тады не ведала. І толькі цяпер у 2016 годзе я даведалася,

дзе ён ваяваў і калі загінуў.

Наступіў 1944 год. Ліду вызвалілі ад нямецкай акупацыі. Я многа хварэла. Мне дапамагала цёця Насця. Немцы выгналі нас з нашага дома. Мы перайшлі жыць у татаў дом, які ён будаваў каля дома дзядулі Пеці яшчэ да вайны. Я з цёцяй Насцяй займалі невялікую кватэру, дзе быў адзін пакойчык з невялікай кухняй. Пры набліжэнні фронту цёця Насця закапала адзёжу і посуд у яму, што ў хляве. Зверху накідала дроў, каб ніхто нічога не ўкраў. Але ўсё аказалася дарэмна. Калі немцы адыходзілі, яны спалілі ўвесь квартал, які знаходзіўся насупраць станцыі. Згарэлі ўсе дамы: наш, татаў, дзядзі Пеці, цёці Веры, мамінай сястры. Усё, што было закопана, стлела. Посуд, шкло ад агню пакаробіліся. Усё прапала. Мы засталіся толькі ў тым, што змаглі ўзяць на вёску з сабой,  дзе мы хаваліся, пакуль за Ліду ішлі баі. Калі мы вярнуліся, жыць не было дзе. Нас з цёцяй Насцяй узяла часова да сябе яе сястра, а для мяне - мая хросная маці, Надзея Паўлаўна Бужынская. Яна жыла на Слабадзе. Так называецца раён Ліды за чыгункай. Неўзабаве прыехала з Наваградка Лідзія Сяргееўна, каб забраць мяне. Так вырашыў Валя. Пасля таго, як загінулі бацькі, ён замяніў мне іх, узяўшы мяне да сябе. Як мы з Люсяй ехалі ў Наваградак, гэта цэлая эпапея. Фронт быў яшчэ блізка. Кругом - адны ваенныя. Транспарт ніякі не ходзіць. Яна дабралася да нас дзе пешшу, дзе пад'ехаўшы. Мы з ёю выехалі з Ліды на ваенным грузавіку. Даехалі да Нёмана. Мост быў узарваны. Пераправа ішла на дошках, якія свабодна ляжалі на сваях. Калі машына ехала, то калёсы залівала вада. Не кожны шафёр адважваўся так ехаць. Наш, што прывёз нас да Нёмана, таксама пабаяўся так ехаць. Люся знайшла больш смелага, які адважыўся пераправіцца на другі бераг Нёмана. Яна неяк угаварыла яго ўзяць нас з сабой, і мы пераехалі цераз раку і ён завёз нас у Наваградак. Люся з Валянцінам жылі ўжо там, у Наваградку, на Карэліцкай вуліцы. Валя працаваў у рэдакцыі наваградскай  газеты. Я хадзіла там у школу. Валя многа пісаў, многа працаваў. Аднойчы да яго прыйшла жанчына з вёскі і  расказала, як загінула яе сям'я. І яе немцы забівалі, потым разам з сям'ёю запалілі ў стадоле. Яна неяк праз акенца вылезла і схавалася ў бульбе, якая расла там. Уся яе сям'я згарэла, яна адна засталася жывая. Праз яе Валя напісаў нарыс "Марыя Гурына". Калі гэтая жанчына апавядала аб сабе, я сядзела ў куточку і з жахам слухала яе аповед.

Потым мы пераехалі на вуліцу Гродзенскую. Люся паехала па сваіх дачок, каб забраць іх. Мы з Валянцінам засталіся ўдваіх. Ён быў вельмі заняты на працы, але стараўся не пакідаць мяне без увагі. Ён быў клапатлівы і  любячы брат. Каб я не была галодная, ён кожны

дзень вадзіў мяне ў сталоўку. Я толькі памятаю, што там стаялі грубыя сталы, збітыя з дошак, а ножкі іх былі скрыжаваныя. І кожны дзень была капуста, запраўленая нейкім тлушчам. Раней я такую яду ў рот не брала, а цяпер ела, бо магла застацца галоднай.

Аднойчы я вырашыла накарміць свайго браточка ў хаце сваёй ядой. Ён прынёс бульбы. І я вырашыла яе зварыць. Пачысціла, памыла, зложыла ў каструльку, заліла вадой. Запаліла ў печы. Паставіла бульбу на канфорку. У гэты час мяне паклікалі з вуліцы дзеці. За хатай быў вялікі сад. Я з дзецьмі пабегла ў сад гуляць. Калі ўспомніла пра бульбу, прыбегла ў хату. І ўбачыла, што дровы перагарэлі, агонь пагас, вада ў бульбе выкіпела, бульба мая падгарэла. Калі прыйшоў Валя, высыпаў рэшткі бульбы ў талерку, то аказалася, што яна яшчэ і без солі. Вось такі ў мяне быў першы вопыт кухаркі. Прыйшлося зноў ісці ў сталоўку.

Лідзія Сяргееўна ў хуткім часе прывезла сваіх дачок Ірыну і Алену. А неўзабаве Валянцін паехаў у Менск, пачаў працаваць навуковым супрацоўнікам у музеі Янкі Купалы. Я на лета 1945 года пераехала ў Ліду да цёці Насці. Яна ўзяла мяне на той час, пакуль Валя знойдзе кватэру і зможа забраць мяне да сябе. Яшчэ да майго ад'езду ў Ліду я завяла яшчэ адзін альбом, "маленькі". І Валя напісаў у ім невялікі вершык. Вось што ён там напісаў:

**Для ўспаміну сястрычцы Ніне**

Не першы раз пішу табе ў альбом.
Расцеш сама, мяняюцца альбомы.
І не магу нацешыцца табой
І нават вершу радасна самому.
Над намі, бачыш, - сінява набёс
І нашы сны - зноў ява ў Беларусі,
І я ў альбомы Ніны, нябось,
Яшчэ не раз, напэўна, забяруся.

*Наваградак, 19.7.45* *В. Таўлай.*

У 1945 годзе Валянцін Паўлавіч некалькі разоў ездзіў у Менск. У той час, як ён быў у Менску, прысылаў мне лісты, паштоўкі і невялікія пасылачкі рознай аказіяй, праз знаёмых. У гэтых лістах выказана столькі ўвагі да мяне, столькі братняй любові і клопату, што толькі дзівуешся, калі ён усё паспяваў? Трэба быць вельмі чулым, уважлівым чалавекам. Такім Валя і быў. Ён прымаў да самага сэрца ўсё, што было са мной. У гэтых лістах праявілася ўся чалавечная сутнасць

любячага брата.

Вось тыя лістовачкі, якія ён мне прысылаў:

*24.III.45*

*Дарагая Ніначка!*

*Выбачай, сястрычка, што не адразу адказаў на твой лісток. Праўда, я ўсе твае просьбы стараўся і стараюся выканаць. Пераслаў табе і некаторыя падручнікі, і парашок на чарніла (ці добра яно піша?). Чытайце, пасылаю табе і дзяўчатам па кніжачцы "Свинья под дубом". Пасылаю таксама табе панчошкі, бо цёця Люся казала, што ў цябе з гэтым дрэнна. Прывітанне тваё дзядзьку Танку перадаў. Ён сказаў, падзякаваць табе і перасылае сваё прывітанне.*

*Пацалуй ад мяне Ірынку і Леначку. Напішыце, што вы робіце, як вучыцеся? Ну, бывай, Ніначка, добра вучыся, будзь разумнай.*

*Цалую цябе моцна.*

*Твой брат В.*

А вось другі ліст:

*Мінск, 10 красавіка 1945 г.*

*Мой ты салавейка, мая Ніначка!*

*Не люблю такіх канчаткаў у лістах "жду ответа, как соловей лета". Але ў тваім лісточку ён мяне крануў за сэрца. Пішу, сястрычка, пішу. І буду пісаць. Я вельмі рад, што ты атрымала добрыя ацэнкі. Хацелася б толькі, каб, асабліва па беларускай мове, у цябе былі круглыя пяцёркі. Я жыву адзін, без цябе, без усіх вас. І мне сумна, хоць і працы хапае - па вушы, як гаворыцца. Здаў у друк зборнік сваіх вершаў, праз некалькі месяцаў выйдзе мая кніжка і я яе табе ахвярую на памяць. Апрача гэтага многа працы па стварэнню літаратурнага музея Янкі Купалы. У канцы чэрвеня адчынілі выстаўку, якую можа і ты паспееш паглядзець. Ты ж, думаю, помніш, як прыязджаў вялікі Купала ў Ліду, ведаеш некаторыя яго вершы і любіш іх. Ты пытаеш пра нашага Шуру. Ён, Ніначка, загінуў у чэрвені ці ў ліпені 1943 года. Стукнуліся ў паветры два самалёты і загарэліся. З Ліды цёця Каця прывезла гэткую вестачку і фатаграфію Шуры ад яго прыяцеля. Няма нашага Шуры, Ніначка. Нам асталося любіць і шанаваць яго добрую памяць. Пра тату і маму нічога пакуль што не чуваць. Але вось напісаў да мяне Якуб Міско (помніш, ён працаваў са мною ў Лідзе, у рэдакцыі, прыходзіў да нас). Гэты Якуб ваюе цяпер пад Берлінам, ён маёр Чырвонай Арміі. Вось-жа Якуб абяцае добра пашукаць усіх магчымых слядоў нашых таты і мамы. Аб усім, што даведаецца,*

*будзе пісаць нам. Пачакаем. Хутка скончыцца вайна. Ты пакуль што, Ніначка, пацярпі і будзь адважнай і разумнай. Помні, што я цябе моцна-моцна люблю і ты мяне крышачку любі.*

*Я рады, што вы ўсе жывяце добра і дружна. Так і трэба.*

*Пішы мне, Ніначка, часцей. Пішы даўжэйшыя лісты аб тым, як жывеш, як вычышся, аб чым думаеш. Заўсёды пішы, што табе трэба. Ці прыгадзіліся табе тыя падручнікі, якія я паслаў? Ты пытаеш у лісце пра нейкія заколкі ў істужцы. Я, Ніначка, не помню ці яны былі, ці не. Можа яны дзе ў мяне заваляліся. Я табе пасылаю другія, купленыя сёння. Таксама вам кожнай па дзве кніжачкі. Пішы, ці яны табе падабаюцца. Можа такіх не пасылаць, а знаходзіць больш паважныя?*

*Калі буду ехаць праз Ліду, зраблю ўсё, што просіш.*

*Ніначка, бачыш, як моцна ты хварэла. Гэта - дрэнна. Відаць, ты не шануешся і прастудзілася. Як тваё здароўе цяпер? Напішы падрабязна аб гэтым. Шануйся, сястрычка, і не сумуй.*

*Моцна цалую цябе.*

*Твой брат Валя.*

*Дабаўка.*

*Фатаграфію сваю і Шурыну - пасылаю. Толькі не згубі.*

*Ніначка, заколкі прышлю другім разам, бо не паспеў схадзіць на рынак.*

*В.*

Наступнага ліста ў мяне па нейкіх прычынах няма, але яго копію прыслала мне Лідзія Сяргееўна. Гэты ліст неяк апынуўся ў архіве Валі. Вось копія гэтага пісьма.

*Копія.*
*Мінск. 7.VI.1945*

*Мая даражэнькая Ніначка!*

*І вось табе, сястрычка, дванаццаць гадкоў. Шчыра вітаю цябе і моцна-моцна цалую. Жадаю табе быць заўжды здаровенькай, вялікай і добра вучыцца. Пасылаю табе часопіс "Беларусь" № 2, у якім змешчаны твой вершык пра цябе. Ты, мусіць, ужо засумавала, а можа і гневаешся на мяне за тое, што я не прыязджаю, нават не пішаш мне лістоў. Не трэба гэтак, Нінок. Я ж табе пісаў, што перад адкрыццём выстаўкі Янкі Купалы ў нас вельмі, вельмі шмат працы. Але вось ужо з большага галоўнае зроблена, а выстаўка адкрыецца - будзе зусім добра, знойдзецца час прыехаць да вас.*

*Гэтымі днямі я, відаць, паеду ў Вільнюс па некаторыя кніжкі*

*і газеты, патрэбныя на выстаўку. Прывязу, між іншым, рукапіс купалаўскай кніжкі "Шляхам жыцця". З такім багажом цяжка думаць пра тое, каб заехаць заадно і да вас. Ды і часу на гэта не будзе. Прыеду крыху пасля.*

*Сягоння я гаварыў з адной жанчынай, што была ў нямецкім лагеры Асвенцым. Там было вельмі шмат людзей, сотні тысяч. Гэтай жанчыне не даводзілася бачыць нашых тату і маму. Яна расказвала, што немцы перад прыходам туды Чырвонай Арміі пагналі ўсіх з лагера Асвенцыма аж пад Гамбург, і там іх вызвалілі англічане. Многія там яшчэ адпачываюць. Вызвалена аж 150 тысяч асвенцымскіх вязняў. Можа, і нашы там. Напішы мне падрабязна ліст аб тым, што ты аб гэтым думаеш. Пішы таксама пра сябе, пра тое, як здала экзамены, ці здаровая, што робіш.*

*Моцна-моцна цалую цябе.*

*Твой брат Валя.*

*P.S. Можа, што табе трэба, то ты заўсёды пішы мне аб гэтым.*

Яшчэ трохі пазней Валя прыслаў мне невялікі ліст.

*Даражэнькая Ніначка!*

*Выбачай, што не прыехаў ні на адно са свят. У нас цяпер гарачая пара - трэба адчыняць музей-выстаўку, хутка гадавіна смерці Купалы. Да вас падскочу праз два-тры тыдні. Тады пагаворым аб усім. Выходзіць гэтымі днямі журнал "Беларусь" № 2 за 1945 год. Там будзе верш "Маёй сястрычцы", прысвечаны табе. Пачынае выходзіць журнал для моладзі "Бярозка", у ім будзе друкавацца другі мой верш, прысвечаны табе, але на гэты раз перароблены. Чытай, калі пабачыш. Калі выйдзе з друку - прышлю. Пішы, Нінок, аб усім, што ў цябе новага.*

*Моцна цалую цябе.*

*Твой брат Валя.*

Ёсць яшчэ адзін ліст, але ён па нейкай прычыне зверху абгарэлы, таму некаторыя словы нельга прачытаць.

……….

……….

*У …* (напэўна: *даўгу) перад табой, мая сястрычка: і не напісаў яшчэ адказу на твой лісток, і не купіў вязальнага кручка. Праўду кажучы - усё няма часу палазіць на рынках, знайсці патрэбнае. Аднак у бліжэйшы тыдзень думаю развязаць рукі са зборнікам вершаў, а*

*можа, і з выстаўкай. Тады буду больш акуратным.*

*Ты, Ніначка, толькі не гневайся на мяне, але старайся зразумець. Мне часам па табе зробіцца сумна, сумна, і так хочацца глянуць на родную сястрычку, што ... адпачывалася ў ... (...льні) (*відаць *"у Наваельні",* бо я там была нейкі час у летнім лагеры*). Ці загарэла хоць ты ў гэтай пахнучай мясцовасці? Мусіць, перашкаджаў дождж. Напішы мне аб усім гэтым, добра? Я тут усё шукаю хоць якойнебудзь невялікай кватэры, каб жыць разам з табой і ўсімі вамі, пакуль адбудуюць новыя вялікія дамы. Думаю, што нарэшце штонебудзь знайду. Ну, бывай здаровенькая, не сумуй, хутка пабачымся.*

*Моцна цябе цалую.*

*Твой брат Валя.*

*Мінск, 17. 8.45.*

А наконт Наваельні, то справа была так. Мяне адправілі ў піянерскі лагер у Наваельню. Помню, калі ехала туды, то на станцыі спатыкнулася і ўпала, моцна абадрала калена. Каб трохі змыць бруд, я ўзяла насовачку. Памачыла яе вадою, якая пасля дажджу капала са страхі, і абцёрла калена. Потым прылажыла мокрую насовачку да раны, каб не ішла кроў. Калі я прыехала ў лагер, то ў ночы мне так разбалелася нага, што я не магла яе ні сагнуць, ні выцягнуць. Раніцой у мяне па ўсёй назе пайшлі нарывы, мусіць, я занесла нейкую інфекцыю. Доктар агледзеў нагу, нечым змазаў. У лагеры я прабыла пару дзён. Было сумна. Помню, недалёка праходзіла чыгунка, і я, лежачы ў пасцелі ў час пасляабедзеннага сну, не спала, а лічыла вагоны ў праязджаючых таварняках. Праз пару дзён я ўцякла з лагера, прыехала ў Навагрудак, а потым прыехала цёця Насця і забрала мяне ў Ліду. Ірына, якая таксама была ў лагеры, засталася да канца сезона. Пра Лену я не памятаю, дзе яна была. Калі я прыехала з Наваельні ў Нава-градак, там нікога не было. Я пару дзён была адна, потым мяне забралі ў Ліду. Я, напэўна, напісала Валі ліст, і ён мне на яго адказаў.

*Мінск. 6.9.1945*

*Мая дарагая Ніначка!*

*Лісток твой, высланы з Ліды, атрымаў. Дзякую табе за лідскія навіны. Прыехаць да цябе ў Ліду не мог, не гледзячы на тое, што цягнік, якім трэба было ехаць да вас - "вельмі харошы". У мяне страшна не было і няма часу. Трэба і працаваць у музеі, і пісаць, і шукаць кватэры. Набліжаецца 17 верасня, гадавіна вызвалення Заходняй Беларусі і векапомнага ўз'яднання нашага беларускага народа. Да гэтай даты адчыніцца наш музей. Трэба тое-сёе напісаць і хочацца знайсці нарэшце кватэру, каб жыць разам.*

*Слухай, Ніначка: усё гэта вельмі добра, але мне зусім, зусім не падабаецца выбрык твой і Леначкі - гэтыя дзікія ўцёкі з Наваельні. Вы гэтым, па-першае, дапусцілі вартае самай суровай вымовы самавольства, па-другое - жылі дома ў прогаладзь і напярэдадні навучальнага года падарвалі сваё здароўе. Будзь ласкава, напішы мне аб усім гэтым, як і чаму гэта здарылася, што ты думаеш сама аб такім дзікім выпадку?*

*Кніжачак адпаведных я ніяк не знаходжу, у кнігарнях не прадаюць. Буду старацца праз настаўнікаў. Але для гэтага варта было б, каб ты мне напісала назвы кніжак і аўтараў (хоць тых, аб якіх ведаеш).*

*Цалую цябе моцна ў самую мордачку.*

*Твой брат Валя.*

*Вітаю цябе з новым навучальным годам і жадаю ўсякіх удач у навуцы!*

*В.Т.*

* * *

Аказваецца, мы з Ленай разам уцяклі з лагера. Я ўжо запамятавала гэта. Люся, відаць, была ў Менску ў Валянціна, бо трэба было шукаць кватэру.

І яшчэ адзін ліст, ужо апошні. Відаць, пасля яго мы ўсе пераехалі ў Менск. У бараку каля Акадэміі Навук Валянцін атрымаў пакойчык.

.

*Мінск, 60-X-1945*

*Мая даражэнькая Ніначка!*

*Твой лісток са спісачкам патрэбных кніжачак атрымаў. Чаму ты пішаш, што я не пасылаю вам лістоў? Я не пішу часта, але стараюся, наколькі здаецца, адказваю і табе і на кожны твой лісток. Да вас я хутка прыеду. Чакаю толькі адказу ад прэзідэнта Акадэміі Навук БССР на маю заяву ў справе кватэры. Прыватна знайсці або купіць хату не ўдалося: гэта ў Мінску вельмі цяжка. Але рамантуюцца вялікія дамы і вось я ў такім доме і хачу атрымаць кватэру. Чаму ты нічога не пішаш аб тым, як ідзе ў цябе навука? Не гаворыш таксама аб сваім здароўі, жыцці. Так нядобра. Пісаць трэба аб усім. Я некалькі дзён хварэў, балела горла (ангіна). Толькі сёння іду на працу.*

*Ну, Ніначка, будзь здаровенькая. Хутка пабачымся. Пастараюся прывезці, што знайду з кніжак.*

*Цалую моцна, моцна.*

*Твой брат Валя.*

* * *

Гэта было апошняе пісьмо. У мяне яго копія. Арыгінал я перадала ў бібліятэку горада Баранавічы, дзе ёсць многа матэрыялаў пра Таўлая. Калі Валянцін прыязжаў да мяне ў Ліду, то я разам з ім часта хадзіла да знаёмых яго. Мы бывалі ў гасцях у Ніны Тарас. Яна мне нават у альбоме напісала:

**Для малой Нінкі**

Жадае Ніна
Слаўнай і добрай
Стацца дзяўчынай
Толькі ўсё гэта
Не проста здаецца:
Многа патрэбна
Навукі, працы.
*Ніна Тарас.*
*Ліда, 28/VI-45 г.*

* * *

Дарэчы, у гэтым альбомчыку ёсць і словы напісаныя для мяне цёцяй Насцяй:

**Для ўспаміну даражэнькай Ніначцы**

Дзеці - гэта кветачкі жыцця,
А кожная кветачка прыносіць карысць, -
Бо ўтварае плод або насенне.
І ты, як кветачка, расці, квітней
І ў будучыні прынясі карысць
Сваёй бацькаўшчыне - Беларусі.
*21-VIII - 45 г. Ліда.*

* * *

Калі Валянцін атрымаў пакойчык у бараку, мы ўсе пераехалі з Наваградка ў Менск. Да гэтага часу я была то ў Наваградку, то ў Лідзе ў цёці Насці.

Барак, куды мы пераехалі, знаходзіўся на акраіне парка Чалю-

скінцаў у Менску недалёка ад Акадэміі Навук БССР.

Праз дарожку ад нас быў дом, у якім жыў Якуб Колас. Ён любіў на ранку бегаць па сцежцы, абсаджанай акацыямі, побач з баракам. З другога боку праз невялікі пустыр знаходзілася клініка. Мяне запісалі ў 5 клас беларускай школы № 23, якая знаходзілася блізка ад Камароўкі. Помню, як аднойчы вызвалі брата ў школу адносна маёй вучобы. Справа была ў тым, што настаўніца па беларускай мове не вымаўляла літару "Р", у яе атрымлівалася не "Р", а нейкае "г-р-г". Аднойчы яна задала на дом вывучыць верш "Русь". На другі дзень на ўроку літаратуры яна вызвала мяне расказаць гэты верш. Я маўчу. Яна пытае, чаму я не вывучыла яго. Я адказала, шчто ў кнізе я не знайшла ніякага верша пра гуся. Я шукала не верш "Русь", а верш "Гусь". Настаўніца перамянілася ў твары, закаціла мне двойку і сказала, каб назаўтра ў школу прыйшоў брат. Я перадала брату яе просьбу. Праз дзень чую, як Валянцін апавядаў Люсі аб маім учынку, а потым дадаў: "Ну, як яе караць? Яна і сапраўды нідзе не знайшла верша пра гусь". Пасля гэтых слоў яны пасмяяліся. Мне нічога не было. Але Валянцін сказаў, каб я была больш уважлівай на ўроках. Ён быў вельмі мудры. Ён любіў мяне шчырай братняй любоўю, шкадаваў і беражліва адносіўся да мяне.

Канчаўся 1945 год. У канцы снежня перад зімовымі канікуламі праходзілі навагоднія ёлкі. Іра з Ленай вучыліся ў рускай школе, якая знаходзілася па другі бок Ленінскага праспекта. Калі яны збіраліся на сваю ёлку ў школу, Люся сказала, каб яны нідзе не затрымліваліся, бо трэба будзе схадзіць на рынак купіць ёлачку. І вось пасля школьнага свята яны спяшаліся да хаты. Лена, не паслухаўшы Іру, пабегла цераз праспект і патрапіла пад машыну. Іра прыбегла да хаты і расказала аб усім. Лена была ўжо ў клініцы ў моргу. Такая трагедыя атрымалася напярэдадні 1946 года.

У першую гадавіну перамогі нашага народа над Германіяй была дэманстрацыя. Наша школа таксама ўдзельнічала. Я помню, калі падышлі недалёка ад Дома Ураду, то там доўга стаялі, чакаючы сваёй чаргі прайсці каля трыбуны. Вакол былі руіны. Мы з аднакласнікамі забраліся на больш высокае месца, паглядзелі вакол. Мяне ўразіла такая карціна, што адкрылася перад маімі вачамі. У напрамку Круглай плошчы ўвесь Менск ляжаў у руінах, толькі асобныя дамы стаялі сярод іх. І калі я прыехала ў Менск у 1951 годзе вучыцца ва ўніверсітэце, то ўбачыла новы горад-прыгажун Менск, паўстаўшы з руін.

У верасні 1946 года ў Валянціна і Люсі нарадзілася дачка Галінка, якую так назваў Валя, бо лічыў, што яна "дубчык - галінка" яго дрэва.

Мала прыйшлося пацешыцца бацьку сваёй дачкой. Увосень Валянцін трапляе ў клініку. У яго было хворае сэрца. Мяне забірае да сябе зноў мая цёця. У той год я хадзіла ў сёмы клас. Прыехала я ў Ліду ў час зімовых канікул. Цёця Анастасія Паўлаўна запісала мяне ў беларускую школу № 2.

Памятаю, як я прыйшла пасля канікул першы раз у гэтую школу. Быў студзень 1947 года. Мне паказалі, дзе знаходзіцца сёмы клас. Я ўвайшла ў памяшканне. У класе было ўжо некалькі вучняў. Яны сядзелі каля печы, у якой патрэсквалі дровы, і грэліся. Калі я ўвайшла ў клас, яны дружна павярнуліся да мяне і спыталі, чаго я так рана прыйшла ў школу, бо чацвёрты клас вучыцца ў другую змену. Я была такая малая і худая, што зусім не выглядала на сямікласніцу. А я ім у адказ сказала, што я прыйшла не ў чацвёрты клас, а ў сёмы. Яны здзівіліся, але больш нічога не гаварылі. У гэтым класе я была самая малая і малодшая. Сядзела на першай парце. Калі была кантрольная работа, асабліва па матэматыцы, то ўсе прасілі, каб я ім падказвала. Калі настаўнік зразумеў гэта, то потым, калі была кантрольная работа, ён адразу ў самым пачатку ўрока мяне разам з партай адпраўляў у кут, каб я там сама пісала і больш нікому не магла дапамагчы. А ён уважліва наглядаў за мною і класам. Мне матэматыка палюбілася больш за ўсе дысцыпліны. Я любіла прыгожа, каляровымі алоўкамі начарціць геаметрычную фігуру, адзначыць у ёй усе патрэбныя па задачы лініі, а потым рашаць. Асабліва я любіла задачы рашаць па геаметрыі з трыганаметрыяй. У старэйшых класах мяне выбіралі старастай класа. Аднойчы ўвесь клас вырашыў збегчы з апошняга ўрока нямецкай мовы. Мы вучыліся ў той год на другім паверсе, выкінулі свае сумкі праз акно, а самі спакойна выйшлі праз дзверы. Помню, як я прыйшла дахаты раней і вельмі перажывала за свой учынак. А назаўтра мяне, як старасту класа, выклікалі да дырэктара і ўсё дапытваліся, хто першы прапанаваў уцячы з урока. Але я нічога не магла сказаць, бо ўсе разам неяк загаварылі аб тым, каб уцячы. Я ўвесь час паўтарала, што не ведаю. Мяне адпусцілі, але выклікалі ў школу цёцю. Яна працавала настаўніцай у другой школе. Калі яна вярнулася ад дырэктара, то трохі мяне палаяла за мой учынак. Але больш - нічога не было. Я была выдатніцай, вучылася на 4-5, і мяне больш нікуды не выклікалі.

У канцы красавіка 1947 года прыйшла звестка аб смерці Валянціна Таўлая. Мы сабраліся ехаць у Менск на пахаванне. Бацькі маёй каляжанкі Людмілы Гораш (яна вучылася раней у цёці Насці, а потым у 5 клас перайшла ў нашу школу, была на год, ці два маладзей за мяне) вельмі добра адносіліся да нас. Маці яе, калі даведалася, што

мы збіраемся ехаць на пахаванне, спякла хлеба і дала нам буханку на дарогу. Цягнікі хадзілі вельмі марудна. Калі мы прыехалі ў Менск і прыйшлі на кватэру, дзе жыў Валя з сям'ёй, усе ўжо вярнуліся з могілак. Я яго мёртвым не бачыла. Таму не верыла, што яго няма. Ён застаўся ў маіх успамінах жывым, вясёлым, усміхаючымся. Я толькі чула, што на грудзі яму палажылі чырвоную кветку. Пахавалі яго на могілках на Даўгабродскай вуліцы, побач з магілай Леначкі, малодшай дачкі Лідзіі Сяргееўны ад першага мужа яе. Ад гэтага часу я засталася адна ад усёй нашай сям'і. Гэты дзень, 27 красавіка, пакінуў на маім сэрцы яшчэ адну незажываючую рану. І цяпер праз столькі гадоў слёзы засцілаюць мае вочы… Раны майго сэрца не зажываюць. Яны застаюцца са мной і будуць крывавіць, пакуль я буду жыць…

У вёсцы Рудаўка Слонімскага раёна жыў стрыечны брат майго бацькі, Таўлай Іван Мікалаевіч. Калі мы з мужам, Уладзімірам Пятровічам, ездзілі да яго ў госці, то дзядзя Ваня апавядаў нам пра Валянціна. Вось успаміны яго.

*"Увосень 1932 года Валя прыехаў у Рудаўку і там хаваўся, спачатку ў гумне дзядзькі Мікалая. Яго сын Іван прыехаў у водпуск з ваеннай службы. Пра Валю яму ніхто нічога не гаварыў. Аднойчы яму бацька сказаў, што, калі ён пойдзе ў гумно і ўбачыць каго-небудзь, то няхай не палохаецца. Валя хаваўся там на вышках. Калі яму там надакучвала, то ён злазіў уніз і хадзіў па току ўзад і ўперад. А калі хто-небудзь заходзіў у гумно, то Валянцін адразу хаваўся, але Іван яго заўважыў і спытаў, чаму ён хаваецца. Потым яны доўга сядзелі разам і размаўлялі. Валянцін доўга не брыўся. Увесь зарос. Іван прапанаваў яму зайсці ў хату. Валя баяўся ісці туды, у хату. У Вані быў ваенны шынель і шапка польскага салдата. Ваня прапанаваў Валю адзецца ў форму польскага салдата і потым ісці ў хату. Валя адзеў шынель, шапку і ўвайшоў у яе, пайшоў у хату. Праз нейкі час і сам Ваня зайшоў у хату".*

Амаль усю зіму Валянцін хаваўся ў Рудаўцы. Спачатку ў гумне, потым у хаце, у той, дзе потым жыла цёця Ганна, Ганна Мікалаеўна. У хаце Валя хаваўся на печы. Дочкі цёці Ганны былі маленькія. Малодшай было ўсяго паўтара гадкі. Яна ўбачыла, што на печы сядзіць чужы чалавек і пачала гаварыць: "Дзядзя Валя". Ей сталі тлумачыць, што гэта не "дзядзя Валя", а "дзядзя Ваня". Раз да іх зайшоў яе дзядзька і пытае ў малой: "Дзе дзядзя Валя?" Яна адказала: "На печы сядзіць". Ёй зноў сталі тлумачыць, что гэта не дзядзя Валя, а дзядзя Ваня, што гэта яе хросны бацька. Баяліся, каб яна чужому чалавеку не выдала Валянціна.

Доўга тады хаваўся Валя, то ў гумне, то ў хаце, на печы. Тата

прынёс вялікі кажух, чорныя валёнкі, і праз некаторы час па Валянціна прыехала дзяўчына і павезла яго. Спачатку ён прыехаў у Вільню, а потым ён хацеў перайсці праз граніцу, але яго затрымалі. Цёця Вера, Вера Мікалаеўна, была сувязной у Валянціна па яго падпольнай дзейнасці. У яе была фотакартка Валянціна. Валя часта хаваўся і ў яе хаце. Але іх кватэра была пазней пад наглядам, і Валю нельга было туды хадзіць.

Аднойчы, калі паліцыя шукала Валянціна, прыйшлі да Веры Мікалаеўны. У яе шукалі яго. Хацелі нават страху ў хаце разабраць. Над сенцамі разабралі, а над хатай упрасілі, каб не разбіралі. Валю тады не знайшлі. Але, калі адыходзілі, то затрымалі Веру Мікалаеўну. Яе трымалі 6 тыдняў і ўвесь час распытвалі пра Валянціна, пыталі яе. Забралі фота Валі і пры ёй выкалалі вочы на фатаграфіі Валянціна.

* * *

Вытрымкі з пісьма маёй цёці Анастасіі Паўлаўны з успамінамі пра Валянціна.

Дарэчы, Анастасія Паўлаўна Фурсіна, у дзявоцтве Дарашкевіч, доўгія гады працавала настаўніцай у школах горада Ліды. Была настаўніцай у пачатковых класах школы № 4 па вуліцы Генерала Бяды, 4. Тры разы яе выбіралі дэпутатам.

Вось вытрымкі з яе пісьма:

*"Гэта было ў 1923 годзе. Усплывае перада мной вобраз ціхага, трошкі сарамлівага, з карымі вачыма ўсміхаючагася хлопчыка. Валя тады вучыўся ў 2-м класе польскай школы і напісаў свой першы верш аб птушках-верабейчыках. У гэтым вершы ўжо выявілася яго паэтычная даравітасць. Сэнс у тым, што вераб'і ўзімку церпяць голад і холад, але гэта часова. Прыйдзе вясна і жыццё іх палепшыцца. Трэба гэта разумець сімвалічна: народ Заходняй Беларусі перажывае цяжкую пару, але скончыцца такое жыццё з вызваленнем Заходняй Беларусі з-пад ярма прыгнятальнікаў. Гэты верш настаўніца школы пахваліла і дадала, што ў будучым аўтар яго будзе паэтам".*

А яшчэ адзін яго верш напісаны, калі В. Таўлаю было 13 гадоў.

**У нашым краі**

Свеціць сонца.
У старонцы цвітуць дрэвы, краскі.
Песні льюцца,

У даль нясуцца -
Усюды поўна ласкі .
Усюды добра…
Толькі робры
Бліскацяць няволі.
І краіна Гедыміна
Ждзе ўсё лепшай долі.

*Газета "Чырвоная змена", 2.II.1958 г."*

А вось у другім пісьме Анастасія Паўлаўна ўспамінае:

*"Однажды весной гостила я несколько дней у Тавлаев в деревне Рудавка. Валя был тогда дома, и я его видела. Он часто днем куда-то уходил. Мне говорили, что он ходит к молодежи своей деревни. Ночевал он дома. Помню, что, проснувшись утром, он всегда заводил граммофонную пластинку со словами песни: "Солнце всходит и заходит, а в тюрьме моей темно…" Всех слов этой песни я не помню. Прослушав эту песню, он вставал, одевался и после завтрака уходил…"*

І яшчэ:

*"… Недалеко от деревни Рудавка была деревня Кракотка. В Кракотке был организован спектакль для селян… По приглашению Вали я и вся семья пошли смотреть этот спектакль. Что было поставлено на сцене, не помню. Народа было много. Среди присутствующих находился шпик, как Валя выражался. Спектакль прошел спокойно.*

*Вспоминаю рассказы моей сестры Степаниды, она была женой Павла Тавлая. Рассказы о тяжелой, полной тревог, опасной и всяких лишений жизни Валентина. За ним следили польские шпики. Ему часто приходилось не ночевать дома и даже днем скрываться где-либо в поле или в лесу. А если же он иногда ночевал под крышей своего дома, то это только на чердаке. Там было одно небольшое окно, кое-что из мебели. Я один раз заглянула на этот чердак. Пол был из глины, но плотно и гладко убитый, чисто подметен. А когда Валя выходил из своего укрытия, то стучал в окно, было уже темно и поздно ночью.*

*Ещё вспоминается из рассказов сестры. Раз на квартиру Тавлая явились полицаи, искали Валентина. Он был в это время на кухне. Отец, охраняя сына, не пускал их шарить по углам квартиры. Он готов был жертвовать собой ради сына. А однажды отец привез Валентина в Лиду. Здесь, в Лиде, он жил, скрываясь. Было лето, и*

*паренек проводил время в малиннике, который рос за гумном. Он выходил из своего укрытия только, чтобы поесть и ночью немного поспать.*

*Вспоминается день страшной трагедии, ареста семьи Тавлаев…*

*…Валентина выпустили из тюрьмы позже Нины…*

*Он был тоже больной, у него была ангина, и он сильно кашлял. Лечили обоих: и Нину, и Валю. После выздоровления жена Вали забрала его в Новогрудок. Во время болезни, а он лежал у меня в квартире, его навещали товарищи.*

*Когда он был уже на свободе, всех находящихся в тюрьме, под сильным конвоем вели на вокзал. Валя с буханкой хлеба и другими продуктами, с теплой одеждой помчался на вокзал. Но там он их не нашел. Выяснилось, что эшелон с арестованными отвели далеко в тупик, а затем отправили в Минск. В Минске их еще некоторое время держали. Позже весь эшелон отправили в лагерь Освенцим. Перед их отправкой из Минска я получила записку от Павла Демьяновича, в которой он просил принять опеку над Ниной. Эту записку читал и Валентин.*

*…Валентин Тавлай был добрым, бескорыстным и честным человеком, мужественным, волевым. Он был горячим патриотом своего народа. Чутко отзывался на нужды людей. Он взял на себя заботу о малолетней сестренке, несмотря на тяжести послевоенной жизни. И еще он очень хотел найти младшего брата Шуру…*

*Вся его жизнь была направлена на борьбу за лучшее будущее белорусского народа. Этой борьбе он без остатка отдавал самого себя…"*

Пісьмо было напісана ў 1960 годзе, арыгінал і ўсё пісьмо цалкам захоўваецца ў Н.П.

*Падрыхтаваў да друку навуковы супрацоўнік літаратурнага аддзела (Дома В. Таўлая) Лідскага гістарычна-мастацкага музея Алесь Хітрун.*

## *Андрэй Брахоцкі*

# На пераломе дзвюх эпох

### *Запіскі абшарніка*[1]

### *Пераклад і каментары Леаніда Лаўрэша*

***Ад перакладчыка.***

*Сканы, надрукаваных на друкарскай машынцы 390-старонкавых успамінаў, дэпанаваных у Фондзе Асалінскіх, аплаціў для мяне мой сын Вадзім Лаўрэш, за што яму вялікае дзякуй ад усіх аматараў гісторыі, замілаваных у мінулае Лідчыны.*

*Успаміны Брахоцкага ўтрымліваюць шмат цікавай інфармацыі пра маёнткі Вераскава і Морына, пра Віленскую гімназію, у якой вучыўся мемуарыст, вучобу ў Рызе і Варшаве, дзе ён атрымліваў вышэйшую адукацыю, удзел у польска-бальшавіцкай вайне, працу аўтара ў Афрыцы ў 1920-я гг. і шмат іншага. Але я пераклаў і пракаментаваў толькі старонкі, якія датычаць Лідчыны (каля 20% машынапіснага тэксту). Прапаную асобам, якія цікавяцца гісторыяй Вераскава і Морына, звяртацца да мяне.*

---

[1] Brochocki Andrzej. Na przelomie dwoch epok: zapiski obszarnika (wspomnienie z lat 1894-1939) // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15615/II.

*Літва, мая айчына,*
*Ты як здароўе тое,*
*Не цэніш маючы,*
*А страціш - дарагое.*

Гэтыя радкі Міцкевіча застаюцца актуальнымі. Належу я да таго пакалення, якое мусіла перажыць тое самае і якому засталося толькі аналізаваць і ўспамінаць былое, без надзеі на вяртанне ў родную старонку. З розных варыянтаў эміграцыі пасля Другой сусветнай вайны, якіх было шмат, я патрапіў у віленска-наваградскую эміграцыю ў Варшаве. Зараз, на варшаўскім бруку паўстаюць перад вачамі прыгожыя часы маладосці, пражытай у Вільні, на Віленшчыне, ці ў знаных мясцінах Міцкевіча каля Наваградка.

Пасля ўпадку Барскай канфедэрацыі лёс закінуў маю сям'ю ў Літву, а вынікам удзелу продкаў у той канфедэрацыі была канфіскацыя таго, што яны мелі ў Сахачэўскім і Плоцкім (паветах) і перасяленне на ўсход, дзе праз куплю і жаніцьбу дайшлі зноў да possidentes[2]. Я належу да пятага пакалення Брахоцкіх, эміграваўшых з Мазовіі ў Літву.

У цэнтральнай Польшчы род Брахоцкіх быў вядомы з даўніх часоў і выводзіўся з роду Шчавінскіх з Плоцкай і Дабрынскай зямлі. Самыя старыя запісы сведчаць пра шлюб Шчавінскай са Шчавін з рыцарам Дэнхэймам з Рэйна. Гэты рыцар асеў у Шчавіне і атрымаў прозвішча Дэнхэйма Шчавінскага. Гэта былі часы Баляслава Крывавустага, 1123 год. Потым у запісах згадваецца каралеўскае зацвярджэнне маёмаснага стану, і таму Няцецкі[3] пачынае род з 1370 г. У гэтым годзе, пасля смерці Шчавінскага наступіў раздзел паміж сынамі: Енджэй ці Андрэй атрымаў маёмасць Брохаў і Брахіцін і пачаў падпісвацца як Брахоцкі гербу Праўдзіц (у хроніках Длугаша фігуруе як Енджэй з Браховіц). Андрэй Дэнхейм Шчавінскі-Брахоцкі зараз лічыцца заснавальнікам роду. Быў асобай выбітнай, сапраўдным рыцарам, значную частку свайго жыцця правёў у Венгрыі ў барацьбе з туркамі.

...

У Літве Брахоцкія за тую гатоўку, якую вывезлі з сабой, купілі некалькі маёнткаў і, дзякуючы карысным жаніцьбам, зноў дайшлі да багатага стану.

Самым выбітным быў палкоўнік Валенты, у маладым узросце ён збег у легіёны Дамброўскага, яго ўзгадвае Міцкевіч у "Пане Тадэ-

[2] Уладальнікаў - *Л. Л.*

[3] Вядомы польскі генеолаг - *Л. Л.*

вушы". У складзе польскага войска браў удзел ва ўсіх кампаніях Напалеона, у тым ліку і ў вайне з Расіяй у 1812 г. Узнагароджаны залатым крыжам Vittuti Militari, пасля войнаў асеў у Дзісненскім павеце. Паўстанне 1831 г. зрабіла яго вайсковым начальнікам гэтага павета. Нарэшце з корпусам Гелгуда перайшоў Прускую мяжу і жыў у эміграцыі, памёр у Каралеўцы ў 1856 г.

Яго брат Рох меў трох сыноў: Уладзіслава, Антона і Аляксандра і быў уладальнікам маёнтка Гаўя з фальваркам Морына. Гаўя дасталася старэйшаму сыну Уладзіславу, а Морына - Антону. Уладзіслаў браў чынны ўдзел у паўстанні 1831 г. - у бітве пад Грохаўскай Альшынкай пад ім забіла каня. Пасля паўстання атрымаў вырак аб канфіскацыі Гаўі, але яго ўратаваў узрост. Меў тады 19 гадоў, а законы для непаўнагадовых былі значна больш памяркоўнымі. Гаўя тады была вялікай рэзідэнцыяй, на рацэ з гэтай жа назвай, мела млын, вялікі жылы дом у парку, у доме была аранжарэя з слаўнай у ваколіцах вінагрэрняй. Аднак удзел у паўстанні 1863 г. справакаваў прымусовы продаж маёнтка. Набыў яго генерал Сахараў, ён выцяў лясы, знішчыў парк і гаспадарку, а зямлю часткова прадаў.

У часы паміж паўстаннямі дзед Уладзіслаў жыў у Гаўі, быў чынным сябрам Археалагічнай камісіі ў Вільні, з 1858 г. быў апошнім абраным маршалкам шляхты ў Наваградскім павеце[4] і скасаваў усе шынкі на тэрыторыі маёнтка, з'яўляўся прыкладным грамадска-патрыятычным працаўніком. Ён перавёў з віленскага шпіталя ў Наваградак медсёстраў, падтрымліваў грамадзянскую бібліятэку ў Наваградку і да моманту яе закрыцця Мураўёвым з'яўляўся яе ганаровым куратарам і дабрачынцам. За ўдзел у паўстанні 1863 г. быў адміністрацыйна сасланы ў Пермь. Праз час дамогся дазволу жыць у Ніжнім Ноўгарадзе, потым - у Рызе і пры канцы, у 1874 г. - у Вераскаве Наваградскага павета - маёмасці яго жонкі Гелены з Дубоўскіх. Яна добраахвотна паехала з ім у выгнанне і перапісала на яго Вераскава з фальваркам. Гэта маёмасць не была канфіскавана, бо гіпатэтычна з'яўлялася маёмасцю жонкі.

Родны брат Уладзіслава - Антон, уладальнік Морына, таксама з'яўляўся апошнім выбраным маршалкам шляхты Ашмянскага павета. Таксама быў дэпартаваны пасля паўстання 1863 г. ва Уфімскую губерню, але Морына не было канфіскавана. Невядома, чаму так адбылося, бо была гэта вялікая гаспадарка, якая перад выбухам Другой сусветнай вайны мела каля 3 000 гектараў.

Нарэшце трэці брат Аляксандр Канстанты, мой дзед, у паў-

[4] Пасля паўстання 1863 г. маршалкаў шляхты пачалі не абіраць, а прызначаць - *Л. Л.*

станні ўдзелу не браў бо быў моцна хворы і памёр праз некалькі гадоў пасля яго. Адзіным спадчыннікам усіх гэтых трох маёнткаў быў мой бацька.

...

У адрозненні ад Вераскава і Морына, Малое Мажэйкава мела добрае суседства. Межавала з маёнткам Жалудок князя Людвіга Святапалок-Чацвярцінскага, Вялікім Мажэйкавым - даўняй маёмасцю Грабоўскіх, якая пасля Першай сусветнай вайны перайшла да Верашчакаў, Ванковічаў, Мінейкаў і Раствароўскіх, маёнткам Ішчалнай, ранейшай маёмасцю Скарбак-Важынскіх, а потым моцна разгалінаванай сям'і Ляскові́чаў. У заходнім накірунку былі меншыя маёнткі пані Мейер, Скіндараў, Іваноўскіх, Кастравіцкіх, Мікульскіх і г.д. Насельніцтва тут, асабліва ў ваколіцах Васілішак, збольшага было польскім з вялікай колькасцю засценкаў і шляхецкіх ваколіц. У часы Самаабароны ці іншых канспірацый гэтыя ваколіцы далі вялікую колькасць добраахвотнікаў у польскую армію, а потым у АК, ліквідаваную падчас расійска-бальшавіцкай акупацыі НКУС-ам Сталіна.

За тры кіламетры ад Малога Мажэйкава, у Мураванцы ці Скрыбаўцах знаходзілася гатыцкая царква ... на лацінскіх табліцах, умураваных у сцены царквы, яна названа Маламажэйкаўскай. ... . У міжваенныя часы лідскі стараста п. Здановіч перадаў храм касцельным каталіцкім уладам. Пасля Другой сусветнай вайны храм быў зачынены, а потым прыстасаваны пад нейкі склад.

Другім значаным гістарычным помнікам быў тракт, які на мове тутэйшых людзей[3] зваўся "гасцінец". Гэты гасцінец праходзіў праз зямлю Малога Мажэйкава, і сам маёнтак знаходзіўся каля тракта. У часы, калі не было чыгункі, гэта дарога мела міждзяржаўнае значэнне - з Гародні ў Пецярбург можна было ехаць альбо праз Вільню, альбо гасцінцам праз Ліду, Маладзечна, Полацк і Пскоў. На тэрыторыі Малога Мажэйкава, а таксама Вялікага Мажэйкава, Ішчалны і Шчучына, гэты тракт добра захаваўся. Тракт быў пабудаваны яшчэ да падзелаў Рэчы Паспалітай і з'яўляўся помнікам дарожнай гаспадаркі. Пра яго старажытнасць сведчылі бярозы, якімі тракт быў абсаджаны - дыяметр пня ў іх быў большым за метр. Тракт меў шырыню каля ста метраў і з абодвух бакоў быў акапаны равамі, сляды гэтых равоў можна было бачыць яшчэ нядаўна. На гэтых бакавых "прысадах" (на мясцовай мове)[5] раслі два рады старых бярозаў у перамешку з іншымі дрэвамі, якія, верагодна, тут самі засеяліся. Паміж дрэў рос ядлавец, рабіна і асіна. Усе яны па восені перафарбоўваліся ў розныя колеры,

[5] Маецца на ўвазе - па-беларуску - *Л. Л.*

і тады гасцінец станавіўся, верагодна, самай прыгожай дарогай у Літве. На адлегласці каля дзесяці кіламетраў былі пабудаваны вялікія заезныя корчмы са станцыямі коннай пошты. Адна з гэтых корчмаў, за палову кіламетра ад дарогі, была ўласнасцю маёнтка Малое Мажэйкава. Яна спалена казакамі ў часы адступлення рускіх войскаў у 1915 г. Наступная карчма з поштай была ў Ішчалне. Ужо на маёй памяці тут месцілася жаночая школа, якой ажно да часу прыходу бальшавікоў у 1939 г. кіравала п. Марыя Лясковіч.

Калі я быў малады, старыя апавядалі, што на гасцінцы раней быў вялікі рух - у абодвух накірунках ехалі конныя пары, чацвёркі, шасцёркі. Тракт страціў значэнне толькі, калі была пабудавана чыгунка праз Гародню і Вільню. А пабудова чыгункі Сядлец - Полацк і далей на Балагое і шашы Ліда - Гародня канчаткова перавяла гасцінец у шэраг "гмінных дарог" з лакальным значэннем. Рух скараціўся і ездня зарасла травой, толькі старыя бярозы паказвалі, дзе праходзіў гістарычны гасцінец, які стаў алеяй для шпацыраў.

Падчас наведвання нашага краю прэзідэнтам Масціцкім, яго аўтамабіль скіраваўся на гасцінец. Прэзідэнт быў зачараваны гэтай дарогай і казаў, што гэта самая прыгожая дарога, якую ён калі-небудзь бачыў у сваім жыцці. Потым, калі бываў недалёка, прасіў пракладваць трасу праезду, каб яшчэ раз праехаць гэтай алеяй.

Быў час калі гасцінцу пагражала небяспека. Перад Першай сусветнай вайной, генеральны штаб французскай арміі звярнуў увагу расійскага кіраўніцтва на тое, што Расія мае мала дарог у заходнім кірунку. Было вырашана пабудаваць чыгунку Балагое - Сядлец і шашу Ліда - Гародня. Па першым праекце пабудовы шашы, планавалася рэканструкцыя старога гасцінца. Гэта было бы танней і хутчэй, бо не вымагала купляць зямлю, насыпаць грэблі і г. д. Але запратэставаў расійскі генеральны штаб, бо па яго плане гасцінец адводзіўся для руху кавалерыі, а шаша павінна была ўзяць рух пяхоты, артылерыі і абозы. Таму шашу пабудавалі на роўнай адлегласці за некалькі кіламетраў ад гасцінца. Гэта і ўратавала прыгожы стары тракт.

Падчас Другой сусветнай вайны небяспеку гасцінцу стварыў вялікі аддзел калмыкаў і іншых азіятаў, якімі кіравалі нямецкія афіцэры. Аддзел гэты стаяў у Вялікім Мажэйкаве і высякаў на дровы бярозы ўздоўж старажытнага тракту.

За шэсць кіламетраў ад Малога Мажэйкава, таксама на гасцінцы, знаходзіўся самы бліжэйшы маёнтак Вялікае Мажэйкава, былая рэзідэнцыя Караля Хадкевіча, у якой, падобна, гетман часта жыў. Мясцовае паданне цвердзіла, што ў маёнтку былі выкапаны дзвюмя тысячамі палонных туркаў ці татараў два вялікія ставы з выспай пася-

рэдзіне. Як памяць пра пераможныя войны да высокіх мураваных слупоў агароджы былі прымацаваны каменныя ядры ад гарматаў. Насупраць галоўнай брамы стаяў мураваны палац з калонамі, а з двух бакоў вялікай плошчы стаялі дзве доўгія афіцыны з лістоўніцы, якія мелі падвойны дах, у афіцынах меліся стайні на дваццаць коней кожная. Абодва канца гэтых афіцын былі прыстасаваны для жаўнераў прыбочнай харугвы гетмана. У 1915 г. казакі спалілі палац і афіцыну. Засталася толькі адна афіцына, у якой пасля Першай сусветнай вайны жылі новыя гаспадары - Верашчакі з Наваградчыны.

За палацам меўся вялікі парк з кіламетрамі алей, пасаджаных такім чынам, што іх верхнія галіны сыходзіліся і рабілі над алеяй скляпенне. Быў гэта малы Шэрбур, але мажэйкаўскія алеі былі нават прыгажэйшымі за Шэрбурскія. Ці ўшанавалі саветы гэтыя здабыткі - не магу спраўдзіць, край перайшоў да камуністычнай улады, якая робіць усё магчымае каб знішчыць сляды даўняй ... культуры.

Гістарычным дваром была таксама Ішчална - былая маёмасць Давойнаў, Валяў, князёў Саламарэцкіх, Скарабак-Важынскіх і нарэшце Лясковічаў, якая мела ўсе прыкметы вялікапанскай рэзідэнцыі. Тут начаваў Аляксандр I і дараваў гаспадарам каштоўныя падарункі за іх музычныя канцэрты. Тут ацалелі каштоўныя архівы маёнтка, яны перажылі Першую сусветную вайну, бо скарбец з дакументамі быў па-майстэрскі схаваны, скарбец замуравалі ў суседнім будынку. На жаль, гэты не перажыў архіў Другой сусветнай вайны падзяліўшы лёс кніг "буржуазнай літаратуры". Ацалела толькі каштоўная карабеля[6] , якую згодна з тастаментам апошняй уладальніцы маёнтка Марыі Скарбак-Важынскай, атрымаў маршал Пілсудскі і якая зараз знаходзіцца ў польскім музеі ў Амерыцы.

Малое Мажэйкава мела шмат польскіх суседзяў, такога не было ў ваколіцах Вераскава і Морына.

...

Перад Першай сусветнай вайной права ўласнасці адчувалася святыняй, якую ўсталявалі на вякі, і падданы люд шанаваў уладальніка, бо не дапускаў нават думкі, што можа быць інакш. Мы ў сваёй маладосці нават не чулі пра магчымасць якіх-небудзь змен у гэтым парадку. Нас звалі панічамі, але мы бавілі час з дзецьмі работнікаў, на святы арганізоўвалі супольную хваінку і г. д. Ніхто з нас не чуў слова "абшарнік", мы лічылі, што зямлі, якую меў бацька, было не шмат і трэба мець больш - гэта дало б нам большыя магчымасці і новыя паляўнічыя эмоцыі.

[6] Старая шляхецкая шабля - *Л. Л.*

...

Пасля 1905 г. у кожным маёнтку мой бацька меў настаўніка, які выкладаў у тайнай польскай школе. Ніхто тых школ не выкрываў, і ўсё было добра. Мой бацька ўдзельнічаў у розных справах, як напрыклад, у пабудове польскага тэатра ў Вільні як "акцыянер". Толькі post factum мы даведваліся, што мой бацька браў удзел у дэлегацыі "дваран", якія на станцыі Ліда віталі цара Мікалая II, калі той праязджаў чыгункай. Тады мы не ведалі, што маршалак шляхты Грабоўскі адмыслова мабілізаваў ваколічную заможную шляхту, байкот гэтага "вернападданіцкага чыну" мог прывесці да рэпрэсій, уключаючы канфіскацыю маёнтка.

Пра назву "абшарнік" даведаўся я значна пазней, калі патрыятычны вокліч "Гайда на Сапліцаў" (Hajze na Soplicow) быў зменены на "Гайда на абшарнікаў".

...

У Мажэйкава  мой бацька пераехаў (з Вераскава - *Л.Л.*) за некалькі гадоў да выбуху Першай сусветнай вайны.

...

Калі я вярнуўся ў Малое Мажэйкава (у канцы 1920-х гг. - *Л.Л.*), мой бацька жыў тут цалкам адзінока, гэта тычылася восені, зімы і вясны. На лета да яго прыязджалі мае сёстры, бо зімой яны звычайна жылі ў Варшаве. Таксама і я перад заканчэннем політэхнікі прыязджаў звычайна на святы і летам, дастаткова часта адведваў братоў у Морыне і Вераскаве. Пасля атрымання дыплома і ўладкавання на працу ў Краёвым меліярацыйным таварыстве і Дзяржаўным сельскагаспадарчым банку, я стаў рэдкім госцем у Мажэйкаве.

Мой бацька пасля заключэння Рыжскай дамовы заняўся Малым Мажэйкавым, а Морына і Вераскаў пакінуў маім братам. Найбольш цяжкі аб'ект для гаспадарання і адміністравання быў Вераскаў, расцягнуты на 20 кіламетраў, з вінакурняй, млынам і тартаком. Да нармальнай чыгункі было 40 км, а да пошты ў Любчы - 10 км. Усе дарогі там былі дрэнныя, а вясной па дарогах наогул немагчыма было праехаць.

У Наваградку атабарылася ваяводства і іншыя галоўныя ваяводскія ўправы. Горад Наваградак, які меў некалькі тысяч жыхароў, пачаў расці, але меў злучэнне з чыгункай у Наваельні толькі праз вузкакалейку, пабудаваную перад Першай сусветнай вайной. Цягнік па ёй хадзіў досыць рэдка, дарога гэтая ішла праз прыгожыя лясы, якія раней

не бачылі сякеры, у лясах расло шмат бяроз, дубоў, елак і соснаў ... . Вузкакалейка мела свае звычаі, норавы і жарцікі, цягнік часта злятаў з рэек і не вытрымліваў раскладу руху - адпраўляўся ці са значным спазненнем ці раней, чым трэба. Праз нейкі час ваяводскія ўлады гэта ўнармавалі. Але ва ўяўленні працаўнікоў, іхняя вузкакалейка заўсёды мела адмысловыя правы і засталася незалежнай ад уладаў.

Калі я неяк ехаў з Наваельні да Навагрудка, машыніст заўважыў падраненую лісу, якая бегла з аднаго пералеску ў другі. Ён імгненна спыніў цягнік, і машыніст з кандуктарам пабеглі ў поле лавіць лісу. Ліса яшчэ мела трошкі сілаў і ўцякла, але гэтая пагоня заняла цэлую гадзіну. Потым брыгада цягніка працяглы час яшчэ абмяркоўвала свае памылкі, з-за якіх ліса ўцякла, і толькі пасля сваркі са знерваванымі пасажырамі, вырашыла ехаць далей. Калі я вярнуўся ў 1931 г. у Малое Мажэйкава, камунікацыя Наваельня - Навагрудак упарадкавалася да такой ступені, што можна было мець надзею, выехаўшы з Навагрудка, не спазніцца на цягнік у Наваельні. Наогул знайшлася і замена вузкакалейцы. Дарафейчык, шафёр па спецыяльнасці, купіў аўтобус і рэгулярна, хутка і выгадна пачаў вазіць пасажыраў. Бізнес хутка развіваўся, і праз нейкі час Дарафейчык ужо меў некалькі рэгулярна курсуючых аўтобусаў. На вузкакалейцы застаўся толькі грузавы рух, але яна заўсёды не давала забыць пра сябе гудкамі, якія наводзілі на думку, што чым меншы лакаматыў, тым гучнейшы гудок.

У Наваградскім ваяводстве камунікацыі паступова палепшыліся. Дарогу ад Навагрудка да Уселюба выбрукавалі, а з Навагрудка да Ліды наогул пабудавалі шашу. Я часта карыстаўся гэтымі дарогамі, бо меў уласнага "фарда", які значна палегчыў шлях да Вераскава. Але не зімой, бо тады гэтыя дарогі заўсёды былі занесеныя снегам і цалкам заблакаваны для аўтамабіляў. А вясной і восенню камунікацыя з Вераскавым абцяжарвалася тым, што Навагрудак знаходзіўся на вышыні 160 м над узроўнем мора і вясна з восенню працягваліся там даўжэй, чым у іншых мясцінах. У дадатак, узгоркі пад Навагрудкам былі гліністыя, таму восенню і вясной бакавыя дарогі хутка размакалі і аўтамабіль мог ехаць толькі па шашы. Шмат што ўказвала на неўдалы выбар Навагрудка ў якасці сядзібы ваяводскіх уладаў, але рамантычныя ўплывы Міцкевіча былі мацнейшымі, і цэнтр ваяводства заставаўся тут да 1939 г. ... .

З Вераскава да Навагрудка ехалі праз Уселюб, дзе меўся касцёл і парафія, а потым з'явілася пошта. Ад Уселюба дарога ішла праз прыгожыя дубовыя і сасновыя лясы з дамешкам лісцяных дрэў ... . За пяць кіламетраў ад Навагрудка, у даліне, дзе цякла малая рэчка, стаяў

малы водны млын, які часцей не працаваў з-за недахопу вады ў ставе. Убаку стаяла маленькая цэркаўка, пра якую легенда казала, што ў ёй пахавана Гражына Міцкевіча. Мясціны называліся "Літоўка" і, падобна тут, адбылася бітва, апісаная ў паэме "Гражына". Водгукі старадаўніх паданняў яшчэ жылі ў гэтых мясцінах. Пасля Першай сусветнай вайны цэркаўкі ўжо не было, млын сапсаваўся, а стаў спусцілі. Потым пабудавалі шашу, гару зраўнялі - гэтак вайна і культура знішчылі даўняе аблічча мясцовасці, аблічча, якое, пэўна, часта бачыў Міцкевіч.

Мой старэйшы брат Аляксандр закончыў юрыспрудэнцыю і пасля вайны працаваў суддзём, на пачатку ва Уселюбе, а потым перасяліўся ў Морына і працаваў у Іўі. Бацька вырашыў, што за Вераскава будзе адказваць малодшы на тры гады брат Станіслаў, выпускнік сельскагаспадарчых студый у Кракаве. ...

Пасля заканчэння вайны браты былі ўжо жанатыя - старэйшы Аляксандр з паннай Геленай О'Рурк, а малодшы Станіслаў з паннай Зоф'яй Коньчы. ...

Вырашыўшы з Вераскавым і Морынам, мой бацька пакінуў сабе Малое Мажэйкава, якое заўсёды любіў больш, бо тут нарадзіўся, вырас і жыў падчас Першай сусветнай вайны. Жыў ён з маёй мачахай Кацярынай з Балінскіх, з якой ажаніўся калі мне было 7 ці 8 гадоў. Падчас вайны і пасля яе мае сёстры жылі ў Варшаве, дзе працавалі ў амерыканскім Чырвоным крыжы і прыязджалі толькі на лета.

Першыя гады пасля Першай сусветнай вайны былі вельмі цяжкімі, бо ўсе будынкі немцы перарабілі на стайні і трэба было іх зноў перарабляць пад патрэбы гаспадаркі. Ворная зямля была запушчана і зарасла, бо стала пашай. Зямлю цяжка было ўзняць, бо не было нават добрых коней і не хапала абаротных грошай на развіццё гаспадаркі. Бацька падзяліў раллю, купіў трактар фірмы "Фардзон" і з цяжкасцю пачаў араць. За некалькі гадоў падняў усю ворную зямлю. Тады бацька меў ужо больш за 60 гадоў і не мог прызвычаіцца да пасляваенных умоваў жыцця. А жыццё падкідвала штораз новыя цяжкасці і неспадзеўкі. Вялікай праблемай была зямельная рэформа, прынятая Сеймам і паступова выкананая. З-за рэформы, немагчыма было добраахвотна дзяліць зямлю, калі было гэта неабходна. Мой бацька падлічыў, што каб выхаваць траіх дзяцей і даць ім вышэйшую адукацыю, неабходна мець мінімальна 300 га добрай зямлі пры ўмове, што гэта зямля будзе рацыянальна выкарыстоўвацца. Даход з зямлі заўсёды быў невялікі, а інвестыцыі ў гаспадарку немагчымыя з-за агульнага недахопу капіталу. Шэсць гадоў вайны цалкам спустошылі ўсе запасы гатоўкі, адбудова дзяржавы вымагала падвышэння падаткаў, і таму будучыня

сельскай гаспадаркі была няпэўнай, тым больш, што за першай аграрнай рэформай магла прыйсці другая, а потым і трэцяя - у залежнасці ад таго, хто меў большасць у Сейме. Прыватнага крэдыту цалкам не было, а маладая дзяржава толькі абяцала дапамагчы сельскай гаспадарцы. Невялікія дзяржаўныя пазыкі, прызначаныя сельскай гаспадарцы, былі даступныя толькі для дробных уласнікаў. Таму мы мелі вельмі малыя фінансавыя магчымасці, а дэмагогія ўраўнілаўкі ў прэсе і Сейме выключала асігнаванне большых сум для заможных гаспадароў.

Мой бацька неяк адужаў першыя цяжкасці - зaараў зямлю і засеяў яе, вёў гаспадарку вельмі экстэнсіўна, пазбягаў выдаткаў, выкарыстоўваў магчымасць адпрацовак і іншых дробных паслуг з боку сялян. Не меў ніякіх даўгоў, упарта не жадаў падпісваць вэксалі, плаціў падаткі ва ўстаноўленыя тэрміны, надаючы ім перавагу перад іншымі выдаткамі. Але тут спаткала яго неспадзяванка якую не чакалі. Падатак з прыбытку, які тэарэтычна плаціўся з рэальнага даходу, вымагаў здаваць рахункі, якія кантралявалі бухгалтары скарбовых управ. Мой бацька лічыў, што ўсё робіць дакладна, бо патрабаваў дакладных рахункаў ад усіх, з кім меў справу. Пасля вайны таксама ўсё запісваў у розныя сшыткі і нататнікі. А бухгалтары патрабавалі вядзення бухгалтэрыі згодна з законам, які меў пэўныя патрабаванні да гэтай справы ў маёнтках і наогул у сельскай гаспадарцы. Закон быў заблытаны і яго мэтай з'яўлялася павелічэнне даходаў дзяржавы праз забарону спрошчанай бухгалтэрыі і вызначэнне падатку ад плошчы маёнтка. Бухгалтар скарбовай управы рахункі майго бацькі не прыняў, бо яны не адпавядалі закону. Гэта моцна пакрыўдзіла бацьку - ён быў перакананы, што ўсё робіць правільна. Моцна перажываў, мелася небяспека, што захварэе, у скарбовую ўправу больш не ездзіў, а калі гэта было патрэбна, пасылаў кагосьці з нас. Аднак, падаткі і далей плаціў у тэрмін. Калі я прыехаў у Мажэйкава, ніякай запазычанасці ў падатках не мелася - усё было ў парадку.

Мой бацька не мог прызвычаіцца да новых стасункаў. Новая польская адміністрацыя здзіўляла яго сваёй непрадказальнасцю. Вышэйшыя чыноўнікі жадалі ўсё адразу пабудаваць і не надта разумелі, што іх пасляваенныя магчымасці вельмі абмежаваныя. Прыкладам гэтага можа быць ініцыятыва чыноўнікаў ваяводства ў Навагрудку, дзе "радасная творчасць" чыноўнікаў пастанавіла пабудаваць супрацьсухотны санаторый для працаўнікоў ваяводства. Выбралі для гэтага сасновы лес на палове шашы паміж Наваельняй і Дзятлавам, лес рос на пяску з нізкім узроўнем грунтавых водаў. Знайшлі нейкія грошы, назапашаныя ў іншых галінах ваяводскай гаспадаркі, зрабілі адпавед-

ны праект і пачалі будоўлю. Аднак грошай хапіла толькі на тое, каб мураваныя будынкі накрыць дахам, пасля гэтага грошы скончыліся. Усялякія намаганні знайсці грошы, каб скончыць будоўлю закончыліся крахам - дзяржаўная гаспадарка знаходзілася ў жаласным стане, падаткі выплачваліся нерэгулярна, і пры гэтым трэба было будаваць самае неабходнае. Паўсюдна бракавала грошай, стабілізацыя злотага патрабавала дадатковых ахвяр, і закончыць санаторый не было ніякай магчымасці. У ваяводскай управе з'явілася думка здабыць гатоўку праз добраахвотныя складкі самых заможных жыхароў ваяводства. Аднак ідэя не карысталася папулярнасцю ў грамадстве. Ніхто не меў гатоўкі, бо нават дзіцячыя дамы часта фінансаваліся праз ахвяраванне ці збор складак на вуліцах гарадоў. ...

І ў Наваградскім ваяводстве пастанавілі сабраць складкі. Тэарэтычна, інвестарам санаторыя было ваяводства, і чыноўнікі вырашылі, што вышэйшыя з іх будуць ездзіць да заможных грамадзян і прасіць зрабіць неабходныя ўзносы. На лідскі павет быў дэлегаваны віца-ваявода Параф'яновіч, які папярэдзіў старасту Сяляву ў Шчучыне пра дні свайго прыезду. Стараста выбраў некалькі больш заможных землеўладальнікаў, сярод якіх быў і мой бацька. Стараста папярэдзіў усіх пра дзень і гадзіну прыбыцця віца-ваяводы, паведаміў і пра мэты прыезду. Мяне ў Мажэйкаве не было, і таму падаю падзеі з расказу старасты Сялявы.

У прызначаны дзень у Мажэйкава прыехаў віца-ваявода Параф'яновіч разам з старастам Сялявай і яшчэ некалькімі чыноўнікамі. Гасцей у салоне чакаў мой бацька, апрануты ў чорны сурдут да калень, які ён захоўваў з даваенных часоў, бо зараз такіх ужо не насілі і візітным строем стаў фрак. Стараста Сялява потым распавядаў, што як убачыў майго бацьку ў гэтым сурдуце, дык адразу зразумеў, што будзе нешта нядобрае. Пасля прывітання і некалькіх гжэчных фраз усе селі, і віца-ваявода ў кароткай прамове растлумачыў мэту свайго візіту. Выслухаўшы, мой бацька ўстаў, абапёрся рукамі аб стол і сказаў: "Для ўсіх нас - вялікі гонар прыняць свайго віца-ваяводу, бо мы лічым, што неабходна паважаць польскія ўлады. І таму мы лічым, што найвышэйшыя чыноўнікі ў ваяводстве не павінны ствараць сабе сітуацыі, у якіх яны могуць спаткаць адмову. На што нехта з чыноўнікаў адказаў: "Таму мы едзем толькі туды, дзе не чакаем адмовы". Мой бацька мусіў адказаць: "Каб адмовы не было, дык ахвярую на гэту мэту сто злотых". Відавочна, госці спадзяваліся на значна большыя грошы, усе разгублена замаўчалі і потым да гэтай тэмы больш не вярталіся. Пасля халоднага развітання віца-ваявода хутка з’ехаў. Праехаўшы на сваім аўтамабілі каля дзесяці кіламетраў, загадаў спыніцца і спытаў старасту,

які ехаў з ім: "Куды мяне пан прывёз?"

Не ведаю як ішоў збор грошай у іншых паветах. Верагодна, з гэтага была адна карысць - улады даведаліся, што людзей, якія маюць гатоўку, ва ўсім павеце можна падлічыць на пальцах, і грамадзяне - гэта не тая крыніца, з якой можна чэрпаць поўнымі жменямі. Маю інфармацыю, што ў Лідскім павеце віца-ваявода больш нікуды не ездзіў. Суседзі-землеўладальнікі яшчэ больш сталі паважаць майго бацьку.

Некалькі гадоў пасля вайны былі вельмі неўраджайнымі, нават бульбы накопвалі мала. У год майго прыезду ў Малое Мажэйкава, ураджай бульбы таксама быў не самы лепшы, але пры ашчадным карыстанні, пасля зімы застаўся запас, які можна было прадаць у горадзе, дзе адчуваўся недахоп бульбы. Калі ўвесну прыйшоў час садзіць бульбу, дык аказалася, што ў вёсках навокал сяляне за зіму ўсё з'елі і не маюць, што садзіць. Замест таго каб прадаць, мой бацька вырашыў размеркаваць сваю бульбу сярод сялян па асенняму кошту ці за адпрацоўкі. Першымі бульбу атрымалі тыя сем'і, якія хадзілі на працу ў маёнтак як падзёншчыкі. Астатняя бульба была прададзена толькі тым вёскам, якія ў часы прыгону належалі Малому Мажэйкаву. Запас бульбы хутка разышоўся, а сяляне з дальніх вёсак спрабавалі даказаць, што раней былі мажэйкаўскімі падданымі. Малому Мажэйкаву ў часы паншчыны належала пяць вялікіх вёсак, сяляне якіх адмаўлялі ў гэтым гонары іншым сялянам. Па ваколіцах хутка разышлася вестка, што "пан Брахоцкі прадае бульбу толькі сваім падданым". Гэта нават дайшло да лідскага старасты, які зацікавіўся што за паншчына адрадзілася ў Малым Мажэйкаве.

Старыя звычаі пераЖылі вякі, і мой бацька пасля вайны стараўся іх прытрымлівацца. Самыя бедныя сяляне былых мажэйкаўскіх вёсак на Вялікдзень атрымлівалі на булкі па некалькі кілаграмаў пшанічнай мукі. Пасля вайны пшаніцы не было наогул, але бацька падтрымліваў звычай і раздаваў муку з сваіх невялікіх запасаў. Бацька меў добрую памяць, людзей з ваколіц добра ведаў і неяк падчас раздачы мукі, заўважыў, што ў чарзе стаіць уладальніца найвялікшай у акрузе гаспадаркі. Звярнуўся да яе, запытаў чаму яна стаіць у чарзе, бо калі ўсім даваць, дык трэба мець вагон мукі, на што атрымаў адказ: "Дурны дае, а разумны бярэ". Павярнулася і пайшла. Пасля гэтага, на наступны год бацька муку ўжо не раздаваў.

Пасля Афрыкі ў Мажэйкава я прыехаў на "фардзе", які раней купіў па аказіі. Мой аўтамабіль, як і большасць людзей яго пакалення, бацька не любіў. Мой старшы брат таксама ў Морына меў "фарда", які яму таксама добра скарачаў адлегласці. Але пакупку мой бацька

не ўхваліў, бо конь для яго быў усім, ён меў брычку і параконную "лінейку", такую, якую ўжывалі ў Інфлянтах, і гэтага яму цалкам хапала. Брычку купіў сабе пасля вайны і нейкі час быў адзіным уладальнікам брычкі ў павеце. Тады нават большыя абшарнікі, як напрыклад, кн. Чацвярцінскі з Жалудка, ці таксама кн. Друцкі-Любэцкі са Шчучына брычак яшчэ не мелі, і пакупка брычкі для Малога Мажэйкава была вялікім выдаткам, пра які шмат гаварылі. Дарэчы, вытворчасць брычак і вазоў пасля вайны ці яшчэ не аднавілася ці былі страчаны навыкі іх вырабляць. На майго "фарда" бацька паглядзеў "крывым вокам", але, паколькі я ўжо яго купіў, быў прымушаны пагадзіцца. Але ў нейкі дзень не вытрымаў і сказаў: "Але пабудаваць гараж не дазволю, бо гэта сапсуе архітэктуру маёнтка". Адказ, што гараж не патрэбны, бо даўняя вазоўня, у якой да вайны стаяла некалькі карэт на колах і на санках, некалькі параконных брычак, санак і некалькі аднаконных вазоў, цалкам мяне задаволіць. Пасля вайны вазоўня была цалкам спустошана, усё з яе недзе згінула, тут месціўся склад дошак, і хапала месца на некалькі аўтамабіляў. Гэта здзівіла бацьку, і ён у нечым пачаў паважаць "форд", які можна захоўваць у тым жа месцы, дзе і брычку. Але бацька не ставіўся цалкам дрэнна да ўсіх машын. Бо пасля вайны коней не хапала, а ралля зарасла пустазеллем да такой ступені, што поле зноўку можна было разараць толькі вельмі моцнымі коньмі. Тады ён купіў трактар "фардзон". Трактар выконваў гэтую працу вельмі добра, а часам і лепей за каня. З таго часу "форд" і "фардзон" стаялі разам у вазоўні, і мой "форд" атрымаў права грамадзянства да такой ступені, што на вялікія адлегласці - у Ліду ці Шчучын бацька нават выязджаў разам са мной у якасці шафёра.

...

Калі ў траўні 1931 г. я прыехаў у Мажэйкава, мой бацька быў цалкам самотным. Сёстры яшчэ не прыехалі на лета, гаспадаркай кіраваў эканом Бернатовіч, які не меў агранамічнай адукацыі, але меў вялікую практыку. Удзел бацькі ў справах быў больш тэарэтычны, бо гаспадарка вымагала моцнай рукі, а ён ужо не меў здароўя. Я не надта добра ведаў сельскую справу, але бацька ўсю гаспадарку аддаў мне і на мае пытанні заўжды казаў адно і тое - рабі як жадаеш. Я ведаў, што калі я пачну рабіць глупства, дык ён не змаўчыць. Таму не ўводзіў нічога новага, трымаўся практыкі папярэдніх гадоў, не займаўся інтэнсіфікацыяй гаспадаркі. Гэта быў травень, вясеннія працы заканчваліся, і трэба было рыхтавацца да ўборкі, але не хапала прыладаў і работнікаў. Гаспадарка ішла наперад, пханая сілай бязладдзя.

Над усімі віраваў сусветны эканамічны крызіс[7]. Мой бацька ўтрымліваў кошт рабочага дня, і рабочыя былі задаволены - за свой заробак яны маглі купіць значна больш, чым да крызісу[8]. Суседзі цвердзілі, што згодна з кан'юнктурай трэба паменшаць заробак работнікам, але бацька адказваў, што яны і так не шмат зарабляюць, і ён не будзе паніжаць заробкі. Да восені гэта спрэчка трохі сціхла, але ўвосень зноў упалі кошты сельскай прадукцыі. За жыта немагчыма было ўзяць болей за 12-13 злотых за 100 кілаграмаў, астатняе таксама патаннела ці наогул не знаходзіла пакупніка. Лета неяк працягнулі, а ўвосень мы не змаглі разлічыцца з работнікамі. У касе было пуста. Работнікі ўзгадвалі тыя шчаслівыя дні, калі кожны першы дзень месяца можна было атрымаць заробак, грошы ніколі не затрымліваліся і заўсёды меліся ў кішэні. Я тады не меў клопату - адпрацаваўшы ў бюро меў вольны час для сябе. Даведаўся я, што быць абшарнікам вельмі цяжка і клапатліва, цяжэй, чым інжынерам, які я працаваў раней.

На мае праблемы з належнай аплатай работнікаў мой бацька не звяртаў увагі, а магчыма і не ведаў пра гэта. Продаж лесу бацька пакінуў за сабой, і праз нейкі час я паведаміў яму, што без пэўнай субсідыі прыйдзецца прадаваць збожжа падчас самых нізкіх, восеньскіх, коштаў на яго. Перамовы з бацькам прайшлі добра, і праца работнікаў была аплачана, я мог жыць спакойна, але ў кішэні ў мяне была вялікая пустка.  Падаткі таксама былі заплачаны, і ўсё ішло пастарому. Мой бацька заняўся хатняй драбязой, кшталту ўкладання дзённых меню для кухні. На пачатку гэта яго забаўляла, але хутка знудзіла, і ад гэтай справы потым застаўся толькі нататнік у каторым ён для кухаркі запісваў стравы - усё было запісана акуратна і з вызначэннем коштаў. У нататніку было сем меню абедаў і што-небудзь змяніць кухарка магла толькі пад асабістую адказнасць. Таксама ён ўрэгуляваў справы жабракоў, якія час ад часу заходзілі да нас - кожны жабрак атрымліваў абед і пяцьдзясят грошаў, але для гэтага павінен быў паказаць свае дакументы ці хоць нейкую паперу, і яго прозвішча запісвалася ў адмысловы сшытак. Пасля выканання гэтай фармальнасці жабрак мог ісці далей. Калі камендант павятовай паліцыі

[7] Сусветны эканамічны крызіс 1929 - 1935 гг. - *Л. Л.*

[8] Падчас крызісу ў Польшчы ў фінансавай сістэме назіралася дэфляцыя, злот падаражэў у адносінах да долара, цэны на ўсе тавары знізіліся, заробкі таксама знізіліся. Асабліва моцна, у два разы, патаннелі харчовыя тавары, што моцна ўдарыла па сельскай гаспадарцы, бо селянін, каб купіць прамысловы тавар, павінен быў прадаць у два разы болей сваіх тавараў. Але калі наёмны работнік захоўваў ранейшы памер заробку, атрымлівалася, што яго заробак стаў у два разы вышэй. - *Л. Л.*

даведаўся пра гэта, дык вельмі пахваліў майго бацьку "за дакладную рэгістрацыю жабракоў, якія прыходзяць".

У Малым Мажэйкаве тры дні на год бывалі тлумнымі і людньмі. Гэта свята Божага нараджэння, Вялікдзень і імяніны майго бацькі 27 чэрвеня. Тады збіралася ўся сям'я, і прыязджалі шматлікія госці. У канцы чэрвеня звычайна стаяла добрае надвор'е, пасля абеду ў нас звыкла квітнеў брыдж, а з раніцы - тэніс. І брыдж, і тэніс былі папулярнымі гульнямі ў ваколіцах, і таму партнёраў не бракавала.

Адразу пасля імянін наступала жніво - час для аграрніка вельмі важны, і кожны стараўся сабраць збожжа без неспадзяванак. Дажджы маглі папсаваць усе надзеі на хуткае жніво і забраць час для падрыхтоўкі раллі пад азімыя. Дзівам аднаго лета ў маёй памяці застаўся не занатаваны ў мясцовых хроніках моцны снегапад. Раніцай 2 чэрвеня надышла цемра, гарызонт закрыла цёмная хмара, і пачаў падаць мокры снег, які накрыў зямлю слоем у 10 см. Пад цяжкасцю снегу палягло ўсё збожжа. Калі хмара прайшла, сонца асвяціла белы пейзаж, але дрэвы хутка ачысціліся ад снегу і дзіўна зелянелі над белымі палямі. Сяляне страшна перапужаліся і пачалі абтрасаць і паднімаць жыта. Але праз некалькі гадзін сонца растапіла снег, і збожжа ўзнялося. Колас быў яшчэ лёгкім, бо жыта толькі пачало наліваццa. Таму катастрафічная падзея не нарабіла шкоды.

Пасля асенніх работ у полі я пачаў вывучаць магчымасці зімовага палявання. Мой бацька не меў жылкі паляўнічага і арганізоўваў паляванні толькі для гасцей. Палявалі часцей за ўсё на зайцоў, а пра вялікага звера чулі толькі ад іншых ці бачылі яго сляды. А магчымасці былі вялікія, асабліва ў Морыне ці Вераскаве. Мажэйкава мела менш лесу, але і тут можна было паляваць на дзікоў і ваўкоў, якія не часта, але заходзілі ў наш лес. Маламажэйкаўскі лес быў ціхі і спакойны, дробныя звяры не адчувалі тут небяспекі. У некаторых частках лесу раслі старыя дубы і сюды па жалуды прыходзілі дзікі, яны ж на сялянскім полі каля лесу шукалі бульбу. З думкай пра ваўкоў я падрыхтаваў шнуры з каляровымі шматкамі і чакаў снегу. Акурат падчас Божага нараджэння выпаў снег, і ляснік даў знаць, што чатыры ваўкі з'явіліся ў нашым лесе. Шнуры не дазволілі ўцячы ваўкам у непажаданым кірунку, і мы ўпалявалі двух ваўкоў. Потым палявалі на зайцоў. Мелі добрыя вынікі, і паляванне прызналі паспяховым, мае акцыі ў вачах бацькі пайшлі ўверх.

Маім наступным паляўнічым вычынам было здабыццё дзікага вепрука, якога знайшлі ў маладым сасняку. Ён ляжаў блізка каля дарогі, але не быў бачны з фурманак, якія праязджалі па ёй. Запрасіўшы суседзяў - Міхала Верашчаку і Тадэвуша Шыманскага з

Вялікага Мажэйкава, я арганізаваў паляванне ў некалькі стрэльбаў. Разам з леснікамі мы аблажылі малады лес. Па слядах была зразумела, што гэта вялікі дзік. Суседзяў паставіў з боку старога і густога лесу, куды вяла сцежка, а сам стаў у маладым лесе, які межаваў з сялянскімі палямі. Дапускаў, што дзік пойдзе ў лес, а не ў голае поле. Аднак ледзь загоншчыкі з малым сабакам рушылі, як праз хмызняк яны ўбачылі агромністага дзіка, які пабег прама на мяне. Калі быў за некалькі дзясяткаў крокаў, я, каб змусіць дзіка змяніць кірунак, таксама пачаў рухацца. Хацеў пацэліць яму ў бок. Стрэліў і заўважыў, што патрапіў яму ў нагу. Тады я пабег за ім і хутка заўважыў на снезе плямы крыві. Дзік накіраваўся ў стары сасновы лес з густым падлескам. Стралкі і загоншчыкі прыбеглі з усіх бакоў і пасля кароткай нарады, захоўваючы неабходную асцярожнасць, рушылі ў стары лес. Праз сто крокаў мы знайшлі вялікага дзіка, які яшчэ трохі мог рухацца, але ўжо быў амаль што цалкам бездапаможны. Выстрал быў дакладным - пасля яго дзік доўга бегчы ўжо не мог. Потым даведаліся што звер важыў 174 кг, меў вялікія клыкі, з якіх адзін быў раней паламаны. Бацька ніколі такога дзіка раней не ўпалёўваў і пачаў паважаць мяне яшчэ больш.

З прыездам у Малое Мажэйкава пачаўся новы этап майго жыцця. Восем гадоў у мяне заняла гімназія, праз некалькі месяцаў пасля атрымання матуры (сярэдняй адукацыі - *Л. Л.*) пачалася вайна. Час, страчаны для навукі і вайсковай службы, заняў таксама роўна восем гадоў жыцця. Пасля вайны я быў ужо кадравым афіцэрам, знаёмыя раілі і далей ісці афіцэрскім шляхам, бо традыцыйна, адзін з трох сыноў павінен быць афіцэрам, а потым і генералам. Але, запісаўшыся ў політэхніку, я тым самым перакрэсліў вайсковую кар'еру, і вучоба ў ёй разам з чатырма гадамі працы ў меліярацыі пасля заканчэння, таксама занялі восем гадоў. Выканаўшы жаданне бацькі і прыехаўшы ў Малое Мажэйкава, я зноў змяніў прафесію на зусім іншую - сельскага гаспадара. Цяжка было не падпарадкавацца бацьку, але ніхто б мяне не зразумеў, як можна, маючы такі ладны маёнтак у добрым стане без даўгоў, не прыняць на сябе гаспадарку і не стаць землеўласнікам. Маёнтак быў не малы, не меў закінутых зямель і даўгоў і таму каштаваў больш за іншыя суседнія маёнткі, якія былі нават большымі за наш. Некаторыя, наогул, лічылі заганным тое, што я працаваў у іншай сферы, яны казалі: "Займаў не сваё месца і адбіраў працу ў тых, хто ў ёй мае патрэбу", - на што адказваў, што, нават падчас крызісу, у сферы меліярацыі існаваў недахоп кадраў, і таму кожны прафесіянал у гэтай справе без праблем знаходзіў працу.

Мае першыя крокі ў сельскай гаспадарцы былі шчаслівыя. Меў дзе жыць, меў утрыманне, свабоду дзейнасці, але брак гатоўкі ў кішэні

даваўся ў знакі. Зрэшты ўсе землеўладальнікі тады сядзелі без гатоўкі. Я хутка пераканаўся, што не надта добра ведаю сельскагаспадарчую справу. Таму звярнуў увагу на будынкі і дахі, якія бацька падчас і пасля вайны трохі занядбаў. Стадола была пабудавана толькі напалову, і якраз у гэты час арандатар фальварка Дубінкі з'ехаў, і трэба было шукаць новага. Некалькі маладых суседзяў-землеўладальнікаў з вышэйшай адукацыяй жартавалі пра маё гаспадаранне, але бацька сказаў: "Рабі як хочаш". Наш эканом маёнтка таксама не вельмі добра ведаў аграрную навуку і больш чакаў загадаў, чым сам нешта рабіў. Але я памятаў словы бацькі, што не той мудры, хто робіць мудрыя справы, а той, хто не робіць глупства. Таму імкнуўся не рабіць глупстваў. Калісьці бацька ў размове пра адукацыю і кваліфікацыю эканомаў расказаў: "У нас на крэсах эканомы не ведаюць, як працаваць на зямлі. Калі хочаш адмыслоўца ў гэтай галіне, дык мусіш узяць кагосьці з каралеўства. Але там добрага чалавека не знойдзеш". І я пачаў чытаць кніжкі па сельскай гаспадарцы, але ўжыванне на практыцы тэарэтычных падказак не заўжды давала станоўчы эфект.

Самае галоўнае - трэба было займацца інтэнсіфікацыяй гаспадаркі, але гэта вымагала шмат грошай пры тым, што кошт збожжа ў той час апусціўся да некалькіх дзясяткаў злотых за сто кілаграм жыта. Таксама не выгадна стала прадаваць малако і мяса. Экспарт за мяжу не быў унармаваны, і іншыя дзяржавы мелі лепшыя ўмовы збыту, таму канкураваць з імі было немагчыма. Багаты захад жадаў толькі пшаніцу і не купляў жыта, а Польшча пшаніцы вырошчвала мала. На ўсходзе (маецца на ўвазе СССР - *Л. Л.*) людзі паміралі з голаду, але не мелі чым плаціць, ды з усходам гандляваць было цяжка. Мой бацька быў праціўнікам інтэнсіфікацыі, бо спробы, якія ён рабіў, не давалі вынікаў. Нашы каровы былі трохі лепшых парод праз гадоўлю быкоў галандскай пароды. Свінні таксама мелі трохі англійскай крыві вялікай белай пароды, але да добрых парод было далёка. Усе коні купляліся на ваколічных кірмашах і былі мясцовых парод. Мой бацька перад вайной гадаваў коней, коней любіў і ведаў пра іх усё. Ён падлічыў, што гадоўля коней не была ў нас выгаднай. ...

Мой бацька меў ужо 75 гадоў і доўга думаў, як падзяліць паміж трох сыноў і трох дачок сваю маёмасць. Па традыцыі сыны мелі прывілеі, калісьці яго цёткі з боку бацькі, абмінуўшы яго пяць сёстраў, запісалі свае маёнткі толькі яму. Зімнімі доўгімі вечарамі ён часта пра гэта расказваў і заўсёды прыходзіў да высновы, што па-роўнаму не можа падзяліць, бо гэта прывяло бы да ліквідацыі маёнткаў. Яго цёткі, пэўна, думалі гэтак жа і таму зрабілі адзіным спадчыннікам

майго бацьку. З пяці сясцёр бацькі тры былі замужам і жадалі свае часткі адразу забраць і перадаць сваім дзецям. Дзве другія сястры - старыя набожныя панны адразу перадалі б свае часткі на дабрачынныя мэты дзеля будучых нябесных ласкаў у замагільным жыцці. Таму мой бацька атрымаў бы толькі адну шостую і апекаваўся бы шасцю сёстрамі, нічога за гэта не маючы. Гэты прывяло б да ліквідацыі нашага роду землеўладальнікаў.

Прадаць маёнтак перад 1914 г. можна было толькі ў рускія рукі, бо каталікі не мелі права купляць маёнткаў. Царская палітыка была накіравана на адбіранне зямлі ў каталікаў і русіфікацыю краю. Для гэтага зямля канфіскоўвалася ці прымусова прадавалася, што было той жа канфіскацыяй, бо зямлю можна было прадаваць толькі праваслаўным ці пратэстантам - практычна заўсёды заслужаным рускім генералам за малыя грошы, далёкія ад сапраўдных коштаў маёнткаў. Нашым натуральным супрацівам было трыманне зямлі не толькі на карысць уладальніка, але і для агульнай карысці. Пасля паўстання такія паводзіны ўвайшлі ў кроў мясцовых землеўладальнікаў.

Пасля вайны сітуацыя цалкам змянілася. Зямельная рэформа, ухваленая Сеймам у Варшаве грунтоўна аслабіла права ўласнасці на зямлю. Новая падобная рэформа магла ісці яшчэ далей, ажно да канфіскацыі зямлі і лясоў пры тым, што прадаць маёнтак было немагчыма з-за адсутнасці пакупнікоў. Парцэляцыя гвалтоўна падтрымлівалася польскім урадам не толькі ў межах аграрнай рэформы, пры гэтым было няважна хто купляў зямлю - паляк ці беларус. Адначасова моцная левая прапаганда пазбавіла так званых "абшарнікаў" павагі і веры і зрабіла перажыткам былых часоў. Уратаванне Польшчы бачылася ў скасаванні вялікай маёмасці і пераход да сялянскай гаспадаркі на невялікіх надзелах. Гэтыя лозунгі былі шырока распрапагандаваныя не гледзячы на статыстыку, якая казала што аматараў задарма атрымаць зямлю шмат і што, калі кожнаму даць зямлю, дык трэба было б скасаваць усе гаспадаркі, але тады зямельныя надзелы сталі бы такімі малымі, што земляробства ў Польшчы сталася б агародніцтвам. На тым жа грунтавалася і камуністычная прапаганда. Што не пашкодзіла камуністам, трохі потым, атрымаўшы ўладу, забраць зямлю ва ўсіх землеўладальнікаў у калгас. ...

Таксама і ў справе эксплуатацыі лясоў былі абмежаванні, якія ўскладнялі продаж зямлі з лесам. Экспарт лесу прыносіў грошы і станоўча ўплываў на знешнегандлёвы баланс. Аднак лясное заканадаўства было разлічана на эксплуатацыю вялікіх лясных абшараў, дзе працей гаспадарыць рацыянальна і пазбягаць рабункавай эксплуатацыі лясоў. ...

Аналізуючы стан сваіх гаспадарак з юрыдычнага і эканамічнага бакаў, мой бацька зразумеў, што падзяліць усё на некалькі частак магчыма толькі праз продаж усей маёмасці, што было немагчыма, бо прадаць можна толькі за бясцэнак. ...

Пра дачок бацька думаў, што калі яны выйдуць замуж, дык паспрабуюць атрымаць як хутчэй максімальную карысць з пасагу. Гэта прывядзе да сямейных спрэчак і ліквідацыі маёмасці. У выніку вырашыў праз тастамант пакінуць маёнткі за сынамі, а не дзяліць іх роўна паміж сынамі і дочкамі, прычым дочкі павінны былі быць гэтак выдадзены замуж, каб сыны потым не былі абцяжараны выплатамі. Таму прызначыў фальваркі Калітычы і Скрыбаўцы для сясцёр і купіў для іх камяніцу ў Варшаве. ... Лічыў што гарадская нерухомасць збольшага належыць габрэям, яны ж кіруюць левым рухам і таму не будуць рабіць захадаў супраць права ўласнасці на гарадскую нерухомасць.

...

Першыя крокі на Мажэйкаўскай зямлі не былі для мяне простымі. Настаўнікі мясцовых школ выразна цураліся мяне. Гэта былі людзі, якія паходзілі ў асноўным з каралеўства альбо Малапольшчы і мелі настрой супраць землеўладальнікаў. Усе яны лічылі, што гэты клас трэба ліквідаваць і стала выказваліся на гэту тэму. Дзівіцца гэтаму не трэба, бо ў тыя часы маладому інтэлігенту было цяжка ўладкавацца на вёсцы. Трохі пазней, калі я пабудаваў школу з трохпакаёвай кватэрай для настаўніка, да мяне прыехаў з візітам павятовы школьны інспектар, але на гэтым усё і скончылася. Першым настаўнікам у гэтай школе быў пан Пякарак. Паходзіў з Малапольшчы, вучыўся ў Вільні. Мясцовых звычаяў не ведаў, жаліўся на малы заробак і меў сацыялістычныя перакананні. Да мяне ставіўся карэктна. Але я адчуваў у ім насцярожанасць і варожаць. Было гэта не толькі з-за класавай варожасці, але і з-за адчуванне ім сябе чужым у краі. Але ён быў больш інтэлігентны за тых, хто працаваў пасля яго. Потым ён сапсаваў сабе кар'еру выступам супраць "Мацеры школьнай" у Шчучыне. На тым сходзе я не быў і даведаўся пра выступ пана Пякарка, чытаючы пратакол. Яго крыўдзіла што "Маці школьная" дасылае настаўніц і выхавальніц з адукацыяй у тры разы горшай, чым гэта робіць міністэрства асветы. Кандыдаткі "Мацеры школьнай" звычайна аплачваліся мясцовымі землеўладальнікамі: арганізоўвалі тут дзіцячыя садкі, займаліся малымі дзецьмі, калі маці працавалі ў полі, абслугоўвалі рухомыя бібліятэкі. Маёнткі давалі ім кватэры і пэўныя аклады. Пан Пякарак лічыў, што гэтак ствараецца штучная канкурэнцыя прафесійным настаўнікам і таму непрафесійныя не могуць патрабаваць сабе

большых заробкаў.

Пасля пабудовы школы стасункі з настаўнікамі як быццам трохі палепшыліся. Але заўсёды было чутна, што яны лічаць землеўладальніка за шкадлівы элемент, які лепей было б ліквідаваць. Вайна змяніла адносіны. СССР пачаў вывозіць на ўсход усіх інтэлігентаў, у тым ліку і настаўнікаў. ... Нямецкая акупацыя справу не паправіла. ...

З суседзяў, трэба ўспомніць дробных землеўладальнікаў. Яны дзяліліся на дзве групы - праваслаўныя і католікі. Праваслаўныя пераважна былі беларусамі, былымі падданымі маёнтка Малое Мажэйкава. Яны звыкліся з тым, што двор належаў маёй сям'і, і мая асоба іх не моцна цікавіла. Былі хітрыя, але, наогул, добрыя людзі, хоць камуністычная прапаганда настройвала іх супраць Польшчы[9]. Але першыя саветы, якія гналі іх у калгасы, настроілі іх варожа супраць камуністычнага ладу. Да другой групы належала дробная шляхта з ваколіц Раўбы і Станкевічы. Яны былі католікамі і польскімі патрыётамі. Непасрэдна з нашай зямлёй не межавалі, і таму двор ніколі з імі не меў спрэчак. Яны да ўсяго рускага - ці да царскага, ці да бальшавіцкага, ставіліся адмоўна. Мой бацька ахвотна браў іх на працу, лічыў іх людзьмі пачцівымі і саліднымі, але пра іх інтэлігентнасць часам расказваў байкі. Больш бедныя сем'і з Раўбоў ахвотна ішлі да нас працаваць. Служба ў двары лічылася дастаткова ганаровай, і таму ўся дамавая служба ў нас была з Раўбоўскай шляхты. Гэта быў прыязны да маёнтка элемент, і яны былі першымі пры ўсіх грамадскіх працах, а потым і ў АК. Пасля Другой сусветнай вайны Савецкі Саюз страшэнна прарэдзіў іх шэрагі, вывез заможных у азіяцкія стэпы, знішчыў у лагерах як ворагаў камуністычнага ладу.

У Мажэйкава я прыехаў сваім "фордам", які ў мяне працаваў як гадзіннік. Аўтамабіль вырашаў цяжкія праблемы з выездам, бо бацька з дома амаль што не выязджаў, коней у цуг амаль што не меў, у поле ці касцёл ездзіў параконнай брычкай, у якую маглі зацугляць і аднаго коніка. Сутыкнуўшыся з гаспадарскімі клопатам і цяжкасцямі, з сёстрамі, якія прыехалі на лета, я яшчэ лепей пачаў ставіцца да свайго аўтамабіля.

Бліжэйшым маёнткам быў маёнтак **Вялікая Лебяда**. Перад Першай сусветнай вайной ён належаў адной са спадкаеміц расійскага

[9] З сярэдзіны 1920-х гг. у гэтай мясцовасці вялікім уплывам карысталася Беларуская рабоча-сялянская Грамада і моцнымі былі нацыянальныя пачуцці беларусаў, якія аўтар успамінаў заўсёды зводзіць да вынікаў камуністычнай прапаганды і не хоча бачыць хібаў польскай нацыянальнай палітыкі - *Л. Л.*

генерала Маўраса - пані Скосыравай. З-за марнага гаспадарання, пасля высечкі ўсяго лесу ўладальніца збанкрутавала і мусіла прадаць маёнтак. Гэта было незадоўга да выбуху Першай сусветнай вайны. Набываць зямлю ў той час маглі толькі праваслаўныя, і таму пакупнікам стаў аднарукі пан Юзаф Міхневіч, былы мельнік з ваколіц Слоніма, праваслаўны[10]. Ён ажаніўся з удавой, якая мела аднаго сына Станіслава[11] Фядэцкага. Гэты апошні са сваёй жонкай вызнаваў левыя тэорыі. Пан Фядэцкі працаваў у Міністэрстве працы ў Варшаве.

Міхневіч быў чалавекам вёрткім і гаспадарлівым. Разам з маім бацькам і панам Бразоўскім з Гурнофеля супольна пабудаваў на зямлі

[10] Пахаваны каля Маламажэйкаўскай царквы, калі яна была Скрыбаўскім касцёлам, Юзаф Міхневіч (†1930). На помніку каталіцкі крыж, г.з. Міхневіч стаў рыма-каталікам ці запісаўся ў свой час у праваслаўныя фіктыўна. - *Л. Л.*

[11] Станіслаў Фядэцкі, працаваў у Вільні дзяржаўным інспектарам працы. Пры сацыял-дэмакратычным тэмпераменце гэта зрабіла яго абаронцам пралетарыяту. Маці, Марыю (ураджоная Крывец), праведніка народаў свету, гераіню паэмы "Пані Фядэцкая" вядомага габрэйскага паэта з Вільні Абрахама Суцкевера, параўноўвалі з Янушам Корчаком і Ірэнай Сендлер, - лепш за ўсё характарызуюць словы сведак. Вось што пісала пра яе Эльжбета Грабская-Валіс, выбітны гісторык мастацтва: *"Яна вырасла ў інтэлігенцкім асяроддзі (ў Гародні), вывучала медыцыну, але яе сапраўднай стыхіяй і прызначэннем (...) была маральная і матэрыяльная дапамога людзям, дыскрымінаваным у сацыяльным, эканамічным і палітычным плане. У Вільні, дзе яна галоўным чынам жыла да 1945 г., гэта часта былі людзі левых поглядаў, падчас нямецкай акупацыі горада - габрэі, а ў Лебядзе (родная хата яе мужа непадалёк ад Ліды) - бядотнае сялянскае (беларускае) насельніцтва. (...) У памяці тых, хто ведаў яе ў розны час, яна засталася чалавекам вялікай мужнасці і маральнай чуласці, на кожным кроку заўважала несправядліва пакрыўджаных людзей. Ёй былі ўласцівыя незвычайныя, нонканфармісцкія ўчынкі (яна не лічылася членам ніякай палітычнай партыі). Марыя Фядэцкая заўсёды кіравалася ўласнымі перакананнямі і неадкладна прыходзіла на дапамогу людзям, якія жылі ў нястачы. (...) Прымаючы ў Вільні ўдзел у рэпатрыяцыі 1945 г., яна старалася ратаваць польскую моладзь, якой пагражаў арышт і высылка ўглыб СССР. Пасля ад'езду з Вільні яна жыла ў асноўным на ўзбярэжжы Балтыйскага мора і тут у 1947 г. разам са Здзіславам Грабскім і Міхалам Панкевічам заснавала Лігу барацьбы з расізмам (Ліга неўзабаве была забаронена ўладамі па палітычных меркаваннях), якая згуртавала вакол сябе невялікае кола польскай інтэлігенцыі, якая ў антысеміцкіх правакацыях (...) і праявах нацыяналізму бачыла пагрозу маральнаму адраджэнню"*.

Дзейнасць сеткі, арганізаванай Марыяй Фядэцкай сумесна з настаяцельніцай каталіцкага кляштара урсулінак і вузкім колам давераных свецкіх і духоўных асоб, была накіраваная, на перапраўку габрэяў з Вільні за Ліду - у Беларусь, якой кіраваў гаўляйтар Кубэ, нацыст, аднак не антысеміт.

майго бацькі тартак у Скрыбаўцах. У гэтай справе ніхто з суполкі не быў прафесіяналам, адпаведнага чалавека, каб кіраваць тартаком не было - усе сябры суполкі былі ўжо старымі, і таму тартак не даваў прыбытку, але прыносіў шмат клопатаў. Пан Бразоўскі хутка памёр, а яго жонка нічога не разумела ў справе, мой бацька меў ужо 75 гадоў, пану Міхневічу таксама было больш за 60. Тартак замест даходу, пачаў нас разараць. Мой прыезд трохі ажывіў супольнікаў - яны думалі, што я займуся тартакам. Моцна памыліліся, бо я таксама не знаў гэтай справы, але прыгледзеўшыся да яе, зразумеў, што акрамя тэхнічнага боку, трэба яшчэ арганізаваць гандаль дрэвам, арыентавацца ў кан'юнктурных патрабаваннях, коштах і г. д. Выйсцем магла быць пакупка частак двух іншых супольнікаў і аднаўленне абаротнага капіталу, але гэта вымагала шмат грошай, якіх не было. Я разумеў, што мне бракуе аграрнага досведу, але пасля армейскай справы і меліярацыі, гэта была бы ўжо мая чацвёртая спецыяльнасць. Таму я вырашыў, што на тартак не трэба траціць час і грошы. Але немагчыма было дапусціць каб тартак быў ліквідаваны, бо магчымасць распілаваць драўніну павышала вартасць лесу, якім мы валодалі. Уся гэта справы была канчаткова вырашана пасля смерці бацькі, калі я прадаў сваю частку. Пакупнікамі аказаліся два яўрэі з Ліды - Халперн і Элкінд, якім я прадаў сваю долю і вытаргаваў умовы распілу майго дрэва і памолу мукі на іх млыне. З-за антыгабрэйскай прапаганды мясцовая думка надта крыва прыняла маю трансакцыю. Але каб не гэты продаж, тартак і млын трэба было зачыняць, што павялічыла б беспрацоўе ў акрузе.

З уладальнікамі Лебяды мы не маглі быць сябрамі. Яны мелі прарасійскія погляды і пасля Другой сусветнай вайны арыентаваліся на Расію, адмаўляючы Польшчы ў правах на Беларусь. З-за гэтага

---

Сын Станіслава і Марыі Фядэцкіх - Земавіт (1923 - 2009), вядомы пісьменнік, перакладчык, крытык і этнограф. Земавіт Фядэцкі жудасна абураўся, распавядаючы аб дзясятках заяў з просьбай адчыніць школы, пададзеных польскім уладам беларускімі грамадскімі арганізацыямі: за дваццаць гадоў паміж войнамі толькі на дзве просьбы быў атрыманы станоўчы адказ). Ён разумеў беларускую інтэлігенцыю, якая стала ахвярай русіфікацыі і савецкай палітыкі яе фізічнага знішчэння. Больш позняя вестка аб двухсоттысячным пахаванні расстраляных у Курапатах пад Менскам не была для Фядэцкага навіной: аб маштабе злачынстваў і наўмысным знішчэнні беларускай інтэлігенцыі было вядома ў сям'і, якая мела зносіны з Браніслам Тарашкевічам або Янкам Купалам. Сам Земавіт Фядэцкі заўсёды казаў, што ён унук беларускага ўніята.

Сабраў і запісаў кнігу беларускіх народных песень “Цёплыя вечары ды халодныя ранкі...”. У наш час у Мажэйкаве (былое Малое Мажэйкава) праводзіцца фестываль песеннага фальклору імя Земавіта Фядэцкага - *Л. Л.*

ўладальнікі Лебяды не карысталіся павагай не толькі буйных земле-ўладальнікаў, якія ўсе паходзілі з польскай шляхты, але і мясцовай засцянковай шляхты і нават беларусаў, акрамя камуністаў[12]. Пасля Другой сусветнай вайны кіраўніцтву АК часта даносілі на ўладальнікаў Лябёдкі як ворагаў польскасці. Падпольная польская партызанка ліквідавала ворагаў у залежнасці ад той шкоды, якую яны прыносілі польскім інтарэсам і польскай партызанцы. Камандзір АК "Барсук" звярнуўся да мяне з пытаннем пра Фядэцкіх. Я адразу адказаў, што яны без сумневу прыхільны да ўсіх прарасійскіх і пракамуністычных пачынанняў, але шкодзіць палякам не будуць. Можа гэта паўплывала на тое, што іх пакінулі ў спакоі. Пры падтрымцы Расіі яны ўзняліся да "дыгнітарыяў" Народнай Польшчы, тым больш, што іх былы эканом і сябар, пан Друта, вядомы нам у часы гітлераўскай акупацыі пад псеўданімам Дубоўскі, пасля вайны быў шматгадовым паслом Народнай Польшчы ў Анкары, Рыме і Парыжы.

По тракце ў кірунку Гародні бліжэйшым быў маёнтак **Вялікае Мажэйкава**. Калісьці маёмасць Гагінаў, потым Тышкевічаў і Хадкевічаў. У 1826 г. маёнтак купілі Грабоўскія. Апошні з Грабоўскіх, стары кавалер, памёр у часы Першай сусветнай вайны ў Парыжы і не пакінуў тастаманта. Усю маёмасць падзялілі паміж чатырма сёстрамі Грабоўскага. У выніку падзелу Верашчакі атрымалі Вялікае Мажэйкава, Мінейкі - Дзікушкі, Раствароўскія - Скабейкі, а Раманаўцы сталі ўласнасцю пані Ванькові з Горватаў.

Калі я прыехаў з Варшавы, у Вялікім Мажэйкаве ўжо каля дзесяці гадоў гаспадарыў Міхал Верашчака з сынам і дачкой свайго памерлага брата Міхала - Тамашом і Марыяй-Людвікай. Гэты быў мілы дом, куды можна было паехаць на тэніс, гарбату і г. д. З усіх чатырох частак пасля падзелу, Вялікае Мажэйкава было найбольшай і яму належаў вельмі добры лес. Новы ўладальнік пабудаваў тартак з млынам, а перад самай вайной паставіў невялікую электроўню на рэчцы Ішчалнянка. Акрамя гэтага маёнтак меў вінакурню. Новы ўладар быў аматарам тэхнікі - купіў трактар, аўтамабіль і сучасную аграрную тэхніку.

На адлегласці 6 км, у старажытным фальварку **Раманаўцы**, пасля пабудовы жылога дома жылі Ваньковічы. Аднак яны тут былі гасцямі, бо жылі больш у Варшаве ці ў маёнтку Горышкі ў Пазнанскім ваяводстве ў бацькі пані Ванькові Горвата. У апошнія гады перад

[12] Традыцыйна Брахоцкі ўсё беларускае залічвае ў камуністычнае, найперш гэта кажа пра тое, што ён, у адрозненне ад Фядэцкіх, гэтак і не зразумеў людзей і зямлю, на якой жыў - *Л. Л.*

Другой сусветнай вайной Раманаўцы трымаў інжынер Ян Трацяк, з якім я заўсёды сябраваў. Трошкі далей, за якіх 8 кіламетраў, у **Скабейках**, таксама былым Вялікамажэйкаўскім фальварку жылі Раставроўскія з сынам і дачкой. І тут жылы дом таксама трэба было пабудаваць. Найдалей ад Малога Мажэйкава знаходзіўся маёнтак Дзікушкі якім, пасля заканчэння вышэйшай школы сельскай гаспадаркі ў Варшаве, валодаў і жыў тут інжынер Аляксандр Мінейка. Жыў у малым дамку з некалькіх пакояў, а вялікі, мураваны і прыгожы дом пабудаваў перад самай вайной[13]. Лех Мінейка і Ян Трацяк сталі маімі настаўнікамі і дарадцамі ў сельскай справе.

У **Ішчалне**, вялікім маёнтку на адлегласці 10 кіламетраў жыў новы гаспадар - Юзаф Лясковіч з дзецьмі-падлеткамі. Раней гаспадарамі тут былі іншыя Важынскія, новыя атрымалі сваю зямлю і лес у выніку падзелу, а раней жылі ў іншых маёнтках Лідчыны, далёкіх ад Малога Мажэйкава.

За 15 кіламетраў быў маёнтак **Жалудок**, раней маёмасць Урускіх і Тызенгаўзаў, адна з найвялікшых латыфундый у міжваеннай Польшчы - каля 16 000 гектараў. Гэта быў вельмі чынны і энергічны асяродак, бо абодва - князь і княгіня апекаваліся рознымі грамадскімі інстытуцыямі. Князь Людвік быў сталым старшынём Звязу землеўладальнікаў, княгіня Ружа, сястра ардыната з Нясвіжа, доўгія гады ўзначальвала Кола вясковых гаспадынь. Не ўхіляліся яны і ад іншых ініцыятываў у жыцці Лідчыны, ахвярна ангажаваліся ў будоўлю народнага дома ў **Станкевічах** і касцёла ў **Зачэпічах**. Таксама яны пабудавалі шпіталь пад вызнаннем Св. Ружы у маёнтку Жалудок (шпіталь прымаў жыхароў мястэчка па коштам павятовага шпіталя). Князі чынна прымалі ўдзел ва ўсіх праявах грамадскага жыцця, падаткі плацілі ў належны тэрмін, чым маглі пахваліцца не ўсе землеўладальнікі. Падчас наведвання Наваградскага ваяводства прэзідэнтам Масціцкім Жалудок быў тым месцам, якое прэзідэнт адзначыў сваім наведваннем. Увесь час Жалудок для мяне быў месцам для прыемнага гасцявання, брыджу і палявання, якія часта арганізоўваліся ўзімку.

Усе суседзі жылі на поўдзень ад шашы Ліда - Гародня, якая праходзіла каля Малога Мажэйкава. На поўнач ад шашы суседзяў было менш. Найбліжэй, за восем кіламетраў ад Мажэйкава, з Мажэйкаўскім лесам межаваў маёнтак **Воўчынкі** пані Яніны Мейер з Паплаўскіх. Маляўнічая мясцовасць на нэндзнай рэчцы з малым млынам

[13] Зараз гэты прыгожы дом амаль што разваліўся, і яго маляўнічыя парэшткі любяць здымаць турысты. - *Л. Л.*

за сто крокаў ад жылога дома маёнтка. Млын быў заўсёды паламаны, і гаспадыня не цікавілася яго станам. Але гэты млын упрыгожваў заросшы хмызняком краявід, які не мяняўся сотні гадоў. Прыгожы куток для паэтаў і закаханых пар, якія, дарэчы, тут частка гасцявалі. Гаспадыня ўсіх гасцінна сустракала, але ніколі не клапацілася аб тым чым бавяцца госці. Кожны прыязджаў, калі хацеў і адзінае, што ад яго патрабавалася, каб не быў надта нудны. Летам тут жыло шмат гасцей, збіралася культурнае кола, шмат моладзі, паэтаў-пачаткоўцаў і навукоўцаў. Гаспадыня шмат чытала, жыла ў інтэлектуальных мроях і мала займалася гаспадаркай, што потым прывяло да праблем нават з выплатай падаткаў. Заўжды прымала ўдзел у грамадскіх справах, аддаючы ім перавагу перад справамі маёнтка. Час ад часу нават дапамагала такім інстытуцыям, як напрыклад войтаўства Васілішскай гміны.

Яшчэ далей, у вярхоўях рэчкі Касцянёўкі, якая цякла праз Воўчынкі, быў дастаткова вялікі, у 800 гектараў, маёнтак **Гурнофель**. У мае маладыя гады гаспадаром яго быў пан Альфрэд Бразоўскі - стары кавалер. Ездзіў чацвёркай коней, зімой заўсёды са званочкамі, бываў паўсюдна, не прапускаў нічыіх суседскіх імянін і нават у сталым веку сябраваў з так званай "залатой моладдзю". Меў яшчэ нейкі іншы маёнтак у іншым павеце і яшчэ перад Першай сусветнай вайной купіў сабе аўтамабіль - хоць і ўжываны, але гэта быў першы аўтамабіль у Лідскім павеце. Усе балі ў акрузе былі яго, і часта пасля балю брычка Бразоўскага начавала ў рове. Расказвалі, што для аўтамабіля трымаў двух шафёраў, а шыны ездзіў мяняць за 100 кіламетраў. У часы Першай сусветнай вайны ажаніўся з паннай Янкоўскай і адразу пасля вайны памёр, пакінуўшы адну дачку.

Хадзіла пра яго шмат анекдотаў, якія дасціпныя сябры ахвотна расказвалі. Ён з цікавасцю выслухваў анекдоты пра сябе і сам з іх першы смяяўся. У маёй памяці засталося некалькі такіх гісторый. Расказвалі, што ў маладосці некалькі разоў рабіў прапановы "рукі і сэрца", але неяк безвынікова. Адным разам у кавярні ім падалі дзве філіжанкі кавы з вяршкамі ў адным гаршчочку з вушкам. Пан Альфрэд звярнуўся да сваёй пасіі з пытаннем, ці хацела б яна мець з ім адзін агульны гаршчок на ўсё жыццё? Панна адказала адмоўна.

Іншым разам нейкі дасціпнік запэўніў пана Альфрэда, што ведае такі фокус - поўная шклянка вады будзе перавернута над яго галавой, а ён пры гэтым застанецца сухі. Пан Альфрэд сказаў што гэта немагчыма. Тады жартаўнік прапанаваў спрачацца на 100 рублёў - вялікія ў той час грошы, памятаю як наш улюбёны фурман, стары Юзаф, купіў сабе добрыя скураныя боты за 3 рублі. Пан Бразоўскі

быў ашчадны і прапанаваў спрэчку на 1 рубель. Было гэта ў рэстаране, афіцыянт прынёс шклянку вады, якую штукар на вачах усяго рэстарана выліў на галаву пана Альфрэда. Пасля чаго, здзівіўшыся, сказаў, што фокус не ўдаўся і заплаціў 1 рубель. На гэтым справа да задавальнення абодвух бакоў і закончылася. У Гурнофелі, была адзіная ў павеце кур'ёзная стадола над самай рэчкай, і ў гэтай стадоле вадзяное кола вярцела малатарню, сячкарню і камень млына. Рэчка там была малая, але перапад вышыні вялікі.

На гэтай жа рэчцы, трошкі вышэй, за 12 км ад Малога Мажэйкава стаяў маёнтак **Касцянёва** з таксама невялікім млынам і ставам, у якім раней гадавалі фарэль. Належаў ён старажытнай і заможнай сям'і Кастравіцкіх і раней, таксама як і Малое Мажэйкава, быў фальваркам вялікага ключа Паперня - Ваверка. Паперня перайшла ў рускія рукі і ў мае часы там гаспадарыла пані Петухова, яе дзейнасць у асноўным, палягала ў спусташэнні і продажы маёнтка па кавалках. У Кастравіцкіх застаўся толькі маёнтак Касцянёва, які ў мае дзіцячыя гады меў каля 2 000 га. Гаспадарыў там Люцыян Кастравіцкі - меў ён вялікія, але нерэальныя планы. Гэта давяло да таго, што калі я вярнуўся ў Малое Мажэйкава, Касцянёва мела ўжо меней за 100 га, а ўладальнік кудысьці эміграваў, пакінуўшы тое, што засталося ад маёнтка, жонцы з двума малымі сынамі.

Недалёка ад Касцянёва быў маёнтак **Лябёдка** спадара Іваноўскага, які ў свой час ажаніўся з паннай Райхель. Уладальніка Лябёдкі называлі "генералам", бо ён калісьці служыў у Пецярбургу і меў чын "тайного советника", быў дырэктарам дэпартамента гандлю і прамысловасці, што ў той час лічылася вельмі высокай пасадай у іерархіі царскага чынавенства ў Пецярбургу. Купіў ці быў дзедзічам Лябёдкі, маёнтка ў чатырыста гектараў, якія асушыў, пабудаваў новыя добрыя будынкі і завёў чатыры тысячы пладовых дрэў. Меў чатырох сыноў і адну дачку. Два сыны лічылі сябе палякамі, адзін быў беларусам, а адзін летувісам. Дачка выхоўвалася ў Англіі ў Кембрыджы і мела вялікую сімпатыю да гэтай дзяржавы. Тая сімпатыя выражалася тым, што яна ўсё жыццё падтрымлівала стасункі з сябрамі з Англіі, гадавала коней і сабак - ад пачатку англійскіх гончых, а потым хартоў. Аднак яе галоўным захапленнем былі коні. Яна лічыла, што конь мае душу, спрабавала прышчапіць англійскія звычаі на беларускай тэрыторыі, нават арганізоўвала паляванне з гончымі і хартамі ў чырвоных фраках, што ў нашых варунках неяк не вельмі пасавала да ліцвінскага пейзажу і таму не надта і атрымлівалася, а мясцовым сялянам выразна не спадабалася. Ездзіла конна, нават да шлюбу паехала конна з сваім нарачоным панам Казімірам Скіндарам. Нарэшце на скачках у Лодзі ўпала

разам з канём, конь яе прыдушыў, і доўгі час яна змагалася за жыццё ў шпіталі. Гэты выпадак не ахаладзіў захапленне коньмі, хоць яна і перастала выступаць на спаборніцтвах і больш не спрабавала арганізоўваць паляванне на лісаў. У цяжкія пасляваенныя гады (маецца на ўвазе Першая сусветная вайна - *Л. Л.*) колькасць коней значна паменшылася, але хартоў у яе была поўная хата, і калі я прыязджаў у Лябёдку, дык яны панавалі ў салоне, займалі лепшыя фатэлі і рыкалі на таго, хто хацеў іх з фатэля сагнаць.

Лябёдка знаходзілася за 15 км ад Малога Мажэйкава і адносілася да блізкіх суседзяў. Гэта азначала, што ехаць туды можна было толькі на конях і без начлегу, які патрабаваўся бы пры большай адлегласці, каб адпачылі коні. З больш далёкіх маёнткаў можна ўспомніць **Вензаўшчыну**, якой валодалі чатыры пані Жураўскія. Усе былі таленавітыя, мелі галасы меца-сапрана, і адна з іх, Ірэна, нейкі час выступала ў варшаўскай оперы. Пасля Другой сусветнай вайны эмігравала ў Англію, малявала карціны, якія мелі добрую славу і ахвотна купляліся. Другая, Марыя, была таленавітай піяністкай і сябравала з Вуйтовічам, ён штогод быў сталым летнім госцем. У часы побыту Вуйтовіча там бывалі канцэрты найвышэйшага ўзроўню. Але ад Мажэйкава было 35 км - на конях за далёка. Дзве другія сястры - Гурская і Пратасевіч памянялі свае таленты на шлюб, і ў Вензаўчыне я з імі не спаткаўся.

Маёнтак **Шчучын**, уласнасць князя Юзафа Друцкага-Любецкага, суседскім не лічыўся, бо ўладальнікі рэдка там бывалі і лічылі сябе жыхарамі падваршаўскага Тэрэсіна. Князь Друцкі-Любецкі нават не належаў да нашага Звязу землеўладальнікаў. Маёнтак здаваўся ў арэнду і толькі часамі ўлетку сюды прыязджала княгіня, маці ўладальніка.

За Шчучынам, у бок Гародні стаяў маёнтак **Спуша,** які належаў князю Яўстаху Сапегу. Уладальнік займаў усялякія высокія пасады ў Варшаве, уключна да ўзроўню міністра замежных спраў. Быў польскім амбасадарам у Лондане, заўсёды знаходзіўся ў палітыцы, а ў Спушы бываў толькі госцем. Яго жонка Тарэза з Любамірскіх была больш звязана з нашымі мясцінамі. Яна арганізоўвала курсы ткацтва сярод ваколічных сялян і ў Варшаве была актыўнай у розных дабрачынных арганізацыях. Ад Мажэйкава сюды было 50 км, і я там быў толькі адзін раз. Князёў бачыў часцей у Варшаве.

Таксама ў 50 км ад нас быў маёнтак **Алешавічы**, які належаў Незабытоўскім. Маёнтак меў некалькі фальваркаў, трошкі лесу, невялікія рыбныя ставы, але галоўным у ім быў палац, падобны на палац у варшаўскіх Лазенках. Палац меў вялікую бальную залу і мэблю,

якая ўцалела ад рабункаў падчас Першай сусветнай вайны. Гаспадарку вяла пані Незабытоўская, жыла яна тут з сёстрамі - паняй Ранікер і паннай Ірэнай Камар. Мела яна тры дачкі, выхаваныя ў страшнай дысцыпліне і паслушэнстве старэйшым, а таксама ў строгім каталіцтве. Першыя Саветы і нямецкую акупацыю палац пераажыў без вялікіх страт. Пасля Другой сусветнай вайны бальшавіцкія ўлады пачалі разборку палаца, і цалкам знішчылі сляды культуры[14].

Да далёкіх суседзяў трэба залічыць шэраг маёнткаў каля Ражанкі, Шчучына і Астрыны. Гэта **Уніхаўшчына** Марачэўскіх, падзеленая паміж сваякамі, **Макрэц** Івона Марачэўскага, жанатага з паннай Шчукай, **Навасады** Мацея Марачэўскага, **Андрушаўцы** майго кузена Вітольда Марачэўскага, які працаваў адвакатам. Пра яго стараста Сялява апавядаў цікавыя гісторыі. Менавіта пан Вітольд Марачэўскі вёў нейкую справу аб аліментах, якую прайграў. У гандлёвы дзень у Шчучыне нехта падслухаў размову двух сялян. Больш спрытны раіў найлепшага адваката, а калі ў яго запыталі пра Марачэўскага, ён адказаў: "Марачэўскі добры адвакат, але з міласці рабіць не будзе".

Дальнім суседам таксама быў **Лядск-Высокі** Лісоўскага, аднаго з арганізатараў Самаабароны ў Шчучыне ў 1918 г., потым афіцэра 13-га палка Віленскіх уланаў, пасла ў Сейм Сярэдняй Літвы і потым пасла на Устаноўчы сейм у Варшаве.

Яшчэ далей знаходзіліся маёнткі **Глыбокае** і **Міхайлаў** Мікульскіх. Уладальнік Глыбокага быў доктарам медыцыны, але не меў практыкі для заробку і лячыў ваколічных сялян бясплатна.

Каля новага Двара быў маёнтак **Кажамякі** суддзі Юльяна Прыбыткі і **Хадзілоні** яго кузена Эмільяна Прыбыткі. Невялікі фальварак **Гаўдзішкі** належаў Мар'яну Янкоўскаму, апошняму перад вайной Віленскаму віца-ваяводзе, а падчас нямецкай акупацыі дэлегату польскага ўрада ў Наваградскім ваяводстве. Невялікі фальварак, назву якога не памятаю, меў суддзя Халява, а каля Новага Двара меўся фальварак **Дэйнараўшчына** доктара ветэрынарыі Яна Ваяводскага - сталага ветэрынарнага лекара і кіраўніка ветэрынарнага шпіталя Лідскага

[14] Палац у Алешавічах быў пабудаваны ў стылі позняга класіцызму. Двухпавярховы будынак меў рызаліт (частка будынка, што выступае за асноўную лінію фасада) і тэрасу на калонах, аднапавярховыя бакавыя крылы на высокіх падмурках. Захаваўся малюнак гэтага палаца Напалеона Орды. На сёння, ад прыгожага будынка, пастаўленага ў першай палове XIX ст., не захавалася ні цаглінкі, а напамінам пра яго служаць толькі былыя панскія ставы, канюшня і млын 1904 г. пабудовы, ды яшчэ некалькі векавых таполяў, праз якія ішоў шлях да сядзібы Незабытоўскіх. У савецкія часы маёнтак і ўсё, што ў ім было, разрабавалі і расцягнулі ледзь не па частках. Цэгла была вывезена на будаўніцтва бальніцы. - *Л. Л.*

павета.

Спадар **Антон Прыбытка**[15], які збіраў матэрыялы для манаграфіі пра Лідскі павет, казаў, што ў даўнія часы на Лідчыне было шмат Александровічаў, Скіндараў і Крыдаляў. Сярод асоб на важных пасадах часта былі Радзівілы і Хадкевічы. Пазнейшыя крыніцы расказвалі пра Давойнаў, князёў Вішнявецкіх, князёў Саламарэцкіх, Валяў, Скарбак-Важынскіх, Паўпятаў ці Падбіпятаў гербу Сарвікаптур[16] і іншых. З-за Другой сусветнай вайны Прыбытка не закончыў збор матэрыялаў.

Суседзі, якія жылі на вялікай адлегласці, былі даступныя толькі мне - я меў аўтамабіль. А да Мажэйкава коньмі яны маглі даехаць толькі ў вельмі важных выпадках. Ды і коні былі патрэбны для працы, бо пасля вайны стала цяжка ўтрымліваць коней толькі для язды. Гаспадарка паволі даходзіла да ладу, але эканамічную сітуацыю значна абцяжарыў сусветны эканамічны крызіс, з-за якога ўпалі цэны на сельскагаспадарчыя тавары.

...

Малое Мажэйкава раней належала да Ішчалнянскай парафіі. ... Праз некалькі гадоў пасля Першай сусветнай вайны лідскі стараста Здановіч перадаў Маламажэйкаўскую царкву ў в. Мураванка пад касцёл. ... Пасля ксяндза Чаплоўскага пробашчам тут быў ксёндз Вагнер, былы вікарый у Дзятлаве, а перад Другой сусветнай вайной кс. Уладзіслаў Мончка, які на гэтай пасадзе перажыў Першыя саветы і немцаў. Пасля вайны яго перавялі ў Новы Двор.

З часоў перад Першай сусветнай вайной пробашчам у Ішчалне быў ксёндз Баляслаў Красадомскі, званы іншымі ксяндзамі з-за сваёй набожнасці "Святы Болесь", яго вельмі паважалі парафіяне. ...

Найбольш вядомым ксяндзом быў дэкан у Васілішсках, ксёндз Ігнат Цыраскі. Быў ён вельмі інтэлігентны, паходзіў з-пад Лодзі ці з самой Лодзі і меў левыя сімпатыі. З-за нейкіх непаразуменняў з біскупам з Лодзі быў прымушаны з'ехаць у Амерыку, а пасля вяртання

[15] Антоні Грымайла-Прыбытка, сын генерал-маёра рускай арміі Аляксандра Прыбыткі. У 1920-30-х гг. неаднаразова выбіраўся ў Лідскую гарадскую раду, быў лаўнікам Лідскага магістрата і выдатным лідскім краязнаўцам, старшынём Лідскага краязнаўчага таварыства. Аўтар шэрагу артыкулаў і кнігі "Кароткі турыстычны даведнік па Лідскім і Шчучынскім паветах" (1936 г.). Пры канцы 1930-х гг. працаваў над вялікай манаграфіяй аб Лідскім і Шчучынскім паветах. 20 чэрвеня 1941 г. вывезены ў Мінусінскі край. Далейшы лёс невядомы. - *Л. Л.*

[16] "Падбіпята гербу Сарвікаптур" - жарт з рамана Генрыка Сянкевіча. - *Л. Л.*

дахаты нейкі час працаваў рэдактарам нейкага каталіцкага выдання ў Быдгашчы. І на гэтай пасадзе не жадаў слухаць біскупа і таму быў сасланы на пакуты ў Віленскую дыяцэзію. У Вільні яму прапанавалі на выбар дэканат у Васілішках ці дэканат[17] у Няштанішках. Выбраў Васілішкі і адразу праславіўся як добры арганізатар: бо ўсе працэсіі, святкаванні і інш. у яго былі арганізаваны як найлепей. Парафіянам гэта спадабалася, і яны з ахвотай наведвалі касцёл, выконвалі ўсе яго пажаданні, і ў парафіі мелася добрая дысцыпліна. Меў вялікую бібліятэку і быў сапраўдным інтэлігентам. Страшна любіў ездзіць аўтамабілем, але не мог сабе дазволіць яго купіць. Заўсёды сядаў каля шафёра і праз пяць хвілін язды засынаў моцным сном, прычым разбудзіць яго было немагчыма нічым.

Расказаў мне пара сваё знаёмства з Сымонам Мяйштовічам - уладальнікам Геранён, слаўных з часоў Жыгімонта Аўгуста, бо менавіта тут жыла Барбара Радзівіл. Здарылася гэтак, што ксёндз Цыраскі і Мяйштовіч ехалі разам чыгункай з Ліды ў Вільню. Мяйштовіч пагартаў газеты, папазяхаў, адлажыў газеты ў бок і пачаў размову. Быў ён відавочна пад уражаннем ад толькі што выдадзенай кнігі Форда пра яго жыццё і арганізацыю працы. Звярнуўся да ксяндза, лічачы, што гэта нейкі маладасведчаны ў сусветных справах правінцыял. Ксёндз Цыраскі расказваў, як цэлую гадзіну сядзеў і слухаў прамову і толькі ківаў галавой, каб паказаць што слухае. Мяйштовіч заўважыў, што, верагодна ксёндз не выязджаў далей за Ліду і Вільню. Таму, калі ксёндз будзе ў Варшаве, дык хай возьме дрожкі і загадае ехаць на вуліцу Сянкевіча. Там ёсць вялікі, з чырвонай цэглы мураваны дом, а на першым паверсе месціцца кнігарня Гэбернера і Вольфа. Калі ксёндз увойдзе ў кнігарню, дык хтосьці з персаналу запытаецца, чым можа служыць? Няхай ксёндз-дабрадзей папросіць прадаць яму кніжку Форда, якая каштуе пару злотых. З гэтай кніжкі ксёндз даведаецца аб сучасных спосабах арганізацыі працы, якая паляпшае жыццё. Калі пан Мяйштовіч закончыў прамову, ксёндз Цыраскі адказаў: "Бачу, пан чалавек бывалы і нават часам ездзіць у Варшаву. Хай пан выберацца ў Быдгашч, гэта такі горад на паўночны захад ад Варшавы. Калі цягнік спыніцца на станцыі, хай пан выйдзе, пяройдзе на другі бок вакзала і там будуць стаяць дрожкі. Хай пан нойме адны з іх і загадае завезці яго на вуліцу Сянкевіча. Бо ў Быдгашчы таксама ёсць вуліца Сянкевіча. Там пану трэба ўзняцца на трэці паверх дома з пэўным нумарам, і каля дзвярэй кватэры ён убачыць залаты гузік. Калі пан націсне на гузік дык дзесьці ўнутры пачуецца званок. Слуга адчыніць дзверы і пан папросіць яго правесці да рэдактара "X". Калі рэдактар прыме

[17] Пэўна, памылка, верагодна, не дэканат, а пробаства. - *Л. Л.*

пана, хай пан спытаецца - хто пераклаў кніжку Форда на польскую мову? І пан даведаецца, што пераклад выкананы ксяндзом Ігнатам Цыраскім - мною". Калі ксёндз закончыў прамову, у канцы ўказваючы пальцам на сябе, Мяйштовіч схапіў свае рэчы і выбег з купэ. Быў гэта, магчыма, адзін з тых дзён, які ён запомніць на ўсё жыццё.

Трэба сказаць, што ўсе ксяндзы былі настаўлены на 100 % прапольскі і рэпрэзентавалі бескампрамісна польскі кірунак. Пра настаўнікаў такога сказаць было немагчыма. Настаўнікі, якія паходзілі з мясцовага грамадства, адносіліся да справы больш-менш аднолькава з ксяндзамі. Але настаўнікі, якія прыехалі пераважна з Малапольшчы, хоць і былі палякамі, але лічылі гэты край беларускім. Яны былі ўпэўнены, што межы Польшчы ўсталяваліся на сотні гадоў і не разумелі, што на захад і ўсход жывуць шматлікія і вялікія народы, якія могуць збройным шляхам змяніць межы дзяржавы. Усе думалі, што нямецкая і руская арміі маюць узровень 1920 г. і бачылі, што польская армія робіць вялікія крокі наперад, таму спадзяваліся на нерухомасць межаў. ... Настаўнікі з Малапольшчы лічылі, што неабходны сацыяльныя рэформы.

...

У лютым 1932 г. я быў запрошаны ў Жалудок да князя Чацвярцінскага на паляванне на дзіка. Стаяў моцны мароз, і было шмат снегу, аўтамабілем ехаць было немагчыма. У Жалудку князь сабраў паляванне для некалькіх асоб. За два дні мы ўпалявалі некалькі ваўкоў і дзікоў. Але я захварэў і дахаты вярнуўся з вялікай тэмпературай. Бацька таксама ляжаў, бо захварэў на грып. Нашы хваробы патрабавалі доктара. Нягледзячы на страшную завею, са Шчучына прыехаў доктар Кондрат. У мяне знайшоў бранхіт, а ў бацькі, акрамя моцнага грыпу, яшчэ пачатак двухбаковага запалення лёгкіх. Сказаў, што ўлічваючы ўзрост, хвароба бацькі вельмі небяспечная. Выпісаў лекі і загадаў мне быць у ложку ажно да таго часу, пакуль тэмпература не будзе нармальнай. Я паведаміў братам і выклікаў ксяндза Чаплоўскага. Браты прыехалі назаўтра вечарам. Доктар Кондрат прыехаць не змог, і таму з Жалудка прыехаў іншы доктар - малады габрэйчык з фельчарам. Ён засведчыў, што стан бацькі пагоршыўся. Выпісаў лекі і пакінуў каля бацькі фельчара. ... Бацька памёр а 9-й гадзіне вечара. Не было пеніцыліну і іншых сродкаў, і таму практычна немагчыма было ўратаваць жыццё хвораму на моцнае запаленне.

Праз некалькі дзён адбылося пахаванне ў Ішчалнянскай парафіі. Пасля службы ў Ішчалнянскім касцёле, пахавалі бацьку на мясцовых вясковых могілках каля магіл родных. Моцны мароз і снег, які

пакрыў зямлю, перашкаджаў ісці да могілак, якія былі за 1 км ад касцёла. ...

Трошкі раней, ад вялікага Лідскага павета быў аддзелены Шчучынскі павет, і мая гміна Лебяда пачала належаць да гэтага новага павета. Для таго, каб адрозніваць ад Шчучына пад Ломжай, праз некалькі гадоў наш Шчучын пераназвалі ў Шчучын-Наваградскі. У гэтым новым павеце аўтамабілі, акрамя мяне, мелі толькі князь Чацвярцінскі з Жалудка, Міхал Верашчака з Вялікага Мажэйкава і Андрэй Раствароўскі са Скабеек. Відавочна, службовы аўтамабіль меў і стараста ў Шчучыне. Іншыя землеўладальнікі аўтамабіляў не мелі. Прыехаўшы, я за некалькі месяцаў аб'ездзіў з візітамі ўсіх суседзяў-землеўладальнікаў навокал. Праз нейкі час пасля смерці бацькі на мяне звярнуў увагу стараста Сялява. Ён прыехаў у Малое Мажэйкава і з націскам прапанаваў заняць пасаду кіраўніка павятовай управы міравога суда для дробных землеўладальнікаў. Працы было шмат, бо пазыкі, узятыя гаспадарамі да крызісу, калі цэны былі высокімі, стала немагчыма выплачваць з-за зніжэння цэнаў на аграрную прадукцыю.

...

У 1931 г., калі я прыехаў у Малое Мажэйкава, павятовым старастам быў Юзаф Сялява. Вельмі добры ў сяброўстве, раней меў вялікі і ладны маёнтак на Віцебшчыне, у сваім павеце карыстаўся павагай як адміністратар і як вясёлы таварыш ў сяброўстве. Меў здольнасць бачыць у размовах камічныя моманты, добра арыентаваўся ў людзях, любіў ездзіць аўтамабілем. Таму яго службоваму аўтамабілю патрэбна было шмат паліва. Вялікі расход паліва не ставіўся яму ў віну, бо з-за гэтага ён ведаў, што робіцца ў павеце, і мог дасканала і дасціпна пра ўсё расказаць. Дык і мог ён ездзіць толькі аўтамабілем, бо быў надта тоўстым. Пра яго апавядалі, што неяк ён паехаў на адпачынак і з-за адмысловай дыеты страціў чатырнаццаць кілаграмаў вагі. Людзі пыталіся - што з ім здарылася? Адказваў што хваляваецца не трэба - засталося яшчэ сто дваццаць кілаграмаў. Стараста расказваў аб праверках высокіх службовых асоб, яго любімым відовішчам пры гэтым, з'яўляецца пыл з-пад калёс ад'язджаючых візіцёраў.

Праз некалькі гадоў кіравання нашым паветам, стараста Сялява быў пераведзены на іншую пасаду, а да нас здалёк прыслалі Шушкевіча. Шушкевіч пасаду займаў не доўга, праз паўгода перайшоў у Ліду. Пасля яго з Вільні прыехаў магістр права Кавальскі. Жонка яго таксама была юрыстам і працавала адвакатам у Вільні. Тыя некалькі адвакатаў,

якія былі ў Шчучыне, моцна спужаліся. Яны вырашылі што ўсе кліенты зараз пойдуць да жонкі старасты, бо яна будзе мець вялікі ўплыў у судзе. Аднак стараста тактоўна забараніў жонцы браць судовыя справы ў сваім павеце, пакінуўшы ёй свабоду па-за межамі павета. Новы стараста энергічна ўзяўся за справы і хутка здабыў сабе павагу сярод мясцовага грамадства. У адносінах да сваіх падначаленых, стараста быў вельмі патрабавальным, уваходзіў ва ўсе нюансы справы, у тым ліку канцылярскія і бухгалтарскія, стаў пагрозай для гультаёў і хутка выправіў ранейшыя недахопы. Гэтак жа як і з Сялявай, у мяне атрымалася ўсталяваць добрыя адносіны і з Кавальскім.

За некалькі гадоў Кавальскі перайшоў на тую ж пасаду ў Стоўбцы, а стаўбцоўскі стараста Вярбіцкі быў пераведзены ў Шчучын. Каля года я працаваў з ім у павятовых інстытуцыях. Ён аказаўся паляўнічым, і мы з ім некалькі разоў разам палявалі. Знаёмства з гэтым старастам перарвала вайна - мяне прызвалі ў войска, а ён праз Літву выехаў за мяжу. Што з ім было далей, не ведаю. Але са старастам Кавальскім сустрэўся ў Коўне, пасля звальнення з 6-га форта, дзе быў лагер для інтэрніраваных польскіх вайскоўцаў. Потым лёс правёў нас праз літоўскія лагеры ў Лаздзеі і Марыянполі і бальшавіцкія ў Беластоку і Берасці.

...

Хутка прыйшлі і іншыя пасады. Прапанавалі мяне ў павятовую Раду Звязу землеўладальнікаў. Сталым старшынёй Рады быў князь Людвік Чацвярцінскі з Жалудка, а сакратаром Габрыэль Лясковіч з Ішчалны. Гэтыя пасады яны займалі ад моманту стварэння Звяза і да верасня 1939 г. Звяз землеўладальнікаў быў арганізацыяй класавай і аб'ядноўваў тых, хто валодаў пэўным зямельным надзелам. Невялікая складкі "з гектара" плаціліся нерэгулярна, а некаторыя нават ухіляліся ад выплат цалкам і казалі, што наш Звяз нічога землеўладальнікам не дае. Таму большая частка землеўладальнікаў да Звяза не мела ніякага дачынення. Аднак праз Звяз можна было рабіць палітычныя і эканамічныя прапановы, і гэта мела значна большы ўплыў, чым калі б гэтыя прапановы рабіліся індывідуальна. Пры парламентарным ладзе гэта было істотна. Звяз у Сейме і дыскусіях у прэсе мог даводзіць свой погляд на праблемы, што давала паслам у Сейм і сенатарам пэўную палітычную платформу, а землеўладальнікам-палітыкам, пэўную апору.

Землеўладальнікі, якія мелі сто ці меней гектараў, не ведалі моцы прапаганды і не бачылі сэнсу ў палітыцы і арганізацыі грамадства, моцы арганізаванай часткі грамадства і прэсы. Жывучы ў вёсцы, яны жадалі нейкай імгненнай карысці ад арганізацыі. Таму складкі

выплачвалі нерэгулярна, а некаторыя наогул адмаўляліся ад сяброўства ў Звязе. Складкі "ад гектара" не былі вялікімі, а нашы выдаткі ішлі толькі на аплату працы сакратара некалькі гадзін у тыдзень і аплату офіса, які патрэбны быў толькі некалькі разоў у год для пасяджэння Рады. Больш за палову складак ішло ў агульны краёвы Звяз землеўладальнікаў, які меў у Варшаве сталую штаб-кватэру і сталага сакратара Станіслава Ваньковіча (малодшага). Старшынём быў Антоні Юндзіл з Палесся, жыў ён у Варшаве. Я быў толькі членам Рады Звяза землеўладальнікаў у Шчучыне і не прымаў удзелу ва ўсіх пасяджэннях цэнтральнай Рады. Займала гэта не шмат часу, але мяне ахвотна дэлегавалі на розныя з'езды ў Варшаву, Наваградак, Вільню.

Вялікі розгалас зрабіў мой удзел у справах скарбовай управы. Займаўся я ў асноўным, падаткам з даходу, які часта налічваўся цалкам адвольна. Яскравых злоўжыванняў было шмат, і агульнае меркаванне пра гэту ўправу было адмоўнае, бо несправядлівы падатак усяроўна трэба было плаціць. Буйных уласнікаў гэта датычыла меней, бо яны вялі рахункі па закону, з чым управа не магла не лічыцца. Але дробныя падаткаплацельшчыкі павінны былі спярша аплаціць выстаўленыя падаткі і толькі потым ехаць у Наваградак, каб аспрэчыць памеры падатку, што каштавала грошаў і часу - не меней аднаго-двух дзён. Мы сабралі доказы больш дваццаць памылковых разлікаў падаткаў і ў начальніка скарбовай управы ў Наваградку падалі скаргу. Ён прачытаў скаргу і са смуткам паведаміў, што і ў яго ўправе робіцца тое самае. Але вынік быў. Праз некалькі месяцаў скарбовая ўправа ў Шчучыне пачала больш справядліва вызначаць падаткі, што зрабіла папулярнай маю асобу, але і дадала новыя клопаты, ад якіх я не мог адмовіцца. ...

Вынікам перамогі над павятовай скарбовай управай была прапанова стаць членам камісіі па скаргах у наваградскай ваяводскай скарбовай управе. Гэта вымагала быць прысутным на пасяджэннях, а патрапіць ў Навагрудак было цяжка. ...

Поспех са скарбовай управай паказаў, што мяне можна эксплуатаваць і ў іншых справах. Інжынер Трацяк, энтузіяст кааперацыі ўцягнуў мяне ў малочна-сыраробчы кааператыў у Дзікушках. На пачатку пастаўшчыком малака, а потым і членам кіраўніцтва кааператыва. Інжынер Трацяк прапанаваў стварыць кааператыў "Рольнік" у Шчучыне, каб канкурыраваць з мясцовымі габрэямі (у асноўным з Жалудка), якія мелі манаполію на гандаль збожжам у павеце. У гэтым кааператыве я атрымаў пасаду старшыні рэвізійнай камісіі, што забірала некалькі дзён на квартал. У дадатак трэба было наведваць агульныя сходы. Потым, калі старастам стаў Кавальскі, надышлі но-

выя грамадскія абавязкі, але гэта было праз некалькі гадоў. Гэта быў час, калі генерал Жалігоўскі пайшоў на пенсію і ў сваім маёнтку Андрэевічы меў некага, хто кіраваў яго гаспадаркай, а сам генерал займаўся мясцовымі справамі. Высунуў лозунг: "Наша зямля павінна нас карміць і апранаць". Падтрымліваў вырошчванне льну, высунуў лозунг: "Дварам - сеяць, а вёскам - ткаць". Пра землеўладальнікаў казаў, што яны павіны займацца грамадскімі справамі. Што яны займаліся сваімі гаспадаркамі, яго не цікавіла. Усе ворагі буйнога землеўладальніцтва лічылі, што ў маёнтках жыта расце само і дождж ідзе, калі патрэбна. А землеўладальніку заняцца няма чым.

...

Нарэшце эканамічны крызіс прайшоў, цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю ўзняліся, узрос попыт на экспартнае дрэва і гаспадаркі пачалі прыносіць больш вялікі прыбытак. Суседзі Малога Мажэйкава не мелі даўгоў, і таму нават невялікае паляпшэнне кан'юнктуры рынку зрабіла ўражанне надыходу лепшых часоў. Даўгоў не меў павет і наогул Наваградскае ваяводства. Менавіта таму прэзідэнт Масціцкі падчас візітацыі Наваградскага ваяводства заехаў у Жалудок да князя Людвіка Чацвярцінскага. Прынялі прэзідэнта ў Жалудку вельмі добра. Прысутнічалі землеўладальнікі не толькі Шчучынскага і Лідскага, але і іншых паветаў ваяводства, а таксама шмат прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі. Пад час абеду звярнулі на сябе ўвагу філіжанкі з гербамі Чацвярцінскіх і Радзівілаў. Я на тым прыёме не быў і ведаю пра яго толькі па расказах суседзяў. Фактам было тое, што прэзідэнт Польшчы наведаў абшарніка і тым сам падкрэсліў, што і абшарнікі маюць права на існаванне. Да гэтага, толькі Пілсудскі быў у Нясвіжы, але міністры ўнікалі падобных візітаў, бо левіца магла ўзняць неверагодны крык.

Паляпшэнне эканамічнай сітуацыі ў краі дазволіла моцным гаспадаркам зрабіць інвестыцыі. Я пабудаваў вінакурню, у Вялікім Мажэйкаве пабудавалі тартак з млынам і малую электроўню на рэчцы Ішчалнянцы. Малочны кааператыў у Дзікушках павялічыў выраб сыру. Кааператыў "Рольнік" у Шчучыне пабудаваў малы элеватар для збожжа. Маёнтак у Жалудку, які да гэтага меў дзве вінакурні і тартак, павялічыў тартак, і князь Чацвярцінскі пабудаваў драўляны касцёл у Зачэпічах, куды прыязджаў ксёндз з Жалудка. На высвячэнне гэтага касцёла прыязджаў з Вільні сам арцыбіскуп Ялбжыкоўскі.

Будзённыя дні нармальнага землеўладальніка звычайна былі напоўненыя працай і гаспадарчымі клопатамі ці неабходнымі выездамі па грамадскіх ці іншых справах у розныя інстытуцыі. Такіх выездаў

было шмат, і не ўсе сходы можна было ігнараваць.

У нядзелю, свята ці ў дні імянін, калі дазваляла надвор'е, мы звыкла збіраліся каб згуляць у тэніс, а вечарам у брыдж. Тэнісныя пляцоўкі былі ў Жалудку, Скабейках і Малым Мажэйкаве. Так здарылася, што павет быў падзелены на дзве паловы шашой. На поўнач ад шашы былі меншыя маёнткі і збіраліся там радзей, галоўным чынам на імяніны з танцамі, якія цягнуліся да ночы. Маёнткі на поўдзень ад шашы мелі аўтамабілі і ўладальнікі больш мабільныя. Таму кантакты былі частымі, нават арганізоўваліся балі ў Шчучыне, раз ці некалькі разоў на год у Лідзе, былі балі і ў Гурнофелі - пераважна падчас асенніх ваенных манеўраў, калі яны мелі месца ў Шчучынскім павеце.

Некалькі гадоў гаспадарання далі мне магчымасць удасканаліцца ў справе. Усе будынкі і дахі давёў да ладу - гэтую справу ведаў добра. Пабудаваў новы хлеў, пабудаваў некалькі двухпакаёвых хат. Нарэшце пабудаваў школу з двума вялікімі класнымі пакоямі і трохпакаёвай кватэрай для настаўніка, дадаў зямлю пад настаўніцкі гарод, і пляцоўку для гульняў дзяцей. Да гэтага часу школа месцілася ў сялянскіх хатах праваслаўнай вёскі Гасцілаўцы. Новапабудаваная школа знаходзілася ў цэнтральнай кропцы для тых некалькіх вёсак, якія пасылалі дзяцей у школу. Я адмыслова зрабіў гэтак, каб прыбраць школу з беларускай вёскі і даць ёй польскае атачэнне. ...

Таксама пачаў інтэнсіўна паляпшаць пароды жывёл ...

...

Пасля смерці бацькі дом стаў пустым, бо акрамя служкаў у ім нікога не было. Кіравала домам панна Вераніка Каранеўская. Калі яна з'явілася ў Малым Мажэйкаве і адкуль прыйшла, я не ведаю. Калі пасля дэмабілізацыі корпуса генерала Доўбар-Мусніцкага я прыехаў дахаты, яна ўжо працавала ў майго бацькі і мачахі. Дамашняя гаспадарка тады была невялікая, большасць дома займала нямецкая канцылярыя і афіцэры. Адразу даведаўся, што кухняй кіруе дыктарка і ніхто не мае права ёй пярэчыць. Мой бацька вырашыў, што сёстры павінны прайсці практыку на кухні - гэта можа ім спатрэбіцца ў жыцці. Сёстрам было каля дваццаці гадоў, і яны хутка ўцяклі з кухні, бо катлеты ляталі ў паветры і спрачацца з Веранікай яны не маглі. Падначаленыя Веранікі з пэўнасцю казалі, што бачылі, як яна ў поўнач вылятала на мятле праз комін. Зрэшты, выгляд яе адпавядаў выгляду ведзьмы на малюнках. Ёй удалося паказаць усім, што спрачацца з ёй нельга. Кіравала домам безапеляцыйна, цікавілася толькі меркаваннем маёй мачахі, пакуль тая жыла, а пасля слухалася бацьку. Пасля смерці бацькі пачала лічыцца са мной як з дзедзічным уладальнікам.

Але калі ў яе быў дрэнны настрой, яна беспардонна адкідвала мае распараджэнні. Падлогу на кухні трэба было перарабляць. Кухарка Гэрманця скардзілася што зімой моцна дзьме па нагах. Гэрманці, якая мела ўжо шмат гадоў, гэта моцна шкодзіла. Калі цясляр сарваў старыя дошкі, аказалася, што яны ляжалі непасрэдна на бэльках, без уцяплення. Я загадаў зрабіць "сляпую" падлогу, насыпаць на яе неабходную колькасць жвіру з пяском і заслаць з верху новымі, толькі што з тартака, шырокімі, фугаванымі дошкамі. Калі прыехаў з поля, зайшоў на кухню каб праўдзіць, як ідзе праца. У кухні нікога не ўбачыў, праца нават не пачыналася. На пытанне дзе цясляр, атрымаў адказ, што панна Вераніка забараніла класці гэтыя дошкі, бо яны завузкія. Тлумачэнне, што зараз на будоўлі кладуць значна больш вузкія дошкі і ў любым выпадку, дошкі рассыхаюцца таму перад фарбоўкай іх трэба шпакляваць ні да чаго не даводзілі. Толькі пасля доўгіх перамоваў, панна Вераніка дазволіла цесляру ўжыць прывезеныя дошкі. Яна лічыла кухню сваёй зонай адказнасці і не прызнавала тут іншых аўтарытэтаў.

Панна Вераніка трымала ў доме ўзорны парадак. Падлогі заўсёды былі чысцюткія і, незалежна ад таго паркет ці звычайныя дошкі, нашараваныя. Сталовая і мая асабістая бялізна заўсёды ў поўным парадку. Дываны выбітыя і праветраныя, усе клямкі вычышчаны, пакоі праветраны і г. д. Нажы, відэльцы, лыжкі палічаны, усё ляжала на сваім месцы, і толькі я меў права рабіць беспарадак. А было ўсяго шмат - бо толькі сталовы сярвіз з гербам Брахоцкіх - Праўдзіцам быў разлічаны на 24 асобы, і на такую жа колькасць асоб меўся сярвіз з гербам Дубоўскіх. Усё, відавочна, срэбнае. Толькі вялікіх паўміскаў з чыстага срэбра, хіба больш за 20, адпаведная колькасць талерак, розных большых і меншых дадаткаў і г. д. Колькі ўсяго гэтага мелася ведала толькі панна Вераніка, пільнавала ўсё гэта, як зрэнку свайго вока і называла "панскім дабром". У "горшыя часы" - пасля сусветнай вайны, мела адну пакаёўку і адну кухарку з памочніцай. Для цяжкай працы - прання бялізны, мыцця вокнаў, шаравання падлогі, панна Вераніка брала дадатковых работнікаў, пра што я даведваўся пры выплаце заробкаў.

Панна Вераніка ведала старажытныя звычаі, умела гатаваць смачнае сочыва, гародніну ў цукры і кампоты, да таго ж разумела як прымаць гасцей. Пакаёўкі часта мяняліся, і ў выпадку прыезду гасцей наймаліся дадатковыя. ... Пры гасцях панна Вераніка ў зале не паказвалася. Закускі рыхтавалі раней і суседзі казалі, што ў Малым Мажэйкаве такі звычай, што калі ўсе ўжо наеліся, гаспадар дому кажа: "Ну пабавіліся і хопіць - Вераніка, давай абед". Усіх суседзяў яна добра

ведала і пра кожнага мела сваё меркаванне. Прыглядвала мне кандыдатак у жонкі, але ўсіх кандыдатак дыскваліфікоўвала. Старыя звычаі вытрымлівала дакладна, кажучы: "Так заўсёды было". Калі мой бацька памёр, усе са здзіўленнем убачылі, што вялікі гадзіннік у сталовай стаіць. Потым даведаліся, што ў момант смерці яго спыніла панна Вераніка і дазволіла яму зноў пачаць адлічваць час толькі пасля пахавання.

Пра сям'ю панны Веранікі нічога не было чутно, ніхто ніколі пра гэта не расказваў, яна нікуды не ездзіла, да яе ніхто не прыязджаў. Як траціла заробленыя грошы - не ведаю, бо на сябе нічога не выдаткоўвала, акрамя сціплай вопраткі. Лічыла сябе членам сям'і Брахоцкіх, і часам казала, што за верную службу, павінна мець утрыманне ажно да смерці. Але ніхто ёй гэта не абяцаў. Была вельмі сумленнай і практыкуючай каталічкай. Касцёл стаяў за 3 км і яна раней хадзіла туды пешкам, але калі гаспадаром стаў я, ёй ужо трэба было даваць для гэтага коней. А праз некалькі гадоў пасля смерці майго бацькі пачала хутка старэць. Не фарбавала ўжо вочы, бо не мела сіл. На яе месцы з'явілася іншая, так званая "ахмістрыня", якая мела нагляд над курамі, свіннямі і каровамі. Панна Вераніка, уласна, ніякіх абавязкаў ужо не мела, але ад гаспадаркі адарвацца не магла. Заўсёды знаходзілася на кухні, усюды ўстаўляла свае "тры грошы", з усімі спрачалася, не магла гэта пакінуць. Служкі стала скардзіліся, што перашкаджае ім працаваць і дурыць галаву. Бясконцыя канфлікты трэба было ўціхамірваць, а зрабіць гэта мог толькі я. Не жадала перасяліцца ў афіцыну і не жадала жыць на другім паверсе, бо сходы яе мучылі.

Нарэшце прыйшлі страшныя часы, пачалася вайна і мяне прызвалі ў войска. Нейкі час жыла ў Мажэйкаве, але потым бальшавіцкія ўлады зрабілі тут саўгас і выселілі панну Вераніку з яе пакоя. Пакуль не прыйшоў Гітлер, жыла па чужых кутах. З прыходам немцаў я выйшаў на волю з бальшавіцкай турмы, і Вераніка зноў заняла свой пакой насупраць кухні. Усе служкі вярнуліся да мяне, бо думалі, што я і далей буду тут гаспадаром. Але гэта цягнулася нядоўга. Нямецкія ўлады абвясцілі мой маёнтак дзяржаўнай маёмасцю, эканомам прыехаў пан Гнех (Gniech) і выгнаў мяне з сястрой і шваграм у вінакурню. Сам жа заняў жылы дом. Зноў Вераніка была прымушана высяляцца са свайго пакоя. Я пасяліў яе ў адной кабеты каля касцёла і колькі мог даваў ёй збожжа і прадуктаў. Немец быў страшна дурны і ў такія дробныя акалічнасці не ўваходзіў. Вераніка мела сто крокаў да касцёла, была вельмі хворай, нічога ўжо не бачыла, але неяк яшчэ жыла. Нарэшце другія Саветы прымусілі мяне з’ехаць у Варшаву, з-за чаго яна больш не атрымлівала харчоў. Потым даведаўся, што жыла яна

не доўга і памерла ў Мураванцы, дзе я яе і пасяліў.

Таксама старой заслужанай служкай была кухарка Гэрманця Юшкевіч. Яе стрыечны брат меў невялікую гаспадарку ў шляхецкай ваколіцы Станкевічы за 6 - 7 км. Як ветэрынарны фельчар часам прыязджаў у Малое Мажэйкава. Гэрманця ў Мажэйкаве жыла здаўна, яшчэ да Першай сусветнай вайны. Напачатку дрэнна гатавала, але праз час, пад кіраўніцтвам маёй мачахі, выкшталцілася і стала добрым кухарам. Усе яе стравы былі добра прыгатаваны і добра падаваліся. Мы толькі мелі праблему з яе імянінамі. Нарэшце, высветлілася, што калі нарадзілася, дык ніхто не ведаў, якое ёй даць імя. Нехта прапанаваў назваць яе Гэрманця ад назвы фальварка Германцін каля Жалудка, дзе яна нарадзілася. Была вельмі ціхая, спакойная, мала што для сабе патрабавала, а галоўнае - магла жыць у згодзе з Веранікай. Гэта дазваляла ім абодвум неяк ужывацца на кухні. Калі ў 1939 г. прыйшлі бальшавікі, мусіла выселіцца з Малога Мажэйкава, таксама як Вераніка, Юзя і іншыя. Пасля майго вяртання ў 1941 г. разам з іншымі вярнулася ў маёнтак. Неяк перажыла гітлераўскую акупацыю. Трымала кухню хоць нічога не было і нават цукру тры гады ніхто не бачыў. Пры другіх саветах перасялілася ў Станкевічы дзе, падобна, і памерла праз якія дзесяць гадоў.

Мая служка Юзэфа Круповіч з'явілася пазней за ўсіх - ужо пасля смерці бацькі. Яе брат Антак быў фурманам, а не надта прыгожая Юзя, пад кіраўніцтвам панны Веранікі, вывучылася на добрую дамашнюю прыслугу і праз нейкі час нават пачала сварыцца са сваёй настаўніцай. Мела нядобрую натуру і рэдка пра каго добра казала. Але мне свой нораў не дэманстравала. Усё ў яе было дагледжана - падлогі чыстыя, пыл выцерты, на стол прыгожа пададзена. Калі былі госці, дастаткова было ёй толькі сказаць, на колькі асоб будзе абед ці вячэра і хто будзе начаваць. Усё было прыгатавана, нічога не забыта, а калі гасцей бывала больш, чым планавалася, усяроўна дастатковая колькасць усяго зарэзервавана. Калі госці з'язджалі, усе дзверы былі зачынены, і ніхто чужы не мог зайсці. Я заўжды мог ад’ехаць, не думаючы, што тут будзе без мяне. ... Пасля вайны пачаўся зыход польскага і беларускага насельніцтва на захад, на былыя польскія землі. Юзя са сваім братам таксама выехала, яе брат атрымаў гаспадарку каля Свябодзіна, а Юзя яму дапамагала ў працы на полі. Але даход было дзяліць цяжка, а калі сваякі Антака забралі ўвесь гадавы даход гаспадаркі, Юзя зноў пайшла служыць, працу знайшла каля Варшавы, у Міланаўцы. Тут я яе наведаў і, каб атрымала пенсію, дапамог належнымі пасведчаннямі. ...

Адным са старэйшых работнікаў у Малым Мажэйкаве быў

Яраслаў Роўба. Паходзіў з шляхецкай ваколіцы Раўбы. Кар'еру пачаў у Вераскаве на пасадзе малодшага лакея. Насіў тады зялёны мундур з зялёнымі галунамі. Потым, калі бацька пераехаў у Мажэйкава, забраў яго з сабой, але, зразумеўшы працавіты характар Роўбы, паставіў працаваць на зямлі. ... Калі падчас нямецкай акупацыі я вярнуўся дахаты, ён быў ужо старэйшым ляснічым. Быў вельмі тактоўны, спакойны, ніколі не бачыў яго знерваваным, не чуў пра нейкія яго авантуры, у якіх ён бы дрэнна сябе паводзіў. Неяк бацька сказаў: "Можаш Яраслава паслаць з любой справай, усё залатвіць і глупства не зробіць". Яраслаў Роўба быў шляхціц, паважаў сваё паходжанне і быў патрыётам. З яго паходжаннем лічыўся не толькі мой бацька, але і ўсе служкі. ...

Сям'я Суднікаў здаўна служыла маёй сям'і. З маіх маладых гадоў Ян Суднік быў фурманам у Малым Мажэйкаве, а яго малодшы брат кавалём у Вераскаве. Гэта была праваслаўная сям'я, і вераскаўскі Суднік не памяняў вызнанне. Ян Суднік стаў каталікам і яго лінія таксама стала каталіцкай. Сына Яна - Уладзіслава - я вывучыў на шафёра. Праз нейкі час вучань пераўзышоў настаўніка. Я прызначыў яго наглядаць за ўсімі машынамі, бо ён меў да гэтага здольнасці. Праз нейкі час у Мажэйкава перасяліўся сын вераскаўскага Судніка-каваля. Рамяству ён навучыўся ад бацькі і пачаў працаваць у маёй сядзібе. У 1945 г. перспектыва застацца жыць у СССР прымусіла яго з’ехаць у Польшчу. Але не меў шацунку - у Польшчы пад час працы, на яго ўпала дрэва і забіла. Уладзіслаў Суднік не рашыўся з’ехаць, трымала яго зямля, некалькі гектараў, якія яго бацька здабыў за доўгую службу. Спачатку з ім перапісваўся, але потым спыніўся, бо кантакты з былым уласнікам маёнтка маглі выклікаць у яго праблемы. Магло гэта нават давесці да Сібіры.

Таксама здаўна служыла ў Малым Мажэйкаве сям'я Вішнеўскіх. Мой бацька старога Вішнеўскага прыняў агароднікам. Пасля яго смерці яго сын Станіслаў таксама працаваў агароднікам. Не выехаў у Польшчу па тых жа меркаванням, што і Суднік. Яго бацька таксама атрымаў некалькі гектараў з лесам і нават ужо пабудаваўся. Што з ім стала - не ведаю.

Яшчэ некалькі сямей здаўна працавала ў Мажэйкаве і Вераскаве. Другая сусветная вайна ўсё змяніла. Калісьці ў размове пан Чэрніцкі сказаў мне: "Раней тут пан ворагаў не меў". ...

Нарэшце надышоў час калі бальшавіцкае войска наблізілася да нас. Разам са шваграм вырашылі выехаць, бо ўжо раней паспрабавалі сталінскай турмы. ...

Вяртаюся да спраў эканамічных і грамадскіх. Крызіс павольна

адыходзіў, кошты ўздымаліся, але не на шмат, Шчучынскі павет не меў прамысловасці і пачаў ажываць. З прамысловай часткі Польшчы ішлі непрыемныя навіны аб вялікім беспрацоўі ў Лодзі і на шахтах Шлёнска. У нас па вёсках таксама не было дабрабыту і таксама панавала беспрацоўе, асабліва зімой. Але нягледзячы на малыя заробкі было прасцей пражыць, бо жыта было таннае і селянін мог толькі бульбай выкарміць пару парсюкоў - для сябе і на продаж. Таму на рынках утварылася вялікая прапанова. Мясцовыя кааператывы як маглі арганізоўвалі вываз па-за межы павета, але гэта зрабіць было цяжка, бо ўся вытворчасць па перапрацоўцы свініны таксама арыенталася на продаж за межамі павета. За межы Польшчы ішлі толькі выдатныя беконы, а мясцовыя сяляне не маглі вытрымаць неабходны стандарт якасці мяса. Мясцовая парода свіней здаўна была на-сала а сала ніхто, акрамя войска, не хацеў закупляць.

З'явілася ідэя пабудовы кааператыўнай рэзні. Патрабавала гэта дастаткова вялікага капіталу і часу, бо ўсё патрэбна было будаваць з фундаментаў, не хапала таксама энергічнага кіравання. Інжынер Трацяк, каб гандляваць збожжам заняўся кааператывам "Рольнік", знайшоў добрага кіраўніка з Познані, пана Спыхала і гэты кааператыў запрацаваў надзвычай добра. Канкурэнцыя "Рольніка" з мясцовымі купцамі-габрэямі трошкі ўзняла цэны сельскагаспадарчай прадукцыі, што выклікала вялікую павагу дробных і буйных землеўладальнікаў.

Гаспадарчыя справы, вельмі важныя для насельніцтва, меней цікавілі адміністрацыйныя ўлады, непасрэдным абавязкам якіх было бюракратычнае выкананне інструкцый і жаданняў вышэйшай улады, перад усім - ваяводскай. Стараста, як кіраўнік Рады Павета і Павятовага аддзела, быў абвязаны трымаць руку на пульсе гаспадарчага жыцця і ўнікаць у патрэбы свайго павета. Уласна кажучы, мала хто са старастаў мог гэта эфектыўна рабіць. Трэба было мець неабходную падрыхтоўку і адначасова рычагі кіравання каб уздзейнічаць на сітуацыю. Некаторыя павятовыя ўправы, як напрыклад, скарбовая, не падпарадкоўваліся яму цалкам, школьніцтва таксама мела сваё кіраўніцтва, а ўнутры староства, чыноўнікі былі хутчэй зацікаўлены да бюракратычнага вырашэння бягучых праблем, якіх ніколі не бракавала. Да гаспадарчых спраў найбольш павернуты быў Сельскагаспадарчы аддзел, кіраўніком якога ў Шчучыне быў інжынер Е. Казлінскі. Ён меў некалькі інструктараў, якія рабілі праверкі і іспыты згодна з інструкцыямі Міністэрства сельскай гаспадаркі. ... Найлепей у патрэбах аграрыяў арыентаваўся павятовы аграном, але эканамічны бок для яго быў чужы.  Дарожны аддзел меў вялікі штат, кіраваў ім інжынер Барановіч. Гэты аддзел утрымліваў існыя дарогі, будаваў масты,

арганізоўваў шарваркі і г. д. Архітэктурны аддзел наглядаў за будаўніцтвам з боку гледжання выканання законаў. Напрыклад, вёскі былі забудаваны вельмі цесна, што стварала пажарную небяспеку. ... Таксама меліся аддзелы аховы здароўя, бяспекі і інш. Усе гэтыя справы павінен быў ведаць староста і кіраваць імі. ...

У Навагрудскім ваяводстве Шчучынскі павет адносіўся да ліку паветаў з польскай большасцю. Шчучынская, Каменская, Васілішская і Лябёдская гміны мелі шмат польскіх вёсак і засценкавай шляхты. Уласна кажучы, падзел паміж палякамі і беларусамі праходзіў па веравызнанню. Католікі былі палякамі, праваслаўныя - беларусамі. Таксама польскім элементам была невялікая колькасць асаднікаў. Асаднікі, больш энергічныя і амбітныя, стараліся паўсюдна быць на вырашальных ролях і пранікалі ва ўсе інстытуцыі - самакіраванне, культуры і гаспадарку. Вайсковыя асаднікі былі нядрэнна арганізаваныя, асабліва з палітычнага боку ... . Яны супрацьпастаўлялі сябе землеўладальнікам, але сярод тутэйшых сялян вялікай павагі не мелі. Землеўладальнікі былі менш рухомым элементам і больш дбалі пра гаспадарку, бо з яе жылі. А асаднікамі часта былі афіцэры ці падафіцэры і з зямельных надзелаў, якія атрымалі, выжыць не маглі і не мелі грошай, каб развіць гаспадарку і будавацца. Хоць дзяржава і давала ім крэдыты і субвенцыі, аднак на жыццё мусілі зарабляць. З іх рэкрутавалася шмат кіраўнікоў самакіравання, войтаў гмін альбо старшынь кааператываў. Праца на зямлі іх не вабіла. Лепей было тым, хто жаніўся з дочкамі сялян. Гарадская жонка на вёсцы адчувала сябе дрэнна і ўплывала на мужа, каб той прадаў зямлю і пераехаў у горад.

Землеўладальнікі да ўлады не пхаліся. Кожны быў сам за сябе і пераважна цікавіўся грамадскімі справамі толькі ў межах сваёй гміны. Шмат хто з іх нават не належаў да Звязу землеўладальнікаў. Працяглае жыццё на прыродзе стварала ў іх спакойны спосаб мыслення, радаваў іх толькі ўраджайны год, а ў неўраджайны, яны пачыналі чакаць наступнага года. Заўсёды не мелі вольных грошай, іх заўсёды бракавала на выхаванне дзяцей і на падаткі. ...

У кааператыўнай справе землеўладальнікі былі на першых ролях. Амаль што ўсе малочныя кааператывы паўсталі па ініцыятыве мясцовых землеўладальнікаў. Кааператыўная сыраварня ў Дзікушках арганізавана землеўладальнікамі, тое самае можна сказаць пра кааператыў "Рольнік" у Шчучыне. Усе спробы асаднікаў (тут аўтар называе іх "naprawiaczy", што ў дадзены выпадку можна перакласці як "горакіраўнікі" - *Л. Л.*) перахапіць справу адбываліся на агульных сходах. Усё наадварот было ў Лідскім павеце. Там асаднікі вялі рэй і ў павятовай радзе, і ў павятовым аддзеле.

Я толькі зараз дайшоў да ўсведамлення, што красовая палітыка палягала на падзеле ўплываў землеўладальнікаў і вайсковых асаднікаў, у адных паветах падтрымлівалі першых, у іншых - другіх. З гэтага вынікала канкурэнцыя паміж паветамі, а ваявода, па рымскай максіме "divide et impera", схіляўся да аднаго ці да другога боку. А тутэйшыя людзі, якія спрадвеку тут жылі, былі беднымі. Беларусы не мелі інтэлігенцыі, якую можна было супрацьпаставіць палякам, камуністы былі цалкам дэзарганізаваны, бо Сталін у свой час распусціў кампартыю ў Польшчы. Адны габрэі з'яўляліся арганізаванай сілай, якая звыкла схілялася на левы бок. Але яны жылі толькі ў мястэчках, а ўсе паветы ў ваяводстве былі аграрныя, і таму габрэі не маглі мець вялікага ўплыву. Вялікая прамысловасць мелася толькі ў Лідзе. ... Да таго ж усю ўвагу габрэяў займаў Гітлер, які быў для іх ворагам № 1. Трохі ім дакучаў мясцовы ОЗОН[18], які часткова меў нацыяналізм у якасці падмурка. Уласна кажучы, габрэі ў Наваградскім ваяводстве не мелі ніякай палітычнай вагі, аднак час ад часу ўплывалі на сялян, схіляючы іх у той ці іншы бок.

Пэўныя палітычныя разыходжанні былі бачны падчас вялікіх выбараў. А ў выбарах мясцовага самакіравання канкурэнцыя была толькі паміж асаднікамі, мясцовымі землеўладальнікамі і клерыкальнай інтэлігенцыяй. Адзінай арганізаванай сілай быў каталіцкі касцёл, але ён не жадаў умешвацца ў мясцовыя справы, якія яго не датычылі. Пэўныя жарсці адбываліся пад час выбараў у Сейм і Сенат, заўсёды было некалькі спісаў, там асаднікі (naprawiaczy) канкурыравалі з іншымі палітычнымі сіламі. ... Усе жадалі мець максімальны ўплыў на старасту, і таму стараста заўсёды меў вырашальны голас ва ўсіх справах. Найбольшыя шанцы ў Сейм і Сенат мелі кандыдаты, якіх узгадніў ваявода, а ваявода гэтыя справы ўзгадняў са сваім кіраўніцтвам у Варшаве. Выбары ў Сейм, у якіх я браў удзел, наогул праходзілі спакойна, нейкіх злоўжыванняў не было, ва ўсялякім разе я пра гэта не чуў. Потым, пасля выбараў, стараста Кавальскі мне сказаў, што ён кожнага кандыдата, узгодненага з ваяводам, ведае ў сваёй акрузе, і ручаецца за яго на 75% галасоў. ...

Цалкам нечакана я быў прызначаны ў Віленска-наваградскую сельскагаспадарчую камісію. Камісія часткова складалася з сяброў, якіх абіралі ад мясцовага самакіравання, а часткова прызна-

[18] У 1937 г. прыхільнікі ўлады "моцнай рукі" ў сярэдзіне кіраўнічага лагера згуртаваліся вакол Рыдз-Сміглага і стварылі новую палітычную групоўку - "Лагер нацыянальнага аб'яднання" (Oboz Zjednoczenia Narodowego, у прастамоўі - OZN ці OZON). Гэтая арганізацыя ў 1937-1939 гг. дзейнічала таксама і на тэрыторыі Заходняй Беларусі. - *Л. Л.*

чаных міністрам сельскай гаспадаркі. ...

Самастойнай адзінкай у камісіі быў генерал Жэлігоўскі. Ён меў свой пункт гледжання на сельскую гаспадарку і хацеў мець уплыў не толькі на камісію, але і на ўсіх аграрнікаў, а асабліва на тых, хто вырошчваў лён. Прамысловых прадпрыемстваў па перапрацоўцы льну ў краі не было. Льняныя вырабы не былі моднымі і не мелі добрага попыту. ... Аднак генерал Жалігоўскі высунуў лозунг: "Наша зямля мусіць нас апрануць і накарміць". Па яго тэорыі трэба было прапагандаваць вопратку са льну .... Дэбаты пры гэта займалі шмат часу, а само імя абаронцы Вільні Жалігоўскага патрабавала павагі. Але Лодзь не жадала чуць пра лён, актуальнай сыравінай была толькі воўна і бавоўна. ...

На гэтых сходах я пасябраваў з паслом на пенсіі Чапскім, які абіраўся ў Сейм ад нашай акругі. Быў ён на некалькі гадоў старэйшым за мяне, у войску не служыў, у 1920-х гг. быў старастам у Стаўбцоўскім павеце і лічыўся добрым арганізатарам і чалавекам, які лагічна думае. Калі я прыехаў на радзіму ён некалькі разоў абіраўся паслом і меў вялікі досвед палітыка. Меў зацікаўленасць у Шчучынскім павеце. Я інфармаваў яго пра мясцовыя стасункі, а ён асвятляў магчымасць нешта зрабіць на ўзроўні ваяводства і Варшавы. ...

Неяк у Вільні атрымаў запрашэнне на абед да пана прэзідэнта (сельскагаспадарчай камісіі) Аляксандра Мяйштовіча. На тым абедзе прысутнічала каля дзесяці асоб, і я быў самым малодшым з іх. Мэтай абеду было абмеркаванне палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў нефармальнай абстаноўцы. Гэта быў збор так званых "Красовых зуброў". Мяйштовіч ужо не быў міністрам справядлівасці, а толькі прэзідэнтам Банка землеўладальнікаў, але ў віленскім грамадстве лічыўся адным з лідараў групы кансерватараў - тых, хто жадаў перамен без гвалту. У асноўным тут прысутнічалі тутэйшыя землеўладальнікі, якія падтрымлівалі віленскую газету "Слова", якую рэдагаваў Кат-Мацкевіч (ці Цат-Мацкевіч - *Л. Л.*) Галоўным тэарэтыкам быў прафесар Мар'ян Здзяхоўскі, які трымаўся як мага далей ад палітыкі, але з яго меркаваннем ў Вільні вельмі лічыліся. Апрача гаспадара, у гэтай групе найбольш вядомымі былі Станіслаў Ваньковіч з Пятэшы, Зыгмунт Юндзіл, Эмэрык Чапскі і яшчэ некалькі іншых. Я ў размове, відавочна, не меў права голасу і толькі час ад часу даваў зразумець, што ведаю ў чым справа. У віленскім "Слове" я раней надрукаваў некалькі артыкулаў, але не пра палітыку, а пра гісторыю[19]. ...

Іншым разам мяне запрасілі ў Варшаву на сход, які праходзіў

[19] Брахоцкі ў некалькіх нумарах "Слова" надрукаваў артыкул пра польскую Самаабарону ў 1918 г. - *Л. Л.*

у кватэры князя Яўстаха Сапегі. Акрамя гаспадара тут былі Антон Юндзіл, Эмэрык Чапскі, які калі не памыляюся, быў тады паслом у Сейм, міністр Ігнацы Матушэўскі і яшчэ некалькі асоб. Галоўнай тэмай абмеркавання было ўзмацненне кансерватыўнай працы і павелічэння накладу газеты "Слова". Рэдактар Мацкевіч на гэтым сходзе адсутнічаў, а справу дакладваў пасол Чапскі, які папярэдне паразмаўляў з рэдактарам газеты. Справа ішла аб разбудове друкарні "Слова". Была яна малая, мела толькі лінатыпы, што не дазваляла павялічыць наклад. "Слова" развівалася добра, наклад наблізіўся да 30 000 асобнікаў, газета чыталася ўжо па ўсёй Польшчы. Таму акрамя накладу абмяркоўваўся і змест газеты. Новы лінатып каштаваў 19 000 зл. ці 4000 дол. якіх Мацкевіч не меў. Міністр Матушэўскі горача падтрымліваў ідэю падтрымкі газеты і прапаноўваў сабраць адпаведную суму і купіць гэты новы лінатып. Арганізаваць збор даручылі мне, было вырашана не рабіць з гэтага ніякага розгаласу і не пісаць пра гэта ў газеце.

Я напісаў адпаведныя лісты да некаторых асоб, якія вылучаліся сярод іншых землеўладальнікаў тым, што мелі добры прыбытак і матэрыяльныя ўмовы. Праз нядоўгі час на мае лісты пачалі прыходзіць адказы з грашовымі пераводамі. Сумы ахвяр былі ад 500 да 1 000 зл. Хутка меў ужо 11 000 зл. Мацкевіч купіў лінатып ва ўласнасць, узяўшы 8 000 зл., якіх не хапала, у крэдыт. Такім чынам, даручэнне я выканаў хутка, што, адпаведна, выклікала добрую рэакцыю нашых землеўладальнікаў.

Не памятаю, у якім годзе адбыліся гэтыя выбары ў Сейм і Сенат, пра якія пойдзе размова, але курыраваў іх ужо ОЗОН, які ў нашым павеце ўзначальваў мой сусед Ян Трацяк. Пры поўнай падтрымцы ваяводы, была высунута яго кандыдатура. Не памятаю іншых кандыдатур, але ў нашым павеце прайшоў дзяржаўны спіс з Трацяком на чале. На тых выбарах мы не мелі шмат працы, бо ў маім павеце польскае насельніцтва галасавала за гэты спіс - іншыя спісы не мелі поспеху. ...

Згодна з новай канстытуцыяй выбары (у Сенат) былі двухступеньчатымі, а выбаршчыкамі маглі быць толькі людзі ўзнагароджаныя ордэнамі ці яны павінны былі мець выразныя прафесійныя поспехі, як, напрыклад, прафесара і г. д. Наваградскае ваяводства выбірала двух сенатараў на сходзе дэлегатаў, у сваю чаргу дэлегаты выбіраліся ў павятовых акругах. Мая выбарчая акруга складалася з некалькіх гмін з цэнтрам у Васілішках. Старасты вызначалі сваіх кандыдатаў, якія і атрымлівалі на сходах большасць галасоў, кожны такі сход выбіраў адзінага кандыдата. На пачатку вырашылі, што кандыдатам на

сход выбаршчыкаў буду я, на карысць мяне была мая грамадская праца, ордэн "Virtuti Militari", імідж добрага гаспадара і вышэйшая адукацыя. Павятовым старастам тады быў Вярбіцкі, і я меў з ім, як і з яго папярэднікамі, добрыя стасункі. Аднак ён высунуў у кандыдаты войта Васілішскай гміны Шмігеру, а мяне, каб не пакрыўдзіць, прапанаваў абраць старшынём сходу. Аднак у гміне было трохі маіх падначаленых з 13-га палка Віленскіх уланаў, а войт Шмігера не карыстаўся вялікай падтрымкай. І мае былыя падначаленыя высунулі мяне. Кіраваў сходам, як і належыць па закону, міравы суддзя. Пры тайным галасаванні галасы падзяліліся пароўну. Другое галасаванне дало такі ж вынік, і толькі на трэці раз я атрымаў на некалькі галасоў болей і выйграў мандат выбаршчыка на сход у Наваградку. Цягнулася гэта некалькі гадзін, што занепакоіла старасту Вярбіцкага - ва ўсіх іншых акругах у Шчучынскім павеце выбары прайшлі імгненна.

Праз тыдзень павінен быў адбыцца сход выбаршчыкаў. Пераважна ўсіх абраных высунулі старасты. ... З папярэдніх планаў выходзіла, што ў Сенат пройдзе адзін кандыдат ад левіцы - кандыдат ад асаднікаў і шматразовы пасол у Сейм Мальскі[20]. На другое месца сенатара мог абрацца Эмэрык Чапскі, які таксама некалькі разоў абіраўся ў Сейм. Яго кандыдатуру падтрымліваў Звяз землеўладальнікаў і войска. Згодна з законам, вайскоўцы мелі вялікі ўплыў, бо сярод іх было шмат узнагароджаных падчас вайны. Неўзабаве, ваявода Сакалоўскі дамовіўся з афіцэрам рэзерву Юзафам Гадлеўскім, які быў яшчэ і землеўладальнікам і мужам сястры Чапскага (ўладальніцай маёнтка Сынкавічы ў Слонімскім павеце). І такім чынам, ваявода адобрыў кандыдатуру Юзафа Гадлеўскага. Асабіста я вельмі любіў Юзю Гадлеўскага, з якім быў знаёмы яшчэ па Пецярбургу, але з'яўля-

---

[20] Уладзіслаў Мальскі нарадзіўся 24 ліпеня 1894 г. у Малапольшчы, памёр у 1941 г. Скончыў Львоўскі ўніверсітэт. У 1914 г. уступіў у 1-ю брыгаду польскіх легіёнаў Пілсудскага, дзе даслужыўся да сяржанта, у 1917-18 гг. камандаваў звязам аўстрыйскага войска на Італьянскім фронце. У 1918 г. уступіў у Польскую вайсковую арганізацыю. З 1920 г. працаваў у Звязе абаронцаў айчыны, рыхтаваў паўстанне ў Шлёнску, тады ж узначаліў агульнапольскі Звяз Стральцоў. У 1923 г. у чыне капітана пакінуў вайсковую службу і перастаў кіраваць Звязам Стральцоў. Як асаднік разам з сям'ёй пасяліўся ў Ёдкішках (каля Больценікаў) Лідскага павета. Нейкі час гаспадарыў. Браў удзел ў працы Звязу асаднікаў і ў кааператыўным руху. З 1928 г. актывіст Беспартыйнага блоку працы з урадам (BBWR) - гэта практычна была кіроўная ў Польшчы палітычная групоўка. У 1930 г. быў абраны паслом у сойм, а ў 1935 г. - у Сенат РП. Пасля верасня 1939 г. стаў на чале канспіратыўнай арганізацыі "Цывільная абарона" ў Лідзе. Пры канцы 1930-х у газеце "Слова" пра яго, як пра сімвал карупцыі, вельмі крытычна пісаў Юзаф Мацкевіч. - *Л. Л.*

ўся сталым прыхільнікам Чапскага - больш вядомага і дасведчанага палітыка.

Мы пачалі прапаганду за Чапскага, галоўнай мэтай было пераканаць ваяводу, з ім перамовы вялі вайскоўцы. Але ў дзень выбараў стала вядома, што ваявода падтрымлівае Гадлеўскага аднак сваё меркаванне па апошняй хвіліны не выказвае. Камандзір палка, які стаяў у Слоніме (прозвішча не памятаю), перад сходам яшчэ раз пайшоў да ваяводы, каб схіліць яго на бок Чапскага. Згодна з законам на заяве кандыдата ў сенатары павінен быў стаяць дазвол ваяводы, які не быў выбаршчыкам і таму не мог прысутнічаць на сходзе. Праз паўгадзіны пасля пачатку сходу камандзір палка сказаў мне, што ваявода цвёрда стаіць за Гадлеўскага і кажа, што кандыдатура Гадлеўскага ўзгоднена ў Варшаве і нічога змяніць ужо немагчыма. Нічога не заставалася як пагадзіцца з ваяводам, заява Чапскага засталася ляжаць у маёй кішэні. Сход прайшоў без неспадзяванак - нехта вылучыў Мальскага і Гадлеўскага, і ніхто не галасаваў супраць іх - старшыня сходу падсумаваў адзінагалоснае выбранне сенатараў.

Некалькі слоў пра сенатара Юзафа Гадлеўскага. Быў ён высокім, прыстойным чалавекам і адным з самых маладых сенатараў. Умеў ладна прамаўляць, заўсёды быў паважаны ў кампаніі, умеў казаць прыгожыя, вершаваныя тосты. Належаў да Звязу землеўладальнікаў Слонімскага павета і гэта было яго першае вылучэнне, не ўзгодненае са Звязам, які прасоўваў яго швагра Чапскага. Больш шырока вядомым у грамадстве ён быў праз палеміку з Мельхіёрам Ваньковічам. Ваньковіч тады працаваў у левым "Kurjerze Porannym", лічыўся землеўладальнікам і ніколі не выступаў супраць свайго класа. Ужо не памятаю, па чыёй ініцыятыве было вырашана зрабіць серыю артыкулаў, дзе прапагандаваліся тутэйшыя землеўладальнікі. Гадлеўскі і Ваньковіч аб'ехалі аўтамабілем двары, каб расказаць пра цяжкія варункі працы на зямлі і паказаць неабходнасць існавання буйной аграрнай гаспадаркі як узору для меншых гаспадарак, паказаць, што буйная гаспадарка хутчэй прымяняе самыя перадавыя метады апрацоўкі зямлі і таму мае вышэйшую эфектыўнасць.

Але рэпартажы пана Мельхіёра былі цалкам не такія, на якія мы спадзяваліся. Папулярны аўтар не меў паняцця пра сельскую гаспадарку, а бачыў толькі смешныя бакі "грыкасеяў", акарыкатурваў усё, што бачыў і часта даваў фальшывыя абразкі жыцця вёскі. Ды яшчэ прычапіўся да паннаў Пратасевіч. Адну прадставіў як пчалярку, якая не можа даць рады джалячым пчолам, да другой пад'ехаў з іншага боку і абсмяяў. Бацька чатырох паненак меў арыгінальныя ідэі. Прыпамінаю, што ў рыбны стаў ён апусціў электрычныя лямпы. Зрабіў

гэта, бо лічыў, што гэтак рыбы будуць лепей размнажацца. Ванькові<br>прадставіў гэта па-свойму. Хутка сталася зразумелым, што прапаганда праз Ванськовіча мае адваротны ўплыў і рэпартажы ў "Kurjerze Porannym" прыносяць шкоду.

Суполка Гадлеўскі - Ванькові хутка закончылася, і Гадлеўскі адчуў, што неабходна адказаць пісьменніку. Яго артыкулы выходзілі ў "Tygodniku Rolniczym", і палеміка была вельмі вострай. Прыпамінаю такія цытаты, як "З Івана не будзе пана". Ванькові адказваў у Кур'еры і гэта спрэчка доўгі час цікавіла грамадства. Гэта быў час, калі на ўсходзе камуністычныя тэарэтыкі дайшлі да высновы, што дробная гаспадарка не будзе эфектыўнай ... .

1939 г. быў ураджайны і спрыяў тым, хто працаваў на зямлі. Не ведаў я тады што тэрмін майго гаспадарання ў Малым Мажэйкаве падыходзіць да канца. У 1938 г. я пачаў будаваць вінакурню і закончыў будоўлю вясной 1939 г. Гэтая будоўля адняла шмат часу. Адпаведная ўправа моцна тармазіла выдачу дазволу на вінакурню. Прыгатаваны запас бульбы чакаў у капцах і бульба хутка магла пачаць псавацца. Але ж мая вінакурня пачала працаваць. ...

Прыйшоў жнівень 1939 г. з візітам Рыбентропа ў Маскву. Газеты друкавалі фотаздымкі задаволеных Сталіна і Рыбентропа, якія па сяброўску ціснулі далоні. ...

**Забітыя землеўладальнікі Шчучынскага павета.**

1. Капітан Пётр Баркоўскі, загінуў у Катыні.

2. Князь Андрэй Чацвярцінскі з жонкай - расстраляны ў ваколіцах Скідзеля ў верасні 1939 г. жаўнерамі Чырвонай Арміі.

3. Яноўская і яе дачка Зоф'я Пракуйская з Красулёў, застрэлены чырвонымі падчас гітлераўскай акупацыі[21].

4. Клюкоўскі з-пад Астрыны, забіты нацыяналістычна-камуністычнымі беларускімі бандамі падчас гітлераўскай акупацыі[22].

5. Івон Марачэўскі з Макраца, застрэлены чырвонымі партызанамі ў 1944 г. разам з 7 іншымі асобамі.

**Вывезены ў Расію і згінулі без звесткаў.**

1. Мар'ян Янкоўскі, апошні віленскі віца-ваявода, падчас гітлераўскай акупацыі прадстаўнік польскага ўраду ў Наваградскім ваявод-

[21] У мемуарах уладальніка Ішчалны, напісана, што забіты нейкімі бандытамі, але невядома якімі. - *Л. Л.*

[22] Тэрмін "нацыяналістычна-камуністычная беларуская банда" - яўны аксюмаран, які добра адлюстроўвае ўзровень асэнсавання і аб'ектыўнасці аўтара ўспамінаў. - *Л. Л.*

стве, вывезены ў 1944 г.

2. Эвард Казлінскі з Чарноўшчыны, загінуў у лагеры ў Карэліі.

3. Баляслаў Мікульскі з Глыбокага, вывезены, згінуў без вестак.

4. Зоф'я Марачэўская з Андрушаўцаў, вывезена, згінула без вестак.

5. Мацей Марачэўскі з сям'ёй у 4 асобы, вывезены, згінуў без вестак.

6. Антон Прыбытка з Воўчынак, загінуў у лагеры.

7. Казімір Скіндар з Капцюхі, загінуў у лагеры[23].

8. Станіслаў Шалевіч з Хацяновіч, з сям'ёй загінуў у лагеры.

**Разам каля 14 асоб.**

**Забіты немцамі**

1. Князь Людвік Чацвярцнскі з Жалудка, загінуў у Асвенцыме.

2. Падхарунжы Томаш Верашчака, загінуў ад нямецкай кулі на польска-вянгерскай мяжы.

3. Станіслаў Ваньковіч (малодшы) з жонкай Аляксандрай з Горватаў, забіты ў гестапа ў каралеўстве[24].

**Разам 5 асоб.**

**Загінулі пры іншых акалічнасцях.**

1. Падпаручнік Козел-Паклеўскі з маёнтка Радкевічы, загінуў на польска-літоўскай мяжы ў 1939 г.

2. Баляслаў Лісоўскі з Высокага Лядска, забіты невядомым забойцам.

3. Др. Аляксандр Мікульскі з унукам Андрэем Валінскім, расстраляны немцамі ў Варшаўскім паўстанні.

4. Эканом маёнтка Дзікушкі Паўлоўскі, загінуў ад партызанскай кулі ў 1943 г.

5. Багдан Славінскі, загінуў ад партызанскай кулі ў 1943 г.

**Страты сярод землеўладальнікаў Лідскага павета (не ўсе)**

1. Князь Друцкі-Любецкі з Жырмун, загінуў у Расіі.

2. Уладзіслаў Ельскі з Жырмун, спалены жывым партызанамі ў Шамятоўшчыне.

3. Пані Кунцэвіч з Радзівілішак, застрэлена ў доме партызанамі.

4. Вітольд Пілецкі, расстраляны ў Варшаве ў 1946 г.

5. Юзаф Сяклюцкі, забіты ў Лідскай турме ў 1940 г.

---

[23] Муж уладальніцы Лябёдкі Алены Скіндар Іваноўскай. - *Л. Л.*

[24] Тэрміналогія XIX ст., умоўна можна лічыць, што маецца на ўвазе этнічная Польшча. - *Л. Л.*

6. Вітольд Лясковіч з Кір'янаўцаў, загінуў у Расіі.
7. Станіслаў Скіндар з Багданаўшчыны, загінуў у Расіі.
**Разам 7 асоб.**

**Забіты немцамі.**
1. Даніэль Кастравіцкі, застрэлены ў Вільні на вуліцы.
2. Юльян Лясковіч з Пяткоўшчыны, разам з жонкай Марыяй загінулі ў Асвенцыме.
3. Анна Лясковіч, дачка Вітольда, загінула ў Варшаўскім паўстанні.
4. Марыя Шукевіч з маёнтка Крупава, загінула ў Варшаўскім паўстанні.
5. Палкоўнік Сурмацкі, муж пані Шукевіч з Крупава, загінуў у Асвенцыме.
**Разам 6 асоб.**

*1955 - 1965 гг.*
*Варшава, 23 кастрычніка 1974 г.*

*Пераклад Леаніда Лаўрэша. 2019 г.*



# *Алесь Хітрун*

*Алесь Хітрун нарадзіўся 17 жніўня 1982 года ў вёсцы Крупава Лідскага раёна. Скончыў Крупаўскую сярэднюю школу (9 класаў), скончыў Лідскае ПТВ-196 (майстар сельгаспрадпрыемства), музычную школу (клас баяна), завочна - філалагічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы ( выкладчык беларускай мовы і літаратуры). Працаваў у прыватных фірмах на дрэваапрацоўцы, на будоўлі. Цяпер працуе ў Лідскім гістарычнамастацкім музеі навуковым супрацоўнікам літаратурнага аддзела. З'яўляўся кіраўніком літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" (са студзеня 2012 па люты 2019). Друкаваўся ў часопісах "Маладосць", "Вожык", "Вясёлка", "Лідскі летапісец", у штогодніку "Галасы", у газетах "ЛіМ", "15 суток", "Гродненская правда", "Маладзёжны кур'ер", "Звязда", "Настаўніцкая газета", "Принеманские вести", "Лідская газета", "Наша слова", у зборніку "Ад лідскіх муроў". Фіналіст і лаўрэат II Міжнароднага маладзёжнага фестываляконкурсу паэзіі і паэтычных перакладаў "Берега дружбы" (Расія, Растоўская вобласць, Няклінаўскі раён, сяло Пакроўскае) ў 2017 годзе. Піша вершы, апавяданні, гумар, перакладае вершы на беларускую мову, займаецца краязнаўствам, даследуе фальклор.*

# Элементы тэорыі літаратуры ў творах паэтаў Лідчыны

Мастацкая літаратура - гэта асноўны від мастацтва, у якім словы і канструкцыі натуральнай мовы складаюць адзіны матэрыял. Гэта крыніца чалавеказнаўства. Гэта сэнс жыцця для таго ці іншага пісьменніка, менавіта, калі ён сваё жыццё аддае ёй.

У гэтым я змог упэўніцца пад час навучання на філалагічным факультэце беларускай філалогіі Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Веды, якія прывіліся на шматлікіх курсах у сценах гэтай ВНУ мне і на сёння дапамагаюць смела ісці па жыцці.

Руслан Канстанцінавіч Казлоўскі, Мікалай Аляксандравіч Даніловіч, Іван Якаўлевіч Лепешаў, Ігар Васільевіч Жук… Можна пералічваць і пералічваць неардынарных, адданых справам на карысць беларушчыны выкладчыкаў, якія, бясспрэчна пасеялі ўва мне Разумнае, Добрае і Вечнае.

У 2017 годзе не стала аднаго з іх. Не стала беларускага літаратуразнаўца, літаратурнага крытыка і гісторыка літаратуры, доктара філалагічных навук, прафесара купалаўскага ўніверсітэта Жука Ігара Васільевіча. Мне пашчасціла навучацца ў яго на курсе "Тэорыя літаратуры". Менавіта на яго лекцыі, мы, студэнты наведваліся ўсе, бо яны былі глыбокія і цікавыя. Нават пасля заняткаў да выкладчыка мы цягнуліся з прыхільнасцю і з разуменнем таго, што ў любы момант Ігар Васільевіч раскрые для нас штосьці новае і яшчэ невядомае для моладзі, якая па-добраму ставіцца да беларускай мовы і літаратуры. Яго падрыхтаванасць, эрудыраванасць пранікла ў нашу студэнцкую падсвядомасць. Кантрольная праца, якая была напісана мною па курсу "Тэорыя літаратуры" за 2012 год была адзначана прафесарам на высокім узроўні, бо падрыхтавана была па творах мясцовых лідскіх паэтаў, з многімі з якіх ён быў асабіста знаёмы. Пагэтаму ёсць магчымасць пазнаёміцца з маёй літаратуразнаўчай працай і магчыма яна стане карыснай інфармацыяй для аўтараў і іншых майстроў слова, змешчаных на старонках літаратурна-мастацкага зборніка "Ад лідскіх муроў".

## Эўфонія

***Эўфонія*** *(мілагучнасць)* (ад грэч. ***eu*** - *добра* і ***phone*** - *голас, гук*) - прыгажосць і натуральнасць гучання вершаванай мовы. Мілагучнасць ствараецца дзякуючы алітэрацыям, асанансам, гукаперай-

манням, рыфмам, іншым гукавым паўторам і ўзмацняе выразнасць і эмацыянальную афарбоўку мастацкай мовы. Збег некалькіх галосных гукаў называецца *зіяннем, аднагалоссем*, або *шатусам* (ад лац. *hiatus*); выкарыстоўваецца ён з пэўнымі стылістычнымі мэтамі, бо ў адваротным выпадку парушае мілагучнасць мовы (*"а ў аэрапорце"*). Пры збегу галосных завяртаецца падчас да *элізіі* (ад лац. *elision* - *выпадзенне*) - скарачэння аднаго з двух суседніх галосных *("усіх да'днаго"*). Шкодзяць мілагучнасці літаратурнага твора і непатрэбныя збегі зычных (*"як крыж жывы"*).

Паўторы класіфікуюцца паводле іх размяшчэння ў рытмічных адзінках вершаванага тэксту. Прыклады:

**1. Сумежныя паўторы ў межах аднаго радка.**

1) **Св**ятыня **м**ая - гэта **В**ера **М**ая
I **Св**етлая **М**оц У**в**аскршэння!

*(Васіліса Пазнухова, зборнік "Мілавіца", верш "Святыня мая", стар. 29.)*

2) **Тр**эцяе - **с**амае **т**аемнае - жывое **тр**апяткое **с**эрца,
**Пр**аз якое **пр**арасці галінкі белай яблыні.

*(Васіліса Пазнухова, зборнік "Мілавіца", верш "Было ў мяне калісьці тры жыцці", стар. 44.)*

3) **Ч**а**к**аеш сёння ты сустрэ**ч**ы, ве**ч**ар?
Ці запаліў ўдале**ч**ы **з**ор**к**і-**с**ве**ч**кі?
Ці **з**можаш сё**нн**я ў**зн**яць мяне ў а**бл**окі,
У **бл**акітны аксаміт ня**б**ёс г**л**ы**б**окіх?

*(Васіліса Пазнухова, зборнік "Мілавіца", верш "Вечар", стар. 53.)*

**2. Кальцавая. Першая група ў пачатку радка, другая - у канцы.**

1) Цэлы **ст**ос паперы на маім **ст**але…

*(Алеся Бурак, зборнік "Прастора дабрыні", верш "Актава", стар. 47.)*

2) Каля **скр**оняў не**ск**анчона **кр**ужыць…

*(Алеся Бурак, зборнік "Прастора дабрыні", верш "Грэе родны край", стар. 47.)*

3) **Пр**аз вы**пр**абаванні ты **пр**анёс...

*(Алеся Бурак, зборнік "Прастора дабрыні", верш "У вянок Валянціну Таўлаю", стар. 42.)*

**3. Стыкавая. Першая група ў канцы першага радка, другая - у пачатку другой.**

1) Над ім дамы, бы кара**бл**і…
**Бл**ішчаць на вымаклай зямлі.

*(Уладзімір Васько, зборнік "Кругаварот жыцця", верш "Лідская уверцюра", стар. 10.)*

2) Вадаспад валасоў залатых
Здатна лашчыць тваё **пл**ячо
І **пл**ыве да грудзей крутых.

*(Уладзімір Васько, зборнік "Кругаварот жыцця", верш "У Сяльцы", стар.53).*

3) Ты - мая знахо**дк**а,
А**дк**рыццё маё.

*(Уладзімір Васько, зборнік "Кругаварот жыцця", верш "Ты - маё жыццё", стар. 55.)*

**4. Скрэпавая. Дзве групы ў пачатку радкоў.**

1) **Кр**асу тваіх палёў жытнёвых
**Кр**ай светлы мой.

*(Міхась Мельнік, зборнік "Лодка жыцця", верш "Люблю прынёманскія сцежкі", стар. 12.)*

2) **Св**еціць спакойна сабе і смяецца,
**В**е**с**ела сад серабром аздабляе,…

*(Міхась Мельнік, зборнік "Лодка жыцця", верш "Месяц", стар. 29.)*

3) **З**а**л**ётныя чайкі - натхнянкі,
**Л**а**з**авыя астраўкі.

*(Уладзімір Васько, зборнік "На схілах берагоў", верш "Мой свет", стар. 7.)*

4) У **з**а**л**атых сузор'ях
I **з**а**л**омах рэк.

*(Уладзімір Васько, зборнік "На схілах берагоў", верш "Гармонія", стар. 8.)*

5) У **н**е**б**е памяці, чыстым і свежым,
**Н**і**б**ы белыя чайкі ляцяць.

*(Уладзімір Васько, зборнік "На схілах берагоў", верш "Пад зоркай", стар. 79.)*

**5. Канцавая. Дзве групы ў канцы радкоў.**

1) Будзьма таньчыць, аж пакуль грыміць аркес**т**а**р**
I міргаюць заклінальна ліх**т**а**р**ы.

*(Ірына Багдановіч, зборнік "Прыватныя рымляне", верш "Снежаньскае танга з Алесем", стар. 58.)*

2) Легкадумства, не**п**а**р**а**д**ку,
Ён - жывога перша**пр**о**д**ак.

*(Ірына Багдановіч, зборнік "Прыватныя рымляне", верш "Крумкач", стар. 61.)*

3) На мазалях працавітага **кр**аю,
Уросшы ў яго **к**а**р**ані.

*(Данута Бічэль-Загнетава, зборнік "А на палессі", верш "Перад Нёманам", стар. 6.)*

4) З войскам у непагадзь **м**о**к**нуў,
Згрукаў у Горадні за**м**а**к**.

*(Данута Бічэль-Загнетава, зборнік "А на палессі", верш "Баторава горка", стар. 54.)*

**6. Сумяшчэнне канцавой і кальцавой групоўкі зычных.**

1) Малітву пу**шч**а ўтварае на**шч**а.
У снах дубоў несмяротны **пр**а**шч**ур,
Дае на**шч**адку са срэбра **пр**а**шч**у,
Каб не закінуў за свет **пр**апа**шч**ы.

*(Данута Бічэль-Загнетава, зборнік "А на палессі", верш "Паганскае", стар. 105.)*

## Паэтычныя фігуры і паэтычныя тропы

*Паэтычныя (стылістычныя, сінтаксічныя) фігуры* - сродкі эмацыянальнай выразнасці паэтычнай мовы, якія ствараюцца рознай будовай фразы або сказа, гэта значыць сродкамі сінтаксісу.

*Паэтычныя тропы* - найважнейшыя прыёмы стварэння мастацкага вобраза ў літаратуры, пры якім слова набывае вельмі актыўны выяўленчы характар, выражае пэўнае пачуццё, эстэтычную ацэнку жыццёвай з'явы.

*Антытэза (ад грэч. antithesis - супрацьпастаўленне)* - стылістычная фігура, кантраснае супастаўленне процілеглых перажыванняў, думак, вобразаў для ўзмацнення ўражання ад гэтых з'яў ці выяўлення іх супярэчнасці.

Ты - мая зямелька,
Я - твой каранёк,
У цябе - стагоддзі,
А ў мяне - дзянёк.

Ты - мая сцяжынка,
А я - твой слядок,
Ты - агню іскрынка,
А я - як дымок.

Ты - мая матуля,
А я - твой сынок,
Да сябе прытуліш -
Я твой слых і зрок.

Я табою ганаруся,
Бо ты - Беларусь.

*(Алесь Хітрун, "Краязнаўчая газета", верш "Беларусь", 2010 год, № 2 (307), стар.3.)*

*Выклічнік (рытарычны вокліч)* - словы, выкрыкі, вымаўленыя з моцным пачуццём.

Усе ўздыхаюць,
Ахаюць:
- Які непаўторны!..
Які ён велічны і вольны! -
І ўсё, што пра яго гавораць, -
Праўда.

Але што словы!..
Вусны твае ўтораць:
- Ну і прасторы,
Ну і шырыня!
А я дык ведаю -
У рацэ ёсць глыбіня.

*(Міхась Мельнік, зборнік "Лодка жыцця", верш "Ля Нёмана", стар. 36.)*

*Увасабленне, персаніфікацыя (ад лац. persona - асоба і facio -*

*раблю)* - разнавіднасць метафары, якая заключаецца ў наданні чалавечых уласцівасцей рэчам, прадметам, з'явам прыроды.

Ноч узяла ў пуховыя далоні
Твой твар з усмешкай дня,
А ты не ведаеш, што сёння
З нябёс спускаецца зіма.

*(Іван Гушчынскі, зборнік "Ідзі і вяртайся", верш "Ноч узяла ў пуховыя далоні...", стар. 19.)*

*Зваротак* - стылістычная фігура ў форме звароту аўтара да пэўнай асобы, прадмета, з'явы.

Ляцяць кудысьці мае словы
Вятрыскам разагнаныя,
Я без іх, як без падковы,
Конь не падкаваны.
Як злавіць іх, падкажыце,
Мае сябры-паэты,
Як усцішыць гэты вецер,
Адкрыйце мне сакрэты?!

*(Алесь Хітрун, газета "Наша слова", 2010 год, № 40 (983), стар. 4.)*

*Рытарычнае пытанне (ад грэч. rhetor - аратар, прамоўца)* - пытанне, якое не патрабуе адказу. Рытарычнае пытанне само сцвярджае пэўную думку.

Божа! Што ж робіць са мною жыццё?!
Нішчыць, нявечыць - навошта?!
Можа, за тое, што сэрца маё
Біцца ў няволі не можа?

*(Васіліса Пазнухова, зборнік "Мілавіца", верш "Агонія. Ці практыка гамлетаўскага чытання", стар. 39.)*

*Сінанімізацыя* - групоўка слоў, якая розніцца адценнем значэння ці стылістычнай афарбоўкай або тым і другім адначасова; словы, розныя па гучанні, але аднолькавыя ці блізкія па значэнні.

Мова матчына, мова родная,
Ва ўсякай нагодзе прыгодная.
Мова бацькава, мова годная,

Ты - адзіная, ты - народная.
Ты - бальзам для майго сэрца кволага,
Трапяткая мая, непакорная,
У народзе маім - душа вольная,
Прыгажосцю сваёй бездакорная…

*(Алеся Бурак, літаратурна-мастацкі зборнік № 7, 2010-2011 гг. "Ад лідскіх муроў", верш "Прызнанне", стар. 24.)*

*Пералічэнні.*

Я з любімага роднага поля,
Дзе так жыта ласкава спяе,
Дзе так вецер гуляе на волі,
Дзе так сонца з-за лесу ўстае.

*(Алесь Хітрун, "Лідская газета", 2012 г., № 6 (12118), стар. 6.)*

*Гіпербала (ад грэч. hyperbole - перабольшванне)* - мастацкі прыём - моцнае перавелічэнне ўласцівасцей, якасцей ці памераў прадмета або з'явы з мэтай мастацкай выразнасці.

Ён сто паэтаў разагнаў.
Каго на неба, каго ў хмары.
Слязу пусціла не адна:
Яе не ўспомніў Ярац…
…Народ - прысуд. Народ - вердыкт.
Ён і блакіт, і гром, і хмара.
Вядома, чый удар пад дых.
Пры чым тут Віктар Ярац?

*(Алесь Стадуб, зборнік "Скрыжалі", верш "Пры чым Віктар Ярац?", стар. 58.)*

*Градацыя (ад лац. gradatio - паступовае павышэнне, узмацненне)* - стылістычная фігура, якая заключаецца ў тым, што ў вершаваных радках групуюцца словы ці выразы з нарастаннем (клімакс), або, наадварот, аслабленнем (антыклімакс) іх эмацыянальна-сэнсавай выразнасці.

На свет я прыйшоў з Беларусі,
А разам - і мова мая.
Радзімай сваёй ганаруся,

Бо тут мая хата, сям'я.
Тут чуцен і спеў жаўруковы,
І клёкат цыбатых буслоў,
А ў ранні - рыканне каровы,
Гудзенне ў палях трактароў…
Напіўся я тут сырадою,
Купаўся ў рачулцы Крупкі,
Кляпаў касу летняй парою,
Пазнаў пах сухой асакі.
Радзіму сваю не пакіну:
Яна ж узрасціла мяне…
І да самай апошняй хвіліны
Не дам іншым ганьбіць яе.

*(Алесь Хітрун, "Лідская газета", верш "Бацькаўшчына", 2007 г., № 89 (11464), стар. 5.)*

*Анакалуф (ад грэч. anakoluthos - непаслядоўны, няўзгоднены)* - сінтаксічная або лагічная няўзгодненасць асобых членаў паэтычнага выказвання.

У далячынь плыве чароўны Нёман
Блакітнай стужкай за зялёны гай.
Пяюць бярозкі па-над кожным домам
І поўняць песняй сэрца цераз край.
Шчыруюць і Бярозаўка і Ліда -
Гасцінныя сяброўкі-гарады.
Сялец і Збляны вабяць краявідам,
З-за свету госці лётаюць сюды.

*(Пятро Макарэвіч, "Лідская газета", верш "Прынёманскі край", 2008 г., № 78, стар. 4.)*

Верш "аздоблены" другім слупком, у якім граматычна памылкова: калі *"гарады"* - дык патрэбна *"сябры-гарады"*, а не *"сяброўкі"*. Сялец і Збляны - розныя населеныя пункты, значыць *"краявідамі"*, а не *"краявідам"*. І зусім незвычайная думка апошняга радка другога слупка - "шэдэўр" паэзіі (падкрэслена).

# Першы фестываль лідскай кнігі і друку



Фестываль лідскай прэсы і кнігі "Ад мінулага ў сёння і ад сёння ў заўтра вядзе нас друкаванае слова" пры вялікім зборы народу правяла Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы пры падтрымцы Лідскай гарадской арганізацыі ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” 15 верасня 2016 года на ганку бібліятэкі. Ганак тут беларускі, змяшчае мо дзве сотні чалавек.

У рамках фестывалю на тарцавой сцяне бібліятэкі размешчаны банер з пазнакай “500 год ад пачатку беларускага кнігадрукавання”. Па факту гэта першы банер у горадзе да будучага ўсебеларускага юбілею. Распрацавала банер супрацоўніца бібліятэкі Дар’я Марцінкевіч. Назва на фасадзе будынка ўтрымоўвае толькі словы “Цэнтральная раён-





ная бібліятэка", то цяпер ёсць і імя Купалы, і яго словы, і нават партрэт.

Сярэднявечная музыка гурта "Скудрынка" і фальклорна-сучасныя песні гурта "Талер" распачалі імпрэзу і стваралі фон усёй дзеі. Тым больш, што кніжная традыцыя на Лідчыне вельмі даўняя. У 1576 г. Ян Карцан родам з-пад Ліды ў друкарні Яна Кішкі друкуе сачыненне С. Буднага «Аб галоўных палажэннях хрысціянскай веры» і працу Цыцэрона «Аб павіннасцях», перакладзеную на польскую мову С. Кашуцкім. У 1598 годзе лідскі староста Ян Абрамовіч выдаў у Вільні евангелістычны "Катэхізіс", які змяшчаў 300 рэлігійных песень. І не так важна, якую з гэтых датаў хто возьме за пачатак лідскага друку, галоўнае, што той пачатак быў і быў не ў 1917 годзе.

Удзел у фестывалі бралі "Лідская газета", "Прынёманскія весткі", выдавецкі дом ТБМ з "Нашым словам", "Лідскім летапісцам" і альманахам "Ад лідскіх муроў", Лідская друкарня, кнігарня "Кніжны свет", "Саюздрук". Былі арганізаваны кніжныя выставы "Летапіс друку Беларусі", "Лідскія перыядычныя выданні", "Лідчына літаратурная", выстава-продаж сувенірнай і паліграфічнай прадукцыі.

З Менска спецыяльна на фестываль прыехаў шчыры сябар г. Ліды, паэт і даследчык літаратуры Міхась Скобла, які чытаў свае вершы.

Намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны бард Сяржук Чарняк выканаў песню пра "Наша слова", напісаную ім спецыяльна пад фестываль на тэкст

Сяргея Чыгрына са Слоніма.

***Наша слова***

*Каб у хаце гучала родная мова,*
*І грэла нам душу і сэрца:*
*Чытайце заўсёды, сябры, "Наша слова",*
*Каб словам  бацькоўскім сагрэцца.*

*Чужых нам ніколі не трэба замоваў,*
*Чужых не жадаем праклёнаў.*
*Чытайце заўсёды, сябры, "Наша слова" -*
*Жывіце прыгожа, натхнёна.*

*Хай ліўні смяюцца пад гром перуновы,*
*І ветры гуляюць на волі...*
*А мы не баімся, бо ёсць "Наша слова" -*
*І нас не спалохаць ніколі.*

*Ці сонечным ранкам, ці ў час вечаровы,*
*Мы з мовай задумы ўсе здзейснім.*
*Чытайце заўсёды, сябры, "Наша слова" -*
*Лячыцеся казкай і песняй.*

*Гасцей сустракаем заўжды адмыслова,*
*На стол саматканы засцелем абрус...*
*Чытайце заўсёды, сябры, "Наша слова" -*
*І жыць будзе тут Беларусь!*

На апошнім этапе фестывалю ў чытальнай зале бібліятэкі была адкрыта партрэтная галерэя супрацоўнікаў даваеннай рэдакцыі газеты “Ziemia Lidzka”, пісьменнікаў - Уладзіслава Абрамовіча, Міхала Шымялевіча, Аляксандра Снежкі, Антона Грымайла-Прыбыткі. Выстаўленыя партрэты намаляваў лідскі мастак Вадзім Вераб’ёў.

Пра лідскіх даваенных краязнаўцаў і іхнія лёсы распавялі Станіслаў Суднік і Леанід Лаўрэш. Была падкрэслена іх краёвая пазіцыя, чаго варты хаця б той факт, што Міхал Шымялевіч быў чальцом Лідскай гарадской рады ад ТБШ, адзіным чальцом ад ТБШ у Лідзе.

***Паводле СМІ.***

# Другі конкурс імя Веры Навіцкай

На працягу двух гадоў Лідскай раённай бібліятэкай праводзіўся другі адкрыты літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям", які ставіў сваімі мэтамі прапаганду творчай спадчыны дзіцячай пісьменніцы Веры Навіцкай сярод лідзян, заахвочванне лідскіх паэтаў і празаікаў да напісання твораў для дзяцей (першы такі конкурс праходзіў два гады назад).

Калі ў першым літаратурным конкурсе імя Веры Навіцкай было каля дзесяці ўдзельнікаў, то ў другім - больш за дваццаць (з 27 аўтараў да конкурсу паводле тэматыкі допушчаны 20 чалавек), што сведчыць аб тым, што конкурс імкліва набірае папулярнасць. Сярод іх як вопытныя аўтары, так і тыя, хто пакуль толькі



спрабуе свае сілы ў напісанні літаратурных твораў. Асабліва шмат было даслана на конкурс вершаў (больш за сотню). Нямала паступіла і загадак, ёсць казкі, п'есы, фантастычныя апавяданні, гісторыі з жыцця.

Адзін з арганізатараў конкурсу імя Веры Навіцкай, лідскі паэт, краязнавец, рэдактар часопіса "Лідскі летапісец" Станіслаў Суднік пераклаў на беларускую мову кнігу Веры Навіцкай "Добра жыць на свеце" (напэўна, гэта першы выпадак перакладу тво-



раў Навіцкай на беларускую мову). Пакуль што адзіны асобнік гэтай перакладзенай кнігі ён перадаў у фонд Лідскай раённай бібліятэкі.

20 снежня 2016 года ў раённай бібліятэцы адбылося ўрачыстае падвядзенне вынікаў літаратурнага конкурсу, на якое былі запрошаны яго ўдзельнікі. Журы начале з намеснікам начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Уладзімірам Самсонавым, вельмі нялёгка было вызначыць пераможцаў. У выніку прэміяй III ступені быў узнагароджаны Уладзімір Васько, які даслаў на конкурс фантастычнае апавяданне "На залатой планеце" пра касмічныя прыгоды двух школьнікаў, прэміяй II ступені - Ганна Рэлікоўская (вершы пераважна на школьную тэматыку), прэміяй I ступені - Святлана Ці-






шук (вершы і п'еса "Каток-футбаліст"). Пераможцам конкурсу акрамя дыпломаў былі ўручаны грашовыя прэміі.

Дыпломы ўдзельнікаў атрымалі Валянціна Троцкая, Валянцін Бярэсціч, Ала Мась, Аляксандр Бойка, Уладзімір Руль. Апошні - жыхар Воранаўскага раёна (нагадаем, што конкурс адкрыты).

Дасланыя на конкурс творы ўвайшлі ў другі выдадзены бібліятэкай зборнік "Дарослыя - дзецям" (першы такі зборнік выйшаў два гады назад).

Застаецца толькі дадаць, што сярод дасланых на конкурс твораў былі і шматлікія дзіцячыя творы лідскага паэта Смарагда Сліўко (1931-2006), якія сабрала для конкурсу яго ўдава Ірэна Нікадзімаўна. Вечар памяці Смарагда Сліўко адбыўся адразу пасля падвядзення вынікаў літаратурнага конкурсу "Дарослыя - дзецям".

*Алесь МАЦУЛЕВІЧ.*

**На здымках:** 1. Журы конкурсу; 2. Удзельнікі конкурсу; 3. 1-ю прэмію атрымоўвае Святлана Цішук; 4. Кніга В. Навіцкай “Добра жыць на свеце”.

# Узрасло буйным коласам зерне Скарыны

# *Пятыя Лідскія чытанні*

2017 год у культурным жыцці праходзіў пад знакам 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Менавіта 500 гадоў назад, а дакладней - 6 жніўня 1517 года, у Празе, адным з найбуйнейшых на той час цэнтраў кнігадрукавання, беларускім асветнікам, вучоным, гуманістам Францішкам Скарынам была выдадзена першая ва ўсходніх славян друкаваная кніга - "Псалтыр" - на старажытнабеларускай мове. Яна стала першай з дваццаці трох выдадзеных Скарынам кніг Бібліі. Выданне гэтых друкаваных кніг Бібліі паспрыяла пашырэнню кнігадрукавання, ідэй гуманізму і асветніцтва ва Ўсходняй Еўропе.



Да 500-годдзя той знакавай падзеі была прымеркавана навуковая канферэнцыя "Пятыя лідскія чытанні", якая адбылася



19 красавіка ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы. На мерапрыемства былі запрошаны работнікі бібліятэк, мясцовыя краязнаўцы, а таксама краязнаўцы са Слоніма і Дзятлава. Падчас работы навуковай канферэнцыі ў канферэнц-зале бібліятэкі дзейнічала кніжная выстава "Ўзрасло буйным коласам зерне Скарыны", прысвечаная гісторыі друкаванай кнігі на Беларусі.

Спачатку прысутным быў прадэманстраваны кароткаметражны відэафільм пра Францішка Скарыну. Затым з дакладамі выступалі ўдзельнікі канферэнцыі: краязнаўцы, настаўнікі гісторыі, бібліятэчныя і музейныя работнікі і іншыя.

Так, з асвятленнем жыцця і дзейнасці беларускага першадрукара ў школьных падручніках азнаёміла настаўніца гісторыі сярэдняй школы № 17 Тарэза Капачэль; бібліяграфічны агляд кніг пра Францішка Скарыну правяла галоўны бібліёграф раённай бібліятэкі Галіна Курбыка; пра аднаго з паслядоўнікаў Скарыны, друкара Яна Карцана (які, праўдападобна, родам з Лідчыны), расказала настаўніца гісторыі Мінойтаўскай СШ Алена Мілевіч; праблему перакладу твораў старажытна-беларускай літаратуры на сучасную беларускую мову закрануў у сваім выступленні святар Свята-Георгіеўскага храма-помніка айцец Уладзімір Камінскі; па тэме "Царкоўныя кнігі Лідчыны XVIII стагоддзя" выступіў краязнавец Леанід Лаўрэш.





Краязнавец з аграгарадка Дварышча Віктар Кудла азнаёміў прысутных з некаторымі выдадзенымі ў канцы XIX стагоддзя кнігамі, якія захоўваюцца ў яго сям'і як рэліквіі (продкі Віктара Іванавіча прывезлі гэтыя кнігі з



глыбіні Расіі, куды трапілі як бежанцы ў час Першай сусветнай вайны), - гэта і Евангелле, у якім больш за 900 старонак, і "Беседы о земле и тварях, в ней живущих", і кніга па гісторыі развіцця сельскай гаспадаркі "Куль хлеба и его происхождение", і кніга па медыцыне "Новое в естественном лечении". Яшчэ з адной старой кнігай - паэмай Якуба Коласа "Сымон-музыка" 1928 года выдання - пазнаёміў краязнавец з вёскі Сялец Мікалай Дзікевіч (гэта была першая прачытаная Мікалаем Мікалаевічам кніга на беларускай мове, зараз яна захоўваецца ў літаратурным аддзеле Лідскага гістарычна-мастацкага музея).

Агляд калекцыі друкаваных выданняў, якія захоўваюцца ў фондах згаданага музея, правяла галоўны захавальнік фондаў музея Наталля Хацяновіч.

На мерапрыемства ў якасці дакладчыка быў запрошаны і госць са Слоніма - паэт, журналіст, краязнавец Сяргей Чыгрын. Ён выступіў з дакладам па гісторыі кнігадрукавання на Слонімшчыне.

З дзейнасцю ДАУПП "Лідская друкарня" пазнаёміў прысутных яе дырэктар Мікалай Пякарскі, з дзейнасцю Выдавецкага дома грамадскага аб'яднання "ТБМ імя Ф. Скарыны" - паэт, журналіст, краязнавец Станіслаў Суднік.



Тэксты ўсіх сваіх дакладаў выступоўцы аддалі раённай бібліятэцы. З гэтых тэкстаў работнікамі бібліятэкі пазней быў складзены зборнік па тэме "500 год беларускаму кнігадрукаванню".

***Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.***

# Залаты юбілей лідскага "Суквецця"

21 чэрвеня 2017 года ў памяшканні Лідскага гістарычна-мастацкага музея адбылася вечарына, прымеркаваная да 50-годдзя літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты". На святочным мерапрыемстве прысутнічалі лідскія паэты, а таксама тыя, хто супрацоўнічае з літаб'яднаннем, мае да яго дачыненне. Вядоўцамі святочнай праграмы былі кіраўнік "Суквецця" Алесь Хітрун і маладая паэтэса, якая параўнальна нядаўна ўлілася ў калектыў літаратурнага аб'яднання, Анастасія Яловік.



Лідскае "Суквецце" ўваходзіць у лік самых моцных і вядомых літаратурных аб'яднанняў Гарадзенскай вобласці, ведаюць пра яго і далёка за межамі Гарадзеншчыны. Часам утварэння літаратурнага аб'яднання "Суквецце" ўмоўна прынята лічыць чэрвень 1967 года, калі суполку літаратараў пры рэдакцыі газеты "Уперад" (папярэдніцы "Лідскай газеты") узначаліў адказны сакратар Віктар Кучынскі. Пасля Віктара Кучынскага літаб'яднанне доўгі час, больш за трыццаць гадоў, узначальваў Уладзімір Васько, а з 2004 па 2011 год "Суквеццем" кіраваў Міхась Мельнік.

З залатым юбілеем літаратурнае аб'яднанне павіншавала і пажадала яму далейшых творчых поспехаў галоўны рэдактар "Лідскай газеты", пры якой і існуе літаб'яднанне, Кацярына Серафіновіч. Віншавалі "Суквецце" і расказвалі аб супрацоўніцтве з ім рэдактар часопісаў "Лідскі летапісец" і "Ад лідскіх муроў", газеты "Наша слова" Станіслаў Суднік, дырэктар Лідскага гістарычна-мастацкага музея Ганна Драб, кіраўнік творчай музычнай майстэрні "Родник" пры Лідскім каледжы Святлана Мазітава...



***Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.***

# Новы сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў






26 верасня 2017 года на чарговым паседжанні Рады ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" у сябры Саюза быў прыняты лідскі пісьменнік, краязнавец, эсэіст **Леанід Лаўрэш**.

25 сакавіка 2018 года старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Валянцін Дубатоўка ўручыў Леаніду Лаўрэшу пасведчанне сябра Саюза.

# III Лідскі літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям"



20 снежня 2018 года ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы на ўрачыстай цырымоніі падводзілі вынікі і ўзнагароджвалі пераможцаў III раённага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям".

Гэты конкурс з'яўляецца яшчэ адной лідскай культурнай традыцыяй, ладзіцца ён раз у два гады і ўпершыню прайшоў у 2014 годзе. Арганізуе конкурс дзяржаўная ўстанова культуры "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы" пры падтрымцы лідскага ТБМ.



Мэта конкурсу - прапаганда творчай спадчыны Веры Сяргееўны Навіцкай сярод лідзян, выяўленне, падтрымка і заахвочванне лідскіх паэтаў і празаікаў да напісання твораў для дзяцей.




Вера Сяргееўна Навіцкая - пісьменніца канца XIX - пачатку XX стагоддзя (з 1910 года яна ўзначальвала "Лідскую прыватную жаночую гімназію Ф.Л. і В.С. Навіцкіх"), аўтар некалькіх дзіцячых кніг прозы пра дзяўчынак - гімназістак. Для горада Ліды Вера Навіцкая на сёння - найбуйнейшы лідскі дзіцячы пісьменнік усіх часоў, таму конкурс і носіць яе імя.

Конкурс праходзіў з 15 чэрвеня па 10 снежня 2018 года. Да ўдзелу ў конкурсе было прынята 16 заявак. Тры аўтары выступілі ў намінацыі "Проза", астатнія - у намінацыі "Паэзія". Сярод удзельнікаў былі як аматары, так і пісьменнікі, і паэты, якія маюць не толькі вялікі вопыт, а і ўзнагароды за свае творы.

Пераможцамі III раённага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям" сталі:

- I месца - Алесь Мацулевіч (намінацыя "Паэзія");
- II месца - Ірэна Сліўко (намінацыя "Паэзія");
- III месца - Ірына Бараздзіна (намінацыя "Проза").

Па-за конкурсам была прадстаўлена кніжачка дзіцячых вершаў Марыі Канапніцкай (23 траўня 1842 - 8 кастрычніка 1910) "Ад вясны да зімы". Кніжачка ўтрымоўвае 19 дзіцячых вершаў у перакладзе з польскай мовы Станіслава Судніка і ў адным асобніку будзе знаходзіцца ў Лідскай бібліятэцы.

Напрыканцы мерапрыемства са шматлікімі віншаваннямі і словамі падзякі, сябры журы запрасілі ўсіх да ўдзелу ў наступным IV Лідскім літаратурным конкурсе імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям", які адбудзецца ў 2020 годзе.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Літаратурны салон “Над Лідзейкай”






*15 кастрычніка 2019 года адбылася першая сустрэча ў літаратурна-музычным салоне “Над Лідзейкай”. Сустрэча прайшла ў канферэнц-зале Лідскага замка. Праграму “Беларускім шляхам” прадстаўлялі паэт Станіслаў Суднік і бард Сяржук Чарняк.*

Адкрыццё літаратурна-музычнага салона “Над Лідзейкай” спланавана Лідскім гістарычна-мастацкім музеем яшчэ вясной 2019 года.

Праграма “Беларускім шляхам” паэта Станіслава Судніка і барда Сяржука Чарняка, якая была прадстаўлена на 1-м раўце салона, сталася пашыранай версіяй выступлення ў Менску ў канцы верасня. Актыўны ўдзел у лідскай праграме ўзяў актор Алег Лазоўскі. Праграма ў некаторай ступені была настроена на хвалю вельмі някруглай даты - 31 года прыходу абодвух аўтараў у беларускі нацыянальны рух. У 1988 годзе ў Прыазёрску ў Казахстане пачала дзейнічаць беларуская арганізацыя, і ў тым жа 1988 годзе ў Лідзе пачала дзейнасць беларуская суполка “Рунь”. Акрамя С. Чарняка на імпрэзе быў яшчэ адзін рунёвец - Леанід Лаўрэш, ды і Ляўон Анацка з той жа эпохі.



Салон у 2019 годзе адпрацаваў у тэставым рэжыме. Прайшлі чатыры раўты, а ў 2020 годзе Ліда - культурная сталіца Беларусі, і тут будуць новыя падходы.

***Яраслаў Грынкевіч.***



# *Алеся Бурак*

## Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся...

***Лідская паэтэса Алеся Бурак памерла на 87 годзе жыцця***

*Алеся Аляксандраўна Бурак, да замужжа Рудчанка, нарадзілася 17 снежня 1930 г. у вёсцы Варацец Хойніцкага раёна ў сялянскай сям'і. Закончыла Дукорскую СШ Пухавіцкага раёна і Менскі педінстытут імя М. Горкага па спецыяльнасці выкладчыка псіхалогіі, логікі і педагогікі ў педвучэльні з правам выкладання беларускай мовы і літаратуры ў школе. Выйшла замуж на 4-м курсе інстытута і першы год працавала на Лідчыне ў Красноўскай СШ Лідскага раёна, куды быў накіраваны муж Бурак Георгій Фёдаравіч. З 1955 года жыве ў Лідзе. Працавала ў асноўным у 8-й і 11-й гарадскіх школах. Першыя тры гады пасля інстытута выкладала псіхалогію ў 9-х класах і логіку ў 10-х класах. На працягу працоўнай дзейнасці была піянерважатай і бібліятэкарам, выкладчыкам анатоміі і беларускай літаратуры, этыкі і эстэтыкі ў музвучэльні, вяла ўрокі працы.*

*Была беспартыйнай. З-за халоднага і галоднага ваеннага дзяцінства і цяжкага пасляваеннага юнацтва (у сям'і былі чатыры дачкі, бацька загінуў на фронце ў 1941 годзе), часта хварэла і таму была ў няміласці ў партыйнай наменклатуры. Фізічныя і маральныя пакуты прывялі ў 1978 годзе да іваліднасці II групы, з 2002 года - інвалід I групы.*

*Захаплялася ручной працай. Яе рэчы, зробленыя шыдэлкам, маюць многія лідзяне. Вершы пачала пісаць у школе. Друкавалася ў газетах "Уперад" ("Лідскай газеце"), "Гродзенскай праўдзе", "Вечернем Минске", "ЛіМе", "Вместе", "Нашым слове", энцыклапедыі "Женщины Беларуси" (Том I, 2001) і ў часопісах "Лідскім Летапісцы", "Ад лідскіх муроў".*

*Аўтар зборніка вершаў "Прастора дабрыні" (2008). З'яўлялася сябрам літаратурнага аб'яднання "Суквецце" з самага пачатку яго ўзнікнення. Рэдагавала вершы, давала парады як сталым так і маладым паэтам. Яна была знаёма з вядомымі творцамі Беларусі, у свой час перапіску вяла з паэтам-песеннікам Адамам Русаком, знаёмай была з Авяр'янам Дзеружынскім, Іванам Мележам, прафесарам Марыяй Андрэеўнай Жыдовіч, Васілём Савічам Гарбацэвічам, Васілём Быкавым, нават пашанцавала і з Якубам Коласам, мела сяброўскія зямляцкія адносіны і з Алесем Мікалаевічам Карлюкевічам (міністрам інфармацыі) і з іншымі. Пагэтаму лічылася самай старэйшай паэтэсай Лідчыны. Алеся Аляксандраўна была ў курсе ўсіх спраў, якія датычыліся літаратурнай дзейнасці Лідскага краю. Яна прымала ўдзел у шматлікіх літаратурных конкурсах, у якіх атрымлівала пераможныя месцы, выступала і на Лідскім радыё.*

*Нягледзячы на выпрабаванні лёсу, Алеся Аляксандраўна не страціла сваёй каляіны, была вернай сваёй прафесіі, захавала свае найлепшыя рысы характару, такія як шчырасць, шчодрасць, дабрыня, спагада, аптымізм, няўрымслівасць, якія можна замяніць трыма словамі: Чалавек, Настаўнік, Творца.*

*У літаратурным аддзеле Лідскага гістарычна-мастацкага музея размяшчаецца стэнд і захоўваюцца матэрыялы Алесі Бурак пра яе жыццёвы і творчы лёс. Да апошняй хвіліны займалася творчай справай, дапамагала рэдагаваць успаміны сведкаў ваенных падзей, сярод якіх з'яўлялася і яна сама. Дзякуючы яе старанням, кніга "Память - главный свидетель" выйшла ў друк, але, нажаль, А. Бурак не змагла яе ўжо пабачыць...*

*Яе не забывалі лідскія літаратары. Яе яны і не забудуць... Была. Ёсць. Будзе.*

*24 жніўня 2017 года на 87 годзе жыцця Алесі Аляксандраўны*

*Бурак не стала.*

*Ніжэй змяшчаецца адзін з апошніх вершаў Алесі Бурак, які яна даслала яшчэ пры жыцці ў газету "Наша слова" і для музейна-адукацыйнай праграмы "У школу да Цёткі" у рамках раённага культурна-асветніцкага праекта "Беларусь - мая мова і песня".*

***Алеся БУРАК***

**Урок беларускай мовы**

*"Гэты верш без перакладу*
*Абмяркуем мы з табой..."*
***Марыя Масла.***

Крочыць, лунае родная мова
У гутарках, жартах шматлікіх людзей,

У спевах, прамовах, на ўлонні гаёвым,
На хвалях надвор'я, на плынях падзей.

Прастора, палеткі, прысады, краіна.
Улада, грамадства, дзяржаўнасць, Айчына.

Узгорачак, сажалка, вёска, сядзіба,
Бяспека, адданасць, ахоўнасць, радзіма.

Сумленне, прыстойнасць, дасведчанасць, воля.
Квяцістасць, пялёсткі, хваінка, таполя.

Вяргіня, пралеска, язмін, канюшына,
Гарлачык, валошка, рамонак, шыпшына.

Узлесак, ababак, дрыгва, журавіны,
Цыбуля, кавун, гарбузы, садавіна,

Ажына, сланечнік, парэчкі, суніцы,
Крышталь, дыяменты, бурштын, завушніцы.

Апратка, спаднічка, сукенка, хусцінка.
Вандроўка, прыгоды, чыгунка, сцяжынка.

Альтанка, арэлі, буслянка, шпакоўня,
Паветра, блакітнасць, прасветленасць, поўня.

Вясёлка, сузор'е, прамень, бліскавіца,
Хмурынка, завея, сумёт, аканіцы.

Будынак, цаглінка, тынкоўка, фарбоўка,
Каморка, цабэрак, сякера, рыдлёўка.

Далонь, працаздольнасць, свядомасць, развага,
Агляд, перамога, удзячнасць, павага.

Кватэра, утульнасць, сурвэтка, скарынка.
Цырульня, парфума, гадзіннік, хвілінка.

Паштоўка, чытальня, натхненне, дасціпнасць,
Цнатлівасць, удзельніцтва, кемлівасць, сціпласць.

Папера, аловак, аркуш, маляванне,
Падручнік, пытанне, адказ, хваляванне,

Выдатнік, адзнака, хвала, ўзнагарода,
Увага, цікавасць, падзяка, лагода.

Асвета, адказнасць, давер, выхаванне.
Світанак, жаўрук, калыханка, змярканне,

Спатканне, пачуцці, каханы, адзіны,
Пяшчота, вяселле, калыска, радзіны.

Вяндліна, цырата, відэлец, патэльня,
Нагода, частунак, сябры, прабачэнне.

Прыпеўкі, усмешкі, цукеркі, дарунак,
Спагада, надзея, абраз, паратунак.

Тусуюцца словы годнае мовы,
Патрапіць імкнуцца ў рытмічны слупок,

І кожнае з іх у нягоду, знямогу
Быццам з гаючай крыніцы глыток.

*Далей змяшчаем шэраг матэрыялаў, напісаных Алесяй Бурак пра лідскіх творцаў. Пра іх друк у зборніку "Ад лідскіх муроў" яна прасіла яшчэ пры жыцці. Памяці таленавітай паэтэсы рэдкалегія выконвае просьбу.*

## Светлай памяці А.В. Жалкоўскага

14 красавіка 2011 года не стала сярод нас таленавітага журналіста, шчырага і светлага чалавека, магічная сіла якога вабіла да сябе кожнага, хто яго ведаў. Смерць Аляксандра Васільевіча Жалкоўскага адгукнулася невыносным болем у сэрцах яго даўніх сяброў, да якіх, асмелюся сказаць, належала і я.

Працуючы настаўніцай у СШ № 11, я пачала супрацоўнічаць з раённай газетай "Уперад" з 1966 года. А калі праз год пры рэдакцыі ўзнікла літаб'яднанне, прымала ў яго рабоце актыўны ўдзел. З таго часу прайшло больш 45 гадоў. Асабліва плённым у рабоце лідскіх літаратараў былі 1969-1986 гады, калі рэдактарам газеты стаў А.В. Жалкоўскі. Цэлыя старонкі раёнкі займалі падборкі твораў пачынаючых аўтараў. Гэтаму садзейнічалі шчырыя і дабразычлівыя адносіны Аляксандра Васільевіча не толькі да сваіх супрацоўнікаў, але і да кожнага з нас. Прыстойны, сціплы, ашчадны і паважлівы да іншых, ён ніколі не ўзвышаў сваёй асобы. Размовы з ім былі цёплымі і вяліся на жывой народнай гутарковай мове. Ён дасканала ведаў і адмыслова валодаў роднай мовай і на працягу ўсяго свайго жыцця не толькі не здрадзіў ёй, але непадобна клапаціўся аб яе захаванні, быў яе няўтаймаваным абаронцам.

У 1988-1991 гадах улады краіны рабілі ўсілкі адраджэння беларускасці ў родным краі. А.В. Жалкоўскі, аддany сын сваёй зямлі, вопытны журналіст і гарачы патрыёт усяго беларускага, быў у ліку сямі маладых членаў суполкі "Рунь", якая многае рабіла дзеля адраджэння беларускай мовы, культуры і народных традыцый. (Удзячна лёсу, што побач з Жалкоўскім былі і двое маіх вучняў). Шматпланавыя і разнастайныя па сваёй тэматыцы публікацыі А.В. Жалкоўскага адрозніваліся ад іншых сваёй цікавасцю і глыбінёй, мудрасцю і прафесійным уменнем даступна данесці да чытача філасофскую сутнасць таго, аб чым ён пісаў.

Даследчык роднага краю, А.В. Жалкоўскі адкрыў не адно новае імя, звязанае з лёсам роднай зямлі. Для гэтага варта толькі разгарнуць кнігу "Памяць", суаўтарам якой ён з'яўляецца.

Будучы ўжо на пенсіі, былы рэдактар супрацоўнічаў з многімі газетамі Гарадзеншчыны, і рэдка ў якім нумары "Принеманских вестей" не было яго допісаў. Я заўсёды шукала іх пад подпісамі "А. Жалкоўскі" або "А. Васілевіч" (псеўданім). Шчымлівае шкадаванне ахоплівае душу з-за адсутнасці на старонках гэтай папулярнай газеты радасна-светлых публікацый аб культурным жыцці горада, аб міжнацыянальных адносінах, аб чалавечай годнасці і духоўнасці і аб іншых праявах нашага жыцця.

Вялікую ўвагу ўдзяляў Аляксандр Васільевіч лідскім літаратарам, падтрымліваў іх цікавасць да прыгожага пісьменства, цаніў іх творчыя здабыткі, ганарыўся тым, што яны праслаўляюць яго родны горад. Будучы цяжка хворым, ён не губляў сваёй творчай актыўнасці, мала думаў аб сабе, заўсёды цікавіўся здароўем іншых і падбадзёрваў сваім аптымізмам. Калі не было ў яго магчымасці прыйсці да мяне, аднаму або з людзьмі творчага складу, ён часта тэлефанаваў мне, цікавіўся жыццём і здароўем і напаследак гаварыў словы падтрымкі. За тыдзень да сваёй смерці ён сказаў: "Трымайся, Алеська!". Я ўтрымалася, а ён - не… і па-гэтаму:

**Халадзее душа**

Плед на плечы накінула: дождж
Страшнай весткаю стукнуў у акенца,
Да мяне ты не прыйдзеш ужо,
Каб хоць трошкі сагрэлася сэрца.

З беларускіх узраслі каранёў,
Мацавала нас мудрая згода,
Лёс сцяжынкамі светлымі вёў -
Нам пад сілу была непагода.

Дык чаму ж халадзее душа?
Адзіноцтва нейк стала трывожыць…
Мне б твайго разумення, цяпла!
Плед сагрэць мяне, пэўна, не зможа…

Заблукаў паміж зорак ты раптам.
Не сустрэнемся - сэрца баліць.
Авалодала горыч ад страты…
Дождж і слёзы туманяць блакіт.

## Слова пра лідскіх творцаў

Выдатнейшаму сучаснаму паэту Лідчыны Уладзіміру Васько ўжо больш за 75 гадоў.

Дасканалыя ў мастацкім плане, бездакорныя па сваёй сутнасці, пазбаўленыя ўсялякай дэкларатыўнасці вершы У. Васько, змешчаныя ў трох яго паэтычных зборніках, кранаюць душу сваёй шчырасцю і эмацыянальнай узрушанасцю.

Відаць, сам Бог вадзіў яго рукою пры напісанні твораў, якія глыбока пранікаюць у душу чытача, нясуць прасветленасць і дабрыню, абачлівасць і прадбачлівасць, сціпласць і цнатлівасць у праяўленні асабістых пачуццяў. У адным з вершаў ён піша: "А мой радок? / Ён душу ўскалыхне / І адгукнецца ў бескарысных сэрцах". Так яно і ёсць.

Адданы сын сваёй зямлі Уладзімір Васько ўслаўляе сваю радзіму - маці, якая "годна ідзе па зямлі" і свой найдабрэйшы народ, да якога навечна далучаецца сваёй адкрытай і шчырай душой.

А колькі ў яго творах сыноўняй любові да роднага прынямоння, да Ліпічанскай пушчы, дзе сэрца чаруе кожная галінка і чуюцца мелодыі вершаў! Менавіта, вечная прырода з'яўляецца невычэрпнай крыніцай натхнення, яна яго "настаўнік і суддзя". У.Васько піша аб тым, што яго хвалюе. Напісаныя цудоўнай мовай Я.Купалы, яго паэтычныя і празаічныя творы заклікаюць нас "тушыць крыўды" і злосць, несці ў свет цеплыню, лагоднасць і прыгажосць найкаштоўнейшага ў свеце пачуцця - кахання, без якога чалавек становіцца духоўна бедным. Паэт выплёсквае радасць і ўтойвае крыўду, бо жыццё шматграннае, "то таркаю дзярэ, то зоркі з неба падае".

Так, жыццёвая дарога Уладзіміра Васько не была гладкай. Але ён сумеў зберагчы сваю светлую душу і чыстае сумленне, якія ён годна нясе па жыцці.

Яго чарговая кніга "Лясная рапсодыя" ўключае ў сябе ўспаміны і апавяданні, якія дыхаюць цеплынёй і жыццёвай праўдай.

Рана паэту і празаіку складаць крылы свайго натхнення. Спадзяемся, што ён яшчэ не адзін раз парадуе аматараў прыгожага пісьменства не толькі сваімі вершамі, але і празаічнымі творамі, бо ён вельмі патрэбны і для чытачоў, і для пачынаючых творцаў.

Наш найлепшы,
Самы добры,
Суразмоўца і дружбак.
У паэзіі і ў прозе
Непраўзыдзены мастак.
У парадах не адмовіць,

Не абразіць ані чым.
Аб сабе два словы мовіць -
Прыклад сціпласці ва ўсім.
Мае членства ў Саюзе
Беларускіх творцаў.
А па Гродзенскай акрузе
Шчыры абаронца
Беларускай мовы роднай,
Бацькавай зямліцы.
Сваім сынам верным, годным
Край наш ганарыцца.

* * *

У 2014 годзе 7 лістапада адзначыў свой юбілей вядомы грамадскасці нашага горада і раёна, выдатны паэт і творца сярод літаратараў Лідчыны Міхась Іванавіч Мельнік. Ды і не толькі ён вядомы грамадскасці нашага рэгіёна, бо, калі праўдзівей сказаць, дык усяе Гродзеншчыны. Ён аўтар двух зборнікаў вершаў "Скрыжаванне" (у сааўтарстве з Пятром Чаборам) і "Лодка жыцця". Міхась Мельнік шмат гадоў паспяхова кіраваў літаратурным аб'яднаннем "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты". Шмат намаганняў ён прыклаў для падняцця аўтарытэта не толькі вядомых паэтаў роднага горада, але змог адшукаць і папоўніць сучасную мясцовую паэтычную скарбонку новымі імёнамі з асяродку моладзі, такіх, як напрыклад, Іна Міхалюк, Яўген Пац, Аляксей Сымановіч, браты Алесь і Валера Мацулевічы, Алесь Хітрун. Апошні з іх стаў пераемнікам Міхася Мельніка ў кіраванні "Суквецем".

Хочацца адзначыць і тое, што Міхась Іванавіч шмат гадоў працаваў у былым Лідскім педкаледжы, выкладаючы сваю любімую родную мову, выхоўваючы будучае пакаленне маладых педагогаў у вялікай пашане да ўсяго беларускага. Міхась Мельнік - выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, не аднойчы абіраўся дэпутатам гарадскога і абласнога саветаў. Як чалавек неспакойнага сэрца і дапытлівай думкі, ён, з'яўляючыся ініцыятарам стварэння ў Лідзе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, выносіць на абмеркаванне гарадскіх і рэспубліканскіх уладаў ідэю ўстанаўлення ў цэнтры горада помніка першаму беларускаму друкару Францішку Скарыну. І ўжо больш 20 гадоў помнік Скарыну з'яўляецца каштоўнасцю горада Ліды.

Разам з пажаданнем шаноўнаму юбіляру моцнага здароўя і

творчага даўгалецця прысвячаю такія радкі:

65… здаецца, нямала…
Хаця і зусім дык нямнога!
Жыццё не пяшчотнай матуляй бывала,
А ты ж стаў для многіх падмогай.
Любімай Айчыне і роднаму слову
Не здрадзіў, не схібіў ніколі.
Абраў у жыцці найсвятую дарогу:
Вучыў шанаваць, любіць мову.
І лёсам адзначан тваёй працы плён,
Настаўнік выдатны і творца.
Прымай ад сяброў і ад вучняў паклон
За чулае, шчодрае сэрца!

* * *

Нельга абысці ўвагаю і яшчэ аднаго юбіляра 2014 года - жанчыну вонкавай абаяльнасці, душэўнай прыгажосці, таленавітую паэтку і ўлюблёную ў сваю справу - настаўніцу Ганну Леанардаўну Рэлікоўскую. Самааддана працуючы завучам школы № 11, яна знаходзіць месца і час для напісання вершаў, якія друкуюцца не толькі ў нашай раённай газеце. Яе творы не пакідаюць абыякавым нікога. Аб чым бы яна ні пісала: аб сваёй роднай вёсцы Кянці, аб роднай матулі, аб сваіх вучнях, аб прыродзе - усё, што выходзіць з-пад яе пяра, выдае духоўнае багацце аўтаркі. Яе вершы дыхаюць не толькі сардэчнай цеплынёй, але і вялікай заклапочанасцю аб чалавечым лёсе, аб той дабрыні, якой перапоўнена яе душа. Аддаючы шмат часу сваёй педагагічнай рабоце, яна знаходзіць магчымасць наведаць сваіх сяброў, дапамагчы ім у вырашэнні узнікшых праблем, а таксама паклапаціцца і аб сваіх родных. І вельмі шкада, што яна, выкладчыца гістарычных навук, улюблёная ў беларускасць, не знаходзіць часу для падрыхтоўкі свайго паэтычнага зборніка. Ад імя лідскіх творцаў, ад імя калег, сяброў і вучняў прашу яе падрыхтаваць да выпуску сваю кнігу і гэтым самым даставіць асалоду ад самабытнай паэтычнай думкі не толькі чытачам "Лідскай газеты", "Настаўніцкай газеты", "ЛіМа" і альманаха "Ад лідскіх муроў", але і больш шырокаму колу прыхільнікаў яе творчасці, пакінуўшы свой зборнік у фонды літаратурнага аддзела Лідскага гістарычна-мастацкага музея і выставіўшы на стэлажы Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.

Паколькі Ганна Леанардаўна вельмі блізкі мне чалавек не толькі па прафесіі, але і па жыцці, і па душэўнаму складу, шчыра зычу ёй не траціць тых даброт, якімі багата яе вялікае сэрца і чулая душа. Асноўная сутнасць яе ўнутранага свету ў наступных маіх радках:

Ты - гэта мора дабра.
Ты - гэта сонечны свет.
Ты - гэта хваля цяпла.
Ты - думак светлых букет.
Ты - гэта радасны дзень.
Ты - водар лекавых траў.
Ты - майго шчасця прамень.
Ты - безліч годных праяў.
Ты - гоман чыстых крыніц.
Ты - бездань ясных нябёс.
Ты - шмат якіх таямніц.
Ты - непаўторны мой лёс.

* * *

І зусім нядаўна, а менавіта 17 сакавіка 2015 года, сябры па паэтычнаму цэху віншавалі з 80-гадовым юбілеем Таццяну Іванаўну Сямёнаву, аўтара зборніка "Восеньскі вальс". Вершы ў гэтай кнізе рускамоўныя, аднак тыя пачуцці і думкі, укладзеныя ў іх змест, абуджаюць у чытача шмат светлых пачуццяў, прысвечаных нашаму гораду, яго жыхарам і беларускай прыродзе. Творы Таццяны Іванаўны напісаны ад шчырага сэрца, шчодрага на дабрыню, яны выпраменьваюць яе здольнасць убачыць у акаляючым жыцці цікавыя тэмы, блізкія кожнаму, для асэнсавання іх у вершаванай форме. Душа паэткі адкрыта для ўсяго светлага, прыгожага, ды і сама яна выпраменьвае святло і дабрыню. Шмат гадоў Таццяна Сямёнава працавала загадчыцай у дзіцячым садку, стала вядомым і шаноўным чалавекам і сярод былых сваіх калег, з якімі не губляе сяброўскіх сувязей, і сярод сучасных работнікаў дзіцячага садка, дзе ёсць яе былыя, ужо дарослыя, выхаванцы.

Добра ведаюць і паважаюць Таццяну Іванаўну не толькі ў літаб'яднанні "Суквецце", яна пажаданы і патрэбны чалавек у клубе "Актыўнае даўгалецце", членам якога і з'яўляецца. Здольная ў паэтычнай творчасці, працалюбівая і міласэрная, Таццяна Сямёнава шыдэлкам і пруткамі стварае ўнікальныя рэчы і ад шчырай душы дорыць іх сваім сябрам, родным і знаёмым. Сціплая і багатая на дабрыню, яна

клапоціцца не толькі аб сваіх родных, але і аб тых, каму неабходна яе дапамога ў цяжкую хвіліну. Яе актыўная пазіцыя ў жыцці выклікае захапленне і вялікую павагу. Яна вельмі мала думае пра сябе, стойка пераносіць асабістае гора, баючыся выклікаць слязлівае спачуванне ў суразмоўца.

Я радуюся кожнай сустрэчы з гэтай мілавіднай жанчынай, цудоўным чалавекам, які ўмее тактоўна падтрымаць цёплым словам, добрай справай тых, каму неабходна такая дапамога.

Адчуваючы сваю роднасць з аўтарам "Восеньскага вальса", дазволю сабе сказаць наступнае:

У маё жыццё ўварвалася раптоўна,
Душою параднілася навек,
Прывабная, як на Русі князёўна,
Тым больш, вялікадушны чалавек.
Удзячна лёсу: творчая сцяжына
Аднойчы к майму дому прывяла
Паэтку, абаяльную жанчыну
І носьбіта духоўнага дабра.
Душэўны боль свой ад сяброў хавае,
Падорыць кожнаму ласкавае слаўцо…
Няхай жа яе сэрца бед не знае
І дом яе мінае немач, зло.

* * *

Станіслаў Суднік… Гэтае імя і вядомае, і паважанае сярод творцаў беларускай культуры. У манументальнай кнізе "Памяць" (стар. 473) чытаем яго кароткую біяграфію. Але мне хочацца адзначыць яго творчую няўрымслівую працаздольнасць, вынікі якой абуджаюць думкі і не пакідаюць абыякавым.

У "Лідскім летапісцы" засяроджваю ўвагу на яго аўтарскіх гістарычных і пошукава-краязнаўчых публікацыях, напісаных цікава і даступна відавочна адукаваным чалавекам. На старонках гэтага часопіса радуюць звесткі аб мясцовых паэтах і іншых творчых людзях лідскага наваколля.

З сардэчным хваляваннем і бязмежнай удзячнасцю выдаўцу С. Судніку і аўтарам матэрыялаў чытаю ў "Лідскім летапісцы" допісы аб дарагіх для мяне людзях: пра Трафіма Сямёнавіча Радзюка, чыім іменем названа адна з вуліц Ліды і які быў сябрам і паплечнікам майго загінуўшага ў вайну бацькі, пра майго роднага дзядзьку Сідарка

Рыгора Аляксандравічу, кіраўніка падпольнага і партызанскага руху на Гарадзеншчыне і першага сакратара гаркама вызваленай Ліды, якому давялося рэанімаваць жыццядзейнасць Лідчыны пасля акупацыйнага ліхалецця.

У прадмове С. Судніка да анталогіі твораў лідскіх літаратараў пра беларускую мову "Шануйце роднае слова!" адчуваецца балючая шчырая заклапочанасць абаронцы беларускага маўлення, вернасць запаветам паэта-дэмакрата 19-га стагоддзя Францішка Багушэвіча аб бессмяротнасці чалавека - аб нацыянальнай мове. Руплівец на ніве каштоўнасці беларускай мовы, рэдактар газеты "Наша слова" побач з артыкуламі вядомых у свеце беларускіх вучоных і пісьменнікаў знаходзіць месца і для друкавання матэрыялаў тутэйшых творцаў.

Пры немалаважных высілках сённяшняга юбіляра выдаюцца кнігі мясцовых аўтараў. Гэта "Вясёлкавае ззянне" Смарагда Сліўко, "Струны душы" Валерыя Мацулевіча, "Ідзі і вяртайся" Івана Гушчынскага, "На крылах белай вароны" Святланы Цішук, "Прастора дабрыні" Алесі Бурак, "Дарогі розныя бываюць" Уладзіміра Бурака, "Лодка жыцця" Міхася Мельніка і многія іншыя, якія з аўтарскімі подпісамі знаходзяцца на маёй кніжнай паліцы побач з паэтычным зборнікам Станіслава Судніка "Лідскія скрыжалі", дзе на тытульным лісце я напісала 27.08.2008 г.:

Скрыжалі, лідскія скрыжалі…
Як многа Вы мне расказалі
Пра край любімы і гаротны,
Пра веліч спраў, пра дух народны,
Пра тое, што гады хаваюць…
Пра Судніка, што так спрыяе
Гісторыі краіны слаўнай
І служыць Беларусі спраўна.

Станіславу Вацлававічу Судніку, цікаваму суразмоўцу, надзеленаму здаровым пачуццём гумару і іранічнымі адносінамі да чалавечых слабасцяў, споўнілася 60 гадоў. Пажадаем яму здароўя і поспехаў у яго шматграннай дзейнасці на карысць роднаму краю. Як дадатак да гэтага пажадання мой, з ноткамі гумару і душэўнай цеплыні, верш, які быў напісаны з нагоды яго юбілейнай даты:

**Удзячнасць**

Мясцовыя паэты - верныя сябры,
Кранае ваша мудрая прысутнасць,

Размовы, спрэчкі аж да позняе пары
І злых намераў поўная адсутнасць.
Нялёгка вашы падлічыць тварэнні,
Што на "Скрыжалях Лідчыны" сышліся:
Тут "Водгук ісціны", "Вясёлкавае ззянне",
"Прастора дабрыні", у "Паэмах" шмат прызнання,
І "Злітак" роздуму, і "Розныя дарогі"…
На "Лодачцы жыцця" плыву к дабру ў цішы,
Імкнуся ў свет з "Варонай белай" разам,
Жыву ў сугучнасці са "Струнамі душы",
"На схілах берагоў" бываю час ад часу,
"Іду і вяртаюся" у "Восеньскі вальсок",
"Лясной рапсодыяй" адаграваю душу…
Падборкай паэтычных галасоў
У "Суквецці" нашым ганарыцца мушу.
Удзячна вам, сябры, за творчыя здабыткі,
За хваляванне і нераўнадушнасць,
За кнігі - найкаштоўны мой набытак,
У якім няма варожасці і бяздушша.

*Так атрымалася, што матэрыял, які надрукаваны ніжэй, быў змешчаны ў зялёным сшытку і знойдзены ў стосе папер, перададзеных у Лідскі гістарычна-мастацкі музей Станіславам Суднікам з рэдакцыі газеты "Наша слова". Як казаў класік беларускай літаратуры Уладзімір Караткевіч: "На Беларусі Бог жыве". Сапраўды, нейкая боская сіла падштырхнула перагледзець перададзеныя паперы, і як вынік… Матэрыял напісаны паводле выдадзенага літаратурна-мастацкага зборніка "Ад лідскіх муроў" за № 8 за 2012-2015 гг.*

**Каштоўнае выданне**

*Асабістае ўражанне Алесі Бурак ад кнігі "Ад лідскіх муроў"*

Выдатны падарунак атрымаў кожны кнігалюб "Ад лідскіх муроў". Менавіта так называецца літаратурна-мастацкі зборнік, які толькі што ўбачыў свет дзякуючы ўсілкам выдаўца Станіслава Судніка. Не варта пералічваць усе раздзелы кнігі, але кожны з іх цікавы пасвойму, бо ў іх "цэлы букет пачуццяў, усмешак і слоў", а таксама і думак.

Перш за ўсё аб паэзіі і яе аўтарах. Сярод іх шмат знакамітых імёнаў, з творамі якіх з радасцю і сустракаешся, і знаёмішся. Але найбольш радуюць імёны новых творцаў, якія спраўна прынялі

эстафету прыгожага пісьменства. І няхай некаторыя з іх паэтычных твораў не вызначаюцца тэхнічнай дасканаласцю, аднак напісаны яны ад шчырай душы і выклікаюць асалоду пры азнаямленні з імі.

Хіба ж можна не адчуць задавальнення ад цёплых слоў многіх аўтараў, сказаных у адрас роднай матулі, чые вечныя клопаты і трывогі за дзяцей не толькі дабаўляюць ёй сілы, але і дапамагаюць ёй жыць. Сыноўняя ўдзячнасць за чулллівае мацярынскае сэрца, добры і ласкавы свет у дарагіх сэрцу вачах і за ўмелыя і ласкавыя рукі адчуваецца ў кожнага аўтара, які прысвяціў свой верш самому блізкаму і роднаму чалавеку на зямлі. Бо маці - гэта мудры настаўнік і дарадца па жыцці.

Добры знак бачыцца ў тым, што аўтары з настальгіяй і дабрынёю ў сэрцы выказваюцца аб сваіх вытоках, аб сваёй малой бацькаўшчыне, да якіх прыраслі душою. Яны замілавана гавораць аб тых каранях, з якіх прараслі іх думкі і пачуцці і ад якіх праляглі сцяжынкі да жыццёвых дарог.

Пачуцці суму і радасці пераплятаюцца ў грудзях, калі ім даводзіцца наведаць свой родны кут, да якога заўжды рвецца душа, каб наталіць яе блізкасцю і адчуваннем цёплых перамоў не толькі з родным, але і са знаёмымі.

Палоніць нашы пачуцці і цудоўны свет беларускай прыроды, на апісане якой аўтары знаходзяць самыя патаемныя словы. Тут не толькі захапленне роднымі краявідамі, але і клопат за захаванне экалагічнай чысціні, і ўдзячнасць за бескарысныя дары лясоў і палёў, за гаючыя воды крыніц і азёраў.

Аднак самай гаючай для чалавечай душы, на думку аўтараў, з'яўляецца родная мова, вялікі скарб, пакінуты продкамі і знаёмы з малалецтва сваёй песеннай мілагучнасцю і прыгажосцю. Турбуе аўтараў боль за нядбаласць і безуважлівасць у адносінах да яе. У вершах выпраменьваецца не толькі любоў да нацыянальнай мовы, але жыве і надзея на яе бессмяротнасць.

Шмат вершаў мы знаходзім аб родным горадзе, аб яго святынях: аб "вечнай памяці" - Кургане Бессмяроцця, аб гістарычным помніку - Лідскім замку, якім ганарымся і з якім звязана рыцарскае брацтва, ды і не толькі рыцарскае.

Ушаноўваюць аўтары імёны славутых людзей Беларусі: Скарыны, Таўлая, Караткевіча, Купалы, якія сваім прачулліва-мастацкім словам заклікалі да свабоды і зычылі шчасця беларусам.

Прысутнічаюць у кнізе і вечныя тэмы чалавечых узаемаадносінаў - каханне, бо чалавек бывае шчаслівы тады, калі "побач двое".

Карацелькі, змешчаныя на старонках выдання, выяўляюць не толькі назіральнасць, але і светаадчуванне іх аўтараў, выклікаючы ў чытача павагу да такіх якасцей характару.

Проза зборніка захапляе разам са сваёй прастадушнасцю яшчэ і філасофскімі развагамі. Яна цёплая, лагодная, шчырая. Нельга без хвалявання чытаць сардэчныя ўспаміны аб недалёкім мінулым нашага горада і аб тых людзях, якія пакінулі ў сваім жыцці добры след, словам, аб тым, што хвалюе, цікавіць і непакоіць нас сёння.

Чытаеш адну публікацыю і адчуваеш непазбежнае хваляванне, быццам разам з аўтарам крочыш знаёмымі сцяжынкамі. А другая публікацыя, якую можна назваць прытчай, заклікае кожную маці і грамадства даць дзецям не толькі спажывецкую ежу, але і запоўніць іх душы духоўным багаццем.

Ухваляецца і заслугоўвае ўдзячнасці тое, што выдавецтва кнігі падае на яе старонках інфармацыю аб культурна-мастацкіх выданнях, аб літаратурных чытаннях, дае магчымасць друкавацца рускамоўным аўтарам у перакладзе сябрамі па пяру на беларускую мову. Ды яшчэ шмат чаго цікавага і карыснага знойдзе чытач у гэтым каштоўным выданні.

Аднак нельга абысці ўвагай і такую акалічнасць, што некаторыя аўтары сваімі творамі выклікаюць у душы негатыўныя пачуцці непрыстойнасцю сюжэтаў. Больш таго, сваёй неашчаднасцю да чысціні і багацця роднай мовы.

Недаравальныя хібы ў веданні граматы і лексічнага значэння слова і неправільнага яго ўжывання ў тэксце засмечваюць бездакорную вялікую мову Купалы, Коласа, Багдановіча, Караткевіча. Але не варта чытачу звяртаць сваю ўвагу на гэтыя нязначныя брудныя плямы твораў, пакінем іх на сумленні аўтараў.

Няхай усё будзе добра з нашым настроем і вялікім задавальненнем ад таго, што маем магчымасць трымаць у руках гэтае выданне. А яшчэ, што надзвычай важна, можам, чытаючы допісы, заставацца неабыякавымі і разам з аўтарамі не толькі радавацца, а і суперажываць хвалюючыя моманты адносін да акаляючага свету і да сваіх землякоў, адчуваючы непарыўную еднасць з іх турботамі і марамі на лепшае.

16 сакавіка 2016 г.

*Скампанаваў матэрыялы рэдактар аддзела прозы, прыхільнік творчай спадчыны Алесі Бурак Алесь Хітрун.*



# Ірына Бараздзіна (1955-2019)




*31 ліпеня 2019 года нечакана для ўсіх пайшла з жыцця лідская паэтэса, актыўны сябар літаб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" Ірына Сямёнаўна Бараздзіна. Вестка аб яе заўчаснай смерці адазвалася вялікім болем і смуткам і ў сэрцах яе калег па паэтычным пяры. Мы ведалі, што Ірына Сямёнаўна была поўная творчых задумак...*

*Ірына Сямёнаўна Бараздзіна нарадзілася 19 лютага 1955 года. Скончыла Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, дзе атрымала прафесію настаўніка пачатковых класаў. Працавала на Да-*

*лёкім Усходзе (у Хабараўскім краі), а затым у Лідзе: у Лідскім педвучылішчы (выкладчыкам педагогікі і псіхалогіі), у СШ № 11 (настаўнікам пачатковых класаў, паралельна кіравала тэатральным гуртком).*




*З 2015 года з'яўлялася актыўным сябрам літаб'яднання "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты". Выйшлі два зборнікі яе вершаў: "Из соли, сахара и перца" (2015) і "Живу по чувствам" (2018). У яе вершах - і з'явы прыроды, і філасофскія разважанні, і ўнутраныя перажыванні, і тонка заўважаныя і паэтычна асэнсаваныя карціны і сцэны з жыцця. Пісала таксама празаічныя творы. Творчасць Ірыны Бараздзіной атрымала станоўчыя водгукі, у тым ліку ад аднаго з найбольш вопытных лідскіх паэтаў Уладзіміра Васько.*

*Ірына Сямёнаўна была добрым, мудрым, шчодрым, адкрытым чалавекам, заўсёды маладым душой. Такой яна застанецца ў нашай памяці.*

*Алесь МАЦУЛЕВІЧ*
*ад імя калектыву літаб'яднання "Суквецце"*
*пры рэдакцыі "Лідскай газеты".*

*Ірына БАРАЗДЗІНА*

# Пахі дажджу

Яна стала адчуваць набліжэнне дажджу. Ён нагадваў ёй пах то скошанай травы, то веснавога поля, то роснай раніцы, то квітнеючага саду, то чарнічнага лесу. Аднак узгадваўся і цяжкі пах затухаючага кастра, пах апалай, мокрай, прыбітай да зямлі зацяжнымі восеньскімі дажджамі лістоты.

Пры ветры ўсё перамешвалася.

Зялёная лаўка таксама мяняла свае адценні: ад смарагдава-яркага на сонцы да зялёна-карычневага пры непагодзе. Гэту лаўку паставілі каля аднаго з пад'ездаў. Старое разгалінастае дрэва стала для яе дахам. Лаўка, на якой заўсёды сядзела адзінокая жанчына, пані Стася, як яе з павагай называлі суседкі, была для яе любімым месцам адпачынку.

**Дождж пахне слязамі зямлі…**

Нядаўна, здаецца, пайшла з жыцця трыццацігадовая дачка Мілачка. Слава Богу, яна паспела ўдачарыць дзяўчынку. Узяла пяцігадовае дзіця з дзіцячага дома. Зараз Верачцы дваццаць адзін год. Яна для пані Стасі і яе мужа была і выратаваннем, і заспакаеннем, і ўміленнем. Але нядаўна не стала і мужа: адарваўся тромб і перакрыў сардэчны сасуд. Усе было як у страшным сне. Як сумавалі яны тады з Верачкай!

Іх сям'я жыла заўсёды ў дастатку. Часта ездзілі ў Польшчу. Набылі дачу, машыну, гараж. Адзінокая сяброўка па тастаманце пакінула ім кватэру. Зараз усё толькі для Верачкі.

Дзяўчына скончыла медвучылішча. Працаваць медсястрой захацелася ёй у абласным цэнтры. Усё, што нажывалі, хутка, не гандлюючыся, прадалі. Таксама, не марудзячы, купілі новую кватэру ў Гародні. Прасторныя два пакоі, кухня, санвузел. Заказалі еўрарамонт - і ўсё для годнага жыцця прыёмнай унучкі.

**Дождж з пахам прэлай лістоты…**

Вось ужо тры гады прайшло. Рэдка прыязджае ўнучачка. То хварэе, то працуе, то па начах дзяжурыць. Казала, што кавалер у яе з'явіўся. Прыязджала з ім адзін раз. Не спадабаўся ён Стасі: нейкі нелюдзімы, непрыгожы.

Не пуставала і лавачка. Ці то ад доўгага сядзення на ёй, ці то ад дажджоў і вятроў, фарба на ёй патрэскалася і аблезла.

Здарылася аднойчы, што на цэлых паўгода прапала яе ўнучачка. Абанент быў недаступны. Пані Стася начамі не спала, днямі месца сабе не знаходзіла. Толькі лавачка і выратоўвала. З самай раніцы да позняга вечара.

Паступова пачалі адмаўляць ногі. Суседзі - хто ў магазін, хто на рынак, хто ў аптэку. А хто і нарыхтоўкі на зіму дапамагаў рабіць. Унучачка ж любіць слоікі адкрываць ды пробу здымаць. Прайшло месяцаў сем - з'явілася яе сонейка. Паведаміла, што жыла ва Украіне. Знайшла сваю біялагічную маму і родную бабулю. Зараз у яе ёсць два зводныя браты. Падарылі на развітанне некалькі тысяч долараў. Ці так адкупіліся? Стася тут жа аддала ўнучцы ўсе пенсійныя.

**Дождж нёс пах падгарэлых каранёў…**

Яна ўжо даўно не памятала імёны знаёмых, не арыентавалася ў часе і датах. Забывалася пра яду і гігіену. Звычайна за тыдзень да пенсіі званіў тэлефон. Верачка прыязджала раніцай, вечарам з'язджала. Вось і сёння пані Стася перадарыла ёй залаты гадзіннік - апошнюю памяць пра мужа.

Стася цэлы год ляжала ў бальніцы. Зараз яна ў доме для састарэлых. Кожны дзень усім кажа, што хоча дамоў. Ёй там абавязкова патрэбна пафарбаваць лаўку. У дзень сямідзесяцігоддзя Станіславы Іосіфаўны добрыя суседзі наведалі яе. Распавядалі, што не ўсіх яна пазнала. Пачастункам была рада. Запэўнівала, што яе лечаць добрыя дактары. І, канешне, яна тут не назаўсёды. І часта-часта цалавала свой мабільны тэлефон.

А лаўку пры пад'ездзе занава пафарбавалі. Яна пахне зараз слязьмі дажджу.

*(Пераклад з рускай мовы Уладзіміра Васько.)*

# Гэтага не можа быць

Уменне дамаўляцца з людзьмі - гэта мастацтва. Уменне сябраваць з акалічнасцямі - гэта навука.

Гэтыя два выразы былі законамі жыцця Таццяны.

Нарадзілася гераіня майго аповеда ў невялікім раённым цэнтры, у простай працоўнай сям'і. Маці яе працавала медсястрой, бацька быў машыністам.

Таня, калі навучылася чытаць, моцна пасябравала з літаратурай. На ёй і сталела. Ёй заўсёды хацелася іншага жыцця, не такога экано-

мнага і нуднага, як у яе бацькоў. Шукала і прыдумляла для сябе блакітную кроў. Выпрацоўвала манеры паводзін, этыку гутаркі. Трэніравалася і дома, і на людзях. Манерна адтапырвала ўбок пальчык - мезенчык, - калі карысталася сталовымі прыладамі. З часам гэта рыса стала рысай яе характару. Абноўкі ёй шылі краўчыхі дома. Усе фасоны бралі з рыжскіх часопісаў мод. Усё разам узятае запрацавала. Людзі прымалі яе за атожылка багатых, далёкіх продкаў.

У класе дзясятым Таня пасябравала з Сашам Гаўрыленкам. Хлопец ён быў спакойны, разумны, з інтэлігентнай сям'і. Адным словам, народжаны для дакладных навук. Ён у першы ж год пасля сканчэння школы паступіў у сталіцу на факультэт радыёэлектронікі адпаведнай ВНУ. А Таня ў пэдінстытут не прайшла па конкурсе. Вярнуўшыся дахаты, уладкавалася працаваць на завод. Бацька казаў, што кожны павінен есці свой хлеб - такі, на які вучыўся. Праз год Таццяна паступіла ў ВНУ на завочнае аддзяленне факультэта, дзе быў самы маленькі конкурс. Ёй ужо, як кандыдату ў члены партыі, напісалі рэкамендацыйную характарыстыку. Бываючы на сесіях, Таццяна сустракалася ў вольны час з Сашкам Гаўрыленкам. Яны разам вячэралі ў кафэ-сталовых, глядзелі фільмы ў кінатэатрах і наведвалі бібліятэкі. Не знайшоўшы для сябе іншых кандыдатур, па сканчэнні ВНУ пажаніліся. Абодва атрымалі працу ў родным горадзе. Жыць адразу пачалі з Taнінымі бацькамі. У сям'і раслі дзве дачкі з розніцай ва ўзросце ў тры гады. Калі стары дом падлягаў зносу, для забудовы новага мікрараёна, не захацелі раз'язджацца, і ўсе пераехалі ва ўпарадкаваную, навюткую кватэру маскоўскага праекту....

Таццяна паступова станавілася Таццянай Іванаўнай. Сябравала з акалічнасцямі, дамаўлялася з людзьмі. Неўзабаве і пасада аднаго з кіраўнікоў пры заводзе не прымусіла сябе чакаць. Як той казаў, "жыві ў задавальненні і пашане".

Але… Ах, гэты маленькі злучнік "але"…

Наступілі навальнічныя, баявыя 90-я. У краіне - талонная сістэма, пустыя паліцы крам, звальненні, безграшоўе і ўсеагульная дэпрэсія… Людзі рваліся за мяжу, перапрадавалі прывезенае. Шпекуляваць у тыя часы стала ганарова і нават прэстыжна. Шмат хто з членаў вялікай партыі Леніна адмаўляўся ад партыйных білетаў. Таццяна таксама паклала свой партбілет "на стол".

Калі сур'ёзна захварэла мама, Таццяна па старых сувязях паўсюль шукала патрэбныя лекі. Аднойчы ёй падказалі, што з Амерыкі прыедзе пастаўшчык. У яго можна будзе заказаць патрэбнае. Хутка сцяміўшы, Таня сама прапанавала стаць распаўсюджвальнікам тавару. Медыцынскія прэпараты і "касметыка Галівуда" разыходзіліся, як

сяледчык пад гарэліцу. Праз пэўны час, дзякуючы гэтым сувязям, на працу ў Нью-Ёрк з'ехаў муж.

Хутка бяжыць час. Сашка ўжо пяць гадоў, як у Амерыцы. Дочкі ўжо выраслі. Добрыя грошы дасылае сям'і. Усе зайздросцяць. Трэба сябраваць з акалічнасцямі… Таццяна чакала, калі старэйшая дачка скончыць школу і паступіць у прэстыжную ВНУ. Грошай на рэпетытарства па прадметах не шкадавала. А малодшую яна забярэ з сабой у Штаты.

Маму сваю Таня пахавала годна, побач з бацькам. Помнікі ім з чорнага граніту паставіла. Прадала кватэру. Крыху пажыла ў сяброўкі з малодшай дачкой. За старэйшую яна была спакойная. Дачка-студэнтка будзе жыць у інтэрнаце адной са сталічных ВНУ.

Увосень яны з малодшай дачкой паляцелі ў Амерыку, у Нью-Ёрк. Муж жыў у доме для імігрантаў. Кватэра складалася з невялікага па памерах пакоя, маленькай кухні і маленечкага душа. Трэба дамаўляцца з акалічнасцямі. Паўгода Таццяна знаходзілася ў эйфарыі. Дачка вучылася ў школе для рускіх дзяцей, старанна вывучала англійскую мову. Раён таксама быў населены рускамоўнымі латышамі, эстонцамі, літоўцамі, украінцамі, яўрэямі і прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў былога СССР.

Дыпломы аб вышэйшай адукацыі, атрыманыя ў вялікай і непераможнай краіне, нават не разглядаліся пры ўладкаванні на працу. Давялося Таццяне наведваць курсы па авалоданні англійскай мовай. Заробку Сашы ледзь хапала. Усё ўсюды было дарагое. Кім толькі яна не працавала! У рускай бліннай мыла посуд, на запраўчнай станцыі - падлогі, у дамах багатых прыбіралася, нават чалавечыя органы памерлых на вуліцы бяздомных прэпаравала. Аднойчы раніцай, па дарозе на працу, мужа збіла машына. Частку лячэння аплаціла фірма, дзе Саша працаваў. Рэабілітацыя выцягвала амаль усе грошы, але муж застаўся інвалідам. Атрымліваў па законах краіны дапамогу і вельмі моцна піў. Таня пакутавала, прасіла, маліла, плакала, кляла, шкадавала і разумела. Але ён ужо ўключыў для сябе праграму самазнішчэння. Салодкія мроі ператварылі жыццё маёй гераіні ў горкія слёзы.

Знайшла бацьку мёртвым дачка, якая раней за маці вярнулася дахаты. Як хаваць у чужой краіне, Таня паняцця не мела. Пахавальныя паслугі каштавалі касмічных грошай, якіх у яе, вядома ж, не было. Суседзі падвучылі звярнуцца ў праваслаўную царкву, якая знаходзілася за сто кіламетраў ад Нью-Ёрка. Па адрасе яна яе і знайшла. Настаяцеля царквы звалі Андрэй, прозвішча яго было Крыштальны. Упаўшы ў ногі бацюшку, заліваючыся слязьмі, Таццяна, як змагла, патлумачыла яму сітуацыю. Праз дзень айцец Андрэй прыехаў на

машыне па цела, прывёз адзенне, труну. У сваёй царкве адпеў Сашу. Пахаваць прапанаваў побач з адным дзядком, жонка якога пакінула гэта месца для сябе. Здарылася так, што яна з'ехала ў Італію да дзяцей, дзе даўно сканала.

Калі Сашку падвезлі да месца спачыну, Таня заўважыла невялікі гранітны крыж. Фатаграфія на ім адсутнічала. Таццяна дагэтуль помніць, як яна плакала і крычала. Увесь час шаптала: "Не можа такога быць! Не можа быць такога!" На крыжы, на мармуровай дошцы, было высечана: "Гаўрыленка Пётр Аляксандравіч". Айцец Андрэй маліўся і ціха казаў: "Бог усюды. Ён наш празорлівец, падавец і лекар!"

Прайшло амаль дваццаць гадоў. Пажылая жанчына часта наведвае старыя праваслаўныя могілкі паблізу штата Нью-Ёрк. У царкве заказвае службу, ставіць свечкі, прамаўляе малітвы. За мужа - Гаўрыленку Аляксандра Пятровіча, - за айца духоўнага - Андрэя Крыштальнага - і за незнаёмага, які падзяліўся сваёй зямлёй-прыстанішчам, - Гаўрыленку Пятра Аляксандравіча.

Таццяна адзін раз у два гады ў крэдыт купляе білет на самалёт і ляціць на малую радзіму, каб убачыцца з унукамі ад старэйшай дачкі, пакланіцца светлай памяці сваіх бацькоў і сваякоў. А потым вяртаецца ў Амерыку, дзе яе любяць і чакаюць малодшая дачка, добры зяць і ўнук Сашанька, які вельмі падобны на свайго дзеда.

Таццяне зараз зусім няважна, што з'яўляецца галоўным у жыцці: мастацтва ці навука.

*(Пераклад з рускай мовы Алеся Мацулевіча.)*

## Больш, мацней

Амаль што кожны тыдзень яна наведвала царкву ў Лідзе. Гаварыла з небам. Прасіла дзецям, унукам, праўнучку лепшай долі. Каб не было холаду, голаду і вайны. А потым ішла да сям'і сына. Хацелася ёй пабачыць унучку і асабліва двухгадовага праўнучка. Чамусьці называла яго Ягорка, хаця імя ў хлопчыка было іншае.

У хаце сына абавязкова здымала абутак, у горадзе не тое, што на вёсцы. Падыходзіла блізка да твару дарослай унучкі, углядалася. Потым хвілінку трымала на руках малога, уважліва ўгледжвалася ў дзівосны твар праўнука. Шукала падабенства з сынам. І калі хлопчык ужо гуляўся на падлозе, як бы суцяшаючы сябе, гаварыла: "Рукі слабыя. Вочы слабыя".

Іх сям'ю называлі "грэкамі". Нашчадкаў - "грэчыхінымі".

Чаму? Яна не ведала. Ніхто не помніў. Стэфаніда мела шчырае сэрца, любіла людзей, свой край, кветкі. Цяжкае жыцце пражыла, як і ўсе. Памёр маладым яе гаспадар. Трое дзетак засталіся без бацькі. Нядоля. Але карані Стэфкі разраслiся. Радавалася сэрца.

Аднаго разу, узяўшы маленькія, цёпленькія ручкі Ягоркі ў далоні, яна спыталася ў яго: "А каго больш любіш, унучок: маму ці тату?" На першы раз малы не адказаў. Але не ў характары Стэфкі было адступацца. На трэці раз хлопчык сам падышоў да яе, і, гледзячы ў слязлівыя вочы, раптам сказаў: "Маму - больш. Тату - мацней".

Неўзабаве трэба было паспець на вясковы аўтобус. Яна збіралася, думаючы пра цікавы адказ дзіцяці. А потым, ужо ідучы па дарозе, на вёску, зняўшы абутак, бо было лягчэй нагам, усе думала: "А можа, праўда? Каго больш, таго і мацней, а каго мацней, таго і больш".

## Хай яшчэ пажывуць і паслужаць

Рана было яшчэ, гадзін шэсць. Панавала восень. Вуліцы маўчалі. Каля майго дома, які знаходзіцца ў цэнтры Ліды, кудысьці спяшаўся негарадскі чалавек. Таму позірк мой спыніўся на ім.

Дзядок быў апрануты неяк незвычайна. На галаве "пеўнік - шапка", на нагах гумовыя боты, а замест паліто стары шынель, падпаясаны тоўстай вяроўкай. Ішоў ён, гледзячы сабе пад ногі, так, як ходзяць старыя людзі.

Штосьці невядомае і знаёмае было ў яго абліччы.

Не помню, як я панеслася да шафы, дзе вісеў "рарытэт"- першы афіцэрскі шынель мужа. Пагоны з яго даўно былі зрэзаны, але сукно засталося дабротнае і гузікі былі на месцы.

Я з хуткасцю выбегла на вуліцу і ў спіну незнаёмцу крыкнула, каб ён спыніўся. Падышоўшы да яго, я працягнула лепшую вопратку са словамі: "Насіце на здароўе. Гэты шынель вісіць у нас без патрэбы".

На мяне глядзеў стары салдат. Вочы - добрыя, позірк смелы, твар пакрывалі зоркі-бароздкі. Чалавек не адмовіўся ад абновы, запэўніўшы пры гэтым, што будзе насіць на свята. І, пагладзіўшы свой "шынялёк", дадаў: "А гэта мой сябра - ветэран".

Праз пару дзён прыйшлося расказаць усё мужу пра тое, дзе падзеўся яго першы шынель. "Хай яшчэ паслужыць", уздыхнуўшы сказаў ён.

Не прайшло і тыдня, як той жа дзядок узнік на дарозе. На ім быў той жа сябра - салдацкі шынель, без гузікаў, а замест рамяня - вяроўка. Хто ведае, мабыць, свае ўспаміны носіць чалавек на плячах?

Вось так сустрэліся два пакаленні шынялёў. І верыцца мне,

што расказваюць яны адзін аднаму свае геройскія вайсковыя гісторыі.

Хай яшчэ пажывуць і паслужаць.

## Сямён

***Прысвячаю майму бацьку***

Сямён па жыцці - чалавек спакойны. Аднойчы, чамусьці раздаваў пустому полю "салёныя словы" з адпаведнымі фарбамі і адценнямі мімікі і жэстаў. Нават напалохаў суседзяў, якія гэта бачылі ці чулі. Аблажыўшы ўсіх і ўсё, кульгаючы на левую нагу, падышоў да хаты, сеў на лаўку. А здарылася гэта так, ды адбылося вось як.

Сенька часта ездзіў адзін, бывала, з жонкай, калі выпадала, бралі і ўнука. Цягнулі да сябе Сямёна, нібыта магнітам, бацькоўскія мясціны. Так было заўсёды. І на гэты раз.

Восень выдалася добрая, цёплая. Працы такой вялікай ужо не было. Бульба выкапана. У гародзе нешта яшчэ расце. Трава на падворку скошана. Да зімы яшчэ далёка, усе зробіцца.

Смачна павячэраўшы і выпіўшы сваю "баявую сотачку" са словамі: "Хто ваяваў, той мае права ля ціхай рэчкі адпачыць" - ён не бачыў, калі і як пяцігадовы ўнучак на полі выкапаў "добрую ямку". Трэба ж і дзіцяці чымсьці займацца.

Пасля вячэры заўсёды ішоў праз поле, да суседа, пагаварыць "пра жыццё". І трэба ж было яму ўступіць нагою ў тую самую "палявую дзірку". Не адразу зразумеў, што ляжыць на зямлі. Паціхеньку ўстаў, прыгаворваючы: "Гэта рыюць "краты - тэрарысты". Другі раз, як я прыеду, паглядзім, хто каго!"

Баяўся дзедавай злосці ўнук, бо ведаў, ад каго бяда. Як набраўшы вады ў рот, маўчала жонка. І шкада ім было старога, і пацешна.

Зорнай ноччу ім спалася салодка. Нават Сямёнаў храп не гуляў па сценах. Добра дыхаецца ў бацькоўскай драўлянай хаце! На ранку Сямён устаў першы, хадзіў па полі, шукаў кратовыя лазы. Узяўшы рыдлёўку, засыпаў зямлёю "тэрарыстычную нару". Потым завёў матор матацыкла. Бабуля з унукам былі нагатове. А самага галоўнага "крата" дзедавы рукі пасадзілі ў люльку матацыкла.

Сямён развітаўся з тымі, з кім і вітаўся. "Не сумуйце, дасць Бог, праз шэсць дзён сустрэнемся".

Недалёка ад вёскі, едучы па дарозе на Ліду, знаходзяцца старадаўнія могілкі. Сямён, праязджаючы іх, заўсёды прыцішвае рух і тры разы сігналіць. Так ён выказвае павагу сваім землякам, кланяецца

маці, якая прасіла пахаваць яе недалёка ад шашы, дзеля таго каб ёй бачыць лес, людзей, машыны, чуць галасы птушак. Каб ёй не было "там" сумна. Так і зрабілі!

## Чырвоная сняжынка

Раннія дзіцячыя ўспаміны ці хвалюючыя моманты застаюцца з намі на ўсе жыццё.

Чулася дыханне зімы і Новага года. Зачароўваў пах прыгажуні ёлкі, жаночага адэкалону, розных цукерак і нечага духмяна-смачнага. Усё напаўнялася рамантычнасцю. Хваляваліся бацькі і дзеткі.

Хлопчыкаў не пазнаць. Яны сёння выконваюць ролі лясных звяроў.

Маленькая Ганначка ведае, што яна сёння будзе сняжынкай-сапраўднай сяброўкай Снягуркі. Аб гэтым ім казала выхавальніца дзіцячага садка. Вакол яе былі дзяўчынкі. На іх красаваліся белыя адзенні і цудоўныя кароны. Багацце гэта было створана сямейнымі прыдумкамі. У ход ішло ўсё: вата, марля, шкло ад ёлачных цацак….

Пра нешта думаючы, яе маці дастала з загорнутай паперы новую прыгожую сукеначку. Апранула дачушку гаворачы, што яна будзе незвычайнай сняжынкай, лепшай за ўсіх. Толькі цяпер Ганначка ўбачыла, што яе сукенка чырвонага колеру. У карагодзе "лепшая чырвоная" спявала гучней за ўсіх. Нават верш невялікі прачытала Дзеду Марозу.

Ракой жыцця цёк час.

Ганна атрымала вышэйшую адукацыю. Працавала дзіцячым доктарам. Да яе часта наведвалася адна і тая ж "пацыентка". Гэта была дзівосная сукенка. Яна несла ў далонях зорную карону, у сярэдзіне якой ззяў вялізны рубін. І ён кожны раз нібы хацеў з ёю размаўляць. Але на гэтым месцы Ганна заўсёды прачыналася.

Гады ляцелі, а з імі і яе жыццё.

Ганна Сяргееўна кожны Новы год, калі выпадае снег, падыходзіць да акна. У гэты момант яе вочы запальваюцца колерамі шчасця. Гэта незвычайная сталая жанчына шукае вачыма сярод мільёнаў сваю адзіную, лепшую, чырвоную сняжынку.

У пачатку чэрвеня 2016 года выйшла кніга **Сяргея Астраўца** “Саргасава мора”.







У сярэдзіне ліпеня 2016 года ў выдавецтве ЮрСаПрынт (Гародня) выйшла кніга **Леаніда Лаўрэша** “Паўстанчы дух. 1812, 1831, 1863 гады на Лідчыне”.

У пачатку снежня 2016 года ў залатой серыі "Беларускі кнігазбор" выйшаў том выбраных твораў лідскай найвыдатнай паэткі **Дануты Бічэль**. Апрача вершаў, якімі багата творчасць Дануты Бічэль, пачэснае месца адведзена і прозе.



У лютым 2017 года ў выдавецтве “ЮрСаПрынт”, г. Гародня, выйшла кніга **Леаніда Лаўрэша** “Маламажэйкаўская царква. Гістарычны нарыс”. 114 ст. 90 ас.







У канцы 2017 года выйшла фундаментальная кніга **Леаніда Лаўрэша** “Шэпт пажоўклых старонак”, створаная на аснове публікацый пра Лідчыну ў прэсе 1900-1939 гг.

*Гродна: ТАА “ЮрСаПрынт”, 2017. - 432 с.*




У красавіку 2018 г. да 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў гарадзенскім выдавецтве ЮрСаПрынт выйшла кніга **Леаніда Лаўрэша** “Генерал, які дайшоў да Беларусі. Жыццяпіс генерала Кіпрыяна Кандратовіча”. 154 ст. Наклад 130 ас.




У пачатку траўня 2018 г. Лідская друкарня выдала кнігу **Анастасіі Каладзяжнай** “Память - главный свидетель”. 432 ст. Наклад - 200 ас.




У чэрвені 2018 г. у варшаўскім выдавецтве “SOWA” выйшла кніга **Валерыя Сліўкіна і Яна Казлоўскага** “Інтэлектуалы Лідчыны” (“Intelektualisci Ziemi Lidzkiej”). 222 ст. наклад 50 ас.




У жніўні 2018 года ў Лідзе выйшла кніга **Станіслава Судніка** “Пілігрымка дадому”, 88 ст., 180 ас.




У лістападзе 2018 года ў Лідскай друкарні выйшла кніга лідскага пісьменніка **Уладзіміра Васько** “Энергія душы”. 160 ст. Наклад 100 ас.




У 2018 годзе ў Лідскай друкарні выйшла кніга лідскай пісьменніцы **Ірыны Бараздзіной** “Живу по чувствам”. 48 ст. Наклад 70 ас.




У 2018 годзе ў Лідскай друкарні выйшла кніга лідскай пісьменніцы **Станіславы Белагаловай** “Наедине с душой”. 68 ст. Наклад 30 ас.

У красавіку 2019 года ў Лідскай друкарні выйшла кніга вершаў лідскага паэта **Міхася Мельніка** “З табою”.







22 траўня 2019 года на сходзе лідскіх літаратараў у Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы была прадстаўлена першая кніга з серыі “Лідскі кнігазбор”, заснаванай Лідскай гарадской арганізацыяй ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” і Гарадзенскім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў. Гэта **“Збор твораў”** найвыбітнейшага лідскага гісторыка Міхала Шымялевіча, выдадзены ў гарадзенскім выдавецтве “ЮрСаПрынт”.

*Міхал Шымялевіч. Збор твораў. Укладальнік Леанід Лаўрэш. Рэдактар Станіслаў Суднік. Выдавецтва “ЮрСаПрынт”, Гародня. Фармат 90х80/16. Ум. друк. арк. 23,8. 326 ст. Наклад 110 экз.*




У траўні 2019 года ў Менску ў выдавецтве МАЭН выйшла кніга **Валера Санько** “Прыкмета і прырода - сябры назаўсёды”.




У траўні 2019 года ў Лідзе выйшла кніга вершаў лідскага паэта **Алеся Мацулевіча** “Горад-карабель”.




У пачатку ліпеня з Лідскай друкарні выйшла кніга “С верой в победу. Борьба партизан и подпольщиков Лидского партизанского соединения в годы Великой Отечественной войны. (По воспоминаниям участников событий)”. 464 ст. 100 асобнікаў.

# З М Е С Т

Літаратурна-мастацкі зборнік № 9 за 2016-2019 гг.

**АД ЛІДСКІХ МУРОЎ**

Падпісана да друку 06.11.2019. Фармат 60x84/16.
Папера SvetoCopy. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 26,97. Ул.-выд. арк. 27,9.
Наклад 150. Заказ 2817.

Надрукавана ў ГАУПП "Лідская друкарня"
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў:
№ 2/101 ад 01.04.2014.
Вул. Ленінская, 23, 231300, Ліда.





*Марыя Папковіч (1919 - 1940). Хутар Жвіркі Ганчарскай воласці. Школьныя малюнкі.*